ля верша *Над ставам дым*. У *Не жальбую* назіраем працяг інтымнай рэфлексіі лірычнага героя, адлюстраванай у *Над ставам дым*. Пра гэта сведчаць першыя два радкі: “Не жальбую, тых дзянькоў я не шкадую, // Што жыццё даўно развеяла, як дым” [2017, с. 57]. Тут, можна дапусціць, гучыць паэтычная адсылка да “жыцця – атруты чаркі”, на якое звяртаў увагу лірычны герой верша *Над ставам дым*. Апрача гэтага, мадэлюючы сустрэчу з “той, ад якой [ён] будзе зноўку маладым”, лірычны герой уяўляе яе прыход “з-па-над лесу, з-пад тых чорнай замствай хмар” (інтэрпрэтацыя семантыкі вобразаў “тая”, “яна” прыводзіцца ніжэй). Тут “замства – забыццё, зацьменне”, на што звяртаецца ўвага ў адсылцы да гэтага вобраза [2017, с. 57]. “Замства хмар”, трэба меркаваць, – гэта ўсё тая ж “атруты чарка” з верша *Над ставам дым*. Такім чынам, фабульны слой верша *Не жальбую* рэпрэзентуе лірычнага героя ўжо ў іншай жыццёвай сітуацыі: чакання Яе, якая “прыйдзе, бы вяночак дзіўных мар”. У адрозненне ад фіналу верша *Над ставам дым*, лірычны герой тут знаходзіць іншае выйсце ў будучае: праз творчасць.

Слой вобразаў-дэталяў тут пададзены толькі вобразамі ўяўлення: “дзянькі” мінулага жыцця – іх “жыццё развеяла, як дым”; “сенажаці”, “гаці роднае старонкі”, “чорная замства хмар” – з гэтай прасторы выйдзе Яна, якую шукае лірычны герой; “вольны гоман сасонкі”, “вяночак дзіўных мар” – уяўная постаць Яе; “думкі-кветанькі” лірычнага героя “загарацца, разжурацца, запалаюць”; яго “песні” “паліюцца з краю і да краю”;“шчаслівы”, “нешчаслівы” – той, хто спявае песні лірычнага героя. Дадзены слой вобразаў спрыяе ўзнікненню адпаведных матываў: 1) безжурботнага развітання з мінулымі днямі, 2) летуценнага чакання, пошуку і пільнавання Яе, 3) творчасці як выніку асэнсавання прыгажосці (“акрасы”) жыцця.

**Матыў безжурботнага развітання з мінулымі днямі**. Ён рэпрэзентуецца ў першых двух радках верша як данасць, што стымулюе новы жыццёвы выбар лірычнага героя. Тут акцэнтуецца ўвага на яго гатоўнасці крочыць у будучае іншай сцежкай, што падкрэсліваецца сінтаксічным сродкам сэнсаўтварэння: працяжнікам паміж трэцім і чацвёртым радкамі верша. Выток дадзенага матыву ў кантэксце твора не адлюстраваны. Калі ў вершы *Над ставам дым* жыццё пагражае “разбіць мары” лірычнага героя, і гэта праецыруецца на расплату за “ўсе даўгі” ранейшых дзён, то ў *Не жальбую* яно дае магчымасць выйсця да новага, больш светлага яго этапу. Гэты новы перыяд акрэслены двума вектарамі жаданняў лірычнага героя, што нараджаюць наступныя два матывы верша.

**Матыў летуценнага чакання, пошуку і пільнавання Яе**. Яна ў кантэксце летуценняў лірычнага героя – гэта не столькі дзяўчына, колькі пошукавы аб’ект, што звязаны з творчасцю. Своеасаблівую семантычную падказку ў дадзеным выпадку дае верш *Не жальбую пра мінулы час я* з *Выбраных твораў* 1965 г., у якім дамінуе літаратурна-эстэтычны матыў. Тут вобразы “акраса” і “яна” семантычна тоесныя:

“*Пашукаю і знайду акрасу,* <…> *яна будзе песняй разлівацца*” [1965, с. 39]. З мэтай сцвярджэння падобнай тоеснасці звернемся да сэнсаўтваральнай інтэрпрэтацыі другой групы вылучаных вышэй матыўных вобразаў верша *Не жальбую*.

Лірычны герой агучвае змадэляваны ім пошук і чаканне Яе (“акрасы” жыцця і творчасці – выкарыстаем вобраз верша 1965 г.) як намаганні, сэнс якіх узмацняецца акалічнасцю спосабу дзеяння “пільна”. *Беларуска-расійскі слоўнік* М. Байкова і С. Некрашэвіча дае наступны пераклад гэтага слова: “Пільна – 1) очень, настоятельно; 2) усердно, старательно”[1]. Такім чынам, пошук лірычнага героя вызначаецца як такі, што патрабуе неадкладнага выканання і неабходны для яго на дадзены момант, калі жыццё дае дзеля гэтага магчымасць: “Не жальбую, тых дзянькоў я не шкадую, // Што жыццё даўно развеяла, як дым, – // Пачакаю, пашукаю пільна тую, // Ад якой я буду зноўку маладым”. Адзначым пры гэтым, што на момант публікацыі цыкла *Лятуценьні* ў газеце “Наша будучыня” У. Дубоўку было дваццаць два з паловай гады. Тут назіраем рэмінісцэнцыю ў адносінах да верша Сяргея Ясеніна *Не жалею, не зову, не плачу*. Рускаму паэту на час стварэння гэтага твора (1921) было каля 26 гадоў. У яго вершы чытаем: “Все пройдет, как с белых яблонь дым. // Увяданья золотом охваченный, // Я не буду больше молодым”[2]. У. Дубоўка інакш вызначае адносіны лірычнага героя да мінулага і будучага яго жыцця: ён “будзе зноўку маладым”, і вытокам такой маладосці з’яўляецца будучае спатканне з Ёй.

І. Багдановіч наступным чынам параўноўвае вершы У. Дубоўкі і С. Ясеніна: “Калі ў *Пацерках* выразны багдановічаўскі ўплыў, то верш Дубоўкі *Не жальбую*... паказвае на відавочны ўплыў ясенінскі: выдае блізкасьць зь ягоным вершам *Не жалею, не заву, ня плачу*. Дарэчы, такі ўплыў адпавядаў Дубоўкавай пазыцыі й устаноўцы на свабоду творчасьці, бо Ясенін быў з тых аўтараў, да якіх непрыхільна ставілася афіцыйная крытыка, абвінавачваючы самога й ягоных прыхільнікаў у «імажынізьме» й «багемнасьці». Дубоўка ж не хаваў сваёй прыязнасьці да гэтага расейскага паэта, стварыў верш, натхнёны ягонымі матывамі”[3].

Тым не меней, ясенінская спавядальнасць, якая мяжуе з расчараваннем, не ўласціва вершу У. Дубоўкі. Калі лірычны герой С. Ясеніна ў адносінах да мінулага і цяперашняга “скупее стал в желаньях”, то лірычны герой У. Дубоўкі пакідае мінулае (яго асаблівасці можна прыгадаць, звярнуўшыся да верша *Над ставам дым*) па-за межамі цяперашняга дня і настойліва сарыентаваны на пошук жаданай сустрэчы ў такіх яе праявах, што дазволяць яму творча самарэалізавацца.

---

[1] М. Б а й к о ў, С. Н е к р а ш э в і ч, *Беларуска-расійскі слоўнік...*

[2] С. Е с е н и н, *Собрание сочинений в двух томах*, т. 1: *Стихотворения. Поэмы*, Москва 1992, с. 125.

[3] І. Б а г д а н о в і ч, *Уладзімер Дубоўка й паэтыка “Ўзвышша”...*, с. 119.

Вобраз Яе, якую шукае лірычны герой, – гэта вобраз, па перакананні лірычнага героя, які абавязкова “прыйдзе” да яго як адбітак “роднае старонкі” ў яе вобразах: “сенажацяў”, “гацяў”, “лесу”, “сасонкі”. Семантычна значным у гэтым радзе з’яўляецца вобраз уяўлення “прыйдзе з-пад тых чорных замстай хмар”: Яна з’явіцца, нягледзячы на “чорныя хмары” занядбанасці нечага істотна важнага, адцэненага другасным, неістотным. Параўнаем вызначаную тут вобразную семантыку з перакладамі адпаведных лексем у *Беларуска-расійскім слоўніку* М. Байкова і С. Некрашэвіча: “Замста – забвение, забывчивость; умственное затмение”, “Замсьціць – затмить, омрачить”[1].

Дамінавальным у вобразных характарыстыках Яе з’яўляецца наступнае сцверджанне ў сукупнасці з параўнаннем: “Яна прыйдзе, бы вяночак дзіўных мар”. Параўнанне ў прыведзеным вышэй сцверджанні мае амбівалентны сэнс. З аднаго боку, Яна – гэта ўвасабленне інтымных мар лірычнага героя, а з другога, гэта “вяночкі мар”, навеяныя праявамі навакольнага жыцця і ўвасобленыя ў творчасці.

Вобразная сукупнасць “Начы клубком спляліся мары: каханне, віры, гасу ган”, разгледжаная ў кантэксце пададзенай вышэй характарыстыкі верша *Над ставам дым*, у дадзеным кантэксце можа таксама інтэрпрэтавацца як вобраз літаратурна-творчага зместу. Маецца на ўвазе “клубок мар” творчых. Падмацаваннем такой выснове могуць быць наступныя вобразы верша *Над ставам дым*: “ложак наш [нашай творчасці] – дзірван”, “між зёлак пахлых і пад ліпай // ускоўдрыць нас з табой [лірычнага героя і яго творчасць] туман” (іх семантыка характарызавалася вышэй як летуценна інтымная).

Нягледзячы на вызначаную раней вобразную амбівалентнасць верша *Не жальбую*, фінальныя чатыры яго радкі адназначна рэпрэзентуюць творчы матыў.

**Матыў творчасці як вынік асэнсавання прыгажосці (“акрасы”) жыцця**. “Думкі-кветанькі”, “песні” лірычнага героя, што “загарацца, разжурацца, запалаюць” – гэта вынік яго спаткання з Ёю. Кім бы Яна ні была – каханай дзяўчынай, прыгажосцю (“акрасай”) жыцця як з’явы эстэтычнай, – можам гаварыць пра выхад асабовага, матыву летуценняў, у творчы матыў. Ён, аднак, не з’яўляецца дамінавальным, што дазваляе разглядаць гэты верш у групе твораў з асабовымі матывамі.

У дадзеным выпадку назіраем літаратурную ўстаноўку У. Дубоўкі, па-першае, на эстэтызацыю паэтычнай творчасці, па-другое, на рознабаковасць у адносінах да прататыпнай сферы паэтычнага адлюстравання жыцця: “Паліюцца песні з краю і да краю: // То шчаслівы й нешчаслівы ў іх пяе”.

Асабовы матыў верша *Не жальбую* дастаткова аптымістычны. Такая ўласцівасць не паказальная для цыкла *Лятуценьні* зборніка *Строма*. У гэтай частцы зборніка пераважае погляд лірычнага героя на

[1] М. Б а й к о ў, С. Н е к р а ш э в і ч, *Беларуска-расійскі слоўнік…*

рэчаіснасць, у прасторы якой ён існуе, на ўласнае жыццё як на з'явы, што суіснуюць з нечым таямнічым, часам небяспечным, а то і варожым у адносінах да лірычнага героя (*Зданьні*, *Над ставам дым*, *Ноч наплакалі бярозы* – вершы з асабовымі матывамі; *Захапіла навальніцаю*, "пацерка" *Тугой спавіта вышыня*, *Імжа і склізота* – творы з экзістэнцыйнымі матывамі). Цыкл *Лятуценьні* пачынаецца вершам *Зданьні*, а заканчваецца творамі *Ноч наплакалі бярозы*, *Імжа і склізота*. Такім чынам, У. Дубоўка, паставіўшы ў пачатак гэтай часткі зборніка *Строма* твор з вобразамі змрочнай семантыкі, падобнымі да іх у сэнсаўтваральных адносінах і заканчвае яго. Гэта дае падставы завяршыць характарыстыку вершаў з асабовымі матывамі (матывамі летуценняў) аналізам менавіта гэтых двух твораў.

У фабульным слоі верша *Зданьні* (у выданні 2016 г. – *Здані*) пераважаюць пейзажныя вобразы як вынік успрымання лірычнага героя, свядомасць якога мае летуценную афарбаванасць. Летуценне лірычнага героя звязана з чаканнем "выхаду кветкі" да яго ў прасторы "зданяў цёмнай ночы".

Верш падзелены на дзве часткі. У першай з іх пададзены прыродныя праявы травеньскага вечара і адчуванні лірычнага героя, выкліканыя імі. У другой частцы канстатуецца яго чаканне "выхаду кветкі" ў прастору вясенняга світання.

Лірычны герой тут, як і ў вершы *Ноч наплакалі бярозы*, рэпрэзентаваны як назіральнік прыродных з'яў. Яны прадвызначаюць яго летуценны настрой, адчуванні і чаканне жаданага з'яўлення "кветкі". Параўнаем: у вершы *Ноч наплакалі бярозы* лірычны герой знаходзіцца ў атачэнні ночы як часткі варожа настроенай да яго прасторы. У *Зданях* жа гэтая варожасць толькі акрэслена (другая страфа) вобразам рагатання "спакусіцеля чорта".

Слой вобразаў-дэталяў у вершы *Здані* – гэта складнікі прыватнага хранатопу 'вечар', часткова – 'ноч'.

У сувязі з гэтым варта зрабіць істотную тэксталагічную заўвагу. У вершы са зборніка *Строма* ў першым радку фігуруе вобраз вечара: "Вечар… П'яны вечар сваволі-траўня…"[1]. Такі ж варыянт пачатку верша пададзены ў выданні 2016 года [2016, с. 5]. У двухтомным жа зборы твораў 2017 года вобраз "вечар" зменены на "вецер" у наступным кантэксце: "Вецер… П'яны вецер сваволі-траўня… // Вецер косы ночы расплёў, дуронік…" [2017, с. 54]. У выніку такой змены звужаецца абагульнена-сэнсавая сфера твора. У сувязі з адзначаным дадзены твор далей характарызуецца па выданні 2016 года, тэкст якога, за выключэннем некаторых арфаграфічных і граматычных адаптацый да норм сучаснай беларускай мовы, найбольш адпавядае першакрыніцы.

У вершы *Здані* дамінуюць вобразы ўяўленняў і адчуванняў як вынік рэцэпцыі лірычным героем навальнічных праяў і навакольных

[1] У. Д у б о ў к а, *Строма. Вершы*, Менск 1923, с. 12.

аб'ектаў. Параўнаем. Вобразы ўяўлення: “вецер (дуронік)” – “косы ночы расплёў, <…> заплёў”; “спакусіцель-чорт” – “трубой рагоча”. Вобразы адчування: “гукі ночы”, “здані ночы” – “кроў крынічаць”; “млосць” – “захапляе волю”, ”кветка” – змушае да марнага чакання (“не трудзі намарна”). Камбінаваныя вобразы ўспрымання-ўяўлення: “вечар” – “п'яны вечар сваволі-траўня”; “сасоннік” – “сны сніць, <…> бомніць”; “травень”: – “ранні [яго] прачын”. Вобразы ўспрымання: “салавей” – “пяе над ракой”; “час” – “ляціць”; “зоркі” –“гасяцца з краю”.

Вылучаныя матыўныя вобразы, як і ў іншых творах, – гэта паэтычны падмурак для нараджэння адпаведных матываў першага і другога ўзроўню.

**Пейзажны матыў**. Ён узнікае ў сукупнасці метафарычна разгорнутых вобразаў прыроды. У вобразнай прасторы верша ён дамінуе. Але такая перавага фармальная з пункту погляду вызначэння матыву другога ўзроўню, бо менавіта ў прасторы пейзажных вобразаў нараджаюцца іншыя матывы, якія сугучныя галоўнаму з іх у гэтай матыўнай групе вершаў – асабоваму: матыву летуценняў.

**Матыў спакусы на марнае чаканне жаданага**. Вылучаныя вышэй вобразы “травеньскага вечару”, “ночы”, “сасонніку” з адпаведнымі да іх вобразнымі ўдакладненнямі сведчаць пра прысутнасць летуценнага настрою сярод аб'ектаў прыроднай прасторы, у якой знаходзіцца лірычны герой. Гэта ў сваю чаргу нараджае ў яго свядомасці такі ж самы настрой у адчуванні і ўспрыманні навакольнай прасторы. “Вечар”, “вецер”, “ноч”, “салавей” з яго песняй, “сасоннік” у яго сне ў дадзенай сітуацыі выступаюць як з'явы, што натхняюць лірычнага героя на летуценны настрой. “Як слаўна!..” – так вызначае галоўнае сваё адчуванне герой верша. Аднак у другой страфе “слаўны” настрой лірычнага героя азмрочваецца адчуваннем прысутнасці ў гэтай прасторы ўжо “цёмнай ночы зданяў” (прывідаў), што яго “кроў крынічаць”. Вобразнае вызначэнне “крынічаць” у дадзеным кантэксце інтэрпрэтуем, зыходзячы з пераноснага значэння назоўніка ‘крыніца’. Здані цёмнай ночы прыводзяць лірычнага героя ва ўзбуджаны стан, які служыць асновай, падмуркам, пачаткам для яго летуцення, сэнс якога ў чаканні сваёй “кветкі”. У такіх абставінах душэўная “млосць” (непрыемнае пачуццё слабасці) захапляе волю лірычнага героя. І ў гэтай сітуацыі з'яўляецца вобраз “спакусіцеля-чорта” з яго здзеклівым пытаннем “Дзе ж твая доля?”. Такім чынам лірычны герой спакушаецца на чаканне. Але гэтая спакуса ідзе ад цёмнай сілы – апрыёры яна не можа быць вынікова пазітыўнай. Марнасць чакання тае “долі” (“кветкі”), пра якую мроіць лірычны герой, падаецца ў двух першых радках наступнай (трэцяй) страфы верша.

**Матыў чакання жаданай кветкі (жаданай долі)**. “Кветка, выйдзь хутчэй, не трудзі намарна, // Я чакаю сумны й маркотны ў гаю” [2016, с. 5]. Тут, у адрозненне ад верша *Ноч наплакалі бярозы*, гэты матыў не абрамлены пакуль што абставінамі варожасці навакольнай прасторы

да лірычнага героя ў яго пошуках кветкі шчасця. Ён адразу ж перакрыжоўваецца з матывам імклівасці часу ў чаканні.

**Матыў імклівасці часу ў чаканні** нараджаецца ў кантэксце вобразаў успрымання, а таксама камбінаваных вобразаў успрымання-ўяўлення: "Час ляціць: на ўсходзе ўжо зоркі зараз // Гасяцца з краю… // Першы гоман… Ранні прачын траўня… // Вецер косы ночы заплёў дуронік…".

**Матыў спадзявання на пазітыўную выніковасць чакання ў іншым часе**. У дзвюх апошніх строфах верша ён акрэслены вобразамі ўспрымання: світанне, "Салавей пяе над ракой, як слаўна!.." і ўспрымання-ўяўлення: "Бомніць сасоннік…".

З мэтай пацвярджэння вобразнага вытоку дадзенага матыву інтэрпрэтуем семантыку прыведзеных вышэй паэтычных складнікаў твора.

Салавей, паводле народных уяўленняў, "маркіраваў перыяд вясны ў беларускім абрадавым календары (спеў спыняўся на Пятра)"[1]. Такім чынам, спадзяванні лірычнага героя яшчэ могуць мець працяг, бо час іх здзяйснення пакуль не мінуў – ён толькі змяніўся.

Сасна, нягледзячы на супярэчлівасць народных яе ацэнак, паводле славянскіх уяўленняў, выступае як дрэва, якое супрацьстаіць смерці, згасанню і сімвалізуе вечнае жыццё.

"Сосна, как и другие хвойные деревья (ель, пихта, лиственница), тесно связана в обрядах и поверьях с темой смерти. Возможно, это объясняется тем, что сосна, как и ель, дерево вечнозеленое, т. е. противостоящее смерти и угасанию, символизирующее вечную жизнь и т. д., ср[авним] в русской загадке: «Осенью не увядаю, зимой не умираю». Постоянную зелень сосны на Украине объясняли особенным благословением Божием, почившим на ней с того времени, как древесина ее оказалась негодной на гвозди при крестных страданиях Христа"[2].

Маючы на ўвазе дадзеныя высновы, можам вызначыць наступную семантыку вобраза "бомніць сасоннік" у кантэксце дадзенага матыву. Сасоннік тут сімвалізуе пазітыўную перспектыву ў адносінах да "чакання" лірычнага героя: ён адзываецца ("бомніць") звонкім гулам на яго спадзяванне знайсці жаданую кветку.

Такім чынам, экзістэнцыйныя з'явы прасторы (вечар, ноч) і часу (эмпірычнага, адноснага) прапускаюцца праз успрыманне, адчуванне, уяўленне лірычнага героя як праявы, што абвастраюць яго чаканне сустрэчы з нечым жаданым, вядомым толькі яму.

У якасці зыходнага вызначэння часу возьмем наступныя яго характарыстыкі: "Время – форма протекания всех механических, органических и психических процессов, условие возможности движения, измене-

---

[1] С. С а н ь к о, Т. В а л о д з і н а, *Беларуская міфалогія…*, с. 448.

[2] Т. А г а п ш и н а, *Символика деревьев в традиционной культуре славян: сосна* [online], https: // https://cyberleninka.ru/article/v/simvolika-dereviev-v-traditsionnoy-kulture-slavyan-sosna [доступ: 24.03.2019].

ния, развития”[1]. “<…> абстрактное время имеет только количественные характеристики, тогда как исторически-живое – качественные. Подлинное время, по Дильтею, представляет собой «неутомимое движение настоящего, в котором настоящее становится прошлым, а будущее – настоящим. Настоящее есть наполнение временного момента реальностью, оно есть переживание в противоположность воспоминанию или представлениям о будущем, выступающим как желание, ожидание, надежда, страх, волнение. Эта наполненность реальностью, или настоящим, постоянно существует, в то время как содержание переживания постоянно меняется... Таким образом, части наполненного времени не только качественно отличаются друг от друга... но и каждая часть потока времени, независимо от того, что его наполняет, имеет различный характер»”[2].

У адпаведнасці з вызначанымі вышэй характарыстыкамі часу можам гаварыць пра падыход лірычнага героя верша *Здані* да сітуацыі змены зместу яго перажыванняў у новым часавым кантэксце (травеньскі світанак) і, адпаведна, пра змяненне ў яго свядомасці формы і зместу ўспрыманняў, адчуванняў, уяўленняў. Падобную рэцэпцыйную і вобразна-рэфлексійную сітуацыюназіраем у *Ноч наплакалі бярозы*. Тут асоба лірычнага героя рэпрэзентуецца ва ўсё той жа, як у *Зданях,* прасторы (ноч), але ўжо ў іншым часе (будучым у адносінах да часу *Зданяў*) і, адпаведна, новым змесце вобразных рэфлексій лірычнага героя.

У вершы *Ноч наплакалі бярозы* пададзены пейзажныя, асабовыя і экзістэнцыйныя матывы (дамінуе таксама асабовы матыў – другі матыўны ўзровень).

Лірычны герой дадзенага твора – гэта назіральнік навакольнага прыроднага асяроддзя, у прасторы якога ён выступае як летуценнік. Яго мара пра жаданае абазначана пытаннем “Дзе ты кветка?”. Прысутнасць лірычнага героя ў дадзенай лірычна-фабульнай сферы вызначаецца пошукам “кветкі” яго шчасця ў такой прасторы, якая неспрыяльная для гэтага пошуку.

Фабульны слой твора ўяўляе сабой узнаўленне прыродных праяў начнога часу ў прасторы, дзе знаходзіцца лірычны герой. Гэтыя з’явы з’яўляюцца вынікам яго ўспрымання, адчування, уяўлення; ён шукае сярод іх сваю “кветку”: “Дзе ты, кветка? Спіць лес, людзі, // месяц змаладзеў…” [2017, с. 55].

Успрыманне, адчуванні, уяўленні лірычнага героя рэпрэзентуюцца праз адпаведныя вобразы-дэталі ў наступнай фабульнай паслядоўнасці: прыход ночы як непазбежны факт прыроднага існавання, паказальныя праявы гэтай ночы, у прасторы якой знаходзіцца лірычны герой, – туманы, вецер, кукаванне зязюлі і інш. У гэтым, як і іншых

---

[1] *Новая философская энциклопедия в четырех томах,* т. 1, ред. В. Степин, Москва 2019, с. 450.
[2] *Ibidem*, с. 456.

вершах зборніка *Строма*, на ўзроўні паэтыкі ў колькасных адносінах пераважае пейзажны элемент. Але такі факт не дае падставы адносіць дадзены верш да твораў з пейзажным матывам. Пейзажныя элементы ў прадметнай і абагульнена-сэнсавай сферах тут – гэта, на нашу думку, зыходны паэтычны фон, фабульны і вобразны вектар, што вядзе да галоўнага ў ідэйных адносінах матыву, які з'яўляецца вынікам комплексу ўзаемадзеянняў паэтычных складнікаў твора.

Слой вобразаў-дэталяў дадзенага верша – гэта частка прыватнага хранатопу 'ноч'. Асаблівасць вобразаў-дэталяў тут у тым, што кожны з іх з'яўляецца адначасова і часткай больш буйнога вобраза і ў той жа час падмуркам для іншага вобраза-дэталі. Усё гэта з'яўляецца вынікам вобразнай рэцэпцыі лірычным героем канкрэтнага часу і прасторы яго існавання, а таксама абагульненай яго мары, якую можна акрэсліць матывам 'пошук жаданага (шчасця)'.

Вылучым вобразы ўспрымання, адчування і ўяўлення як паэтычную сукупнасць, што спрыяе ўзнікненню адпаведных матываў.

"Ноч": яе "наплакалі бярозы", "нашумеў чарот"; "стала за гарой"; "туманы": "гадам, гужам распаўзліся <…> наўкол" , "забялілі беллю лісце, // нібы малаком" – матыў варожасці навакольнай прасторы да чалавека ў яго пошуках кветкі шчасця.

"Вецер": "шэпты распаўсюдзіў, // спеў, цымбалаў спеў…" – матыў пошуку і прысутнасці жаданага ў прасторы існавання лірычнага героя.

Завяршаецца верш страфой, у якой яднаюцца вобраз адчування ("А ні слова, а ні гуку // не ляціць ў адказ") і ўспрымання ("Толькі недзе «ку-ку, ку-ку» // чутна раз пад раз…"), што спрыяе ўзнікненню матыву нязбытнасці мроі пра кветку шчасця.

Такім чынам, тут, як і ў іншых выпадках, спалучэнне вобразаў-дэталяў утварае паэтычныя сукупнасці, якія можна адначасова класіфікаваць як матыўныя вобразы, што нараджаюць адпаведныя матывы твора.

Ахарактарызуем асаблівасці паэтычнага ўтварэння матываў першага ўзроўню.

**Матыў варожасці навакольнай прасторы да чалавека ў яго пошуках кветкі шчасця**. Ён ствараецца пры дапамозе першай з вылучаных вышэй вобразных сукупнасцяў у слоі вобразаў-дэталяў. Вобразы ўспрымання ("ноч" і "туманы") у спалучэнні з вобразамі адчування і ўяўлення ("бярозы наплакалі"; "падышла з пагрозай"; "стала за гарой"; "гадам, гужам распаўзліся"; "забялілі нібы малаком") ствараюць малюнак няўтульнасці начной прасторы для лірычнага героя. Асабліва гэта падкрэслівае вобразная сукупнасць "ноч наплакалі бярозы". Тут вобраз "бярозы" хутчэй за ўсё мае другое з міфалагічных значэнняў: "дрэва, звязанае з нячыстай сілай".

"Б[ереза] – дерево «счастливое», оберегающее от зла, и одновременно вредоносное, связанное с нечистой силой и душами умерших. <…> По восточнополесским поверьям, появляющиеся на русальной неделе русалки, *по бéрезнику кугаюца, на берёзе гойдаюцца, с берозы*

*спускающа*. В русальных песнях они изображаются сидящими на белой, на кривой Б[ерезе]. Б[ерезы] со свисающими да земли ветвями назывались русальными, к ним на Троицу боялись приближаться (гомел[ьская], чернигов[ская обл.].). Такие плакучие Б[ерезы], одиноко растущие в поле, считались у поляков деревьями духов: в них якобы вселялись души умерших девушек, которые по ночам выходили из дерева и затанцовывали насмерть случайных прохожих. <...> В некоторых восточнославянских быличках Б[ереза] выступает как атрибут нечистой силы (напр[имер], ведьмы летали по ночам на березовых палках, надаивали молоко с Б[ерез]; белые кони, подаренные человеку чертом, превращались в кривые Б[ерезы], а хлеб – в березовую кору; женщин, в которых вселялся бес, *бросало на бэрозу* и другие мотивы)"[1].

З улікам прыведзенага вышэй семантычнага тлумачэння міфалагемы 'бяроза' можна наступным чынам інтэрпрэтаваць вобразна-фабульны код дадзенага верша. Лірычны герой, які імкнецца знайсці сваю кветку шчасця, аказваецца ў начной прасторы, неспрыяльнай для гэтага пошуку, – яе стварыла нядобрая сіла. Яна варожая ў адносінах да лірычнага героя, нябачная для яго ў сваёй пагражальнай сутнасці: "падышла яна з пагрозай, стала за гарой". Пры гэтым лірычны герой адчувае толькі некаторыя праявы такой небяспекі.

У якасці зыходнай для выяўлення семантыкі вобразнай сукупнасці "ноч наплакалі бярозы" возьмем прыведзенае вышэй разуменне міфалагемы 'бяроза'. У такім выпадку больш выразным бачыцца сэнс вобраза ўспрымання "туманы": ён у спалучэнні з вобразнай сукупнасцю "гадам, гужам распаўзліся" перадае адчуванне лірычнага героя ў неспрыяльнай для яго намеру прасторы. Складнік "гад" у яго метафарычным значэнні тут тоесны, відаць, не столькі міфалагічнаму паняццю 'вуж' у яго ахоўнай семантыцы, колькі нечаму благому, злому.

Параўнаем: "[у Мядзельскім раёне] слова 'гад' ужывалася толькі ў пераносным сэнсе і азначала благога, злога чалавека"[2].

Варта адзначыць, што Мядзельскі раён мяжуе з Пастаўскім раёнам, якому належала в. Агароднікі (раней – Манькавіцкая воласць, Вілейскі павет, Віленская губерня), дзе нарадзіўся У. Дубоўка.

Вобразная сукупнасць "[туманы] забялілі беллю лісце нібы малаком" перадае ўяўленні лірычнага героя пра невыразнасць, цьмянасць шляху ў пошуку жаданай для яго кветкі. Тут акрэслена сітуацыя немагчымасці прадрацца праз вецце бяроз-перашкод і выразнага бачання гэтых перашкод, сітуацыя адчування, што жаданае (кветка) недзе ёсць, але яно схаванае і нябачнае ў прасторы "наплаканай бярозамі ночы".

**Матыў прысутнасці жаданай кветкі як увасаблення мроі, летуцення лірычнага героя ў прасторы яго існавання** ўзнікае, нягледзя-

[1] Л. Виноградова, В. Усачева, *Береза* [у:] *Славянские древности в 3 томах*, т. 1: *А – Г*, Москва 1995, с. 158–159.
[2] С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч, *Беларуская міфалогія...*, с. 93.

чы на неспрыяльныя і варожыя абставіны. Лірычны герой пры гэтым усё ж адчувае аб'ектыўную наяўнасць у навакольным свеце, дзе ён знаходзіцца, яго жаданай кветкі. Яна нагадвае яму пра сваё існаванне "шэптам", "спевам цымбалаў".

**Матыў пошуку жаданага – кветкі – і яго прысутнасці ў прасторы існавання лірычнага героя**. Першы складнік гэтага матыву абазначаны пытаннем "Дзе ты, кветка?". Другі акрэслены таемнай прысутнасцю кветкі ў вобразным кантэксце верша праз згадкі і адсылкі да яе існавання: "Вецер шэпты распаўсюдзіў, спеў цымбалаў спеў...". Вецер у дадзеным выпадку выступае як з'ява, якая супрацьпастаўленая нячыстай сіле.

Параўнаем: "Причины появления ветра связываются с общеславянскими представлениями о В[етре] как о местонахождении душ и демонов"[1].

"Вецер, з'ява прыроды, у традыцыйных уяўленнях нярэдка амбівалентная: гэта і магутная стыхія, супрацьпастаўленая нячыстай сіле [разрадка аўтара артыкула], і ўласна яе параджэнне, увасабленне, калі В[ецер] персаніфікуецца і дэманалагізуецца"[2].

Тут можна звярнуцца да вобразнага кантэксту з пачатку дадзенага верша: "ноч стала за гарой". Гара, паводле славянскай міфалогіі, – гэта адно з месцазнаходжанняў ветру.

Параўнаем: "Ветер – явление природы, в народных представлениях персонифицируется или наделяется свойствами демонического существа. <...> для славян характерно деление ветров на добрые <...> и злые. <...> Место обитания ветра – пропасти, ямы и пещеры, <...> крутая высокая гора <...>. К В[етру] обращаются за помощью в случае беды, несчастья, болезни"[3].

Вецер у вершы *Ноч наплакалі бярозы* – гэта з'ява, якая суіснуе побач з ноччу, ведае яе таямніцы, сілу і ў той жа час выступае яе экзістэнцыйным антыподам. Ён тут праяўляе сябе як з'яву, што суперажывае лірычнаму герою ў яго пошуках, нагадвае-натхняе на дасягненне жаданай мэты. Вецер падводзіць лірычнага героя да адчування "шэпту", "спеву", "цымбалаў спеву" як праяў існавання кветкі ў дадзенай прасторы. Адчуванні лірычнага героя спынены ў вершы шматкроп'ем. Гэты сінтаксічны сродак тут, як і ў іншых лірычных творах У. Дубоўкі, таксама выконвае сэнсаўтваральную матыўную функцыю. У дадзеным выпадку функцыю абрыву, спынення, адыходу летуцення лірычнага героя ў нечуваную і нябачную сферу. "Спеў цымбалаў" прагучаў як напамін пра жаданае, як сведчанне яго рэальнага існавання, але ён раптоўна абарваўся, знік у прасторы і праявах варожа настроенай да лірычнага героя ночы.

[1] А. Плотникова, *Ветер* [у:] *Славянские древности в 3 томах*, т. 1..., с. 358.
[2] С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч, *Беларуская міфалогія...*, с. 93.
[3] А. Плотникова, *Ветер*..., с. 358.

**Матыў нязбытнасці мроі пра кветку шчасця**. Пачатак гэтага матыву ў вобразнай сістэме верша абазначаны сцверджаннем “Спіць лес, людзі, // месяц змаладзеў”. Матыўная семантыка гэтай вобразнай сукупнасці можа быць інтэрпрэтавана таксама пры дапамозе міфалагем ‘лес’, ‘месяц’ як складнікаў гэтага аб’ёмнага ў сэнсаўтваральных адносінах вобраза. Лес, паводле славянскай міфалогіі, “мае ўладу над «гадамі паўзучымі», «розным звяр’ём»”[1]. “Лес, элемент ландшафтавага коду традыцыйнай беларускай мадэлі свету, які разам з іншымі элементамі гэтага коду (полем, стэпам, рэкамі, азёрамі, гарамі, камянямі) на свой лад структуруе прастору «гэтага» свету, будучы семантычна вельмі адрознымі. Яны, як правіла, маюць памежныя або медыяльныя функцыі, здзяйсняючы як бы склейку або розных частак «гэтага» свету, або розных светаў паміжасобку. <...> лясны гаспадар ці лясная гаспадыня або іх унучкі ці дочкі маюць уладу над насельнікамі ўсіх трох галоўных сфер касмічнай вертыкалі: над «гадамі паўзучымі» (касмалагічны «Ніз»), над «розным звяр’ём» («Сярэдзіна») і над «розным птаствам» («Верх»)”[2].

Такім чынам, туманам, якія “наўкол распаўзліся гадам, гужам”, нішто не можа супрацьстаяць – лес спіць, як спяць і людзі, што маглі паспрыяць лірычнаму герою ў яго пошуку. Ён застаецца адзінокім у яго мроі-імкненні знайсці жаданую кветку.

“Змаладзелы месяц” (маладзік) таксама не толькі не дапаможа лірычнаму герою, а і перашкодзіць яму ў яго пошуку.

Па-першае, ён гультаяваты.

“Зменлівасць М[есяца] знаходзіць сваё вытлумачэнне ў этыялагічных паданнях. Так, у адным з іх апавядаецца, што «месяцу Бог вялеў свяціць уночы, покуль сонейка спачывае, толькі м е с я ц  в е л ь м і  г у л ь т а я в а т ы [разрадка аўтара артыкула], ён кепска свеціць, за тое Бог вялеў, каб ён кожныя чатыры нядзелі перараджаўся. От затым ён адну нядзелю малады, другую расце аж да поўна, трэцюю поўны, а чацьвортую саўсім прападае»”[3].

Па-другое, месяц, паводле беларускай міфалогіі, спрыяе, апрача іншага, актывізацыі нячастай сілы.

“У шэрагу купальскіх тэкстаў М[есяц] адыграе ініцыяльную ролю: ён раскладае купальскае вогнішча, сігналізуючы пра пачатак святкавання <...>. Адметныя (найчасцей шкоданосныя) асаблівасці прыпісваліся месяцоваму святлу. Так, пры святле М[есяца] гушкаюцца на дрэвах, плешчуцца на паверхні вады або бегаюць па палях, заманьваючы прахожых, русалкі; пляце лапці Лясны цар – Лесавік”[4].

Гэтая нячыстая сіла таксама (калі спраецыруем такі міфалагічны факт на дадзены верш) будзе супрацьстаяць лірычнаму герою.

---

[1] С. С а н ь к о, Т. В а л о д з і н а, У. В а с і л е в і ч, *Беларуская міфалогія...*, с. 284.
[2] *Ibidem*, с. 283–284.
[3] *Ibidem*, с. 317.
[4] *Ibidem*, с. 320.

Адзначым пры гэтым, што пошукі лірычнага героя ў часавых дачыненнях можам суадносіць з Купальскай ноччу.

Працяг вызначанага вышэй трэцяга матыву верша – у апошняй яго страфе: “Ані слова, ані гуку // не ляціць у адказ. // Толькі недзе «ку-ку, ку-ку»” // чутна раз пад раз…”.

Паводле энцыклапедычнага слоўніка *Беларуская міфалогія*, “Зязюліна кукаванне [апроч іншага] стала раўназначна плачу, галашэнню, а сама птушка – сімвалам самотнасці, удоўства, жалю. <…> Зязюля звязвалася ва ўяўленнях з тым светам, са смерцю, яна лічылася вястункай сумных падзей, смерці, хваробы, няшчасця”[1].

Калі параўнаем вобразную семантыку апошняй і першай строф верша *Ноч наплакалі бярозы*, то заўважым іх супадзенне. І ў адным, і ў другім выпадку на першы план выходзіць змрочны сэнс, вобразная канстатацыя чагосьці такога, што мае ў сабе разбуральнае ўздзеянне на мару лірычнага героя, у выніку чаго яна не спраўдзіцца.

Такім чынам, на першы план сярод матыўных вобразаў верша *Ноч наплакалі бярозы* выходзяць тыя, што робяць дамінавальным матыў варожасці навакольнай прасторы да лірычнага героя ў яго пошуках кветкі шчасця (першы матыўны ўзровень). Гэта ў сваю чаргу дазваляе аднесці дадзены твор да матыўнай групы другога ўзроўню: вершы з асабовымі матывамі.

Прапанаваная характарыстыка вершаў з асабовымі матывамі зборніка У. Дубоўкі *Строма* дае падставы для наступных высноў.

Паэтыка твораў *Стромы*, як і іншых вершаваных зборнікаў У. Дубоўкі 1920-х гадоў, – гэта своеасаблівы мастацкі код, адназначная дэшыфроўка якога, відаць, немагчымая. У вершах дадзенага зборніка, прынамсі, у цыкле *Лятуценні* назіраем творчую ўстаноўку У. Дубоўкі на пошук адметных і семантычна аб’ёмных матыўных вобразаў, спалучэнне ў межах аднаго верша некалькіх матываў і выхад на першы план вядучага з іх. Такія паэтычныя адметнасці – гэта вынік творчай устаноўкі паэта на адметнасць паэтычнай формы, яе вобразнасць, сувязь з паэтыкай фальклору, жыццёвасць сімволікі мастацкага твора, дынамізм яго кампазіцыі, што знайшло далейшае ўвасабленне ў тэорыі ўзвышэнства, прынятай за праграму творчай дзейнасці як самога У. Дубоўкі, так і яго паплечнікаў па літаратурным згуртаванні “Узвышша”.

Параўнальны аналіз вершаў, апублікаваных у 1922–1923 гг., і новых іх варыянтаў для *Выбраных твораў* 1965 г. дае магчымасць прасачыць вынікі перасатварэння вершаў не толькі на ўзроўні вобразнай семантыкі, матываў, тыпаў лірычнага героя, а і інтэрпрэтацыі папярэдняга верша пры дапамозе новага яго варыянта.

Прапанаваныя ў пачатку артыкула класіфікацыйныя зыходныя ў іх праекцыі на адпаведныя матыўныя групы твораў спрыяюць больш

[1] *Ibidem*, c. 200.

сістэмнай характарыстыцы паэтыкі твораў, а на падставе гэтага – выяўленню асаблівасцяў лірычнага сэнсаўтварэння ў межах не толькі асобнага верша, а і цыкла твораў, і – далей – мастацкага напрамку ў пэўным літаратурным перыядзе.

*Aliaksandr Makarevich*

**Poetry by Uladzimir Duvouka: characteristics of its imagery (the poetic anthology *Stroma*)**

A b s t r a c t

The article undertakes the classification of the imagery in lyrical poems: the material sphere – the layers of the plot, characters and circumstances; the generalized semantic sphere – the layers of details, motifs, topos, archetypes, metalogical images. The characteristics of the imagery in the anthology *Stroma* by U. Dubouka are revealed within the theoretical frame of this classification. Poems with personal, aesthetic and existential motifs are considered as three distinct groups. The semantic function of differing images as well as of dominant ones are defined in each motif group.

Tom 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Marta Ruszczyńska**
Uniwersytet Zielonogórski
m.ruszczynska@ifp.uz.zgora.pl

# „Białoruska szkoła poetów" w perspektywie romantycznego regionalizmu

Istnienie „białoruskiej szkoły poetów" na mapie zjawisk literackich spod znaku romantycznego regionalizmu z dzisiejszej perspektywy wydaje się faktem bezspornym, podobnie jak innych szkół, a więc litewskiej, ukraińskiej, czerwonoruskiej czy inflanckiej[1]. Jednak każda z nich oprócz oczywistych podobieństw wynikających z ówczesnej sytuacji historycznej i politycznej: czasów zaborów i negatywnych zmian, jakie najsilniej odbiły się na środowiskach kulturotwórczych ziem litewsko-ruskich, szczególnie po powstaniu listopadowym, ma też swoją własną specyficzną i odrębną historię. Tak też jest w odniesieniu do „białoruskiej szkoły poetów". I to co stanowi sui generis wzmiankowanej szkoły należałoby łączyć z jej istnieniem na obszarze kresowego kulturowego pogranicza, gdzie stosunkowo blisko było jej twórcom do dwóch pierwszych (litewskiej i ukraińskiej), tak iż stała się ona jakby wypadkową wpływów konstytuujących ją dwóch czynników, a mianowicie literackiego („szkoła litewska") i etnicznego („szkoła ukraińska"). Ten pierwszy dotyczył poszukiwań i prób osadzenia jej w kontekstach kulturowych białoruskiej prowincji, wraz z poszukiwaniem na tym obszarze wzorców literackich. Czynnik drugi natomiast dotyczył związku z miejscowym folklorem i poszukiwań dotyczących sposobów przełożenia na literaturę uwarunkowań geograficzno-historycznych związanych z białoruska prowincją.

Na podstawie współczesnych badań wiadomo, że „białoruska szkoła poetów" ukonstytuowała się w latach 40-tych XIX wieku, a tworzyli ją: Aleksander Rypiński, Jan Czeczot, Jan Barszczewski, Wincenty Dunin-Marcinkiewicz, Tadeusz Łada-Zabłocki i Władysław Syrokomla. Wspomniana perspektywa czasowa warunkowana jest historycznie, gdyż w tym okresie wychodzą manifesty o charakterze krytycznym[2], jak i teksty literackie przedstawicieli

[1] Zob. M. R u s z c z y ń s k a, *Estetyczny i regionalny wymiar „szkoły literackiej" w krytyce polskiego romantyzmu* [w:] *Dyskursy krytycznoliterackie 1764–1918. Wokół Słownika polskiej krytyki literackiej 2*, pod red. M. Strzyżewskiego, Wydawnictwo Naukowe Uniwersytetu Mikołaja Kopernika, Toruń 2012, s. 99–112.

[2] Wymienić tu należy opublikowany na łamach „Rubona" (t. 5, Wilno 1845) szkic Ignacego Chrapowickiego *Rzut oka na poezję ludu białoruskiego*.

wzmiankowanej szkoły. Toteż zarówno do jednych jak i drugich należy zaliczyć wypowiedź Romualda Podbereskiego, jednego z animatorów miejscowej kultury i akuszerów „białoruskiej szkoły", który we wstępie dołączonym do *Szlachcica Zawalni* (1844) Jana Barszczewskiego mianuje pisarza głównym przedstawicielem nurtu, jako tego, który pokazał „ducha poezji narodu". W innym miejscu swoich rozważań krytyk wskazuje także innego poetę, kaukaskiego zesłańca T. Ładę-Zabłockiego, którego tomik *Poezje*, staraniem wydawniczym R. Podbereskiego, ukazał się rok później, czyli w roku 1845. Dodatkowo jeszcze w roku 1844 ukazały się w Wilnie *Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny* przybyłego z zesłania J. Czeczota, a jest to już czwarty tomik tego autora, zawierający materiał folklorystyczny z obszaru zamieszkanego przez ludność białoruską. Należałoby w tym gronie umieścić również W. Dunina-Marcinkiewicza jako autora *Sielanki*, opery wystawionej w roku 1846 w Mińsku, w której bohaterowie w zależności od pochodzenia (szlacheckiego czy ludowego) posługiwali się językiem polskim lub białoruskim, a sam autor wystąpił w roli Białorusina Nawuma Pryhaworki. I oczywiście wspomnieć wypada o A. Rypińskim, który niewiele znaczy jako literat[1], ale jako polistopadowy emigrant wydał w roku 1840 w Paryżu znacząca książkę o charakterze etnograficzno-folklorystycznym *Białoruś*, gdzie w obszernym *Dodatku* znalazły się pieśni, tańce, gry i zabawy oraz przysłowia ludowe. A. Rypiński wraz z Platerami (Cezarym i Ludwikiem), działając w ramach emigracyjnego Towarzystwa Literackiego, z pewnością przyczynił się do popularyzacji białoruskiej prowincji. Ostatnią postacią regionalnej szkoły jest W. Syrokomla (1823–1862), przedstawiciel trzeciego pokolenia, który w swoich wierszach niejednokrotnie manifestował swoją bliskość z małą ojczyzną – Białorusią wówczas, gdy wraz z rodziną w roku 1844 objął dzierżawę nadniemeńskiego folwarczku Załucze niedaleko od Stołpców i Nieświeża[2]. Przynależność do białoruskiej prowincji udokumentowana została twórczością poety, jak również wierszami w języku białoruskim, oraz związkami z białoruskim ruchem odrodzenia narodowego, wśród których wymienić należy wspomnianego W. Dunina-Marcinkiewicza i Artemiusza Weryhę-Darowskiego, a co ważniejsza pokazaniem w twórczości życia mieszkańców „smutnej Arkadii", jak w romantycznym języku określano wówczas Białoruś. Oczywiście można by do tej grupy poetów dodać jeszcze inne nazwiska, wśród filomatów Tomasza Zana, który najwcześniej ze wspomnianego grona zainteresował się folklorem Białorusi oraz innych, jak Ignacego Chrapo-

[1] Aleksander Barszczewski, autor *Wstępu* we współczesnym wydaniu *Antologii poezji białoruskiej*, łącząc nazwisko tego autora z literaturą białoruską, wymienia wiersz *Chochlik* jako pierwszą białoruską balladę literacką (Zob. A. Barszczewski, *Wstęp* [w:] *Antologia poezji białoruskiej*, wyb. i oprac. J. Huszcza, Wrocław 1978, s. X.

[2] Zob. C. Zgorzelski, *Władysław Syrokomla* [w:] *Obraz literatury polskiej XIX i XX wieku. Literatura krajowa w okresie romantyzmu 1831–1863*, t. III: Seria trzecia, pod red. M. Janion, M. Maciejewskiego, M. Gumkowskiego, Wydawnictwo IBL, Warszawa 1992, s. 369.

wickiego, zbieracza białoruskich pieśni ludowych[1]. Wydaje się jednak, że należałoby zwrócić uwagę przede wszystkim na związek wymienionych twórców z przestrzenią w znaczeniu autobiograficznym jako miejscem urodzenia czy późniejszego życia oraz też manifestowaną często przez poetów przynależnością etniczną, wzorem tradycji staropolskich[2]. Widzieć też należy świadomość duchowego związku z regionem, a także szukać w ich twórczości powiązań na miarę integracyjnego ruchu społeczno-kulturowego, mającego wszelkie znamiona odśrodkowych działań na rzecz przywrócenia z jednej strony geografii mającej w tle I Rzeczypospolitą, którą unieważniała polityka zaborcy, a z drugiej strony niewykluczającą działań, oczywiście nie wszystkich zgrupowanych pisarzy, na rzecz tendencji nowych o charakterze społecznym czy demokratycznym, a związanym jak w tym wypadku z ruchem białoruskiego odrodzenia narodowego oraz działań na rzecz kultury białoruskiej prowincji. Te ostatnie miały przypomnieć centrum o istnieniu środowisk, które w sytuacji rozbiorów i rusyfikacji tych terenów coraz bardziej oddalają się od reszty kraju, podobnie jak zapomnieniu ulegała złożona i burzliwa historia prowincji.

Wspomnieć należy również o dość luźnym charakterze „szkoły białoruskiej" w porównaniu z innymi, podczas gdy kilkupokoleniowe środowisko „szkoły białoruskiej" nie jest powiązane tak szczególnymi więzami młodzieńczej czy emigracyjnej przyjaźni, choć mamy tu do czynienia z bliskością i kontynuowaniem wcześniejszych prac filomatów wileńskich[3], a szczególnie etnograficznych prac J. Czeczota przez W. Syrokomlę[4]. Jednakże kilku z nich istnieje jakby osobno i w sposób wyizolowany, co widać na przykładzie biografii i działań J. Barszczewskiego – poety pielgrzyma i następcy Zoriana Dołęgi Chodakowskiego, zbieracza ludowości, który zamierzał odkryć na nowo słowiańską i ludową Białoruś i późniejszych zesłańczych losów T. Łady-Zabłockiego, czy wcześniejszych także zesłańczych dziejów J. Czeczota. Te dramatyczne powikłania losów przedstawicieli tejże szkoły przyczyniły się między innymi do dość późnego ich zaistnienia w świadomości szerszego

---

[1] Jest on autorem wierszy i tłumaczem białoruskich pieśni ludowych oraz autorem artykułu *Pogląd na poezję ludu białoruskiego*. Jednak jego związek z czasopismem „Rubon" zdecydowanie skłania do tego, aby uznać w nim współtwórcę inflanckiej szkoły poetów.

[2] Przykładem T. Łada-Zabłocki, który postrzega jedną z prowincji Białorusi – Witebszczyznę jako swoją ojczyznę etniczną, czyli kraj pochodzenia. Poeta urodził się w Łuhinowie w powiecie sieńskim guberni mohylewskiej.

[3] Warto pamiętać, ze początkowym miejscem, w którym zaczęto rozwijać badania nad folklorem Białorusi i skąd pochodzili entuzjaści kultury ludowej tych okolic, było Wilno drugiego i trzeciego dziesięciolecia XIX wieku oraz środowisko Uniwersytetu Wileńskiego. Wśród profesorów szczególnie Leon Borowski i członkowie Towarzystwa Filomatów przyczynili się do szerszego zaistnienia tego obszaru w świadomości ogółu.

[4] Zob. uwagi W. Syrokomli do szkicu prozatorskiego *Wioski i lud,* cyt. za W. S y r o k o m l a, *Wybór poezji*, oprac. W. Kubacki, Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, Warszawa 1961, s. 552.

ogółu. Innym czynnikiem były komplikacje geograficzno-historyczne związane z czasem rozbiorów. Pamiętajmy bowiem, że do Białorusi przedrozbiorowej należały dawne województwa „ruskie" (połockie, witebskie i mścisławskie). I nie należy zapominać, że nazwę „Biała Ruś" wprowadził Joachim Lelewel do swojego *Atlasu Historycznego* wydanego w Lipsku w roku 1847. Po roku 1795 w odniesieniu do tych terenów używano często określenia „Litwa". Ostatecznie po rozbiorach i po podziale Wielkiego Księstwa Litewskiego na trzy gubernie: białoruską, litewska i mińską, Białoruś nadal jest pojmowana jako gubernia białoruska, utworzona w miejscu wyżej wymienionych trzech województw „ruskich", a od roku 1802 w skład ziem białoruskich wchodzą też: gubernia mohylewska i witebska, powstałe w wyniku podziału guberni białoruskiej[1]. W tej sytuacji dla wielu twórców istnieje potrzeba zaznaczenia własnej regionalnej odrębności oraz przywoływania historii własnej prowincji wraz z silną tendencją stworzenia mitu założycielskiego tych wszystkich, którzy czują potrzebę identyfikacji z dawną tradycją Białorusi przedrozbiorowej, także związaną z Wielkim Księstwem Litewskim, ale mającą też własną historię.

Przyglądając się poetom tworzącym „białoruską szkołę poetów" widać od razu, że środowisko jest w małym stopniu w porównaniu z innymi szkołami zintegrowane. Jednakże ta integracja odbywa się tutaj głównie poprzez tworzenie literatury mającej znamiona regionalności. Ten regionalizm wyznacza podobne jak w odniesieniu do innych szkół kryterium, którym zdaje być kategoria determinizmu geograficzno-historycznego, z niego wypływa jakby nowa jakość prowincjonalnego modelu kultury. Wspomniana kategoria w romantycznym istnieniu miała już w obrębie krytyki literackiej tego czasu swoje ugruntowane znaczenia, że przywołam tylko najważniejszych autorów romantycznych postulatów zbliżenia poezji do natury, wśród których należałoby w pierwszej kolejności wymienić Kazimierza Brodzińskiego[2], Maurycego Mochnackiego[3] i Seweryna Goszczyńskiego[4]. Wszyscy trzej szukają różnych relacji między twórczością a przestrzenią. Podkreślając szczególnie specjalny związek, jaki zachodzi między poetą a krajobrazem.

Wspomniany determinizm geograficzno-historyczny dochodzi do głosu u wszystkich poetów białoruskiej szkoły. U J. Czeczota (1796–1847) jako jednego z pierwszych zainteresowanie białoruską pieśnią ludową ma miejsce w okresie filomackim. Bogusław Dopart pisze o tej fascynacji poety w sposób

[1] Zob. M. Olechnowicz, *Polscy badacze folkloru i języka białoruskiego w XIX wieku*, Wydawnictwo Łódzkie, Łódź 1986, s.188-189.

[2] K. Brodziński formułuje postulat związku między krajem twórcy a literaturą w rozprawie *O klasyczności i romantyczności tudzież o duchu poezji polskiej* (1818).

[3] M. Mochnacki swoją ideę regionalizmu jako konstytutywną cechę literatury romantycznej pokazał w metaforze śpiewającego drzewa, a istotę literatury narodowej tworzy „rozmaitość różnych regionalnych głosów" (M. Ruszczyńska, *Estetyczny i regionalny wymiar „szkoły literackiej"*..., s. 102).

[4] S. Goszczyński w rozprawie *Nowa epoka w poezji polskiej* (1835) ideę determinizmu geograficzno-historycznego interpretuje jako potrzebę maksymalnego zbliżenia poezji do ludu.

następujący: „Możemy jedynie zgadywać, jakie motywy kierowały J. Czeczotem, gdy składał i przedkładał kolegom swe białoruskie wiersze i piosenki. Pewna rolę musiała tu odegrać – przynajmniej początkowo – rodząca się na pograniczach oświecenia i romantyzmu nowa świadomość regionalna. Z pewnością też objawiał się w ten sposób demokratyzm J. Czeczota – ucznia Jana Jakuba Rousseau. Nie można wykluczyć, że zamiłowanie filomatów do białoruskiej pieśni ludowej wypływało z potrzeb natury artystycznej, to znaczy wyrażało tęsknotę do nowej liryki i nowej, romantycznej ekspresji"[1].

I dalej badacz pokazując tę nową uczuciowość przywołuje niezwykłą karierę białoruskiej piosenki ludowej w twórczości Adama Mickiewicza *Leciała cieciora*, która stała się później „emblematem miłości Maryli i Gustawa"[2], dodajmy romantycznej miłości niespełnionej. Takich przykładów znaleźć można więcej, ale skupiając się na wspomnianym determinizmie geograficzno-historycznym to w kontekście „białoruskiej szkoły" przekłada się on w przypadku J. Czeczota na nową próbę wykorzystania folkloru tych ziem właśnie z perspektywy początku lat czterdziestych i atmosfery polityczno-społecznej, innej w stosunku do okresu przedlistopadowego, w jakich powstawała poezja filomacka. Na początku lat czterdziestych można mówić o ponownym odkrywaniu zasobów folklorystycznych tych okolic, które, jak sądzono, nie zostały jeszcze w pełni wykorzystane. To drugie spotkanie jawi się u J. Czeczota inaczej niż w filomackich balladach. Stosunek do tradycji ludowej tych ziem polega na próbie poszukiwania idylliczności w białoruskim krajobrazie. U J. Czeczota zarówno w poezjach oryginalnych, jak i tych stanowiących parafrazę pieśni ludowych bohaterowie stają się częścią natury budzącej i rozkwitającej wraz z wiosną. Jednakże przy głębszej lekturze okazuje się, że idylliczność jest pozorna, a trwałym elementem naddźwińskiej krainy, także u pozostałych twórców, stanie się głębokie uczucie smutku i melancholii, będące udziałem mieszkańców i natury. Ten szczególny miserabilizm przedstawia świat, którego głównym uczuciem jest dojmujący smutek wynikający z jakiegoś naznaczenia nieszczęściem świata ludzi i przyrody. Dlatego wielu w tej poezji nieszczęśliwych kochanków i ludzi pokrzywdzonych przez los, a sytuacja powyższa ma także realistyczne uzasadnienie wynikające z życia społeczności wiejskiej epoki pańszczyźnianego ucisku. Podobne zjawisko dostrzec można w obrębie świata natury, w którym przyroda bywa często okaleczana jak brzoza z wiersza *Płakała brzezina, tak się skarżyła…*, a użyta w nim antropomorfizacja tworzy emblematyczny krajobrazowy pitoresk świata pogrążonego w wiecznym smutku, zapomnieniu i żałobie – swoistej nieszczęśliwej prowincji. To wszystko przekłada się na krajobraz ziemi wiecznego miserabilizmu, jak o Białorusi jeszcze w roku 1823 pisał J. Czeczot w wierszu *O Ty! Ziemio nieszczęśliwa*, niewolnym od aluzji patriotycznych, przypominającym w języku pieśni ludowej o zniewo-

---

[1] B. Dopart, *U źródeł szkoły litewskiej. Jan Czeczot i poezja filomacka* [w:] tegoż, *Polski romantyzm i wiek XIX. Zarysy, rekonesanse*, Księgarnia Akademicka, Kraków 2013, s. 150.

[2] *Tamże*.

ахапіла адчуванне беларускага духу”[1], – сцвярджаў М. Сяднёў. Гэтае адраджэнне беларускай школы, уздым нацыянальнай свядомасці паэт, прыгадаем – намінант на Нобелеўскую прэмію, называе нечым “накшталт маленькага кароткага рэнесансіку”[2].

І, відавочна, што беларусы, самая шматлікая нацыянальная меншасць у Польшчы, былі падрыхтаваны да таго, каб выкарыстаць спрыяльныя варункі сярэдзіны XX стагоддзя. У своеасаблівым летапісе беларускага жыцця амаль усёй другой паловы XX стагоддзя, ва ўнікальнай аўтабіяграфічнай кнізе *Віры. Запіскі рэдактара* Георгія Валкавыцкага выразна перададзена атмасфера тых гадоў. Ён, выпускнік Літаратурнага інстытута ў Маскве, вярнуўшыся ў 1954 годзе дадому, а як вядома, паходзіў з Белавежы, аказаўся ў эпіцэнтры чарговага беларускага адраджэння. Гэта Г. Валкавыцкаму было даручана падрыхтаваць прапанову аб стварэнні беларускай грамадскай арганізацыі: “Я аргументаў да прапановы доўга не шукаў. У карысць беларускай арганізацыі галасавалі тэорыя і жыццё. Станоўчую ролю адыгралі тры кіты, на якіх стаіць кожная нацыя – мова, культура, тэрыторыя. А ідэйным таранам сталі актыўнасць тутэйшага насельніцтва ў пабудове новага жыцця і замілаванне да сваёй культуры. Апошні доказ быў навідавоку. Яго прадэманстравалі нашы людзі ў час сёлетніх гастроляў Купалаўскага тэатра. <...> Дзесяць гастрольных дзён купалаўцаў ускалыхнулі пачуцці тутэйшых людзей, вылiліся ў вялікае беларускае свята. Узнікла цудоўная атмасфера. У камітэце не сціхалі тэлефонныя званкі, з усіх куткоў вялікага ваяводства народ дамагаўся білетаў на выступленні беларускага тэатра”[3].

Была створаная ініцыятыўная група і неўзабаве – у лютым 1956 года – распачало сваю працу Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ). Пры дзейсным удзеле ў арганізацыі БГКТ асноўным заданнем Г. Валкавыцкага “з’яўлялася заснаванне беларускага тыднёвіка”[4]. У руках ”васьмімесячнага журналіста” аказалася “будучыня газеты”. Досыць падрабязна Г. Валкавыцкі згадвае пошукі ім назвы тыднёвіка: “Пачаў танцаваць ад загалоўка, як часам рабіў і пры вершах. З маіх навокал-загаловачных піруэтаў не засталося ніякага следу. Помню толькі, што, шукаючы імя, канкрэтызаваў і характар тыднёвіка. Адкідваў двучленныя назвы. Яны ад бяссілля выказаць думку коратка. А імя часопіса – сціслая думка. Павінна быць простай, суцэльнай і даходлівай. Браў таксама пад увагу кальпарцёраў і шырокую грамадскасць. Не ўсе ведаюць беларускую мову, а нам неабыякавы асацыяцыі, якія выкліча ў людзей наш тыднёвік. Вельмі хацеў уплесці гістарычнае карэнне. Беласточчыне аднак не пашанцавала з беларускімі выданнямі. Паспрабуйце, напрыклад, адаптаваць «Мужыцкую праўду». «Сялянская праў-

[1] *Ibidem*, c. 280
[2] *Ibidem.*
[3] Г. В а л к а в ы ц к і, *Віры: Нататкі рэдактара*, Беласток 1991, c. 12.
[4] *Ibidem,* c. 13.

да»? «Вясковая праўда»? Вузка. Хоць і асноўную чытацкую базу размясціў у беластоцкай вёсцы, не завужаў тыднёвіку гарызонт вясковымі рамкамі. Гэта наша адзіная газета на беларускай мове. Ужо амаль адчуваў дотык працягнутай з гісторыі рукі, таксама «адзінай» віленскай «Нашай Нівы». Шмат чаго ў нас знойдзецца супольнага – вынік той жа «адзінасці»”[1]. Відавочна, свядомая арыентацыя Г. Валкавыцкага на адраджэнскую газету пачатку XX стагоддзя была арганічнай і цалкам апраўданай. Галоўныя кірункі дзейнасці “нашаніўскіх” адраджэнцаў, як бы лакалізаваўшыся на Падляшшы ў адпаведнасці з іншымі сацыяльна-палітычнымі ўмовамі, праблемамі, аказаліся шмат у чым актуальнымі і запатрабаванымі. Першага лютага 1956 года Г. Валкавыцкі атрымаў прызначэнне на пасаду галоўнага рэдактара штотыднёвіка, а з датай 4 сакавіка выйшаў у свет першы нумар “Нівы” – з падрабязнай справаздачай і скарочаным дакладам з Першага з’езду БГКТ.

З’яўленне “Нівы”, магчымасць друкавацца на роднай мове, садзейнічала мабілізацыі творчых сіл. І як у свой час “Наша Ніва” сталася своеасаблівым пісьменніцкім аб’яднаннем беларусаў у Вільні, так і “Ніва” беластоцкая вывела ў свет цэлую кагорту аўтараў. Кранальнае практычнае пацвярджэнне гэтай тыпалагічнай сувязі даюць фестывалі, святы беларускай песні, што праводзяцца на Беласточчыне пад эгідай БГКТ, распачынаючыся звычайна своеасаблівым гімнам беларусаў Падляшша, вершам Алеся Барскага *Беластоцкі край* (музыка Анатоля Ярмоленкі), надрукаваным у Беларускім календары за 1994 год і ад самага пачатку знакавым для беларусаў Польшчы, і завяршаючыся песняй *Люблю наш край, старонку гэту* Канстанцыі Буйло.

Мой Беластоцкі край – мая Айчына!
З табою звязаны мой лёс і доля.
Люблю лясы твае, люблю даліны,
Кахаю шчыра бацькаўскае поле.
<…>
Зямля мая, мой беларускі краю,
Над Нарваю, над Бугам задуменным,
Я вольны тут, душой адпачываю,
Мой краю вечны, краю незаменны[2].

У гэтым паэтычным маніфесце беластоцкай беларушчыны псіхалагічна дакладна паяднанае асабістае з агульным, называюцца мясцовасці, закранаецца моўны аспект, нават згадваецца гісторыя. Некалі ж напрыканцы XIX стагоддзя неацэнны Мацей Бурачок у сваёй слыннай патрыятычнай Прадмове да *Дудкі беларускай* выдзеліў якраз гэтыя аспекты, найважнейшыя ў справе нацыянальнага ўсведамлення, адраджэнскіх працэсаў.

[1] *Ibidem.*
[2] А. Б а р с к і, *Выбраныя творы*, Мінск 2011, с. 21.

Вехавая падзея ў гісторыі беларускай літаратуры Польшчы адбылася на самым пачатку лета 1958 года. 8 чэрвеня ў Беластоку сабраўся арганізацыйны з'езд Літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі беларускага штотыднёвіка "Ніва". Аб'яднанне мелася працаваць семінарыйным метадам са сваім творчым варштатам – штомесячнай Літаратурнай старонкай. Як адзначыў у адным з "ніўскіх" артыкулаў Ян Чыквін, "сабраліся нікому тады яшчэ невядомыя прадстаўнікі розных пакаленняў, любіцелі і пачынальнікі прыгожага пісьменства, каб арганізацыйна аб'яднацца ды канчаткова афіцыяльна-адміністрацыйна заявіць аб сваёй прысутнасці ў культурным і грамадскім жыцці Беласточчыны"[1]. Сабраліся, бо "Ніва" Г. Валкавыцкага, дзякуючы таму, што рэдактар пабацькоўску клапатліва збіраў, аберагаў, развіваў таленты, адразу стала цэнтрам не толькі грамадскага беларускага жыцця, але і прыцягнула беларускі творчы патэнцыял. Нездарма адной з першых штатных адзінак у толькі што створанай "Ніве" аказалася пасада паэта. Выпадак унікальны, але цалкам зразумелы ў святле біяграфіі рэдактара штотыднёвіка. Старшынёй аб'яднання, зразумела, быў абраны Г. Валкавыцкі – сапраўды хросны бацька пасляваеннага беларускага літаратурнага руху ў Польшчы. Праз чатыры гады, ужо калі старшынёй арганізацыі стане Алесь Барскі, яна атрымае вельмі адпаведную, трапную назву "Белавежа", пад якой і ўвойдзе ў гісторыю літаратуры. І калі браць пад увагу, што менавіта калектыўны зборнік вершаў *Рунь* (1959) – дэбютная справаздача сяброў аб'яднання – стаў увогуле першай паэтычнай кнігай на пасляваеннай Беласточчыне, што якраз Сакрат Яновіч і Ян Чыквін, ужо члены Саюза польскіх пісьменнікаў, у сярэдзіне сямідзясятых гадоў сталі ініцыятарамі стварэння Клуба польскіх пісьменнікаў у Беластоку, дык небеспадстаўным падасца тэзіс С. Яновіча пра Польшчу як краіну дзвюх літаратур[2], прынамсі, калі гаварыць пра Беласточчыну.

Відавочна, арганізацыя ў другой палове 1950-х гадоў БГКТ, заснаванне "Нівы" і Літаратурнага аб'яднання, гэтай своеасаблівай трыяды, сведчыла не проста аб *рэнесансіку,* як у час побыту М. Сяднёва на Беласточчыне, а адлюстроўвала сапраўдныя адраджэнскія працэсы на беларускім "палетку". Трэба згадаць, што "Ніва" з'яўлялася друкаваным органам Грамадска-культурнага таварыства, адпаведна і "Белавежа" доўгі час знаходзілася ў структуры БГКТ. Так што самым непасрэдным чынам спрычынялася да рухлівай жыццёвай канкрэтыкі. Вершы не толькі друкаваліся на Літаратурнай старонцы, а і чыталіся на шматлікіх сустрэчах амаль ці ні ва ўсіх вёсках і гарадах Беласточчыны. У большасці ж з іх былі клубы, святліцы, бібліятэкі, гурткі БГКТ. І, вя-дома, сустрэчы з паэтамі адбываліся ў шматлікіх школах. У першым выпуску "Беларускага календара" БГКТ (1957 г.) адзначана: "Сёння на Белас-

---

[1] Я. Ч ы к в і н, *Беларускі літаратурны рух у Польшчы*, "Ніва" 1991, № 51.

[2] *Рабіць сваё*: *інтэрв'ю Сакрата Яновіча з Янам Чыквіным*, "Ніва" 1998, № 9.

точчыне налічваецца 57 пачатковых беларускіх школ. У 111 школах беларуская мова вывучаецца як прадмет. Ёсць 2 агульнаадукацыйныя ліцэі (у Гайнаўцы і ў Бельску), якія рыхтуюць кадры беларускай інтэлігенцыі"[1]. "Белавежцы" актыўна садзейнічалі абуджэнню, замацаванню нацыянальнай тоеснасці, выхаванню чытацкай аўдыторыі. Своеасаблівым маніфестам, якраз запатрабаваным беларускім часам, успрымаўся верш Віктара Шведа "Я беларус":

Я беларус, рос у народнай гушчы,
Сярод палёў, уквечаных лугоў,
Пад дзіўны гоман Белавежскай пушчы
Пад заліўныя трэлі салаўёў.

Я беларус і сваёй роднай мове
Яшчэ дзіцём вучыўся ад бацькоў.
І слова роднае – мой лёс у гэтым слове –
Мне даражэй, чым сотні іншых слоў.
<...>
Я беларус і гэтым ганаруся.
Усім душу сваю магу адкрыць:
Ніколі і нідзе не адракуся,
Што беларусам жыў і буду жыць![2]

Адпаведна ў выніку гэтых частых сустрэч прыбаўлялася аўтараў на Літаратурнай старонцы "Нівы", адбываліся дэбюты, што перараасталі для некаторых дэбютантаў у пажыццёвую творчасць і сувязь з "Белавежай": Надзеі Артымовіч, Віктара Стахвюка, Міхася Шаховіча, Міры Лукшы, Жэні Мартынюк, Юрыя Баены і шэрагу іншых.

За 60 гадоў існавання "Белавежы" пабачыла свет каля 250 разнастайных выданняў (кнігі паэзіі, прозы, перакладаў, літаратуразнаўчых даследаванняў, часопісы, календары). Можна з поўным правам сказаць, што творчасць беларускіх пісьменнікаў Польшчы з'яўляецца неад'емнай, арганічнай часткай грамадска-сацыяльнага і нацыянальна-культурнага жыцця беларусаў. Гэтай творчасці ўласцівы ўсе функцыі прыгожага пісьменства – эстэтычная, пазнавальная, выхаваўчая. Творы "белавежцаў" з'яўляюцца выдатным генератарам нацыянальных ідэй, акумулююць у сабе найважнейшыя нацыянальныя коды, вартасці і захоўваюць іх для нашчадкаў, стрымліваючы асіміляцыйныя працэсы, застаючыся сапраўды вартавымі памяці, бо напісанае – застаецца.

Старшыня "Белавежы" Я. Чыквін у пасляслоўі да своеасаблівай гісторыі аб'яднання, выдадзенай яшчэ да 50-гадовага юбілею арганізацыі, невыпадкова падкрэсліў, што "пісьменнікі «Белавежы», сапраўды, шчыльна запоўнілі сваю этнічную прастору культурна-эстэтычным зместам. З поўным правам можна сказаць, што другая палова XX ста-

[1] *Што трэба ведаць аб БГ-КТ?*, "Беларускі каляндар" 1957, с. 53.
[2] В. Швед, *Мая зялёная Зубровія*, Мінск 1990, с. 61.

годдзя належыць у беластоцкім краі найперш «белавежцам»”[1]. Трэба падкрэсліць, што пры ўсіх відавочных грамадска-сацыяльных складанасцях і асабовых стратах, асабліва на працягу апошняга дзесяцігоддзя, “Белавежа” застаецца адным з найважнейшых сведчанняў грамадска-сацыяльнага і нацыянальна-культурнага жыцця на Беласточчыне.

*Halina Twaranowicz*

**The social and national-cultural phenomenon of "Bialowieza" literary association**

A b s t r a c t

The Belarusian Literary Association "Bialowieza", the only organization of this kind among all national minorities in Poland, was established on June 8, 1958 Within 60 years of its creative activity, more than 260 different genre editions have been published – volumes of poetry, prose, essays, translations, studies and historical-literary monographs, including two magazine titles. The output of Belarusian writers in Poland is an inseparable, organic part of the social and cultural life of the entire Belarussian community settled in the Polish context. The output is characterized not only by high literary and aesthetic, but also cognitive and educational value. The works of the members of this Association serve as the generator of national ideas, accumulating the most important values and national codes, protecting them from oblivion, as well as their own language, customs, traditions, beliefs – to finally stop the assimilation processes, remaining real "guardians of memory" (T. Zaniewska).

[1] Я. Ч ы к в і н, *Пасляслоўе* [у:] *Шлях па прамой часу*: *Да гісторыі беларускай літаратуры Польшчы 1958–2008 гг.*, пад рэд. Я. Чыквіна, Беласток 2007, с. 317.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Мікола Хаўстовіч**
Uniwersytet Warszawski
m.khaustovich@uw.edu.pl

# Новае пра Ялегі Пранціша Вуля

23 сакавіка 1859 г. нехта Ялегі Пранціш Вуль (Eligi Franciszek Ul) запісаў у *Альбом* Арцёма Вярыгі-Дарэўскага два вершы: беларускамоўны *К дудуру Арцёму ад наддзвінскага мужыка* і польскамоўны *Myśl nienowa*. Беларускі тэкст – гэта найлепшы ў мастацкіх адносінах твор у *Альбоме* і, увогуле, адзін з лепшых твораў беларускамоўнае літаратуры XIX стагоддзя.

Szto tabie, dudar, pryśpieła
Śmieły pieśni zawadzić?
Ci to lohkaja, brat, dzieła
Naszu braćciu praświaćić?

Kryknuć na ciabie panoŭja,
Szto ty szkodnik i miściuk, –
Stracisz hołas i zdaroŭja
I dudu upuścisz z ruk.

I abmyiszsia ślizami,
I padumaisz niraz:
"Bożżaj Łaski niet nad nami,
I niet praŭdy siarot nas"[1].

Паэтаў з такім узроўнем паэтычнага таленту ў той час на Беларусі, хіба, не было. Можа, адно аўтар славутага *Тараса* і *Двух д'яблаў* мог бы паспаборнічаць з Ялегі Пранцішам Вулем:

– "Памалу, братцы, ни давиця
Мой хвильлятон вы и Пчалу,
Мине-ж самога вы пусьциця,
Ай, ни дзяржыце-ж за палу!

А то дадушы што у газэци
Я й вас аблаю на увесь сьвет,
Як Гогаля у прошлым леци...
Видзь я рыдахтарам газет".

---

[1] Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1135-4-391a-9.

Глядзиць Тарас, аж гэта сивый,
Кароткий, тоустый, быць чурбан,
Плюгавый дужа, никрасивый
Крычыць, як аглумленый пан[1].

Беларускія літаратуразнаўцы звярнулі ўвагу на пэўнае падабенства паэтыкі *Тараса* і верша Ялегі Пранціша Вуль. Верша, які "па чысціні гучання, па бездакорнай культуры сілаба-танічнага верша з усёй беларускай паэзіі XIX стагоддзя, бадай што, найбольш блізкі да *Тараса на Парнасе* <...>. Сваім талентам Вуль настолькі блізкі да таленту аўтара *Тараса на Парнасе*, што міжволі прыходзіць у галаву, а ці не Вуль напісаў паэму"[2]. Дадзеную думку Г. Кісялёў выказаў яшчэ ў 1960-я гг. Але нават і пазней, калі на ролю найбольш верагоднага аўтара *Тараса* быў вылучаны Канстанцін Вераніцын, гісторыкі літаратуры звычайна не забываюць і Ялегі Пранціша Вуля. Той самы Г. Кісялёў сцвярджаў: "Аддаючы перавагу аўтарству Вераніцына, я заўсёды стаўлю побач Вуля. У шырокім сэнсе *Тарас на Парнасе* – плён тагачаснай віцебскай паэтычнай школы, яскравым з'яўнікам якое быў Вуль. Несумненны ўзаемаўплыў Вераніцына і Вуля, магчымыя і розныя формы сааўтарства"[3].

Такім чынам, нашая цікавасць да асобы і творчасці Ялегі Пранціша Вуля – гэта – у першую чаргу – цікавасць да пытанняў атрыбуцыі беларускіх ананімных паэмаў XIX ст.

Вось толькі – хто ён: Ялегі Пранціш Вуль?

На верш *К дудуру Арцёму ад наддзвінскага мужыка* гісторыкі літаратуры звярнулі ўвагу на пачатку XX ст.: Браніслаў Тарашкевіч выявіў *Альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага ў зборах Віленскага таварыства сяброў навук і апублікаваў твор у газеце "Наша ніва" (1912, 9 лістапада).

Сапраўднае імя паэта ўпершыню назваў Яўхім Карскі ў артыкуле *Стары беларускі пісьменьнік Арцэм Дарэускі-Вярыга і яго літэратурны альбом*, змешчаным ў газеце "Беларусь" (1919): "Яго імя Пранцішак Элігіуш Караффа-Корбут. Памер у Варшаве у 80 годах. У яго у Варшаве зьбірауся беларускі гурток: Плуг (Пяткевіч А.), Каратынскі і др. Вестка Р. Земкевіча"[4].

Мы не ведаем, як Р. Зямкевічу ўдалося расшыфраваць псеўданім Э.Ф. Карафа-Корбута. А вось Аляксандар Цвікевіч у 1920-я гг., не раскрываючы крыніц, сцвярджаў іншае: "Па нашых звестках, ён [верш *К дудуру Арцёму ад наддзвінскага мужыка*. – *М. Х.*] быў напісаны А. Плу-

[1] *Узьлезши на Парнас, што видзиу там Тарас* [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 239.

[2] Г. К і с я л ё ў, *Пошукі імя*, Мінск 1978, с. 244–245.

[3] Г. К і с я л ё ў, *Не ўсё так проста, калега*!, "Чырвоная змена" 2005, № 20.

[4] Е. К а р с к і, *Стары беларускі пісьменьнік Арцэм Дарэускі-Вярыга і яго літэратурны альбом*, "Беларусь: Штадзенная палітычна-эканамічная і літэратурная газэта" 1919, № 50 (21 сьнежня). Пазней гэты артыкул (па-расейску) увайшоў у кнігу Я. Карскага *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорусскаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 66–69.

гам у альбум Вяр.-Дарэўскаму, які (альбум) да вайны знаходзіўся ў Віленскім Muzeum T-wa Przyjaciół Nauk"[1].

Беларускія даследнікі ў пасляваенны перыяд, аднак, пацвердзілі правільнасць інфармацыі Р. Зямкевіча: "Уласнаручныя паказанні Корбута <...> напісаны тым жа почыркам, што і верш *К дудару Арцёму*. Такім чынам пацвярджаецца справядлівасць меркавання Зямкевіча: «Вуль» – псеўданім Корбута"[2]. Дададзім яшчэ: сёння маем шэраг дакументальных сведчанняў: напрыклад, ліст Э.Ф. Карафа-Корбута да Эдварда Жалігоўскага ад 12 лютага 1859 г., а таксама ягоны ліст да Юзафа Ігнацы Крашэўскага ад 14/26 лютага 1861 г., дзе паэт называе-раскрывае свой псеўданім.

У апошні час намі было высветлена, што псеўданімам Eligi Franciszek Ul Ф.Э. Карафа-Корбут актыўна карыстаўся ў другой палове 1850-х – пачатку 1860-х гг. Так ён падпісваў вершы да Эдварда Жалігоўскага (*Do Antoniego Sowy: Na znak czci i na pamiątkę*), да Арцёма Вярыгі-Дарэўскага (*K Dudaru Arciomu at naddźwińśkaha mużyka*, *Myśl nienowa*)[3], а таксама тыя, якія дасылаў у рэдакцыі газет "Słowo" (*Pozdrowienie do Redakcyi „Słowa"*) і "Ruch muzyczny" (*Koniec drogi*, *Rozmowa z przyjaciółką*). Гэтаксама, відаць, планаваў ён падпісваць свае карэспандэнцыі ў тыя выданні, з якімі спадзяваўся наладзіць супрацоўніцтва. Праўда, магчымасцяў для такога супрацоўніцтва асабліва не было: пецярбургскае "Słowo" ўлады зачынілі на 15 нумары, а ў віленскія выданні Адама Кіркора з Віцебску пісаў А. Вярыга-Дарэўскі. Заставалася дамовіцца з пэўным варшаўскім часопісам ці газетаю. Дзеля спробы сваіх журналісцкіх сілаў Ф.Э. Карафа-Корбут абраў папулярнае ў той час выданне – "Gazetę Codzienna", да якога выдавец Леапольд Крананберг і рэдактар Юзаф Ігнацы Крашэўскі здолелі прыцягнуць чытацкую публіку не толькі ў Польшчы, але і ў іншых мясцінах, дзе жыло польскамоўнае насельніцтва.

Першы допіс Ялегі Пранціша Вуля на старонках гэтае газеты з'явіўся ў ліпені 1860 г. Ці было што яшчэ надрукаванае ў гэтай варшаўскай газеце – выявіць пакуль не ўдалося. Але ліст да Ю.І. Крашэўскага ад 26/14 лютага 1861 г. мог датычыць як вядомай нам публікацыі ў 188 нумары "Gazety Codziennej", так і нейкае пазнейшае (магчыма, з-за рэдакцыйнае памылкі, непадпісанае)[4].

На жаль, пра дачыненні Ф.Э. Карафа-Корбута з варшаўскімі, а таксама нейкімі іншымі выданнямі ў 1861–1863 гг. нам нічога больш невядома. Калі яны і былі, дык высылка ў Сібір іх перапыніла.

---

[1] А. Ц ь в і к е в і ч, *"Западно-руссизм": Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.*, Мінск 1993, с. 106.

[2] Г. К і с я л ё ў, *Арцём Вярыга-Дарэўскі* [у:] Г. Кісялёў, *Загадка беларускай Энеіды*, Мінск 1971, с. 166–167.

[3] Гл.: М. Х а ў с т о в і ч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, т. першы, Варшава 2014, с. 249–255.

[4] Гл.: М. Х а ў с т о в і ч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі канца XVIII–XIX стагоддзя*, т. чацвёрты, Варшава 2018, с. 302–303.

Што ж, адзін беларускамоўны верш, няхай і самы выдатны, – гэта, відаць, вельмі мала, каб стаць аб'ектам гісторыі літаратуры. Відаць, з гэтае прычыны да асобы і творчасці Элегія Пранціша Вуля беларускае літаратуразнаўства "вярнулася" толькі ў другой палове XX ст., калі Ісідар Бас[1], Адам Мальдзіс[2], Мікола Грынчык[3], Віктар Каваленка[4] і інш.) у сваіх даследаваннях пачалі згадваць пра таленавітага паэта і аналізаваць ягоны верш, а Г. Кісялёў на падставе архіўных матэрыялах змог узнавіць асобныя старонкі ягонае біяграфіі[5].

Можам канстатаваць, што даследаванні Г. Кісялёва больш-менш узнаўляюць дапаўстанцкі і паўстанцкі перыяд жыцця і творчасці паэта. Доўгі час мы фактычна не мелі аніякае інфармацыі пра тое, як склаўся лёс Ялегі Пранціша Вуля пасля 1864 г. Так, Г. Кісялёў у 1994 г.пісаў: "Уся сям'я Корбутаў, можна сказаць, у поўным складзе, апынулася ў Сібіры. І як у ваду канула"[6].

Аднак нам удалося выявіць асобныя звесткі пра жыццё Элегія Францішка Карафа-Корбута і ягонае сям'і ў Сібіры ў мемуарнай літаратуры. Так, Якуб Гейштар у сваіх успамінах занатаваў: "Korbutt. Usole, Irkuck; starzec, zacny oryginał; w moim kółku; wp[isany w książce do naboż.], listy)[7].

У спісе высланых паўстанцаў (у ім – 401 асоба) ва Усолле Агатона Гілера[8] маецца інфармацыя зноў жа пра аднаго Корбута, бацьку паэта:

---

[1] І. Б а с, *Забытыя імёны*, "Літаратура і Мастацтва" 1956, 13 кастр.

[2] А. М а л ь д з і с, *Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.*, Мінск 1966, с. 82–84.

[3] М. Г р ы н ч ы к, *Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі*, Мінск 1969, с. 85.

[4] В. К а в а л е н к а, *Уплывы. Вытокі. Паскоранасць: Развіццё беларускай літаратуры XIX–XX стагоддзяў*, Мінск 1975, с. 122–124.

[5] Упершыню звесткі пра Ялегі Пранціша Вуля Г. Кісялёў падаў у артыкуле *Арцём Вярыга-Дарэўскі* ("Полымя" 1966, № 4, с. 143–154 і № 5, с 163–174), адкуль яны (з памылкамі, праўда) трапілі ў хрэстаматыю *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (Мінск 1971, с. 352). Гэты артыкул стаў пазней раздзелам кнігі Г. Кісялёва *Загадка беларускай* Энеіды (Мінск 1971, с. 144–212). Асобны раздзел, прысвечаны Ялегі Пранцішу Вулю, маецца ў кнізе *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.* (Мінск 1977, с. 367–376). Звесткі пра беларускага паэта дапаўняліся і ўдакладняліся ў наступных публікацыях Г. Кісялёва: *Пошукі імя* (Мінск 1978), *Разыскивается классик...: Историко-литературная дилогия* (Мінск 1989), *Хто вы, Карафа-Корбуты*? ("Полымя" 1992, № 3, с. 172–187), *Жылі-былі класікі: Хто напісаў паэмы Энеіда навыварат і Тарас на Парнасе* (Мінск 2005).

[6] Г. К і с я л ё ў, *Хто вы, Карафа-Корбуты?* [у:] Г. Кісялёў, *Радаводнае дрэва: Каліноўскі – эпоха – наступнікі*, Мінск 1994, с. 127.

[7] J. G i e y s z t o r, *Towarzysze wygnania 1863–73, jak i ludzie, z którymi bliższe listowne miałem stosunki* [w:] W. Ś l i w o w s k a, *Syberia w życiu i pamięci Gieysztorów*: *zesłańców postyczniowych: Wilno–Syber–Wiatka–Warszawa*, Warszawa 2000, s. 230.

[8] Агатон Гілер (1831–1887) быў у высылцы ва Усходняй Сібіры ў 1854–1860 гг. З 1867 г. знаходзіўся ў Парыжы. Сасланых удзельнікаў паўстання ён не ведаў. Хто дапамагаў яму складаць спіс – невядома. У пазнанскі "Tygodnik Wielkopolski" яго пераслаў Ю.І. Крашэўскі.

“Nr 82. Корбут Маўрыцый з Літвы. Жонка і сыны разасланыя асобна. Ва Усоллі разносіў лісты палякам і меў за гэта некалькі рублёў у месяц”[1]. Вацлаў Ласоцкі змяшчае М. Карафа-Корбута ў сваім спісе *Wygnańcy z Litwy, Żmudzi, Inflant i Białej Rusi, którym nie towarzyszyli rodziny* пад нумарам 29: “Корбут Маўрыцый з Белай Русі, раздаваў калегам лісты, за што яму была прызначаная невялікая пенсія з выгнанчае касы”[2].

Пра Элегія Францішка і ягонага бацьку Маўрыцыя згадваецца ў выяўленым намі ў Ягелонскай бібліятэцы *Spisie alfabetycznym imiennym Polaków zesłanych do gub. Irkuckiej*: абодва яны трапілі ў Аёкскую воласць[3].

Даволі шмат інфармацыі пра Вільгельма Карафа-Корбута, брата Элігія Францішка, пададзена ў кнізе Ежы Малішэўскага *Высланыя і інтэрнаваныя ўдзельнікі Студзеньскага паўстання* на падставе матэрыялаў Komisji Kwalifikacyjnej dla weteranów powstań narodowych (1831–1848 i 1863) przy Ministerstwie Spraw Wojennych: “Карафа-Корбут Вільгельм. Нарадзіўся ў 1844 г. у Віцебску. Браў удзел у працы цывільнае арганізацыі паўстання. У якасці кур’ера яго пасылалі ў Горы-Горыцкі аддзел, якім кіраваў Звяждоўскі (Людвік Тапор). Адначасна займаўся зборам падаткаў і ахвяраванняў для паўстанцаў. Быў сотнікам вярбоўшчыкаў. Пазней браў чынны ўдзел са зброяй у руках і ваяваў пад Пакасьмежам (Pakośmierzem). Паранены трапіў у палон і выракам Палявога суду высланы ў Сібір, дзе жыў 21 год. Зазначыць належыць, што ўся сям’я Корбута, г. зн. маці, брат, бабуля, былі арыштаваны і высланыя ў Сібір за дзейнасць на карысць Студзеньскага паўстання”[4].

Зусім верагодна, звесткі пра Вільгельма Карафа-Корбута падаў у Камісію яго сын Браніслаў, які вярнуўся на радзіму і жыў у Варшаве[5]. Магчыма, Б. Карафа-Корбут не ўтрымаў у памяці аповеды свайго бацькі, хоць не выключаем, што мясцовасць Пакасьмеж ў кнізе – гэта памылка друку. Хутчэй за ўсё тут маецца на ўвазе фальварак Пагосцішча, дзе 26 красавіка 1863 года быў разбіты Аршанскі паўстанцкі атрад, якім кіраваў Ігнат Будзіловіч. Інфармацыя Б. Карафа-Корбута (?) пацвярджае здагадку следчых, што браты Корбуты разам з іншымі віцяблянамі былі ў атрадзе І. Будзіловіча, удзельнічалі ў баі пад Пагосцішчам, а пасля разгрому атрада, 28 красавіка былі захоплены сялянамі і жыдамі. Вось толькі ў матэрыялах следства анічога не гаворыцца пра параненага В. Карафа-Корбута.

[1] A. G i l l e r, *Spis polaków będących w Usolu w ciężkich robotach od 17 kwietnia 1866 do września 1868 roku* [w:] *Stuletniej niewoli rok pierwszy: Dzieło zbiorowe*, Poznań 1872, cz. II, s. 170.

[2] W. L a s o c k i, *Wspomnienia z mojego życia*, t. II: *Na Syberji*, Kraków 1937, s. 333.

[3] BJ, F. 58/55: *Spis alfabetyczny imienny Polaków zesłanych do gub. Irkuckiej*, s. 53 v –54.

[4] J. M a l i s z e w s k i, *Uczestnicy powstania styczniowego zesłani i internowani*, Warszawa 1931, s. 35.

[5] W. M o s k a l i k, *Korbuttowa z Jakubowskich Ludmiła Anna Helena Karaffa* [w:] *Polski Słownik Biograficzny*, Wrocław i in. 1968–1969, t. XIV, s. 42–43.

Эльжбета Каміньска, аўтарка кнігі *Студзеньскае паўстанне і сібірскія выгнаннікі* на падставе архіўных матэрыялаў дапоўніла біяграфію Вільгельма Карафа-Корбута: "[яго] і ўсіх членаў ягонае сям'і асудзілі на пасяленне ў Сібіры. Трапіў у Іркуцк напрыканцы 1864 г., адтуль адасланы ў Аёкскую воласць Іркуцкае губерні. У 1867 г. атрымаў дазвол на выезд у Кастрамскую губерню, дзе мусіў жыць пад паліцэйскім наглядам. Пасля вызвалення вярнуўся праз некалькі гадоў у Іркуцк і яго фірма занялася будаўніцтвам Забайкальскае чыгункі[1]. Зарабіў на гэтым праекце шмат грошай. Яшчэ ў 1910 г., жывучы ў Віцебску, судзіўся з Забайкальскаю чыгункаю за належны яму мільён злотых"[2].

На нашу думку, у біяграму В. Карафа-Корбута далучаны звесткі пра ягонага брата Элігія Францішка. Усё ж дакладна вядома, што В. Карафа-Корбут быў высланы ў Табольскую губерню. Там, у Табольскай губерні ён, відавочна, і адбываў тэрмін. Перадусім ягоны сын Браніслаў нарадзіўся ў 1870 г. у Табольску (больш дакладна, ахрышчаны ў тамтэйшым касцёле). Маці Браніслава – Браніслава Вінчэўская[3] – хутчэй за ўсё пасля нараджэння сына вярнулася ў Варшаву, дзе Браніслаў пайшоў у гімназію. Праўда, вучобу завяршаў ён у Табольску (хіба, тут усё яшчэ жыў бацька?), пасля чаго зноў апынуўся ў Варшаве (не пазней, чым у 1893 г.), дзе ў 1897 г. закончыў медыцынскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Пасля некалькі месяцаў працаваў у варшаўскім шпіталі св. Духа пад кіраўніцтвам Юзафа Павінскага. А ў 1898 г. заняў пасаду лекара чыгуначных сярэднеазіяцкіх ліній у Туркестане. Жыў у Ашхабадзе і Чарджуі да 1921 г.[4].

Вельмі верагодна, што звесткі пра высылку Вільгельма ў Аёкскую воласць Іркуцкай губерні датычаць Элігія Францішка. Бо менавіта ён, Э.Ф. Карафа-Корбут, паводле Карнэля Зялёнкі, жыў у 1865–1869 (?) гг. на пасяленні ў вёсцы Куяда Аёкскае воласці.

---

[1] Забайкальскую чыгунку пачалі будаваць у апошнім дзесяцігоддзі XIX ст. Высветліць паходжанне звестак пра гэты від дзейнасці В. Карафа-Корбута не ўдалося.

[2] *Powstanie styczniowe i zesłańcy syberyjscy: Katalog fotografii ze zbiorów Muzeum Historycznego m. st. Warszawy,* cz. II: *Zesłańcy syberyjscy,* oprac. Elżbieta Kamińska, Warszawa 2005, s. 241.

[3] Сярод сасланых у Сібір сустракаецца прозвішча Віктара Вінчэўскага, якому ў 1868 г. было 30 гадоў. Быў ён высланы на "водворение", з 1869 г. знаходзіўся ў Марыінскай акрузе. Быў ён без сям'і, але ўзяў "пособие на домообзаводство". Магчыма, Браніслава Вінчэўская – гэта яго сястра, якая прыехала адведаць брата. Гл.: *Список участников восстания 1863–1864 гг., сосланных в Западную Сибирь* (по материалам диссертации Светланы Мулиной *Участники польского восстания 1863 года в западносибирской ссылке*, Омск 2005) – http://kdkv.narod.ru/1864/Ssilka-ZapSib.html#03.

[4] Два гады Браніслаў Карафа-Корбут і яго жонка Людміла Анна Галена з Якубоўскіх жылі ў Наваградку, дзе ён быў галоўным лекарам эндымічнага шпіталю. З 1924 г. і амаль да самае смерці (8.10.1933) – лекарам у амбулаторыі „Kasy Chorych w Warszawie". Гл.: H. C z a r k o w s k i, *Ś. p. Bronisław Karaffa-Korbutt*, „Nowiny Społeczno-Lekarskie", R. VIII, Warszawa 1934, nr 5. Пахаваны Б. Карафа-Корбут у Кракаве.

У Куяду К. Зялёнка прыехаў у студзені 1865 г. Ён быў першы з выгнаннікаў у гэтай вёсцы. У Аёку ў гэты час ужо жылі Дыянізы Гэнкель, Радушкевіч, Ян Кавалеўскі, Тадэвуш Рэгберг. Пазней пачалі прыязджаць іншыя. Сустрэча К. Зялёнкі з Э.Ф. Карафа-Корбутам[1] ва *Успамінах* не датавана, але ўскосным чынам можна вылічыць, што адбылося гэта напачатку 1866 г. (Праўда, гэта не азначае, што якраз у той час Э.Ф. Карафа-Корбут толькі-толькі апынуўся ў Куядзе.)

Падставаю для апісання К. Зялёнкаю сустрэчы з Э.Ф. Карафа-Корбутам стала наступнае. Пэўны час аўтар успамінаў разам з Францішкам Ляшчынскім працаваў у заснаванай імі краме ў вёсцы Ялоўка (побач з Куядаю). На іх паспяховую дзейнасць звярнуў увагу багаты купец Кузняцоў, які прапанаваў выгнанніку пасаду крамніка (приказчика) у яго ў "магазине" ў Іркуцку. Народжанаму ў Аўстрыі напачатку цяжка было парадзіць з расійскаю моваю, а таму К. Зялёнка вырашыў звярнуцца па дапамогу да Э.Ф. Карафа-Корбута, "прафесара вышэйшае школы ў Вільні", які жыў у Куядзе і наведваўся ў краму ў Ялоўцы. Пазначае аўтар і тое, што разам з Э.Ф. Карафа-Корбутам на выгнанне "добраахвотна" прыйшла жонка, якая была "надзвычайнай дабрыні, лічыла нас усіх, быццам мы да яе сям'і належалі. Кожнага з нас называла па імені, дадаючы слова «грамадзянін», а мы ўсе яе – «грамадзянка»"[2].

Відавочна, у тэксце К. Зялёнкі ёсць памылкі: у Вільні, вядома, існаваў Шляхецкі інстытут, але выкладчыка з прозвішчам Корбут там не было[3]. Аднак менавіта так захавалася ў памяці аўтара ўспамінаў. Віцебскі гімназіст, які адзначаўся калісь за напісанне творчых працаў па расейскай славеснасці, цяпер становіцца запатрабаваны: "Я пераехаў да Корбутаў і за адзін месяц падвучыўся расійскай мове настолькі, што сяк-так мог весці кнігі"[4].

У Кузняцова К. Зялёнка служыў каля двух гадоў. Калі ж у 1868 г. была аб'яўлена амністыя замежным грамадзянам, удзельнікам паўстання, ён выязджае з Сібіры. Не вельмі шмат прозвішчаў калегаўссыльных захавалася ў ягонай памяці, але Э.Ф. Карафа-Корбута ён вылучае сярод іншых: "Poznałem ludzi z wielkim sercem i zaparciem się (ofiarne działanie, poświęcenie. – *M. X.*). Co za śliczny, prawy charakter Franciszka Korbutta albo Dyonizego Henkla i wielu innych"[5].

Пра іншых сваіх прыяцеляў аўтар не згадвае. Толькі менавіта пра гэтых двух. І нават расказвае пра іх заняткі ў Сібіры: "Корбут адкрыў у Куядзе краму, а ягоная жонка, «грамадзянка» пякла смачны хлеб, які адпраўляла ў Іркуцк, дзе яго ахвотна куплялі"[6].

[1] К. Зялёнка паўсюль называе паэта-выгнанніка Францам Корбутам.

[2] K. Zielonka, *Wspomnienia z powstania 1863 roku i z życia na wygnaniu w Syberyi*, Lwów 1913, s. 144.

[3] Гл.: J. Godlewska, *Wileński instytut szlachecki (1834–1863)*, "Rozprawy z dziejów oświaty" 1985, t. XXVIII, s. 152–158.

[4] K. Zielonka, *Wspomnienia...*, s. 144–145.

[5] *Ibidem*, s. 188.

[6] *Ibidem*, s. 189.

Маем яшчэ адно пацвярджэнне побыту Э.Ф. Карафа-Корбута ва Усходняй Сібіры: ён, ягоная жонка і бацька згадваюцца ў лістах Юзафа Каліноўскага (1835–1907). Корбуты не былі ў коле блізкіх знаёмых будучага айца Рафала, а таму ён піша пра іх толькі дзеля фону, толькі як апісанне выгнанніцкіх будняў. Спачатку ў лісце ад 15/27 лютага 1872 г. да бацькоў Ю. Каліноўскі апавядае пра М. Карафа-Корбута: “Пробашч яшчэ не вярнуўся, дык я ўсё яшчэ карыстаюся ягонымі пакоямі, вокны якіх выходзяць на поўдзень, а таму поўных сёння сонечнага святла. Гэта немалая выгода і няшмат хто тут пахваліцца высокім і светлым памяшканнем: побач са мною за адным сталом сядзіць старэнькі Корбут з Белай Русі; дзесьці ў сутарэннях (w podziemiach) ён ледзь знайшоў куток на свае старыя гады; раніцамі колькі ўжо часу карыстаецца маёй гасціннасцю, каб перапісваць нейкае сажнёвае прашэнне, якое дакладна ніхто чытаць не будзе. Але для яго – гэта род занятку, які цалкам яго захапіў; анічым не збіты з тропу ўсё новыя і новыя свае творы дасылае ў канцылярыю губернатара”[1].

Праз некалькі месяцаў у лісце ад 28 чэрвеня 1872 г. да Якуба Гейштара, які ўжо выехаў з Усходняе Сібіры, Ю. Каліноўскі, апавядаючы пра іркуцкія навіны, напіша: “Старэнькі Корбут у Іркуцку, дзе таксама жыве і ягоны сын з жонкаю. Бацька ў няспынных цяжбах з канцылярыямі пра нявыплачанае яму, належнае і неналежнае”[2].

Апошняе паведамленне каштоўнае тым, што даносіць інфармацыю пра побыт Э.Ф. Карафа-Корбута ў Іркуцку: як і большасць высланых ён, відавочна, перасяліўся ў сталіцу губерні, бо тут было значна больш магчымасцяў зарабіць сродкі на жыццё. Вядома, застаючыся “прыпісаным” да месца свае высылкі – Куяды і штогод прыязджаючы туды па “адпускны білет”.

Калі і як Карафа-Корбуты змаглі пакінуць Сібір? Чаго дасягнуў М. Карафа-Корбут сваімі “сажнёвымі” просьбамі?

У адрозненне ад Я. Гейштара, Ю. Каліноўскага і шэрагу іншых заможных выгнаннікаў Карафа-Корбуты не мелі сваякоў, якія з дапамогаю хабару “шукалі” ў высокіх пецярбургскіх саноўнікаў палёгкі для сваіх родных. А таму яны маглі спадзявацца толькі на амністыі, якіх было тры: 1. царкі *Указ* ад 9 студзеня 1874 года, што дазваляў многім катэгорыям ссыльных перасяліцца з Сібіры ва ўнутраныя губерні Расіі; 2. *Высочайшее повеление* ад 15 мая 1883 года, што здымала ўсе абмежаванні *Указа* 1874 года (перадусім, абмежаванне месцаў пражывання). Былым удзельнікам паўстання дазвалялася жыць у Расіі “повсеместно”, “без всяких ограничений”; 3. *Высочайши манифест 14 ноября 1894 года*, якім усім асобам, “отбывающим ещё наказание за участие в польском мятеже 1863 года, даровано освобождение от полицейского надзора с предоставлением им права повсеместного жительства и с возвращением прав”.

[1] J. K a l i n o w s k i, *Listy*, t. I, cz. 1: *1856–1872*, Lublin 1978, s. 390.
[2] *Ibidem*, s. 408.

Якую амністыю выкарысталі Карафа-Корбуты?

Як аказалася – першую, 1874 г.

У снежні 2018 г. удалося выпадкова натрапіць (паводле падказкі Антона Францішка Брыля) на кароткае паведамленне ў рубрыцы *Zmarli w ostatnich dniach* "Gazety Lwowskiej": "W Warszawie Franciszek Korbutt, literat, długoletni współpracownik warszawskiej «Gazety Polskiej», w 58 roku życia"[1].

Відавочна, дадзеная інфармацыя грунтавалася на публікацыі пэўнай варшаўскай газеты і найверагодней тае, у якой працаваў нябожчык. Без асаблівых цяжкасцяў удалося выявіць нумар "Gazety Polskiej" з некралогам Францішка Корбута, а таксама г. зв. "пасмяротным успамінам".

Зусім магчыма, што прозвішча беларускага паэта ўпершыню з'явілася ў газеце, дзе ён працаваў, толькі пасля ягонае смерці: у 282 нумары (10 grudnia) "Gazety Polskiej" за 1894 г. яно сустракаецца тройчы: на першай, другой і на чацвёртай старонках. Спачатку ў змесце нумару: *Wspomnienie pośmiertne: Ś.* ✝ *P. Franciszek Korbutt*. Пасля – на другой старонцы, дзе нехта з супрацоўнікаў рэдакцыі змясціў тое самае *Wspomnienie pośmiertne* і нарэшце ў рубрыцы *Nekrologia* – абвестка пра смерць і пахаванне.

І *Wspomnienie pośmiertne*, і некралог утрымліваюць важныя звесткі пра Ялегі Пранціша Вуля.

Тут пададзеная дакладная дата смерці паэта – 8 снежня 1894 г.

Словы з пасмяротнага ўспаміну пра "амаль дваццаць гадоў" працы ў варшаўскай газеце могуць сведчыць, што ў сталіцы "Привислинскаго края"[2] сібірскі выгнаннік апынуўся ў 1874 ці 1875 г. і што адзіным месцам ягонае працы была названая газета. Цікава тое, што гэта была тая ж самая газета, у якую Ф.Э. Карафа-Корбут пісаў калісь лісты і карэспандэнцыі з Віцебска[3]. Ю.І. Крашэўскі ў ёй ужо не працаваў, але галоўным рэдактарам выдання ў 1874 г. быў Юзаф Сікорскі (1813–1896), які рэдагаваў у 1857–1862 гг. "Ruch muzyczny", а г. зн. тая асоба, якая надрукавала ў 1859 г. два вершы маладога паэта. Заўважым, што за ўвесь час існавання "Ruchu..." там былі надрукаваныя толькі вершы васьмі аўтараў, сярод якіх – Уладзіслаў Сыракомля, Дыятыма і інш.[4].

Лісты і карэспандэнцыі Ялегі Пранціша Вуля 1860-х гг. маглі быць вядомымі і наступнаму галоўнаму рэдактару і выдаўцу "Gazety Polskiej"

---

[1] "Gazeta Lwowska" 1894, nr 284 (13 grudnia).

[2] Якраз у 1874 г. ранейшае Царство Польское (Królestwo Polskie) пачалі паўафіцыйна называць Привислинский край (Kraj Nadwiślański).

[3] У 1861 г. Леапольд Крананберг (1812–1878), тагачасны ўладальнік выдання, перайменаваў "Gazetę Codzienną" на "Gazetę Polską".

[4] Адной з гэтых васьмі публікацый былі беларускамоўныя вершы А. Вярыгі-Дарэўскага *Dumka: Sałdatka (z komedyo-opery pod tytułem Grzech 4ry hnieu)* і *Hymn: Do obrazu Cudownej Matki Boskiej Białynickiej nad Dnieprem* у карэспандэнцыі Беларускае Дуды ад 4 лістапада 1859 г. Гл.: "Ruch muzyczny" 1859, nr 49.

ад 9 снежня 1874 г. Эдварду Леа (1829–1901), які з 1859 г. стала супрацоўнічаў з газетаю, пісаў музычныя і тэатральныя рэцэнзіі.

Мы не ведаем, хто з іх – Ю. Сікорскі ці Э. Леа – узяў на працу былога паўстанца і выгнанніка, але прапанаваная была яму адно сціплая пасада карэктара. Можа, з-за рэдактарскае палітычнае асцярожнасці, хоць наўрад ці што лепшае той мог прапанаваць: з газетаю супрацоўнічалі самыя вядомыя тагачасныя літаратары і публіцысты. Дастаткова назваць імёны Генрыка Сянкевіча, Элаізы Ажэшкі, Пятра Хмялёўскага, Баляслава Пруса і інш.

Дзесяцігадовы побыт у Сібіры не аказаў негатыўнага ўплыву на веданне Ф.Э. Карафа-Корбутам польскае мовы. Да таго ж – паводле ацэнкі аўтара некралогу – са сваімі абавязкамі ён спраўляўся выдатна: папраўляў не толькі арфаграфічныя і граматычныя памылкі, але і стылістычныя ды іншыя, калі гадзінамі дыскутаваў са славутымі аўтарамі.

На нашую думку, аўтарам некралогу з'яўляецца галоўны рэдактар выдання – Э. Леа, бо невыпадкова ў ім шмат месца займае ўхвальная ацэнка самаахвярнае працы Ф. Корбута на карысць газеты ды і наўрад ці нехта іншы з супрацоўнікаў ведаў яго цягам "амаль дваццаці гадоў". Істотнай для нас інфармацыяй з'яўляецца тое, што аўтара некралогу ведае пра публікацыю Ялегі Пранцішам Вулем сваіх вершаў у "некалькіх тутэйшых выданнях" ды тое, што яны вызначаліся "высокім палётам думкі і прыгожаю формаю". Выданні, праўда, не называюцца, але калі творы друкаваліся пад ранейшым псеўданімам паэта, то з часам яны будуць выяўленыя.

А вось з біяграфіі паэта ў некралогу падаецца няшмат. На пэўную ўвагу заслугоўвае інфармацыя пра месца нараджэння Ф.Э. Карафа-Корбута – Гарадок Віцебскае губерні[1]. У хроснай метрыцы ўказваецца іншае месца – Віцебск, а таксама тое, што бацькі немаўляці – парафіяне віцебскага фарнага касцёла Найсвяцейшае Тройцы. Чаму ж Гарадок? Бо, відаць, сям'я Карафа-Корбутаў была нейкім чынам звязаная з Гарадком. Магчыма, адтуль паходзіла маці паэта – Антаніна з Сабалеўскіх, дык ці не праводзіў ён свае дзіцячыя гады, а таксама вольны час якраз у Гарадку? Зрэшты, звесткі, якія падаюцца ў некралозе, хоць і паходзілі ад самога Э.Ф. Корбута (ці ягонае жонкі), аднак маглі быць занатаваныя недакладна. Адназначна няправільна занатаваны тут год нараджэння нябожчыка: метрычнай кнізе віцебскага касцёла мы можам даць больш веры[2].

Жыццёвы шлях Э.Ф. Карафы-Корбута малюецца ў некралозе як цярністы: і ягоную "службу ў пекле" (так ён сам назваў сваё месца працы ў канцылярыі палаты дзяржаўных маёмасцяў у Віцебску), і ўдзел у паўстанні, і высылку ў Сібір, і цяжкую журналісцкую працу аніяк

[1] Цікава тое, што найдаўнейшы рукапісны спіс паэмы *Тарас на Парнасе*, падпісаны прозвішчам Канстанцін Вераніцын, меў пазнаку "1855, 15 kwietnia, Horodek".

[2] Паводле метрычнае кнігі Віцебскага парафіяльнага фарнага касцёла Францішак Элігі Корбут нарадзіўся 9 красавіка 1835 г. Гл.: *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, укл. Г.В. Кісялёў, 2-е выд., Мінск 2003, с. 368.

інакш назваць не выпадала. Відавочна, у той час немагчыма было расшыфраваць пуцявіны паэта – і ягоны ўдзел у Студзеньскім паўстанні, і сібірскую высылку.

Апошнія паўгода жыцця Э.Ф. Карафа-Корбут цяжка хварэў: “Хвароба, якая нішчыла падарваны арганізм, ужо паўгода як вырвала пяро ў яго з рук і ўчыніла з яго сапраўднага пакутніка, нібы наканавана яму было на гэтым свеце зазнаць усе віды цярпенняў. Плача па ім сям’я, шчыра яго шкадуюць калегі і ўсе, хто яго ведаў, развітваюцца з ім, як з чалавекам, які абраў сабе дэвізам: праўда, цнота і любоў ды служыў ім аддана і стала”[1].

Інфарматыўнай аказалася і абвестка пра пахаванне Ф. Корбута, змешаная ў тым самым нумары “Gazety Polskiej”. Жалобнае набажэнства прайшло ў касцёле Усіх святых (пляц Грыбоўскі 3/5), а г. зн., што Ялегі Пранціш Вуль, магчыма, належаў да тамтэйшае парафіі і жыў непадалёку, хоць і невядома пакуль, ці адразу пасля прыезду ў Варшаву пасяліўся тут, ці пераехаў у гэтую ваколіцу пазней. Разам з Э.Ф. Корбутам і ягонаю жонкаю Ганнаю жылі пляменнікі (siostrzeńcy[2]), бо менавіта ад іх імя запрашаліся сваякі, сябры і калегі на пахаванне, якое адбылося на Павонзках.

Пахавалі Ф.Э. Карафа-Корбута 11 снежня 1894 г. Пра тое, як адбывалася пахавальная цырымонія, звестак пакуль не выяўлена. Зусім магчыма, што на пахаванні прысутнічаў Адам Плуг, адзін з тых, хто належаў да г. зв. “беларускага гуртка”. Не выключаем, што менавіта ён паспрыяў публікацыі некралогу ў газеце “Kurjer Warszawski”, у якой з 1887 г. і да смерці з’яўляўся адным з выдаўцоў[3]. Тэксты абодвух некралогаў падобныя (відаць, былі напісаныя адною асобаю), але ў рэдакцыі “Kurjera”, у якім некралогі друкаваліся вельмі часта (блізу дзесяці ў кожным нумары, а вось у “Gazecie Polskiej” іх амаль не было), яго крыху паправілі. Вялікага дастатку ў сям’і Корбутаў, здаецца, не было: надрукаваўшы абвесткі (кошт аднаго радка некралогу складаў 15 капеек, усяго – блізу 3 рублёў) 10 снежня 1894 г., яны больш у газеты не звярталіся – не публікаваліся запрашэнні ні на імшы г. зв. грэгарыянскія, ні на імшу ў гадавіну смерці.

Праз нейкі час на магіле беларускага паэта з’явіўся помнік. Паставілі яго жонка, Ганна з Талвінскіх Карафа-Корбут, і пляменнік, Браніс-

---

[1] *Ś. ✝ p. Franciszek Korbutt*, “Gazeta Polska” 1894, nr 282 (10 grudnia).

[2] Дзеці сястры. У Варшаве ў той час (да 1898 г.) жыў і вучыўся на медыцынскім факультэце Варшаўскага ўніверсітэта Браніслаў Карафа-Корбут (1870–1933), сын брата Вільгельма. Але ён *bratanek* Ялегі Пранціша Вуля. Верагодна, у Варшаве знаходзіліся таксама ўнукі малодшых сёстраў бацькі, Маўрыцыя Карафа-Корбута: Брыгіды, Пляцыды і Мар’яны альбо сёстраў маці, Антаніны з Сабалеўскіх Карафа-Корбут. Можна таксама дапусціць, што аўтар некралога не меў дакладнае інфармацыі пра пляменнікаў калегі-нябожчыка.

[3] Газета ў гэты час падпісвалася так: “Redaktor Franciszek Olszewski, wydawcy: Wacław Szymański i Antoni Pietkiewicz (Adam Pług)”.

лаў Карафа-Корбут. Зроблена гэта было да 1898 г. – году ад'езду Браніслава на працу ў Туркестан (Ашхабад). У Варшаву Браніслаў вярнуўся ў 1924 г. Магчыма нават разам са сваім бацькам, Вільгельмам Карафа-Корбутам, братам паэта[1].

Помнік на магіле Элегія Францішка Карафа-Корбута не вельмі шыкоўны, з пясчаніка. У магільную пліту ўмураваныя мармуровы крыж і мармуровая шыльда з надпісам: "Ś. P. Eligi Franciszek Korbutt. Żył lat 60[2]. Zm. 8 grudnia 1894 r. Wieczny odpoczynek racz mu dać Panie" і радкамі, узятымі з верша паэта *Koniec drogi*, надрукаванага ў газеце "Ruch Muzyczny"(1859, nr 40, 23 września/5 października).

Aureola cierpień jasno
U czoła mi świeci,
I rozwidnia drogę ciasną
Wśród mgły i zamieci.
Ale tam u drogi końca,
Na powierzchni ziemi,
Cóż to świeci na kształt słońca
Blaski cudownemi
Ach! to wyobraźni siła
Kreśli koniec drogi
To darniowa jest mogiła,
Jasnych niebios progi.
Kiedyż zmierzę kroki memi
Całą przestrzeń drogi,
By z krawędzi szarej ziemi
Wstąpić w niebios progi.

Вялікае надзеі адшукаць магілу Ялегі Пранціша Вуля ў нас не было: за сто дваццаць гадоў г. зв. "miejsce grzebalne" магло быць даўно прададзенае, але нечакана пашанцавала: ажно на двух сайтах выявілася інфармацыя пра месца пахавання Э.Ф. Корбута[3]. Праўда, кожны з іх падаваў "сваю" версію месцазнаходжання магілы (хоць і ў адной і той

[1] Ён таксама пахаваны на Павонзках (kwatera 215, rząd 5, miejsce 29). Надпіс на магільнай пліце: "Ś. P. Wilhelm Karaffa-Korbutt. Powstaniec z 1863 r. Żył lat 85. Zmarł d. 22 sierpnia 1928 r.". Пахаваў В. Карафа-Корбута, відавочна, ягоны сын, Браніслаў, які з 1924 г. амаль да самае смерці (8.10.1933 г.) жыў у Варшаве. Ён, аднак, года нараджэння бацькі дакладна не ведаў (Вільгельм Карафа-Корбут нарадзіўся ў 1845 г.). Гл.: М. Х а ў с т о в і ч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, т. першы, Варшава 2014, с. 245–246.

[2] Пададзеная колькасць пражытых гадоў амаль дакладная: Ф. Корбут памёр, маючы 59 гадоў і восем месяцаў.

[3] На старонцы сайта *Warszawskie Zabytkowe Pomniki Nagrobne* месца пахавання Ялегі Пранціша Вуля выявіў А.Ф. Брыль. Тут магіла беларускага паэта паказаная недакладна. Гл.: [online], https://cmentarze.um.warszawa.pl/pomnik.aspx? pom_id= 16327 [доступ: 24.12.2018]. А вось на старонцы *Sejm-Wielki* інфармацыя пададзеная правільна. Гл.: [online], http://www.sejm-wielki.pl/s/cmentarze.php? kw=70 [доступ: 25.12.2018].

самай г. зв. кватэры). Аднак знайсці яе ўжо не складала цяжкасці: Kwatera 70, Rzad 1, Miejsce 24.

Шмат гадоў ніхто магілаю Э.Ф. Карафа-Корбута не апекаваўся. Помнік пашкоджаны, адсутнічае верхняя частка (крыж ляжыць за помнікам); адсутнічае таксама на помніку г. зв. аздоба – вянец авальнае формы. З правага боку надмагільнае пліты выбіта слова ŻONA, з левага – BRATANEK як сведчанне пра тых, хто паставіў помнік.

Магіла калісь была агароджаная: чатыры слупкі з пясчаніку, палучаныя металічнымі прэнтамі. Цяпер агароджа пашкоджаная: колькі гадоў назад нехта разбіў два тыльныя слупкі, каб забраць тры металічныя прэнты.

Дваццацігадовы побыт Ялегі Пранціша Вуля ў Варшаве пакінуў на сабе пэўныя сляды. Маем надзею, што пра іх зможам расказаць наступны раз.

*Mikałaj Chaustowicz*

**New about Yaleha Prantsish Vul**

A b s t r a c t

Until very recently, we did not know anything about the fate of Yaleha Prantsish Vul (Eliha Francis Carafa-Korbut, 1835–1894) after the writer had been taken from Vitsiebsk to Siberia in 1864. Today, we can more accurately define his tortuous path, and even his place of eternal rest in Warsaw's Powonzki cemetery was found.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Таццяна Аляшкевіч**
Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы
tania2001@tut.by

# Асаблівасці паэтыкі твораў Алеся Разанава і Надзеі Артымовіч

У прапанаваным артыкуле аўтар звяртаецца да аналізу паэтыкі сучаснай філасофскай лірыкі. Аб'ектам увагі абрана творчасць Алеся Разанава і Надзеі Артымовіч, прадметам – асаблівасці паэтыкі іх твораў. Сучасная філасофская паэзія рэпрэзентуецца шматлікімі імёнамі (Анатоль Вярцінскі, Галіна Булыка, Віктар Шніп, Ян Чыквін, Валянціна Аксак, Алесь Аркуш і інш.). Аднак выбар менавіта гэтых творцаў прадыктаваны тым, што іх паэзія наглядна дэманструе найбольш характэрныя рысы паэтыкі сучаснай філасофскай лірыкі (напрыклад, у манаграфіі *Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй* Анатоля Івашчанкі[1], кнізе Алы Петрушкевіч *"Белавежа": постаці, творы, героі*[2]) мастацкае мысленне названых творцаў знаходзіцца ў кантэксце адзінай філасофскай сістэмы. Аўтараў лучыць унутраная, змястоўная насычанасць твораў, арыентацыя на стварэнне „адкрытых" тэкстаў, што праявілася і ў дыялагічнай прыродзе іх твораў. Сумесны праект, які меў месца ў 1994 г. і рэалізаваўся ў выглядзе кнігі *Дзверы*, дакладна засведчыў, што дыялог, які ўзнікае паміж А. Разанавым і Н. Артымовіч, магчымы, найперш, дзякуючы самой філасофска-паэтычнай прыродзе тэкставай прасторы іх твораў. Аднак акрэсленае пытанне ўжо станавілася прадметам аналізу ў іншых даследаваннях (*Вершы Надзеі Артымовіч у кантэксце разанаўскіх маргіналій* Таццяны Ціхановіч[3]). Таму ў працы мы спынім ўвагу на ўдакладненні індывідуальна-аўтарскіх адметнасцяў іх твораў з улікам асноўных тэндэнцый у развіцці сучаснай філасофскай лірыкі.

Філасофская лірыка – далёка не новая плынь у беларускай літаратуры. Яшчэ ў творах Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча,

[1] А. І в а ш ч а н к а, *Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй,* Мінск 2008, 144 с.

[2] А. П е т р у ш к е в і ч, *„Белавежа": постаці, творы, героі,* Беласток 2018, 231 с.

[3] Т. Ц і х а н о в і ч, *Вершы Надзеі Артымовіч у кантэксце разанаўскіх маргіналій* [у:] *Сучасная беларуская літаратура і працэсы славянскага культурна-цывілізацыйнага ўзаемадзеяння: Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі*, Мінск 2008, с. 490–495.

Аркадзя Куляшова, Максіма Танка і іншых паэтаў прысутнічаў глыбокі філасофскі роздум пра мінулае і будучыню, пра чалавека і яго наканаванне, пра жыццё і смерць, пра спасціжэнне ісціны. Па сваёй унутранай сутнасці філасофская паэзія як бы "абдымае" ўсе астатнія віды паэзіі: уласцівая ёй медытатыўнасць экстрапалюецца на ўсе існыя віды паэзіі. Паэт можа разважаць, гаворачы аб нейкім пейзажы, пра пачуццё закаханасці альбо выяўляючы сваё стаўленне да грамадства і г. д.

Сучасная ж філасофская лірыка існуе як прынцыпова новая эстэтычная з'ява, якая ўзнікла ў сувязі з інтэнсіўнымі пошукамі новага, „глыбокага" зместу паэзіі, які адпаведна патрабуе і новай формы для сваёй рэалізацыі. Таму, натуральна, што ў мастацтве сучаснай паэзіі працэс гэтак званай „філасафізацыі" мае ўсеабдымны характар, а таксама пранікае на ўсе ўзроўні паэтыкі мастацкага тэксту: топіку (спосаб мастацкага мыслення, прынцыпы кампазіцыі і сюжэтабудовы, сістэма вобразаў і г. д.), стылістыку (тропы і сінтаксічныя фігуры), метрыку і страфіку, нарэшце.

У сувязі з гэтым акрэсліліся наступныя асноўныя тэндэнцыі ў развіцці сучаснай філасофскай лірыкі: тэндэнцыя да верлібрызацыі[1], увага да тэксту як аб'екта філасофскай рэфлексіі[2], канцэпцыя энергійнасці мовы[3], трансфармацыя лірычнага суб'екта, які „набывае выгляд неасінкрэтычнага героя"[4]. Безумоўна, у творчасці кожнага з пісьменнікаў будуць прысутнічаць свае своеасаблівыя спосабы і сродкі рэалізацыі паэтыкі філасофскай лірыкі.

Так, творчасць А. Разанава – гэта дэманстрацыя філасофскага кантынууму, у якім рэчаіснасць выглядае быццам бы нетрансфармаванай, безумоўнай, абсалютнай, якую нельга выдумаць, сфантазіраваць. Аднак такое ўражанне змяняецца супрацьлеглым – поўная ўшчыльненая звышасацыятыўнасць, метамова і глыбокая сузіральнасць быцця. На працягу ўсёй творчай дзейнасці паэта крытыка ўспрымала яго творчасць як з'яву прынцыпова філасофскую, інтэлектуальную. Сведчанне таму – назвы артыкулаў, прысвечаных мастацкай творчасці А. Разанава, – *Паэзія думкі і таемнасць сэнсу*[5] Уладзіміра Конана (даследчык

---

[1] А. Б а р а н о ў с к і, *Верлібрызацыя як магістральная тэндэнцыяфармальных пошукаў сучаснай філасофскай лірыкі* [у:] *Скарына і наш час: Матэрыялы навуковай канферэнцыі,* Гомель 2011, с. 251.

[2] А. Б а р а н о ў с к і, *Тэкст як аб'ект філасофска-эстэтычнай рэфлексіі* [у:] *Беларуская мова ў сучаснай навуцы і мастацтве: Матэрыялы навуковай канферэнцыі,* Мінск 2012, с. 15.

[3] В. Г у м б о л ь д т, *О различии строения человеческих языков и его влиянии на духовное развитие человека* [в:] *Избранные труды по языкознанию*, Москва 1984, с. 70–71.

[4] А. Б а р а н о ў с к і, *Сучасная беларуская філасофская лірыка: праблематыка, вобразнасць, стыль. Аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук*, Мінск 2018, с. 21.

[5] В. К о н о н, *Ступени лестницы. О поэзии А. Разанава,* „Нёман" 1997, №11, с. 240–255.

акцэнтаваў сваю ўвагу на спецыфічным характары мыслення паэта, а менавіта на спалучэнні „двух тыпаў мыслення – паэтычнага і філасофскага”); “*Палову жыцця падаюся ў свет, палову – варочаюся са свету…”: Алесь Разанаў і філасофска-эстэтычныя пошукі ў еўрапейскай літаратуры*[1], *Алесь Разанаў і еўрапейская філасофска-літаратурная традыцыя „рэчыўнасці”*[2] Евы Лявонавай (даследчыца істотнай для абмеркавання бачыць такую жанрава-стылёвую рысу разанаўскай паэзіі, як „традыцыя Dinggedicht”). Уладзімір Гніламёдаў даводзіў, што, „паэзія ўжо не можа абмежавацца мілай непасрэднасцю пачуццяў, знешнім сцвярджэннем дабраты і гуманнасці, якія самі па сабе, безумоўна, прыгожыя. Паэт ідзе ўглыб. Адсюль – інтэлектуалізм паэта, якога ўсё часцей застаём у роздуме, духоўных пошуках”[3].

Аб’ектам увагі паэзія А. Разанава станавілася і ў працах Ганны Кісліцынай, Алы Сямёнавай, Уладзіміра Калесніка, Уладзіміра Конана, Тамары Чабан, Ульяны Верынай і іншых. Кожны з даследчыкаў, абіраючы для вывучэння і аналізу пэўны аспект “разанавазнаўства”, не абмінаў думкі аб філасофска-інтэлектуальнай напоўненасці яго твораў. Так, Галіна Адамовіч называе А. Разанава паэтам касмічным, „але які ўзводзіць не ўвысь (да касмічных аб’ектаў па словах крытыка У. Калесніка), а да самога сябе, у пазнанні «космасу» ў чалавеку”[4]. Вельмі дакладна было гэта заўважана і Вітаўтасам Жэмаўскасам: „Алесь Разанаў стварае «новы” светапогляд» <…> задае інтэрыёрную дынаміку – «шлях унутр»”[5]. Літоўскі даследчык упэўнены і ў тым, што А. Разанаў знайшоў сваю філасофію – „філасофію Жывой Этыкі, якую можна ахарактарызаваць як філасофію жыццятворчасці”[6]. Г. Кісліцына таксама перакананая, што ўсе пытанні, якія задае паэт чытачу, ён задае „перш за ўсё сабе самому”[7].

Калі гаварыць пра паэтыку філасофскай лірыкі А. Разанава, трэба адзначыць, найперш, рэалізацыю канцэпцыі энергійнасці мовы ў тэкстуальнай прасторы яго твораў. „Мова твораў уяўляе сабой працу духа, што пастаянна ўзнаўляецца і скіроўваецца на тое, каб зрабіць артыкулюемы гук прыдатным для выражэння думкі… мова – гэта «не прадукт

[1] Е. Л я в о н а в а, “*Палову жыцця падаюся ў свет, палову – варочаюся са свету…”: Алесь Разанаў і філасофска-эстэтычныя пошукі ў еўрапейскай літаратуры*, „Роднае слова” 1997, №12, с. 32–43.

[2] Е. Л я в о н а в а, *Алесь Разанаў і еўрапейская філасофска-літаратурная традыцыя рэчыўнасці* [у:] *Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт,* Мінск 2002, с. 110–116.

[3] У. Г н і л а м ё д а ў, *Ад даўніны да сучаснасці,* Мінск 2001, с. 232.

[4] Г. А д а м о в и ч, *В глубь образа, „Неман”* 1982, № 11, с. 151.

[5] В. Ж е м а у с к а с, *Идеи Живой Этики в современной белорусской поэзии* [в:] *Творческое наследие семьи Рерих в диалоге культур: философские аспекты осмысления: Сборник научных трудов,* Минск 2005, с. 626.

[6] *Ibidem,* с. 627.

[7] Г. К і с л і ц ы н а, *Алесь Разанаў: Праблема мастацкай свядомасці*, Мінск 1997, с. 67.

дзейнасці (Ergon), а сама дзейнасць (Energeia)»”[1]. І сапраўды, паняцце энергійнасці найбольш стасуецца ў дачыненні да моўнай палітры разанаўскіх твораў. Так, энергійнасць вытлумачваецца як „боскія энергіі”, інакш кажучы як своеасаблівае нематэрыяльнае „выпраменьванне”, „фаворскі свет”, што зыходзіць ад Бога <…> сэнсавая энергія”[2]. Так, сапраўды, любая паэтычная з’ява ў А. Разанава найперш сэнсава апраўдана, пачынаючы ад гуку і заканчваючы сферай жанравых навацый.

Але сэнсавая энергія разанаўскіх твораў (пра гэта гаворыць, дарэчы, і сам аўтар – „мова ў паэзіі згушчаецца, насычаецца энергіяй…”), прысутнічаючы на самых розных узроўнях арганізацыі паэтычнага маўлення, найперш выяўляецца на фанетычным узроўні.

Фанетычны ўзровень арганізацыі маўлення, які паўстае ў яго творах як самастойны ўніверсум, ёсць прастора сэнсаў і ўнікальнае асяроддзе, якое творыць новыя сэнсы і з’яўляецца сталым аб’ектам рэфлексіі аўтара. Мова, як сродак выказвання сэнсу, з’яўляецца той сферай, дзе разгортваецца „паэтычная філасофія”, яна заключае ў сабе быццё філасофскай думкі, спосаб яе ажыццяўлення. Найбольш прыдатнымі для гэтага выступаюць такія жанравыя формы як вершаказ і квантэма. У абодвух жанрах „кожны элемент гукавой формы становіцца аказіянальным носьбітам зместу”[3]. Так, мова арганізуецца ў творах такім чынам, што ў іх тканіне ўзнікае цэлая галерэя новых вобразаў, графічна не выяўленых у творы. Новая вобразнасць дасягаецца якраз неалагізмам, які праз структурную алюзію на каламбур тлумачыць унутраную форму вядучага слова**.**

> Маланка – ламанка: яна ломіць магут-
> ныя дрэвы і вымалёўвае трапятлівыя – „лі-
> хаманкавыя” – узоры вышэйшай – электрамаг-
> нетычнай – трыганаметрыі[4].

„Маланка... 1. Імгненны разрад атмасфернай электрычнасці ў паветры ў выглядзе яркай ломанай лініі”[5]. Неалагізм-анаграма *ламанка* ўтвораны ад прыметніка “ламаны”. Так, у слове “маланка” ажывае яго ўнутраная форма – ламаная лінія.

> Багна абагульняе ваду і сушу, і хто
> ўгадае, якая ў яе глыбіня, якая ў яе „гіблыня”[6].

---

[1] В. Г у м б о л ь д т, *О различии строения человеческих языков и его влиянии на духовное развитие человека… ,* с. 70–71.

[2] *Национальная философская энциклопедия* [online], http://terme.ru/termin/energiinost.html [доступ: 06.04.2019].

[3] Е. Э т к і н д, *Материя стиха*, Санкт-Пецярбург 1998, с. 272.

[4] А. Р а з а н а ў, *Танец з вужакамі*, Мінск 1999, с. 386.

[5] *Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы,* рэд. М. Суднік, Мінск 1999, с. 330.

[6] А. Р а з а н а ў, *Танец з вужакамі…*, с. 446.

Неалагізм-анаграма „гіблыня” адгукаецца двума словамі – *гінуць* і *глыбіня*. Цяжка распазнаць, якое з іх ёсць унутраная форма для іншага: “гіблыня” – гэта гібельная глыбіня ці глыбіня, у якой гіне чалавек. Аднак добра відаць, як шляхам моўнай эканоміі аўтар знайшоў трапную метафару для слова *багна* (якая ў яе глыбіня не вядома, але ў ёй гіне чалавек).

У гэтых прыкладах акцэнт робіцца на фармальна-змястоўнай вобразнасці неалагізма. А фанетычная энергетыка твораў самавыяўляецца. Гукавыя комплексы праступаюць і перакрываюць сабой агульнае гучанне твораў. Таму ў разанаўскіх творах не трэба шукаць логіку фактаў, ахвяруючы семантыкай гуку.

Гук – спосаб настолькі моцнай дадатковай семантызацыі, што часам нават ствараецца дадатковы лексічны покліч, які дабудоўвае рад:

празрысты цень
праз цела нацянькі
страла спявае[1].

У прыведзеным прыкладзе паўтарэнне гука [ц] у спалучэнні з галоснымі, падмацоўваючыся лексемамі *страла, праз цела, спявае,* міжвольна апелюе да нашай падсвядомасці: мы адчуваем умоўную недагаворанасць, якая з прычыны як гукавой арганізацыі, так і нашай фантазіі лёгка афармляецца ў яшчэ адзін вобраз – вобраз **це-ці-вы,** напятай, наструненай.

У філасофскай лірыцы дамінавальную ролю адыгрывае семантычная аснова слова, якая пры ўсёй сваёй шматзначнасці вяртае першапачатковы, які ідзе ад шматвяковага культурнага вопыту, своеасаблівы інтэрпрэтаваны сэнс, узнімаючыся да вобразу.

*ахвя**р**ы абуджаюцца*
*нажы*
*з’ядаюцца і**р**жою*
*чую **р**эха*
*хлеб* а**р**жаны[2].

Паўтарэнне гукаў [р], [ж], а таксама кальцо, якое ўтвараюць другі і канец пятага радкі – *нажы/ жаны*, актывізуюць мову квантэмы. Аўтарская функцыя адыходзіць на другі план: ён перастае дыктаваць сваю волю моўнай матэрыі, а пачынаюць выяўляцца магчымасці самога жанру – квантэма „разраджаецца” дадатковым вобразам – **жорны.**

**ру**іны запа**ру**шваюцца
**ру**нь
уваск**р**ашае **ру**ны
неба блізка[3].

[1] А. Р а з а н а ў, *Вастрыё стралы,* Мінск 1988, с. 124.
[2] А. Р а з а н а ў, *Шлях-360,* Мінск 1981, с. 123.
[3] *Ibidem,* с. 120.

Усе вобразы твора счапляюцца нейкім аднолькавым гукам ці гукамі: 1-ы з 2-м, 3-м – *ру*, 1-ы з 3-м, 4-м – *ру-н*; усе, апрача апошняга, утрымліваюць гук [н]. Услухаемся: *ру-н – ш – рун' – ш – рун – н'(е) –* ***неруш***. Як бачна, апошні з прыведзеных прыёмаў гукавой арганізацыі характэрны, у першую чаргу, для квантэм. Гэта ў сваю чаргу сведчыць пра тое, што квантэма як жанр валодае дадатковай унутранай формай, якая ўтрымлівае дадатковы змест. „Адзін змест, які выражаецца ў гукавой форме, служыць формай іншага зместу, які не мае асаблівага гукавога выражэння””[1].

Так, разанаўская паэтычная канструкцыя будуецца як пастаяннае абагульненне раўнавагі гучання і сэнсу. А сам паэт даводзіць: „Мова ў паэзіі згушчаецца, насычаецца энергіяй, якая, як магніт жалезнае пілавінне, размяшчае словы па сваіх сілавых лініях. Паэт трансфармуе мову, выводзіць яе са звычайнага ўжытку да той стадыі, як таго вымагае твор. І трансфармацыя мовы тут проста неабходная: дзякуючы ёй арганізуецца твор, яна – спосаб арганізацыі твора”[2].

З аднаго боку, фоніка можа выступаць у ролі дамінанты ў маўленчых працэсах, здольная інтэграваць і сінхранізаваць сэнсавую і эмацыйную дамінанты тэксту, з гэтага пункту гледжання фоніка як адзін з кампанентаў канцэпта ўпоравень з эмацыйным, сэнсавым, паняццевым і асацыятыўным кампанентамі, утворыць цэласнае структурнае адзінства. На гэтай падставе мы можам разглядаць фоніку як складанае сістэмнае ўтварэнне, якое аб’ядноўвае адзінкі некалькіх узроўняў гаворкі – ад гуку да тэксту ў цэлым. З іншага боку, фоніка як кампанент канцэпта здольная ўключаць у сябе сэнсавыя і эмацыйныя характарыстыкі на аснове асацыятыўных сувязяў, што выбудоўваюцца ў працэсе ўспрыняцця сэнсаў, закладзеных у структуры тэксту.

А. Разанаў – адзін з тых паэтаў, для якога гукавы бок з’яўляецца адным з асноўных арганізацыйных прынцыпаў верша, вядучым паэтычным кампанентам. „У мікрасвеце мініяцюр не менш таямніц і магчымасцяў, чым у макрасвеце іншых жанраў. У мініяцюры пачынае «гучаць», істотнець не толькі асобнае слова, але і асобная літара, гук. Гук – «электрон» верша”[3].

Так, творчасць А. Разанава прымушае па-іншаму паглядзець на прыроду гуку. Усе яго жанры – квантэмы, вершаказы, пункціры, вершы, паэмы, версэты – настолькі энергетычная, згушчаная прастора, што ў ёй раскрываецца „філасофія гуку”. Гук перастае быць толькі складковым элементам больш буйных адзінак. Ён сам фармальна і змястоўна афармленая адзінка. Адчувальнасць гукаў у яго вершах дасягае той ступені, калі прыходзіцца гаварыць нават не аб традыцыйным лірычным суб’екце, а пра „гукі-суб’екты”. Гук становіцца ў пэўнай меры героем верша А. Разанава. Менавіта з увагі да гуку

[1] Г. В и н о к у р, *Избранные работы по русскому языку*, Москва 1959, с. 390.
[2] А. Р а з а н а ў, *Сума немагчымасцяў*, Мінск 2009, с. 17.
[3] *Ibidem,* с. 40.

і ўзнікаюць разанаўскія жанры. Найбольш паказальнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца вершаказы, дзе аб'ектам увагі становіцца гучанне словаў на розных мовах. Слова-вобраз з улікам фанетычнай спецыфікі той ці іншай славянскай мовы адпаведна маркіруецца ў творы. Гэтым самым аўтар здзяйсняе паэтычную нюансіроўку сэнсу, падкрэсліваючы, па словах У. Конана, "дамінанты нацыянальнага характару народаў, іх гістарычны лёс… можна казаць пра сімволіку менталітэтаў, зашыфраваных у лексіцы"[1] . Так А. Разанаву ўдаецца ажывіць дух мовы, нават калі яна мёртвая. Напрыклад: „Палабскі v o t r мае непаўторны во-// дар, але гэты водар закаркаваны ў ста-//годдзях."[2] Альбо: „Палабскі m o r z  змораны"[3]. На гэтым прыкладзе бачна, як шляхам алітэрацыі аўтар падабраў сугучныя словы – *v o t r /водар,* m o r z /змораны, – якія аказваюцца не толькі фанетычна, але і сэнсава нагружаным – змор採аны, той, хто ўжо не мае сілы; водар – няўлоўны адбітак, напамін пра што-небудзь. Альбо: „Палабская z a i m a займае сабою ўсю // прастору і ўвесь час, становячыся займенні-//кам-заменнікам таго, што было калісьці і ча-//го ўжо няма"[4]. Тлумачэнні-каментары – „закаркаваны ў стагоддзях", „змораны", „што было калісьці і чаго ўжо няма"– не проста паэтычная этымалогія да слоў v o t r, m o r z, z a i m a. Яны засведчылі пра лёс палабскай мовы, носьбіты якой карысталіся ёю да пачатку XVIII ст. Зараз яна, як і старaславянская мова, з'яўляецца мёртвай.

Філасофская паэзія, як і любая паэзія ў цэлым, падразумявае асаблівае ўспрыманне свету, ірацыянальнае, якое не ўкладваецца ў жорсткія рамкі строгага лагічнага асэнсавання карціны свету. Інтуіцыя, прадчуванне і сіла мастацкага адлюстравання дазваляюць паэзіі патрапіць у глыб працэсаў, што чыняцца ў Сусвеце. Менавіта такой выглядае паэзія Н. Артымовіч. Здаецца, што здольнасць да лірычна-філасофскага асэнсавання свету ёсць уласцівасць, з якой трэба нарадзіцца. Н. Артымовіч такога складу, яна здольная адчуваць цэласнасць свету.

„Учытваючыся ў вершы Надзеі Артымовіч, прыходзіш да інтуітыўнай высновы пра таемную роднасць мастацтва і навукі, паэзіі і матэматыкі, да адчування, што паэзія – сколак ці галінка нейкай старажытнай веды, калі рэчаіснасць мыслілася і спасцігалася інакш, чым цяпер, і была (а можа, насамpraўды ёсць і цяпер) інакшай"[5]. Аналізуючы яе вершы, адчуваеш, што аўтарка цалкам прытрымліваецца прынцыпу „пагружэння ў тэкст": паэтка стварае свае філасофскія канструкцыі як эмацыйныя імправізацыі. І, дарэчы, такімі ж імправізацыямі выглядаюць і разанаўскія творы, маргіналіі-прачытанні, што склалі сумесную кнігу *Дзверы.*

---

[1] У. К о н а н, *Узыходжанне*, „Полымя" 1997, №12с.254.
[2] А. Р а з а н а ў, *Пчала пачала паломнічаць*, Мінск 2009, с. 100.
[3] А. Р а з а н а ў, *Паляванне ў райскай даліне*, Мінск 1995, с. 270.
[4] А. Р а з а н а ў, *Пчала пачала паломнічаць…*, с. 94.
[5] А. Р а з а н а ў, *Невядомая велічыня*, Мінск 2017, с. 95.

Асаблівасць паэтыкі Н. Артымовіч бачыцца нам найперш у самой канструкцыі вершаваных формаў. Большасць верлібраў Н. Артымовіч графічна аформлены без звыклых для нас знакаў прыпынку, што сведчыць пра спецыфічнасць яе пісьмовага стылю, а па-другое, заяўляе пра „адкрыты" характар тэкстаў, пра гатоўнасць да дыялогу. Асаблівасць яе вершаў у тым, што ў іх больш нявыказанага, чым выказанага. Сапраўды, чытач не ў стане пераказаць такі твор. Як і любы верш, у адрозненне ад прозы, верлібр не дапускае адназначнага пераказвання, але дае свабоду інтэрпрэтацыі. Н. Артымовіч ва ўласных вершах не прэтэндуе на выключнасць свайго вопыту і бачання свету, і не навязвае чытачу свой прыватны пункт гледжання. У гэтым таксама заключаецца „свабода" яе верлібра – не толькі аўтарская, але і чытацкая.

Паэтычную манеру Н. Артымовіч вылучае выкарыстанне надзвычай абстрактных мастацкіх катэгорый – жыццё, смерць, час, свет, шлях, яркая экспрэсіўнасць лірычнага выказвання, асацыятыўная „пульсацыя„ думкі.)

Адметнасцю лірычнага суб'екта беластоцкай паэткі выступае максімальна катастрафічнае светаадчуванне, якое, па словах Я. Чыквіна, „перамагаецца шляхам эстэтызацыі і нават сакралізацыі бельскай рэчаіснасці <…>. Яна знайшла ў сабе шмат сіл, каб адкрыць для сябе новую творчую перспектыву і заставацца надалей адной з арыгінальнейшых беларускіх паэтэс нашага часу"[1]. Самая нязначная з'ява, дэталь, змены прыроднага свету здольныя выклікаць эмоцыю творцы. Суб'ект лірычнага выказвання востра адчувае ўзаемасувязь чалавека і сусвету (суадносіны мікра- і макракосмасу), што заахвочвае яго да пастаяннага пошуку гармоніі, сакральнага, эстэтычнага.

Строфіка верлібра Н. Артымовіч вылучаецца разнастайнасцю: ад монастрафоідных пабудоў да больш буйных полістрафоідных тэкстаў. Напрыклад: „нерухома стаяць //мае дні //шчыліны ў часе //усё большыя //мой каляндар патрэсканы //нерухома стаяць //мае дні //як перапалоханы цень // чалавека"[2]. Альбо: „над антыкварыятамі выказаных слоў //плывуць бронзавыя хмары //час продажу надзеі ўжо мінуў //у бяспальцых руках самотная іржа //сляды без слядоў// адзінокая сярод адзінокіх //кідаюся ў фіялетавы прастор //каб заснуць // час усё меншы //ля паляўнічых добрыя ночы //і цёплыя сны //варажу з вятроў хоць усюды спакойна //павуцінне над маім небам аднаўляецца тады //калі бяздомны сабака паўтарае //сваю біяграфію //ці ўласную //сумненне як ціхае кацянё падыходзіць //да гарбатай бярозы //у яе ценю шукае крыніцы //з пытаннем чаму //трыццацігадовыя сыны хутка губляюць //белыя кашулі //спяшаюцца ў пошуках перадапошніх колераў// бягуць па шэрых вуліцах //і ўсё ж – стаяць //бронзавыя хмары плывуць сцяной"[3].

[1] Я. Ч ы к в і н, *Далёкія і блізкія: Беларускія пісьменнікі замежжа*, Беласток 1997, с. 164–165.
[2] Н. А р т ы м о в і ч, А. Р а з а н а ў, *Дзверы: Тэкст і кантэкст*, Беласток, 1994, с. 22.
[3] *Ibidem*, с. 24.

Любы аўтар, як і любы чалавек, які не складае вершаў, вылучае і выбірае з навакольнай рэальнасці менавіта тое, што ён, перш за ўсё, здольны ўбачыць і ацаніць у гэтым навакольным свеце і ацаніць так, як гэтага вымагае своеасаблівая сістэма яго светабачання, і ў такой форме, якая непазбежна адпавядае сітуацыі, яго светаўспрыманню і светаадчуванню. Уся сутнасць паэзіі Н. Артымовіч скіравана на пазнанне ўнутранага „я". І гэтае ўнутранае, сакральнае, інтымна-псіхалагічнае зліваецца ў паэтыцы творцы з філасофскім пачаткам. Але філасофію лірычны суб'ект паэткі „перажывае", а не дэкларуе, філасофскія разважанні ў яе мастацкай сістэме схаваны ў падтэксце. Верш Н. Артымовіч, „не акцэнтуючы ўвагі на сабе, з'яўляецца шляхам да ісціны і святла, а таму сам у пэўнай меры ісціна і святло"[1].

Мазаічнасць і калажнасць яе вершаў – яшчэ адна адметнасць яе паэтыкі. Сінтаксіс, які выступае ў Н. Артымовіч у якасці „мінус-прыёму", ёсць граматычным выражэннем інтанацыі. У паэткі ён адсутны – у паэткі прысутнае стыхійнае выяўленне розных ракурсаў, планаў, асацыяцый, якое кліча да роздуму, да глыбокага сузірання навакольнай рэчаіснасці. Сэнс, хутчэй, будуецца па-за межамі вершаў:

ікона
лістападаўскі снег
блакітны ранак
сон аднакрылы і лёгкі
у блакітным люстры
стаю
хвіліна прыгажосці...[2].

Цікавай падаецца і светапоглядная сутнасць філасофскай лірыкі Н. Артымовіч, што рэалізуецца ў пастаянным дыялогу з вышэйшым духоўным пачаткам. Сама ж філасофія Н. Артымовіч можа быць акрэслена як „філасофія маўчання": „у сваіх кароткіх вершах я нічога не гавару // я ніколі нічога не сказала нікому // я нямая <...> мяне амаль няма"[3]. Аднак гэтая „філасофія маўчання" не для слыху, не для зроку, яна – для душы. Адпаведна такая філасофія бачыцца нам імплікацыйнай. Такую філасофію дыктуе і сама прырода верлібра. Ён „маўчыць", дакладней „замоўчвае". Ён „суцэльны мінус-прыём" у дачыненні да традыцыйнага верша). „Белая прастора" сігналізуе пра штосьці вельмі важнае і вымагае засваення падтэксту – дазваляе чытачу самастойна „дамаляваць" карціну свету, створаную аўтарам. Важна адзначыць, што адсутнасць рыфмы, метрычнай урэгуляванасці, адвольнае графічнае чляненне на радкі ў верлібры беластокай аўтаркі дазваляюць з большай свабодай аперыраваць паэтычнымі прыёмамі. У сваіх творах Н. Артымовіч выкарыстоўвае арыгінальныя тропы – метафары („у бяспальцых руках самот-

[1] А. Р а з а н а ў, *Сума немагчымасцяў...*, с. 64.
[2] Н. А р т ы м о в і ч, А. Р а з а н а ў, *Дзверы...*, с. 22.
[3] *Ibidem*, с. 60.

ная іржа", „над антыкварыятамі выказаных слоў", „хвіліна прыгажосці", „сытыя жэсты" і іншыя), эпітэты – „гарбатая бяроза", „сон аднакрылы", „цёплыя сны", „чорныя лістапады" і іншыя.

Так, гранічна малыя паэтычныя формы паэткі дзякуючы ўмоўна-асацыятыўнай вобразнасці пашыраюць пазатэкставыя сувязі, актывізуюць чытацкае ўспрыманне і, адпаведна, насычаюцца максімальным сэнсам.

У філасофскай паэзіі існуе праўдзіва філасофскае ядро (анталагічны пачатак) – разважанні аб узаемадзеянні, узаемаадносінах ідэальнага і матэрыяльнага, духоўнага і прыроднага, суб'екта і аб'екта, вечнага і смяротнага, чароўнага і зямнога.

Філасофская паэзія А. Разанава і Н. Артымовіч можа расцэньвацца і як форма існавання філасофіі. Пры гэтым асноўным яе крытэрыем з'яўляецца разгляд сродкамі паэтычнай мовы сваёй філасофіі, філасофіі адвечнай, „інсайт-філасофіі".

Філасофская паэзія вядзе да пазнання той ісціны, якую нельга спазнаць ніякімі іншымі дысцыплінамі. Па словах самога А. Разанава „Паэзія, на маю думку, гэта не проста прыгожае пісьменства, яна таксама спасцігае з'явы, якія нічым іншым, ніякай іншай навукай спасцігнуць (намацаць) і ўгледзець нельга. І гэта тонкая рэчаіснасць не зводзіцца да відавочных з'яў, да відавочных прадметаў. Яна ўключае ў сябе нябачныя вымярэнні"[1] .

Сёння філасофская лірыка – гэта найперш спосаб пазнання свету і чалавека ў гэтым свеце.

*Tatsiana Aliashkevich*

**Particularities of the poetics of Ales Razanau's and Nadzieja Artymovicz's works**

A b s t r a c t

Modern philosophical poetry exists as a fundamentally new aesthetic phenomenon, which arose in connection with the intensive search for a new, „deep" content of poetry, which, accordingly requires a new form for its implementation. Concerning the poetics of the philosophical poetry of Ales Razanau, it is necessary to note, first of all, the realization of the concept of the energy of a language in the textual space of his works. The peculiarity of the poetics of Nadzieja Artymovicz is seen, above all, in the very construction of the poetic forms. The majority of N. Artymovicz's free verse poems are graphically decorated with no familiar knowledge of our characters, which testifies to the specific stylistics of her writing andm secondly, she declares the „open" character of the texts, her readiness for literary dialogue.

[1] А. Р а з а н а ў, *З апокрыфа ў канон*, Мінск 2010, с. 61.

**Алена Лепішава**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт
elena_tochilina@mail.ru

# Беларуская эксперыментальная драматургія канца XX – пачатку XXI стагоддзя: пакаленне “нетутэйшых”

У канцы XX — пачатку XXI ст. у беларускай драматургіі яскрава акрэсліўся эксперыментальны вектар, развіццё якога абумоўлена кардынальнай зменай устойлівых арыенціраў (сацыяльных, светапоглядных, этычных), дыскрэдытацыяй ідэі рацыянальнай светабудовы і (як следства) зваротам да “неміметычнага” – нязвыклай мастацкай мовы, якая “абапіраецца на іншыя, яшчэ не асветленыя традыцыяй формы ўспрымання рэчаіснасці”[1]. У адрозненне ад падобных тэндэнцый развіцця, адзначаных даследчыкамі ў рускай літаратуры (Святлана Ганчарова-Грабоўская), фарміраванне эксперыментальнай драматургіі ў кантэксце беларускай сацыякультурнай прасторы мае асаблівасці, звязаныя з сітуацыяй “двухмоўя”, няўстойлівай „інстытуалізацыяй літаратурнага поля”[2]. Прымаючы да ўвагі гэтыя фактары, а таксама розныя эстэтычныя арыенціры і літаратурныя традыцыі, на якія абапіраюцца руска- і беларускамоўныя аўтары, з мэтай больш дэталёвага аналізу мы разглядаем іх творчасць асобна.

Так, у эксперыментальны вектар арганічна ўпісваюцца прадстаўнікі малодшага пакалення рускамоўнай драматургіі, створанай шэрагам аўтараў з Беларусі. Гэта Павел Пражко, Мікалай Рудкоўскі, Андрэй Курэйчык, Канстанцін Сцешык, Дзмітрый Багаслаўскі. Шэраг навукоўцаў (С. Ганчарова-Грабоўская, Сяргей Кавалёў, Вольга Мазура, Таццяна Арлова) адводзяць ім ключавое месца ў сучасным айчынным драматургічным працэсе (увага да экзістэнцыяльных праблем, стасункаў чалавека і соцыума, з’яўленне монадрамы, п’есы-вербацім, актуалізацыя сацыяльнай драмы). Мастацкімі арыенцірамі для рускамоўных драматургаў становяцца руская і заходнееўрапейская літаратуры,

[1] Н. Р ы м а р ь, *Творческий потенциал мимесиса и немиметических форм в искусстве* [в:] *Миметическое / антимиметическое*, ред. Т.В. Журчева, Самара 2013, с. 15.
[2] Л. С і н ь к о в а, *Спецыфічнае асэнсаванне нацыянальнага ў беларускай літаратуры XX стагоддзя* [у:] *Погляды на спецыфічнасць “малых” літаратур: беларуская і ўкраінская літаратуры*, уклад. Г.-Б. Колер, П. Навуменка, Мінск 2012, с. 99.

а тыпалагічныя сыходжанні прасочваюцца з практыкай расійскіх “навадрамаўцаў” (“сацыялагізм, дакументалізм, біяграфізм, дэгераізацыя, “катастрафічная мадэль”, дыскрэтная структура”[1]). Менавіта таму творчасць дадзеных аўтараў выклікае цікавасць у Расіі (пастаноўкі п’ес, удзел у конкурсах і фестывалях: “Любімаўка”, “Еўразія”, “Новая драма”).

Што тычыцца беларускамоўнай эксперыментальнай драматургіі, то яе развіццё прадвызначана “новай літаратурнай сітуацыяй” у Беларусіў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гг.: ростам нацыянальнай самасвядомасці, узнікненнем літаратурна-мастацкіх аб’яднанняў моладзі (“Тутэйшыя”, “Таварыства Вольных Літаратараў”, “Бум-Бам-Літ”)[2]. Рэаліі функцыянавання культуры ў апошнія гады існавання БССР, а затым – ужо ў Рэспубліцы Беларусь, абумовілі эстэтычная арыенціры драматургаў на нацыянальную літаратурную традыцыю, а таксама на еўрапейскі авангард.

У межах гэтай групы вылучаюцца два пакаленні. У шэрагах першага – аўтары, якія ўвайшлі ў літаратуру ў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гг. як **“тутэйшыя”** (ад назвы літаратурнага аб’яднання): Сяргей Кавалёў, Пятро Васючэнка, Алесь Асташонак, Андрэй Федарэнка, Міраслаў Адамчык (Шайбак) і Максім Клімковіч[3]. Нягледзячы на супрацьлеглыя водгукі, з цягам часу іх творчасць пачала ўспрымацца як новая старонка ў развіцці айчыннай драматургіі, “інтэлектуалізацыя літаратуры”[4], што спрыяла яе выхаду да чытача / гледача: уключэнню п’ес ў анталогіі[5], а таксама ў тэатральны рэпертуар[6], грунтоўнаму іх вывучэнню[7].

---

[1] С.Я. Г о н ч а р о в а - Г р а б о в с к а я, *Русскоязычная драматургия Беларуси на рубеже XX–XXI вв. (проблематика, жанровая стратегия)*, Минск 2015, с. 15.

[2] Г.М. К і с л і ц ы н а, *Новая літаратурная сітуацыя: змена літаратурнай парадыгмы: дыс. д-ра філал. навук*, Мінск 2015, с. 11.

[3] С. К а в а л ё ў, *Сучасная беларуская драматургія: праблема аўтаномнасці* [у:] *Погляды на спецыфічнасць “малых” літаратур: беларуская і ўкраінская літаратуры...*, Мінск 2012, с. 174.

[4] Е.А. Л я в о н а в а, *Філасофска-эстэтычны пошук у сучаснай беларускай літаратуры і еўрапейскі тэатр абсурду / “Няўжо я памру?...” А. Асташонка*, „Веснік БДУ” 1994, сер. 4, № 3, с. 18.

[5] *Сучасная беларуская драматургія. Традыцыі і наватарства*, уклад. П. Васючэнка, Мінск 2003; *Беларуская драматургія*, уклад.В. Валадзько, Мінск 2003; *Labirynt. Antologia współczesnego dramatu białoruskiego*, wybór B. Siwek, Radzyń Podlaski 2013.

[6] Напрыклад, п’еса С. Кавалёва *Чатыры гісторыі Саламеі* пастаўлена ў Мінскім абласным тэатры (рэж. Рыд Таліпаў), Брэсцкім тэатры драмы і музыкі (рэж. Андрэй Бакіраў), *Трыстан і Ізольда* – у Магілёўскім драматычным тэатры (рэж. Алег Жугжда), п’еса Ігара Сідарука *Галава* ставілася ў РТБД (рэж. Валеры Мазынскі).

[7] Драматургія “тутэйшых” разглядаецца ў акадэмічным выданні (С.С. Л а ў ш у к, *Драматургія* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя ў 4 тамах*, т. 4, кн. 3, Мінск 2014, с. 88–129), кнігах (А. Б е л ь с к і, *Сучасная беларуская літаратура: Станаўленне і развіццё творчых індывідуальнасцяў (80–90-я гг.)*, Мінск

Да другога пакалення варта аднесці аўтараў, што пачалі актыўна сцвярджаць сябе ў сярэдзіне 1990-х – пачатку 2000-х гг., абвешчаных “пакаленнем «Бум-Бам-Літа»”[1] (Зміцер Вішнёў, Віктар Жыбуль, Джэці, Вальжына Морт, Васіль Дранько-Майсюк, Ілля Сін і інш.). Іх драматургічная практыка фактычна апынулася на перыферыі літаратурнага працэсу: п’есы амаль не вядомы чытачу / гледачу (друкаваліся ў малатыражных выданнях, пастаўлены ў асноўным на аматарскай сцэне), пазбаўлены дэталёвага даследавання. Так, С. Кавалёў у артыкуле, прысвечаным драматургіі згаданых аўтараў, канстатуе: “На жаль, у адрозненні ад шматлікіх паэтычных, мастацкіх і музычных праектаў, драматургічны праект бумбамлітаўцаў не быў здзейснены”[2].

Паспрабуем разгледзець разгледзіць іх творчыя пошукі ў галіне драмы як арганічную частку беларускай эксперыментальнай драматургіі канца ХХ – пачатку ХХІ ст.: вызначыць склад названай генерацыі, вылучыць ідэйна-эстэтычныя асаблівасці п’ес яе прадстаўнікоў, прасачыць іх драматургічную / тэатральную практыку ў апошняе дзесяцігоддзе.

Малодшае пакаленне беларускай эксперыментальнай драматургіі ў нашым артыкуле мае ўмоўнае абазначэнне – **“нетутэйшыя”**, што, папершае, падкрэслівае лінію пераемнасці ў яе развіцці (адштурхоўваючыся ад абазначэння папярэдняй генерацыі – “тутэйшыя”), па-другое, адсылае да назвы драматургічнага зборніка *Нетутэйшыя*, які быў складзены ў сярэдзіне 1990-х гг., але так і не ўбачыў свет.

Матэрыялам даследавання сталі п’есы, падрыхтаваныя для гэтага зборніка, пазней надрукаваныя ў альманаху “Тэксты”: *Клятва Гіпакратам* Лявона Вольскага, *Цыркулярны душ* Ігара Сідарука[3] (№ 1, 2004), *Ёў* Адама Шостака (№ 2, 2012), *Едзем!* А. Часа, *Нараджэньне* Віталя Пятроўскага (№ 3, 2007), *Здарэнне з Нестарам, або Нехта* Джэці (№ 4, 2013), *Яно ы Яно* І. Сіна, *Фаракаінавыя мумілюсікі* З. Вішнёва, *Аум* В. Морт, *Дыялог са шкляных перлінаў, або Апошняя сустрэча з гуру* Івушкі Панінай (№ 6, 2008), *Штангай па назе, або Накрый казла матам* В. Жыбуля,

---

1997, П. В а с ю ч э н к а, *Сучасная беларуская драматургія*, Мінск 2000, С. Л а ў ш у к, *Гарызонты беларускай драматургіі*, Мінск 2010), а таксама ў дысертацыях Фёдара Драбені, Крысціны Смольскай, Алены Таразевіч, Анатоля Трафімчыка.

[1] K. B o r t n o w s k a, *Białoruski postmodernism: Lityka “pokolenia Bum-Bam-Litu”*, Warszawa 2009; С. К а в а л ё ў, *Нядзейснены праект пакалення: Драматургія “Бум-Бам-Літа”*, “„Дзеяслоў” 2013, № 3, с. 304–311.

[2] С. К а в а л ё ў, *Нядзейснены праект*..., с. 306.

[3] П’есы І. Сідарука аўтара паэтычных *Чарнабел* (1991), *Саната Арганата* (1994), *Моўкнасьць* (1998) і празаічных *Квадратная варона* (2000) зборнікаў, шэрагу пастаўленых п’ес для дзяцей, члена літаратурна-мастацка аб’яднання „Таварыства Вольных Літаратараў”) мы, як і іншыя даследчыкі (Сцяпан Лаўшук, Ірына Шаблоўская, П. Васючэнка), адносім да драматургіі “тутэйшых”. Але менавіта назва яго п’есы *Цыркулярны душ* планавалася ў якасці першапачатковай назвы ненадрукаванага драматургічнага зборніка *Нетутэйшыя*.

*Катарсіс* Джэці, *Карлікі* В. Морт (2009, № 12). Паводле прадмовы *Забіваньне казла*, падпісанай "Нехта з тутэйшых" (псеўданім П. Васючэнкі), у склад зборніка павінны былі таксама ўваходзіць тэксты Алеся Туровіча *Тое, што мы напісалі (канспект-праект п'есы)*, Алеся Бычкоўскага *Свет, які я не выдумаў*, Ігара Вугліка *Анёл зацяты*, Юрася Барысевіча *Гадо прыйшоў*, некаторыя з якіх з'явіліся ў малатыражным друку[1]. Акрамя таго, асобныя п'есы прадстаўнікоў гэтай генерацыі надрукаваны ў часопісах ("Arche", "Дзеяслоў"), анталогіях (*Labirynt: Antologia współczesnego dramatu białoruskiego*)[2], кнігах Вольгі Гапеевай, Ганны Ціханавай, Віктара Ыванова (Лупасіна), Джэці (В. Бурлак)[3], існуюць у самвыдаце (*Воссора россов* Джэці).

Мы лічым, што асаблівасці драматургіі "нетутэйшых" прадвызначаюцца *сінкрэтызмам* (а часам і эклектыкай) іх *мастацкага мыслення*, што ўжо было часткова зазначана ў папярэдніх даследаваннях. Так, прадстаўнікі названай генерацыі сцвердзілі сябе перш за ўсё як паэты (В. Жыбуль, Джэці, В. Гапеева, В. Морт, З. Вішнёў, Г. Ціханава) і празаікі (З. Вішнёў, А. Шостак), таму іх драматургічныя творы часам успрымаюцца як "выпадковая прыгода ў паэтычнай ці празаічнай творчасці"[4].

Але трэба ўлічваць і тое, што творчасць амаль усіх згаданых аўтараў развівалася ў рэчышчы эстэтычных пошукаў руху "Бум-Бам-Літ", заснаванага ў 1995 г., які зведаў і крызіс (1999), і некалькі мадыфікацый ("Schmerzwerk", "Другі фронт мастацтва"); сёння рух аб'ядноўвае прадстаўнікоў розных творчых практык. Як вядома, ідэйна-мастацкія прынцыпы суполкі выкладзены ў сямі маніфестах (дадатак да газеты "Культура", 6–12 верасня 1995 г.), працах Валянціна Акудовіча, Ю. Барысевіча. І хоць названыя тэарэтычныя абгрунтаванні творчых пошукаў моладзі характарызуюцца некаторымі даследчыкамі як "сімуляцыя стварэння навуковага дыскурсу"[5], відавочная сувязь паміж нонканфармісцкай пазіцыяй удзельнікаў руху і іх зваротам да прынцыпаў поставангардызму – "актуальнага мастацтва", якое прадугледжвае "выхад аўтара за межы літаратурнага твора ў сферу акцыйнасці і перфарматыўнасці, выкарыстанне тэатралізаваных, да таго ж эпатажных і шокавых метадаў уздзеяння на гледачоў"[6].

Мастацкая тэорыя руху "Бум-Бам-Літ" атрымала найбольш дэталёвую распрацоўку ў кнігах Ю. Барысевіча *Цела і Тэкст* (1998), *Alter nemo*

[1] Напрыклад, А. Т у р о в і ч, *Тое, што мы напісалі (канспект-праект п'есы)* [у:] А. Т у р о в і ч, *Корпус (вершы, проза)*, Мінск 1998.

[2] В. Г а п е е в а, *Калекцыянер* [у:] *Labirynt: Antologia współczesnego dramatu białoruskiego*, wybór B. Siwek, Radzyń Podlaski 2013, s. 407–414; В. В о р а н а ў, *Плошча*, „*Arche*" 2007, № 11, с. 452–455.

[3] В. Г а п е е в а, *Рэканструкцыя неба*, Мінск 2003; Г. Ц і х а н а в а, *Фільтры сноў*, Мінск 2003; В. Ы в а н о ў, *Асарці*, Мінск 2009; В. Бурлак, *Дзеці і здані*, Мінск 2012.

[4] С. К а в а л ё ў, *Няздзейснены праект...*, с. 310.

[5] Г.М. К і с л і ц ы н а, *Новая літаратурная...*, с. 100.

[6] І. С к а р а п а н а в а, *Друкапісы Зміцера Вішнёва*, „*Беларускае літаратуразнаўства"* 2012, вып. 10, с. 91.

(2003), у якіх уводзіцца тэрмін “*шызарэалізм*”[1]. Гэты мастацкі метад “адштурхоўваецца ад зацьверджаных усімі інстанцыямі сэнсаў, знакаў і формаў, паглыбляецца на злом галавы ў абсурд і бясформасьць”[2]. Прадвызначальнымі для яго становяцца прыёмы асацыятыўнага пісьма, дээстэтызацыя, зніташанне розных відаў мастацтва (слова і дзеяння, слова і візуальных вобразаў, слова і гуку), а эстэтычнымі арыенцірамі – “тэатр жорсткасці” Антанэна Арто (эсэ *Капернік тэатра*), еўрапейская драма абсурду (артыкул *Шызатура і літафрэнія*), тэатр Бертальда Брэхта, перфарматыўныя практыкі (артыкул *Тэкст і цела*).

Разважанні Ю. Барысевіча зручна разглядаць у рэчышчы агульнай тэндэнцыі сусветнага мастацтва канца XX – пачатку XXI ст., звязанай з пашырэннем перфарматыўна-рэцэптыўнага патэнцыялу драматургічнага тэксту. Зварот да сучаснай драмы з пункту гледжання нараталогіі, тэорыі камунікацыідаў магчымасць вылучыць перфарматыўную аснову дзеяння, заснаванага на “паказе-апавяданні”[3], “імкненне да гранічнага “саўдзельнага” “ўбудавання” ў паказ чытача / гледача”[4] (Эрыка Фішар-Ліхте, Марк Ліпавецкі, Валеры Цюпа, Сяргей Лаўлінскі, Наталля Малюціна). Трэба згадаць і добра вядомую канцэпцыю “постдраматычнага тэатра” Ханса-Ціса Лемана, якая зрабіла значны ўплыў на развіццё тэатральнага працэсу.

Так, увасабленне гэтай канцэпцыі ў Расіі звязана з чарговай актывізацыяй перформансу (што існуе як прыклад мастацкага андэрграўнду з 1920-х гг.) на хвалі сацыяльна-палітычных пратэстаў канца 1980-х – пачатку 1990-х гг. (рух “Э. Т. И.”, суполка “Тотарт”, Герман Вінаградаў, Алег Кулік), а таксама з бурлівым развіццём у пачатку 2000-х гг. такіх жанраў “новай драмы”, як п’еса-вербацім (*Кислород* Івана Вырыпаева, *Норд-Ост: сороковой день* Грыгорыя Заслаўскага), монадрама (п’есы Яўгена Грышкаўца, *Июль* І. Вырыпаева)[5].

Аднак у Беларусі не склаліся перадумовы для разгортвання перфарматыўнай тэндэнцыі, што абумоўлена гісторыяй айчыннай літаратуры: па-першае, прадстаўнікі мастацкага авангарду былі фізічна знішчаны ў 1920–1930-я гг., а іх набыткі засталіся на ўзбочыне літаратурнага працэсу, па-другое, актуальнымі ў беларускай культуры былі

[1] Тэрмін творча запазычаны з прац Жыля Дэлёза і Фелікса Гватары, увёўшых ў навуковы дыскурс паняцце „шызааналіз”.

[2] Ю. Б а р ы с е в і ч, *Цела і Тэкст*, Мінск 1998, с. 28.

[3] Ю. П о д к о в ы р и н, *Пространство художественное* [в:] *Поэтика русской драматургии рубежа XX–XXI веков*, ред. С.П. Лавлинский, А.М. Павлов, Кемерово 2012, с. 223.

[4] А.М. П а в л о в, *Рецептивный потенциал монодраматического произведения* [в:] *Поэтика русской драматургии рубежа XX–XXI веков*..., с. 57.

[5] У беларускай драматургіі гэтыя жанры пачынаюць развівацца крыху пазней у творчай практыцы рускамоўных аўтараў [монадрамы *Поколение Jeans* (2006) Мікалая Халезіна, *Хозяин кофейни* (2010) П. Пражко, п’есы-вербацім Сяргея Анцалевіча, Віктара Красоўскага, Д. Багаслаўскага *Patris* (2013), Паўла Рассолька *Красная птица* (2013)].

іншыя ідэйна-мастацкія мэты, скіраваныяў большай ступені на агульнае нацыянальна-культурнае адраджэнне (творчасць „тутэйшых”), чым на канвенцыйныя, эпатажныя сацыяльныя акцыі.

Зварот да перфарматыўных практык быў здзейснены менавіта бумбамлітаўцамі ў сярэдзіне 1990-х гг. Яркімі прыкладамі з’яўляюцца імпрэзы і перформансы суполак “Спецбрыгада афрыканскіх братоў” (1999–2015): З. Вішнёў, В. Жыбуль, Серж Мінскевіч і інш., “Тэатр псіхічнай неўраўнаважаннасці” (кіраўнік І. Сін), пазней – “Яна-тры-ён” (2005–2009): Вольга Рагавая, А. Шостак, Юрась Ленскі, Васіль Паўлініч. У іх выступленнях назіраюцца як прыёмы, ужо апрабаваныя папярэднікамі ў гэтай галіне (брутальны эпатаж, клаўнада, аголеная цялеснасць), так і адрозненні (адсутнасць гранічнай жорсткасці). Такім чынам, нягледзячы на пэўную другараднасць, месцамі аматарскі ўзровень выканання, дзейнасць гэтых суполак варта разглядаць як спробу ўзнавіць перарванае развіццё беларускага мастацкага авангарду[1], далучыцца да значных тэндэнцый сусветнага мастацтва, знайсці новыя (перш за ўсё “шокавыя”) метады ўздзеяння на чытача / гледача.

У цэнтры нашай увагі – драматургічная творчасць прадстаўнікоў пакалення “нетутэйшых”, якая таксама звязана з пошукамі сродкаў моцнага ўздзеяння на свядомасць / падсвядомасць гледача. Гэта прадвызначыла асаблівасці драматургічнай паэтыкі, сярод якіх мы вылучаем новы тып героя – істоту з гранічна дэфармаванай чалавечай прыродай; прыярытэт экзістэнцыяльнай калізіі; мадэляванне ўмоўнага, наўмысна дээстэтызаванага хранатопа; узмацненне лірычнага пачатку.

Так, маладыя аўтары вывелі на сцэну новы тып героя – істоту з гранічна дэфармаванай чалавечай прыродай. У іх п’есах дзейнічаюць карлікі (персанажы аднайменнай п’есы В. Морт), гібрыды (чалавека-, чарапаха-, муха-, рыбападобныя стракозы ў п’есе З. Вішнёва *Фаракаінавыя мумілюсікі*, персанажы, якія дэманструюць дэвіянтныя паводзіны, у тым ліку агрэсію (Фізрук у п’есе В. Жыбуля *Штангай па назе, альбо Накрый казла матам*), псіхасаматычныя хваробы (Антыпінта ў п’есе Джэці *Катарсіс*), схільнасць да сэксуальнага гвалту (Ён у п’есе В. Гапеевай *Калекцыянер*, Ён у п’есе А. Часа *Едзем!*, Заафіл, Н, Кухар у п’есе І. Сіна *Яно ы Яно*).

Ракурс падачы гэтых персанажаў адлюстроўвае агульную тэндэнцыю бачання чалавека як істоты экзістэнцыяльнай (дамінуе родавы пачатак, рэдукуюцца сацыяльная прыналежнасць, уласныя імёны), што знайшло шырокае адлюстраванне ў папярэдняй еўрапейскай (драма абсурду Самюэля Бэкета, Альбера Камю, Эжэна Іанэска і інш.), рускай

[1] Дарэчы, гэта ўсведамляюць і прадстаўнікі руху. Так, В. Жыбуль, добра вядомы не толькі як паэт, аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў [*Рогі гор* (1997), *Прыклы крык* (2001), *Дыяфрагма* (2003)], перформар, але і як навуковец, аўтар дысертацыі і шэрагу артыкулаў аб прадстаўніках беларускага літаратурнага авангарду. Плённым бачыцца і новы праект літаратара – экскурсіі па Мінску, звязаныя з жыццём і творчасцю беларускіх авангардыстаў.

(тэатр “абэрыутаў”, “новая хваля” 1970–1980-х гг., Венэдыкт Ярафееў, Ніна Садур), айчыннай (Ігар Сідарук, Мікола Арахоўскі) драматургіі. Але відавочна і тое, што прадстаўнікі новай генерацыі спрабуюць рэалізаваць увесь патэнцыял гэтай тэндэнцыі – свядома гранічна дээстэтызуюць персанажаў, што, на нашу думку, сведчыць аб пошуках новых сродкаў адлюстравання “паталагічнай” падсвядомасці, асаблівага тыпу светаўспрымання, якое ўжо не знаходзіць апірышча ні ў сацыяльных праектах, ні ў ідэі нацыянальнага адраджэння, ні ў айчыннай культуры.

Адсюль – філасофска-эстэтычны арыенцір на “атэістычны экзістэнцыялізм” (Марцін Хайдыгер, А. Камю, Жан-Поль Сартр), па-мастацку ўвасоблены ў заходнееўрапейскай драме абсурду. Дадзеная скіраванасць, з аднаго боку, усведамляецца самімі аўтарамі [эпіграф да п’есы В. Гапеевай *Калекцыянер* – “Пекла – гэта іншыя людзі”(Ж.-П. Сартр)], назва п’есы Ю. Барысевіча *Гадо прыйшоў*, з другога, – у шэрагу твораў успрымаецца як эпігонства, не падмацаванае ўласнай мастацкай канцэпцыяй свету [*Дыялог са шкляных перлінаў, або Апошняя сустрэча з гуру* І. Панінай, *Памылка Васіля Конева* В. Ыванова (Лупасіна)].

Канфлікт у п’есах “нетутэйшых” пазбаўлены развіцця, што таксама ўласціва сучаснай драматургіі, дзе замест невырашальнасці ўзнікае “нерашучасць” (Вольга Журчава) супрацьстаяння персанажа навакольнаму асяроддзю / неперсаніфікаванай сіле (Кону, абсурду) з прычыны ягонай слабасці, згубленай псіхалагічнай цэласнасці. Гэта прыводзіць, па-першае, да немагчымасці псіхалагічнай калізіі, па-другое, да прыярытэту калізіі **экзістэнцыяльнай**, што існуе ў межах “замаруджанай” сітуацыі з прадвызначаным трагічным вынікам.

Напрыклад, у п’есе В. Морт *Аум* на працягу ўсяго сцэнічнага дзеяння скіны б’юць безабаронную Істоту з доўгімі валасамі (мастака), становішча якой (нерухомасць на падлозе) паўтараюць у фінальнай мізансцэне іншыя персанажы.

У п’есах нівелюецца сацыяльна-гістарычная канкрэтнасць мастацкага часу-прасторы, мадэллю якога становіцца ўмоўны, гранічна дээстэтызаваны свет, выбудаваны з дапамогай нетрадыцыйнай мовы мімесіса. Дакладней, драматургічныя спробы “нетутэйшых” часам эклектычна сумяшчаюць розныя магчымасці “гратэскнага тыпу міметычнай рэпрэзентацыі”, шырока распаўсюджанага як у папярэдняй (“абэрыуты”, еўрапейская драма абсурду, Яўген Шварц, Грыгорый Горын), так і ў сучаснай драме (прынамсі у прыватнасці, у расійскай “новай драме”: *Три действия по четырем картинам* Вячаслава Дурнянкова, *Кухня* Максіма Курачкіна)[1].

Мы вылучылі некалькі ракурсаў яго сцэнічнага ўвасаблення ў п’есах беларускіх аўтараў. Па-першае, дэфармацыя свету аднаўляецца як набытая якасць, што патэнцыйна прадугледжвае існаванне “інша-

[1] С.П Л а в л и н с к и й., А.М. П а в л о в, *Гротескно-фантастические аспекты новейшей драматургии* [в:] *Новейшая драма рубежа XX–XXI веков: предварительные итоги*, под ред. Т.В. Журчевой, Самара 2016, с. 90.

быцця" па-за межамі сцэнічнага часу-прасторы (*Фаракаінавыя мумілюсікі* З. Вішнёва, *Штангай па назе, або Накрый казла матам* В. Жыбуля, *Сны аднаго дыялогу* Г. Ціханавай, *Катарсіс* Джэці). Гэта дадае ў эмацыйную палітру п'ес рамантычны акорд – лейтматыў недасягальнасці мары і свабоды.

Яркім прыкладам з'яўляецца п'еса З. Вішнёва *Фаракаінавыя мумілюсікі* (1994), якая вылучаецца на агульным фоне паслядоўным разгортваннем мастацкай канцэпцыі на ўсіх структурных узроўнях. Так, мадэллю свету становіцца краіна Стракзін, населеная персанажамі-гібрыдамі, якія карыстаюцца адмысловай мовай (аўтарскія неалагізмы), дэманструюць алагічныя паводзіны (наркатычны дурман, агрэсія). Такі ўмоўна-фантастычны хранатоп, як і жанравая стратэгія (элементы п'есы-прытчы), дазваляюць вызначыць эстэтычны арыенцір на драматургію Карала Чапека [*З жыцця насякомых* (1922)].

Эталагічная задача п'есы – паказаць немагчымасць для слабой істоты дасягнуць мары і свабоды, што прадугледжвае бінарную апазіцыю гранічна дэфармаваны свет (краіна Стракзін) / "іншабыццё" свабоды і мары (тундра).

Адсутнасць "іншабыцця" ўспрымаецца як пачварнасць: "Р о м а. Калі адвальваюцца капытцы, у страстотка губляецца сэнс жыцця – нібы напхалі ў страўнік ядзерных камянёў. Пры гэтым галава ператвараецца ў марскі пражэктар <...>. Тундра – гэта горкі мармелад, з якога хочацца ванітаваць. Але ў той самы час тундра – гэта смачная цукерка, якую ўвесь час хочацца смакаваць"[1].

Але, паводле аўтарскай канцэпцыі, звязаныя з "іншабыццём" мара і свабода недасягальныя: стракоз Румік, які прагнуў разнявлення, гіне ў тундры. Пэўная дваістасць і бездапаможнасць прасочваецца і на ўзроўні імя персанажа ("Рома Каменны, ён жа Румік Кволы"[2]).

Гэтую ж ідэю ўвасабляе вынесены ў назву сімвал-лейтматыў фаракаін – аўтарскі неалагізм для абазначэння рэчыва, якое адурманьвае стракоз. Фанетычна лексема блізкая як да медыцынскага тэрміна фармакаін (атрута, наркотык), так і да фармакон (грэч. pharmakos) (чалавек-ахвяра падчас свята Апалона).

Падпарадкаванне персанажаў, часу-прасторы, мовы агульнай мастацкай канцэпцыі дазваляе разглядаць сувязь твора З. Вішнёва з літаратурнай традыцыяй як "крату літаратурнай тыпалогіі, а не як свядомае запазычанне[3]. Між тым, знарочыстая зашыфраванасць мастацкага свету пазбавіла твор камунікатыўнасці, абумовіла адсутнасць пастановак.

Варта падкрэсліць таксама, што скажэнне свету можа выступаць і як дэканструкцыя тэкставай прасторы, у тым ліку і нацыянальна-культурнага кампаненту, што скіроўвае творчыя пошукі аўтараў у рэ-

[1] З. В і ш н ё ў, *Фаракаінавыя мумілюсікі*, "*Тэксты*" 2008, № 6, с. 237.
[2] *Ibidem*, с. 231.
[3] *Забіваньне казла, "Тэксты"* 2007, № 3, с. 184.

чышча постмадэрнізму (*Пясняр* В. Дранько-Майсюка, *Ёў* А. Шостака, *Анёл зацяты* І. Вугліка). Найбольш паслядоўна і эстэтычна паспяхова гэта было рэалізавана ў п'есе В. Дранько-Майсюка *Пясняр* (2013–2014), у сувязі з якой трэба зрабіць істотнае ўдакладненне. Гэты твор не планавалася ўключаць у склад зборніка *Нетутэйшыя* (ён напісаны пазней), але п'еса была змешчана ў адным з нумароў альманаху „Тэксты" (2014, № 5). Улічваючы агульны літаратурны кантэкст, прыналежнасць да генерацыі моладзі, а таксама шэраг тыпалагічных сыходжанняў (персанажы ўвасабляюць дэфармацыю асобы, дзеянне адбываецца ў бальнічным пакоі, скажэнне мовы), мы далучаем п'есу В. Дранько-Майсюка да драматургіі "нетутэйшых". Між тым, варта адзначыць істотныя адрозненні, якія, на нашу думку, забяспечылі сцэнічны поспех твора.

У значнай ступені ён прадвызначаны шматузроўневасцю хранатопу, у структуры якога яскрава вылучаецца "рэальны" план, знітаваны з актуальнымі праблемамі: жыццёвым шляхам Уладзіміра Мулявіна (кіраўнік ВІА "Песняры" патрапіў у аўтакатастрофу ў 2002 г.), адлюстраваннем сапраўднай сацыякультурнай сітуацыі "двухмоўя". Другі план, сімвалічны, пазбаўляе час-прастору гістарычнай канкрэтнасці, што надае твору філасофскую глыбіню: бальнічны пакой успрымаецца як метафара "хворага" грамадства, Пясняр – як абагульнены вобраз творчай асобы, Яна– як увасабленне нацыянальнай культуры і інш. Трэці ўзровень, тэкставы, дазваляе перадаць пазіцыю аўтара не праз "знешняе" дзеянне (маналогі, учынкі герояў), а праз "падтэкст": неабходнасць творчага самавызначэння на роднай мове адлюстроўваюць у п'есе лепшыя ўзоры беларускай паэзіі розных эпох (вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі, Пімена Панчанкі, Насты Кудасавай і інш.), адыход ад нацыянальнай традыцыі звязваецца з моўнай дэфармацыяй: выкарыстаннем "трасянкі" (Чорны), вобразамі класікаў беларускай літаратуры, рэдукаваных да сімулякраў (травесціраваныя паводзіны, мова): "Ц ё т к а. Няма Нянечкі! Няма нікога! Чаго ж ты?.. Чаго ляжыш? Свабодны дзядзечка! Бяжы! А да цемры прывыкай! Сонца ў наша ваконца ўжо не загляне!"[1].

Гэта рэпліка выбудавана на дэканструкцыі беларускай класічнай літаратуры: Песняра называюць "дзядзечкай" па аналогіі з Цёткай – псеўдонімам Алаізы Пашкевіч; "Сонца ў наша ваконца ўжо не загляне!" – іранічны парафраз "Загляне сонца і ў наша ваконца" – назвы першага легальнага беларускага выдавецтва ў Санкт-Пецярбурзе (1906–1914).

Шматузроўневасць хранатопу спрыяла паспяховай сцэнічнай рэалізацыі твора, які стаў прыкметнай культурнай з'явай [пастаноўка ў НАДТ імя М. Горкага (2014, рэж. Валянціна Еранькова), Нацыянальная тэатральная прэмія (2016)], у адрозненне ад іншых п'ес, у якіх дэфармацыя тэкставай прасторы скіраваная на іншыя рэцэптыўныя стратэгіі (гукавое, візуальнае ўздзеянне на чытача / гледача).

[1] В. Д р а н ь к о - М а й с ю к, *Пясняр*, *„Тэксты"* 2014, № 5, с. 226.

Па-трэцяе, скажэнне асэнсоўваецца як іманентная, універсальная ўласцівасць свету, што часам прыводзіць да мадэлявання “абсалютнай, нічым не абгароджанай й не заполненай пустэчы, абсалютнага вакууму”[1] (*Яно ы Яно* І. Сіна, *Аум*, *Карлікі* В. Морт, *Дыялог са шкляных перлінаў, або Апошняя сустрэча з гуру* І. Панінай). Яскравым прыкладам з’яўляецца п’еса І. Сіна *Яно ы Яно* (1994), эстэтычная стратэгія якой грунтуецца на ідэі анархізму, што паніжае мастацкую вартасць твора. Скажэнне свету знаходзіць адлюстраванне на розных узроўнях структуры: не толькі хранатопа (дзеянне адбываецца ў нейкай прасторы, пакрытай снегам), але і персанажаў, схільных да агіднай трансфармацыі, ненарматыўных паводзінаў (Заафіл, Прыбіральшчыца, цела якой “пакрываецца трупячынай млявасцю і неўзабаве выбухае дый разлятаецца на безьліч кавалкаў”, “аголеная” Н.[2], групавы палавы акт у фінале), мовы (ненарматыўная лексіка, распад на фанемы), “надтэксту” (назва як іранічны парафраз паэмы Я. Купалы *Яна і я* і інш.).

Такім чынам, у п’есе І. Сіна дэфармацыя чалавека і свету даведзена да лагічнага завяршэння – пачварнасці, што дазваляе адзначыць эстэтычную слабасць дадзенай стратэгіі ў драме, у адрозненне ад іншых родаў літаратуры. Так, на думку М. Ліпавецкага, у прозе гэты прыём дае магчымасць паказаць крызіс ідэнтычнасці, раздробненую свядомасць сучаснага чалавека: “Пачварнасць пратаганіста / наратара – вынік своеасаблівай «гібрыдызацыі» «я» і «іншага»: тут знешні канфлікт пераведзены ва ўнутранае вымярэнне, што, як правіла, фарміруе выбуховую ідэнтычнасць”[3]. Аднак у драматургіі ўзнікае “супраціўленне” матэрыялу: яе родавая спецыфіка прадугледжвае наяўнасцьу цэнтры мастацкага ўніверсуму персанажа з выразнымі, даступнымі для ўспрымання гранямі свядомасці, выяўленымі праз учынак, слова.

Невыпадкова прадстаўнікі генерацыі “нетутэйшых” спынілі свае драматургічныя эксперыменты, скіравалі пошукі новых сродкаў увасаблення гранічна дэфармаванай асобы ў галіну паэзіі, прозы. Цікавым у гэтым плане бачыцца апавяданне З. Вішнёва *Хмары на гародах* (1996–1997), у якім “паталагічная” свядомасць персанажа перадаецца ў тым ліку і з дапамогай асобных прыёмаў драмы: дзеянне разгортваецца як дыялог наратара і “праекціроўшчыка”, паводле вызначэння Натана Тамарчанкі, што пазбаўляе тэкст наратыўных вытлумачэнняў, надае яму шматзначнасць, а апошняя фраза “Падае заслона” садзейнічае “ачужэнню” (“остранению”) выяўленага мастацкага свету[4].

[1] *Забіваньне казла…*, с. 188.
[2] І. С і н, *Яно ы Яно*, „*Тэксты*” 2008, № 6, с. 28.
[3] М. Л и п о в е ц к и й, *Паралогии: трансформации (пост)модернистского дискурса в русской культуре 1920–2000-х годов*, Москва 2008, с. 614.
[4] Суполкай „Яны-тры-ён” быў пастаўлены спектакль паводле апавядання З. Вішнёва *Хмары на гародах* на сцэне Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі (Мінск, 2007).

Што тычыцца **ўзмацнення лірычнага пачатку** ў п’есах “нетутэйшых”, то яно, здаецца, абумоўлена не столькі далучэннем да агульнай тэндэнцыі драматургічнага працэсу, звязанай з “актывізацыяй аўтарскай прысутнасці” (“развіццём умоўнасці, свабодных сцэнічных формаў”[1]), колькі з выкарыстаннем у драматургіі прыёмаў, засвоеных у паэтычнай практыцы. Яны дазваляюць стварыць трывожную, напружаную атмасферу з дапамогай гукавой какафоніі (музычныя матывы ў п’есе Джэці *Катарсіс*), каляровай трансфармацыі (*Аум* В. Морт, *Сны аднаго дыялогу* Г. Ціханавай), распаду мовы на фанемы. Напрыклад, на паўторах фанем выбудаваны дыялогі персанажаў-сімулякраў у п’есе А. Шостака *Ёў*, у самвыдатаўскай кніжцы Джэці *Ода – не бетон*, якая выйшла ў бібліятэчцы часопіса “Вясковыя могілкі”, змешчана п’еса *Воссора россов* пад псеўданімам Vasilisa V., мова якой заснавана на паліндромных вершах.

Як адзначылі папярэднія даследчыкі, лірычны пачатак узмацняе мастацкую вартасць п’ес, у той жа час пазбаўляючы іх сцэнічнасці. Але, на нашу думку, лірычны акорд не стасуецца з антрапалагічнай канцэпцыяй, пакладзенай у аснову падобных твораў, ён паглынаецца моцнай трагіфарсавай плынню, якой бракуе эмацыйна-пачуццёвай паліфанічнасці.

Мастацкія асаблівасці драматургіі “нетутэйшых” прадвызначылі іх няўдалы сцэнічны лёс. За выключэннем згаданага твора В. Дранько-Майсюка *Пясняр*, толькі некаторыя п’есы ставіліся на аматарскай сцэне. Напрыклад, прэм’ера п’есы В. Гапеевай *Калекцыянер* адбылася на фестывалі “Тры дні” (Мінск, 2003). П’еса У. Бойкі *Кола* ставілася ў народным тэатры БДУ “На балконе” (Мінск, 2011), паказвалася на міжнародным студэнцкім фестывалі “Куфар” (Мінск, 2012).

Драматургічныя праекты ўдзельнікаў суполкі “Бум-Бам-Літ” звязаны з дзейнасцю тэатра “Ц. У. Д.” (Цэнтра Удасканальвання Драматургіі) (2008–2009), мастацкім кіраўніком якога з’яўляўся В. Дранько-Майсюк, а сярод акцёраў вылучаліся Джэці, В. Жыбуль. Але ў рэпертуар тэатра не ўвайшлі арыгінальныя п’есы гэтых аўтараў[2]. Неабходна згадаць і тэатр “I” (назва ўвасабляе ідэю паяднання) пад кіраўніцтвам Ірыны Пушкаровай, у пастаноўках якога Джэці і В. Жыбуль прымаюць актыўны ўдзел як акцёры і сцэнарысты. Асаблівасць калектыву ў тым, што ў ім, поруч з прафесійнымі выканаўцамі, выступаюць падлеткі з расстройствамі аўтыстычнага спектра, што сведчыць аб развіцці арт-тэрапеўтычнай (у аснове сваёй перфарматыўнай) тэндэнцыі ў сучасным тэатры[3].

---

[1] О.В. Ж у р ч е в а, *Формы выражения авторского сознания в русской драме XX века: автореф. дис. ... д-ра филол. наук*, Самара 2009, с. 5.

[2] Спектакль *Падарожжа ў пекла* пастаўлены паводле твора Янкі Маўра, калядная казка-містэрыя *Ёлка Дзеда Мароза* паводле аднайменнай п’есы Сяргея Новіка-Пяюна (1927).

[3] Выкарыстанне магчымасцяў перфарматыўнага „слова-дзеяння” ў псіхатэрапіі набывае распаўсюджванне ў Польшчы (музыкатэрапія Марты Бэрдэль, Жэшаў), Беларусі (кінашкола „Детский кинопродакшн BIGFILM”, Мінск).

Такім чынам, вывучэнне п’ес прадстаўнікоў пакалення “нетутэйшых” у кантэксце мастацкіх здабыткаў сучаснай драматургіі дае магчымасць звярнуцца да іх пошукаў як да пэўных значных інтэнцый у беларускай культуры. З аднаго боку, эксперыменты “нетутэйшых” стасуюць беларускую драматургію з сусветным літаратурным працэсам, з другога, прадвызначаюцца гістарычнымі асаблівасцямі беларускай культурнай прасторы (перарванай у XX стагоддзі традыцыяй авангарду, запатрабаванасцю ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння ў камунікатыўных практыках).

*Alena Lepishava*

**Belarusian experimental drama at the end of XX – the beginning of XXI century: the “non-natives” generation**

A b s t r a c t

The focus of the article is the young generation of the Belarusian experimental drama of the period between the mid-1990s and the early 2000s. Many of these authors represented the movement “Bum-Bam-Lit”, actively established themselves in poetry (V. Zhybul, Jeti, O. Gapeeva, V. Mort, Z. Vishniou, H. Cihanava), prose (Z. Vishniou, A. Shostak), but their dramaturgical practice has remained in the periphery of the modern literary process: only some of their plays were put on an amateur stage, and the book “Non-natives”, was never published. It is its title that we are using in our article as the nickname of this young generation of Belarusian playwrights.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Anna Sakowicz**
Uniwersytet w Białymstoku
anna.sakowicz@wp.pl

# Аляксей Карпюк вачыма Васіля Быкава: аўтабіяграфічная аповесць *Доўгая дарога дадому*

Васіль Быкаў (1924–2003) – адзін з самых вядомых беларускіх празаікаў другой паловы XX стагоддзя, намінант на Нобелеўскую прэмію, закончыў працу над кнігай *Доўгая дарога дадому* ў сакавіку 2002 года ў Франкфурце-на-Майне.

У прадмове да кнігі пісьменнік адзначае яе аўтабіяграфічны характар і акрэслівае спецыфіку свайго твора: "Перш за ўсё хачу папярэдзіць чытача, што гэтая кніга – твор вельмі інтымны, суб'ектыўны, аднабаковы, які́м, зрэшты, ці не заўжды з'яўляецца мемуар, успамін, сьведчаньне. Думаецца, у тым ягоная сіла, але адначасна і слабасць, падстава для прэтэнзіяў і нязгоды"[1].

Сваім зместам, заглыбленым у жыццё аўтара кніга ўспамінаў В. Быкава *Доўгая дарога дадому* ўпісваецца ў жанр аўтабіяграфічнай аповесці. Жанравыя асаблівасці гэтага быкаўскага твора адпавядаюць вызначэнню аўтабіяграфічнай прозы французскім даследчыкам Філіпам Лэеунэ (Philippe Lejeune), што "autobiografia jest retrospektywną opowieścią prozą, gdzie rzeczywista osoba przedstawia swoje życie, akcentując swoje jednostkowe losy, a zwłaszcza dzieje swej osobowości. <…> W przeciwieństwie do fikcji literackich, biografia i autobiografia są tekstami referencjalnymi. Tak samo jak teksty naukowe mają one dostarczać informacji o rzeczywistości i poddawać się próbie weryfikacji. Ich celem nie jest proste prawdopodobieństwo, lecz podobieństwo do prawdy, nie złudzenie rzeczywistości, lecz obraz rzeczywistości" [2].

Зместам кнігі В. Быкава з'яўляецца амаль восемдзесят гадоў жыцця пісьменніка, поўнага як драматычных, так і рамантычных момантаў. Мастак слова пераказвае абставіны, перадае сутнасць свайго жыццёвага часу, так багатага на разнастайныя падзеі. В. Быкаў распавядае пра

[1] В. Быкаў, *Кароткае прадмоўе* [у:] В. Быкаў, *Доўгая дарога дадому: Кніга ўспамінаў*, Мінск 2003, с. 5. Далей пры спасылцы не гэтае выданне ў дужках падаецца старонка.

[2] P. Lejeune, *Wariacje na temat pewnego paktu. O Autobiografii,* red. R. Lubas-Bartoszyńska, tł. W. Grajewski, S. Jaworski, A. Labuda, R. Lubas-Bartoszyńska, Kraków 2001, s. 1.

найбольш яркія і хвалюючыя старонкі перажытага, дае ацэнку грамадска-палітычным і культурным падзеям, якія адбываліся на ягоных вачах, удзельнікам якіх ён быў.

Значнае месца ў аўтабіяграфічнай кнізе *Доўгая дарога дадому* займаюць успаміны пра Гародню і пра дачыненні з Аляксеем Карпюком. В. Быкаў апынуўся ў Гародні выпадкова. Вясной 1945 года, звольніўшыся ў запас, ён накіраваўся ў Мінск. Аднак аказалася, што сталіца Беларусі ляжыць у руінах, няма дзе жыць, вучыцца і працаваць. Параіўшыся са старшынёй Саюза мастакоў Іванам Ахрэмчыкам, былым дырэктарам вучылішча ў Віцебску, В. Быкаў зразумеў, што лепш накіравацца ў нейкае абласное аддзяленне мастацкага фонду. Выбар паў на Гародню: “Зь першага пагляду горад мне спадабаўся, не такі ўжо і пабураны (хоць у цэнтры і траплялі руіны некаторых будынкаў), але ў ім адчувалася пэўная “заходнасць”, рысы сярэднявечча – у старых будынках, касьцёлах, нават у брукоўцы вуліц. Зноў жа – два замкі і Нёман. Дужа гэта міла здалося майму сэрцу, зьнябытаму на чужыне” (155).

Сапраўды, гэты горад на Нёмане даваў перспектывы на развіццё. Відаць, усведамляў гэта і А. Карпюк (1920–1992), беларускі пісьменнік, народжаны на Беласточчыне, вядомы як аўтар найперш твораў пра жыццё беларускамоўных мясцовасцяў польска-беларускага памежжа: *Данута*, *Пушчанская адысея*, *Вершалінскі рай.* Пасля заканчэння ваенных дзеянняў ён вывучаў англійскую філалогію ў Гродзенскім педагагічным інстытуце; і да канца свайго жыцця застаўся адданым Гародні[1]. Горад над Нёманам злучыў лёсы В. Быкава і А. Карпюка.

Д. Бічэль так напісала аб месцы Гародні ў лёсе сяброў-пісьменнікаў: “Гэты горад пасля ўплываў на іх творчасць [В. Быкава і А. Карпюка. – *А. С.*], уцягваў іх у культурную традыцыю і даваў пачуццё прысутнасці мінулага ў сучасным. Але кожны аўтар стварае свой горад, свой Нёман і далягляд, свой Край”[2].

Ва ўспамінах В. Быкаў засяроджваецца на асобе А. Карпюка, апавядае пра яго як чалавека, а таксама пра падзеі – як агульнавядомыя[3], так і тыя, што нікому, апрача блізкіх асоб, нязнаныя. Трэба адзначыць, што

[1] Спачатку выпускнік Педінстытута атрымаў летам 1949 г. накіраванне на пасаду загадчыка раённага аддзела народнай асветы ў гарадскім пасёлку Сапоцкіна (1949–1951); пасля быў дырэктарам Біскупіцкай сямігодкі ля Ваўкавыска (1951–1953). У 1953–1955 гг. працаваў у Гродзенскім педінстытуце, у 1955–1957 гг. – у абласной газеце “Гродзенская праўда”, а ад канца 1957 г. – карэспандэнтам газеты “Літаратура і мастацтва”. З 1961 года, закончыўшы Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, – у агенцтве “Інтурыст”. У 1977–1981 гг. А. Карпюк быў дырэктарам Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гародні. З 1978 года стаў сакратаром абласнога аддзялення СП БССР.

[2] Д. Бічэль, *Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк* [у:] Д. Бічэль, *Хадзі на мой голас,* Гародня – Wrocław 2008, с. 71–72.

[3] Хаця б з аўтабіяграфічнай кнігі А. Карпюка *Развітанне з ілюзіямі* або з кніг Д. Бічэль *Хадзі на мой голас* (Гародня – Wrocław 2008) і *Выбраныя творы* (Мінск 2016).

нават калі ідзе гаворка аб здарэннях, паўсюдна апісаных, успаміны В. Быкава маюць таксама сваю каштоўнасць, абумоўленую своеасаблівым спосабам перадачы перажытага, спосабам успрымання падзей рознымі нюансамі, уласцівымі толькі В. Быкаву.

А. Карпюк у апошняй сваёй аповесці *Развітанне з ілюзіямі*[1], як адзначыла Д. Бічэль, самай цікавай яго кнізе[2], у сваю чаргу, прысвяціў шмат увагі В. Быкаву. Пазнаёміўшыся з дзвюма кнігамі пісьменнікаў, можна атрымаць дзве нібы справаздачы, два погляды на супольна пражыты пісьменнікамі гарадзенскі перыяд. Цікава, што сябры падаюць розны час знаёмства. Так, В. Быкаву запомнілася першая персанальная сустрэча з размовай, а А. Карпюку – візуальнае знаёмства. У кнізе *Доўгая дарога дадому* аўтар адзначае, што "тады ж я пазнаёміўся з гродзенскім празаікам Аляксеем Карпюком. Неяк сутыкнуліся на стромкай рэдакцыйнай лесьвіцы, і Карпюк кінуў мне ў яго звычайнай таропкай манеры: «Здароў! Кажуць, аповесць пішаш?» – «Пішу, ага». – «Правільна, пішы». Сказаў і пабег уніз на падворак. Ён тады ўжо быў аўтарам кніжкі *У адным інстытуце*, перажыў не адну жыцьцёвую драму і, здаецца, на той час ня меў працы. Пасьля жыцьцё на шмат год зьвяло нас з гэтым незвычайным чалавекам і пісьменнікам, шмат гора і радасьцяў было перажыта разам" (208).

У В. Быкава і А. Карпюка было шмат супольнага ў жыцці да іхняга знаёмства. Абодва пісьменнікі ўдзельнічалі ў Другой сусветнай вайне, абодва былі неаднойчы цяжка параненымі. У А. Карпюка не было правага лёгкага і чатырох рабрын, а В. Быкаў "нажыў" астму. Таму, як слушна адзначыла Д. Бічэль, абодвум "найдаражэй у жыцці каштавала роднае паветра"[3]. І ў іх было жаданне пісаць і звязаць сваё жыццё з мастацтвам.

На той час у Гародні сабралася невялікая група пісьменнікаў, і можна было арганізаваць абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Сакратаром быў выбраны А. Карпюк, які адразу прыступіў да актыўнай дзейнасці. "Першым чынам ён адваяваў для офісу зальчык у Доме Ажэшкі, абсталяваў яго мэбляй. Пасьля пачаў клапаціцца, каб пісьменьнікаў прымацавалі да спецпаліклінікі" (215), адзначае В. Быкаў.

А. Карпюк і В. Быкаў, як належала старэйшым калегам СП, дбалі аб маладых талентах. Менавіта дапамога тым, хто мае патрэбу ў апецы, слабейшым – найлепшае пацвярджэнне чалавечай дабрыні, уражлівай душы, маральнасці А. Карпюка. В. Быкаў піша, што кожны, хто быў блізка знаёмы з ураджэнцам Страшава, адчуваў, што ў яго было шмат добрай энергіі, якой ён ззяў, якую выпраменьваў, і хацеў зрабіць нешта

[1] А. Карпюк пісаў аповесць *Развітанне з ілюзіямі* ў 1989–1990 гг., ведаючы пра сваю цяжкую хваробу. Упершыню твор пабачыў свет у выданні "Беларускага кнігазбору": А. Карпюк, *Выбраныя творы* (Мінск 2007). Год пазней ён выйшаў у серыі "Гарадзенская бібліятэка": А. Карпюк, *Развітанне з ілюзіямі* (Гародня – Wrocław 2008).

[2] Д. Б і ч э л ь, *op. cit.,* с. 74.

[3] Д. Б і ч э л ь, *op. cit.,* с.73.

карыснае для грамадства. В. Быкаў прызнае, што А. Карпюк быў галоўным ініцыятарам і арганізатарам паездак гарадзенскіх творцаў па розных мясцовасцях. Ён "імкнуўся актывізаваць працу гродзенскіх пісьменьнікаў, арганізоўваў усялякія вечары і сустрэчы – у школах, на прадпрыемствах, часам з выездамі ў раёны. Звычайна для таго запрашаў Данута Бічэль, Вольгу Іпатаву" (262).

Малодшыя калегі па пяру выклікалі большы давер у А. Карпюка, і, як заўважае В. Быкаў, ён іх любіў больш, чым пенсіянераў-адстаўнікоў. Сярод апошніх асабліва недалюбліваў Валянціна Чэкіна, выкладчыка музычнага вучылішча. Да яго сяброўства з В. Быкавым аўтар *Дануты* ставіўся з амбівалентнымі пачуццямі. Прадчуванні А. Карпюка аказаліся слушнымі, пра што даведаўся малодшы калега праз шмат гадоў пазней. В. Быкаў расказвае ва ўспамінах гісторыю, як быў "разыграны" В. Чэкіным, што наіўнае дзіця, па поўнай праграме маніпуляцый людзей КДБ. Аўтар успамінаў прызнаецца, што паколькі В. Чэкін папрасіў яго аб "неразглашэнні" гэтага факту, ён маўчаў: "апроч як праз шмат год – Карпюку. Аляксей тады крыва заўсміхаўся – то ж у іх гэткі прыём, а ты думаў..." (263). Усведамленне сітуацыі ашаламіла В. Быкава.

Абодва пісьменнікі, заслужаныя для радзімы ў ваенны час, з літаратурнымі здольнасцямі маглі спадзявацца на кар'еру, добрае, забяспечанае жыццё. Трэба было толькі не парушаць аднаго – сядзець ціха і паслухмяна пагаджацца з пастановамі гарадзенскіх уладаў. Аднак В. Быкаў успамінае, што А. Карпюк не мог моўчкі абмінаць пэўныя недарэчнасці. Пісьменнік, "набыўшы адпаведны статус, пачаў забіраць вышэй, умешвацца ў жыццё гораду. Часта па розных справах хадзіў да начальства ў абкам" (215). "Яго абуралі адносіны кіраўніцтва да стану культурных установаў у вобласьці, да забесьпячэньня гараджанаў прадуктамі, нават тое, што адрослыя ў скверы дрэвы засланяюць бюст Элізы Ажэшкі" (272).

Усім знаёмым было вядома, што А. Карпюк вельмі не любіў марнаваць час на дробязі. Аднак пісьменнік не прытрымліваўся гэтага прынцыпу, калі бачыў, што надараецца аказія ў нечым дапамагчы сябру. Так, аднойчы ў В. Быкава ўзніклі пэўныя клопаты ў сувязі з аповесцю *Альпійская балада*, у якой галоўная гераіня была італьянкай. Пісьменнік не меў магчымасці ні з кім пракансультавацца адносна мовы Джуліі. В. Быкаў падзяліўся з сябрам сваёй праблемай, а хутка ў А. Карпюка з'явілася нагода дапамагчы: у яго офісе ў агенцтве "Інтурыст" на чыгуначным вакзале нечакана апынуўся абкрадзены італьянец. Гэта быў турыст, зняты памежнікамі з варшаўскага цягніка, бо ў яго не аказалася пашпарту. І А. Карпюк прыклаў намаганні, каб дапамагчы аўтару *Альпійскай балады*.

Калі ў Берліне надрукавалі перакладзеную на нямецкую мову кнігу В. Быкава *Мёртвым не баліць*, дырэктар выдавецтва "Propileen" дапытваўся, якім чынам можна заплаціць аўтару ганарар. І параіцца В. Быкаву адносна ўзніклай далікатнай праблемы можна было толькі з адной

асобай, на якую ў тыя часы ён мог спадзявацца цалкам. Сябра дбаў найперш пра бяспеку В. Быкава: “Мы з Аляксеем Карпюком доўга раіліся над адказам і вырашылі пакінуць гэтае пытанне нявырашаным. Інакш не абярэшся бяды. <…> Яшчэ нядаўна паведамлялася пра суд над нашчадкамі Барыса Пастарнака – быццам бы за парушэньне правілаў валютных апэрацыяў” (257).

А. Карпюка трывожыла нацыянальная бяда, якой было празмернае п’янства, злоўжыванне алкаголем. Вялікае яго расчараванне выклікала тое, што не знайшлося ў Савецкім Саюзе трэцяга цвярозага чалавека, з якім ён мог бы заснаваць таварыства цвярозых, аб якіх чуў, што існуюць у Заходняй Еўропе. Аповед В. Быкава аб тым, як А. Карпюк прачытаў у “Новом мире” ўспаміны генерала Гарбатова, дзе ягоную ўвагу прыцягнула не гісторыя кар’еры і франтавыя подзвігі вайскоўца, а словы пра тое, што ён не п’е, успрымаецца як цікавы анекдот: “Уражаны такім дзівам, Карпюк сунуў часопіс у кішэню і пабег на вакзал. Там, не пасьпеўшы сказаць нават жонцы, сеў у маскоўскі цягнік і ранкам быў ужо ў Маскве” (287).

Знайшоўшы адрас генерала, А. Карпюк паімчаўся да яго з прапановай, каб той падпісаў, як аўтарытэтная асоба, ліст са зваротам да грамадства аб шкодзе п’янства. Гарбатаў пагадзіўся, што справа слушная, але двух подпісаў для гэтага мала, а ён не зможа знайсці другога цвярозага генерала. Тады А. Карпюк вырашыў угаварыць падпісацца пад петыцыяй Алеся Адамовіча, які таксама не ўжываў алкаголю, а на той час жыў у Маскве. “І высьветліў, што Адамовіч сёньня едзе ў Мінск. Тады Карпюк купіў білет на вечаровы цягнік і, як той рушыў з Беларускага вакзалу, пачаў абход вагонаў. Ён іх абышоў усе, зазіраў у кожнае купэ і каля Смаленску сапраўды знайшоў соннага Адамовіча. Той выслухаў яго прапанову і сказаў: «Я гатовы ўступіць. Але толькі з умовай развaліць яго знутры». І лёг спаць” (288–289).

Сам В. Быкаў шчыра прызнаецца ў дрэннай звычцы злоўжывання алкаголем: “Што да выпіваньня <…> – за мной быў такі грэх. Асабліва падчас паездак на розныя пісьменніцкія мерапрыемствы”(295). Аўтар *Доўгай дарогі да дому* з усмешкай успамінае, што А. Карпюк неаднойчы ездзіў нават у Мінск да супольных знаёмых і сварыўся, што спойваюць яго сябра. “Тады гэта мяне абурыла, і я пасварыўся з Карпюком. А як пагляджу цяпер, з вышыні пражытых гадоў, дык бачу, што цьвярэзьнік Карпюк меў рацыю” (393). Хоць, на думку В. Быкава, міф п’яніцы і абібока меў для яго і станоўчы бок, таму: “Я не бурыў той вобраз, я яго падтрымліваў у якасьці пэўнай абароны ад таго, што магло спасьцігнуць адказнага, разважлівага і цьвярозага. І спасьцігла не адно” (295).

Ва ўспамінах В. Быкава вельмі цікава расказваецца аб тым, як гарадзенцы рэагавалі на падзеі 1968 года ў Чэхаславакіі. Напачатку афіцыйна не падавалася ніякая інфармацыя ў дзяржаўных сродках масавай

інфармацыі. В. Быкаў аб танках у Празе дазнаўся ад Барыса Клейна[1], агульнага з А. Карпюком іх сябра. В. Быкаў і Б. Клейн пайшлі з навіной да Аляксея Карпюка: “Яшчэ на падыходзе да Дому Ажэшкі, дзе звычайна працаваў Карпюк, пачулі, як на ўсю вуліцу гучала перадача Бі-Бі-Сі, распавядала, што савецкія войскі акупуюць Прагу. На вуліцы было нямала прахожых, некаторыя спыняліся, слухалі, а бальшыня хуценька кудысьці бегла. Мы тузанулі дзьверы карпюковага офісу, тыя былі не замкнёныя, а ў пакоі на канапе ляжаў Карпюк. Ён быў у поўнай вайсковай форме, побач на стале ляжала яго партупея і кірзовая палявая сумка. Карпюк хутка ўскочыў, працёр вочы. Мы выключылі транзыстар. “Во, халера, праспаў” – мовіў змабілізаваны ваяка. Аказалася, што ён усю ноч прабыў у Фолюшы на фармоўцы, раніцай прыехаў сюды і заснуў. Цяпер хутка адпраўка на вызвольны паход у Чэхаславаччыну. «І ты пойдзеш? – папытаўся Клейн. – Абавязкова. Ужо я там напішу», – быў яго выразны адказ” (284–285).

Сябры чарговы раз былі ўражаныя неабачлівымі паводзінамі А. Карпюка. Пазней В. Быкаў даведаўся ад сябра, што начальнік палітаддзелу акругі генерал Дэбалюк загадаў яго вярнуць назад, бо вайсковыя, відавочна, засумняваліся, ці грамадскі актывіст будзе паслухмяна выконваць загады партыйных афіцэраў.

Паводле аповеду В. Быкава і далейшы працяг гэтай гісторыі быў цікавым. А. Карпюк знайшоў пакінутыя рэзервістамі тры карабіны. Баючыся, каб яны не патрапілі ў неадпаведныя рукі, сакратар СП забраў іх з сабою дамоў. “Адтуль патэлефанаваў мне: во халера, што мне рабіць? Кажу: там за тваім домам цячэ Ванючка, бухні туды твае карабіны, і справе капец. Ён мяне аблаяў: ты быццам у войску не служыў, не ведаеш, што такое аружжа. – Я, кажу, ведаю. Гэтым аружжам загаўняны ўвесь сьвет. Тваіх трох там не хапае... Не паразумеліся тады мы з Карпюком, ледзь не пасварыліся. Назаўтра ён пачаў хадзіць з тымі карабінамі зноў, аж покуль у яго не запатрабавалі пісьмовага тлумачэння: дзе і зь якой мэтай узяў і г. д. Ледзьве ён выбавіўся з таго канфлікту, які сам сабе і стварыў” (286).

[1] Барыс Клейн (нар. 1928) – беларускі гісторык. У сярэдзіне 1960-х гадоў, сумесна з В. Быкавым і А. Карпюком заснаваў у Гародні нефармальны клуб вальнадумных інтэлектуалаў. Выступіў з крытыкай палітычнага курсу кіраўніцтва КПСС, асудзіў увод войскаў Варшаўскага дагавору ў Чэхаславакію. У 1970 г. адмовіўся прыняць удзел у антыізраільскай кампаніі савецкай прэсы. Быў пазбаўлены навуковай ступені і звання з забаронай друкавацца, удзельнічаць у грамадскай дзейнасці і змяняць месца сталага жыхарства. Пасля часова быў дапушчаны да даследаванняў, але пасля падрыхтоўкі некалькіх прац у вобласці прамысловай сацыялогіі яму забаранілі займацца і гэтым. Адноўлены ў правах навукоўца ў 1970-х, ён у 1992 г. эміграваў у ЗША. У прадмове А. Фядуты да кнігі А. Карпюка перадаецца размова Б. Клейна падчас сустрэчы з другім сакратаром абкама кампартыі Рыгорам Фамічовым: “Не, вы нам патрэбны тут. Нам трэба, каб, калі вы ідзеце па горадзе, людзі глядзелі на вас і разумелі, што мы можам зрабіць з імі, калі яны будуць паводзіць сябе так, як вы”. Гл.: А. Ф я д у т а, *У змаганні за праўду* [у:] А. К а р п ю к, *Выбраныя творы*, Мінск 2007, с.19.

Аб тым, што А. Карпюк быў чалавекам хуткім і вострым на язык, В. Быкаў сведчыць сцэнай з партыйнага мерапрыемства ў Доме афіцэраў, у час якога А. Карпюк катэгарычна пракаментаваў словы генерала Савецкай Арміі, надрукаваныя ў цэнтральных газетах, якімі ён паліваў брудам пісьменнікаў. "«Калі Епішаў – генерал, дык хай камандуе войскам, а не лезе ў літаратуру». Тая ягоная рэпліка выклікала паніку сярод партыйнага кіраўніцтва Горадні. Як Аляксей у чарговы раз пайшоў у абкам, яго туды не пусьцілі" (296).

В. Быкаў пагаджаецца з сябрам, што чорная паласа літаратурна-палітычных здзекаў з яго пачалася ў 1965 годзе, калі ў часопісе "Маладосць" было апублікаванае ягонае аўтабіяграфічнае апавяданне *Мая Джамалунгма*, а беларуская эміграцыйная газета "Бацькаўшчына", што выходзіла ў Мюнхене, змясціла станоўчы водгук на яго. Пахвала гэтая дорага каштавала аўтару твора. Сакратар гродзенскага абкама Міцкевіч даў загад звольніць А. Карпюка з "Інтурыста" з той прычыны, што калі вораг каго хваліць, значыць, ён кепскі. На вялікі жаль, дамінаваў у палітыцы метад, згодна з якім раней бэсцілі чалавека, затоптвалі, а потым ужо разбіраліся – вінаваты ён ці не?

В. Быкаў паказвае, як улада імкнулася зламаць моцнага і мужнага чалавека, змушаючы яго гуляць па сваіх правілах: партыя не "памыляецца". Чалавек мусіў "каяцца" і "прызнаваць свае памылкі". Як гаворыць прымаўка, бяда не ходзіць адна. У той час захварэла жонка А. Карпюка Іна Карпюк. Ёй спатрэбілася лячэнне ў Бараўлянах. Сямейна-матэрыяльнае становішча сябра В. Быкаў апісвае так: "На руках у беспрацоўнага пісьменніка засталося трое дзяцей. Кніжкі, што меліся неўзабаве выйсці, апэратыўна павыкідалі з выдавецкіх плянаў. Грошай ня стала, як ня стала і ніякіх спадзяванак на іх. Карпюк пазычаў у мяне, але я таксама ня быў багатым і пісаў у літфонд заявы аб аднаразовай дапамозе – для сябра. Яму дапамогі ўжо не давалі. Часам, у шэрую гадзіну мы дзе-небудзь спатыкаліся ўтрох – Карпюк, Клейн і я – меркавалі, як быць? Клейн раіў не пагаджацца – змагацца, пісаць – праўда на тваім баку. Але каму патрэбна была Карпюкова праўда?" (305–306)

Сітуацыя А. Карпюка яшчэ больш ускладнілася ў 1965 годзе пасля яго выступу на V з'ездзе пісьменнікаў БССР у Мінску, на якім ён крытыкаваў дзеянне аблвыканкама ў Гародні і бараніў творчасць В. Быкава. Гарадзенскія ўлады вырашылі "супакоіць" А. Карпюка. Не адразу ўсё атрымалася згодна з іх планам; спатрэбілася двойчы склікаць сход гаркама, каб выключыць пісьменніка з партыі. Пасля В. Быкаў, спаткаўшы на вуліцы сакратара гаркама Магільніцкага, запытаўся яго: "за што так строга? Хіба Карпюк – злачынца? А ён мне адказвае: «Горш чым злачынца»" (304).

В. Быкаў піша, што гэта быў толькі пачатак здзекаў улады з сябра. У Гародні большасць ведала ўраджэнца Страшава як ваеннага героя. Таму ў абласным КДБ вылучылі вопытнага маёра Хаміна, які меў заданне знішчыць непахісную рэпутацыю А. Карпюка з партызанскага

перыяду. Пачалі шукаць у архівах Штутгофа кампрамат на пісьменніка, і знайшлі квіты з пераводаў на грошы з яго подпісам. Іх пачалі, па словах В. Быкава, інтэрпрэтаваць на некарысць сябра. Гэтых фактаў з яго жыцця магло хапіць на тое, каб без суда можна было яго расстраляць. Чалавек са слабым характарам мог гэтага не вытрымаць. Сітуацыя была вельмі небяспечнай для А. Карпюка. Доказ сваёй невінаватасці нагадваў змаганне з ветракамі ў рамане Сервантэса. В. Быкаў адзначае, што А. Карпюк “першым чынам паехаў у Менск, у архіў партызанскага руху, дзе, аднак, не знайшоў ніводнага дакументу з свайго атраду. Не было нават і той справаздачы, якую ён уласнаручна пісаў улетку 44-га пасьля вызваленьня Беларусі. Тады ён напісаў усім сваім знаёмым партызанам, каб тыя засьведчылі яго камандзірства. І не атрымаў ніводнага адказу. Затое празь нейкі час яму паказалі ў гаркаме каля 20 іхніх сьведчаньняў і ўсе супраць яго, былога іх камандзіра. Там жа, у справе быў падшыты і аркуш былога камбрыга Вайцяхоўскага, які пісаў, што камандзірам грамадзяніна Карпюка ніколі не прызначаў і наогул такога атраду ня ведае. Тое ўжо магло зьбянтэжыць каго заўгодна. Карпюк кінуўся ў Ленінград, дзе на пэнсіі жыў камбрыг. Той ласкава прыняў яго і кажа: «Лёша, чаго ты хочашь? Я напісаў тое, што мне сказалі. Магу табе напісаць іншае, папраўдзе». І напісаў іншае, папраўдзе, зь якім Карпюк прымчаў дадому і пабег у гаркам. Магільніцкі прачытаў паперу і заявіў: «У нас ёсць іншы дакумант Вайцяхоўскага, завераны пячаткай, а гэта – пустая пісулька». І кінуў «пісульку» Карпюку” (306–307).

Найбольш А. Карпюку балела здрада Вайцяхоўскага.

Выручыў Аляксея ў бядзе Аляксандр Амельяновіч з Беласточчыны, які прыязджаў у Гародню і паміж імі завязалася знаёмства, якое потым аказалася вельмі прыдатным А. Карпюку. Улады імкнуліся “ўмяшацца” ў іх кантакты, пасварыць іх. В. Быкаў успамінае, што “ў Карпюковым офісе раздаўся ананімны званок, і хтось папярэдзіў, каб Олека не прымалі. Мы апынуліся ў разгубленасці – чый гэта званок, зь якога боку?” (276).

Просьбу да А. Амельяновіча аб дапамозе А. Карпюк перадаў праз Ларысу Геніюш. В. Быкаў запомніў гэты момант вельмі дакладна: “Аднойчы ў Горадню завітала Ларыса Геніюш. Раней яна ніколі не прыязджала сюды, жыла ў сваёй Зэльве, пісала. Звычайна езьдзілі да яе, у тым ліку аднойчы і мы з Карпюком. <…> Мы спаткаліся зь ёй у доміку Ажэшкі <…>. Там жа Карпюк, адвёўшы госьцю ў ціхі закутак, уручыў ёй ліст, для перадачы ў Беластоку аднаму чалавеку. Тым чалавекам быў нядаўна намі падазраваны Олек Амельяновіч. Я дужа сумняваўся ў правільнасці карпюкоўскага ўчынку, баяўся, што тым ён можа «падставіць» Ларысу. <…> Геніюш была старая кансьпіратарка і зрабіла ўсё як належыць. Усё як належыць зрабіў і Амельяновіч” (317).

Гэты фрагмент успамінаў В. Быкава яскрава сведчыць аб тым, што літаратурнае асяроддзе ў Гародні трымалася разам.

Калі ў 1970 годзе А. Карпюка ўзнагародзілі ордэнам Залатога Крыжа Польшчы “Virtuti Militari”, то ў гэты самы час сакратар абкама Міцкевіч атрымаў ордэн за баявыя заслугі, а ўсім было вядома, што ён знаходзіўся ў глыбокім тыле. А. Карпюк сам на сябе наклікаў бяды на галаву тым, што пагарачыўся і пабег да Міцкевіча ў вочы выказаць, што ён думае аб яго ўзнагароджанні. Сакратар раззлаваўся, склікаў “тройку” і загадаў разаслаць ганцоў па Беласточчыне, каб знайшлі патрэбныя доказы супраць А. Карпюка.

Сябар неаднойчы жаліўся В. Быкаву, што непатрэбна звязаўся з вайскоўцамі. За сваё жыццё А. Карпюк пераканаўся, што ягоныя ахвяры былі дарэмнымі, бо афіцэрскага звання ён і так не выслужыў. В. Быкаў у сваёй кнізе прыводзіць фатальную гісторыю аб памылцы з лістамі А. Карпюка. Аднойчы ён напісаў два лісты – адно міністру абароны наконт таго, каб урэшце яму выдалі заслужаны на вайне медаль, а другое – дзядзьку на Урал, які скардзіўся, што там няма чаго есці. І пераблытаў канверты.

Трэба адзначыць, што 60-я і 70-я гады ХХ стагоддзя ў Савецкім Саюзе былі часам, калі мала хто мог адчуваць сябе бяспечным. На ўсякага чалавека можна было сфабрыкаваць любую пагрозу, абвінаваціць у самых недарэчных справах, аб чым сведчыць наступны ўспамін В. Быкава: “Аднойчы мяне паклікалі ў абкам, дзе першы сакратар Уладзімер Міцкевіч, чалавек двухмэтровага росту і з квадратнымі пашчэнкамі, папытаўся, ці ведаю я, што такое абстракцыянізм. У меру маіх ведаў і разуменьня я спрабаваў растлумачыць, што гэта такое і сказаў, што ў літаратуры абстракцыянізму няма. «А Еўтушэнка?» – было зададзена пытаньне. – «Ну які ж Еўтушэнка абстракцыяніст, ён самы што ні ёсьць сацыяльны рэаліст», – сказаў я. – «А ваш Карпюк?» Тое мяне ўжо зусім зьдзівіла: «Карпюк – абстракцыяніст?». Але, як хутка выявілася, абкамаўскі бос клікаў мяне зусім не затым, каб слухаць мае тлумачэнні. Неўзабаве быў скліканы абласны сход гаспартактыву, на якім Міцкевіч ужо граміў маскоўскіх абстракцыяністаў Еўтушэнку і Вазнясенскага, да якіх далучыў і нашага Карпюка” (271–272).

В. Быкаў пісаў свае ўспаміны, не баючыся ўжо нікога і нічога, аб чым сведчыць наступны запіс: “Карпюк паклікаў мяне ў Дом Ажэшкі, дзе ён звычайна сядзеў над друкаркай, і кажа: «Слухай, прылятае Савіцкі, дык ты сустрэнеш яго ў аэрапорце, а тут буду прымаць я. Як і належыць па пратаколу». Я так і зрабіў. Спаткаў важнага госьця ля трапу самалёту, на абкамаўскай «Волзе» прывёз да Карпюка. Карпюк падняўся з-за стала. Савіцкі, які некалі разам з Карпюком вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах, па-таварыску працяг руку – здароў, Аляксей. Аляксей, аднак, схаваў свае рукі за сьпіну і мовіў: «Во што, Алесь. Ты стукач, і я табе рукі не падам. Але калі ты прыехаў ад ЦК, дык сядай, будзем гаварыць аб справе»” (273).

За такія паводзіны А. Карпюк набыў яшчэ аднаго ворага і дадаткова пацярпеў. Аўтар *Дануты* быў ідэалістам, не мог прымусіць сябе змаўчаць на крыўду. Ён, максімаліст у жыцці асабістым і прафесійным, нібы не разумеў, што ягоныя спрэчкі будуць марнымі. Карпюк умеў быць асобай згодна з прынцыпам: трэба добра жыць, каб быць добрым чалавекам. Пісьменнік – вартаўнік і абаронца маральнасці ў грамадстве, яго сумленне. В. Быкаў аб сваёй і А. Карпюка наіўнасці ў паводзінах, піша: "Мабыць, каб выказаць сумленную думку і не выклікаць падазрэньня, трэба было мець дужа адмысловы розум, якім мала хто з нас валодаў. Мы былі надта прастадушныя ў думках і просталінейныя ў дзеяньнях, за што і цярпелі" (287).

Трэба адзначыць, што В. Быкаў гаворыць аб перажытым са значнай дыстанцыі часу, няма ў яго запісах яўнага хвалявання, напружанасці. Ён глядзіць на перажытае дастаткова спакойна, крыху з усмешкай, з аўтаіроніяй. Так, ён піша: "На партыйных і гаспадарчых мерапрыемствах у вобласці з зайздроснай увагай і смакам абмяркоўваліся «ідэалягічныя дывэрсіі» гродзенскіх літаратараў. Нават патрабавалі адказу ў сакратара абкама па ідэалёгіі А. Ульяновіча, які ня ведаў, як апраўдацца, але абяцаў «спусьціць штаны» з Карпюка і Быкава" (294–295).

У А. Карпюка быў іншы погляд на падзеі, іншы тэмперамент, характар. Ён нават некалькі дзясяткаў гадоў пасля перажытага не можа спакойна расказваць аб сваім лёсе. Паказальны ў гэтым аспекце фрагмент успамінаў А. Карпюка *Развітанне з ілюзіямі*, калі пісьменнік усведамляе сваю няздольнасць быць больш стрыманым, сваю павышаную эмацыянальнасць. А. Карпюк павёз рукапіс Аляксандра Салжаніцына ў Маскву, каб аддаць аўтару, бо мінскі часопіс "Нёман" адмовіўся яго друкаваць: "Мяне вельмі здзівіла, што адмова ў друкаванні п'есы абсалютна аўтара не кранула. Ён гэтак быў упэўнены ў сваёй праваце, што са смакам пачаў расказваць пра сябе анекдоты, якія хадзілі па Маскве. Чаму такім не быць, калі на тваім баку цэлы свет? Крыўдна, хоць ты плач"[1].

В. Быкаў таксама быў пераследаваны палітычнымі ворагамі. Таму ён з уласнага вопыту разумеў, што перажывае А. Карпюк. Пісьменнікі дваццаць два гады правялі побач у Гародні (1956–1978), былі апірышчам адзін другому ў цяжкія хвіліны. Можа ўявіць, як самотна адчуваў сябе А. Карпюк, калі В. Быкаў пераехаў жыць у Мінск.

З запісаў Д. Бічэль вынікае, што ў літаратурным гарадзенскім асяроддзі А. Карпюк і В. Быкаў стваралі неразрыўны дуэт. І сапраўды, менавіта яны былі літаратурнымі зоркамі гэтага горада. "Карпюк і Быкаў сябравалі заўсёды. На з'езды, пленумы, на тэлебачанне ў Менск яны ехалі ў адным купэ"[2] – успамінае Д. Бічэль. Шматгадовае сяброўства дазваляе ёй дакладна накрэсліць значэнне абодвух пісьменнікаў для

[1] А. К а р п ю к, *Развітанне з ілюзіямі* [у:] А. К а р п ю к, *Выбраныя...*, с. 411.
[2] Д. Б і ч э л ь, *op. cit.*, с. 71.

культуры і грамадства не толькі Гародні, але і ўсёй Беларусі: “І ён [Быкаў. – *А. С.*] і Карпюк былі “блуднымі” сынамі ў афіцыйнай БССР, але іх прымалі як роўных у магутнай сям’і літаратараў Саюза. Яны містычна былі на перадавой і сапраўды былі наперадзе грамадскай думкі, былі лепшымі з лепшых, лепшымі сярод лепшых”[1]. І далей паэтка заяўляе: “Ці апынулася я між двух агнёў? Не. Полымі гэтыя неслі стваральнае цяпло, былі «празорамі» ў маіх лабірынтах”[2].

Кранальныя, спачувальныя словы гаворыць В. Быкаў аб цяжкай хваробе А. Карпюка і апошняй спробе ворагаў знішчэння ягонага добрага імені: “Той памёр улетку, цяжка памучыўшыся ад раку страўніку. Мала яму было пры жыцьці іншых пакутаў... І нават у апошнія гады, калі старыя камуністы абвінавацілі яго ў газетах, што ён няправільна паказвае калектывізацыю, у брыдкіх выразах абразілі аўтара. За абразу Карпюк падаў у суд і выйграў яго, абвясьціўшы кошт уласнай зьнявагі – адзін рубель” (502).

Пра адносіны ўладаў Гародні да А. Карпюка А. Фядута гаворыць, што яны ні ў чым не памяняліся нават на пачатку XXI стагоддзя: “Ён заўсёды быў занадта нязручным для любой улады. Магчыма, таму, што і па сёння кіруюць Гарадзеншчынай многія з тых, хто калісьці выключыў яго з кампартыі ці арганізоўваў супраць яго паклёпы, чамусьці лічачы сябе, а не Карпюка, сапраўднымі камуністамі. А магчыма, таму, што справядлівасць яны разумеюць не так, як разумеў яе бескампрамісны франтавік Аляксей Карпюк”[3].

Сапраўды, разумеючы складанасць часу, можна з поўным правам сцвердзіць, што ў А. Карпюка была ўнутраная смеласць быць самім сабой, не прыкідвацца іншым, кім з’яўляецца на самой справе. Калі чалавек можа пазмагацца за адну са значных каштоўнасцяў у жыцці – быць сабой, то ён зможа быць шчаслівым. І В. Быкаву і Д. Бічэль пашанцавала на сяброўства з А. Карпюком. Трэба прызнаць, што са зробленага для супольнай карысці жыхароў Гародні, А. Карпюк паказваецца чалавекам, на якога можна было разлічваць і спадзявацца, што ў меру сваіх магчымасцяў ён дапаможа. Ён разумеў, што “аснова мастацкага таленту не ва ўменні пісаць зграбна, хлёстка, а ў здольнасці адчуваць, чым жывуць людзі, што ў іх баліць, і мець патрэбу, а часта і смеласць дапамагаць ім, абараняць іх ад крыўдзіцеляў, якімі б дужымі тыя ні былі”[4].

---

[1] Д. Б і ч э л ь, *op. cit.,* с. 76.
[2] Д. Б і ч э л ь, *op. cit.,* с. 69.
[3] А. Ф я д у т а, *У змаганні за праўду...*, с. 24.
[4] Ул. К а л е с н і к, *Плён творчасці – дослед жыцця* [у:] А. К а р п ю к, *Выбраныя творы ў двух тамах,* т.1, Мінск 1991, с. 8.

*Anna Sakowicz*

**Alaksiej Karpiuk in the eyes of Vasil Bykau: the autobiographical novel *The Long Way Home***

A b s t r a c t

This article analyses the memories of one of the most outstanding Belarusian prose writers Wasyl Bykow about Aleksy Karpiuk included in the book *Long Way Home* '*Długa droga do domu*' (2003). Particular attention is paid to the writer's life in Grodno and his friendship with Aleksy Karpiuk, an artist born in Straszewo in the Bialystok region.

W. Bykow truly describes twenty-two years shared with his friend in Grodno, in a period unfavorable for rebellious writers. The writer shows the personality of A. Karpiuk, and mentions situations that are both widely known and those that few people knew about. W. Bykow, on the occasion of describing the problems with which the literary milieu struggled, gives his own assessment of the socio-political situation in Belarus.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Зоя Траццяк**
Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт
zoya.tretyak@rambler.ru

# “Праклятыя” пытанні савецкай эпохі ў літаратурна-мастацкай спадчыне В. Быкава

Спадчына Васіля Быкава годна прэзентуе беларускую ваенную літаратуру ў сусветнай гуманітарнай прасторы. Дзякуючы перакладам на розныя мовы, перажытае савецкім народам на франтах Другой сусветнай вайны становіцца зразумелым прадстаўнікам розных этнасаў. Апрача падзей 1941–1945 гг., лаканічна, але дэталёва пададзеных у творах В. Быкава, аўтар заглыбляўся ў “праклятыя” пытанні сваёй эпохі. З цягам часу пісьменнік пераносіў акцэнты з агульнасавецкай на беларускую праблематыку, засяроджваўся не толькі на быцці франтавіка, партызана, падпольшчыка, жыхара акупаванай фашыстамі тэрыторыі, але і на існаванні асобы пасля кастрычніка 1917 г. Міхась Тычына ў артыкуле *Васіль Быкаў і мы* адзначаў: “Галоўнаму герою Васіля Быкава ва ўсе перыяды яго творчасці ўласціва абвостранае пачуццё ўласнай годнасці <…> У час вайны ў душы гэтага героя ажыло пачуццё прывязанасці да Радзімы, а ў думках распачаўся працэс нацыянальнага самаўсведамлення”[1]. Лёс уласнага народа, які ў ХХ ст. вытрымаў навалу-кантынуум, стаў крыніцай для вывучэння такіх філасофскіх катэгорый як сэнс жыцця, дабро і зло, шчасце. Мастацкія дасягненні звычайна афармляліся ў рэчышчы рэалізму. Быкаўская аповесць з’явілася адмысловым феноменам: “лаканічная і энергічная, як сціснутая спружына, яна ў момант кульмінацыі рэзка “выстрэльвала”, уражваючы балючай праўдай і напалам эмоцый, якім немагчыма не суперажываць”[2].

Ужо ў першай трэці ХХ ст. айчынная літаратура пачала вылучаць мастацкія “формулы“, што акрэслілі вектар яе маральна-этычных пошукаў. Вызначалася спадчына М. Гарэцкага, героі якога спрабавалі дайсці да сэнсу “патаёмнага“, задавалі пытанні “што яно?“ і “за што?“, каб высветліць месца чалавека ў сусвеце, апаганеным вайной, нацыянальным уціскам, праблемамі міжасабовых зносін. Празаіка палохала імклівае расчалавечванне. На думку М. Мушынскага, асаблівасць падыходу

[1] М. Т ы ч ы н а, *Васіль Быкаў і мы*, “Полымя” 1994, № 6, с. 216.
[2] Л. С і н ь к о в а, *Рэалізм і мастацкая ўмоўнасць у прозе Васіля Быкава*, “Роднае слова” 2014, № 6, с. 8.

класіка да дадзеных тэм палягала ў тым, што "іх філасофскі аспект заўсёды ўвязваўся з сацыяльна-палітычным"[1]. У другой палове XX ст. В. Быкаў працягнуў пошукі ў тым жа рэчышчы. На першапачатковым этапе празаік прадчуваў наяўнасць спадчыны папярэдніка, якая па аб'ектыўных чынніках не магла паўплываць на развіццё новага таленту. У гутарцы з Аляксеем Гардзіцкім В. Быкаў вызначыў тыя мастацкія сістэмы, якія звязаны з развіццём яго ўласных канцэпцый: "Мне вельмі падабаецца паэзія Купалы і проза Чорнага. Некалі я вельмі захапляўся прозай Брыля. *Пазней адкрыў для сябе Гарэцкага"* (курсіў наш. – *З. Т.*)[2].

Падкрэслім спецыфіку ўспрымання "патаёмнага" персанажамі М. Гарэцкага і В. Быкава. У першай трэці XX ст. гэтая катэгорыя звязана з таямніцамі сусвету (што такое жыццё?, навошта паміраць?, як адбываецца працэс пераходу жывога ў нежывое?, ці існуе містычнае?, дзе шукаць Бога?, як вытлумачыць жаданне чалавека зведаць надзвычайнае, неверагоднае, загадкавае?, ці не з'яўляецца гэтая цікаўнасць грэшным учынкам?, за што шараговыя забіваюць адзін аднаго на чужой ім вайне?, чым татальная вайна адрозніваецца ад іншых узброеных канфліктаў?) і спробамі спасцігнуць жыццёвую місію беларускага інтэлігента ў першым пакаленні. На думку М. Тычыны, М. Гарэцкі "ўзіраўся ў жыццё беларуса, імкнуўся разгадаць тое, што многім здавалася простым і зразумелым. Ён ведаў: будучыня залежыць ад таго, чаго больш, што пераважае ў душы народа ў той ці іншы момант яго існавання"[3].

В. Быкаў не адмаўляў значнасці гэтых шуканняў, але з цягам часу яго ўсё больш паглыналі праблемы, што ўзніклі ў краіне, дзе пасля 1917 г. адбыўся нязнаны сацыяльны эксперымент (як раптоўныя грамадска-палітычныя трансфармацыі адбіваюцца на светапоглядзе асобы?, ці магчыма адрынуць аксіялагічныя дамінанты мінулага, прызнаўшы іх атавізмамі пад уплывам палітыкі партыі?, чаму барацьба за "светлую будучыню" (асабліва ў формах раскулачвання, класавай барацьбы) у асобных выпадках паскорыла расчалавечванне?, як сусветная вайна паўплывала на соцыум, што зазнаў рэпрэсіі?, што вымушае асобу здрадзіць сабе ў экстрэмальных абставінах?, што такое чалавек на вайне?). В. Быкаў узняў пытанні, адрэфлексаваць якія (асабліва адкрыта і ў форме апублікаванага мастацкага твора) М. Гарэцкі не паспеў. Да меркаванняў Гарэцкага пра "што яно? " і "за што?" маладзейшы пісьменнік дадаў і запытанне "хто вінаваты?": "як зразумець цяпер, хто вінаваты. Вінаваты вайна і людская жорсткасць, нянавісць і непрымірымасць, што раздзірала людскія душы. Стралялі, нішчылі, білі – не дужа разбіраючыся, не надта мяркуючы – судзячы – абы больш крыві – і сваёй

[1] М. Мушынскі, *Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі. Жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага*, Мінск 2008, с. 50.

[2] [*Гутарка з Аляксеем Гардзіцкім*] [у:] В. Быкаў, *Поўны збор твораў у 14 тамах*, т. 10, кн. 1, Мінск 2014, с. 329.

[3] М. Тычына, *На фоне "агульнаеўрапейскага прагрэсу"* [у:] М. Тычына, *Час прозы: Літаратурна-крытычныя артыкулы*, Мінск 1988, с. 27.

і варожай. Але ці гэта пачалося толькі з вайной, ці і да вайны было не тое самае <…>. Свае з сваімі пачалі ваяваць даўно і рабілі гэта з немалым поспехам <…>. Чужых не надта напалохалі, а сваіх пабілі. Цэлыя горы трупаў“[1]. У дадзеным выпадку апавядальнік звярнуў увагу на ўнутраныя дзяржаўныя справы краіны Саветаў, але персанажаў В. Быкава цікавілі і міжнародныя (шырэй – агульначалавечыя, архетыпныя) працэсы, якія ўцягнулі людзей у вір вайны: “гінуць нашы, паміраюць немцы, гінуць маладыя і старыя, добрыя, злыя, паганыя – і хто вінаваты? Адзін Гітлер? Не <…>. Не першы і <…> не апошні імкнецца ён падпарадкаваць сабе іншых, спрадвеку валодае людзьмі ўсясветная прага ўлады, прага панаваць над іншымі, навязваць іншым свае погляды і свой парадак жыцця“[2].

Разважаючы пра спецыфіку прозы В. Быкава, А. Адамовіч падкрэсліў, што пісьменнік “у адрозненне ад іншых аўтараў ваенных аповесцяў і раманаў, з самага пачатку, з першых сваіх рэчаў не пайшоў шляхам «мастацкага аўтабіяграфізму»”[3]. В. Быкаў выступіў у ролі адмысловага біёграфа, які абраў аб’ектам доследу шараговага чалавека (з цягам творчага шляху адбываецца развітанне з ідэяй наднацыянальнай еднасці савецкіх людзей). Такі персанаж, апынуўшыся ў экстрэмальнай сітуацыі, звяртаўся да свету з пытаннем “за што?”. В. Быкаў укладваў яго ў вусны дзейных асоб практычна ў кожнай аповесці, але найбольш дэталёва, паводле нашых меркаванняў, разважанні на гэты конт паўсталі ў *Пастцы*, *Сотнікаве*, *Знаку бяды*, *Аблаве*, *Сцюжы*, *Пакахай мяне, салдацік*. Поруч са Сцепанідай (*Знак бяды*), быкаўскія героі адчувалі сябе “на гэтым тлумным і страшным свеце, які вузеў, меншаў, каб неўзабаве паўстаць перад ёй неадольнай перашкодай, канцом. Яна ведала – яе канец набліжаўся хутка і няўмольна і думала толькі: завошта? Што яна зрабіла не так, папраціў Бога і сумлення, чаму такая кара абрынулася на яе, на людзей? «Чаму і завошта?» – пыталася яна ў сябе, не знаходзячы, аднак, адказу, і думкі яе ішлі далей, у глыб перажытага”[4].

Пранікненне ў таямніцы мінулага дазваляла часткова адказаць на гэтыя пытанні: В. Быкаў вымушаў кіравацца ў вір успамінаў, якія арганічна ўваходзілі ў агульную падзейную канву, робячы Вялікую Айчынную вынікам цэлага вязьма абставін. Фашысцкая акупацыя расквеціла маральна-этычныя вынікі класавай барацьбы, калектывізацыі, рэпрэсій: “Вайна <…> нікому не ў радасць, лічы – усім гора, але калі гора тое праз немца, чужынца якога, дык што тут і дзівіцца, гэта як мор – чума ці

---

[1] В. Б ы к а ў, *Сцюжа* [у:] В. Б ы к а ў, *Поўны збор твораў у 14 тамах*, т. 3, Мінск–Масква 2005, с. 578–579.

[2] В. Б ы к а ў, *Трэцяя ракета* [у:] В. Б ы к а ў, *Поўны збор твораў у 14 тамах*, т. 4, Мінск–Масква 2006, с. 387.

[3] А. А д а м о в и ч, *На бессрочной передовой* [у:] А. А д а м о в и ч, *Горизонты белорусской прозы*, Москва 1974, с. 183.

[4] В. Б ы к а ў, *Знак бяды* [у:] В. Б ы к а ў, *Поўны збор твораў у 14 тамах*, т. 2, Мінск–Масква 2005, с. 105.

халера, тут на каго наракаць? Але калі гэтая чума праз сваіх, вясковых, тутэйшых людзей, вядомых усім да трэцяга калена, якія раптам перасталі быць тымі, кім былі ўсё жыццё, а зрабіліся нелюдзямі, звяр'ём, падуладным толькі гэтым набрыдам-немцам, тады як разумець тое? Ці яны раптам ператварыліся ў звяр'ё і вытвараюць такое па чужым прымусе, прытаптаўшы ў сабе ўсё чалавечае, ці, можа, яны і не былі людзьмі, адно прытвараліся імі ўсе гады да вайны"[1]. Сцепаніда, па волі В. Быкава, не паспела зрабіць фінальную выснову, але яе ўспамінаў дастаткова, каб зразумець, што распачаць расчалавечванне, спакусіўшыся марай, уяўнымі магчымасцямі, матэрыяльнымі выгодамі, прасцей, чым спыніць жахлівыя трансфармацыі. Гераіня напрыканцы жыцця сфармулявала сваю "філасофію", якая ўскосна адказвала на яе "чаму і завошта?": "той, хто аднойчы адчуў сябе чалавекам, ужо скацінай не стане <…>. Напэўна, чалавек такі ўжо ад прыроды, што адказвае дабром на дабро і не можа адказаць дабром на зло. Зло не можа спарадзіць нічога, апроч зла <…> людская дабрыня перад злом бяссільная, зло лічыцца толькі з сілай і баіцца адно толькі кары"[2].

Аповесць *Аблава* ў пэўным сэнсе ўспрымаецца як ілюстрацыя згаданай вышэй цытаты. Быкаўскі Хведар Роўба апынуўся ў жыццёвай сітуацыі, калі абставіны патрабавалі ад яго "стаць скацінай". Персанаж, далёкі ад палітыкі, не разумеў, чаму "страціў усё, і за адно імгненне, і сам апынуўся на катарзе. Толькі завошта? Гэтае праклятае *завошта* пякельным вухналём сядзела ў яго галаве. Тысячу разоў ён пытаўся ў сябе, як ехалі ў смярдзючых вагонах, як іх гналі абозам па замерзлай рацэ, як рабіў там, на паўночным прыгоне, – пытаўся ў жонкі, у людзей <…>, пытаўся ў начальнікаў. Усе нешта казалі пра ўладу, класавую барацьбу і калектывізацыю. Але ніхто яму не растлумачыў так, каб адразу стала зразумела: завошта ў яго адабралі ўладай жа дадзеную зямлю, майно і саслалі на катаргу? Завошта? У чым яго віна? Што паслухаўся ўлады і ўзяў зямлю? <…> Што дбайна рабіў?"[3]. У дадзеным выпадку чытач меў справу з разважаннямі персанажа-селяніна. У творчай прасторы В. Быкава прысутнічаў і аналаг гэтых думак, укладзены ў вусны больш адукаванага выхадца з вёскі Азевіча (аповесць *Сцюжа*). Апавядальнік абагульнена падаў трагічны лёс героя: "чаму так? Ці ён калі ленаваўся, шкадаваў сябе, ці рабіў што не так? Ён гатовы быў вылузнуцца са скуры, каб зрабіць усё выдатна, як тое патрабавалася ад бальшавіка. Але што выходзіла з тае яго руплівасці, на чыю яна ішла карысць? Чужая воля правіла свой д'ябальскі баль на людскіх касцях, і што на тым балі залежала ад Ягора Азевіча? Дужа мала, калі не сказаць нічога. Ён жыў па чужым сумленні, па чужых звычаях, чужых законах. Жыццё і людзі распараджаліся ім, як хацелі. І як было ў такіх умовах

---

1 *Ibidem*, с. 199.

2 *Ibidem*, с. 204.

3 В. Б ы к а ў, *Аблава* [у:] В. Б ы к а ў, *Поўны збор твораў у 14 тамах*, т. 2, Мінск–Масква 2005, с. 397.

зрабіць што інакш? Або зусім не зрабіць нічога? <…> Яго б за некалькі дзён сцерлі на парахню”[1]. Ва ўрыўку, на нашу думку, адчуваецца экзістэнцыяльная закінутасць персанажа ў сусвет, які складана вытлумачыць пэўнымі правіламі. Азевіч запраграмаваны часам і абставінамі на сваё ўзыходжанне на Галгофу.

Як і некалі Хомка Шпак ды Рускі з твораў М. Гарэцкага, Хведар Роўба размаўляў са светам на іншай мове. Паводле быкаўскай задумы, Роўба ўвасабляў беларуса, які ўспрымаў зямлю і працу на ёй як найвышэйшыя каштоўнасці. Таму ён не мог зразумець, як за невялікі прамежак часу ўсё, чым ганарыўся, стала непатрэбным. Як і Сцепаніда Багацька, Роўба ўсвядоміў, што змянілася і чалавечая псіхалогія: “распадаліся сем’і, нішчылася людская роднасць, спрадвечная вясковая крэўнасць”[2]. Дома прыходзілася цурацца “сваіх“, бо яны ведалі тваю жыццёвую пазіцыю. Галоўны герой аповесці *Аблава*, у адрозненне ад некаторых іншых персанажаў, не меў жадання мімікраваць кожны раз, калі змяняліся абставіны. В. Быкаў падкрэсліў, што персанаж часам хацеў узяць віну на сябе: “Чаму ён стаў тут для ўсіх жахлівым чужынцам, хто ў тым вінаваты? Можа, адзін сам? Ці яшчэ хто іншы? А можа, і ніхто?”[3]. “Ніхто” бянтэжыла персанажа бязмежнасцю, абагуленасцю і імперсанальнасцю, таму ён спрабаваў расшукаць сэнс таго, што адбывалася, у нечым менш загадкавым. Напрыканцы жыцця ён прыйшоў да меркавання, што “можа, гэта яму пакаранне за бога? За абразы, якія ён маўкліва дазволіў Міколку вынесці з хаты?”[4]. На нашу думку, бог і абразы ў дадзеным выпадку сімвалізавалі быццё, упарадкаванае паводле хрысціянскіх запаветаў, якія ў ідэале павінны былі вучыць гуманізму.

Працуючы над аповесцю *Пакахай мяне, салдацік*, В. Быкаў адчуў, што “патаёмнае” зайграе новымі фарбамі, калі распавесці пра яго ў кантэксце апошніх дзён Вялікай Айчыннай. Памежны момант спрыяў развітанню са стэрэатыпамі. Празаік “падштурхнуў” галоўнага героя да роздумаў, пазнаёміўшы яго з дзяўчынай-зямлячкай, якую фашысты вывезлі на чужыну. Савецкі афіцэр прайшоў своеасаблівую ініцыяцыю, калі пачуў ад Франі, напрыклад, што “нацызм і камунізм ёсць два канцы адной палкі”[5]. Апавядальнік сведчыў, што Змітрок не адразу пагадзіўся з тым “патаёмным”, якое разбурала яго светапогляд. Шокам сталася наступнае: “ці магчыма без Бога жыць? Ніводзін народ, нават самы адсталы, не жыве без Бога <…> Без Бога ён проста сам сябе з’есць”[6]. Калі і надалей праводзіць біблейскія аналогіі, то Змітрок Барэйка атрымаў пакаранне за сарваны з дрэва пазнання плод: невядомыя забілі Франю.

[1] В. Б ы к а ў, *Сцюжа*..., с. 614.
[2] В. Б ы к а ў, *Аблава*..., с. 409.
[3] *Ibidem*, с. 425.
[4] *Ibidem*, с. 440.
[5] В. Б ы к а ў, *Пакахай мяне, салдацік* [у:] В. Б ы к а ў, *Поўны збор твораў у 14 тамах*, т. 2, Мінск–Масква 2005, с. 481.
[6] *Ibidem*, с. 494.

Персанаж, паводле яго ўласных словаў, "быў панішчаны, здзіўлены і прыгаломшаны. Хто гэта ўчыніў? *За што?* Скончылася ж вайна, як жа так? Ці гэта помста, ці рабаўніцтва? Ці, можа, палітыка" (курсіў наш. – *З. Т.*)[1].

Свет быкаўскіх персанажаў трымаўся на прыёме проціпастаўлення: калі сумленныя героі (следам за Галінаю Тычко адзначым, што ў выпадку з быкаўскай прозай "наватарскім быў выбар героя, які ўвасабляў жыццйна-ідылічны звыштып з арыентацыяй найперш на духоўна-маральны аспект гераізму"[2]) шукалі "патаёмнае", іх антаганісты ("трутні" вайны[3]) захапляліся знойдзенай "праўдай", якая вытлумачыла на іх карысць усе далікатныя пытанні. "За што?" у апошнім выпадку трансфармуецца ў "як?": выжыць, атрымаць узнагароду, схавацца ад сумлення, адпомсціць за мінулае. Падобныя дзейныя асобы імкнуліся сцвердзіць сваю неабходнасць для іншых: "Калі напісаць, <…> што камандзір атраду добра кіраваў боем, паспяхова ўзяў населены пункт, дзе было забіта 12 паліцаяў і 2 узяты ў палон, – хто такому герою дасць ордэн Чырвонага Сцягу? Трэба трошкі паправіць, – зусім нязначна, але істотна. Найперш указаць сацыяльнае паходжанне камандзіра – тое, што ён з рабочай сям'і, што член ВКП(б). Калі беспартыйны, тое лепш не ўказваць <…>. Замест 12 забітых паліцаяў лепш указаць 21 гітлераўца. Розніца невялікая, а ролю іграе выдатную. Ну і абавязкова ў канцы дадаць (з чырвонага радка), што справе Леніна-Сталіна адданы, гэта галоўнае"[4].

Прынцып "рэтушавання" лёгка распаўсюджваўся не толькі на практыку ўзнагароджвання. Калі "правільна" расставіць прыярытэты, то ненаўмысна можа атрымацца, што і ад людзей таксама лёгка пазбавіцца: "якая праблема? На акупаванай тэрыторыі. Аднаго чалавека. Хоць бы і хлопчыка. Немцы іх вунь колькі нішчаць кожнага дня<…>. Шкада, канешне, але ж бяспека партызанскага злучэння важней. Адпусціш, а калі перахопяць немцы? <…> Ці генералам, камандуючым на фронце не шкада гэткіх во ці трохі старэйшых хлопцаў, што тысячамі кідаюць у бой, і тыя не вяртаюцца, застаюцца ўгнойваць рускую зямлю?"[5]. Персанажы такога кшталту (Пшанічны і Аўсееў з *Жураўлінага крыку*, Блішчынскі са *Здрады*, Гарбацюк і Сахно з *Мёртвым не баліць*, Гусакоў з *Балота*, Рыбак з *Сотнікава*) заўжды знаходзілі апраўданне, прыклад, вартую паралель, якія адцягвалі ўвагу ад сапраўднай сутнасці іх учынкаў і думак.

Своеасаблівым "адгалінаваннем" у дадзенай групе паўстаюць персанажы, якія на кароткі момант забыліся на сорам і гонар, кіруючыся

---

[1] *Ibidem*, с. 513–514.

[2] Г. Т ы ч к о, *Усё вырашае сумленне… Выбар у жыцці і прозе Васіля Быкава,* "Роднае слова" 2014, № 6, с. 4.

[3] Д. Б у г а ё ў, *Праўда Васіля Быкава,* "Роднае слова" 2004, № 1, с. 13.

[4] В. Б ы к а ў, *Балота* [у:] В. Б ы к а ў, *Поўны збор твораў у 14 тамах*, т. 2, Мінск–Масква 2005, с. 561.

[5] *Ibidem*, с. 569.

інстынктам разбурэння, жаданнем адпомсціць ці выставіцца перад іншымі, каб яны заўважылі “барацьбіта за справядлівасць”: “танкісты душылі на дарозе двух звязаных эсасаўцаў, паволі наязджаючы на іх гусеніцамі. Рабілі тое прылюдна, напаказ пехацінцам-дэсантнікам <…>. П’яны лейтэнант сядзеў на крыле трыццацьчацвёркі і ўзіраўся ў вочы звар’яцелых ад болю ахвяраў, галасна каментуючы, як у тых вылазяць вочы з арбітаў <…>. А другі раз нашыя самаходчыкі каралі ўласаўца. Пасадзілі на тоўсты <…> ствольны тормаз свае 152-міліметровай гарматы, звязалі ўнізе ногі і стрэлілі. Толькі ашмоцце паляцела ў паветра ды крывавымі пляцкамі заляпіла твары тых, што сабраліся наўкола”[1]. Пытанне “за што?”, неўсвядомленае ў момант самога ўчынку, прыходзіла да іх пазней, турбуючы жудаснымі ўспамінамі.

Падобныя эпізоды з’явіліся ў позняй творчасці аўтара: мастаку слова спатрэбілася мужнасць, каб уступіць у палеміку з ідэалагічна вывернай савецкай прозай пра Вялікую Айчынную. В. Быкаў разумеў, што чалавек на вайне быў здатны не толькі да геройскіх учынкаў, але і праяўляў недахопы сваёй натуры. У 1980–1990-я гг. пісьменнік не мог абыходзіць заганы савецкага чалавека, спрачаючыся з папярэднікамі, якія прапаноўвалі ідылічныя малюнкі: “Ворага трэба знішчаць – знішчайце. Іначай ён вас знішчыць. Знішчайце і не забывайце, што вы людзі, савецкія людзі <…> нам няма чаго баяцца. І сіла ў нас ёсць і праўда за намі. І кожны з нас ведае, за што мы стаім, за што мы ваюем. Нікога мы не збіраліся і не збіраемся нішчыць <…>. Дык чаго ж нам траціць раўнавагу, разменьвацца на дробную помсту?”[2].

У шэрагу выпадкаў В. Быкаў паказваў не толькі вынікі расчалавечвання, але і сам працэс духоўнай дэградацыі. Яскравым прыкладам, на нашу думку, паўстае аповесць *Сотнікаў*: аўтар абраў каларытнага персанажа – Рыбака, у якога “з’явілася грэблівае пачуццё да слабакоў, хварліўцаў, розных няўдак, якія па тых ці іншых прычынах чагосьці не маглі, не ўмелі, не выконвалі. Ён стараўся ўмець і выконваць усё <…>. У нейкім сэнсе на вайне яму аказалася лёгка, прынамсі проста: мэта барацьбы была відавочная, а над іншымі тонкасцямі ён не шмат разважаў <…> галоўнае ў іх партызанскай вайне – не разгубіцца, не спудлаваць, у час прыняць рашэнне”[3]. Аўтар падкрэсліў веру персанажа ў “простае”, настойліва прыцягваў увагу да таго, што Рыбак не высока ставіўся да кніжнай навукі, спасціжэнне якой патрабавала стараннасці і здольнасці да рэфлексіі. Гэта мастацкая дэталь мае выключную значнасць для далейшай інтэрпрэтацыі вобраза: паводле В. Быкава, персанаж не навучыўся самастойна разважаць. Думкі большасці гіпатэтычна былі пра-

---

[1] *Ibidem*, с. 570–571.

[2] М. Лынькоў, *Векапомныя дні* [у:] М. Лынькоў, *Збор твораў у 8 тамах*, т. 4, Мінск 1983, с. 229–230.

[3] В. Быкаў, *Сотнікаў* [у:] В. Быкаў, *Поўны збор твораў у 14 тамах*, т. 3, Мінск–Масква 2005, с. 419–420.

вільнымі, але прадугледзець усе сітуацыі, тым больш пад час вайны, немагчыма.

Насцярожвалі і іншыя разважанні Рыбака, які ўспрымаў сябе як выключна добрага партызана. Самазахапленне, па волі аўтара, жывілася сумнеўнымі адкрыццямі персанажа: "у той гульні, якая завецца жыццём, куды з большым выйгрышам аказваецца той, хто ўмее хітраваць, хто дбае пра свой лёс, а не пра свой не заўсёды здаровы гонар <...>. Сапраўды, фашызм – машына, якая здратавала сваімі калясьмі паўсвету і бадай усю Еўропу, хіба можна ўвесь час бегчы ёй напярэймы і размахваць голымі рукамі? Можа, куды здатней будзе паспрабаваць ціхенька сунуць ёй між колаў якую-небудзь патарчаку; глядзі – забуксуе і тым дасць магчымасць уратавацца"[1]. Рыбак забыўся (не ведаў?), што вайнагульня ідзе па непрадказальных правілах, а "патарчака" можа выпадкова ператварыцца ў зброю, фатальна скіраваную на хітруна. Пазіцыя Рыбака не адпавядала аўтарскім уяўленням пра годныя паводзіны на вайне, але пісьменнік наўмысна не згушчаў фарбы, разважаў і пра недахопы яшчэ аднаго галоўнага персанажа – Сотнікава. Аднак, маральны максімалізм апошняга, хаця часам і выглядаў як недахоп, застрахаваў героя ад здрадніцтва ўласным ідэалам.

Здрадніцтва Рыбака мела надзвычайныя для яго асобы вынікі: ён упершыню забыўся на ўласную самаўпэўненасць. Жыццё больш не ўспрымалася як простае і зразумелае: "маральнасць неабходная, але немагчыма прыняць для сябе нейкі не асабліва назольны каэфіцыент яе, які мяняўся б у залежнасці ад абставін"[2]. У гэты момант герой вымусіў сябе заняцца самарэфлексіяй, пачаў свой шлях да адказу на пытанне "за што?": "звароту назад, да ранейшага, цяпер <...> ужо не было <...>. Цяпер ён скрозь вораг. Усім. І, пэўна, самому сабе таксама <...> ён аніяк не мог даўмецца, як гэта сталася і хто ў тым вінаваты. Немцы? Вайна? Паліцыя? Вельмі не хацелася вінаваціць сябе і дужа карцела ўскласці віну на іншых <...>, на час, на абставіны. Ды і сапраўды, у чым быў вінаваты ён сам? Хіба ён выбраў сабе такі лёс? Хіба ён не змагаўся да самага канца? <...> Зрэшты, з усіх у ягоным няшчасці найбольш быў вінаваты Сотнікаў"[3]. Быкаўскі персанаж зразумеў плыткасць уласнай высновы: факт здрадніцтва ўсё роўна быў больш важкім, чым апраўданні.

Мастак слова пакінуў складаныя пытанні эпохі як палемічныя: яны выклікалі вельмі вялікія, рэзанансныя спрэчкі ў савецкім грамадстве, застаюцца адкрытымі і пасля смерці В. Быкава. Адказы на спрадвечныя "за што?" і "хто вінаваты?", як нам здаецца, былі звязаны ў творчасці В. Быкава з такімі катэгорыямі, як гуманізм, годнасць, спачуванне, што пад уплывам неспрыяльных гістарычных абставін страчвалі для шараговага чалавека сваю высокую вартасць.

[1] *Ibidem*, с. 466–467.
[2] Л. К о р а н ь, *Яшчэ раз пра Сотнікава* [у:] Л. К о р а н ь, *Цукровы пеўнік: Літаратурна-крытычныя артыкулы*, Мінск 1996, с. 191.
[3] В. Б ы к а ў, *Сотнікаў*..., с. 508.

Героі В. Быкава спадзяваліся на будучыню для свайго народу: “хацелася верыць, што пасля перажытага, пасля крывавай калатнечы-вайны, калі толькі люд ацалее, дык набярэцца новага розуму. Не можа ж быць, каб такая вайна нічому не навучыла*. Хоць бы якой дабрыні, спагадзе да саміх сябе. Нельга ж увесь век жыць без спагады. Павісшы на крыжах, нават не плакаць*” (курсіў наш. – *З. Т.*)[1]. Менавіта адсутнасць спагады да чалавека і сусвету, паводле пісьменніка, стала адной з крыніц жорсткасці, якая апанавала розныя сферы грамадскага існавання.

Адказы на пытанні “за што?” і “хто вінаваты?” залежалі ад самой асобы, якая спасцігала сусвет. В. Быкаў стварыў адмысловую галерэю персанажаў, якія па-рознаму падыходзілі да праблемы: адны (Пшанічны, Аўсееў, Блішчынскі, Гарбацюк, Сахно, Гусакоў, Рыбак) спыняліся на такіх пытаннях толькі для таго, каб абвінаваціць іншых ва ўласных паразах. Балючая выснова пра сапраўдныя нізкія матывы ўласных учынкаў і стаўленне да соцыуму, які ўзгадаваў іх, усведамлялася, але, паводле аўтарскай задумы, героі не жадалі іх фармуляваць ва ўсёй іх сапраўднай звыроднасці. Іншыя (Сотнікаў, Роўба, Азевіч) адчувалі сваю фатальную віну перад людзьмі. Трагічныя перыпетыі жыцця (і ўласнага, і нацыянальна-беларускага, і, шырэй, агульнасавецкага) нярэдка паўставалі для неадназначных і адмоўных персанажаў В. Быкава як кара за духоўны інфантылізм, безагляднае падпарадкаванне чужому ладу мыслення, абсалютную адданасць новым каштоўнасцям, якія выкрэслівалі са свядомасці лепшае з традыцыйнай маралі.

*Zoya Tratsiak*

**‘Damned’ questions of the Soviet era in V. Bykau’s literary heritage**

A b s t r a c t

The article is devoted to the peculiar evolution of the ‘patajomnaje’ category in V. Bykau’s prose. It is pointed out that, since the time when M. Haretski formulated the basic questions aimed at a hypothetical disclosure of its contents, this category has acquired new meanings. The essence of the questions ‘što jano?’ and ‘za što?’ updated by V. Bykau is characterised. The fundamental inability of Soviet writers to give an immediate and comprehensive answer to the ‘damned’ questions of their age is emphasized. It is highlighted that the personal ethics of V. Bykau’s characters’ describe their attitude towards the ‘patajomnaje’.

[1] В. Б ы к а ў, *Сцюжа...*, с. 648.

Tom 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Klaudia Łachacz**
Uniwersytet Warszawski
klaudialachacz@gmail.com

# Aniela z Miączyńskich Radziwiłłowa – trzecia żona Hieronima Floriana Radziwiłła

Jeżeli coś powtarza się w naszym życiu kilkakrotnie, to późniejszym doświadczeniom przypisujemy mniejsze znaczenie niż tym inicjalnym – nawet jeśli chodzi o sprawy tak doniosłe jak zawarcie małżeństwa. Takie postrzeganie relacji międzyludzkich zdaje się w badaniach nad obyczajowością czasów saskich tym bardziej częste, iż – jak pisze Niklas Luhmann w *Semantyce miłości* – wśród kryteriów składających się na dominujący w XVII i XVIII stuleciu paradygmat matrymonialnych wyborów znajdowały się zwłaszcza bogactwo i młodość, a dopiero na samym końcu uczucia, uroda i cnota[1]. Pojmowanie ówczesnych mariaży jako wyniku chłodnej kalkulacji aniżeli owocu wielkiej miłości rodzić musi nieufność, a nawet podejrzliwość badaczy zaglądających – za pośrednictwem listów – do alkowy naszych przodków. Byli oni wszakże nie tylko świadomi częstego naruszania tajemnicy korespondencji – co niewątpliwie przyczyniało się do autocenzury przejawiającej się w różnych zabiegach językowych[2], lecz także niepodobna odmówić im obeznania z zasadami *artis epistolandi*, co często wpływało jednak na schematyczny kształt epistoł, nawet tych spod znaku Amora. Im bliżej współczesności, tym wnikliwej owo „przymierzanie masek”, za którymi korespondenci częstokroć ukrywali swoje prawdziwe emocje, jest opisywane przez badaczy widzących w tych obiegowych motywach współtworzących listowną mowę miłosną specyficzny intymny kod[3].

[1] N. L u h m a n n, *Semantyka miłości: O kodowaniu intymności*, tłum. J. Łoziński, Warszawa 203, s. 34.

[2] I. M a c i e j e w s k a, *„Te rzeczy...” – przejawy autocenzury w prezentowaniu treści erotycznych (na przykładzie prozy czasów saskich)*, *„Napis”* 2009, seria XV: *Umysły zniewolone. Literatura pod presją,* s. 61–72.

[3] Zob. Z. K u c h o w i c z, *Staropolska miłość. Wzory – uczuciowość – obyczaje erotyczne XVI–XVIII wieku*, Łódź 1982; E. K o t a r s k a, *Erotyk staropolski. Inspiracje i odmiany*, Wrocław 1980; N. K o r n i ł ł o w i c z, *Erotyzm i miłość w literaturze polskiej XVII wieku*, „Przegląd Humanistyczny” 1988, nr 10; I. M a c i e j e w s k a, *Miłość i erotyzm w piśmiennictwie czasów saskich*, Olsztyn 2013; Z. L e s z c z y ń s k i, *Szkice o tabu językowym*, Lublin, 1988.

Poczynione wyżej uwagi na temat dystansu charakteryzującego krytyczny ogląd losów XVIII-wiecznych małżeństw wydają się trafne w odniesieniu do supozycji Ireny Bieńkowskiej – znawczyni muzyki na dworze księcia Hieronima Floriana Radziwiłła – jakoby spośród wszystkich relacji z kobietami to małżeństwo z Magdaleną z Czapskich Radziwiłłową było dla młodszego syna Anny z Sanguszków jedynym liczącym się emocjonalnie związkiem[1]. W świetle tej uwagi relacja z – właściwie nieznaną współcześnie damą czasów saskich – Anielą z Miączyńskich Radziwiłłową zdaje się zaledwie epizodem w jego życiu uczuciowym. Pozostaje to jednak w kontrze do przypuszczeń Pawła Gada, iż przyczyną rozpadu tego małżeństwa był romans Hieronima Floriana z Anielą z Miączyńskich, na co wskazywać miałaby używana przez nią formuła „chorążyna" pojawiająca się już w listach z 1749 roku, na 6 lat przed wstąpieniem w związek małżeński[2].

O ile tytułowa bohaterka artykułu – złączywszy swe losy z Hieronimem Florianem Radziwiłłem dopiero jako trzecia z kolei wybranka jego serca – nadal, poza pojedynczymi wzmiankami[3], pozostaje anonimowa, o tyle sylwetka owego reprezentanta jednego z najznamienitszych rodów I Rzeczypospolitej jest rozpoznawana bez trudu.

Spisany jego ręką *Diariusz zaczęty roku 1747 przeze mnie, Hieronima księcia Radziwiłła podczaszego wielkiego Wielkiego Księstwa Litewskiego, pana i dziedzica dóbr całej Słucczyzny*) stanowi obszar płodnej eksploracji zwłaszcza w kręgu historyków i propagatorów wiedzy o dziejach państwa polskiego[4]. Owo zainteresowanie postacią pana na Białej – dzisiejszej Białej Podlaskiej – nie wynika jednak, jak konstatują Iwona Maciejewska i Katarzyna Zawilska, z, najsamprzód, politycznych działań księcia czy jego zasług dla ojczyzny, lecz raczej z przyczyn zdecydowanie mniej chlubnych[5]. Nie bez pokrycia zwykło się wszakże eksponować jego okrucieństwo wobec poddanych[6], trudny, podług niektórych wprost sadystyczny charakter, dziwne upodobania, niechęć do własnej familii czy wreszcie obsesyjną wręcz pasję myśliwską[7]. Polowania były dla niego synonimem statusu kasty wojowników, a rytuał związany z wielkimi łowami należał do podstawowych atrybutów królewskich. Zdaje się, że właśnie do takiego modelu życia książę chętnie aspirował. Na te aspekty osobowości Hieronima Floriana zwracali uwagę

[1] I. B i e ń k o w s k a, *Muzyka na dworze księcia Hieronima Floriana Radziwiłła*, Warszawa 2013, s. 23.

[2] P. G a d, *„Najukochańszy tyran" – Hieronim Florian Radziwiłł w listach drugiej żony Magdaleny z Czapskich*, „Wieki Stare i Nowe" 2015, t. 8 (13), s. 85.

[3] *Tamże*.

[4] H.F. R a d z i w i ł ł, *Diariusze i pisma różne*, wstęp i opr. M. Brzezina, Warszawa 1998.

[5] I. M a c i e j e w s k a, K. Z a w i l s k a, *Gdybym Cię, Serce Moje, za męża nie miała, żyć bym nie mogła*, Olsztyn 2017, s. 7.

[6] P. G a d, *Legenda o okrutniku Hieronimie Florianie Radziwille*, „Rocznik Bialskopodlaski" 2014, t. 22, s. 9–28.

[7] *Tamże*, s. 8.

Kazimierz Bartoszewicz w summie o losach rodu Radziwiłłów[1], Alojzy Sajkowski w pracy poświęconej radziwiłłowskiemu mecenatowi[2], czy w końcu Tadeusz Nowakowski w książce pt. *Radziwiłłowie.* O tym, że jego konduita przyczyniła się do osławienia jego nazwiska już w czasach mu współczesnych, świadczą bodaj rozważania Franciszka Karpińskiego przywołane przez Janusza Tazbira w *Okrucieństwie w nowożytnej Europie*[3].

Hieronim Florian nie starał się o pierwsze urzędy w państwie. Jako reprezentant tak możnego rodu był zaledwie podczaszym, a następnie chorążym wielkim litewskim. Nie uczestniczył aktywnie w życiu publicznym, doglądając głównie własnych interesów, w szczególności militarnych, co przejawiało się w utrzymywaniu doskonale wyćwiczonego wojska. Aby zarzuty pod adresem księcia Hieronima uczynić wiarygodniejszymi, niech mi będzie wolno zacytować: „Rozkazywał podkomendnych, oddających się pijaństwu karać degradacją i suchym lasem, żadnego szelmę pijaka nie szanując!"[4]. Życzył temu, który trunek przywiezie, „żeby tyle, wiele kropel, tyle diabłów przy skonaniu biorących swą duszę widział"[5]. Koniec końców Morszejda, „w tym nie oficerskim, ale szelmowskim nałogu zdrowie i honor tracącego"[6] książę Hieronim kazał, nie wiedzieć za co, rozstrzelać. Być może pewną dyspozycję do takiej postawy czerpał samodzierżca Hieronim Florian z nałożonego nań obowiązku kurateli nad chorym psychicznie kuzynem – Marcinem Mikołajem herbu Trąby, do którego – ze względu na praktyki stosowane przezeń wobec rodziny a także obcych – jak ulał pasuje określenie Janusza Tazbira „koryfeusz okrucieństwa"[7]. „Oryginały i dziwacy" Radziwiłłowscy – by tym razem posłużyć się terminem K. Bartoszewicza – to jednak temat na osobny szkic.

W publikacjach poświęconych Hieronimowi Florianowi sferę prywatną jego życia traktuje się co najmniej skrótowo, a jeśli w ogóle się ją analizuje, to w celu uwypuklenia „przykrych cech charakteru magnata"[8], które utrudniały mu osiągnięcie osobistego szczęścia. Utrudniały…

W obliczu powyższych wyimków nietrudno jednak sobie wyobrazić, jak „miłe" było pożycie małżeńskie z Hieronimem Florianem. A zgodnie z radziwiłłowskim zwyczajem wkraczania w stan małżeński „dwa i więcej razy" miał aż trzy żony. Teresę Sapieżankę, dla której był „grzeczny, ale zimny

---

[1] K. B a r t o s z e w i c z, *Radziwiłłowie: początek i dzieje rodu, typy i charaktery. Rycerze, zdrajcy, pobożni, filantropi, dziwacy. Obrazy z życia domowego. Kobiety Radziwiłłowskie. Upadek Nieświeża i jego odrodzenie*, Warszawa–Kraków 1927, s. 106.

[2] A. S a j k o w s k i, *Od Sierotki do Rybeńki. W kręgu Radziwiłłowskiego mecenatu*, Poznań 1965.

[3] J. T a z b i r, *Okrucieństwo w nowożytnej Europie*, Warszawa 1999.

[4] K. B a r t o s z e w i c z, *dz. cyt.*, s. 109.

[5] *Tamże.*

[6] *Tamże.*

[7] J. T a z b i r, *dz. cyt.*

[8] H. D y m n i c k a - W o ł o s z y ń s k a, *Radziwiłł Hieronim Florian* [w:] *Polski słownik biograficzny*, t. XXX, Kraków 1980, s. 185–188.

i wymagający bezwzględnego posłuszeństwa"[1], Magdalenę z Czapskich, którą w listach pieszczotliwie nazywał „żończyną"[2], a także interesującą mnie tu Anielę z Miączyńskich, która w ostateczności – wzorem swoich poprzedniczek – wolała „wolność bez męża niż z mężem niewolę"[3]. Dwa z rzeczonych małżeństw zakończyły się rozwodem (bo takim terminem w XVIII wieku powszechnie nazywano uznanie nieważności związku przez sąd kościelny[4]), a ostatnie stadło miało swój finał w postaci ucieczki Anieli z włości Radziwiłła. Wyłaniający się z kobiecych listów obraz losów tych trzech mariaży nie pozostawia wątpliwości, że w trakcie trwania wspomnianych związków książę realizował własny scenariusz magnackiego, kapryśnego życia, marginalizując swoją rolę jako męża, głowy rodziny, a także kochanka u boku młodej żony (była ona odeń o 16 lat młodsza).

Z przytoczonych przez Iwonę Maciejewską i Katarzynę Zawilską doniesień wynika, że zwłaszcza tego z ostatniego „obowiązku" Hieronim Florian nie wywiązywał się wobec Anieli sumiennie. „Plotkarz Marcin Matuszewicz stwierdził, że książę zmarł w 1760 roku z powodu zakazanego współżycia, bynajmniej nie z trzecią żoną, ale z inną osobą"[5] – czytamy w rozprawie wspomnianych wyżej autorek. Te informacje miałyby być przesłanką do wnioskowania, iż przyczyną śmierci Hieronima Floriana była choroba weneryczna. Jej leczeniem – jak wynika z zapisków w diariuszu – książę zdecydowanie był zainteresowany, choć, w akcie autokreacji, zanotował, iż do karczmy wypełnionej doktorstwem od chorób Wenery wstąpił z ciekawości, nie z potrzeby[6].

Jednocześnie wszystkie ze swych partnerek skazywał na „żywot jednostajny, zamknięty"[7], gdyż – chorobliwie zazdrosny, tak jak zresztą jego niespełna zmysłów wspomniany kuzyn Marcin Mikołaj[8] – nie oglądał się na potrzeby wybranek serca. Wystarczy wspomnieć, że marzenie księżnej Anieli o wyjeździe do Warszawy i zażyciu rozkoszy ukazania się na dworze królewskim spotkało się z mężowską odmową, którą tłumaczył rzekomą brzemiennością żony[9]. Gwoli wyjaśnienia: wszystkie trzy małżeństwa były bezdzietne. Trafne wydaje się tu przytoczenie konkluzji Marii Janion, autorki *Kobiet i ducha inności,* o silnie zaznaczonym w powstających na przestrzeni wieków tekstach uwięzieniu kobiet („słabszego naczynia") w intelektualnej konwencji patriarchatu[10]. Bo jak interpretować postawę zawołanego myśliwego, skoro ten otaczał swoje małżonki szpiegami, gdy tylko te przekroczyły

---

[1] K. B a r t o s z e w i c z, *dz. cyt.*, s. 109.
[2] *Tamże*, s. 113.
[3] *Tamże*, s. 116.
[4] I. M a c i e j e w s k a, K. Z a w i l s k a, *dz. cyt.*, s. 8.
[5] *Tamże*, s. 30.
[6] *Tamże*, s. 31.
[7] K. B a r t o s z e w i c z, *dz. cyt.*, s. 110.
[8] *Tamże*, s. 96.
[9] K. B a r t o s z e w i c z, *dz. cyt.*, s. 116.
[10] M. J a n i o n, *Kobiety i duch inności*, Warszawa 1996, s. 43.

granice Radziwiłłowskich posiadłości? Argumentował, iż zna się on na, *nomen omen*, farbowanych lisach, co stanowi jednoznaczną diagnozę, iż nie były to relacje oparte na wzajemnym zaufaniu.

O tym opresyjnym modelu małżeństwa, w jakim żyły żony Hieronima Floriana, rozpisywały się one w listach do rodziny (Aniela ową pełną skarg korespondencję adresowała na przykład do Marty Trembickiej, drugiej żony wspomnianego już krajczego Mikołaja Radziwiłła, czy też do brata, Miączyńskiego, który w efekcie pomógł Anieli wyzwolić się z bialskich posiadłości).

Nader skąpe materiały źródłowe powodują, że o samej Anieli (nazywanej też w literaturze przedmiotu Angeliką) z Miączyńskich herbu Suchekomnaty zachowało się bardzo niewiele informacji. Brakuje źródeł, które pozwoliłyby odpowiedzieć bodaj na pytanie o to, jak doszło do skojarzenia jej mariażu z bialskim podczaszym. Wiadomo, że pochodziła z rodziny, która swą rangę zawdzięczała Anatazemu Miączyńskiemu, wojewodzie wołyńskiemu, słynącemu z przyjacielskich relacji z hetmanem Janem Sobieskim, przyszłym królem Janem III. Za sprawą tegoż podskarbiego nadwornego koronnego ród mocno posadowił się na Wołyniu.

Jeśli chodzi o początki związku małżeńskiego Anieli i Hieronima Floriana, to ceremonia zaślubin odbyła się 1 stycznia 1755 roku w Krasiczynie. Jak wynika z dociekań wzmiankowanej już I. Bieńkowskiej jego trzecia żona, zanim poznała podczaszego, nie podzielała jego muzycznych pasji. Z badań archiwalnych nad tym zagadnieniem wynika, że Aniela nauki muzyki pobierała dopiero na mężowskim dworze. Z czasem kobieta zaskarbiła sobie względy małżonka, rozpoznawszy w sobie szczególne upodobanie do muzyki harfowej. Nie umiała jednak, jak się zdaje, dobrze tańczyć: „o tańcu francuskim, jak go mam tańcować nie umiawszy i do tego zapomniawszy”[1].

Wydawać by się mogło, że wspólne zainteresowania sprzyjały pogłębianiu więzi między kochankami, lecz – jak wynika z listów wymienianych przez Hieronima Floriana i zarządcę jego dobrami, Oraczewskiego – już w dwa lata po ślubie chorążyna wyprawiała w Białej samotne bale, a w zabawach towarzyszyły jej tylko wzmiankowana już Marta z Trembickich z siostrą. Jedynie bal ostatkowy odbył się w towarzystwie nieco liczniejszym. Brakuje danych na temat tego, czy w karnawale roku 1758 Hieronim samotnie, czy z żoną, umilał sobie czas w Słucku oglądaniem przedstawień tanecznych i teatralnych. Z kolei wiadomo, że już w 1760 roku do organizacji balu maskowego na bialskim dworze książę przyczynił się jedynie w ten sposób, że na życzenie żony sprowadził miejskich muzyków. Sam jednak nie wziął udziału w maskaradzie. Czy owe okruchowe obserwacje częstych rozłąk korespondentów przesądzają o nieszczęśliwym pożyciu opisywanej pary?

By potwierdzić lub wykluczyć hipotezę I. Bieńkowskiej, należy przeanalizować spoczywające w AGAD listy Anieli, które są jedyną podstawą do

[1] AGAD, AR IV, t. 41, kop. 593, fol. 40r, 10.X. po 1755, Naliboki, list A. Radziwiłłowej do H.F. Radziwiłła, wszystkie cytaty z listów pochodzą z AGAD, AR IV, t. 41, pisownia została uwspółcześniona.

rekonstrukcji jej pożycia z podczaszym. Jeżeli chodzi o czas trwania tego małżeństwa, to córka wojewody czernihowskiego i Antoniny z Rzewuskich przez 4 lata dochowywała synowi nadopiekuńczej Anny z Sanguszków przysięgi „a iż cię nie opuszczę”[1].

Każde z trzech małżeństw miało swój dłuższy lub krótszy „miodowy miesiąc”, zwłaszcza relacja z Magdaleną z Czapskich początkowo zdawała się satysfakcjonować obie strony. Wiele o tych wzajemnych stosunkach wywnioskować można z treści listów, częściowo też z formuł powitalnych (przy jednoczesnej świadomości, że jest to li tylko rys retoryczny tej korespondencji) goszczących często w korespondencji Magdaleny z Czapskich do Hierosinka. Aniela z kolei pisała do „serca najukochańszego mężunia”, „dobrodzieja”, „serdeyka” czy też „pociechy jedynej”. Chorążyna z Miączyna podpisywała się – zgodnie z obowiązującymi wówczas zasadami *artis epistolandi* – jako najniższa podnóżka czy też upadająca do nóg. Ta retoryczna obudowa listu przysłaniała jednak nieraz realne emocje i uczucia nadawców. Tradycyjny kształt listownych zwierzeń znany jest z wielu innych XVIII-wiecznych zbiorów epistolarnych, choćby z analizowanej przeze mnie korespondencji Franciszki Urszuli Radziwiłłowej do Michała Kazimierza „Rybeńki” – brata Hieronima Floriana.

Aniela często wprost deklarowała miłość do męża (pisała wszak: „Któż może być szczerszy jak ja, żona twoja, która cię tak serdecznie kocha”?), zapewniała, że ubolewa nad jego kondycją zdrowotną, a kiedy było trzeba, karciła męża, że za mało dba o swoje zdrowie, co często go do kaszlu prowadzi (list z 1756 r. z Niehniewicz). Ciekawym elementem listów, pozwalającym przyjrzeć się bliżej organizacji codziennego życia XVIII-wiecznych korespondentów, są prośby małżonek do mężów o przywiezienie z podróży podarków, a często i przedmiotów o bardziej praktycznym zastosowaniu. Świadectwem takich praktyk jest treść listu ze Słucka z 1757 roku. Dopisek do epistoły brzmi: „Przywieźże mi, kochanku, co osobliwego ze szkła albo zwierściadełko z portretem S. Barbary”. Kiedy indziej Aniela wymienia: „przyszlejże mi weź, sztejnu [kamienia. – *K. Ł.*], potazu, chałunu [ałunu potasowego stosowanego wówczas jako antyperspirant. – *K. Ł.*] i gryszpanu do farbowania mi piór, i tego, co to jest białe, tylko nie wiem, jak się to zowie, do chędożenia to jest żelaza i mosiądza”. Rok później potrzebowała zaś: „białych kokardów i wstążek na trzewiki”.

Z analizowanych listów wyłania się portret kobiety twardo stąpającej po ziemi, bynajmniej nie egzaltowanej, a także nieszczególnie wylewnej czy choćby śmiałej w wyrażaniu swoic uczuć do męża. Aniela z Miączyńskich zdaje się sięgać po listowne pióro z uwagi na jego wartość utylitarną, nie zaś autokreacyjną. Jak zauważyła Stefania Skarczyńska, to z życia list „czerpie

[1] I. Bieńkowska, *Muzyka na dworze księcia Hieronima Floriana,* Warszawa 2013, s. 15–178.

soki" i na jego usługach się znajduje. Jest zrozumiały na tle życia oraz stanowi fragmentaryczne jego odbicie[1].

Również Pierre Leroy i Marcel Loyau, wydawcy XVII- i XVIII-wiecznych listów kobiecych szczególnie waloryzowali tę formę komunikacji z racji jej praktycznego zastosowania. Frapując swą mocą sekretnej wymiany myśli, doznań i uczuć, list pozostawał narzędziem torującym drogę do komunikacji, zestrojenia się głosów korespondentów ulokowanych na dwu przeciwstawnych biegunach. Badacze ci sytuowali korespondencję w opozycji do pamiętnikarstwa, które podparte było chęcią tworzenia[2].

Z wielu rozpoczynających się słodko listów, w których żona czule dziękuje za mężowski respons („Serdecznie ukontentowana zostaję z odebranego charakteru łaskawej ręki serdeyka mego"), daje się wyczytać jednak gorzką, niewyrażaną wprost, pretensję o ciągłe życie na odległość („ale bym bardziej ukontentowana została z przybycia jego"). To fragmenty listu z 1757 r. W Nalibokach w 1758 roku pisała z kolei: „Nie doczekawszy się responsu od serdeyka mego, dowiaduję się o zdrowiu jego". Trudno orzec, na ile częste były gesty pamięci Hieronima wobec Anieli takie, o jakich czytamy w liście z 1758 r.: „za podwiązki dziękuję, mojemu sercu, za łaskawą jego pamięć o mnie i o moich potrzebach".

Jak w wielu innych zbiorach epistolarnych i w tym często przywoływane są wartości religijne. Aniela powoływała się na wszechmogącego i sprawiedliwego Boga, zachęcając męża, by cierpliwie znosił swe niepowodzenia, a także polecając go opiece Matki Boskiej. Jej komunikaty do męża noszą znamiona pragmatyzmu, co odróżnia je od emocjonalnych listów Magdaleny Czapskiej do tegoż samego adresata. Miast rozbudowanych czułych (co ważne: lokujących się poza konwencją) wyznań na kartach listów Anieli pojawiają się doniesienia o gościach: „Krajczyna (chodzi o Martę Trembicką. – *K. Ł.*) jak odjechała ode mnie we czwartek, takiej dotąd nie masz jeszcze, bawi się w Demeniczach i czeka na Hetmana, który się jej obiecał)".

Nie po każdym zbiorze epistolarnym z XVIII wieku należy się spodziewać uczynienia autoanalizy emocjonalnej jako naczelnego tematu korespondencji – jak zrobiła to Franciszka Urszula Radziwiłłowa. Nie było w dawnych wiekach sprawą aż tak oczywistą. Mimo bezspornego istnienia i funkcjonowania tych indywidualnych wartości, niewieście wypowiedzi z tego czasu nader rzadko koncentrują się na sferze intymnej. W analizowanych listach Anieli do Hieronima – na ten moment – trudno doszukać się zwierzeń *explicite* erotycznych, co, z jednej strony, może być kolejnym dowodem na brak więzi fizycznej między małżonkami i jednoczesnym potwierdzeniem hipotezy, iż mąż nie pozostawał wierny Anieli.

Z drugiej jednak strony kobiety w Polsce niemalże wcale nie pisały o uczuciach swobodnie i otwarcie – stwierdza badaczka korespondencji kobiecej XVIII wieku – Bożena Popiołek. Śledząc wyznania kobiet czasów

[1] S. S k w a r c z y ń s k a, *Teoria listu*, oprac. E. Felisiak i M. Leś, Białystok 2006, s. 30.
[2] Por. R. G a n s z y n i e c, *Polskie listy miłosne dawnych czasów*, Warszawa 1925, s. 7.

saskich, ma się raczej wrażenie, że poddawały się bezlitosnej, wewnętrznej autocenzurze. Niewykluczone, iż wynikało to przekonań, cechujących chrześcijański ogląd świata, jakoby miłość do Boga była możliwie najgłębszą relacją duchową, jaką człowiek jest w stanie z kimkolwiek nawiązać.

Kontakt ze Stwórcą postrzegano jako najwyższą, nie tylko doczesną, wartość, zapewniającą czystość i bezpieczną izolację od ciała jako „domu <…> dla zbiegłych lubości”[1]. Listy Anieli są świadectwem dobrej znajomości listownej etykiety miłosnej. Tak jak w epistołach krążących między Franciszką Urszulą a Michałem Kazimierzem, i w tych spod pióra chorążyny pojawia się motyw całowania listownej litery („całuję cię serdecznie, moja duszo”, „serdecznie całuję charakter rączki twej, kochanie”). Znowu jednak rozrzewnienie w początkowej partii listu szybko ustępuje pretensji wyrażonej przez chorążynę w ten sposób: „nie wątpię, moja duszo, że masz dużo rozrywek dla siebie”). Choć osamotnienie dawało się we znaki Anieli Miączyńskiej, to potrafiła ona i do rozrywek męża podejść z dystansem. („Niechże Ci tam Bóg szczęści i błogosławi na tym polowaniu”).

Co do tego, że Hieronim Florian, zajęty realizacją pasji myśliwskich w doborowym towarzystwie, nie spieszył się z odpisywaniem na listy swojej żonie świadczy następująca treść: „Bardzo ubolewam na Cię, serdeyko, że nie odpisujesz na moje listy, i że już na 3 listy moie, którem pisała, nie mam dotąd żadnego responsu. Czy jużem w zapomnieniu u Ciebie została”?

Nie inny ton dominuje w sierpniowym komunikacie z 1758 roku z Białej: „Wszakżem się dotąd nie przykrzyła, donosząc ci rzecz samą, że się źle mam, raz nie chcąc Cię alterować, po wtóre przeszkadzać twym atencjom dla naszego monarchy w służeniu mu. Lecz gdy się widzę coraz słabszą po wyjeździe twym, moja pociecho, proszę Cię, mężuniu, byś zbiegł, gdyż, podobno, świat ten czy nie przyjdzie pożegnać. I Ciebie, kochany moy Panie. Pisałabym więcej donosząc o wszystkich mych tej choroby symptomach, lecz mi się ćmi w oczach y ręce drżą podobną ostatni już list pisząc, zaczym proszę cię mężuniu, byś zbiegł, będąc do zgonu”. Metryka Anieli Miączyńskiej nie pozostawia wątpliwości, że powyższy list nie miał charakteru proroczego, chorążyna przeżyła bowiem Hieronima Floriana o 30 lat. Epistoła ta ważna jest jednak i z innego powodu – potwierdza tezę, iż w listach powstających w czasach dawnych nie podlegały tabuizacji tematy takie jak choroby i ich przebieg, rozmaite niedyspozycje, dolegliwości fizjologiczne.

W czasach staropolskich i saskich o tych sprawach – mimo ich *ex definitione* sekretnego charakteru – dość bezpośrednio donosiło się najbliższym osobom. A skoro list spełniał wówczas funkcję, jaką dzisiaj przypisujemy rozmowie telefonicznej, zawierano w nim wszelkie treści, również będące streszczeniem bieżącego życia. Toteż Aniela w jednym z listów pisze, iż „doktor kazał jej krew puszczać we wtorek”, a po otrzymanym lekarstwie przestała ją boleć głowa. Swoją drogą chorążyna wspomina o powszechności

[1] B. Popiołek, *Kobiecy świat w czasach Augusta II. Studia nad mentalnością kobiet z kręgów szlacheckich,* Kraków 2003, s. 81.

migreny wśród kobiet w tamtym czasie („kapitanówna i pani Ossolińska skażą się na ustawiczny ból głowy"), co stanowi cenne źródło wiedzy o schorzeniach sprzed wieków. W innym liście małżonka przekonuje: „nie uwierzysz jak to boli, amoroidy amoroidom nie są równe", zaraz jednak dodaje uwagę, wynikającą z refleksji nad stosownością przywoływanych treści: „Przepraszam serdecznie, żem cię zmieszała opisaniem choroby mojej, bo przed kim się mam użalić jak przed przyjacielem nie mając nikogo tu tak bliskiego w tym kraju jak ciebie".

Warto dodać, że w sytuacji, gdy nadawcą była kobieta, omawianie problemów zdrowotnych było częstą konsekwencją przebiegu licznych ciąż i, niestety nierzadkich wówczas poronień, choć, jak już wspomniano, nie dotyczyło to tej pary.

Przywołane passusy z korespondencji Anieli Miączyńskiej z Hieronimem Florianem każą zadać pytanie o naturę listownego komunikatu. Skoro męża nie było w domu po pół roku i dłużej, a z odpowiedziami na listy się nie spieszył, to w pewnym momencie epistolografia mogła zacząć pełnić funkcję osobistych zapisków, ułatwiających pochodzenie się z zaistniałym stanem rzeczy, co – mimo wcześniejszych ustaleń o nieautokreacyjnym charakterze tych zapisków – zbliżałoby tę korespondencję do formy pamiętnikarskiej.

Rozpoczęte niedawno badania nad epistolografią Miączyńskiej do męża i ich rekonesansowy charakter nie pozwalają na jednoznaczny osąd, iż kilkuletnie pożycie chorążyny z miłośnikiem polowań, muzyki i życia dworskiego to w istocie teatr jednego aktora. Dotychczasowa lektura listów nie pozostawia jednak wątpliwości, że życie domowe i dbanie o powodzenie w małżeńskim stadle nie należały do priorytetów Hieronima Floriana.

Znany jest finał tej historii miłosnej: niedługo po ucieczce Anieli z Białej Hieronim Florian zmarł nagle. Wiadomo też, że książę usiłował namówić chorążynę na powrót do jego posiadłości, zarzekając się, że „się poprawi". Aniela jednak, jako kobieta mająca życie przed sobą, zmęczona nieustannym konkurowaniem o uwagę męża z jego osobliwymi zajęciami, postanowiła uwolnić się od toksycznego myśliwego. Zdecydowanie mniej wyrozumiała dla męża, niż Magdalena, która zwykła nazywać go „najukochańszym tyranem"[1], wyszła za mąż po raz drugi za Maksymiliana Woronieckiego, starostę zwinogrodzkiego. Otwarte pozostaje pytanie, czy drugie małżeństwo przyniosło Anieli więcej szczęścia. O tym być może opowiedzą wkrótce same listy będące zapisem tej relacji.

[1] P. G a d, *„Najukochańszy tyran" – Hieronim Florian Radziwiłł w listach drugiej żony Magdaleny z Czapskich*, „Wieki Stare i Nowe" 2015, t. 8 (13), s. 69–87.

*Klaudia Łachacz*

**Aniela Radziwiłłowa née Miączyńska – third wife of Hieronim Florian Radziwiłł**

A b s t r a c t

This study focuses on Aniela Radziwiłłowa née Miączyńska, third wife of Hieronim Florian Radziwiłł. The foundation for the article are letters written by Miączyńska to her husband and his family. The first part of the article introduces Hieronim Florian Radziwiłł, a well-recognised figure in Polish history. It includes a short explanation of his lineage and duties, as well as a description of his character and interests. The second part introduces Radziwiłł's the three wives: Teresa Sapieżanka, Magdalena Radziwiłłowa née Czapska, and Aniela Radziwiłłowa née Miączyńska. Although the first two of them are well-known to researchers, the third one, Aniela, has not, as of yet, received the attention matching her role in Radziwiłł's life. Later on, the study analyzes the history of Aniela and Hieronim Florian's marriage. It is shown that, despite the romantic beginnings of their relationship, soon after the wedding Miączyńska was forced to fight for the attention of her husband, who was more focused on his interest in hunting than married life. Aniela's letters help us complement the image of Hieronim Florian Radziwiłł as a husband and a household member. It also allows us to better understand women's life in the middle of XVIII century. Lastly, it is a valuable source of information about correspondence rules at that given time. It's worth adding that the present study is only an introduction to a more extensive analysis of Aniela's letters.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Аляксандр Барковіч**
Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт
albark@tut.by

# Прэфіксальнае словаўтварэнне новых беларускіх дзеясловаў: корпусны аспект

**Уводзіны**

У працах, якія датычацца новай беларускай лексікі, рэдка фіксуюцца і, тым больш, аналізуюцца новыя беларускія дзеясловы. Калі адпаведная тэматыка разглядаецца, праблемная вобласць, як правіла, абмяжоўваецца асобнымі аспектамі[1]. Гэта зразумела: менавіта прэдыкатыўныя адносіны і іх важнейшы атрыбут – дзеяслоўная лексіка – адлюстроўваюць дынаміку камунікацыі, што стварае дадатковыя складанасці пры іх рэпрэзентацыі і мадэляванні. Новыя найменні ў любой мове ўзнікаюць у першую чаргу ў сувязі з новымі рэаліямі, а ўжо пазней – і не заўсёды – з гэтымі рэаліямі звязваюцца і намінуюцца адпаведныя працэсы і дзеянні. Але гэта кагнітыўная спецыфіка зусім не аблягчае лінгвістычную практыку, і метаапісанне прэдыкатыўных адносін з'яўляецца адной з традыцыйна актуальных лінгвістычных задач. Пры гэтым *аб'ектны бок* даследавання дзеясловаў беларускай мовы дадаткова ўскладнены, па-першае, малой ступенню даследаванасці новых беларускіх дзеясловаў; па-другое, сярод дзеясловаў шырока пададзены як наватворы ў вузкім значэнні гэтага слова, так і ўвасобленыя патэнцыяльныя словы, незафіксаваныя ў лексікаграфічных крыніцах.

**Металінгвістычная спецыфіка новых дзеясловаў беларускай мовы**

Семантыка дзеяслова дэманструе ўнікальныя (у параўнанні з іншымі часцінамі мовы) суадносіны паміж лексічным і граматычным значэннем: вербалізацыя патэнцыяльных членаў дзеяслоўных парадыгм – гэта ў першую чаргу афіксальныя (як паказвае практыка, пераважна прэфіксальныя) утварэнні – змяняе і лексічныя, і граматычныя

[1] Напр. О.Г. В а н к е в и ч, *Отыменные глаголы в современных русском и белорусском языках: словообразовательная мотивация: автореферат диссертации... кандидата филологических наук: 10.02.02, 10.02.01*, Минск 2015; А.В. С о л а х а ў, *Суфіксальна-постфіксальны спосаб утварэння індывідуальна-аўтарскіх дзеясловаў у мове сучаснай беларускай паэзіі*, „Веснік Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя І.П. Шамякіна" 2009, № 3, с. 120–125.

характарыстыкі дзеяслова, забяспечваючы неабходны мадыфікацыйны патэнцыял мовы. Сёння, са з'яўленнем корпусных рэсурсаў, для лінгвістычнага аналізу сталі даступнымі статыстычна-верыфікаваныя дадзеныя з маўленчай практыкі, якія дазволілі аб'ектыўна суаднесці рэаліі дзеяслоўнага словаўжывання ў беларускай мове з лексікаграфічнымі крыніцамі. Ва ўмовах высокага попыту на фармалізацыю мовы незафіксаваныя лексікаграфічнымі базамі лексічныя адзінкі патрабуюць асаблівай увагі і апісання. Даследаванне не зафіксаваных у тлумачальных слоўніках беларускай літаратурнай мовы дзеясловаў (*ТСБМ*, *ТСБЛМ*)[1] дазваляе ахапіць і ахарактарызаваць важны рэсурс мовы, які да апошняга часу застаецца па-за "кампетэнцыяй" як лінгвістаў, так і, адпаведна, камп'ютарных інструментаў і баз дадзеных. Даследаванне складу і абставін функцыянавання лексем, не адзначаных у тлумачальных слоўніках, – метадалагічна інавацыйны і абгрунтаваны падыход да сістэматызацыі моўнай сістэмы, увогуле. У гэтым рэчышчы метадалагічна інавацыйным для беларускай лінгвістыкі з'яўляецца і адпаведны дадзенай парадыгматыцы прынцып апісання лексікі: сярод новых дзеясловаў згодна мадэлі развіцця моўных навацый асобна могуць быць мэтанакіравана разгледжаны так званыя патэнцыяльныя словы (ці ў больш шырокім кантэксце *патэнцыялізмы*) – рэалізацыі рэгулярных словаўтваральных ланцужкоў[2].

Падыходы да комплекснага разгляду беларускіх дзеясловаў, зразумела, могуць быць рознымі: так, у працы *Дзеяслоўнае словаўтварэнне: Адыменныя суфіксальныя лексемы*[3] прадэманстраваны іншы, у параўнанні з нашым, падыход да аналізу дзеяслоўнай лексікі, наватвораў, крыніц збору матэрыялу. Напрыклад, на думку аўтара, "неалагізмамі і аказіяналізмамі лічацца дэрываты, якія выяўлены ў мове мастацкай і навуковай літаратуры ў асноўным за апошнія 10–15 гадоў [г. зн. у 60–70-я гг. XX ст. – *А. Б.*] і не фіксаваліся лексікаграфічнымі даведнікамі, і тыя, што ўпершыню зафіксаваны ТСБМ і РБС–82 [*Русско–белорусский словарь,* ред. К.К. Атрахович, Минск 1982. – *А. Б.*]"[4]. Але маўленчая практыка сведчыць, што паміж аказіяналізмамі і неалагізмамі існуе істотная розніца ў функцыянальным аспекце, а дэрываты – адзінкі іншага лінгвістычнага вымярэння, дэрываталогіі[5].

---

[1] *Тлумачальны слоўнік беларускай мовы,* пад агульн. рэд. К. Крапівы, Мінск 1977–1984; *Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы*, рэд. М.Р. Суднік, М.Н. Крыўко, Мінск 2005.

[2] А.А. Баркович, *Модель развития языковых новаций в контексте компьютерно-опосредованной коммуникации*, „Вестник Тихоокеанского государственного университета" 2015, № 4, с. 38–43.

[3] М.С. Васілеўскі, *Дзеяслоўнае словаўтварэнне: Адыменныя суфіксальныя лексемы*, Мінск 1985.

[4] *Ibidem*, с. 8.

[5] А.А. Баркович, *Метаязыковая специфика моделирования: деривационный аспект*, „Ученые записки Петрозаводского государственного университета" 2017, № 7, с. 68–72.

На фоне новых тэндэнцый развіцця дыскурсу, з'яўлення прынцыпова новых маўленчых асяроддзяў[1], лексіка пачатку XXI ст. дэманструе высокую дынаміку. Але наколькі тэндэнцыі развіцця дзеясловаў у сучаснай беларускай мове, ва ўмовах экстэнсіўнага і інтэнсіўнага развіцця камп'ютарна-апасродкаванай камунікацыі, адлюстроўваюць пераемнасць традыцый яе абнаўлення? Тут неабходна адзначыць некалькі фактараў. Так, адыменнае словаўтварэнне па-ранейшаму адыгрывае істотную ролю ва ўтварэнні новых дзеясловаў: пераважна ад назоўнікаў утвараюцца і дэрываты запазычанняў, і агульныя з рускай мовай дзеясловы, і ўласна беларускія дзеяслоўныя наватворы. Падобным чынам захоўваецца і дынаміка суфіксальнай прадуктыўнасці беларускіх дзеясловаў[2]. І ў гэтай сувязі асаблівую цікавасць могуць уяўляць дадзеныя аб спецыфіцы прэфіксальнага словаўтварэння беларускіх дзеясловаў, што дазволіла б зрабіць грунтоўныя абагульненні аб функцыянаванні афіксальнага дзеяслоўнага словаўтварэння ў беларускай мове ў цэлым.

Рэлевантныя рэпрэзентатыўныя вынікі могуць быць атрыманы на базе статыстычна-аб'ектыўных дадзеных корпуснага кшталту. Зразумела, прынцыповая адсутнасць у корпусах гэтак званай *марфемнай разметкі* вельмі адчувальная для даследавання лексікі сінтэтычных моў, да якіх адносіцца і беларуская. Аднак, пакуль заканадаўцамі моды ў корпуснай лінгвістыцы застаюцца англічане і амерыканцы – для пераважна аналітычнай англійскай мовы падрабязны аналіз словаўтварэння і словазмянення не вельмі актуальны – гэта практыка не мяняецца. Тым не менш, корпусныя дадзеныя аб граматычных заканамернасцях практычна любой мовы, тым больш дапоўненыя "ручной" апрацоўкай матэрыялу, часта ствараюць прынцыпова новую лінгвістычную рэальнасць[3].

Наша даследаванне грунтуецца на базе *Машыннага фонду беларускай мовы*[4], які быў створаны ў навукова-даследчай лабараторыі інтэлектуальных інфармацыйных сістэм на факультэце прыкладной матэматыкі Белдзяржуніверсітэта (загадчык лабараторыі прафесар Ігар Соўпель). Зыходны корпус тэкстаў *Машыннага фонду беларускай мовы* (агульны аб'ём 10 млн. словаўжыванняў) склалі тэксты мастацкага, публіцыстычнага, навуковага, дзелавога, гутарковага стыляў: па юрыспрудэнцыі, літаратуры, гісторыі, культуры, тэхніцы, музыцы,

---

[1] Напр. А.А. Б а р к о в и ч, *Интернет-дискурс: компьютерно-опосредованная коммуникация*, Москва 2015.

[2] М.С. В а с і л е ў с к і, *op. cit.,* с. 238; А.А. Б а р к о в і ч, *Лексічны патэнцыял беларускай мовы ў святле корпуснай лінгвістыкі,* Мінск 2012.

[3] А.А. Б а р к о в и ч, *Корпусная лингвистика: специфика современных метаописаний языка,* „Вестник Томского государственного университета" 2016, № 406, с. 5–13.

[4] Пратакол выканання работ па стварэнню *Машыннага фонду беларускай мовы* (МФБМ) быў падпісаны ў кастрычніку 2006 г. – УДК 681.324.06, № дзяржрэгістрацыі 2005185, справаздача № 166/35.

ваеннай справе, рэлігіі, спорту, медыцыне. У межах праекта распрацаваны генеральны слоўнік беларускай мовы, у якім былі ідэнтыфікаваныя, у прыватнасці, 140 240 парадыгм, якія былі пададзены ў 1 259 720 славаформах, у тым ліку дзеясловаў – 45 654 парадыгм, назоўнікаў – 54 461 парадыгма, прыметнікаў – 41 895 парадыгм.

Атрыманы на гэтай базе рэпрэзентатыўны рэестр новых беларускіх слоў склаў 17 000 адзінак, з іх дзеясловаў – 1000 адзінак; сярод дзеясловаў – як увасобленыя патэнцыяльныя адзінкі (≈800), так і ўласна новыя дзеясловы (≈200 адзінак). Перавага патэнцыяльных адзінак сярод моўных навацый з'яўляецца тыповай: так, амаль усе не зафіксаваныя ў слоўніках прыслоўі з суфіксам *-а-* – гэта рэалізацыі патэнцыяльных рэгулярных дэрыватаў адпаведных прыметнікаў, вядомых сучаснай беларускай літаратурнай мове (*аднабакова, вынікова, класава, масава, многаразова* і мн. інш.).

Зразумела, патэнцыяльныя дзеясловы з гэтага рэестру – гэта, у першую чаргу, *прэфіксальныя* і *суфіксальныя* ўтварэнні ад адзінак, зафіксаваных у нарматыўных слоўніках. Але ў такіх дзеясловаў – рэгулярных членаў словаўтваральнай парадыгмы – змяняецца і лексічнае значэнне, і граматычнае (гаворка ідзе, найперш, пра катэгорыю трывання і – у значна меншай ступені – пра катэгорыю стану). Зусім невыпадкова славянскае *трыванне* дзеясловаў адносяць да класіфікацыйных граматычных катэгорый і часта называюць катэгорыяй лексіка-граматычнай па наступных прычынах: па-першае, змяненне трывання, як правіла, выклікае змяненне лексічнага значэння, а па-другое, адсутнічаюць рэгулярныя адназначныя сродкі выражэння трывальнай семантыкі, пры тым што яна заўсёды выражана фармальна: прэфіксацыяй, суфіксацыяй і пад.

Тыпы значэнняў, якія перадаюцца трывальна-часавымі формамі дзеяслова, не атрымалі ў літаратуры адзінага тэрміналагічнага афармлення: яны называюцца і *Т*-катэгорыямі, і семантычнымі тыпамі прэдыкатаў, і спосабамі дзеяслоўнага дзеяння. Тэрмін "спосаб дзеяслоўнага дзеяння" выкарыстоўваецца ў двух сэнсах: шырокім і вузкім. У вузкім сэнсе гэта "разнастайныя асаблівасці працэсаў у дачыненні да іх часавай працягласці і выніковасці, іх якасная своеасаблівасць паводле працякання ці завяршэння. <...> Адрозненні разнавіднасцяў дзеясловаў па спосабах дзеяслоўнага дзеяння звязваюцца галоўным чынам з іх прэфіксамі і некаторымі спецыяльнымі суфіксамі"[1]. У гэтым, вузкім значэнні, спосаб дзеяслоўнага дзеяння – словаўтваральная катэгорыя, менш аб'ёмная і абавязковая, чым граматычная, але дастаткова рэгулярная. Спосаб дзеяслоўнага дзеяння ў шырокім сэнсе – гэта "розныя семантычныя прыкметы, якія характарызуюць спосаб існавання сітуацыі ў часе"[2], незалежна ад іх фармальнай выражанасці.

[1] А.А. Кривицкий, А.Е. Михневич, А.И. Подлужный, *Белорусский язык для небелорусов,* Мінск 1978, с. 178.

[2] А.А. Зализняк, А.Д. Шмелев, *Лекции по русской аспектологии*, Мюнхен 1997, с. 27.

Традыцыйна выдзяляюцца наступныя *T*-катэгорыі, ці ўстойлівыя семантычныя тыпы, якія перадаюцца часава-трывальнымі формамі дзеясловаў: 1) пастаянныя ўласцівасці; 2) устойлівыя і часовыя станы; 3) працэсы (інактыўныя працэсы і дзеянні) і 4) падзеі. У класіфікацыі Алены Падучавай, акрамя станаў (устойлівых і часовых) і падзей, вылучаюцца інактыўныя працэсы (працэсы з неактыўным, звычайна неадушаўлёным суб'ектам) і дзейнасці, якія падзяляюцца на ўласна дзейнасці (непранічныя працэсы са свядомым адушаўлёным суб'ектам), дзеянні (гранічныя працэсы са свядомым адушаўлёным суб'ектам), заняткі і паводзіны[1]. Характарыстыка дзеяслова адносна адной з названых груп праводзіцца, як правіла, пры дапамозе дыягнастычных кантэкстаў, г. зн. праз яго камбінаторныя магчымасці.

Выключная ўвага лінгвістаў да кваліфікацыі дзеясловаў паводле спосабу дзеяслоўнага дзеяння абумоўлена іх унікальнасцю ў параўнанні са словамі іншых часцін мовы, якая адзначаецца Міхаілам Нікіціным: "дзеясловы, здольныя ўказваць на прыкметы шырокага часавага дыяпазону: ад пастаянных, характэрных, устойліва-сутнасных да каротка-часовых, выпадкова-недаўгавечных, сутнасна-непаказальных, і гэта справядліва як у дачыненні да розных прыкмет, так і ў дачыненні да розных праяў адной прыкметы. <...> для назоўнікаў і прыметнікаў магчыма толькі статычная канстатацыя прыкметы па-за часавай дынамікай..."[2].

У беларускай лінгвістыцы лексіка-граматычныя катэгорыі дзеяслова ўжо вывучаліся ў сувязі з праблемамі словаўтварэння, але з часавай характарыстыкай дзеяслова была звязана толькі адна праца[3].

**Колькасна-статыстычны аналіз новых дзеясловаў – рэгулярных членаў словаўтваральнай дзеяслоўнай парадыгмы**

Якія высновы дазваляе зрабіць колькасна-статыстычны аналіз новых дзеясловаў – рэгулярных членаў словаўтваральнай дзеяслоўнай парадыгмы? У прыватнасці, – адносна частотнасці ўжывання дзеяслоўных прэфіксаў, якія паслядоўна карэлююць са спосабамі дзеяслоўнага дзеяння ў вузкім сэнсе слова.

***А-, аб-, аба-***. Дзеясловаў з прэфіксам *а-, аб-, аба-* зафіксавана каля 70 (≈7% ад агульнай колькасці новых дзеясловаў), прычым некаторыя з іх з'яўляюцца другім і трэцім членам так званай трывальнай трыяды[4], напрыклад, *абсмыкаць – абсмыкваць* і інш.

---

[1] Е.В. П а д у ч е в а, *Семантические исследования. Семантика времени и вида. Семантика нарратива*, Москва 1996, с. 129.

[2] М.В. Н и к и т и н, *Основы лингвистической теории значения,* Москва 1988, с. 22–23.

[3] А.М. Р у д э н к а, *Дзеясловы з семантыкай разумовых працэсаў у беларускай мове,* Мінск 2000.

[4] Стандартны трывальны ланцужок дзеяслова выглядае так: бяспрэфікснае незакончанае трыванне (*пісаць*) – прэфіксальнае закончанае трыванне (*дапісаць*) – суфіксальнае незакончанае трыванне (*дапісваць*).

Сярод дзеясловаў з названымі прэфіксамі ёсць і наватворы (яны зафіксаваны толькі з прыстаўкамі), напрыклад, *абдрыпаць – абдрыпваць* і інш., прычым сярод наватвораў ёсць такія, што без прэфікса не ўжываюцца, напрыклад, *аконтурыць, амяшчаніць* і інш. Патэнцыяльныя дзеясловы з прэфіксам *а-, аб-, аба-* – рэалізацыі рэгулярных пазіцый у дзеяслоўных словаўтваральных ланцужках – прыблізна палова ўсіх дзеясловаў з названым прэфіксам.

Аналагічныя назіранні можна зрабіць і падчас разгляду іншых прэфіксальных мадэлей, напрыклад, патэнцыяльных дзеясловаў з прыстаўкай ***ад-*** (каля 30 адзінак). Гэтыя дзеясловы таксама могуць утвараць трывальныя ланцужкі (*адгаласаваць – адгаласоўваць* і інш.); сярод іх ёсць выразныя калькі з рускай мовы, напрыклад, *адсочваць*:

*Аўтаматызацыя аператыўнага ўліку тавараў дазволіць штодзённа* ***адсочваць*** *лішкі і тэрмін прыдатнасці прадуктаў* (Т. Данілушкіна, *На сучасным узроўні*, "Звязда" 2007, № 21.

Парадаксальным прыкладам рэалізацыі ўстойлівай прэфіксальнай мадэлі з'яўляецца зафіксаваны ў пералічаных вышэй крыніцах дзеяслоў *адваблівацъ*. Семантыка кораня не дазваляе такога прэфіксальнага ўтварэння, але яно ўзнікла, таму што ёсць рэгулярная мадэль і рэгулярнае антанімічнае па прэфіксе ўтварэнне *прываблівацъ*.

Паводле *Беларускай граматыкі* ўтварэнне прэфіксальных дзеясловаў пры дапамозе *а-, аб-, аба-* і пры дапамозе *ад-* – прадуктыўныя тыпы[1], і гэта пацвярджаецца колькасцю наватвораў у корпусе.

***Вы-***. Патэнцыяльных дзеясловаў з прэфіксам *вы-* нямнога – каля 5, хаця ў *Беларускай граматыцы* гэты словаўтваральны тып характарызуецца як прадуктыўны[2]. Два з прадстаўнікоў гэтай групы – прэфіксальныя пары (*выстукаць, выкрышталізаваць*), некалькі – незакончанага трывання ад адпаведных прэфіксальных лексем закончанага трывання (*выраўноўваць*, *вытончваць* (літарат. *вытанча́ць – ТСБЛМ*), *выцерплівацъ*). Сустракаецца таксама акцэнталагічны варыянт нарматыўнай адзінкі *вытарашчваць – вытарэшчваць*.

"– Гэта пытанне? Ужо можна адказваць? – адразу падбіраецца Уладзімір. – ...Такая магчымасць з'явілася толькі праз некалькі гадоў, калі мы зразумелі, што матэрыялу на беларускай мове – выдадзенага, аранжыраванага, часткова аранжыраванага – хапае не проста на тое, каб сабраць у альбом, але і на тое, каб прасеяць, выкінуць непатрэбнае і *выкрышталізаваць* музычную праграму, якую мы назвалі *Адлегласць"* (*Гасцёўня: Уладзімір ПУГАЧ [J:Морс]: Трэба навучыцца сабой ганарыцца*, "Звязда" 2007, № 228).

Дзеяслоў *выкрышталізаваць* не фіксуецца ў слоўніках (*ТСБЛМ*): у якасці закончанага трывання прапануецца *закрышталізаваць*, акра-

[1] *Беларуская граматыка ў 2-х частках,* рэд. М.В. Бірыла, П.П. Шуба, Мінск 1985, с. 329–330.
[2] *Ibidem*, с. 330.

мя таго *крышталізаваць* абазначае і незакончанае, і закончанае трыванне. Тым не менш *выкрышталізавацца* ў слоўніку ёсць. Усё гэта яшчэ раз сведчыць пра пэўную ступень выпадковасці слоўнікавай фіксацыі рэгулярных афіксальных дзеяслоўных утварэнняў.

***Да-***. Лексем з прэфіксам *да-* – рэгулярных членаў дзеяслоўных словаўтваральных парадыгм – каля 60. У адрозненне ад разгледжаных вышэй прэфіксальных утварэнняў яны досыць цесна кансалідаваныя семантычна вакол спосабу дзеяслоўнага дзеяння з семантыкай ‘давесці дзеянне да канца, да прасторавай ці часавай мяжы’[1]: (*даваліць, давеславаць*, сярод іх і дэрываты ад запазычанняў, напрыклад, *дабаляваць, дабанкетаваць, дарамантаваць* і інш.) ці то парныя ўтварэнні незакончанага трывання такіх дзеясловаў (*дабіраць, даварочваць, давострываць, дабанкаваць – дабанкоўваць, дапампаваць – дапампоўваць* і інш.):

“– Колькі мяхоў не *дабіраеш*? Бяры ў мяне” (У. Арлоў, *Клён*).

Менавіта гэты тып, паводле *Беларускай граматыкі*, з’яўляецца прадуктыўным пры ўтварэнні дзеясловаў з прэфіксам *да-*[2].

Некаторыя з такіх дзеясловаў утвараюць трывальныя пары (*дагадаваць – дагадоўваць, дамахаць – дамахваць, данюхаць – данюхваць* і інш.).

***За-***. Зафіксаваных патэнцыяльных дзеясловаў з прэфіксам *за-* – каля 70. *Беларуская граматыка* таксама характарызуе гэты тып як прадуктыўны)[3]. Яны належаць да двух спосабаў дзеяслоўнага дзеяння:

1) ‘пачаць дзеянне’ (закончанага трывання – *загарлапаніць, зацарстваваць, заштарміць* і інш.; незакончанага трывання – *закрапваць* і інш.): “Не помнячы сябе ад радасці, я ўляцеў у свой пакой і, размахваючы пісьмом, *загарлапаніў* нешта дзікае, бязладнае, потым схапіў у абярэмкі Алеся (ён якраз падвярнуўся мне пад рукі) і закружыў з ім па пакоі. – Што? Напісала – кахае? – зарагатаў Алесь” (З. Прыгодзіч, *Журба мая светлая*);

2) ‘давесці дзеянне да выніку’ (закончанага трывання – *замжэць, замірыць, запырхаць, зацвяліць* і інш.; незакончанага трывання – *забучваць, закошваць, зашпунтоўваць* і інш.; зафіксаваныя трывальныя пары *замежаваць – замяжоўваць, заштампаваць – заштампоўваць* і інш.).

Для гэтай мадэлі характэрныя ваганні паралельных дзеяслоўных утварэнняў з прэфіксам *за-* і адначасова суфіксам *-ава-/-ірава-/-е-/-і-* – *заштылець* (у *ТСБМ* зафіксавана *штыляваць*). У разглядаемай мадэлі навідавоку суфіксальная варыятыўнасць адносна зафіксаваных у літаратурнай мове ўтварэнняў. Напрыклад, прэфіксальны дэрыват *загугняць* – трывальная пара ад *гугняць*, у той час як у *ТСБМ* няма *гугняць*, а ёсць *гугніць, гугнявіць* – рэгулярнай прэфіксальнай парай апошняга з’яўляецца *загугнявіць*: “Ён *загугнявіў*: – Я прыйшоў па работу (Гі дэ Мапасан, *Споведзь Тэадзюля Сабо* /пераклад С. Мурашкі).

[1] *Ibidem*, с. 330.
[2] *Ibidem*, с. 331.
[3] *Ibidem*, с. 332.

***З-/с-.*** Усё сказанае вышэй пра дзеясловы з прэфіксам *за-* – рэалізацыі патэнцыяльных "месцаў" словаўтваральных парадыгм – датычыць і прэфіксальных дэрыватаў з прэфіксам *з-/с-*, якіх каля 30. Такія ўтварэнні, як *згнятаць* пры літаратурным *гнесці* або *прыгнятаць* паказваюць няўстойлівасць словаўтваральных мадэлей прэфіксальна-суфіксальных трывальных ланцужкоў, дакладней кажучы, пастаянную канкурэнцыю розных мадэлей у жывой маўленчай плыні.

Ва ўжыванні дзеясловаў – членаў словаўтваральных ланцужкоў з прыстаўкай *з-/с-* – ёсць адна цікавая заканамернасць. У беларускай мове ўтвараюцца і ўжываюцца дэрываты лексем, запазычаных праз рускую мову ці прыналежных да агульнага для абедзвюх моў фонду запазычанняў, у той час як у рускай мове адпаведныя дзеясловы двухтрывальныя і ўтварэнняў з прэфіксам *з-/с-* не маюць. Гэта такія дзеясловы, як, напрыклад, *згарманізаваць, знівеліраваць, зрэалізаваць*:

Такі наватвор, як *спрагназіраваць,* таксама не фіксуецца слоўнікамі – нарматыўным з'яўляецца ўжыванне дзеяслова *прагназіраваць* як двухтрывальнага (*ТСБЛМ*). Аналагічным чынам прэфіксальны дзеяслоў *супрацьстаўляць* сустракаецца на фоне нарматыўнага варыянта *супрацьпастаўляць* (*проціпастаўляць*).

***На-***. Усе дзеясловы з прэфіксам *на-* з рэестра слоў, не зафіксаваных у тлумачальных слоўніках беларускай мовы (каля 20 адзінак), належаць да спосабу семантычнага дзеяння з агульнай семантыкай 'дасягнуць дастатковай паўнаты або празмернасці дзеяння'[1]. Усе такія дзеясловы – рэгулярныя члены трывальных ланцужкоў закончанага трывання (*накамандаваць, нанюхаць, навастрасловіць* і інш.) і незакончанага (*набудоўваць, навуджваць, напалёўваць* і інш.): "сабраліся вядомыя пісьменнікі, паэты, нагаварылі, *навастрасловілі*" (В. Іванчыкаў, "Літаратура і мастацтва" 2002, № 37).

Цікавымі сярод іх з'яўляюцца такія ўтварэнні, як *наклюнуць, насварыць*: яны ўжываюцца з семантыкай літаратурных адпаведнікаў – *наклюнуць* (літ. *наклюнуцца*) 'пачаць прарастаць, распускацца (пра зерне, пупышкі)', перан., разм. 'выпадкова трапіцца, абазначыцца, намеціцца'; *насварыць* (літ. *насварыцца*) 'выказаць рэзкімі словамі сваё незадавальненне кім-небудзь'. Цікавы тут іменна відавочны ўплыў словаўтваральных стандартаў: калі ёсць зваротны дзеяслоў, то павінен быць і незваротны, хоць і без дыферэнцыяцыі семантыкі.

***Над-***. Дзеясловаў з прэфіксам *над-* толькі 5, што пацвярджае вывад у *Беларускай граматыцы* аб непрадуктыўнасці гэтага словаўтваральнага тыпу[2]. Сярод іх пададзены спосабы дзеяслоўнага дзеяння з агульным значэннем 'павялічыць дадаткова прадмет, дадаць да прадмета што-небудзь з дапамогай адпаведнага дзеяння' (тут ёсць нават трывальная пара *надгаблёўваць – надгабляваць*), 'распаўсюдзіць дзеянне на

[1] *Ibidem,* c. 332.
[2] *Ibidem*, c. 332–333.

невялічкую частку паверхні прадмета' (*надкусаць, надтрэснуць* – цікава, што ў *ТСБМ* падаецца толькі *надтрэснуты*): "Ці любіў я? Любіў! // Сяброў, маці, віно... // Кляўся Бацькаўшчыне да магілы, // Ды ў сузор'я майго, // Бы ў калосся ў жніво, // Ад пакуты *надтрэснулі* жылы" (А. Сыс, *У нябёсах маіх дагараюць вагні*...).

***Неда-*.** Больш распаўсюджаныя і па колькасці, і па частотнасці ўжывання лексемы з прэфіксам *неда-* (каля 20 адзінак). Аб іх большай распаўсюджанасці сведчыць не толькі колькасць, але і наяўнасць некалькіх трывальных пар (*недавыпускаць – недавыпусціць, недагартаваць – недагартоўваць, недаседжваць – недасядзець, недаціскаць – недаціснуць*). Сярод такіх дэрыватаў з семантыкай 'няпоўнасцю ажыццявіць дзеянне, не давесці яго да патрэбнай нормы'[1] ёсць словы і закончанага, і незакончанага трывання: "Рэстаўрацыю колькі разоў *недаўкамплектоўвалі* адпаведнымі матэрыяламі (В. Барабаншчыкава, *Мірскі замак – 2003*, "Літаратура і мастацтва" 2003, № 23).

***Па-***. Сярод дзеясловаў з прыстаўкай *па-* (каля 25 адзінак) пададзены наступныя спосабы дзеяслоўнага дзеяння: 'ажыццявіць дзеянне на працягу некаторага часу' (*паблішчаць, пазубрыць, пакукарэкаць, пазімаваць, палунаць, пахіхікаць, пашпіёніць, паўдзельнічаць* і інш.), 'ажыццявіць дзеянне ў адзін прыём' (*палічыць, пакараць, патэлефанаваць*), 'давесці дзеянне да выніку' (*паджаліць, паймець, паканіфоліць*), 'мнагакратна, многімі ажыццявіць дзеянне, накіраваць яго на многія ці ўсе аб'екты' (*падасяваць, павырубліваць*), першы з якіх найбольш распаўсюджаны: "У апошні час усё часцей мне на вочы трапляецца інфармацыя аб спосабах заробку ў Інтэрнэце. Прапаноўваюць *паўдзельнічаць* у розных праектах" (С. Дзевятоўскі, *Самы прыбытковы бізнэс у Інтэрнэце*?, "Звязда" 2008, № 1).

***Пад-***. Лексем з прэфіксам *пад-* – 10, і ўсе яны маюць значэнне аднаго спосабу дзеяслоўнага дзеяння – 'дадаткова ажыццявіць дзеянне з нязначнай інтэнсіўнасцю' – закончанага (*падзарадзіць, падлашчыць, падпсаваць* і інш.) ці незакончанага (*падкрытыкоўваць*) трывання: "Памятайце, што шчыльнасць электраліту для зімовага перыяду павінна быць не менш 1,29. Калі батарэя адносна новая (праслужыла 3–4 гады), то дастаткова будзе пачысціць клемы і *падзарадзіць"* (*Аўтапарады: Каб зіма не застала знянацку*, "Звязда" 2007, № 216).

Сярод маўленчых рэалізацый рэгулярных патэнцыяльных членаў дзеяслоўных парадыгм лексемы гэтай словаўтваральнай мадэлі не выглядаюць прадуктыўнымі, хоць гэты тып у свой час быў ахарактарызаваны як прадуктыўны[2].

***Пера-***. Дзеясловы з прэфіксам *пера-* (каля 25 адзінак) перадаюць значэнні наступных спосабаў дзеяслоўнага дзеяння: 'накіраваць дзеянне з аднаго месца ў другое цераз прадмет або прастору' (*перакульгаць*),

[1] *Ibidem*, с. 333.
[2] *Ibidem*, с. 333–334.

‘паўторна, інакш, па-новаму ажыццявіць дзеянне’ (*пераагучыць, перазамацаваць* – закончанае трыванне, *перазацвердзіць – перазацвярджаць, пераарыентоўваць, перанакіроўваць, пераўладкоўваць* – незакончанае трыванне), ‘давесці дзеянне да празмернасці’ (*пераўшчыльніць, перанапоўніць* і інш.), ‘пераўзысці каго-небудзь у выкананні дзеяння’ (*перахітраць* [незакончанае трыванне]), ‘ажыццявіць мнагакратнае або пачарговае дзеянне, распаўсюдзіўшы яго на ўсе або многія аб’екты, на ўсіх або многіх суб’ектаў’ (*перадваіць, пераглядзець* (літарат. *перагледзець* мае толькі значэнне ‘агледзець, разгледзець нанава’ – *ТСБЛМ*, *перарыхліць* і інш.).

Сярод пералічаных дзеясловаў нямала такіх, што ўжываюцца пераважна ў афіцыйна-дзелавым стылі (*перазамацаваць, перазацвердзіць – перазацвярджаць, пераарыентоўваць, перанакіроўваць, пераўладкоўваць*, *пераўшчыльніць* і інш.) і могуць быць ацэнены ці як вынік уплыву адпаведных рускіх канцылярызмаў, ці як агульная руска-беларуская сукупнасць канцэлярызмаў: “Так, у апошнія гады беларусы сталі набываць усё больш дарагіх шакаладных цукерак, цукерак у каробках і шакаладу. А вось попыт на карамель упаў, таму айчынныя вытворцы вымушаны тэрмінова *пераарыентоўвацца* на іншыя віды прадукцыі” (Н. Нікалаева, *“Спартак” рыхтуе “прэм’еру” новага кандытарскага брэнда*, “Звязда” 2007,).

Дзеясловы з прэфіксам ***пра-*** – самая аб’ёмная група сярод прэфіксальных дэрыватаў, іх каля 90. *Беларуская граматыка* таксама характарызуе гэты тып як прадуктыўны, асабліва ў гутарковай мове[1]. Сярод лексем з прэфіксам *пра-* пададзены ўсе вылучаныя ў беларускай мове спосабы дзеяслоўнага дзеяння, уласцівыя такім дэрыватам: ‘накіраваць дзеянне праз што-небудзь, у глыбіню чаго-небудзь’ (*правінчваць* і інш.), ‘накіраваць дзеянне паблізу прадмета’ (*прашмаргнуць* [роднаснае літарат. *шморгнуць, шмангануць – ТСБЛМ*] і інш.), ‘ажыццяўляць дзеянне на працягу нейкага часу, звычайна доўгага’ (*прабалансаваць, прабедаваць, праблудзіць, празасядаць* і мн. інш.), ‘страціць, зрасходаваць што-небудзь з дапамогай адпаведнага дзеяння’ – *пражраць* (*< жраць – ТСБЛМ*), ‘старанна, інтэнсіўна ажыццявіць дзеянне’ (*прабамбіць* і інш.), ‘прапусціць, не заўважыць чаго-небудзь пры ажыццяўленні адпаведнага дзеяння’ (*прадрыхнуць, прадурэць* і інш.), ‘давесці дзеянне да выніку’ (*праплаціць, прафінансаваць, праінтэрв’юіраваць, пралагарыфмаваць, пратэсціраваць*). Самым распаўсюджаным з названых спосабаў дзеяслоўнага дзеяння з’яўляюцца ‘ажыццяўляць дзеянне на працягу нейкага часу, звычайна доўгага’ і ‘давесці дзеянне да выніку’: “Сяльчане *прабедавалі* колькі месяцаў ды й пайшлі шукаць праўды...” (М. Солапаў, *Спявак і лёс*, “Літаратура і мастацтва” 2003, № 20); “*Праплаціш* – атрымаеш, а калі не – дык прабачце” (Т. Андрэйчанка, *Пуціны ў вечнасці жыцця: постмадэрнісцкі варыянт*, “Літаратура і мастацтва” 2003, № 24).

---

[1] *Ibidem*.

Аб'ёмнасць разглядаемай групы дае магчымасць убачыць рэалізацыю багатых словаўтваральных магчымасцяў дзеясловаў, якія датычаць утварэння розных трыванняў і спосабаў дзеяслоўнага дзеяння ад адной асновы, напрыклад, *праблiскаць* – *праблiскваць* – *праблiснуць* – *праблiшчаць*.

Дзеясловы з прэфіксам ***пры-*** (каля 30 адзінак) пераважна незакончанага трывання – рэгулярныя ўтварэнні ад адпаведных перфектных дзеясловаў (*прыкатваць, прыклёпваць, прырысоўваць, прыстыкоўваць, прытульваць, прыўлашчыць, прыхвальваць* і інш.), радзей – прэфіксальныя дэрываты ад адпаведных бяспрэфіксных дзеясловаў (*прылуняць* [бяспрэфіксн. літарат. *лунаць*], *прымарыць, прыплеснець, прышаркнуць, прыштурхаць* і інш.). Дэрыват *прытупліваць* – альтэрнатыўнае *прытупляць* ўтварэнне незакончанага трывання (*прытупляць* [*прытупліваць*] *зрок*).

У межах дадзенай групы ёсць некалькі трывальных пар: *прымасліць* – *прымасліваць, прырубіць* – *прырубліваць, прыснасціць* – *прыснашчаць, прыхмурыць* – *прыхмурваць, прыцэліць* – *прыцэльваць*. Сярод такіх пар сустракаюцца русізмы: *прысачыніць* – *прысачыняць* (у *ТСБМ* зафіксавана толькі лексема *сачыненне* – запазычанне з рускай мовы).

***Раз-/рас-***. Дзеясловаў з прэфіксам *раз-/рас-* – каля 20, прычым яны не кансалідаваны семантычна ў межах нейкага спосабу дзеяслоўнага дзеяння. Іх пераважная колькасць – рэгулярныя прэфіксальныя ўтварэнні закончанага (*разбаранаваць, раскудлачыць, расстрачыць, распырснуць* і інш.) і незакончанага трывання (*раздаўліваць, разрыхляць, распавядаць, рассмоктваць* і інш.). Ёсць трывальныя пары (*раздрукаваць* – *раздрукоўваць*), утвораныя ад даўняга запазычання з польскай мовы, і прэфіксальныя дэрываты ад навейшых запазычанняў, напрыклад, *разблакіраваць, распублікаваць*: "Галоўны рэдактар любіць *распавядаць* сваім падначаленым гісторыю пра сакрэт прыгажосці англійскіх газонаў" (І. Іванова, *Газетныя падшыўкі, як і рукапісы, не гараць!*, "Звязда" 2008, № 13).

Дзеяслоў *раздрукаваць* мае семантыку 'надрукаваць (часцей на прынтары) тэкст, які раней захоўваўся ў іншым выглядзе (файла, фанаграмы і інш.)': "Што да самога працэсу афармлення візы, ён будзе выглядаць прыкладна так: спачатку трэба падаць заяву (прычым робіцца гэта ў рэжыме он-лайн) і запісацца на прыём у пасольства ў зручны час, пасля таго трэба з'явіцца туды з раздрукаванай заявай і пашпартам (А. Мачалава, *Хочаш у Вялікабрытанію – здай адпячаткі пальцаў*, "Звязда" 2007, № 180–181).

У *ТСБМ* зафіксаваны дзеясловы *разважнічацца* і *разленавацца*, а ў рэестры новых прэфіксальных утварэнняў – рэалізацый патэнцыяльных месцаў у пэўных словаўтваральных тыпах – ёсць *разважнічаць, разленаваць*, прычым *разважнічаць* ужываецца як поўны сінонім *разважнічацца*, а *разленаваць* як каўзатыўны дзеяслоў, суадносны з некаўзатыўным *разленавацца*. Стандартнае станавае пераўтварэнне мае

месца не ў першым выпадку, калі ўзнікаюць неправамерныя дублеты, якія фармальна належаць да розных станавых рэалізацый, а ў другім, калі форма залежнага стану перадае ўласна-зваротнае значэнне, а незалежнага – каўзатыўнае. Аб правамернасці такога развіцця сведчыць далейшы працяг словаўтваральнага ланцужка – утварэнне абстрактнага назоўніка *разленаванасць* на базе патэнцыяльнага дзеепрыметніка (залежнага стану) *разленаваны*: "...Надзя падабалася яму яшчэ больш. Не падабалася яму толькі яе *разленаванасць*. Калі ён адыходзіў на работу, Надзя ляжала ў ложку..." (А. Чарнышэвіч, *Калінішын зяць*).

***У-***. Лексем з прэфіксам *у-* – каля 10, як правіла, гэта стандартныя члены словаўтваральных ланцужкоў закончанага (*умураваць* і інш.) і незакончанага трывання (*уцямліваць, учадзьваць* і інш.). Акрамя такіх дэрыватаў, сустракаюцца прэфіксальныя дублеты літаратурных дзеясловаў (*умясціць* замест *змясціць*) і выпадкі, аналагічныя апісанаму вышэй *разленавацца – разленаваць*: *ухіліць* ужываецца як каўзатыў да літаратурнага *ўхіліцца* 'адмовіцца, устрымацца ад якіх-небудзь учынкаў, дзеянняў', прычым ужываецца актыўна: толькі на старонках "Звязды" знойдзена каля 150 кантэкстаў з дадзеным словам у значэнні 'прымусіць адмовіцца, устрымацца ад якіх-небудзь учынкаў, дзеянняў, выкараніць, знішчыць': "У выпадку нязначнага парушэння мы практыкуем простае напісанне пісьмаў у адрас партый, дзе гаворым, што маюцца парушэнні і прапануем іх *ухіліць*... Вядома ж, мы глядзім на тое, які час аб'ектыўна патрабуецца на ўхіленне парушэнняў. <…> Калі ж па суб'ектыўных прычынах партыя іх не *ўхіляе*, могуць быць прыменены больш сур'ёзныя меры адказнасці – такія, як прыпыненне дзейнасці партыі ці яе ліквідацыя ў судовым парадку (*Прамая лінія: Алег Сліжэўскі: "Агульная колькасць грамадзян, якія з'яўляюцца членамі дзеючых шаснаццаці партый, не перавышае 75 тысяч"*, "Звязда" 2007, № 185).

Такім чынам, *ухіліць* выступае як замяшчальнік літаратурнага *ўстараніць – устараняць* 'зжыць, ліквідаваць'. Ёсць нават прэфіксальныя дэрываты гэтага дзеяслова: "Такія меры перасцярогі ўведзены дзеля таго, каб *прадухіліць* магчымасць пранесці ў самалёт выбуховыя рэчывы з вадкіх кампанентаў" (М. Дзябёла, *Што нельга браць у самалёт?*, "Звязда" 2008, № 1).

***Уз-***. Утварэнне дзеясловаў з прэфіксам *уз-* не з'яўляецца прадуктыўнай мадэллю – такіх дэрыватаў толькі 5, прычым большая іх частка – альтэрнатыўная дэрывацыя да наяўных літаратурных варыянтаў. *Узбураць* – альтэрнатыўны суфіксальны дэрыват да літаратурнага *ўзбурваць* 'выводзіць са стану спакою, узбударажваць'; *успламянець*←*пламянець* пры літарат. *палымнець* (*ТСБМ*, *ТСБЛМ*). Прэфіксальны дэрыват *успламянець* утвораны ад незафіксаванага ў корпусе русізма *пламянець*, які рэалізуе іншую словаўтваральную мадэль, чым бел. *палымнець*, але на базе таго ж кораня.

***Дыс-, дэ-, рэ-.*** Сярод так званых патэнцыяльных дзеясловаў сустрэліся ўтвораныя ад запазычанняў пры дапамозе запазычаных прэфіксаў *дыс-* (*дысацыіраваць*), *дэ-* (*дэпрэміраваць, дэстабілізаваць, дэвулканізаваць, дэмаскаваць*), *рэ-* (*рэструктурызаваць*), якія з аднолькавай ступенню верагоднасці можна ідэнтыфікаваць і як уласныя дэрываты з запазычаных фармантаў, і як – суцэльныя запазычанні: “Пры гэтым прадстаўнік Міністэрства абароны патлумачыў, што будзе прыцягнута ўвага сіл, «якія і сёння спрабуюць раскачваць сітуацыю, і сёння *дэстабілізаваць* абстаноўку...»” (С. Кузняцоў, *Тэму далучэння Заходняй Беларусі да БССР чакае вялікая ўвага?*, “Звязда” 2007, № 169).

Лексема *рэструктурызаваць* актыўна ўжываецца і рэалізуе пашыраную парадыгму (зваротная форма *рэструктурызавацца*, дзеепрыметнік залежнага стану *рэструктурызаваны*) і словаўтваральную актыўнасць (напрыклад, назоўнік *рэструктурызацыя*, гл. ніжэй), нягледзячы на тое, што ў слоўніках (*ТСБМ*, *ТСБЛМ*) не падаецца ні *структураваць*, ні *структурызаваць*: “Прамысловасць Беларусі ў гэтым годзе паспяхова пераадолела этап адаптацыі да работы ва ўмовах новых цэн на энергарэсурсы, адзначыў міністр. Прэзідэнту было далажана аб праектах па *рэструктурызацыі* прамысловасці (*Прэс-служба Прэзідэнта РБ: Стратных прадпрыемстваў – у паўтара раза менш*, “Звязда” 2007, № 161).

Ужыванне ўтвораных ад аднаго дзеяслова лексем, якія належаць да розных часцін мовы, дазваляе гаварыць аб рэалізацыі ў бясконцым, імавернасным моры патэнцыяльных слоў не толькі словаўтваральных парадыгм, але і словаўтваральных гнёздаў і нават намінатыўных радоў у трактоўцы А.В. Нікіцевіча[1].

**Заключэнне**

У артыкуле прааналізавана і абагульнена спецыфіка ўтварэння і функцыянавання прэфіксальных дзеясловаў у сучаснай беларускай мове (пачатак XXI ст.). Сярод 1000 незафіксаваных у тлумачальных слоўніках беларускіх дзеясловаў рэпрэзентатыўнага корпуса тэкстаў такіх адзінак аказалася больш за 500 (як мінімум 50%). Параўнанне ступені прадуктыўнасці той ці іншай мадэлі па дадзеных *Беларускай граматыкі* (выданне 1985 г.) і па дадзеных, атрыманых у выніку аналізу корпуса слоў на базе *Машыннага фонду беларускай мовы* (2000-я гг.), незафіксаваных у тлумачальных слоўніках беларускай мовы, паказвае, што на дадзеным этапе развіцця беларускай мовы (пачатак XXI ст.) ступень прадуктыўнасці захоўваецца для большасці традыцыйных прэфіксальных мадэлей, за выключэннем дэрыватаў з прэфіксамі *вы-* і *пад-*. Мадэлі прэфіксацыі з гэтымі прэфіксамі сярод новых дзеясловаў распаўсюджаны мала. Вышэйсказанае сведчыць аб пэўнай маўленчай дынаміцы беларускай мовы ў XX–XXI стст. Разам

[1] А.В. Н и к и т е в и ч, *Русский глагол в номинативной системе языка: автореферат диссертации... доктора филологических наук: 10.02.02*, Минск 2005, с. 13.

з тым, у працэсе аналізу не выяўлены невядомыя раней прэфіксальныя мадэлі і пацверджаны патэнцыял раней зафіксаваных мадэлей. З улікам дадзеных аб устойлівасці суфіксальна-постфіксальных узораў словаўтварэння, гэта дазваляе адзначыць стабільнасць граматычнай мета-структуры сучаснай беларускай мовы ў цэлым.

*Aliaksandr Barkovich*

**Prefixal word-formation of new belarusian verbs: The corpus aspect**

A b s t r a c t

The article analyzes and summarizes the specifics of formation and functioning of prefixal verbs in the modern Belarusian language (beginning of the XXI century). Among the 1000 Belarusian verbs of the representative text corpus, which are non-fixed in the explanatory dictionaries, such units consists more than 500 (at least 50%). Conducted research testifies significant dynamics of the Belarusian language in the XX–XXI centuries. At the same time, the stability of the grammatical meta-structure of the modern Belarusian language was noted.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Ніна Баршчэўская**
Uniwersytet Warszawski
nbarszcz@uw.edu.pl

# Паляміка беларускае дыяспары са скептыкамі дзяржаўнасці беларускае мовы ў часы Вялікага Княства Літоўскага

Беларускія эміграцыйныя даследчыкі шмат увагі прысвячалі гісторыі развіцця роднае мовы. З асаблівай увагай адносіліся да тых старонак беларускае гісторыі, якія запісаліся інтэнсіўным росквітам мовы і культуры, таму хутка і востра рэагавалі на ўсе праявы прыніжэння ролі беларушчыны ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага ці спробы перайначвання гісторыі. Тлумачылі, што ў часы ВКЛ беларускую мову называлі літоўскай, і таму няма падстаў атаясамліваць яе з сённяшняй літоўскай мовай; выяснялі, што найбольш адпаведным акрэсленнем для тагачаснае беларушчыны з'яўляецца тэрмін старабеларуская мова; паказвалі яе ролю ў развіцці літаратурнага працэсу; пісалі пра адлюстраванне асаблівасцяў беларускага вымаўлення ў Аль-Кітабах; прыводзілі спосабы размежавання беларускіх ды ўкраінскіх тэкстаў XVI–XVII стагоддзяў.

**Літоўская мова ў часы ВКЛ – значыць беларуская: паляміка з польскімі даследчыкамі**

Беларуская мова, як асобная, пачала складацца яшчэ ў даўнія, пакрытыя сівізной часу, эпохі – напісаў Уладзімір Глыбінны ў артыкуле *Беларуская мова ў гісторыі Беларусі*[1], апублікаваным на старонках часопіса „Пагоня"[2]. Асабліва высокага ўзроўню дасягнула беларуская культура ў перыяд суцэльнае беларускае дзяржаўнасці, які пачаўся ў сярэдзіне XIII стагоддзя з утварэннем на беларускіх землях – Наваградчыне, Слонімшчыне, Ваўкавышчыне ды Гарадзеншчыне – беларускага княства на чале з Міндаўгам у Наваградку, які стуль пачаў заваёўваць літоўскія землі – Аўкштоту і Жамойць – і пераўтвараць іх у вялікую федэрацыйную беларуска-літоўскую дзяржаву. Літоўцы ў той час не мелі яшчэ свайго пісьменства і таму не дзіва, што ў новай дзяржаве беларуская мова стала мовай, якая панавала, мовай дыпла-

[1] У. Г л., *Беларуская мова ў гісторыі Беларусі, „Пагоня"* 1946, № 3, с. 36–38.
[2] „Пагоня" – літаратурны штомесячнік (з 3 нумара – літаратурна-гістарычны), які выдаваўся ў Зальцбургу. Нумары 1–4 выйшлі ў 1945–1946 гг.

матычных зносін, пісьменства, перапіскі і дзяржаўнага заканадаўства. Маецца тут на ўвазе *Літоўскі Статут,* які быў заснаваны на звычаёвым праве беларускага народа, выдадзены ў двух рукапісных рэдакцыях 1529 і 1566 гадоў ды ў адной друкаванай – 1588 года. А старэйшым выдатным юрыдычным помнікам на беларускай мове з'яўляецца *Статут Караля Казіміра* 1468 года.

У часы княжання Альгерда (1345–1377) беларуская мова афіцыйна была прызнана дзяржаўнай урадавай мовай. Усе дзяржаўныя акты пачалі пісацца па-беларуску. На працягу трох з паловай стагоддзяў, ад сярэдзіны XIV да канца XVII, калі дэкрэтам 1697 года беларуская мова была скасаваная як дзяржаўная і пісцам ВКЛ прыйшлося пісаць папольску, у дзяржаве панавала беларуская мова і афіцыйна прызнавалася ўсімі дзяржаўнымі дзеячамі за літаратурную, кніжную, дзяржаўную і ўрадавую мову. Фактычна, да канца XVIII стагоддзя беларуская мова ўжывалася як літаратурная. Гэтыя традыцыі пазней аднаўляліся цэлаю плеядаю беларускіх адраджэнцаў у XIX і XX стагоддзях.

Рыгор Максімовіч[1] у артыкуле пад назвай *Спрэчка пра дакумэнты, якіх не было*[2], змешчаным на старонках часопіса „Запісы"[3], звярнуў увагу на публікацыю Міхала Ромэра пад назвай *Літва*[4] ды артыкул Віктара Сукянніцкага[5] ў парыжскім польскім месячніку „Культура", у якіх паведамлялася, што адным з апошніх дакументаў Рэчы Паспалітае на літоўскай мове была справаздача дэлегатаў Вялікага Княства, якія былі высланыя да Белай Царквы на перамовы з Багданам Хмяльніцкім. Перамовы з Б. Хмяльніцкім адбываліся ў 1651 годзе. Дакументы ў той час пісаліся не на мове лятувіска-жамойцкай, але старабеларускай[6]. Дарэчы, у якасці водгуку на публікацыю В. Сукянніцкага напісаў пра гэта на старонках „Культуры" і Збігнеў Сямашка[7], а значна раней, у 1918 годзе вядомы польскі мовазнаўца Аляксандр Брукнер[8] адзначыў, што ўрадавай мовай на ўсёй Літве была старая беларуская мова, а тагачасны тэрмін літоўская мова значыць сёння беларуская мова, а не жамойцкая гаворка, як памылкова ўспрыняў гэта М. Ромэр. „Увесь час кажам «літоўскі, ліцьвін», але гэта толькі заміж «беларускі, беларус», бо ў 1510 г. пра запраўдную этнаграфічную Літву ніхто й ня сьніў; Рэй яшчэ ў 1562 годзе ліцьвіном беларуса называў, а ў Маскве і ў XVII стагодзьдзі «літовский» тое самае, што «беларускі»"[9].

---

1 Псеўданім Вітаўта Тумаша.

2 Р. Максімовіч, *Спрэчка пра дакумэнты, якіх не было*, „Запісы" 1975, № 13, с. 77–81.

3 „Запісы" – навуковы часопіс, які выдаецца з 1952 г. па сённяшні дзень БІНіМ-ам у Нью-Ёрку. У 1962–1970 гг. выходзіў у Мюнхене.

4 M. Romer, *Litva*, Lwów 1908, s. 19.

5 W. Sukiennicki, *„Rara avis" czyli o Litwinach mówiących po polsku*, „Kultura" 1972, № 12, s. 47.

6 Р. Максімовіч, *Спрэчка пра дакумэнты...,* с. 78.

7 Z.S. Siemaszko, *List do Redakcji*, „Kultura" 1973, № 3, s. 154.

8 A. Bruckner, *Z niwy białoruskiej*, Kraków 1918, s. 3–5.

9 A. Bruckner, *Rusko-polski rękopis z r. 1510*, „Slavia" 1928, № VII, s. 10–11; цыт. па: Р. Максімовіч, *Спрэчка пра дакумэнты...,* с. 79.

Не толькі на ўсходзе Еўропы, але і на захадзе пад літоўскай мовай разумелася славянская. Энеа Сільвіа Пікаламіні (пазнейшы Папа Рымскі Пій ІІ) пісаў, што Літва мяжуе з Польшчаю ад усходу, а мова народа славянская. Гартман Шэдэль, аўтар слаўнае ў сваю пару нюрнбергскае *Хронікі свету*, адзначыў у 1493 годзе пры апісанні Літвы, што мова гэтага народа „вэндыйская". Таксама Ян Коклес Норык у 1511 годзе пісаў пра ліцвінаў, што карыстаюцца славянскаю моваю. Гэтак жа і Ян Багемскі ў 1538 годзе сцвердзіў, што мова жыхароў Літвы, як і палякаў, славянская[1].

Назва літоўская мова замацавалася за „летувіска-жамойцкаю" толькі ў XIX стагоддзі. Літоўская мова ніколі не была дзяржаўнаю моваю Вялікага Княства Літоўскага. Нельга карыстацца сённяшняй тэрміналогіяй дзеля апісання ранейшых стагоддзяў, але трэба прачытаць хоць бы прадмову да напісанага па-беларуску *Статута Вялікага Княства Літоўскага* 1588 года аўтарства вялікага канцлера літоўскага Льва Сапегі, цытату з якое прыводзіць Янка Запруднік[2]: „А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчым якым языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу чого нам потреба ку отпору всякое кривды ведати можем"[3].

**Мова „старажытнаруская", „заходняруская" ці старабеларуская?**

„Навіны зь Беларусі"[4] ў публікацыі пад назвай *Дзяржаўная мова Вялікага Княства Літоўскага*[5] паведамлялі пра выданне „Народнай асветай" кнігі Аляксандра Крывіцкага *Наша родная мова*, змяшчаючы рэцэнзію Вячаслава Чамярыцкага, перадрукаваную з часопіса „Полымя". В. Чамярыцкі звярнуў увагу на некаторыя недакладнасці ў кнізе А. Крывіцкага. Асабліва крытыкаваў рэцэнзент погляды А. Крывіцкага што да гістарычнага працэсу развіцця беларускае мовы і тэндэнцыю аўтара называць беларускую мову эпохі Вялікага Княства Літоўскага „старажытнарускай" або „заходнярускай" мовай. Аўтар „Навінаў зь Беларусі" паведамляе, што Яўхім Карскі на IX Археалагічным з'ездзе ў Вільні ў 1893 годзе, расказаўшы пра тое, як звычайна называлася беларуская мова ў старых пісьмовых помніках, пазнаёміўшы з асаблівасцямі старабеларускае мовы і сучаснае беларускае ды разгледзеўшы розныя погляды на яе сярод вучоных, адзначыў, што „старая заходняруская гаворка, будучы гутарковай у вуснах адукаванага грамадства, заўсёды базавалася на мове простага народу мясцовага беларускага

---

[1] Р. Максімовіч, *Спрэчка пра дакумэнты...*

[2] Я. Запруднік, *Дзяржаўнасьць Беларусі ў дасавецкую пару*, „Запісы" 1977, № 15, с. 3–22.

[3] *Ibidem*, с. 18.

[4] „Навіны зь Беларусі"– часопіс, які выдаваўся ў Нью-Ёрку з 1963 г. Да 1969 г. выйшлі 143 нумары. На яго старонках публікаваліся фрагменты прац, выдадзеных у Беларусі.

[5] *Дзяржаўная мова Вялікага Княства Літоўскага*, „Навіны зь Беларусі" 1966, № 20 (67), с. 6–7.

племя. З прычыны зазначанай акалічнасьці, дзеля перавагі ў ёй элемэнтаў беларускай мовы, і называць яе трэба мовай беларускай, дадаючы хіба для адрозьненьня ад сучаснай беларускай мовы назву старой"[1]. З расейскіх вучоных гэтае самае думкі былі між іншым: Фёдар Буслаеў, Аляксей Сабалеўскі, Іван Нядзешаў, Пётр Уладзіміраў і шмат іншых, якія таксама бачылі недарэчнасць у тэрміне „заходняруская мова", замацаваным расейскай гістарыяграфіяй XIX стагоддзя. Пасля гэтае навукова абгрунтаванае заявы Я. Карскага ў літаратуры ўсё часцей на азначэнне мовы перыяду ВКЛ пачаў выкарыстоўвацца тэрмін „старая беларуская мова", які быў канчаткова замацаваны беларускай гістарыяграфіяй 20-х гадоў[2].

**Старабеларуская мова ў літаратурным працэсе: палеміка ў асяроддзі беларускае дыяспары**

На старонках беларускага эміграцыйнага часопіса „Літва"[3] была змешчана палемічная публікацыя Вацлава Пануцэвіча, у якой аспрэчвалася сцвярджэнне Антона Адамовіча пра тое, што старабеларуская мова, стаўшыся ў часы ВКЛ мовай урадавай, дзяржаўнай, мовай літаратурнага працэсу аднак не сталася[4]. Па словах А. Адамовіча, у якасці апошняе практыкаваўся царкоўна-славянска-беларускі гібрыд[5]. В. Пануцэвіч дакараў А. Адамовіча за тое, што ў той час, калі многія чужыя і свае даследчыкі, перад усім мовазнаўцы: м. інш. Міхаіл Каяловіч, Самуіл Ліндэ, Яўхім Карскі, Уладзімір Даль, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Аляксандр Брукнер, Тадэвуш Лер-Сплавінскі даказвалі беларускасць дзяржаўнае і літаратурнае мовы ВКЛ, то А. Адамовіч „з лёгкае рукі" называе яе „гібрыдам", „славяна-рускай", а ў найлепшым разе „славяна-беларуска-ўкраінска-рускай"[6].

В. Пануцэвіч адзначыў, што традыцыйны правапіс прысланяў вымову паасобных галосных. Аднак частыя памылкі на аканне, цвёрдыя галосныя пасля ***р***, ***ш***, ***ч*** даюць падставу меркаваць, што не было вялікае розніцы між народнаю і літаратурнаю мовай. В. Пануцэвіч спаслаўся на публікацыю Аляксандра Булыкі *Адлюстраванне вымаўлення ў старабеларускай арфаграфіі*[7], у якой А. Булыка падкрэсліваў, што назіралася неадпаведнасць паміж жывым вымаўленнем і кансерватыўным напісаннем, непазбежным вынікам чаго сталіся памылкі і апіскі. У старабеларускай пісьменнасці выявілася тэндэнцыя да фанетызацыі

---

1 *Ibidem*.

2 *Ibidem*, c. 7.

3 „Litva" – навуковы часопіс, які выдаваўся ў Чыкага ў 1967–1973 гг. Публікацыі на яго старонках закраналі перш за ўсё перыяд ВКЛ.

4 V. Panucevič, *Da pytańnia pra miesca Prancisia Bahuševica u historyi biełaruskaj litaratury (Artykuł A. Adamoviča u* „Zapisach" *3, 1964 h.)*, „Litva" 1967, № 1, s. 212–252.

5 *Ibidem*, s. 221.

6 *Ibidem*, s. 222–223.

7 А.М. Булыка, *Адлюстраванне вымаўлення ў старабеларускай арфаграфіі*, „Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук" 1966, № 1.

правапісу пры перадачы такіх важнейшых рысаў беларускае фанетыкі, як: пераход ***в*** у ***ў***, зацвярдзенне шыпячых, ***ц*** і ***р***. Разам з тым многія з'явы жывое народнае мовы, такія як дзеканне і цеканне, пераход ***л*** у ***ў***, аканне, падаўжэнне зычных не адлюстроўваліся зусім у большасці помнікаў альбо адлюстроўваліся вельмі слаба. Пераход ***в*** і ***у*** ў ***ў***, зацвярдзенне ***р, ш, ч, ц, ж*** ды падаўжэнне зычных адлюстроўвалася ўжо ў Смаленскай грамаце 1229 года (*уоздумал, оузяті; должон, разрушон*). Аканне ды дзеканне-цеканне выступала ў помніках XV–XVI стагоддзяў (*Гарасім, здарове, дрэва, на дарозе, сенажаті; людзі, выцесал, оцец, у роце; збавенне, каменне*)[1].

В. Пануцэвіч прыгадаў, што працэс беларусізацыі мовы ВКЛ асабліва моцна адзначыўся ў XVI–XVII стагоддзях. Францыск Скарына, перакладаючы і выдаючы друкам *Біблію* на тагачасную літаратурную мову, дадаў да ўсіх кніг павучальныя ўступы і пасляслоўі на мове канцылярыі ВКЛ пачатку XVI стагоддзя, а незразумелыя словы паясніў на палях, што можна лічыць пачаткам беларускае лексікаграфіі. Пазней беларускую лексікаграфію распрацоўвалі Лаўрэнцій Зізаній ды Памва Бярында[2].

*Біблія* Ф. Скарыны як літаратурны твор на зразумелай мове, у якой выяўляліся рысы жывое крывіцкае мовы, стварала асновы для нарастання і развіцця літаратурнага працэсу. Слядамі Ф. Скарыны пайшлі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, а за імі цэлая плеяда пісьменнікаў, навукоўцаў, палемістаў, гісторыкаў, паэтаў, што прывяло да развіцця школьніцтва, рэфармацыйнага і ўнійнага руху, друкарства ды дзяржаўна-эканамічнага ўздыму краіны. Паводле В. Пануцэвіча, народная крывіцкая мова поўнасцю сталася мовай літаратурнага працэсу ўсіх ягоных кірункаў: выступала ў юрыдычных актах, у хроніках і гістарычных творах, у рэлігійным і культурным жыцці ды ў мастацкай літаратуры. „Рускім" у гэтай літаратурнай старабеларускай мове заставаўся толькі традыцыйны нефанетычны правапіс і некаторыя выразы, накшталт лацінскіх у заходняй літаратуры, што дазваляла захоўваць традыцыйны каларыт[3].

У ацэнцы В. Пануцэвіча, літаратура перыяду XVI–XVII стагоддзяў сапраўды заслугоўвае на назву „залатога веку". У гэтым часе былі складзены шматлікія летапісы, дзённікі, аповесці з галіны рыцарскае гераічнае літаратуры, з'явіліся пераклады на крывіцкую мову. Існавала *Літоўская метрыка* – знакаміты архіў актаў ВКЛ. Развіваўся і вершаваны жанр. Вершы па-беларуску пісалі: Ф. Скарына, Андрэй Рымша, Герасім і Мялеці Сматрыцкія, Сымон Полацкі ды іншыя.

Факт, што напрыканцы XVI стагоддзя (1596 г.) Л. Зізаній выдаў свой *Лексіс* – беларускі слоўнік, у які ўключаны словы з народнае гутар-

[1] V. P a n u c e v i č, *Da pytańnia...*, s. 224–225.
[2] *Ibidem*, s. 226.
[3] *Ibidem*, s. 231.

ковае мовы, сведчыць пра патрэбу такое працы ў сувязі з тым, што славянска-руская мова была малазразумелай для жыхароў ВКЛ. Вось некалькі прыкладаў дзеля характарыстыкі:

| | | |
|---|---|---|
| Агнец | - | Баранак |
| Баня | - | Лазня |
| Безумен | - | Дурань |
| Блажэнство | - | Шчаслівасць |
| Всаднік | - | Коннік |
| Врач | - | Лекар, доктар і г. д. [1] |

Як відаць, тагачасная „простая мова" народа амаль не адрозніваецца ад сённяшняе беларускае мовы – заўважае В. Пануцэвіч, удзячны Л. Зізанію і за тое, што не забыў паставіць націскі на словах, бо гэта дае магчымасць дакладна пазнаць мову XVI стагоддзя.

Цікавы погляд В. Пануцэвіча таксама на ролю беларускае мовы ў пазнейшы перыяд –XVIII–XIX стагоддзяў. Не пагадзіўся ён з тэзісам, што пасля заняцця польскай мовай напрыканцы XVII стагоддзя функцыі дзяржаўнае мовы, беларуская мова перастала зусім развівацца. „Kali u narodzie paralelna raźvivałasia niekalki litaraturnych movau, to u niekatorych peryjadach jaho historyi nastupała pieratasouka viadučych litaraturnych movau. Takim čynam polskaja mova u 18–19 st.st. u našym litaraturnym pracesie zaniała viadučaje miesca. Ale heta nie značyć, što kryvickaja i inšyja movy našaha litaraturnaha pracesu byli zabaronieny, ci zamierli. Jany płyli mienšymi ciokami"[2]. У гэтым перыядзе развівалася школьная драма з дзвюма моўнымі стыхіямі: крывіцкай і польскай, народныя тэатры „батлейкі" з крывіцкімі інтэрмедыямі; развівалася вусная народная творчасць з песнямі, былінамі, паэтычнымі аповесцямі, казкамі і г. д.[3].

**Беларуская арабіца: адлюстраванне асаблівасцяў беларускага вымаўлення**

Прадстаўнікі беларускае дыяспары ў сваёй аргументацыі адклікаліся да навуковых публікацый у замежжы і ў самой Беларусі. Пра існаванне старых рукапісных кніг, напісаных па-беларуску, але арабскімі літарамі ведаў ужо ў палове XIX стагоддзя гісторык Антон Мухлінскі, але зацікаўленне беларускім пісьменствам арабіцай пачалося толькі пасля публікацыі ў 1918 годзе ў мінскім часопісе „Варта" артыкула Івана Луцкевіча пра знойдзены ім у ваколіцы Сорак-Татараў пад Вільняй *Аль Кітаб* – святую кнігу беларускіх мусульманаў[4].

---

[1] *Ibidem*, s. 248.
[2] *Ibidem*, s. 250.
[3] *Ibidem*, s. 250–252.
[4] Р. Максімовіч, *А.К. Антонович. Белорусские тексты, писаные арабским письмом, и их графико-орфографическая система, Вильнюс 1968, 418 б. + 28 ілюстрацыяў; The Byelorussian Tartars and their Writings, by G.M. Meredith-Owens and Alexander Nadson, "The Journal of Byelorussian Studies" 1970, vol. II, № 2, pp. 141–176 + illustrations)*, „Запісы" 1974, № 12, с. 112–116.

„Іван Луцкевіч у сваім артыкуле зьвярнуў увагу на тое, што ў пісаных арабіцай кнігах тарнуюцца адмысловыя літары для перадачы некаторых тых беларускіх гукаў, якіх не перадавала старая кірыліца, прыкладам ***дзь***, ***ць***. Гэта зацікавіла моваведаў і ад публікацыі І. Луцкевіча пачалося навуковае вывучэньне беларускіх тэкстаў пісаных арабіцай. Да сяньня нарасла пра іх ужо паважная літаратура. Да гэтае пары ня было аднак-жа нейкага ўліку пісаных арабіцай беларускіх кнігаў, іх вопісу, вывучэньня іх графікі й артаграфіі. Заданьне вось гэтае паставіў у сваёй працы А.К. Антановіч”[1].

Сваю мову татары, якія пасяліліся на Беларусі, хутка згубілі, бо жаніліся найчасцей з беларускамі ды сваіх дзяцей выхоўвалі ў беларускай мове, а мовы сваіх рэлігійных кніг – арабскай, а пазней турэцкай, яны ніколі масава не ведалі. Ведалі гэтыя мовы толькі іхныя мулы, якія ў часе рэлігійных абрадаў карысталіся кнігамі, напісанымі гэтымі мовамі. Моўнае абеларушванне татарскіх жыхароў Беларусі змусіла мулаў да перакладу рэлігійных кніг на беларускую мову, зразумелую для верных. Перакладзеныя тэксты запісваліся, аднак, арабскімі літарамі. Так з'явіліся мусульманскія кнігі, пісаныя па-беларуску, але арабскімі літарамі[2].

Антон Антановіч апісаў 24 рукапісы беларускіх мусульманаў. Яны, як правіла, двухмоўныя. Побач з арабскімі альбо турэцкімі тэкстамі даюцца беларускія, радзей польскія пераклады гэтых тэкстаў. „Паводле свайго зьместу рукапісныя кнігі беларускіх мусульманаў гэта ці ***кітабы*** – зборнікі рэлігійных і сьвецкіх легендаў і аповесьцяў, ці малога фармату, каб можна было насіць з сабой, маліцьвенікі ***хамаілы***, ці кнігі зь перапісанымі ў іх разьдзеламі Карану, ***тапсіры***, ці, урэшце, ***тэджвіды*** – павучэньні, як трэба чытаць Каран. Сярод пісаных арабіцай рукапісаў знайшлося й грашовае паквітаваньне ды вельмі цікавы, у 1836 годзе складзены, турэцка-беларускі слоўнік-размоўнік для тых беларускіх мусульманаў, якім у часе багамольнага падарожжа давялося-б быць у Турцыі”[3].

Каб дакладней перадаць вымову беларускіх гукаў, перакладчыкі і перапісчыкі мусульманскіх тэкстаў распрацавалі адпаведную графічную сістэму, і таму ёсць падставы называць яе „беларускай арабіцай”[4]. У пісаных арабскімі літарамі беларускіх тэкстах перадаваліся такія рысы беларускае мовы, як дзеканне, цеканне, аканне, асіміляцыйнае змякчэнне зычных.

Часопіс „Навіны зь Беларусі” перадрукаваў артыкул Аркадзя Жураўскага *Беларуская мова ў мусульманскай літаратуры*[5], у якім даслед-

---

[1] *Ibidem*, с. 112.
[2] *Ibidem*, с. 113.
[3] *Ibidem*, с. 114.
[4] *Ibidem*.
[5] А.І. Ж у р а ў с к і, *Беларуская мова ў мусульманскай літаратуры*, *„Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук” 1969, № 4, с. 140–142*, „Навіны зь Беларусі” 1969, № 19 (138), с. 5–7.

чык падкрэсліў, што гэтыя своеасаблівыя помнікі ўжо даўно звярнулі на сябе ўвагу навукоўцаў. З імі ў розныя часы знаёмілі навуковую грамадскасць польскія, беларускія, расейскія ды іншыя вучоныя: Генрых Флейшар, Антон Мухлінскі, Іван Луцкевіч, Ян Станкевіч, Яўхім Карскі, Якуб Шынкевіч, Ігнацы Крачкоўскі, Аляксандр Самойлавіч, Віталь Вольскі, Анджэй Заянчкоўскі, Мацей Канапацкі і іншыя[1]. У рэцэнзіі на працу А. Антановіча *Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система* А. Жураўскі напісаў, што татары ў Беларусі з'явіліся вельмі рана, спачатку як ваеннапалонныя, а затым як добраахвотныя пасяленцы. Апынуўшыся ў беларускім культурным і бытавым асяроддзі, яны ўжо каля сярэдзіны XVI стагоддзя забыліся сваю родную мову і перайшлі да карыстання мясцовай беларускай мовай. Для татарскага насельніцтва беларуская мова стала не толькі сродкам бытавых зносін, але і моваю некаторых відаў мусульманскае рэлігійнае літаратуры. Узнікненне такіх твораў адносіцца прыкладна да сярэдзіны XVI стагоддзя, але захаваліся яны толькі ў пазнейшых спісах[2].

У храналагічных адносінах А. Антановіч вывучаныя помнікі размеркаваў наступным чынам: 3 рукапісы адносяцца да XVII стагоддзя, 9 – да XVIII, 11 – да XIX і 1 – да XX стагоддзя[3].

Разгледжаныя помнікі маюць вялікае значэнне для гісторыі беларускае мовы перш за ўсё дзякуючы таму, што запісаныя яны ў большасці з перавагаю фанетычнага прынцыпу правапісу, у адрозненне ад уласнабеларускіх помнікаў кірылаўскага пісьма, якія запісваліся згодна з этымалагічна-марфалагічным прынцыпам, у сувязі з чым спецыфічныя фанетычныя асаблівасці беларускае мовы ў іх альбо зусім не адлюстроўваюцца, альбо трапляюцца толькі спарадычна ў выглядзе памылак. У адрозненне ад гэтага мусульманскія тэксты больш шырока перадаюць некаторыя асаблівасці беларускага вымаўлення. Увогуле мова беларускіх тэкстаў, напісаных арабскім пісьмом, вельмі блізкая да народна-гутарковае. У ёй знайшлі сваё яркае адлюстраванне многія мясцовыя асаблівасці паўднёва-заходняга беларускага дыялекту, а таксама невялікае паласы сярэднебеларускіх і паўднёва-заходняе часткі полацкае групы беларускіх гаворак[4].

Ацэньваючы даследаванне А. Антановіча, А. Жураўскі падкрэсліў, што помнікі, напісаныя арабскім пісьмом, утвараюць вельмі каштоўны дадатак да беларускае кірылаўскае пісьменнасці таго часу. Параўнальнае іх вывучэнне адкрывае магчымасць пастаноўкі і вырашэння многіх пытанняў гісторыі беларускае мовы, у першую чаргу такіх, як праблема адносінаў старое беларускае літаратурнае мовы да народна-гутарковае, грамадска-культурныя функцыі старое беларускае мовы, некато-

[1] *Ibidem*, с. 5.
[2] *Ibidem*, с. 6.
[3] *Ibidem*.
[4] *Ibidem*.

рыя аспекты беларуска-польскіх моўных адносінаў і іншыя. Каштоўнымі з'яўляюцца разгледжаныя рукапісы і для вывучэння многіх пытанняў гістарычнае дыялекталогіі беларускае мовы[1].

У 1970 годзе ў Лондане была апублікаваная чарговая праца пра беларускае пісьменства арабіцай аўтарства Гарэта Мэрэдыт-Оўэнса ды Аляксандра Надсана, у якой даецца характарыстыка трох знойдзеных у Лондане рукапісных кніг беларускіх мусульманаў – ***тапсіра***, ***хамаіла*** і ***кітаба***. Тапсір быў напісаны ў 1725 годзе, праўдападобна, у Мінску Багданам Асановічам. Пад пісанымі арабскаю моваю радкамі дадзены пераклад на польскую мову, але з моцнымі беларускімі асаблівасцямі. Хамаіл быў напісаны ў 1828 годзе Мустафой Багдановічам у Слоніме. У кнізе тэксты арабскія і турэцкія з беларускімі і польскімі паясненнямі. Кітаб напісаны, відавочна, у XVIII стагоддзі. Пад турэцкім або арабскім тэкстамі дадзены арабіцай беларускі іх пераклад[2].

„Праца Мэрэдыт-Оўэнса ды Надсона дае шмат цытатаў з новазнойдзеных кнігаў беларускіх мусульманаў у ангельскім перакладзе. Пры канцы памешчана сем рэпрадукцыяў з прыкладамі пісьма гэтых кнігаў, дадзеная лацінічная транслітарацыя беларускіх іх тэкстаў з ангельскімі іх перакладамі. Ёсьць і табліца ўжываных у пісьменстве беларускіх мусульманаў арабскіх літараў ды пісьмовых знакаў, з паказаньнем гукавога іх значаньня ды спосабу транслітарацыі беларускаю лацініцай. <…> Паведамленьне пра знаход кнігаў карыснае й гэтым, што дадзенае ў мове ангельскай і веду пра пісаныя пабеларуску арабіцай кнігі шырыць у навуковым сьвеце Захаду”[3].

**Спосабы размежавання беларускіх ды ўкраінскіх тэкстаў XVI–XVII стагоддзяў**

Цэлае стагоддзе вяліся спрэчкі, як размежаваць беларускія ды ўкраінскія тэксты XVI–XVII стагоддзяў. Займаліся гэтым пытаннем: Яўхім Карскі, Паўло Жытэцкі, Вацлаў Ластоўскі, Аркадзь Жураўскі, Леў Шакун, Багдан Струмінскі, Паўло Плюшч, Хрыстыян Станг ды іншыя. Гэтым пытаннем заняўся таксама прафесар славянскіх моў Калюмбійскага ўніверсітэта ў Нью-Ёрку Юры Шавялёў, пра што паведаміў на старонках часопіса „Запісы” Р. Максімовіч[4].

Тэксты можна азначаць і класіфікаваць з пункту погляду гісторыі літаратуры, гісторыі стандартнае мовы ды гісторыі мовы гутарковай. Меркаваннем Ю. Шавялёва, трэба гаварыць пра адзіны літаратурны працэс таго перыяду, бо беларусы ды большасць украінцаў (за выключэннем Букавіны і Закарпацця) жылі ў адным краі ды належалі да тае

---

[1] *Ibidem*, с. 6–7.

[2] Р. Максімовіч, *А.К. Антонович...*, с. 116.

[3] *Ibidem*.

[4] Р. Максімовіч, *George Y. Shevelov. Belorussian versus Ukrainian: Delimitation of Texts before A.D. 1569 (The Journal of Byelorussian Studies. London, vol. III, № 2, 1974. pp. 145–156)*, „Запісы” 1975, № 13, с. 112–119.

самае веры з гэтай самай царкоўнаславянскай мовай[1]. Аўтар уважае, што справа падобная таксама з мовамі стандартнымі: царкоўнай і свецкай. Царкоўнаю моваю заставалася ў істоце царкоўнаславянская мова не толькі ў літургічных кнігах, але таксама ў арыгінальных творах. Мясцовыя асаблівасці пранікалі ў гэтыя тэксты, але несвядома. Пра свецкую мову Ю. Шавялёў пісаў, што калі заставацца ў межах пары, якая канчаецца 1577 годам і абысці лексічныя ды сінтаксічныя паланізмы, дык азначэнне Я. Карскім у 1893 годзе гэтае мовы як беларускае правільнае. Можна ісці нават далей і казаць пра ейную паўночна-цэнтральную беларускую дыялектную аснову. Мова гэтая была супольнай для беларусаў і ўкраінцаў. Толькі часам уводзіліся ўкраінцамі некторыя асаблівасці ўкраінскае мовы.

Калі нехта гаворыць пра ўкраінскую літаратурную мову XVI стагоддзя, дык свядома ці несвядома ўжывае двухсэнсавы тэрмін. Гэта правільна ў дачыненні да мовы, якою карысталіся ўкраінцы, але памылкова, калі разумеецца стандартная мова, заснаваная на ўкраінскіх дыялектах ды сфармаваная ўкраінцамі для свайго карыстання. На думку Ю. Шавялёва, такой украінскай літаратурнай мовы ў той час не было.

У адваротнасць да адзінства стандартнае пісьмовае мовы, не было адзінства ў мове гутарковай, якая, аднак, не была толькі зборам рэгіянальных дыялектаў. Такія дыялекты, пэўна, існавалі, але падпарадкоўваліся больш агульным узорам.

Размежаванне беларускіх і ўкраінскіх тэкстаў, меркаваннем Ю. Шавялёва, магчыма правесці на аснове фанетычных ды правапісных асаблівасцяў. Даследчык прапанаваў узяць пад увагу 9 заменаў у пісьмовай мове ды 6 найчасцей сустраканых памылак.

У групе ***заменаў*** аўтар звярнуў увагу на наступныя:

1. Замена літары ***ѣ (яць)*** на ***е*** сведчыць пра беларускасць тэксту, захаванне ***яць*** ва ўсіх становішчах – пра ўкраінскасць, а захаванне ***яць*** толькі пад націскам пры замене на ***е*** ў ненаціскным становішчы – пра паходжанне тэксту з тэрыторыі палескіх гаворак, пераходных ад беларускае да ўкраінскае мовы.

2. Замена старых злучэнняў з ***ръ*** і ***рь*** на ***ры*** ў становішчы паміж зычнымі сведчыць пра беларускасць альбо палескасць паходжання тэксту, а замена іх на ***р*** – пра ўкраінскасць.

3. Рэфлекс старога ***э*** насавога (як польскае ***ę***) як літара ***е*** сведчыць пра беларускасць альбо палескасць, як літара ***я*** – пра ўкраінскасць.

4. Замена ***ѣ*** на ***і*** ва ўскосных склонах займенніка *(у)весь* сведчыць пра беларускасць альбо палескасць, а захаванне ***яць*** – пра ўкраінскасць.

5. Заканчэньні некаторых прыслоўяў на ***-куле/-куль, -туле/-туль*** сведчаць пра беларускасць альбо, магчыма, палескасць, а на ***-коле/-коль, -толе/-толь*** – пра ўкраінскасць.

[1] *Ibidem*, с. 114.

6. Часцейшае ўжыванне ***о*** пасля шыпячых больш сведчыць на карысць беларускасці, а літары ***е*** – на карысць украінскасці (*жона* – *жена*).

7. Дыспалаталізацыя (зацвярдзенне) ***р*** у напісаннях ***ръ, ры, ра, ру*** замест ***рь, ри, ря, рю*** сведчыць больш на карысць беларускасці альбо палескасці паходжання тэксту (*урад* – *уряд*).

8. Дыспалаталізацыя шыпячых таксама больш сведчыць на карысць беларускасці альбо палескасці.

9. Канчатак роднага склону множнага ліку заўсёды ў выглядзе ***-ей*** больш сведчыць на карысць беларускасці, а ўжыванне канчатка ***-ый*** побач з ***-ей*** – на карысць украінскасці[1].

Сярод ***памылак*** трэба звяртаць увагу на наступныя:

1. Аканне ў тэкстах беларускага паходжання пры яго адсутнасці ў тэкстах паходжання ўкраінскага альбо палескага.

2. Адрозніванне літар ***і*** ды ***ы*** ў тэкстах беларускага паходжання, блытанне іх у тэкстах паходжання ўкраінскага ды часткова палескага.

3. Канчатак ***-е*** ў зборных назоўніках ніякага роду ў тэкстах беларускага альбо палескага паходжання пры канчатку ***-я*** ў тэкстах паходжання ўкраінскага.

4. Прыстаўное ***в*** у тэкстах беларускага паходжання.

5. Большая схільнасць замяняць літару ***і*** на ***ы*** на пачатку слова пасля прыназоўнікаў у тэкстах беларускага паходжання.

6. Замена ***л*** на ***в*** пасля ***о*** з **ъ** і перад зычнымі (і ў мужчынскім родзе дзеясловаў адзіночнага ліку прошлага часу) у тэкстах ранняе пары сведчыць на карысць беларускасці іхнага паходжання[2].

На гэтай падставе Ю. Шавялёў не сумняецца ў беларускасці такіх аповесцяў, як *Трыстан*, *Гвідон*, *Атыла*, *Троя*, *Страсці Хрыстовы*, *Пра трох каралёў*. Яны вольныя ад украінскіх уплываў.

З другога боку, існуюць тэксты бясспрэчна ўкраінскія, як *Перасопніцкае Евангелле* 1556–1561. Але чыста ўкраінскія тэксты рэдкія, часцей спалучаюцца ў іх беларускія ды ўкраінскія асаблівасці. Такія тэксты паходзяць звычайна, хоць не заўсёды, з тэрыторыі Украіны[3].

Тэксты моўна мяшаныя трэба прызнаць мяшанымі ды выкарыстоўваць іхныя ўкраінізмы для гісторыі ўкраінскае мовы, а беларусізмы – для гісторыі беларускае мовы[4].

На старонках часопіса „Навіны зь Беларусі" з'явілася паведамленне пад назвай *Пра беларускасць мовы Вялікага Княства Літоўскага*[5], у якім цытуюцца выказванні навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР Міколы Прашковіча, апублікаваныя ў „ЛіМе"[6].

[1] *Ibidem*, c. 115–116.
[2] *Ibidem*, c. 116.
[3] *Ibidem*.
[4] *Ibidem*.
[5] *Пра беларускасьць мовы Вялікага Княства Літоўскага*, „Навіны зь Беларусі" 1965, № 4 (27), c. 3.
[6] „Літаратура і Мастацтва" 1965, 12 лют.

Аўтар артыкула піша пра ўкраінскія літаратуразнаўчыя даследаванні, асаблівую ўвагу звяртаючы на працу Парфірыя Яроменкі пад назвай *Украінскі пісьменнік-палеміст Хрыстафор Філалет і яго Апокрысіс*[1]. Беларускага даследчыка насцярожыла, як сам сказаў, адна сур'ёзная недакладнасць, а менавіта, дакладна не ўстаноўленае аўтарства *Апокрысіса*, які выдаваўся двойчы: першы раз ён выйшаў у Вільні ў 1597 годзе на польскай мове, а другі раз у перакладзе ў 1599 годзе ў Астрозе на Валыні. Праўдападобна, быў ён напісаны палякам-пратэстантам Мартынам Бранеўскім. Я. Карскі мову перакладу назваў заходнярускаю, г. зн. беларускаю, таму што ўкраінскую мову ён заўсёды называў паўднёварускаю альбо маларускаю. Беларускай назвалі яе таксама В. Вольскі і Аляксандр Коршунаў. У сваю чаргу паводле П. Яроменкі, *Апокрысіс* выдаваўся дзвюма мовамі: польскай і ўкраінскай альбо, дакладней – украінска-беларускай. У ацэнцы М. Прашковіча, не трэба ламацца ў адчыненыя дзверы, хопіць звярнуцца да гісторыі. „Пасьля ўтварэньня Вялікага княства Літоўскага беларуская мова стала дзяржаўнай ня толькі для Беларусаў, але й для Літоўцаў. Пазьней-жа да Вялікага княства Літоўскага была далучаная большая частка ўкраінскіх зямель, і беларуская мова, як дзяржаўная й літаратурная, мэханічна была пашырана й на ўкраінскія землі, дзе бытавала прыкладна да 30-х гадоў XVII стагодзьдзя. Адсюль зразумела, што *Апокрысіс* мог быць перакладзены з польскай мовы толькі ў беларускую літаратурную мову таго часу”[2].

На старонках часопіса „Літва” былі змешчаныя *Заўвагі* В. Пануцэвіча да публікацыі Уладзіміра Анічэнкі *Аб украінскай лексічнай варыянтнасці ў старабеларускай пісьменнасці*[3].

Беларускі даследчык адзначыў, што ўзбагачэнне старабеларускае пісьменнасці ўкраінскімі варыянтнымі формамі і словамі з'яўляецца цікавым і неабходным для вывучэння агульнае праблемы беларуска-ўкраінскіх пісьмовых сувязяў у мінуўшчыне. З'яўленне ў старабеларускай лексічнай сістэме ўкраінізмаў абумоўлена гісторыяй літаратурна-пісьмовае мовы Беларусі, вонкавымі ды ўнутранымі фактарамі, калі апрача беларускіх зямель, вялікая частка ўкраінскіх знаходзілася ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, а пазней – Рэчы Паспалітае. Гэты час датуецца канцом XVI стагоддзя. Тады замацавалася ды пазней доўга трывала літаратурная беларуская мова з некаторымі аспектамі ўкраінскае мовы. З часам, у XVII стагоддзі гэтая мова стала дыферэнцыявацца. На Беларусі яна ачысцілася ад украінізмаў, а на Украіне – узмоцнілася. Наяўным паказчыкам разыходжання між беларускай і ўкраінскай мовамі з'яўляецца слоўнік першае паловы XVIII стагоддзя Памвы Бярынды[4].

---

[1] *Пра беларускасьць...,* с. 3.
[2] *Ibidem*, с. 4.
[3] V. P. (Vacłau Panucevič. – *N. B.*), *Ab ukrainskaj leksičnaj varyjantnaści u starabiełaruskaj piśmiennaści. U.V. Aničenka, Vieści AN BSSR № 5, 1969. Zauvahi*, „Litva” 1970, № 4, s. 267–272.
[4] *Ibidem*, s. 267.

Удзельная вага ўкраінскіх слоў у старабеларускай пісьменнасці была неаднолькавай на працягу ўсяе гісторыі развіцця беларуска-ўкраінскіх моўных сувязяў. Найбольш развітай была тэндэнцыя росту ўкраінізмаў на Беларусі з канца XVI – пачатку XVII стагоддзяў, калі многім дзеячам украінскае культуры прыходзілася жыць на тэрыторыі ВКЛ. Гэта быў час дзейнасці праваслаўных брацтваў на беларускай тэрыторыі.

Словы з характэрнай украінскай агалоскай, якія знаходзім у помніках старабеларускае пісьменнасці, неаднародныя. Іх можна выдзеліць у групы.

Першую, невялікую групу складаюць словы, утвораныя на аснове даўніх каранёў шляхам змены існых фанетычных працэсаў, якія з цягам часу сталіся характэрнымі для ўкраінскае мовы, напрыклад, трансфармаваная форма *чьто*. Пасля выпадзення *ера* ў слабым становішчы ў расейскай мове замацавалася яна ў пісьмовай форме як *что*, у беларускай – *што*, а ва ўкраінскай – *шчо*[1]. Ужыванне *шчо* зрэдку сустракаецца ў некаторых пісьмовых крыніцах, напісаных на тэрыторыі Беларусі. Форма *шчо*, частая ў палескіх гаворках, з'яўляецца паказчыкам, што аўтары паходзілі з Палесся, як, дапусцім, Фёдар Еўлашэўскі ці Апанас Берасцейскі. Іншыя прыклады лексічных украінізмаў – гэта: *сокыра* ці *котрый*[2].

Да другой групы ўкраінізмаў У. Анічэнка залічыў словы, якія розняцца ад беларускіх суфіксамі і прэфіксамі, як *опочінок* (*адпачынак*), *шчадок* (*нашчадак*). Паводле В. Пануцэвіча, скарочаныя формы слоў з прэфіксамі характэрныя не толькі для ўкраінскае мовы, але таксама і для беларускае, напрыклад, *шчэ* (замест *яшчэ*).

З нешматлікіх прыкладаў украінізмаў, якія сустракаюцца ў тэкстах старабеларускае пісьменнасці, вынікае, што не з'явіліся яны ў выніку панавання ўкраінскае мовы ў ВКЛ, але з'яўляюцца выпадковымі асаблівасцямі, якія замацаваліся з прычыны блізкасці паўднёвых беларускіх дыялектаў да паўночнаўкраінскіх, а таксама ў выніку кантактаў паміж беларускімі і ўкраінскімі культурна-рэлігійнымі дзеячамі. Не аказалі, аднак, яны ўплыву на развіццё беларускае мовы[3].

У прыведзенай аргументацыі беларускіх навукоўцаў у замежжы выразна выяўляецца спосаб правядзення палемічнай дыскусіі з прадстаўнікамі як беларускае дыяспары, гэтак і суседніх народаў, якія недаацэньвалі ролі беларускага літаратурнага працэсу ў часы ВКЛ ці свядома альбо з-за адсутнасці неабходных ведаў уводзілі сусветнае грамадства ў зман, пераносячы тэрміналогію з перыяду ВКЛ на сённяшні час і гэтым самым прыпісваючы прэстыж і заслугі беларускае мовы

---

[1] *Ibidem*, s. 268.
[2] *Ibidem*, s. 269–270.
[3] *Ibidem*, s. 271–272.

суседнім мовам. Дзеля пошуку неабходных аргументаў беларускія эміграцыйныя мовазнаўцы і гісторыкі адклікаліся да публікацый вучоных у цэлым свеце і, перадусім, у Беларусі.

*Nina Barszczewska*

**The controversy between the Belarusian diaspora and sceptics of the official status of the Belarusian language during the Great Duchy of Lithuania era**

A b s t r a c t

Belarusian researchers abroad have devoted considerable efforts to the study of their mother language's history. They have paid particular attention to those pages of Belarusian history that were enriched by the intensive development of the language and the culture. For that reason, they have always reacted quickly and harshly to all attempts to lower the rank of the Belarusian language in the context of the Grand Duchy of Lithuania. In opposition to representatives of neighbouring nations, they have referred to publications of other researchers worldwide, and especially from Belarus, which explain the linguistic and terminological differences that have appeared over the course of the centuries.

**Алена Рудэнка**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт
Rudenka@bsu.by

# Ступень абстракцыі катэгарыяльнай семантыкі дзеясловаў (на прыкладзе беларускай, рускай, польскай і чэшскай моў)

У сучаснай лінгвістыцы прынята наступная тыпалогія семантыкі ў залежнасці ад ступені распаўсюджання катэгорыі сярод лексічных адзінак: граматычная – словаўтваральная – катэгарыяльна-семантычная – лексіка-семантычная. Як суадносіцца семантычная дэрывацыя – развіццё новага значэння без змены формы – з рознымі відамі семантыкі? Якія ёсць асаблівасці такіх суадносін у дзеяслоўнай лексіцы сінтэтычных моў, у прыватнасці , беларускай і польскай?

Змена словазмяняльнага граматычнага значэння без змены формы слова магчымая толькі ў аналітычных мовах кшталту англійскай (тэрмін "семантычная дэрывацыя" ў дачыненні да такіх змен значэння звычайна не ўжываецца). Тое ж датычыць і класіфікацыйнага граматычнага значэння: у мовах, дзе ёсць марфалогія, яго змена звязаная са зменай граматычнай формы. Пераход з адной часціны мовы ў іншую ў сінтэтычных мовах (напрыклад, славянскіх) адбываецца разам з фармальнымі зменамі (бел. *золата – залаты*), а ў аналітычных можа выяўляцца толькі ў словазменнай парадыгме цалкам (напрыклад, англ. *a round table* 'круглы стол' – *a big round* 'вялікае кола'; *one round – two rounds* 'адно кола – два колы'). Толькі ў мовах, дзе перадача граматычнага значэння не звязана са зменай формы слова, а ажыццяўляецца аналітычнымі спосабамі, канверсія мае той самы выгляд, як і развіццё новага значэння – семантычная дэрывацыя. На шкале тыпалогіі семантыкі гэтыя катэгорыі аб'ядноўваюць значэнні ад катэгарыяльна-семантычных да класіфікацыйна-граматычных. У дачыненні да славянскага дзеяслова гаворка ідзе пра такія характарыстыкі, як трыванне, семантычны тып прэдыката (Т-катэгорыя), спосаб дзеяслоўнага дзеяння, пераходнасць, валентнасць, станавае значэнне. Названыя характарыстыкі звязаны з кваліфікацыяй дзеяслова па двух параметрах: тэмпаральна-аспектным і сінтаксічным – менавіта яны ствараюць базу найбольш распаўсюджаных спосабаў класіфікацыі дзеясловаў.

Славянскае трыванне адносяць да класіфікацыйных граматычных катэгорый і часта называюць лексіка-граматычнай катэгорыяй па наступных прычынах: па-першае, змена трывання, як правіла, цягне за сабою змену лексічнага значэння, а па-другое, адназначна рэгулярныя сродкі выражэння трывальнай семантыкі адсутнічаюць, хоць яна заўсёды выражаецца фармальна: прэфіксацыяй, суфіксацыяй і інш.

Тыпы значэнняў, якія перадаюцца часава-трывальнымі формамі дзеяслова, не атрымалі ў лінгвістычнай літаратуры адзінага тэрміналагічнага афармлення: іх называюць і Т-катэгорыямі, і семантычнымі тыпамі прэдыкатаў, і спосабамі дзяслоўнага дзеяння.

Тэрмін "спосаб дзеяслоўнага дзеяння" (Aktionsart) выкарыстоўваецца ў двух сэнсах: шырокім і вузкім. У вузкім сэнсе гэта разнастайныя асаблівасці працэсаў у дачыненні да іх працягласці і выніковасці, якасная своеасаблівасць іх працякання і заканчэння. Адрозненні тыпаў дзеясловаў па спосабах дзеяслоўнага дзеяння звязваюцца галоўным чынам з іх прэфіксамі і асобнымі спецыяльнымі суфіксамі. У гэтым, вузкім, сэнсе спосаб дзеяслоўнага дзеяння – гэта словаўтваральная катэгорыя, менш аб'ёмная і абавязковая, чым граматычная, але досыць рэгулярная.

Спосаб дзеяслоўнага дзеяння ў шырокім сэнсе – гэта розныя семантычныя прыкметы, якія характарызуюць спосаб працякання сітуацыі ў часе незалежна ад іх фармальнага выражэння. Гэтыя тыпы значэнняў часава-трывальных форм дзеяслова, ці то Т-катэгорыі, ці то семантычныя тыпы прэдыкатаў, – незалежна ад назвы гэта наступная, меншая ступень абагульнення пасля граматычных і словаўтваральных катэгорый. Яны вылучаюцца і верыфікуюцца сінтаксічна: праз спалучальнасць і дыягнастычныя кантэксты.

Традыцыйна вылучаюцца наступныя Т-катэгорыі, ці ўстойлівыя семантычныя тыпы, якія перадаюцца часава-трывальнымі формамі дзеясловаў: 1) пастаянныя ўласцівасці; 2) устойлівыя і часовыя станы; 3) працэсы, якія падзяляюцца на інактыўныя працэсы, дзейнасці і дзеянні, і 4) падзеі[1]. Апрача гэтага могуць вылучацца заняткі і паводзіны[2].

Даследаванне сінтаксічных характарыстык дзеясловаў звязана пераважна з вызначэннем іх месца ў структуры выказвання. На матэрыяле беларускай мовы такая праца была праведзеная і апісаная ў кнізе Віктара Мартынава, Паўла Шубы, Марыі Ярмаш *Марфемная дыстрыбуцыя ў беларускай мове*[3]. Аўтары многіх даследаванняў гэтага кірунку звяртаюцца да валентнаснага аналізу. У працах, прысвечаных гэтай тэматыцы, паказальныя два моманты. Па-першае, нягледзячы на ўяўную

---

1 Т.В. Б у л ы г и н а, А.Д. Ш м е л е в, *Языковая концептуализация мира*, Москва 1997; А.А. З а л и з н я к, А.Д. Ш м е л е в, *Лекции по русской аспектологии*, Мюнхен 1997.

2 Е.В. П а д у ч е в а, *Семантические исследования. Семантика времени и вида: Семантика нарратива*, Москва 1996.

3 В.У. М а р т ы н а ў, П.П. Ш у б а, М.І. Я р м а ш, *Марфемная дыстрыбуцыя ў беларускай мове, ч. 1: Дзеяслоў*, Мінск 1967.

асемантычнасць і фармальнасць, у іх звычайна рэалізаваны і фрагменты семантычнага аналізу. Характэрная ў гэтым сэнсе праца Юрыя Апрэсяна, дзе вынікам фармальнага колькаснага аналізу сталі класы дзеясловаў, цесна кансалідаваныя семантычна[1]. Па-другое, большасць даследчыкаў у гэтай галіне не абмяжоўваюцца ўзроўнем паверхневага сінтаксісу, а імкнуцца накіраваць аналіз ад паверхневых сінтаксічных структур да глыбінных семантычных склонаў ці ў зваротным кірунку – ад глыбіннага сінтаксісу да паверхневых структур натуральных моў. Праводзіцца і семантычная інтэрпрэтацыя ў тэрмінах аргументнай структуры праз устанаўленне дыятэзы. Натуральна, што такая накіраванасць не можа не абапірацца на зместавы кампанент сінтаксічных характарыстык дзеяслова – у пераважнай большасці даследаванняў такога плана, наадварот, падкрэсліваецца глыбокая зместавая сувязь сінтаксічных і семантычных дзеяслоўных характарыстык.

Такі пункт гледжання, што ўзыходзіць да семантыкі прэдыкатаў, яшчэ раз дэманструе, што ўласцівасці дзеяслова (семантычныя прыкметы, маркеры, множнікі і пад.) непарыўна звязаныя з яго функцыяй далучэння аргументаў – у паверхневай структуры натуральнай мовы гэта праяўляецца ў камбінаторных характарыстыках дзеяслова. Нельга не згадзіцца з Аленай Падучавай у тым, што “залежнасць паміж значэннем лексемы і зместам яе валентнасцяў; абмежаванні на граматычную характарыстыку лексем, якія запаўняюць валентнасці дадзенай лексемы (селектыўныя абмежаванні прыкмет); абмежаванні на тып сінтаксічнага ўжывання лексем з дадзеным значэннем <...> перанесены з глыбінных структур і таму матываваныя, г. зн. семантычныя”[2].

Сінтаксічныя характарыстыкі дзеяслова – гэта: 1) актантны тып, ці актантная структура – набор яго глыбінных склонаў; 2) семантычная, 3) лексічная і 4) сінтаксічная спалучальнасць, альбо валентнасць. Актантны тып дзеяслова непарыўна звязаны з яго семантыкай, і змена актантнага тыпу абавязкова цягне за сабою змену лексічнага значэння[3]. Сінтаксічная спалучальнасць – гэта колькасць пазіцый кіравання дзеяслова, іх абавязковасць ці факультатыўнасць; семантычная – гэта шырокія класы значэнняў падпарадкаваных лексем: адушаўлёнасць, канкрэтнасць, рэчыўнасць і пад.; лексічная – больш дробныя лексічныя групы, пэўныя лексемы і іх сінанімічныя рады.

З названых тыпаў спалучальнасці часцей за ўсё прыярытэтнымі характарыстыкамі дзеяслова лічаць яго сінтаксічную спалучальнасць, г. зн. мадэлі кіравання. Аднак семантычная валентнасць дзеяслова першасная ў адносінах да яго сінтаксічнай валентнасці, пра гэта сведчыць супастаўленне розных славянскіх моў. Змена валентнасці дзеяслова –

[1] Ю.Д. А п р е с я н, *Опыт описания значений глаголов по их синтаксическим признакам (типам управления)*, “Вопросы языкознания” 1965, № 5, с. 51–66.

[2] Е.В. П а д у ч е в а, *О семантике синтаксиса*, Москва 1974, с. 31.

[3] А.А. Х о л о д о в и ч, *Опыт теории подклассов слов*, “Вопросы языкознания” 1960, № 1, с. 37.

яго сінтаксічнай характарыстыкі – не заўсёды звязана са зменай лексічнага значэння (гл. сінанімічнасць беларускіх канструкцый *кінуць камень* і *кінуць камянём* і г. д.), а толькі тады, калі яно матывавана глыбіннай семантыкай, звязана са зменай глыбінных семантычных склонаў, а не з'яўляецца паверхневай характарыстыкай. Менавіта гэтым абумоўлена тое, што бел. *мысліць аб кім-небудзь/ мысліць пра каго-небудзь* не звязана са зменай лексічнага значэння дзеяслова, а *мысліць аб кім-небудзь* ʻдумацьʼ/ *мысліць на каго-небудзь* ʻзадумваць нешта дрэннаеʼ – звязана.

Ёсць прыклады, калі семантычнае дзеяслоўнае акружэнне мовы A не ідэнтычнае акружэнню адпаведнага дзеяслова ў мове B. У гэтым выпадку аднолькавыя сітуацыі апісваюцца ў адной мове пры дапамозе аднаго дзеяслова, а ў другой – пры дапамозе некалькіх. Мадэлі кіравання такіх лексем пры гэтым могуць быць ідэнтычныя. Напрыклад, у значэнні ʻаб некаторых механізмах, машынах: манатонна гудзецьʼ у беларускай (і рускай) мове немагчымае ўжыванне дзеяслова *бурчаць* (рус. *бурчать*). У гэтым значэнні ў беларускай мове ўжываецца дзеяслоў *гудзець* (рус. *гудеть*).

Розныя значэнні дзеяслова фіксуюцца ў тых выпадках, калі: 1) абавязковыя сінтаксічныя валентнасці аднолькавыя, але абавязковыя семантычныя валентнасці розныя. Напрыклад, бел. *забіваць* у значэнні ʻстанавіцца прычынай смерціʼ і ʻзнішчаць, уціскацьʼ кіруе аднолькавымі прыназоўнікавымі формамі, але семантычныя актантныя характарыстыкі дзеяслова розныя ў двух гэтых значэннях; 2) абавязковыя сінтаксічныя валентнасці аднолькавыя, але абавязковыя лексічныя валентнасці розныя. Так, польск. *malować* і ў значэнні ʻвыяўляць, перадаваць прадметы на плоскасціʼ, і ў значэнні ʻпакрываць фарбайʼ мае паверхневую рэпрэзентацыю kto maluje co. Дыферэнцыяцыя значэнняў магчымая дзякуючы таму, што ў якасці суб'екта выступаюць розныя лексемы (*Artysta maluje portret. – Chłopiec maluje samochody).* Факультатыўныя валентнасці пры гэтым таксама розныя (*malować ścianę na biało – malować kwiaty ołówkiem*); 3) абавязковыя сінтаксічныя і семантычныя валентнасці розныя. Напрыклад, і ў значэнні ʻдавіць, мяць нагаміʼ, і ў значэнні ʻхадзіць па якіх-н. месцах доўга, частаʼ польскі дзеяслоў *deptać* патрабуе ўказання на суб'ект і аб'ект дзеяння, але яго семантычная спалучальнасць і мадэлі кіравання пры гэтым розныя: *Depczesz mi po nogach. – Deptaliśmy sprawcom po piętach*.

Безумоўна, гэта не ўсе падставы вылучэння розных значэнняў дзеяслова, звязаныя са зменай таго ці іншага тыпу спалучальнасці. Напрыклад, па-рознаму праяўляюцца розныя лексічныя і семантычныя спалучальнасці; пры вылучэнні асобных значэнняў дзеяслова-полісеманта неабходна ўлічваць не толькі абавязковыя, але і факультатыўныя валентнасці, а таксама наяўнасць устойлівых мадэляў кіравання ў дзеясловаў з падобным значэннем, абумоўленых толькі паверхнева-фармальнымі прычынамі; адрозненне валентнасці дзеясловаў-адпа-

веднікаў у розных мовах у гэтых выпадках не абумоўлена семантыкай. Прывязём прыклады такіх мадэляў.

У чэшскай мове рэгулярна ўжываецца кіраванне акузатывам з прыназоўнікам *o* (гэтая мадэль не выкарыстоўваецца ў беларускай мове) пры дзеясловах з семантыкай: 1) ‛клапаціцца’ – *dbát, pečovat, starat se*; 2) ‛баяцца’ – *bát se* ‛баяцца’ *obávat se* ‛асцерагацца’; 3) ‛імкнуцца, хацець атрымаць што-н.’ – *bojovat* ‛змагацца’, *pokoušet se* ‛спрабаваць’, *prosit* ‛прасіць’, *usilovat* ‛імкнуцца’, *zajímat se* ‛цікавіцца’, *zápasit* ‛змагацца’, *zasloužit se* ‛заслужыць’, *žádat* ‛прасіць’, *soutěžit, soupeřit* ‛спаборнічаць’, *snažit se* ‛спрабаваць’. Шэраг адрозненняў у дзеяслоўным кіраванні паміж чэшскай і беларускай мовамі звязаны з наяўнасцю такое мадэлі ў чэшскай мове. Можна прывесці колькі чэшскіх дзеясловаў з аналагічным кіраваннем, менш кансалідаваных семантычна: *soudit se* ‛судзіцца’, *připravovat* ‛пазбаўляць’, *dělit se* ‛дзяліць’, *okrádat* ‛красці’, *opírat se* ‛абапірацца’, *přicházet* ‛пазбаўляцца’, *zkracovat* ‛скарачаць’, *rozšiřovat* ‛пашыраць’.

Тая ж мадэль кіравання ёсць і ў польскай мове; сярод дзеясловаў з такім кіраваннем можна вылучыць наступныя семантычныя групоўкі: 1) ‛клапаціцца’ – *dbać, troszczyć się, ubiegać się; martwić się* ‛хвалявацца’; 2) ‛баяцца за каго, што’ – *bać się o kogo, co; lękać się o kogo, co*; 3) ‛імкнуцца, хацець атрымаць што-н.’ – *błagać* ‛прасіць’, *dobijać się* ‛дабівацца’, *pokusić się* ‛асмеліцца’, *postarać się* ‛пастарацца’, *walczyć* ‛змагацца’, *wystąpić o co* ‛выступіць за што’, *żebrać* ‛прасіць’; 4) ‛сварыцца’ – *wadzić się, kłócić się; spierać się* ‛сварыцца’, параўн. чэш. *hádat se* ‛сварыцца’, *přít se* ‛сварыцца’.

У чэшскай мове дзеясловы з семантыкай ментальных дзеянняў і станаў часта ўжываюцца з акузатывам без прыназоўніка ці з прыназоўнікам *na*, у адрозненне ад беларускай (і рускай) мовы, дзе ў гэтых выпадках выкарыстоўваюцца іншыя віды кіравання, напрыклад, дэлібератыўнае кіраванне з прыназоўнікам *аб* ці акузатыў з прыназоўнікам *пра*. Беспрыназоўнікавы акузатыў часта ўжываецца ў чэшскай мове поруч з дзеясловамі з абагульненым значэннем: 1) ‛валодаць, кіраваць’ – *vlastnit, ovládat* ‛валодаць’, *řídit* ‛кіраваць’, *spravovat* ‛кіраваць, загадваць’, *dirigovat* ‛дырыжыраваць’, 2) ‛уздзейнічаць, уплываць’ – *ovlivňovat* ‛уплываць’, *napadat* ‛нападаць’, *otravovat* ‛надакучваць’, *zdravit* ‛вітацца’, *vyčítat* ‛папікаць’, 3) ‛следаваць, пераймаць’ – *pozorovat* ‛назіраць’, *sledovat* ‛сачыць’, *napodobovat* ‛пераймаць’, *obdivovat* ‛захапляцца’, *závidět* ‛зайздросціць’.

Акузатыў з прыназоўнікам *na* ў чэшскай мове часта звязаны з абазначэннем 1) разумовай дзейнасці: *myslit* ‛думаць’, *pamatovat* ‛помніць’, *pomýšlet* ‛падумваць’, *přicházet* ‛цяміць’, *zapomínat* ‛забываць’, *vzpomínat* ‛успамінаць’, *soustřeďovat se* ‛засяроджвацца’; 2) эмацыйнага стану: *nadávat* ‛лаяць’, *žárlit* ‛раўнаваць’, *usmívat se* ‛усміхацца’, *smát se* ‛смяяцца’, 3) накіраванасці на ўстанаўленне кантакту: *volat* ‛клікаць’, *obracet se* ‛звяртацца’, *upozorňovat* ‛звяртаць увагу’, *mávat* ‛махаць’, *mrkat* ‛пад-

моргваць', *ptát se, tázat se* 'пытацца', 4) некаторых канкрэтных дзеянняў: *mířit* 'мерыцца', *střílet* 'страляць', *sahat* 'дакранацца', *útočit* 'атакаваць', *klepat, bušit* 'стукаць'.

Аналагічныя прыклады ёсць і ў польскай мове (*czekać na kogo, co* 'чакаць', *podziwiać kogo, co* 'здзіўляцца', 'захапляцца', *zarzucać co* 'дакараць за што', *zemrzeć na co* 'памерці ад чаго'), аднак іх менш.

У польскай мове, у сваю чаргу, ёсць мадэлі і заканамернасці, не так характэрныя для чэшскай мовы (пры параўнанні з беларускай і рускай). У польскай мове больш частым, чым у беларускай ці рускай, з'яўляецца кіраванне (з прыназоўнікам ці без) генетывам: *chwycić się* 'схапіцца', *mieszać się do* 'умешвацца', *nadgryźć* 'надкусіць', *nadużywać* 'злоўжываць', *słuchać* 'слухаць' і інш. Генетыва з прыназоўнікам *do* ці без прыназоўніка патрабуюць многія дзеясловы з прэфіксам *do*-, адпаведнікі якіх у беларускай (і рускай) мовах маюць іншае кіраванне: *doglądać, dopaść, dopilnowywać* 'даглядаць', *dopełnić* 'выканаць', *dowiedzieć się* 'даведацца', *dowodzić* 'даказваць', *doznać* 'зведаць' і інш. У чэшскай мове таксама з родным склонам ужываюцца дзеясловы з прыназоўнікам *do* (як правіла, зваротныя) з агульнай семантыкай дасягнення, здзяйснення чаго-н.: *dopouštět se* 'дапускаць', *dotýkat se* 'дакранацца', *dožívat se* 'дажываць', *dopátrat se* 'дакапацца', *dovolat se* 'даклікацца'. Беспрыназоўнікавы генетыў часта сустракаецца і ў дзеясловаў з семантыкай выдалення, пазбаўлення: чэш. *vzdávat se* 'адмаўляцца', *pouštět se* 'адпускаць', *zříkat se* 'адракацца', *zbavovat se* 'збаўляцца', *zdržovat se* 'устрымлівацца'. Пры кіраванні генетывам у польскай і ў беларускай мовах можа не супадаць наяўнасць / адсутнасць прыназоўніка *do / да: dociec czego* 'дадумацца да чаго', *dopuścić do czego* '(не) дапусціць чаго', *dosłużyć się czego* 'даслужыцца да чаго' і інш.

У польскай і чэшскай мовах ёсць устойлівыя мадэлі кіравання, якія карэлююць з семантыкай дзеясловаў. Лексемы са значэннем 'кідаць' звычайна кіруюць творным склонам: польск. *ciskać, miotać, rzucać*, чэш. *házet, vrhat, mrštit, praštit.* Аналагічнае ўжыванне магчымае і ў беларускай (і ў рускай) мове (бел. *кінуць камнем*), аднак яно значна менш ужывальнае, чым прамое кіраванне акузатывам.

У беларускай і рускай мовах магчымыя канструкцыі тыпу бел. *хістаць галінамі*, рус. *качать ветвями*, аднак у заходнеславянскіх мовах кіраванне творным склонам пры дзеясловах з такой семантыкай значна больш рэгулярнае, гл. польск. *chwiać, kołysać,* чэш. *pohybovat, házet, kymácet*, пар. таксама кіраванне творным склонам у чэшскіх дзеясловаў са значэннем 'круціць' – *otáčet, točit, kroutit.*

Пераходнасць / непераходнасць (транзітыўнасць / нетранзітыўнасць), звязаную з актантным тыпам, адносяць да класіфікацыйных граматычных катэгорый з пэўнымі агаворкамі. Яна не мае тыповага для славянскіх моў унутрыслоўнага выяўлення, а выражаецца праз тып кіравання дзеяслова; фармальна маркіруюцца толькі пераходныя дзеясловы – шляхам станавых трансфармацый. Стан можа трактавацца як

словазмяняльная катэгорыя пераходных дзеясловаў (актыўны / пасіўны) і як катэгарыяльна-семантычная (актыў, пасіў, медыум, рэфлексіў, рэцыпрок, кааператыў, каўзатыў і інш.)[1]. Паколькі станавая семантыка ў славянскіх мовах непаслядоўна каардынуе з яе фармальным выражэннем (напрыклад, беларускі постфікс -*цца*, рус. -*ся (-сь)* не заўсёды абазначаюць уласна пасіў), то яна, як і Т-катэгорыя, верыфікуецца сінтаксічна: праз спалучальнасць і дыягнастычныя кантэксты.

Змена ўласна граматычнай семантыкі ў славянскіх мовах звычайна не суадносіцца з семантычнай дэрывацыяй – развіццём новага значэння без змянення формы: з прычыны сінтэтычнасці славянскіх моў такое значэнне можа быць толькі лексічным. Аднак семантычная дэрывацыя і змена граматычнага значэння ў славянскіх мовах маюць пункты перасячэння. Гэтыя зоны дыфузіі лексічнай і граматычнай семантыкі прыходзяцца на катэгорыі, якія не маюць абавязковага і рэгулярнага фармальнага выражэння і / ці не поўнасцю ахопліваюць адпаведны клас лексікі. Характэрна, што выпадкі змены класіфікацыйнага граматычнага, словаўтваральнага ці катэгарыяльна-семантычнага значэння шляхам семантычнай дэрывацыі класіфікуюцца слоўнікамі як лексічная аманімія ці полісемія. Напрыклад, бел. *нанасіць* (закончанае трыванне) 'прынесці ў вялікай колькасці' (*нанасіць гору камення*) і *нанасіць* (незакончанае трыванне) 'прыносіць у некалькі прыёмаў у пэўнай колькасці' (*Бывае, што студэнты наносяць на экзамен шпаргалкі і спісваюць напрапалую*) разглядаецца як аманімія, хоць па сутнасці гэта семантычная дэрывацыя, якая змяняе лексіка-граматычную катэгорыю трывання з наступным фармальным распадабненнем трывальных пар *наношваць – нанасіць, нанасіць – нанесці*.

Адрозненні ў граматычнай семантыцы стану, якія верыфікуюцца сінтаксічна, г. зн. не маюць фармальных адрозненняў, звычайна падаюцца як асобныя значэнні полісеманта, напрыклад бел. *мыцца* 1. 'мыцца, умывацца' (*Вася мыецца з мылам*) і 2. пасіў да *мыць* (*Вокны мыюцца кожны месяц*). Падаюцца ў слоўніках як полісеманты ці не падаюцца ўвогуле розныя семантыка-катэгарыяльныя станавыя значэнні зваротных форм дзеяслова, напрыклад бел. *Марскія скаты б'юцца токам* (бессуб'ектна-зваротны стан); *Арміі біліся да поўнага знішчэння* (узаемна-зваротны стан – рэцыпрок); *Сэрца б'ецца нявоўна* (агульна-зваротны стан). Неадпаведнасць фармальнага спосабу выражэння катэгорыі стану (постфікса -*ся*) і семантыкі станавых форм прыводзіць да асемантычных ваганняў ва ўжыванні гэтай часціцы на розных этапах развіцця славянскіх моў, гл. старабеларускае <u>*zostal*</u> *panem;* <u>*zostal*</u> *sia panem*; параўн. з сучасным беларускім *застацца*; сучасн. бел. *дачакацца = дачакаць*.

Таксама як асобныя значэнні полісеманта падаюцца адрозненні ў актантным тыпе дзеяслова, напрыклад, такая яго класіфікацыйна-

[1] *Языкознание: Большой энциклопедический словарь*, гл. ред. В.Н. Ярцева, Москва 1998, с. 160–161, 370–371.

граматычная характарыстыка, як пераходнасць / непераходнасць / ускосная пераходнасць: бел. *піць* 1. (неперах.) ‘злоўжываць спіртнымі напоямі’; 2. (перах.) ‘глытаць вадкасць’. Пры гэтым у шэрагу выпадкаў такія адрозненні проста не фіксуюцца: бел. *Клімовіч піша* (= *Клімовіч пісьменнік*) (неперах.) – *Клімовіч піша ліст*. У дадзеным выпадку адрозненне ў дзеяслоўным кіраванні карэлюе з адрозненнем у спосабе дзеяслоўнага дзеяння: першы прыклад перадае катэгарыяльную семантыку заняткаў, а другі – дзеяння. Увогуле даволі складана знайсці “чыстыя” прыклады змены толькі адной лексіка-граматычнай, словаўтваральнай ці катэгарыяльна-семантычнай характарыстыкі – звычайна, змяняюцца некалькі параметраў. Абавязкова ўдзельнічаюць пры гэтым сінтаксічныя характарыстыкі, бо кожная такая змена праяўляецца і верыфікуецца кантэкстуальна і дыстрыбутыўна.

Такім чынам, адрозненні ў тэмпаральна-аспектуальных катэгарыяльна-семантычных і словаўтваральных дзеяслоўных значэннях – Т-катэгорыях і спосабах дзеяслоўнага дзеяння – разглядаюцца ў слоўніках як асобныя значэнні мнагазначнага слова ці не разглядаюцца ўвогуле.

З вышэйсказанага вынікае, што семантычная дэрывацыя ў славянскіх мовах сустракаецца не толькі пры змене лексіка-семантычных значэнняў, але і катэгарыяльна-семантычных і словаўтваральных – у тых выпадках, калі яны не маюць абавязковага і рэгулярнага выражэння і дыферэнцуюцца сінтаксічна. Адпаведна многія даследаванні дзеясловаў, не звязаныя выключна з вылучэннем семантычных кампанентаў, абапіраюцца, па-першае, на актантны тып таго ці іншага дзеяслова і, па-другое, на яго параметры адносна Aktionsart – спосабу дзеяслоўнага дзеяння, прычым абедзве характарыстыкі змястоўныя па сваёй сутнасці.

Сказанае вышэй пацвярджае агульнапрызнаную думку пра адзінства семантыкі, якую толькі ўмоўна можна падзяліць на лексічную, граматычную і прагматычную. Такая пазіцыя здымае пытанне пра мяжу паміж лексічным і граматычным значэннем; асноўныя этапы дыскусіі, прысвечанай гэтай праблеме, прыводзяцца ў мовазнаўчых працах[1]. Семантычнасці граматыкі надаецца ўвага Ганнай Вяжбіцкай. У кнізе *Семантыка. Прымітывы і універсаліі* (*Semantics. Primes and universals*) з гэтых пазіцый разглядаецца катэгорыя транзітыўнасці і канструкцыі са зваротнымі дзеясловамі. У прыватнасці, даецца семантычнае апісанне суб’екта і аб’екта (на матэрыяле рускай мовы), указваецца на тое, што іх семантычная прымета voluntary / involuntary (кантроль) дыягнастуецца, напрыклад, паводле трансфармацыі канструкцыі з суб’ектам у намінатыве ў канструкцыю з суб’ектам у датыве: *Я встретил ее – Она встретилась мне; Я убил ее – ?* Як семантычна напоўненая

[1] А.Я. Міхневіч, *Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы*, Мінск 1976; Т.В. Булыгина, А.Д. Шмелев, *Языковая концептуализация мира*, Москва 1997.

катэгорыя градуальнага тыпу аналізуецца датыў, дакладней кажучы, яго разнавіднасці [адрасат, бенефіцыярый, goal (мэта), "знешні" і "ўнутраны" датыў], выбар адной з якіх абумоўлены канкрэтнай семантычнай роляй[1]. У кнізе *Семантыка граматыкі* Г. Вяжбіцка піша: "Граматыка не незалежная ад семантыкі. Наадварот, граматычныя адрозненні матываваныя (у сінхранічным сэнсе) семантычнымі адрозненнямі; любая граматычная канструкцыя – сродак выяўлення семантычнай структуры, яе raison d'etre і крытэрый, які вызначае кола яе выкарыстання"[2].

З пункту гледжання адзінага разумення семантыкі праводзяцца шматлікія сучасныя даследаванні дзеясловаў, дзе семантычныя ўласцівасці лексем і іх сістэмныя адносіны разглядаюцца як узаемаабумоўленыя і непарыўна звязаныя. Такі цэласны, сістэмна-семантычны падыход заснаваны на вызначэнні семантычных прымет лексемы ў залежнасці ад: 1) спалучальных характарыстык; 2) валентнасных характарыстык; 3) парадыгматычных адносін з іншымі адзінкамі слоўніка; 4) месца і ролі ў выказванні; 5) удзелу ў розных відах трансфармацый выказвання[3]. У сувязі са сказаным вышэй асаблівую цікавасць выклікаюць працы, мэтай якіх з'яўляецца комплекснае апісанне семантыкі асобнай мовы ўвогуле ці асобных падсістэм (часта яго называюць матрычным), дзе ўлічваюцца ўсе ці некалькі з вызначаных вышэй параметраў[4].

Шматаспектны разгляд значэння слова прапанаваны ў працах Ю.Д. Апрэсяна і І.А. Мельчука[5], якія дэманструюць адзін з магчымых варыянтаў сістэмнага апісання лексікі.

У цэлым, аспектуальна-тэмпаральныя і суб'ектна-аб'ектныя адносіны ў семантыцы мнагазначных слоў на шырокім славянскім матэрыяле – гэта прадмет асобнага лексіка-граматычнага даследавання, якое адкрые многія цікавыя заканамернасці і мадэлі семантычнага развіцця. Даследаванне дзеясловаў-полісемантаў з гэтага пункту гледжання, разуменне моўнай семантыкі як кантынуума і ўвагі да пераходных лексіка-граматычных з'яў дазваляе не толькі выявіць канкрэтныя выпадкі захавання / незахавання дзеясловам у пераносным значэнні граматычных характарыстык прамога значэння, але і ўмовы і заканамернасці

---

[1] A. W i e r z b i c k a, *Semantics. Primes and Universals*, Oxford, N.Y. 1996.

[2] A. W i e r z b i c k a, *The Semantics of Grammer*, Amsterdam, Philadelphia 1988, p. 3.

[3] Гл., напрыклад: B. L e v i n, *English Verb Classes and Alternations*, Chicago, London 1993.

[4] G.A. M i l l e r, C. F e l l b a u m, *Semantic networks of English* [in:] Lexical and Conceptual Semantics, Cambridge 1992, p. 197–229.

[5] Ю.Д. А п р е с я н, *Избранные труды, т. II: Интегральное описание языка и системная лексикография*, Москва 1995; *Новый объяснительный словарь синонимов русского языка. Первый выпуск* / Ю.Д. Апресян, О.Ю. Богуславская, И.Б. Левонтина и др., Москва 1997; И.А. М е л ь ч у к, *Русский язык в модели "Смысл – Текст"*, Москва–Вена 1995.

змены граматычных характарыстык дзеяслова ў выніку развіцця новай семантыкі і наадварот.

*Alena Rudenka*

**Categorical semantics of verbs on the example of Belarusian, Russian, Polish and Czech languages**

A b s t r a c t

The sphere of intersection of lexical and grammatical semantics are the classificatory and derivational categories. For the Slavic verb, the categories of aspect, semantic type of predicate, action start, transitivity, valence, and voice are relevant. These characteristics are connected with the temporal-aspectological and syntactic qualification of the verb; their changes lead to lexical-semantic changes. Such examples are shown in the article, primarily based upon the material of the Belarusian and Polish languages.

**Tom 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091**

**Katarzyna Wojan**
Uniwersytet Gdański
finkw@univ.gda.pl

# Leksykografia polska z językiem białoruskim w opisie kwantyfikatywnym

## Wprowadzenie

Bibliografie słowników stanowią przydatne narzędzie[1] w procesie rekonstrukcji dziejów słownikarstwa[2], a zwłaszcza poszczególnych działów leksykografii przekładowej z danym językiem jako jej komponentem. Na podstawie zgromadzonej bibliografii można opisać aktualny stan leksykografii przekładowej[3], jej najnowsze tendencje, jak również przedstawić

---

[1] O tym K. W o j a n, *Bibliografie słowników przekładowych jako narzędzie rekonstrukcji dziejów oraz oceny stanu i dorobku słownikarstwa narodowego*, „Biuletyn Polskiego Towarzystwa Językoznawczego" 2018, nr 74, s. 129–144.

[2] Zob. monografie bibliograficzne: K. W o j a n, *Język rosyjski w polskiej leksykografii przekładowej: Bibliografia słowników za lata 1795–2005*, Gdańsk 2006; K. W o j a n, *Język angielski w polskiej leksykografii,* tom 1: *Słowniki przekładowe lingwistyczne i encyklopedyczne wydane w latach 1782–2012*, Gdańsk 2013; K. W o j a n, *Język angielski w polskiej leksykografii,* tom 2: *Słowniki przekładowe terminologiczne wydane w latach 1782–2012*, Gdańsk 2014; K. W o j a n, *Z dziejów leksykografii polsko-rosyjskiej,* tom 1: *Słowniki lingwistyczne (bibliografia za lata 1700–2015)*, Gdańsk 2016. Zob. też np.: M. P o d h a j e c k a, *Autoreferat [habilitacyjny]*, Uniwersytet Opolski [online], http://wfil.uni.opole.pl/wp-content/uploads/M.Podhaj.-autor.j.-pol. pdf [dostęp 2.04.2017].

[3] *Ibidem*. Zob. też prace: Ł. K a r p i ń s k i, *Zarys leksykografii terminologicznej*, Warszawa 2008; W. C h l e b d a, *Frazeologia i paremiologia słowiańska w polskich pracach językoznawczych lat powojennych*, „Slavia Orientalis" 2013, t. 62, nr 3; W. C h l e b d a, *Опольские предложения в области польско-русской лексикографии*, „Przegląd Rusycystyczny" 2015, nr 2 (150), s. 180–191; M. K l e j n o w s k a–B o r o w s k a, *Analiza wielojęzycznych słowników specjalistycznych z językiem polskim i rosyjskim wydanych w latach 1990–2012* [w:] *Języki specjalistyczne wczoraj i dziś*, red. M. Ł u k a s i k, B. M i k o ł a j e w s k a, Warszawa 2014; T. P i o t r o w s k i, *Zmiany w najnowszej leksykografii polskiej* [w:] *Lingua et gaudium: Księga jubileuszowa ofiarowana Profesorowi Janowi Miodkowi*, red. M. Z a ś k o–Z i e l i ń s k a i in., Wrocław 2016, s. 431–438; M. Ł u k a s i k, *Polska szkoła terminograficzna* [w:] *Polskie i europejskie nurty terminologiczne*, red. S. G r u c z a, M. M a ł a c h o w i c z, Warszawa 2017, s. 26–69; Э. Б я л э к, *Вопросы терминологии и лексикографии*, „Вестник Московского университета, сер. 22, Теория перевода" 2017, nr 4, s. 103–123; T. P i o t r o w s k i, *Porównawcza leksykografia języków słowiańskich: Słowniki z językiem polskim* [w:] *Лексикология и лексикография славянских языков: К XVI Международному съезду славис-*

praktykę leksykograficzną z uwzględnieniem różnych aspektów, w tym dokonać oceny ilościowej, tj. sporządzić przydatne dla dalszych badań szczegółowych charakterystyki kwantyfikatywne[1]. Na temat słownikarstwa polskiego z językiem białoruskim pisałam przed sześcioma laty na łamach tomu trzynastego „Acta Albaruthenica"[2] (2013), zamieszczając wykaz opracowań słownikowych powstałych w latach 1807–2012, liczący 104 pozycje i prezentując dane ilościowe, będące elementem deskrypcji tego działu słownikarstwa. Stan ów w dniu dzisiejszym uległ istotnej zmianie.

Celem niniejszego artykułu jest przedstawienie rezultatów badawczych uzyskanych po dokonaniu weryfikacji i aktualizacji zebranego materiału faktograficznego dotyczącego działu białoruskiego w leksykografii polskiej i objęcie analizą kwantyfikatywną okresu do roku 2014. Umożliwi ona sformułowanie nowych wniosków przydatnych w procesie tworzenia zarysu historii leksykografii polskiej z językiem białoruskim (ewentualnie jego redatacji) oraz w deskrypcjach konfrontatywnych w komparatystyce leksykograficznej. Źródłem opisu chronologicznego jest autorska adnotowana bibliografia słowników rodzimych zawierających język białoruski jako wyjściowy lub docelowy w deskrypcji leksykograficznej, bądź jako język paralelny w konstrukcji siatki terminograficznej czy też jako obiekt przedmiotowego indeksowania.

Słownik traktowany jest tu tradycyjnie – zgodnie z definicją Piotra Grzegorczyka[3] – jako uporządkowany zbiór materiału leksykograficznego. Sporządzony chronologiczny wykaz bibliografii słowników z komponentem języka białoruskiego liczy obecnie 119 pozycji wszystkich wydań, w tym

---

*тов*, отв. ред. М.И. Чернышева, Москва 2017 [online], http://www.ruslang.ru/doc/lexicology_2017.pdf [dostęp 10.11.2018]; M. P o d h a j e c k a, *Polish Americans in the History of Bilingual Lexicography: The State of the Art*, „Lexikos" 2018, nr 28 (AFRILEX-reeks/series 28: 2018), s. 316–342 (RPA), [online] http://lexikos.journals.ac.za/pub [dostęp: 12.12.2018].

[1] Zob. K. Wojan, *Język białoruski w leksykografii polskiej: Bibliografia słowników (za lata 1807–2012)*, „Acta Albaruthenica" 2013, t. 13, s. 219–233; K. W o j a n, *Polska leksykografia terminologiczna z komponentem rosyjskim z zakresu ekonomii, handlu i zarządzania: Bibliografia słowników wydanych w latach 1887–2015*, „Studia Rossica Gedanensia" 2016, t. 3, s. 467–487; K. W o j a n, *Leksykografia polska z językiem ukraińskim w opisie statystycznym: Z bibliografią za lata 1794–2016*, „Slavia Orientalis" 2017, t, 66, nr 1, s. 171–194; K. W o j a n, *Z najnowszej leksykografii polskiej z językiem rosyjskim w centrum: Bibliografia słowników za lata 2010–2016 w układzie chronologicznym*, „Przegląd Rusycystyczny" 2018, nr 4 (164), s. 199–228; K. W o j a n, *Leksykografia polska z językiem ukraińskim w opisie statystycznym: Z bibliografią za lata 1794–2016*, „Slavia Orientalis" 2017, t. 66, nr 1, s. 171–194; K. W o j a n, *Polska leksykografia terminologiczna z komponentem rosyjskim z zakresu ekonomii, handlu i zarządzania: Bibliografia słowników wydanych w latach 1887–2015*, „Studia Rossica Gedanensia" 2016, t. 3, s. 67–487 i in.

[2] K. W o j a n, *Język białoruski w leksykografii polskiej: Bibliografia słowników (za lata 1807–2012)*, „Acta Albaruthenica" 2013, t. 13, s. 219–233.

[3] P. G r z e g o r c z y k, *Index lexicorum Poloniae. Bibliografia słowników polskich*, Warszawa 1967.

*staro-cerkiewno-słowiańskie* (s. 266–266), *nazwy czeskie* (s. 266–269), nazwy słowackie (s. 269–270), *nazwy łużyckie* (s. 272–272), *nazwy białoruskie* (s. 271–272), *nazwy ukraińskie* (s. 272–274), *nazwy rosyjskie* (s. 274–275), *nazwy z Polesia* (s. 275–275), *nazwy słoweńskie* (s. 275–276), *nazwy serbskie i chorwackie* (s. 276–278), *nazwy bułgarskie i macedońskie* (278–279), s. 266–279; *nazwy niesłowiańskie: nazwy niemieckie* (s. 279–281), *nazwy niderlandzkie* (s. 281–281), *nazwy angielskie* (s. 281–281), *nazwy włoskie* (s. 281–282), s. 279–282].

**2013**

[Radosław Kaleta], Радаслаў Калета, *Пра беларуска-польскіх „фальшывых сяброў перакладчыка"*, „Acta Albaruthenica" 2013, t. 13, s. 135–144 [Zawiera wykaz 170 par białorusko-polskich słów zaliczanych do zbioru „fałszywych przyjaciół"].

Mathurin Veyssière La Croze, *Lexicon slavo-ruthenicum*, edycja i wstęp Adam Fałowski, Studia Ruthenica Cracoviensia, 7, Scriptum, Kraków 2013, ss. 771, [2] [edycja fotograficzna rękopiśmiennego słownika wchodniosłowiańsko-łacińsko-niemieckiego; ze wstępu domniemany autor LSR to Mathurin Veyssière La Croze].

Bogumił Ostrowski, *Białoruskie gwary Grodzieńszczyzny. Wybrane zagadnienia*, Instytut Języka Polskiego PAN, Kraków 2013, ss. 272 [Zawiera glosaria].

Krystyna Szcześniak, *Świat roślin światem ludzi na pograniczu wschodniej i zachodniej Słowiańszczyzny*, wyd. 2 popr., Gdańsk: Wydawnictwo Uniwersytetu Gdańskiego, 2013, ss. 410 + 1 dysk opt. CD-ROM [zawiera *Słownik* s. 120–335 (z ekwiwalentami białoruskimi, rosyjskimi i łacińskimi); *Indeks nazw roślin: Nazwy łacińskie* (355–363); *Nazwy pisane cyrylicą* (s. 363–380); *Nazwy zapisane łacinką* (s. 380–410)].

**2014**

Kaleta Radosław, *Białorusko-polska homonimia międzyjęzykowa*, Instytut Slawistyki Polskiej Akademii Nauk, Fundacja Slawistyczna, SOW, Warszawa 2014, ss. 167, [2] [Zawiera *Słownik białorusko-polskich międzyjęzykowych homonimów całkowitych*, s. 83–144].

*Katarzyna Wojan*

**Polish lexicography with a focus on the Belarusian language: a quantitative description**

A b s t r a c t

The article describes, in quantitative terms, Polish lexicography with a focus on the Belarusian language. The main directions of its development have been presented in the historical perspective, taking into account several of its different branches (historical, onomastic, dialectal, didactic, phraseological and paremiographic, terminographic, ideographic, linguistic interference, general translation etc.). The material for the analysis comes from the author's bibliography of lexicographic items collected by the method of text and library queries. It consists of 119 items and covers the years 1807–2014.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Ірына Галуза**
Нацыянальная акадэмія навук Беларусі
irenka.galouzo@gmail.com

# Тэрміналагічныя словазборы Язэпа Драздовіча

Язэп Драздовіч – гэта мастак, пісьменнік, астраном, скульптар, педагог, а таксама таленавіты лексікограф-аматар і клапатлівы збіральнік роднага дзісенскага слова. У 1920-я гады ён быў у віры культурнага жыцця, таму дакладна разумеў (і прадчуваў) патрэбы свайго часу і вельмі актыўна ўдзельнічаў у моватворчым працэсе пачатку XX-га ст.

У 1919–1923 гг. Я. Драздовіч працаваў у розных установах Вільні: у Беларускім літаратурна-выдавецкім аддзеле пры Камісарыяце асветы БССР, у "Беларускай хатцы" і Беларускім дзяржаўным тэатры, у разнастайных літаратурных выдавецтвах, арганізаваў таварыства "Заранка". Пазней Я. Драздовіч супрацоўнічаў з газетай "Наш сцяг", з часопісамі "Маланка", "Саха" і інш. З 1926 г. Я. Драздовіч наладзіў трывалую сувязь з Інстытутам беларускай культуры і Беларускай акадэміяй навук. Браніслаў Эпімах-Шыпіла пастаянна дасылаў яму "тамы навуковых прац, выдадзеныя Інбелкультам па гісторыі, па мове і літаратуры, па этнаграфіі і мастацтве"[1].

Вядома, што Навукова-Тэрміналагічная камісія для выпрацоўкі тэрміналагічных сістэм па ўсіх галінах навукі была створана ў канцы 1921 г. Я. Драздовіч ужо ў пачатку 1919 г., пра што сведчаць даты на рукапісах або згадкі пра іх у лістах, склаў *Беларуска-расейскую тэрміналёгію па анатоміі і фізыялёгіі цела чалавека*[2] і, магчыма, батанічны слоўнік вёскі Рымкі[3].

У той жа час Я. Драздовіч рыхтаваў (у 1921 годзе) і поўны слоўнік беларускай мовы[4], які ўтрымлівае больш за 2130 адзінак на літару А–

[1] А. Л і с, *Вечны вандроўнік. Нарыс пра мастака Язэпа Драздовіча*, Мінск 1984, с. 156.

[2] Я. Д р а з д о в і ч, *Беларуска-расейская тэрміналёгія па анатоміі і фізыялёгіі цела чалавека* [у:] Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі (ЦНБ НАНБ), ф. 2, воп. 1, адз. зах. 29. Тут і далей у тэксце захаваны аўтарскі правапіс. Сінтаксіс прыведзены ў адпаведнасці з правіламі сучаснай беларускай мовы.

[3] Я. Д р а з д о в і ч, *Карткі з беларускімі словамі, сабранымі на Дзісеншчыне і Піншчыне* [у:] Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka (LMAVB), F. 21–126.

[4] Я. Д р а з д о в і ч, *Падрыхтовачны матэр'ял для беларускага слоўніка* [у:] ЦНБ НАНБ, ф. 2, воп. 1, адз. зах. 31, л. 20–28.

Ак. Гэта чарнавы накід з вялікай колькасцю закрэсліванняў і выпраўленняў, якія – паказваюць намаганні Я. Драздовіча максімальна поўна зафіксаваць лексічныя сродкі Дзісенскага раёна, а таксама паспрабаваць выпрацаваць сродкі, якія б абслугоўвалі навуковы стыль, – стварыць абстрактныя назоўнікі пры дапамозе разнастайных афіксаў, пры гэтым ва ўсіх адзінках паслядоўна адлюстраваўшы рысы полацка-мінскіх гаворак[1].

Захаваўся таксама і падрыхтоўчы матэрыял для ўкладання гэтага слоўніка: словазборы па геаграфіі і геалогіі, батаніцы і аграноміі, псіхалогіі, хатне-гаспадарчым абсталяванні, заалогіі[2] і інш. Усе названыя тэрміналогіі ўключаюць толькі шырока распаўсюджаныя намінацыйныя сродкі дзісенскага рэгіёна па пэўных галінах чалавечай дзейнасці. Разам з тым, рукапісы адлюстроўваюць пошук Я. Драздовічам найбольш удалай формы падачы матэрыялу ў будучым слоўніку: алфавітна-гнездавы парадак з тлумачальнай часткай, тэматычна-гнездавы парадак без дэфініцый, алфавітны парадак і інш.

Склалася так, што многія якасна зробленыя даследчыкам-аматарам матэрыялы не былі своечасова выкарыстаны. Такі лёс напаткаў і ***Беларуска-расейскую тэрміналёгію па анатоміі і фізыялёгіі цела чалавека***. Ліст Я. Драздовіча ад 04.01.1922 г. сведчыць пра тое, што тэрміналогія была складзена раней за 1919 г. і тры гады заставалася нявыдадзенай: "Мая шматгадовая праца па тэрміналёгіі анатоміі і фізыялёгіі, каторая адабрала шмат майго здароўя, ужо трэцьці год, як блудзець па выдавецтвах..."[3]. Тады ж, прыблізна ў 1919 г., тэрміназбор быў дасланы праз П. Душэўскага ў рэдакцыю выдавецтва "Вызваленне"[4], але тое не ўзялося яе надрукаваць. Таму лексікограф прыблізна ў траўні-чэрвені даслаў скарочаны варыянт тэрміналогіі ў Віленскае выдавецкае таварыства[5]. Пасля Я. Драздовіч двойчы (04.01.1922 і 10.07.1922) звяртаўся ў гэта таварыства і адзін раз (16.01.1921) – у Таварыства беларускай школы з просьбай "каб як найхутчэй яе [тэрміналогію] выдаць", бо "мінчане нашы – галадуюць, а тэрміналёгію – будуюць, а я ані там, ані тут…"[6].

Патлумачыць той факт, чаму Я. Драздовіч вельмі хваляваўся за надрукаванне менавіта гэтага тэрміназбору, вельмі лёгка: ён скончыў Віленскую рысавальную школу (1908), дзе ў абавязковым парадку вывучалася анатомія чалавека, а ў 1910–1914 гг. служыў у войску і прай-

[1] І.У. Г а л у з а, *Беларускі слоўнік Язэпа Драздовіча* [у:] *Беларуская мова ў XXI стагоддзі: Асноўныя тэндэнцыі развіцця (да 80-годдзя акадэміка А.І. Падлужнага): Зборнік матэрыялаў Міжнароднай навуковай канферэнцыі,* Мінск 2015, с. 87–95.

[2] Я. Д р а з д о в і ч, *Падрыхтовачны матэр'ял...*, л. 1–18.

[3] Я. Д р а з д о в і ч, *Лісты, адрасаваныя Віленскаму Выдавецкаму таварыству*, ф. 2, воп. 1, адз. зах. 38, л. 1.

[4] Я. Д р а з д о в і ч, *Рукапісныя матэрыялы*, F. 21–91, k. 5.

[5] Я. Д р а з д о в і ч, *Лісты...*, л. 1.

[6] Я. Д р а з д о в і ч, *Рукапісныя...*, л. 5.

шоў фельчарскія курсы, здабытыя веды на якіх прымяняў на практыцы ў Першую сусветную вайну на Усходнім фронце. Такім чынам, з аднаго боку, добрае веданне беларускай мовы, прынамсі, дзісенскай гаворкі, а з другога – грунтоўная абазнанасць у медыцыне.

Прыспешванне надрукаваць тэрміналогію, адмаўленне ад добрага ганарару за яе ("...цяпер я не ганюся за грандганарарамі"[1], "...прашу <…> ганарарак с такім рахункам, каб за кожную назову або радок ад 3 да 5 капеяк золатам даўнейшага Ганарару"[2]) абумоўліваецца наступнымі прычынамі: 1) Я. Драздовіч зрабіў некалькі рукапісных копій слоўніка для розных выдавецтваў і зацікаўленых асоб, таму баяўся плагіяту: "Баюся, каб часам хтось не сплагіатыраваў гэту маю працу з вандруючых копій і ня выдаў ад сябе – раней ад мяне"[3], 2) імкнуўся паспрыяць працы настаўнікаў, якія вымушаны былі весці навучанне па-беларуску, не маючы ні беларускамоўных падручнікаў, ні адпаведных тэрміналагічных збораў: "Сьпяшуся даць патрэбны тэрміналягічны матэр'ял для нашых загранічных педагогаў, каторыя моцна адчуваюць у ім патрэбу"[4].

*Беларуска-расейская тэрміналёгія па анатоміі і фізыялёгіі цела чалавека* Я. Драздовіча ўяўляе сабой беларуска-рускі тэрміналагічны слоўнік, што ахоплівае больш за 1400 лексем. Згодна з лістамі Я. Драздовіча названая тэрміналогія – чарнавік першага нескарочанага варыянта слоўніка, дасланага ў рэдакцыю часопіса "Вызваленне". На такую думку наводзіць той факт, што 1) прыкладна шостая частка загалоўкавых лексем выкраслены складальнікам, 2) асноўны тэкст слоўніка напісаны чорным чарнілам, пасля былі ўнесены праўкі спачатку колерам больш цёмнага адцення, потым простым алоўкам; апошнія выпраўленні рабіліся чырвонай ручкай, 3) многія рэестравыя лексемы суправаджаюць закрэсленыя і незакрэсленыя пытальнікі, плюсы, кропкі, нумарацыя, незразумелыя літарныя пазнакі тыпу "р" і інш. З лістоў становіцца відавочным, што нават чыставікоў было некалькі, магчыма, для розных выдавецтваў: 1) да мая 1921 года лексікограф "перапісаў яе [копію першага варыянта слоўніка. – *І. Г.*] начыстую, як да друку, шмат чаго пераправіў і шмат чаго (не зусім пэўнага) выкінуў, і з 1000 тэрмінаў зрабіў усяго 730, з мэтай каб зрабіць яе зусім не патрабуючай у рэдакцыі спэціялістаў (анатомаў-медыкаў і г. д.) і могучай быць выпушчанай у свет на адпаведнасьць (з ручацелства за свой тавар) чэсьці самога аўтора"[5], 2) да студзеня 1922 г. Я. Драздовіч "рукапісь гэтай кніжкі <…> ужо перапісаў на чыстую, як да друку <…>, шмат назоў выкінуў зусім і з 100 зрабіў усяго 750"[6].

[1] Я. Драздовіч, *Лісты...*, л. 1.
[2] Я. Драздовіч, *Рукапісныя...*, л. 7.
[3] Я. Драздовіч, *Лісты...*, л. 1.
[4] *Ibidem*.
[5] Я. Драздовіч, *Рукапісныя...*, л. 5.
[6] Я. Драздовіч, *Лісты...*, л. 1.

Адзначым, што чарнавік тэрміналогіі ўключае 1441 лексему, пераважная большасць з якіх – тэрміны (1198). Асноўнае ядро тэрмінаў складаюць 1116 лексем, прычым 63 лексемы паўтараюцца двойчы ў розных падраздзелах тэрміназбору, а дзве – тройчы, і да 12 лексем прыводзіцца адзін ці два фанетычныя варыянты.

Меншая частка слоўніка (амаль што поўнасцю выкрасленая рукой складальніка) – гэта словы, што асацыятыўна адносяцца да пэўнай загалоўкавай лексемы. Яны або 1) апісваюць знешнасць чалавека (132): у раздзел "часткі твару і галавізны" трапілі такія лексемы, як *валаса́стасьць*, *віхо́р*, *вус*, *вуса́тасьць*, *кучба*, *лы́сіна*, *праставало́сьсе*, *про́лысь*, *чуб*, *чуба́йка*, або 2) з'яўляюцца радам аднакарэнных слоў (66) да рэестравых лексем і адносяцца да агульнаўжывальнай лексікі: да лексемы *тулаво́* прымыкаюць дзеясловы *туля́цца* і *тулі́цца*, або 3) уяўляюць сабой экспрэсіўныя формы (20) загалоўкавых слоў (*баро́дка*, *гу́бка*, *мо́ршчачка*).

Анатамічны слоўнік Я. Драздовіча ўяўляе сабой **узор ідэаграфічнага даведніка**: артыкулы размешчаны не па алфавіце, а па лексічным значэнні загалоўкавага паняцця. Так, слоўнік мае 10 раздзелаў: "назвы павярхоўных форм чалавеччага цела", "косьці", "цягніцы", "мазгі і нэрвы", "кровазварот", "жывот", "дыхі", "скура", "вока", "вуха"[1]. Кожны з гэтых раздзелаў, у сваю чаргу, падзяляецца на падраздзелы, напрыклад, у другі радзел "косьці" ўваходзяць наступныя: "косьці галаўныя", "косьці тулавыя", "косьці рук", "косьці ног", "зубы", "швы", "суставы"[2]. Значыць, дадзены тэрміназбор – гэта **трохузроўневы тэматычны слоўнік**.

Пры вытлумачэнні лексічных адзінак праз рускамоўны адпаведнік ці словазлучэнне Я. Драздовіч зыходзіць не ад асобнага слова, а ад паняцця – да выражэння яго ў некалькіх лексемах. Таму вельмі часта Я. Драздовічам праз коску прыводзяцца шматлікія сінанімічныя беларускія адпаведнікі да аднаго рускамоўнага тэрміна: *шкіле́т*, *касьцэ́ц*, ~~*касьцяна́я дра́ба*~~ – *скелет*; *шчэ́ляпныя суста́вы*, *ськіві́чныя суста́вы*, ~~*пашчэнко́выя суста́вы*~~ – *височно-нижнечелюстной сустав* і інш. Такі паняццевы падыход дае карыстальніку выбар адпаведных сродкаў для адэкватнага выражэння думкі, спрыяе засваенню найбольш прыдатнага тэрміна.

Пасля праведзенай намі апрацоўкі і падрыхтоўкі тэрміналогіі да друку колькасць лексем засталася той жа. Усе закрэсленыя элементы захоўваліся, каб паказаць працу Я. Драздовіча над словам, яго пошукі беларускамоўнага тэрміна. Усе нетэрміны былі згрупаваны па сэнсе ці каранёвай суаднесенасці з апорнымі словамі і аформлены без чырвонага радка, напрыклад[3]:

---

[1] Я. Д р а з д о в і ч, *Беларуска-расейская тэрміналёгія па анатоміі...*, л. 1.

[2] *Ibidem*, л. 11.

[3] Слоўнікавыя артыкулы ці вытрымкі з іх афармляюцца так, як прынята ў беларускай лексікаграфіі.

**Мазóль** *ж.*, **мазалíца** *ж.*, ~~**мазалíзна**~~ *ж.* – мозоль [clavus].
**Мазалíна** *ж.* – омозолевшая кожа.
**Мазóлішча** *н.* – участок кожи, на котором была мозоль.

У выпадку, калі да апорнага слова адносілася некалькі радоў аднародных, то яны разбіваліся на групы.

Пасля апрацоўкі матэрыялаў быў абраны змешаны тып размяшчэння лексем: лексемы групуюцца па значэнні ў раздзелы і падраздзелы, як іх упарадкаваў Я. Драздовіч; унутры падраздзела загалоўкавыя лексемы размяшчаюцца па алфавіце для зручнасці карыстання; групы аднародных, слоў-асацыяцый і эмацыйна-экспрэсіўных форм да апорнай лексемы прыводзяцца па гнездавым прынцыпе.

Адзначым, што пры стварэнні слоўніка жывой беларускай мовы, у прыватнасці, пры фарміраванні яго рэестравай часткі, Тэрміналагічнай камісіяй раілася браць абазначальныя сродкі, што існавалі ў дыялектнай беларускай мове, або на іх аснове ўтвараць неалагізмы па словаўтваральных законах беларускай мовы. Запазычаныя словы варта было выкарыстоўваць толькі тады, калі не было беларускага адпаведніка, а створаны неалагізм з'яўляўся вельмі штучным. Пры гэтым выкарыстанне тэрміна-запазычання дазвалялася, калі такі тэрмін адпавядаў наступнаму крытэрыю: запазычанае слова павінна было быць інтэрнацыянальным, вядомым многім развітым еўрапейскім мовам. Відавочна, што ў хуткім часе беларускія мовазнаўцы зразумелі нежыццяздольнасць такога падыходу: большасць тэрміналагічных сістэм грунтуецца на лацінскіх ці грэчасціх каранях, якія вядомы ўсім мовам, а вынікі падобнай пурыстычнай дзейнасці маглі б загрувасціць мову "мёртвымі"[1] наватворамі.

У сувязі з гэтым анатамічны слоўнік Я. Драздовіча з'яўляецца абсалютна ўнікальным: толькі ў шасці тэрмінах з 1116 ужыты два відавочна запазычаныя карані (*пэпсíн*, *пэпсінóвы клёк*, *пэпсінóвыя залóзкі*, *трэпсíн*, *трэпсінóвы клёк*, *трэпсінóвыя залóзкі*), а ва ўсіх іншых – спрадвечна беларускія і вельмі рэдка (да дзесяці) – даўно запазычаныя і добра засвоеныя беларускай мовай (<u>*фальшы́вая*</u> *сустáва*, *фля́дра* і інш.). Больш за тое, у аснове беларускамоўных адпаведнікаў – лексічныя адзінкі з дзісенскай гаворкі, на што ўказваюць пазнакі ўкладальніка *Дз. п.* або *Дз.* і пад. насупраць рэестравых лексем.

Дастаткова часта Я. Драздовіч падае некалькі варыянтаў загалоўкавага слова (фанетычных або словаўтваральных): напрыклад, ~~*гнездзя́нка*~~, *гнезьдзя́нка*, ~~*гнязьдзя́нка*~~; *пахвíна*, *пахвíньне*. Усе яны былі захаваны пасля апрацоўкі архіўных матэрыялаў.

Пры характарыстыцы лексічнага напаўнення ўзнікла пытанне: чаму выдавецтвы так і не прынялі да друку тэрміналогію Я. Драздовіча, хоць вельмі адчувалася недахоп медыцынскіх тэрмінаў. Адказ хаваецца

---

[1] С. Н е к р а ш э в і ч, *Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы*, "Полымя" 1925, №5, с. 175.

ў прыведзеных ў якасці тэрміналагічных эквівалентаў рускамоўных тлумачэнняў: гэта часта не аднаслоўныя ці састаўныя па структуры тэрміны, а вельмі неадназначныя, празмерна апісальныя словаспалучэнні. Відавочна, у складальніка не было ніякіх даведнікаў ці іншых матэрыялаў, рэестравую частку якіх можна было б узяць за аснову для выпрацоўкі беларускіх адпаведнікаў. Таму зыходнымі былі беларускія лексемы, да якіх ужо шукалася рускамоўнае тлумачэнне. Напрыклад: *грудзізна 'средняя часть груди по грудной кости'*[1], *пры́шчак 'верхушка лицевой скулы'*[2], *усхо́д 'верхний изгиб голенно-стопного сустава'*[3]. Падчас праверкі існавання прыведзеных Я. Драздовічам тэрмінаў праз *Руска-лацінскі атлас*[4] і падручнік *Анатомія чалавека*[5] аказалася, што абсалютна ўсе прапанаваныя Я. Драздовічам тэрміны існуюць. Для пацвярджэння гэтага ў апрацаваным слоўніку да кожнага з іх намі прыводзіцца дакладны рускамоўны і лацінскі адпаведнік, напрыклад:

**Грудзі́зна** *ж.* – тело грудины [corpus sterni].
**Пры́шчак** *м.*, ~~**ські́ва**~~ *ж.* – скуловая кость [os zygomaticum].
**Усхо́д** *м.* – голеностопный сустав [ articulatio talocruralis].

Да некаторых беларускіх тэрмінаў, праз іх вельмі семантычна шырокае тлумачэнне, прыводзяцца тыя адпаведнікі, што часткова могуць раскрываць значэнне рэестравай лексемы. У канцы слоўнікавага артыкула ў такім выпадку змяшчаецца пытальнік:

**Падпаты́лічная суста́ва**, ~~**бразджэ́льна-карка́вая суста́ва**~~, ~~**мазджэ́рна-каркава́я суста́ва**~~ – атлантозатылочный сустав [articulatio atlantooccipitalis], латеральный (articulatio atlantoaxialis lateralis) и срединный [articulatio atlantoaxialis mediana] атлантоосевые суставы (?).

Да невялікай часткі лексем (52 адзінкі) не ўдалося падабраць лацінскі адпаведнік па наступных прычынах: 1) з-за аб'ёму паняцця, адсутнасці дэталізацыі аб'екта апісання (*ко́сьці тулаву́я 'кости туловища'*), 2) па прычыне наяўнасці безэквівалентнай лексікі ў рускай і лацінскай мовах (*падву́сьніца 'углубление между нижней губой и подбородком*'), 3) у сувязі з разыходжаннямі ў падачы тэрміналагічных спалучэнняў у розных навуковых і навукова-папулярных крыніцах (*вывіхо́вая суста́ва 'ложный сустав, при длительном вывихе со смещением суставной головки'*).

Граматычныя пазнакі ў тэрміназборы Я. Драздовіча адсутнічаюць, толькі зрэдку пры назоўніку адзіночнага ліку падаецца форма множнага ліку (*клуб, клубы́*), прычым значэнне лексемы ў адзіночным ліку

---

[1] Я. Д р а з д о в і ч, *Беларуска-расейская тэрміналёгія па анатоміі...*, л. 7.
[2] *Ibidem*, л. 4.
[3] *Ibidem*, л. 10.
[4] Г.Л. Б и л и ч, В.А. К р ы ж а н о в с к и й, *Анатомия человека. Русско-латинский атлас. Цитология. Гистология. Анатомия. Справочник*, Москва 2006.
[5] М.Р. С а п и н, Г.Л. Б и л и ч, *Анатомия человека. Учеб. для студентов высш. учеб. заведений*: в 2 кн., 5-е изд., перераб. и доп., Москва 2006.

і той жа лексемы ў множным ліку могуць не супадаць, напрыклад: *галасьні́ца* ж. *'голосовые связки [ligamenta vocales]'* і *гарля́нкавыя сувя́зкі*, *галасьні́цы* мн. *'голосовые складки [plicae vocales]'*. Са стылістычных пазнак прысутнічае толькі ўказанне на зніжаную экспрэсіўную афарбоўку слова: *лупа*, *лупы*, *лупастасьць (лаячнае)*[1]. Гэтыя пазнакі былі захаваны пасля апрацоўкі. Да слоў з эмацыйнай афарбоўкай дадавалася спецыяльная пазнака *ласк*.

Да *Беларуска-расейскай тэрміналёгіі па анатоміі і фізыялёгіі цела чалавека* Я. Драздовіча быў дададзены індэксаваны *Паказальнік беларускіх назваў* для зручнасці карыстання і разгляду ўсіх тэрмінаў у алфавітным парадку.

Відавочна, анатамічная тэрміналогія, упарадкаваная Я. Драздовічам, патрабавала ў свой час дапрацоўкі. У параўнанні з выдадзенай тэрміналогіяй *Nomina Anatomica Alboruthenica* (выпуск першы, 1926; выпуск другі, 1927; выпуск трэці, 1929) тэрміналогія па анатоміі аматара-лексікографа, безумоўна, саступае па колькасці тэрмінаў. Разам з тым, Я. Драздовіч свядома рабіў яе невялікай па аб'ёме: ён імкнуўся дапамагчы ў справе стварэння неабходнай базы для ўкладання школьных падручнікаў, для палягчэння працы настаўнікаў. Адзначым, што для іх, як і для аўтараў падручнікаў, прыняты Камісіяй тэрміналагічны апарат быў абавязковым. Важна падкрэсліць, што большасць тэрмінаў, прапанаваных Я. Драздовічам, простыя, лёгкачытэльныя і лёгказразумелыя з прычыны іх матывайцыйнай празрыстасці.

***Словазбор Батаніка і аграномія***[2] складаецца з некалькіх адрозных частак. Першая і самая значная прысвечана сельскагаспадарчым раслінам і караняплодам, яна ўключае 15 груп найменняў: *авёс*, *боб*, *віка*, *бульба*, *бурак*, *гарох*, *грыжына*, *жыта*, *морква*, *пшаніца*, *радыса*, *рэдзька*, *рэпа*, *~~фасоль~~*, *ячмень* (група *фасоль* выкраслена рукой складальніка). Агульная колькасць слоўнікавых артыкулаў пасля апрацоўкі склала 114 адзінак.

Названая частка пабудавана **па тэматычна-гнездавым прынцыпе** і аформлена як **тлумачальны слоўнік**. Тэматыка і склад кожнай групы задаюцца загалоўкавым словам, якое выносіцца асобна: напрыклад, да групы "ячме́нь" адносіцца ласкальная назва ячмяню *ячмянёк*, назва аднаго ячменнага зерня і каліва – *я́чміна* і *ячме́ніна*, назва нівы з-пад ячмяню – *я́чышча*, народныя назвы відаў ячмяню ў залежнасці ад колькасці пучкоў, у якія сабраны каласкі ў верхавінкавым коласе, – *ячме́нь-духра́днік* і *ячме́нь-шасьціра́днік*, назва ячменнага хлеба ці бліна – *я́чнік*, ячменнай мукі ці кашы – *я́чніца* і інш. У групе "бу́льба" Я. Драздовіч дадаткова пералічыў і гатункі бульбы: *буі́ня*, *дупля́нка*, *крахмало́ўка*, *малі́наўка*, *пасьпе́шка*, *сарако́ўка*, *су́чка*, *чо́рная*, *чырво́нка*. Гэта азначае, што прыводзяцца не толькі аднакарэнныя, але і словы,

[1] Я. Драздовіч, *Беларуска-расейская тэрміналёгія па анатоміі...*, л. 4.
[2] Я. Драздовіч, *Падрыхтовачны матэр'ял...*, л. 5–8.

што звязаны з апорным паняццем: так, да лексемы *боб* указана назва дэкаратыўнай кустовай расліны сямейства ружакветных *бабо́ўнік* і пад.

Кожнае слова суправаджаецца тлумачальнай часткай па-беларуску; калі лексема мнагазначная, то прыводзяцца ўсе яе значэнні: *я́чніца '1) ячная мука, 2) ячная ~~салома~~ каша, 3) ячная салома'*. Зрэдку прыводзяцца і прыказкі, прымаўкі, тэрміналагічныя спалучэнні з рэестравымі адзінкамі ў іх складзе: *Гірсі́ца – хле́бу памачні́ца*, *Як ня ўро́дзіць жытцо́ – сла́бае жыцьцё*, *бабо́выя камы́*, *бульбяна́я я́ма* і інш.

Другая частка (293 адзінкі) слоўніка ўяўляе сабой **спісы слоў без націскаў у алфавітным парадку** без усялякіх пазнак; практычна ва ўсіх групах сустракаецца пералічэнне праз коску аднакарэнных і сінанімічных лексем. Тэматыку першай з іх, што ўключае 104 словы, можна акрэсліць як назвы раслін (культурных і дзікіх), дрэў, грыбоў: *ваўня́нка*, *ве́рас*, *ве́рба*, *вех*, *ві́ка*, *вінагра́д*, *ві́шня*, *вяз*, *гарбу́з*, *гаро́х*, *гарча́к*, *гарчы́ца*, *гірса́* і г. д. Другі спіс (66 адзінак, размешчаных у адвольным парадку) адлюстроўвае пераважна народную марфалогію раслін (назвы састаўных частак): *быльлё*, *за́вязь*, *зярно́*, *ліст*, *прут*, *пы́льнік*, *пянёк*, *се́мя* і інш. Трэці пералік слоў (17 лексем) утрымлівае народныя тэрміны па будове кветкі: *ву́сік*, *ду́зік*, *за́вязь*, *зе́льле*, *зёлка*, *квятлі́ца*, *кузаво́к*, *мяду́нка*, *пы́льнік*, *растапы́рка*, ~~*рыльца*~~, *семяпло́дзік*, *сукве́так*, *су́кведзь*, *хабато́к*, *цу́цка*, *ча́рачка*. Чацвёрты спіс (10 адзінак) можна ўмоўна назваць "формы кветак": *дзядулько́вые*, *кочанова́стые*, *кучба́стые*, *махры́ста-кучо́[?]*, *махры́стые*, *мяду́нчатые*, *пухава́тчатые*, *рамулёва́стые*, ~~*рамулёвые*~~, *расьпёрастые*. Пятая група, якая, відавочна, не завершана, бо абрываецца на літары *б*, аб'ядноўвае разнастайныя паняцці па аграноміі (83 лексемы): *абго́н*, *абло́м*, *абрэ́з*, *абса́да*, *абсе́ў*, *абхо́п*, *адмо́р*, *адо́рваль* і інш. Невялікая частка прыведзеных адзінак, на нашу думку, з'яўляецца штучнымі суфіксальнымі (пры дапамозе афікса *-асьць*) утварэннямі Я. Драздовіча: *абмежкава́тасьць*, *адлу́шчанасьць*, *адупле́ласьць*, *аду́тліватасьць*. І шосты пералік, магчыма, з'яўляецца чарнавым накідам зместу таго, што яшчэ Я. Драздовіч збіраўся апісаць (13 адзінак): *дрэ́ва*, *збо́жжа*, *карняпло́ды*, *кве́тка*, *ко́лас*, *лес*, *ліст*, *струк*, *трава́*, *хво́я*, *фру́кты*, *фрукто́выя дрэ́вы*, *я́гады*.

Пасля апрацоўкі над усімі лексемамі быў пастаўлены націск, да кожнай адзінкі былі дададзены граматычныя пазнакі. У межах груп рэестравыя словы былі размешчаны па алфавіце. Аўтарскі падзел на раздзелы захаваны цалкам, пры гэтым у першай частцы назвы раздзелаў былі зняты па прычыне неадпаведнасці зместу некаторых з іх, а менавіта: групы *"жыта"*, *"пшаніца"* і *"ячмень"* былі размешчаны асобна; групы *"авёс"* і *"боб"* былі аб'яднаны ў *"збажжавыя расьліны"*, а групы "*віка*", "*гарох*" і "*фасоль*" – вылучаны пры гэтым у *"збажовые расьліны"*. Адзначым, што тэматычныя групы *"бульба"*, *"бурак"*, *"грыжына"*, *"рэпа"*, *"рэдзька"*, *"радыса"*, *"морква"* абсалютна дакладна адносяцца да *"карняплодаў"*, што і адлюстравана Я. Драздовічам. Пасля апрацоўкі ўсе групы размешчаны па алфавіце з улікам апорнага слова.

Усе аўтарскія азначэнні, якія пададзены ў першай частцы, захаваны, але падаюцца ў змененым ці крыху перапрацаваным выглядзе, адаптаваным да патрабаванняў сучаснай лексікаграфіі. У асобных выпадках з новага радка без водступу дробным шрыфтам падаецца тлумачэнне Я. Драздовіча, якое змяшчае дадатковыя звесткі апісальнага характару:

> **ГІРСÁ** *ж.* Гірса; пустазелле сямейства злакавых. ◻ *Гірсíца – хлéбу памачнíца*.
> Перарод жыта на мокрых і зімных грунтах (асабліва на нізкім грунце падзолу) у аў[с]ястую мятлу, маючую высокую (роўную з жытам) ценкую і жосткую цёмна-зялёную салому, завершаленую аўсянавастым вятлістым коласам з цемна-зялёнымі, а пры дасьпеласьці шэрабураватымі, абвалочанымі цьверодымі ашачынамі тошчымі зернітамі.

Прыказкі і словазлучэнні тэрміналагічнага характару афармлены пры дапамозе спецыяльных сімвалаў: ◻, ○.

У другой частцы ў асобных выпадках рэестравай адзінкай з'яўляецца словазлучэнне: *агнíстая масьць*, *азярны́я расьл.[íны]*, *атрýтныя р.[асьлíны]*, *бабóвые р.[асьлíны]*, *баравы́е р.[асьлíны]*, *фруктóвыя дрэ́вы*. Фанетычныя варыянты падаюцца праз коску адным артыкулам, напрыклад: *абнíм* і *абнём*, *адóжыль* і *атóжаль*, *атóжылак* і ~~*адóжылак*~~, *ліствáк* і *ліствя́к*, *мядзя́лка* і ~~*мядзёлка*~~, *тóпаль* і *тóфіль*. Формы множнага ліку пры асобных лексемах былі цалкам захаваны: **Зярнó** *н.*, **зéрніты** *мн.*

Ва ўсіх спісах аднакарэнныя словы былі аформлены самастойным артыкуламі, у тым ліку ласкальныя і памяншальныя формы, напрыклад, *кáліва* і *кáліўца*, *карá* і *кары́ца*, *ліст* і *лісьцíнка*, *пень*, *пнюшóк* і *пянёк*, *рабíна* і *рабíнка*. Сінанімічныя назвы (*вáта* і *пухавáтка*, *прыпýтнік* і *пýтнік*, ~~*ры́льца*~~ і *хабатóк*, *пупы́р* і *пупы́шка*) падаюцца са спасылкамі на лексічна тоесныя адпаведнікі: **Пупы́р** *м.* [*гл.* **пупы́шка**]

Адзінкавае тлумачэнне праз рускі адпаведнік апушчана: *пухаватка 'хлопокъ'*.

Аўтарскае ўказанне ў дужках колькасці значэнняў лексем таксама цалкам перанесена з чарнавых запісаў: **Абвíва** (2) *ж.*; **Абрýб** (2) *м.*

*Падрыхтовачны матэр'ял для беларускага слоўніка па Географіі і геалогіі* (або с***ловазбор Геаграфія і геалогія***[1] пасля апрацоўкі) змяшчае 640 адзінак (без уліку фанетычных варыянтаў), якія змешчаны ў слупок на доўгіх, самастойна выразаных і змацаваных трох лістах (на старонцы па два-тры слупкі лексем). Відавочна, гэта чыставік, бо мала закрэсленняў, усе словы напісаны ручкай чорнага колеру, толькі тры адзінкі ўпісаны алоўкам (*струга*, *стругавіна*, *стружка*).

Па часцінамоўнай прыналежнасці найбольшую колькасць адзінак складаюць назоўнікі (каля 92% ад агульнай колькасці), прыметнікаў і прыслоўяў зафіксавана адносна мала (каля 7% і 1% адпаведна).

Па лексічным напаўненні гэты матэрыял Я. Драздовіча з пункту погляду народнага ўсведамлення тэрыторыі, яе кампанентаў, асаблі-

---

[1] *Ibidem*, л. 1–4.

васцяў іх размяшчэння, з’яў прыроды і інш. з’яўляецца дастаткова багатым. Пераважную большасць складаюць шырока распаўсюджаныя намінацыйныя сродкі: *аблі́вень*, *абло́ка*, *бліскаві́ца*, *гром*, *дождж*, *зо́рка*, *і́нія*, *пяру́н*, *сьнег*, *тума́н*; *абло́г*, *бе́раг*, *узго́н*, *хлынь*; *азяро́*, *ба́гна*, *бало́та*, *быстра́к*, *вакно́*, *капа́нка*, *мо́ра*, *стаў*; *астро́ў*, *далі́на*, *лог*, *нізіна́*; *бор*, *бязле́сьсе*, *гай*; *валато́ўка*, *гара́*, *курга́н*; *ві́льгаць*, *макрая́дзь*, *прэль*, *слата́*; *глей*, *глі́на*, *крэ́мень* і пад. Разам з тым, бачна імкненне лексікографа зафіксаваць лексемы з відавочнай унутранай матывацыяй, што маглі б быць скарыстаны Тэрміналагічнай камісіяй для выпрацоўкі беларускіх адпаведнікаў разнастайным тэрмінам з абстрактным значэннем: *бязде́нніца*, *до́нніца*, *дне́ньне*, *падо́ньне*; *дало́ўе*; *дзярні́стасьць*; *друзава́стасць*, *друзе́ньне*; *па́рыстасьць*; *пустэ́льня*, *пусто́ш*; *ро́снасьць*; *узро́ўе*; *узрэ́чча* і інш. Таксама пазначана шмат адзінак, якія можна было б выкарыстаць у геаграфічнай практыцы толькі ўлічваючы іх пераносны, метафарычны сэнс: *дзіч*, *жыдзь*, *за́крут*, *калдо́ба*, *кру́пы*, *крыву́лька*, *лі́ха*, *нахо́дка*, *нос*, *разо́ра* і інш.

Словы Я. Драздовічам пададзены ў **алфавітна-гнездавым парадку**, напрыклад, *гара*, *гарыстасьць*, *гарушка*, *горка*, *горы*, *горнае*, *гай*, *гаёк*, *гайнік*, *гарак*, *гарацкае* і г. д. Лексемы на наступную літару звычайна пачынаюцца праз рысу; у асобных выпадках прастаўлены літары (*о* і *п*). Прыставачныя (або прыставачна-суфіксальныя і інш.) утварэнні ад аднаго і таго ж вытворнага знаходзяцца ў словазборы ў адпаведнасці з алфавітным парадкам. Пры апрацоўцы архіўнага матэрыялу для аднатыпнасці яго падачы ўсе вытворныя лексемы былі аб’яднаны ў адно словаўтваральнае гняздо. У якасці рэестравай была абрана, пры наяўнасці, невытворная лексема (або такая, з якой пачынаецца словаўтваральны ланцужок); пасля яе ў алфавітным парадку праз коску прыводзяцца ўсе аднакарэнныя:

> **Вада́** *ж.*, **во́ды** *мн.*, адво́дзьдзе *н.*, бязво́дзьдзе *н.*, вадазасто́й *м.*, вадазго́н *м.*, вадамёт *м.*, вадамчэ́д *м.*, вадапа́д *м.*, вадаска́т *м.*, вадаста́ў *м.* [*гл.* **стаў**], вадасто́к, вадасьцёк *м.*, вадастры́м *м.*, вадацэ́ч *ж.*, вадацёк *м.*, вадзі́ца *ж.*, вадзяны́ *прым.*, во́дня *ж.* [*гл.* **дзе́льва**], наваднéньне *н.*

Пасля апрацоўкі атрымалася 273 слоўнікавыя артыкулы, з якіх 137 (практычна 50%) складаюцца толькі з адной рэестравай адзінкі. Пры гэтым у 68 выпадках загалоўнае слова суправаджаецца адным вытворным (25% ад агульнай колькасці), у 25 выпадках – двума, у 17 – трыма, у 14 – чатырма, у 5 – сямю, у 3 – пяццю, адзінкава – васьмю, дзевяццю, дванаццаццю і васямнаццаццю. Напрыклад:

> **Лог** *м.*, выло́гавіна *ж.*, выло́жжа *н.*, лаго́вы *прым.*, лагчына́ *ж.*, ло́жны *прым.* [*ант. да* **го́рны**], пало́г *м.*, разло́г *м.*, узло́жжа *н.*

У рукапісе Я. Драздовіча націскі пастаўлены толькі над асобнымі лексемамі: *круцізна́*, *купа́*, *лавіна́*, *лагчына́*, *ліве́нь*, *нізіна́*, *слата́*, *сьле́цьце*, *трьюхва́*; граматычныя пазнакі адсутнічаюць. У падрыхтаваным да

друку словазборы кожная адзінка мае націск і адпаведную граматычную пазнаку. Прыметнікі звычайна Я. Драздовічам прыводзяцца ў форме адзіночнага ліку ніякага роду: *азёрнае*, *астраўное*, *багністае*, *баравое*, *барыстае* і інш. Пасля апрацоўкі такая форма падачы была заменена на традыцыйную (м. р., Н. скл., адз. л). Чатыры словазлучэнні, прыведзеныя ў агульным спісе, падаюцца без змен: *быстрая р.[ака]*, *быстраводная р.[ака]*, *парысты грунт*, *спадавая канава*.

Адзначым, што ў арыгінале ў асобных выпадках лексемы былі пададзены не ў слупок, а па дзве ў радок (праз коску, працяжнік, знак роўнасці, у дужках; прычым замест другой адзінкі можа ўказвацца толькі тая яе частка, якой яна адрозніваецца ад першай): гэта фанетычныя, марфемныя, граматычныя, лексічныя варыянты, а таксама аднакарэнныя словы. Фанетычныя варыянты (15 выпадкаў), марфемныя варыянты і аднакарэнныя лексемы (35) былі аформлены ў межах адпаведных словаўтваральных гнёздаў: *вакнó*, *кно*; *сашá*, ~~*шашá*~~; *выбóй м.*, *выбóіна ж.*; *мáрач ж.*, *пáмарака ж.*

Граматычныя варыянты (14), гэта значыць прывядзенне поруч з формай адзіночнага ліку назоўніка і формы множнага ліку, былі захаваны цалкам:

**Вянéц** *м.*, **вянцы́** *мн.*
**Крывýлька** *ж.*, **крывýлькі** *мн.*

Лексічныя варыянты і ўдакладненні (або тлумачэнні) значэння, што Я. Драздовічам прыводзяцца аднолькава ў дужках (толькі тры разы праз спасылку *гл.*), пры падрыхтоўцы да друку былі размежаваны. Лексічныя варыянты (27) былі аформлены ў квадратныя дужкі; прычым кожная лексема з пары мае адсылку на тоесную па сэнсе, напрыклад:

**Кісларóд** *м.* [*гл.* **сьвéжань**, **тлен**, **тлец**].
**Сьвéжань** *м.* [*гл.* **кісларóд**, **тлен**, **тлец**].
**Тлен** *м.* [*гл.* **кісларóд**, **сьвéжань**], тлец *м.*, тлéласьць *ж.*

Пры гэтым рэестр аўтарскіх матэрыялаў быў павялічаны на 19 лексем, якія ў тэксце слоўнікавых матэрыялаў Я. Драздовічам прыведзены не былі: *вална*, *вільгаць*, *водня*, *волага*, *гала*, *горад*, *груды*, *гукі*, *кісларод*, *мільканьне*, *парог*, *струга*, *стругавіна*, *студня*, *сухастой*, *схон*, *хлынь*, *шэраш*, *ясаўка*. Цікава заўважыць, што адзінкава складальнікам прыводзяцца не сінанімічныя, а антанімічныя адзінкі:

**Гарá** *ж.*, **гóры** *мн.*, адгóр'е *н.*, гарýшка *ж.*, гары́стасьць *ж.*, гóрка *ж.*, гóрны *прым.* [*ант. да* **лóжны**], пагóрак *м.*, пагóр'е *н.*, сталагóр'е *н.*, стугóр *м.*, стугóр'е *н.*, узгóрак *м.*, узгóр'е *н.*

Тлумачэнні значэння (8 выпадкаў) былі захаваны цалкам і прыводзяцца ў круглых дужках курсівам:

**Гýрба** *(гразь) ж.*
**Дождж** *м.*, дажджавíца *(вада) ж.*, дажджавы́ *прым.*, дажджóк *м.*, дажджы́стасьць *ж.*

Пасля некаторых слоў (10 выпадкаў) Я. Драздовіч у дужках ставіў лічбу, што сведчыла пра колькасць значэнняў мнагазначнага слова: *гала (3)*, *каменка (2)*, *кладка (2)*, *круг (2)*, *крушня (2)*, *куля (3)*, *лёт (3)*, *лінія (2)*, *разора (2)*, *скала (2)*. Такія ўказанні, безумоўна, захоўваліся.

Адзіны прыклад (*на роўнядзі*), прыведзены да лексемы *роўнядзь*, быў апушчаны.

Дапаўняюць матэрыялы словазбору па геаграфіі і геалогіі чыставыя запісы, якія змешчаны сярод іншых матэрыялаў Я. Драздовіча ў літоўскай бібліятэцы (420 адзінак, без уліку лексем, што паўтараюцца, і фанетычных варыянтаў)[1]. Безумоўна, пераважную большасць складаюць назоўнікі (прыблізна 90% ад агульнай колькасці). Цікава адзначыць, што ў гэтай падборцы абсалютна адсутнічаюць штучныя аўтарскія ўтварэнні.

Указаны словазбор складаецца з дзвюх адрозных па спосабе падачы матэрыялу частак. У першай лексемы (іх 157) упарадкаваны **па алфавітна-гнездавым прынцыпе**, прычым у адрозненне ад папярэдне разгледжанага раздзела, усе прыставачна-суфіксальныя ўтварэнні прыводзяцца да апорнага, якое ўказваецца першым і вылучаецца пры напісанні. Аднакарэнныя групуюцца ў дастаткова выразныя групы па спосабе ўтварэння або (зрэдку) у словаўтваральныя ланцужкі (32% ад усіх лексем унутры гнёздаў), у якіх ад 2 ад 4 кампанентаў. Напрыклад, да загалоўкавай лексемы *раќа* прыводзяцца такія рады аднакарэнных: *рачу́лка*, *рачу́шка*, *рэ́чка*; *зарэ́чча*, *падрэ́чча*, *парэ́чча*, *узрэ́чча*; *рачча́ль*, *рачча́ліна*.

Пры апрацоўцы матэрыялаў такі спосаб адлюстравання словаўтваральных радоў і разнастайных утварэнняў па аднолькавай мадэлі быў захаваны, напрыклад:

**ГАРА́** *ж.*, **ГО́РЫ** *мн.*
Гары́стасьць *ж.*
Го́рка *ж.*, гару́шка *ж.*
Го́рны *прым.*, г.[о́рны] адко́с.
Заго́р’е *н.*, паго́р’е *н.*, падго́р’е *н.*, узго́р’е *н.*
Згары́ *прысл.*
Касаго́р *м.*, касаго́р’е *н.*
Паго́рак, пагу́рок *м.*, пры́гарак *м.*, узго́рак *м.*
Пагуркава́тасьць *ж.*

Безумоўна, апорныя словы (іх 14: *азяро́*, *бало́та*, *бор*, *гай*, *гара́*, *лес*, *луг*, *лу́жа*, *мох*, *полê*, *рака́*, *раўні́на*, *руччэ́й*, *стаў*), аднакарэнныя ўнутры гнязда і ўнутры ланцужкоў былі размешчаны ў алфавітным парадку.

Зрэдку алфавітна-гнездавы прынцып парушаецца **тэматычным**, і да рэестравых слоў прыводзяцца сінонімы (*бор* і *сасьня́к*, *сасо́ньнік*; *гай* і *бярэ́зьнік*) і іншая семантычна тоесная інфармацыя: словазлучэнні (*ба-*

[1] Я. Драздовіч, *Рукапісы і дакументы ў Запісной кніжцы, каляндарыку за 1931 г. Дакумент "Дар Беларуск. Музею з Наваградчыны"*, F. 21–97, k. 3, 6.

*раваа́я зімля́*, *го́рны адко́с*, *палёва́я па́ша* поруч з адпаведнымі прыметнікамі), удакладненні (напрыклад, *формы гор* і інш.). Уся згаданая інфармацыя захавана цалкам, напрыклад:

**Формы гор**: адко́сная *прым*., ко́сая *прым*., кру́пная *прым*., крута́я *прым*., пры́ткая *прым*., пякалкава́стая *прым*., седлава́стая *прым*., схонава́стая *прым*., усту́пістая *прым*., фалдава́стая *прым*., шапкава́стая *прым*.; аднабо́касьц[ь] *ж*., булкава́стасьць *ж*., стагарава́стасьць *ж*., стуго́р *м*., схонава́стасьць *ж*., шылава́стасьць *ж*.

У другой частцы збору па геаграфіі і геалогіі з Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх матэрыял згрупаваны **па тэматычным прынцыпе**, прычым з элементамі гнездавання. Так, вылучаецца 15 сэнсавых блокаў (некаторыя з іх былі без аўтарскай назвы, толькі аддзеленыя ад папярэдніх): *[ападкі]*, *[асаблівасьці рэльефу]*, *берагі і вадацечы*, *вада*, *вадастокі*, *вецер*, *грунты*, *дны*, *[зарасьнікі і лясы]*, *лагі*, *нізы*, *пераправы*, *[плынь вады]*, *схоны і няроўнасьці*, *узвышы*. У кожным з іх прыводзіцца ад аднаго да 34 паняццяў, якія ў 46,5% выпадкаў падаюцца поруч з аднакарэннымі (ад аднаго да 10 у радзе). Пасля апрацоўкі матэрыялу ланцужкі вытворных указваюцца праз коску з кропкай:

**[АПАДКІ]:**
Аблі́вень *м*.; лі́вень *м*., залі́вень *м*.; выле́вы *мн*., зале́вы *мн*.
Ато́п *м*., зато́п *м*., пато́п *м*.

Словазлучэнні ў другой частцы прыводзяцца не толькі да рэстравага слова (напрыклад, да назоўніка *дно*: *багні́стае дно*, *глыбо́каê [дно]*, *драгбі́стае дно*, *ўі́лістае дно*, *камяні́стае дно*, *крыні́чнае дно*, *цьвёрдае дно*), але і ў якасці самастойных сінанімічных адзінак: *вадасто́к* і *пла́ўны цёк*, *шара́к* і *шэ́ры грунт*, *выш* і *вышэ́йшыя мяйсцы́* і інш. Сінонімы да загалоўкавых лексем пасля апрацоўкі падаюцца ў канцы слоўнікавага артыкула:

Лясчы́на *ж*.; лясчы́ньнік *м*.; арэ́хаўе *н*.
Састо́нькі *мн*.; сасьня́к *м*., сасьнячо́к *м*.; бор *м*.

У дзвюх частках гэтых матэрыялаў аўтарскія пазнакі пра колькасць значэнняў (пры лексемах *вапе́ньніца* і *лясьні́к*) захаваны ў поўным аб’ёме. Прыклады (*пры ле́се*, *с полê*, *у полê*) былі апушчаны з улікам іх неінфарматыўнасці, як і тлумачэнне *'пры мху'* да лексемы *ўімша́рына*, у адрозненне ад пазнакі *'водаавод'* пры назоўніку *я́лавы*.

Прыблізна над пятай часткай лексем ў рукапісе быў пастаўлены націск складальнікам; граматычных пазнак не было. Пасля апрацоўкі націск быў указаны над кожнай лексемай, як і граматычныя пазнакі; форма рэстравых прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у ніякім родзе была заменена на прынятую форму ў мужчынскім родзе.

Ва ўсім словазборы сустракаюцца выпадкі, калі да загалоўкавай лексемы прыводзяцца не аднакарэнныя словы, а адзінкі з аднолькавым пачаткам: *полê* і *палёўка*, *паляўні́чыė* і інш. Пасля падрыхтоўкі матэ-

рыялаў такія словы апушчаны не былі, бо сведчаць пра адметнасць працы Я. Драздовіча.

Колькасць лексем, агульных для матэрыялаў, што знаходзяцца ў беларускім і літоўскім архівах, дастаткова значная – 138 адзінак. Гэта сведчыць пра тое, што, магчыма, Я. Драздовіч шукаў найбольш адпаведную форму падачы матэрыялу – як для будучага слоўніка беларускай мовы, так і для збору народнай тэрміналогіі: у алфавітным парадку з элементамі гнездавання, у алфавітна-гнездавым або па тэматычным прынцыпе, таксама з элементамі гнездавання, якія дазваляюць не прыводзіць тлумачальную частку і дэманструюць сістэмныя сувязі лексем.

Я. Драздовіч зрабіў спробу стварэння своеасаблівага словазбору па заалогіі, які спалучаў рысы **ідэаграфічнага** і **тэматычнага** – словазбор ***Свойскія жывёлы***[1] пасля апрацоўкі. Так, лексічны матэрыял (словы, словазлучэнні і ўстойлівыя выразы) падаецца па тэмах з адпаведнымі загалоўкамі; у аснове класіфікацыі матэрыялу – традыцыйны падзел прадстаўнікоў жывёльнага свету: *каровы*, *вол*, *качкі і вуткі*, *кот* і *[сабака]*. Усяго Я. Драздовічам зафіксавана 212 разнастайных адзінак, сярод якіх 98 назоўнікаў (з іх 7 у пераносным сэнсе), 24 прыметнікі, 3 дзеясловы і 1 дзеепрыметнік, 4 гукаперайманні, 24 выклічнікі, 8 словазлучэнняў, 22 параўнанні, 9 фразеалагізмаў, 13 парэмій, 6 назваў ці радкоў з песень.

Звычайна ў кожным з тэматычных блокаў прысутнічаюць наступныя падраздзелы: агульныя назвы самкі, самца і іх дзіцяці, масці (і/ці пароды), выклічнікі для падзывання і/ці адгону, параўнанні, парэміі і фраземы, песні. Пры апрацоўцы раздзелы "вол" і "карова", безумоўна, былі аб'яднаны, бо называюць адну жывёліну.

Зместавае напаўненне падраздзелаў і іх загалоўкі ў пераважнай большасці захоўваліся ў аўтарскім выглядзе, але зрэдку ўносіліся змены. Так, у падраздзеле *"каровы"* ў Я. Драздовіча быў аб'яднаны разнародны лексічны матэрыял – *карова*, *бык*, *цяля*, а таксама *хлеў для кароў і быкоў*, – які і быў вылучаны ў асобныя групы з адпаведнымі назвамі; частка матэрыялу складальнікам была пакінута без назвы: "[хваробы]" кароў, "[назвы мяса]" і "[гукаперайманні]". Адзначым, што ў групах *"*кот", "качкі і вуткі" назвы самцоў, самак і іх дзяцей пры апрацоўцы не выносіліся асобна, у сувязі з малой колькасцю пададзенага матэрыялу:

**Свойскія:**
Ка́чка *ж*., ка́чачка *ж*.
Ка́чар *м*.
Качанёнак *м*., качаня́ты *мн*., качаня́ткі *мн*.

У тэматычным блоку *"кот"* аўтарскія падраздзелы *"кот"* і "ласкальнае" з улікам іх семантычнай тоеснасці былі аб'яднаны; адпаведна, да лексемы *кату́ська* і *кі́цачка* была дададзена стылістычная пазнака *ласк*. Для аднастайнага афармлення такія назвы, як "зоў", "ласкальна-

[1] Я. Драздовіч, *Падрыхтовачны матэр'ял...*, л. 11–12, 19.

зыўное", "кліканьне" і "пагрознае", "пагроза", "гон", былі заменены на больш адаптаваныя да патрэб сучаснай лексікаграфіі адпаведнікі: "[падзыванне]", "[пагроза і адгон]". У падраздзеле "прыказкі"/ "прымаўкі"/"прыказкі і прымаўкі" Я. Драздовіч падаў разам лексемы ў пераносным сэнсе, фразеалагізмы і парэміі, таму пасля апрацоўкі матэрыял быў згрупаваны ў наступныя падраздзелы: "[словаўжыванні ў пераносным сэнсе]" (і да назоўнікаў дадавалася пазнака *перан.*), "[параўнанні]", "[устойлівыя адзінкі]" (дзе пададзены парэміі і / ці фраземы, што ўказваюцца пад спецыяльнымі сімваламі – ◊ і □).

У тэматычным блоку "каровы" Я. Драздовічам былі вылучаны два раздзелы "масьці" (прыметнікі) і "прыметы" (назоўнікі), зместавае напаўненне якіх было часткова зменена пры апрацоўцы, бо, напрыклад, субстантывы *бяло́ня*, *бурэ́ня* ці *рыжу́ха* абсалютна тоесныя па сэнсе лексемам *бе́лая*, *бу́рая*, *ры́жая*. У падраздзелах "прыметы" кароў і "параўнанні" была пастаўлена нумарацыя, каб размежаваць розныя групы матэрыялу, напрыклад:

**Прыметы:**
1. Ача́пістая *прым.*
Бязро́гая *прым.*
Каза́ *ж.*
Крутаро́гая *прым.*, крутаро́жка *ж.*
Лаба́тая *прым.*, лаба́тка *ж.* [і інш.].
2. До́йніца *ж.*
Запу́шчаная *дзеепрым.*
Зарва́лася *зак.*
Здаі́лася *зак.*
З малы́м судно́м [і інш.].

Па сваім афармленні значна адрозніваецца ад астатніх тэматычны блок "сабака": а) у ім няма ні загалоўка, ні вылучэння падгруп; б) ядро складаюць параўнанні (4 адзінкі), фраземы і парэміі (6); пададзена толькі два назоўнікі ў пераносным сэнсе (*брахло́* і *сабака́р*); в) многія адзінкі ўтрымліваюць у сваім складзе не рэестравую адзінку *сабака*, а аднакарэнныя ці семантычна звязаныя: *сабака́р*, *прысу́чыўся*, *разсобачэ́ў* і *брахло́*, *брашы́*.

Падчас апрацоўкі да ўсіх лексем быў дададзены націск (у рукапісе ён пастаўлены толькі над асобнымі адзінкамі) і граматычныя пазнакі. Унутры адпаведных падраздзелаў словы падаюцца ў алфавітным парадку; у некаторых выпадках лексемы прыводзяцца словаўтваральнымі ланцужкамі. Гэта тычыцца марфемных варыянтаў і памяншальна-ласкальных форм назоўнікаў, а таксама прыметнікаў і назоўнікаў, што называюць адну і тую ж прыкмету:

До́йніца *ж.*, перадо́йка *ж.*
Не́цель *ж.*, не́целка *ж.*
Бык *м.*, бычо́к *м.*, бы́ська *м.*, бысю́та *м.*
Падцёлак *м.*, падцёлачак *м.*

Сіва́я *прым.*, сіву́ха *ж.*
Чо́рная *прым.*, чарня́ўка *ж.*

Словазлучэнні, формы дзеясловаў і прыметнікаў пры афармленні матэрыялаў захоўваліся ў нязменным выглядзе: *з малы́м судно́м*, *ням-по́ўны вы́дай*, *по́ўнае вы́мя*; *зарва́лася*, *здаі́лася*, *ні адпуска́ець*; *падга́лістая*, *паджуліва́стая*, *тугасі́ская*; *бе́лыя*, *стрыка́тыя*, *шэ́рыя*.

*Матэр'ял да Беларускага слоўніка па псыхалёгіі ~~Характары людзей: 1)прылюдные, 2)адлюдные~~ Характэрызацiя дарэчнасьці і адрэчнасьці людзей ~~у дарэчным і адрэчным разуменьню~~ або ~~Настрой духу~~*[1] пасля апрацоўкі атрымаў назву ***Прылюдныя і адлюдныя характары людзей***. Гэты словазбор уключае 423 лексемы і складаецца з дзвюх **тэматычных частак**, пазначаных у загалоўку: "прылюдныя" і "адлюдныя" характары людзей, што азначае – станоўчыя і адмоўныя характарыстыкі асоб (прычым першых удвая менш). У гэтым словазборы бачыцца імкненне Я. Драздовіча зафіксаваць максімальна поўна лексемы, якія давалі б ацэнку чалавеку па розуме (*дага́длівы*, *мудрэ́ц*, *ське́мны*), характары (*галу́за*, *зладзеява́ты*, *лісава́ты*, *недасту́пны*, *нялёзны*), адносінах да іншых людзей (*зачэ́па*, *дзецяро́б*, *лі́пкі*, *саба́члівы*), да працы (*дармае́д*, *зажыра́лла*, *карыста́лла*, *няру́пны*) і інш.

Толькі 13% прыметнікаў і назоўнікаў у словазборы з'яўляюцца невытворнымі. Практычна 40% прыметнікаў утворана пры дапамозе суфікса *-н-*, 19% – суфікса *-лів-*, каля 10% – прыстаўкі *не-/ня-/ні*, нязначная колькасць – утворана суфіксамі *-л-*, *-aват-/-яват-*, *-ів-/-ыв-*, *-к-*, *-ав-* і нульсуфіксальным спосабам; адзінкава сустракаюцца прыметнікі з суфіксамі *-іт-*, *-яч-*, *-ат-*, *-енн-*, *-ітн-*, *-ом-*, *-он-*, *-ск-*, *-т-*, *-чыв-*, *-эйш-*, *-юч-*. Цікава заўважыць, што ў частцы "адлюдныя характары" Я. Драздовіч змясціў 27 прыметнікаў і назоўнікаў, утвораных пры дапамозе прыстаўкі *не- / ні-/ ня-*; з іх толькі 8 адсутнічаюць без указанай прыстаўкі ў першай частцы: *нізычлі́вы*, *ніпрылю́дны*, *ніпрыту́льны*, *ніпрыхі́льны*, *нявы́валака*, *няго́днік*, *няго́дны*, *нясты́днік*. Амаль 25% назоўнікаў утворана пры дапамозе суфікса *-нік-*, прыблізна 17% – нульсуфіксальным спосабам, 14% – суфіксамі *-л-/-йл-/-лл-*, 9% – суфіксам *-ун-*, няшмат назоўнікаў – суфіксамі *-ак-/-як-*, *-эц-/-ец-*, *-іц-/-ёц-*, *-энь/-ень-/-ань-*, *-юк-*, *-шчык-*, *-к-*; адзінкава сустракаюцца назоўнікі з суфіксамі *-авіт-*, *-ар-*, *-ач-*, *-ель-*, *-ік-*, *-ін-*, *-онік-*, *-ул-*, *-уль-*, *-ух-*, *-цей-*, *-ян-*, *-яш-*.

Усе адзінкі размешчаны Я. Драздовічам у алфавітным парадку (з парушэннямі), без націскаў і граматычных пазнак. Словазбор складаюць прыметнікі (231) і назоўнікі (192), прычым пераважная большасць назоўнікаў – гэта адзінкі мужчынскага (63%) і агульнага (33,3%) роду. Безумоўна, пасля апрацоўкі ва ўсіх лексемах быў пастаўлены націск і дададзены граматычныя пазнакі.

Часта (каля 65 выпадкаў) Я. Драздовіч да прыметнікаў ці назоўнікаў прыводзіць фіналі або цалкам аднакарэнныя лексемы з той жа

[1] *Ibidem*, л. 16–18.

самай сэнсавай характарыстыкай: *пры́кры -рэ́ц*, *самаво́ліц -нік*, *свінава́ты сьвіню́к* і пад. Улічваючы тое, што многія іншыя пары (і нават тройкі) лексем з аднолькавым значэннем падаюцца адрозна (*адва́жлівы* і *адва́жны*, *бяду́ля* і *бяду́н*, *дзіва́чны* і *дзіва́к*, *дзі́ўны*, *жартаў́лівы* і *жарту́н*, *заба́ўлівы* і *заба́ўнік*, *му́дры* і *мудрэ́ц*, *пакла́длівы* і *пакла́дны*, *сму́тнік* і *сму́тны*, *чарствя́к* і *чэ́рствы*, *шу́стры* і *шустрэ́ц* і інш.), згаданыя сінонімы пры апрацоўцы матэрыялу былі аформлены асобнымі слоўнікавымі артыкуламі:

**Карыста́лла** *агульн.*
**Карысталюбі́вы** *прым.*
**Карыста́ніц** *м.*

У першай частцы словазбору (“прылюдныя характары”) да 60 рэестравых адзінак (і да адной лексемы ў другой частцы) Я. Драздовіч падаў алоўкам скарочаныя рускія адпаведнікі (прыметнікі): *сумле́нны совест., стара́нны старательн., спачу́лы сочувств.* і пад. Яны былі захаваны цалкам і прыводзяцца ў апрацаваным матэрыяле ў якасці тлумачальнай часткі:

**Хлебасуллі́вы** *прым.* Гостеприимный.
**Ця́мкі** *прым.* Смекалистый.
**Шу́стры** *прым.* Бодрый.

Фанетычныя варыянты (3 выпадкі) падаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле:

**Імслі́вы**, **імсьцьлі́вы**, **мсьцлі́вы** *прым.*
**Льсьцень**, **ільсьце́нь** *м.*
**Прагаві́ты**, **прагові́ты** *прым.*

Матэрыял слоўніка пра характар чалавека паказвае, што ў сваёй лексікаграфічнай дзейнасці Я. Драздовіч сутыкнуўся з той жа праблемай, што і Сцяпан Некрашэвіч, які ў свой час адмовіўся ад збірання матэрыялаў пры дапамозе праграм: увага надаецца пераважна намінатыўным субстантыўным сродкам мовы – назоўнікам (“звычайна даюцца толькі назвы прадметаў і не адмячаецца якасьць, дзеяньне і да т. п.”[1]). Да таго ж, пры аналізе па часцінамоўнай прыналежнасці лексем у *Беларускім слоўніку*[2] Я. Драздовіча выявілася, што назоўнікі складаюць 76%, дзеясловы – 16%, а лексемы іншых часцін мовы складаюць менш за 8% ад агульнай колькасці. Магчыма, такой тэматычнай падборкай дзісенскі лексікограф імкнуўся пашырыць як тэматычны склад, так і забяспечанасць рознымі часцінамі мовы, прынамсі, прыметнікамі, будучы слоўнік.

Словазбор пад аўтарскай назвай ***Хатнія рэчы (нутро хаты)***[3] (*Хата і хатняе начынне* пасля апрацоўкі) утрымлівае 286 лексем (без уліку

[1] С. Н е к р а ш э в і ч, *Да пытаньня аб укладаньні слоўніка...*, с. 174.
[2] Я. Д р а з д о в і ч, *Падрыхтовачны матэр’ял...*, л. 20–28.
[3] *Ibidem*, л. 9–10.

фанетычных варыянтаў, у адрозненне ад закрэсленых лексем, напр., ~~*кро́сны*~~) і складаецца з 11 частак (адзначым, што некаторыя часткі Я. Драздовіч змясціў без назвы; згодна з іх семантыкай у квадратных дужках намі былі дададзены падзагалоўкі): а) *абстаноўка* (57 адз.), б) *будоўля* (68), в) *дом [памяшканні]* (19), г) *збруя* (8), д) *[збудаванні]* (18), е) *калёсы* (11), ё) *пасу[д]а* (76), ж) *[прылады для апрацоўкі збожжа]* (3), з) *[прылады працы]* (15), і) *[тыпы хат]* (5), й) *[часткі збудавання]* (3). Яшчэ адна частка "адзежа і тканіны" была толькі пазначана складальнікам, але не напоўнена лексічна.

Па змесце словазбор *Хата і хатняе начынне* Я. Драздовіча з'яўляецца досыць багатым. Шырока пададзены назвы прадметаў хатняга абсталявання (*гра́дкі*, *ку́бел*, *ла́ўка*, *ма́ціца*, *пало́к*, *су́днік*, *тапча́н*, *шасто́к* і інш.), разнастайнага па прызначэнні кухоннага начыння (*бале́йка*, *бу́тля*, *гарла́ч*, *гляк*, *ку́фэль*, *лагу́н*, *лі́паўка*, *пало́нік*, *ра́жка*, *саға́н*, *саля́нка*, *судзёнка*, *та́ца*, *фа́ска*, *ча́шка*, *чэ́рап*), будаўнічая тэрміналогія (*кро́квы*, *лабя́к*, *ла́ты*, *ма́ціцы*, *мурла́ты*, *падпадло́жжа*, *падпа́шнікі*, *паясы́*, *перару́б*, *шаламя́дзь*) і інш. Відавочна, што пераважную большасць склалі шырока распаўсюджаныя намінацыйныя сродкі.

Матэрыял Я. Драздовічам згрупаваны **па тэматычным прынцыпе**, лексемы ўнутры частак падаюцца не па алфавіце, без націскаў, граматычных пазнак і тлумачальнай часткі. Некаторыя адзінкі ў названых падгрупах Я. Драздовіч вылучаў працяжнікам і / ці пазнакаю *ас.* (*вакно*, *вароты*, *дзьверы*, *жорны*, *кульбака*, *печ*, *плуг*, *саха*, *стол*, *столь*, *упраж*, *хамут*). Вельмі верагодна, даследчык збіраўся вынесці названыя адзінкі як назвы асобных падгруп і разгледзець іх больш падрабязна (будова, часткі і пад.). У сувязі з адсутнасцю рэалізацыі задуманага пазнакі і вылучэнні са згаданых лексем былі зняты.

Пасля апрацоўкі словазбору *Хата і хатняе начынне* ўсе лексемы ў межах частак былі размешчаны ў алфавітным парадку, да іх дададзены націскі, граматычныя пазнакі (*м.*, *ж.*, *н.*, *мн.*). Фанетычныя, граматычныя і словаўтваральныя варыянты былі аформлены адным слоўнікавым артыкулам: *по́кат* і *пако́т*; *про́га* і *паро́га*; *сто́пка* і *істо́пка*; *се́нцы* і *сёнкі*; *паро́г* і *паро́га*; *схо́дня* і *ўсхо́дня*. Сінонімы, зафіксаваныя складальнікам, падаюцца самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі: *жне́йка* і *жня́рка*, *карафа́шка* і *тача́нка*, *слупы́* і *шу́лы*. Два тэрміналагічныя словазлучэнні (*крыжавы́ вуго́л* і *гла́дкі вуго́л*) былі аформлены на апорнае слова:

**Вуго́л** *м.* ○ ГЛА́ДКІ ВУГО́Л. ○ КРЫЖАВЫ́ ВУГО́Л.

Адзінкі, што ў дзісенскіх гаворках ужываюцца як у адзіночным, так і ў множным ліку, Я. Драздовіч падаваў праз коску, з указаннем часткі асновы ў множным ліку: *ба́лька кі*, *бэ́лька кі*, *кро́ква вы*, *ма́ціца цы*, *мурла́та ты*, *падпа́шнік кі*, *пая́с сы́*, *перару́б бы*, *сьцена́ ны*, *швэ́ля лі*, – або цалкам: *хлеў* і *хлявы́*. Пры падрыхтоўцы словазбору да выдання ўсе гэтыя формы захаваны цалкам: **Ма́ціца** *ж.*, ма́ціцы *мн.*

Памяншальныя формы Я. Драздовіч змяшчаў у слупок, разглядаючы іх, вельмі верагодна, як асобныя намінатыўныя адзінкі: *дзежá* і *дзéжка*, *жбан* і *жбанóк*, *кадзь* і *кáдка*, *канáпа* і *канáпка*, *мíса* і *мíска*, *суднó* і *судзянцó*, *шáфа* і *шáфка* і інш. З улікам такога афармлення і адсутнасцю тлумачальнай часткі згаданыя адзінкі пасля апрацоўкі падаюцца самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі, без стылістычных пазнак.

Асобна ад усіх прааналізаваных тэрміналагічных словазбораў Я. Драздовіча стаіць ***Батанічны слоўнік вёскі Рымкі*** (назва дадзена намі пасля апрацоўкі матэрыялаў). Гэта карткі з назвамі раслін, якія знаходзяцца ў Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх сярод іншых лінгвістычных матэрыялаў[1] Я. Драздовіча – "альфабэтычнага набору картак слоўнікавага матэр'ялу, да слоўніка бел. мовы паўночнага краю Заходняй Беларусі на літ. А і Б (Дзісеншчына)"[2], якія былі ім дасланы ў Інбелкульт у 1926 г. Важна адзначыць, што Я. Драздовіч збіраннем матэрыялаў па батаніцы пачаў займацца задоўга да стварэння Навукова-тэрміналагічнай камісіі і ўвогуле задоўга да ўласнай актыўнай працы па зборы дзісенскай і пінскай лексікі, пра што сведчыць наступны ліст (адрасат і дата не ўказаныя): "Грамадзянін Старшыня! У адказ на Ваша абвяшчэньне у «Народнай Справе» чэсьць маю пры гэтым далучыць нескалькі ўзоравых картак. Ня будучы філёлёгам, я занасіу на карткі славы так, як улаўлівала маё вуха. Што тычыцца названьня расьлін, то іх я пачаў зьбіраць з 1912 г., калі атрымаў ад Департамента загад: саставіць гэрбарый з названьнямі расьлін па маскоўску, лацінску і на «местным наречии». Зьбіраў гэрбарый у пав. Дзісенскім, Вялейскім, Ашмянскім, Лідскім, Друсянскім і Полацкім. Частку цяпер праверыў пры помачы людзей, ня чэпляных культурой. Рэшту ня ўспеў, дзякуючы патрэбу часу"[3]. Магчыма, *Батанічны слоўнік вёскі Рымкі* і стаў вынікам шматгадовай працы аматара-лексікографа.

Карткі ў слоўніку ўтрымліваюць лінгвістычны пашпарт, згодна з якім прыведзеныя лексемы "чуў ад жанчыны 65 год" і інш. інфармантаў Уладзімір Павалковіч. Зместавае напаўненне (рэестравыя словы з вельмі дакладнымі лацінскімі адпаведнікамі) і крыху іншы почырк прымушаюць вагацца, каго варта ўказваць ў якасці аўтара-збіральніка – У. Павалковіча ці Я. Драздовіча. Пры гэтым тэхнічнае афармленне, адсутнасць граматычных пазнак, спосаб падкрэслівання рэестравага слова сведчаць пра тое, што названыя матэрыялы дакладна рыхтаваў і сістэматызаваў Я. Драздовіч. Гаворачы наконт почырку, можна згадаць тое, што працы лексікографа, напісаныя начыста ці начарна і ў розныя перыяды, нязначна, але адрозніваюцца. Прыведзеныя лацінскія адпаведнікі можна патлумачыць тым, што да Я. Драздовіча трапіў слоўнік, напрыклад, Мікалая Аненкава (магчыма, праз Б. Эпімаха-Шыпілу ці іншых сяброў). Таксама магчыма, што Я. Драздовіч падзяліўся

[1] Я. Драздовіч, *Карткі з беларускімі словамі...*
[2] Я. Драздовіч, *Дакументы*, F. 21–95, k. 4.
[3] Я. Драздовіч, *Карткі з беларускімі словамі...*, л. 316.

з У. Павалковічам задумай укладання поўнага слоўніка жывой беларускай мовы і той збіраў (г. зн. фактычна выступаў памочнікам) для яго матэрыялы, якія потым Я. Драздовіч і аформіў. Пасля разваг і шматлікіх сумненняў усё ж было прынята рашэнне падаць названую працу пад аўтарствам Я. Драздовіча.

Слоўнік складаецца са 161 картка-слова; пасля апрацоўкі агульная колькасць лексем склала 159 найменняў. *Батанічны слоўнік* складзены на надзвычай высокім прафесійным узроўні. Кожны слоўнікавы артыкул мае вельмі строга вытрыманую структуру: рэестравае слова па-беларуску з націскам, пераклад на рускую мову, лацінскі адпаведнік, у якой вёсцы і гміне запісана лексема, імя і прозвішча збіральніка. У адзінкавых выпадках, хутчэй за ўсё праз недагляд, прапушчаны рускі (пры лексеме *размáй*) або лацінскі (слова *вы́чка-лесаві́чка*) варыянты, лінгвістычны пашпарт (лексічныя адзінкі *бузінік*, *вуро́чнік гаёвы*) або прозвішча збіральніка (найменні *вуро́чнік гаёвы*, *вы́чка каранько́вая*, *лугаві́ца*).

Часта прыводзіцца запіс пра месца вырастання расліны, працягласць яе жыццядзейнасці і відавую разнастайнасць і інш. (134 выпадкі), напрыклад: а) *культурная адналетка* (7 выпадкаў), *культурная дву(х)-летка* (2); б) дзікая (2), *дзікая адналетка* (14), *дзікая дву(х)летка* (8), *дзікая балотная рас.[ліна], мае шмат відаў* (1), *дзікая мна(о)галетка* (50) або *дзікая шматлетка* (15), *дзікая, мае 5 відаў* (1) або *дзікая, 5 расьлін* (1), *дзікая, мае шмат відаў (формаў)* (10), *дзікая мна(о)галетка, мае шмат відаў (разнавіднасьцяў)* (3), *дзікая многалетка, мае шмат пераходных формаў* (1); в) *дэкаратыўнае дрэва* (1), *дэкаратыўная адналетка* (1), *многалетка дэкоратыўная* (1); г) *паразітная адналетка* (1); д) *адналетка* (1); е) *кустарнік* (2); ё) *расьце па нівам* (2); ж) *мае некалькі відаў* (5), *мае шмат відаў* (4), *тры расьл.* (1).

Прыблізна палова адзінак суправаджаецца запісам пра інфармантаў. Адзначым, што У. Павалковіч пры збіранні матэрыялаў звярнуўся да вельмі вялікай і разнастайнай па ўзросце і занятках колькасці людзей, а менавіта: *чуў ад жанчын* (у 2 выпадках); *чуў ад старых жанчын (жанч.)* (9); *чуў ад вельмі старых жанч.* (2); *чуў ад жанчыны (кабеты) 65 год (г.; гад.; гадоў)* (19); *чуў ад жанчыны 73 гадоў* (1); *чуў ад жанчыны 83 гадоў* (1); *чуў ад старых мужчын* (2); *чуў ад мужчыны 83 гадоў* (1); *чуў ад старога знахара* (1), або *чуў ад знахара 70 гадоў (г.; гад)* (20), або *чуў ад старога знахара (70 г.)* (2), або *чуў ад варажбіта 70 гадоў* (1); *чуў ад касцоў (2)*; *чуў ад старых людзей* (7).

У падрыхтаваным *Батанічным слоўніку* беларуская, руская (з націскамі) і лацінская назвы прыводзяцца праз працяжнік, без граматычных пазнак і лінгвістычнага пашпарту (у сувязі з тым, што матэрыял сабраны з адной вёскі, якая ўказана ў назве слоўніка). Звесткі па батаніцы і пра носьбітаў запісаў былі апушчаны, таксама як і асобныя граматычныя заўвагі (*калапні́* і *чарню́гі 'толькі множны лік'*), дадатковая інфармацыя да лінгвістычнага пашпарта (*жыгу́чка 'называюць усе*

*віды крапівы (мейсцамі)'*) і адзінкавыя вузкабатанічныя звесткі (*мох-варане́ц 'мужской экз. конопли'*, а *зязю́льчын мох 'женский экз.'*).

Фанетычныя варыянты і сінанімічныя назвы раслін (рускіх у тым ліку) і хвароб злакаў захаваны цалкам, падаюцца праз коску, а менавіта: *агрэ́ст, агра́ст*; *ба́біны кра́скі, ба́бін цвет, зайра́ўдны гарбу́з, сало́дкі гарбу́з, ксяндзо́ў плеш, гвазда́ельнік, мох-варане́ц, зязю́льчын мох, мухало́ўка, мухае́дка, мярло́жнік, мура́ўнік, падбе́л, масо́ха, птушы́ныя яе́чкі, дзі́кія яе́чкі, яе́чнік, сурэ́піца, сьвірэ́пка, шлёмка, жы́док*; *ва́хта, трифо́ль, тома́т, помидо́ра*; *ражкі́, спо́рнікі*.

Я. Драздовічам прапанаваны дзве пары назваў раслін з аднолькавымі лацінскімі адпаведнікамі; руския назвы пры гэтым у адным выпадку вельмі падобныя: *лапча́тка гуси́ная* і *гуси́ная ла́пка*, а ў другім – адрозніваюцца: *конопля́* і *поско́нь*. У сувязі з гэтым карткі *падаро́жнік* і *срэбная тра́ўка*, *калапні́* і *чарню́гі* былі аб'яднаны:

**Падаро́жнік, срэ́бная тра́ўка** [*дубро́ўка гусі́ная*] – гуси́ная ла́пка [*лапча́тка гуси́ная*] – Potentilla anserina L.
**Калапні́**, **чарню́гі** [*кано́плі пасяўны́я*] – посконь, конопля́ [*посевна́я*] – Cannabis sativa L.

Да таго ж, пасля апрацоўкі ўсяго матэрыялу былі выяўлены, праз лацінскія адпаведнікі, дзве пары беларускіх аманімічных назваў: *прале́ска* як *проле́ска* і *печёночница благоро́дная*; *сардэ́чнік* як *белозо́р боло́тный* і *золототы́сячник обы́чный*.

Уся інфармацыя, якая дапісана намі пры падрыхтоўцы да друку архіўных матэрыялаў або якая выклікае сумненні праз почырк і асобныя пазнакі Я. Драздовіча, заключаецца ў квадратныя дужкі: *веры́шка [націск ?] дубро́вная [дубро́вка]*; *плямо́у[ў ?]ка [гарча́к ястрабко́вы]* і пад.

Так, калі збіральнікам матэрыялаў прыводзіцца дыялектная беларуская (99 выпадкаў), руская (9) або адначасова беларуская і руская дыялектныя назвы (29), то ў квадратных дужках пасля кожнай з іх прыводзіцца агульнапашыраны беларускі і / або рускі літаратурны варыянт:

**Аднапы́рка** [*марко́ўнік*] – купы́рь – Anthriscus Hoffm.
**Блізня́ткі-каха́нкі** [*бра́таўка дубро́ўная*] – ива́н-да-ма́рья [*марья́нник дубра́вный*] – Melampyrum nemorosum L.

Калі літаратурны беларускі адпаведнік не быў знойдзены (на лексемы *бацянкі́*, *бяро́зка хмызьняко́вая*, *вы́чка-ружо́ўка*, *берагавы́ гіге́ль*, *ціка́вая*, *хахлу́шка стручко́вая*, *хахлу́шка цальналі́стная*, *шчаткі́*), то пасля дыялектнай назвы ў квадратных дужках ставіцца пытальны знак:

**Бацянкі́** [*?*] – рогогла́вик [*рогогла́вник яичкови́дный*] – Ceratocephalus orthoceras DC.

Калі ў рускіх назвах, пад уплывам беларускай мовы або нейкіх іншых фактараў, дапускаюцца памылкі, то ў апрацаваным варыянце

яны выпраўляюцца і ніякім чынам не вылучаюцца, напрыклад: замест *сúний бе***з***колéнник* запісана *сúний бе***с***колéнник*, замест *пупá***ў***ка* – *пупá***в***ка* і пад.

У выпадках, калі складальнікам прыводзіцца лацінскі адпаведнік, што называе від пэўнай расліны, а беларускі і рускі (або адзін з іх) – род (і ўзнікае неадпаведнасць паміж назвамі), то ў квадратных дужках пасля беларускага (2 выпадкі), рускага (19) або беларускага і рускага адпаведнікаў (3) прыводзіцца той кампанент назвы, які У. Павалковічам па нейкіх прычынах апушчаны:

**Ажы́на** – ежеви́ка [*сúзая*] – Rubus caesius L.
**Блёкат** [*чóрны*] – белена́ [*чёрная*] – Hyoscyamus niger L.

Калі лацінская назва была прапушчана (*вы́чка-лесавíчка*) або яна не была карэктна перапісана, але пры гэтым рускі адпаведнік прыводзіцца вельмі дакладна (*вы́чка-ружóўка*, *лапу́шнік*, *ражкí*, *сардэ́чнік*), то пасля яе ставіцца знак пытальніка:

**Вы́чка-лесавíчка** [*чы́на ляснáя*] – чи́на леснáя – Lathyrus silvester L. [?].

Калі ж некаторыя элементы ў лацінскай назве апускаюцца і замяняюцца (лексемы *вурóчнік гаёвы*, *вы́чка-двукалярóўка*, *вы́чка дзíкая*, *ду́ля*, *лапу́шнік зялкóвы*) і руская назва пры гэтым не адпавядае шырокараспаўсюджанай, то пасля беларускай, рускай і лацінскай назваў ставяцца пытальныя знакі:

**Вурóчнік гаёвы** [*мару́на трохраздзéльная ?*] – подмаре́нник трёхцве́тный [*трёхраздéльный ?*] – Galium trifidum L. [?].

Адзінкава, калі ў разнастайных батанічных даведніках не былі знойдзены ні лацінскі, ні рускі, ні беларускі варыянты, то лацінскі быў апушчаны (бо не адпавядае ніводнаму з наяўных і не мае сэнсу пры перакладзе), а рускі і беларускі суправаджаюцца пытальнікам:

**Хахлу́шка стручковая** [*?*] – хохлáтка бобови́дная [*?*] – [*?*].

Усе адзінкі ў слоўніку размяшчаюцца па алфавіце. Аднак пры зверцы пададзеных Я. Драздовічам адзінак з матэрыялам разнастайных даведнікаў па батаніцы (напрыклад, *Лаціна-руска-беларускім батанічным слоўнікам* Анатоля Кісялеўскага, *Батанічным слоўнікам"* М. Аненкава або *Энцыклапедыяй прыроды Беларусі* ў 5 т. і інш.) выявілася, што ў некаторых выпадках поруч з родавымі назвамі сабраны і відавыя або пададзены толькі віды адной расліны (без указання назвы роду), таму такія адзінкі былі згрупаваны ў гнёзды (18 выпадкаў; ад дзвюх да сямі адзінак у кожным). Першай падаецца адзінка, што называе род; пры адсутнасці такой прыводзіцца першая па алфавіце відавая адзінка. Усе астатнія назвы ўказваюцца па алфавіце без чырвонага радка:

**Гарля́нка** – живу́чка – Ajuga L.
**Гандзялю́к паўзу́чы** [*гарля́нка паўзу́чая*] – живу́чка ползучая – Ajuga reptans L.

**Гандзялю́к касма́ты** [*гарля́нка жэне́ўская*] – живу́чка мохна́тая [*горля́нка жене́вская*] – Ajuga genevensis L.

Адзначым, што з зафіксаваных складальнікам адзінак 156 з’яўляюцца назвамі раслін, а 5 – назвамі грыбоў (*грыб-дамаві́к*, *губаві́на*, *по́рхаўка*) і хвароб раслін (*іржа́*, *ражкі́*). Відавочна, што апошнія назвы былі вылучаны ў асобны раздзел “Іншае” і змешчаны па алфавіце ў канцы *Батанічнага слоўніка вёскі Рымкі*. У канцы слоўнікавага артыкула пасля кожнага наймення ў квадратных дужках змяшчаецца агульнае ўказанне на тое, што адзінка абазначае:

**Ражкі́**, **спо́рнікі** [*спарыння́*] – ма́точный рожо́к [*спорынья́*, *ма́точные рожки́*] – Claviceps purpurea [*?*]. [хвароба злакаў].

Такім чынам, *Батанічны слоўнік вёскі Рымкі* Язэпа Драздовіча – гэта завершаная праца па ўкладанні тэрміналагічнага словазбору па матэрыялах аднае вёскі. І каштоўнасць гэтай працы заключаецца ў тым, што ў ёй зафіксавана мноства адзінак, не пададзеных у іншых дыялектных крыніцах, напрыклад, *вуро́чнік*, *грабе́лькі*, *паршы́ўка*, *тарфя́нік*, *шлёмка*, *ушы́ўка* і інш.

Такім чынам, Язэп Драздовіч, не знаходзячыся ў віры навуковага жыцця таго часу, вельмі добра разумеў дзве галоўныя мовазнаўчыя задачы: выявіць лексічныя набыткі беларускай мовы, сабраць іх, каб потым “аўладаць гэтым вялікім скарбам і карыстацца ім”[1], і стылістычна распрацаваць народную мову, каб зрабіць яе “прыгоднай <…> для выражэньня <…> самых глыбокіх навуковых ісьцін, самых тонкіх адценьняў нашай мысьлі”[2]. Прааналізаваныя матэрыялы дзісенскага лексікографа сведчаць пра тое, што ён імкнуўся як мага хутчэй стварыць акадэмічны слоўнік і перакладныя тэрміналагічныя слоўнікі, а таксама дэманструюць той вялізны аб’ём працы, якую здолеў выканаць непрафесійны лінгвіст задоўга да выдання адпаведных тэарэтыка-метадалагічных рэкамендацый і распрацовак.

Варта адзначыць, што Я. Драздовіч у 20-я гады XX ст. апярэдзіў сваіх калег-прафесіяналаў: прапанаваў некалькі ўзораў ідэаграфічнага слоўніка, заснаванага на паняццевым прынцыпе; падабраў да асноўных анатамічных тэрмінаў дзісенскія адпаведнікі са зразумелай унутранай матывацыяй; да батанічных назваў заўсёды падаваў лацінскі адпаведнік; не выкарыстоўваў запазычаныя словы, а на аснове беларускіх моўных сродкаў пры дапамозе афіксаў ствараў лексемы з абстрактным значэннем; дэфініцыі (пры іх наяўнасці) прыводзіў толькі па-беларуску.

Упарадкаваныя аматарам-лексікографам словазборы, не выкарыстаныя ў свой час, безумоўна, патрабавалі дапрацоўкі, але маглі стаць добрым апірышчам для далейшай працы Тэрміналагічнай камісіі і Камісіі па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы.

[1] С. Н е к р а ш э в і ч, *Да пытаньня аб укладаньні слоўніка...*, с. 166.
[2] *Ibidem*, с. 169.

*Iryna Galouzo*

**Terminologies by Jazep Drazdovich**

A b s t r a c t

The article focuses on the activities of J. Drazdovich as the originator of many different terminologies in the 1920s. It presents a detailed description of lexical composition and peculiarities of the registry of the ideographic dictionary “Belarusian-Russian terminology of human anatomy and physiology”, the Belarusian-Russian-Latin “Rymki Botanical dictionary”, as well as smaller collections of folk vocabulary of the spheres of botany and agronomy, geography and geology, zoology, psychology, home equipment and others that J. Drazdovich planned to include in his comprehensive dictionary of the Belarusian language.

**Уладзіслаў Іваноў**
Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (Вільня)
uladzislau.ivanou@ehu.lt

# Аб інклюзыўнай беларускай мове[1]

Панятак "інклюзыўнае" ў дачыненьні да мовы мае пакуль дастаткова вузкае значэньне ў беларускамоўным, пагатоў афіцыйным полі. Звычайна ён азначае тое, што ўключае, ахоплівае пэўную вузкую катэгорыю насельніцтва, то бок пад інклюзыўным падразумяваецца ахоп, уключэньне людзей з асаблівымі патрэбамі[2]. Дадзенае вузкае значэньне тэрміна "інклюзыўнае", які апісвае, хутчэй за ўсё, сумеснае навучаньне здаровых дзяцей і дзяцей з абмежаванымі мажлівасьцямі здароўя, прыйшло хутчэй усяго ў афіцыйную беларускую мову з расейскай мовы, якая працягвае пастаўляць заходнія канцэпты і словы ва ўласнай, часта абмежаванай інтэрпрэтацыі. Пры гэтым іншае і тое, што цікавіць нас у межах дадзенага артыкула, значэньне "інклюзыўнае" мае на Захадзе, напрыклад, у гендарнай лінгвістыцы, наступную прапіску: інклюзыўная мова[3] (ад inclusion – уключэньне), альбо гендарна-карэктная, палітычна-карэктная ці яшчэ несэксісцкая мова – панятак, які актыўна ўвайшоў у акадэмічнае і палітычнае поле заходніх краінаў, а ў нас застаецца маргінальным і невядомым па прычыне маргінальнасьці гендарных штудыяў і гендарнай лінгвістыкі ў прыватнасьці. Аднак беларускія пісьменьніцы, паэткі, актывісткі паступова ўводзяць панятак ва ўжытак (напрыклад, калектыў "Гендарны маршрут", калектыў Makeout.by[4]). Таму неабходна пашырыць значэньне слова "інклюзыў-

---

[1] Tekst artykułu jest drukowany w redakcji autorskiej [*red.*].

[2] Н.М. Б а р ы с е н к а - К л е п а ч, *Інклюзіўны турызм: што, як і навошта*, с. 5 [online], http://www.disright.org/sites/default/files/source/03.04.2017/inklyuziuny_turyzm_by.pdf [доступ: 20.04.2019].

[3] United Nations Gender-inclusive language, Guidelines for gender-inclusive language in English [online], https://www.un.org/en/gender-inclusive-language/guidelines.shtml [доступ: 10.04.2019].

[4] Гл. старонку "MakeOut" – https://makeout.by/ і старонку калектыву "Гендарный Маршрут" – http://gender-route.org/; T. K a l i t a, V. T u l u s, V. H a p e y e v a, N. S i v i c k a j a, *Gender in Languages, Speech and Dialects*, Belarusian Experience, Usti nad Labem 2017, p. 153; K. K e d r o n, *Genderové aspekty ve slovanské frazeologii* (*na materiálu běloruštiny*, *polštiny a češtiny*) [online], https://www.kosmas.cz/knihy/195556/genderove-aspekty-ve-slovanske-frazeologii-na-materialu-belorusti ny-polstiny-a-ce stiny/ [доступ: 26.01.2019].

нае": цяпер пад "інклюзыўнай мовай" падразумяваецца комплекс правілаў і практык, скіраваных на вынішчэньне ці прынамсі мінімізацыю дыскрымінацыі пэўных носьбітаў мовы: кабетаў перадусім, а таксама ўсіх іншых катэгорый, якія раней ігнараваліся, не апісваліся (напрыклад, асобы з ЛГБТК-супольнасьці). Інклюзыўная мова складаецца з такіх практык, як актыўная фэмінізацыя назваў пасадаў, пошук нэўтральных словаў, выкарыстаньне г. зв. "эпіцэнаў", словаў супольнага роду, зборных назоўнікаў і пад. Наагул, інклюзыўная мова ахоплівае лексіку, сынтаксыс, граматыку і тыпаграфіку. Тэндэнцыя апошняга часу – дэмаргіналізацыя інклюзыўнай мовы і ўваход яе ў акадэмічнае і палітычнае вымярэньне. Француская літаратуразнаўца і гістарыня мовы Эліян Віено заўважае, што ўжо ў XVIII стагодзьдзі, напрыклад, у францускай мове спрабавалі зьвярнуць увагу на пытаньне інклюзыі – аб чым сьведчаць тэксты і дзейнасьць францускай дзяячкі Алімпіі дэ Гуж (1748-1793)[1]. Як заўважае дасьледніца, толькі ў апошнія пятнаццаць год французжанкі і французы пачалі актыўна і без усякай сувязі з інстытуцыямі ўжываць – альбо ў дужках, альбо пазначаючы зорачкамі ці працяжнікам – інклюзыўную мову[2] і тым самым зьвярнулі ўвагу мовазнаўцаў на пэўную праблему.

Насамрэч, дадзеная тэма зьяўляецца цэнтральнай для нядаўна паўсталай гендарнай лінгвістыкі – галіны мовазнаўства, якая пры дапамозе лінгвістычнага паняткавага апарату дасьледуе гендар (як гендар адбіваецца ў мове і як жанчыны і мужчыны размаўляюць, паводзяць сябе ў мове, з мовай)[3] і вывучае гендарныя адрозьненьні і няроўнасьці ў мове. Фэмінісцкая лябараторыя думак *Mots-Clés* прапануе наступную дэфініцыю "інклюзыўнай мовы": "сукупнасьць графічных і сынтаксычных пазнакаў, якія дазваляюць забясьпечыць роўнасьць рэпрэзэнтацыі абодвух палоў"[4]. У межах гендарнай лінгвістыкі тэма эпіцэнаў шчыльна зьвязаная з іншай маргінальнай тэмай – фэмінізацыяй назваў пасадаў у беларускай мове. Фэмінісцкі падыход закрануў тэму фэмінітываў, паказаўшы, што мова – не ізаляваны фэномэн, а заўжды залежны ад сацыяльнага й палітычнага, і натуральна падштурхнуў нас да крытычнага аналізу сумежнай тэмы эпіцэнаў у мове.

У беларускім кантэксце інклюзыўная мова да ўсяго можа ахопліваць ня толькі гендарнае вымярэньне, але і спэцыфічнае ідэалягічнае беларускае вымярэньне ўключэньня іншага ўзусу, іншай традыцыі ці пошуку кампрамісу паміж г. зв "школьным правапісам" і "тарашкеві-

[1] Interview avec Éliane Viennot, "*Olympe de Gouges a lancé les prémices de l'écriture inclusive*", Le Figaro, 05/11/2017 [online], http://www.lefigaro.fr/langue-francai se/actu-des-mots/2017/11/05/37002-20171105ARTFIG00005-eliane-viennot-oly mpe-de-gouges-a-lance-les-premices-de-l-ecriture-inclusive.php [доступ: 20.04.2019].

[2] *Ibidem*.

[3] M. Y a g u e l l o, *Les mots et les femmes*, Payot, 1992, p. 149.

[4] R. H a d d a d, *Manuel d'écriture inclusive*, 2019 [online], https://www.motscles.net/ecri tu re-inclusive [доступ: 10.04.2019].

цай”. У такім рэчышчы інклюзыўная мова яшчэ ніколі не разглядалася. Аднак сам панятак “інклюзыўнае” спрыяе пашырэньню значэньня і інтэграцыі, уключэньню ў яго іншых, дасюль не ахопленых вымярэньняў. Так, напрыклад, афіцыйныя дапоўненыя слоўнікі беларускай мовы (у прыватнасьці, *Тлумачальны слоўнік*) дасюль працягваюць практыку неўключэньня ў афіцыйны рэестар такіх паняткаў, як фэмінізм, квір і пад. Прыгэтым актыўна і без праблемаў інтэгруецца новая сацыяльна-эканамічная лексыка тыпу лізынг, гастарбайтар, дэвайс, дыскаўнтар, трэнд, тэндар і пад. Іншы прыклад: уключэньне і пашырэньне практыкі ўжываць рэлігійныя панятկі, напрыклад, панятак “бог” у двайной традыцыі: сьвецкая – “бог” і рэлігійная – “Бог”. То бок акрамя выключна гендарнага вымярэньня на Захадзе інклюзыўная мова ў Беларусі ахоплівае да ўсяго пазагендарнае вымярэньне, зьвязанае з існаваньнем і пэўным канкураваньнем двух моўных узусаў.

**Гендарнае вымярэньне інклюзыўнай мовы**

У цэнтры інклюзіўнай мовы ляжыць перадусім пытаньне ўжываньня і пашырэньня ўжываньня фэмінітываў, якія да русіфікацыі зьяўляліся неадымнай і натуральнай часткай маўленьня: прафэсарка, сэнатарка, міністарка, дэпутатка, этналягіня, філёзафка і г. д. Гісторыя беларускай мовы і гендарны аналіз мовы сьведчаць аб тым, што ў XXI стагодзьдзе беларуская мова ўвайшла ў істотна зьмененым і зрусіфікаваным выглядзе. Так, у гендарным вымярэньні пад уплывам нормаў расейшчыны ў бюракратычнай мове мужчынскі род заняў ролю генэрычнага роду, адкуль у афіцыйнай беларускай мове назіраецца тэндэнцыя да татальнай маскулінізацыі жаночых пасадаў (дырэктар сказала, прэзыдэнт заявіла, хірург апэравала і г. д.)[1]. У той час, як ў цяперашняй тарашкевіцы фэмінітывы актыўна і паўсюль ўжываюцца і лічацца нарматыўнымі[2]. Варта таксама азначыць, што ўжо ў беларускай мове XIX стагодзьдзя існавалі фэмінітывы тыпу прафэсарка, сталярка, капралка, пракуратарка, сьлясарка, стражніца і пад., якія азначалі ня жонак мужчынаў, што займалі гэтыя пасады, а саміх кабетаў. Гендарны аналіз мовы да ўсяго дэманструе пэўную асымэрычнасьць у цяперашнім выкарыстаньні фэмінітываў: яны лёгка ўжываюцца да сацыяльна і эканамічна нізкіх пасадаў і званьняў (прыбіральніца, крамніца, сакратарка, вахтэрка, пакаёўка) і амаль ніколі ці праблемна ўжываюцца ў дачыненьні да высокіх пасадаў (сэнатарка, канцлерка, адміралка). Зрэшты, гендарная гісторыя мовы даводзіць, што фэмінітыў – гэта ня проста сымбаль часу, гэта сацыяльна і псыхалягічна, а да ўсяго моўна важна і апраўдана. І потым ня толькі гісторыя мовы можа быць арыентырам

[1] П. Ж а ў н я р о в і ч, *Даведнік па літаратурнай апрацоўцы: Арфаграфічны, пунктуацыйны, лексічны, марфалагічны, сінтаксічны, тэхнічны ўзроўні*, Мінск 2017, с. 237–238.

[2] В. В я ч о р к а, *Не сьмяшыце мае прыназоўнікі*, Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе, Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода 2017, с. 158–161.

у пытаньні адновы і папулярызацыі фэмінізацыі мовы, тут таксама дапамагаюць дыялектная беларуская мова і мастацкая літаратура пяра Кузьмы Чорнага, Янкі Брыля, Фёдара Янкоўскага, Алены Васілевіч і іншых.

Апрача фэмінізацыі назваў пасадаў у мове існуе яшчэ адзін важны рэсурс па эгалітарызацыі палоў – эпіцэны ці назоўнікі супольнага роду[1]. Неабходна пазначыць, што панятак „эпіцэн" у беларускай мове новы, а таму ў пэўнай ступені штучны, тым ня менш, можна паспрабаваць увесьці яго замест ці нароўні з больш груваcткім „назоўнік агульнага роду" ці „назоўнік супольнага роду". Афіцыйна мы сустракаем панятак „назоўнік агульнага роду", у Янка Станкевіча сустракаецца як „слова агульнага", так і „супольнага роду"[2]. Павел Сьцяцко ў сваёй *Культуры мовы* ўжывае панятак «супольны род»[3]. Тэма эпіцэнаў ахоплівае шырэйшую тэму – выпрацоўкі і пераходу на палітычна карэктную, несэксысцкую мову. Эпіцэны значна пашыраюць поле інклюзыўнай мовы і дазваляюць у бюракратычнай мове роўна апісваць мужчынаў і жанчынаў: падаўца, адмоўца, адкрыўца, дарадца, вытворца і пад. Праблематыка дадзенай тэмы палягае вось у чым: на сяньня многія патэнцыйныя эпіцэны з-за ўплыву расейшчыны афіцыйна маюць мужчынскую прапіску, то бок маюць мужчынскі род (адмоўца, вытворца, дарадца, міратворца, творца й пад.) альбо па-просту не задзейнічаныя ў мове. Словы кшталту абаронца, абвінаваўца, атакоўца, відавочца, водца, вызнаўца, выканаўца, вынаходца, выступоўца, вытворца, дарадца, дароўца, даўца, дбайца, (бацька-, брата-, дзета-, сама-) забойца, залогадаўца, знаўца, кіназнаўца, кіроўца, літаратуразнаўца, мова-знаўца, моўца, нападоўца, наступоўца, падтрымоўца, паступоўца, прапаноўца, паўа-ба-ронца, пераможца, празорца, прамоўца, прапойца, пратэстоўца, працадаўца, суразмоўца і многія іншыя, – гэта словы не мужчынскага, а супольнага роду. Трэба ўсяляк пашыраць дадзеную практыку, тым больш, што назоўнікі на *-ц-а*, як мяркуюць лінгвісты, сэмантычна суадносяцца зь дзеясловамі і правамерна й лягічна адносяцца да назоўнікаў супольнага роду[4]. Падаецца, тут ня трэба рабіць ніякіх выключэньняў. Часта, напрыклад, збаўца і творца падаюцца выключна як назоўнікі мужчынскага роду; магчыма, у рэлігійных тэкстах яны і маюць мужчынскую прапіску, у тэкстах жа агульных прыгаданыя назоўнікі мусяць быць эпіцэнамі.

Наступны важны рэсурс мовы, які можа ўзяць на ўзбраеньне мова інклюзыўная, – назоўнікі з зборным значэньнем, то бок словы, якія

[1] З грэцкае ἐπίκοινος (epikoinos) – супольны; у францускай мове назоўнік супольнага роду завецца épicène, у гішпанскай – epiceno, у ангельскай – epicene, у каталёнскай – epicè.

[2] Я. Станкевіч, *Зацемкі з крывіцкае (беларускае) мовы* [у:] Я. Станкевіч, *Збор твораў*, том 2, Менск, 2002, с. 259.

[3] П. Сцяцко, *Культура мовы*, Мінск, 2002, с. 55.

[4] Г. Арашонкава, *Пра назоўнікі тыпу вынаходца, дарадца, стараста*, "Беларуская лінгвістыка" 1988, № 33, с. 66–70.

абазначаюць сукупнасьць асобаў. Так, замест асымэтрычнага звароту „шаноўныя спадары", можна і пажадана выкарыстаць зборныя назоўнікі тыпу „шаноўнае спадарства", замест „паважаныя студэнты" – „паважанае студэнцтва", замест „дарагія чытачы і чытачкі" – „дарагое чытацтва" і г. д. Мовазнаўца і гісторык мовы Мікалай Паўленка на прыкладзе старабеларускай мовы паказаў досыць актыўную задзейнічанасьць і важнасьць падобных назоўнікаў у тэкстах XVI–XVII стст.: рыцарства, жаўнерства, хлопства, купецтва, баярства, насельніцтва, жыхарства, батрацтва, школьніцтва, серадняцтва, казацтва, інцілягенства і пад[1]. У новабеларускай мове гэты рэсурс хоць абмежаваны, але таксама ў многіх сытуацыях апраўданы, эканоміць мову і дапамагае разьвязаць пытаньне ігнараваньня ў тэксьце аднаго з палоў.

Наступным важным крокам інклюзыўнай мовы сталася вымярэньне тыпаграфічнае, то бок афармленьне падачы мужчынскага і жаночага роду ў тэксьце. І тут у беларускай мовы няма ані традыцыі, ані сучасных напрацовак – аўтаркі і аўтары дзейнічаюць спантанна і пад уплывам іншых моваў, якімі яны валодаюць. Перадусім гэта пытаньне прынцыповай бачнасьці ў тэксьце фэмінітываў: дасьледнікі і дасьледніцы, грамадзяне і грамадзянкі. Існуюць розныя практыкі падачы абедзьвюх формаў у тэксьце:

*а. Працоўніцы і працоўнікі.*
*б. Студэнты (-кі) ці грамадзяне (-кі).*
*в. Супрацоўнікі-цы.*
*г. Шаноўныя выкладнікі* выкладніцы.*

Таксама інклюзыўная мова ў тыпаграфіцы закранае бюракратычную мову (анкеты, розныя дзяржаўныя формы), дзе ў формах прынцыповай дзеля роўнасьці становіцца прысутнасьць абодвух палоў: выканаў, -ла; падпісаў, -ла; заяўнік, -іца. Зрэшты, інклюзыўная мова прапануе перагледзець наша стаўленьне да нібыта нэўтральных, генэрычных шыльдаў, іншых прафэсійных пазнакаў і афармляць іх з улікам полу асобы, якая займае тую ці іншую пасаду: тэрапэўтка на дзьвярох кабінэту, дзе працуе лекарка-тэрапэўтка; міністарка, загадніца, дырэктарка, касірка, кандуктарка, тралейбусьніца, мытніца, памежніца і пад.

**Нутрымоўнае вымярэньне інклюзыўнай мовы**

Акрамя экстрамоўнага вымярэньня, прапанаванага сацыялінгвістамі і гендарыстамі, неабходна разгледзіць і ўлічыць вымярэньне ўласна моўнае ці нутрымоўнае зьявы інклюзыўная мова. Сучасныя мовазнаўцы цалкам прызнаючы сацыяльны аспэкт мовы і моўных зьяваў, часта на першае месца ставяць нутрымоўныя чыньнікі і тлумачэньні. Так, найбольш частым запярэчаньням пэўнага кола мовазнаўцаў у бок пашырэньня фэмінізацыі мовы зьяўляецца праблема аманіміі ці адна-

[1] М. П а ў л е н к а, *Назоўнікі на -ств-о (-ств-а) са зборным значэннем у беларускай мове* [online], http://elib.bsu.by/bitstream/123456789/175406/1/паўленка_назоўнікі.pdf [доступ: 20.04.2019].

гучча[1]: фэмінізацыя ўскладняецца, бо паўстае праблема аднагучча (слова *друкарка* ў адрозьненьне ад *друкара* – гэта і “машына, якая друкуе”, і “кабета, якае кніжкі друкуе”[2], *капачка* ў адрозьненьне ад *капача* – гэта і “кабета, якая капае”, і “прылада, з дапамогай якой капаюць”). То бок некаторыя жаночыя формы на *–ка* могуць прыўносіць пэўную блытаніну ў мову: так словы *ананімка*, *вадалазка*, *грабарка*, *служэбка і службоўка* ды некаторыя іншыя азначаюць ня толькі пасады, прафэсіі ці проста намінацыі жаночага роду, але яшчэ адпаведна тып вопраткі, колак для перавозкі), асобу, якая піша ананімку ці само пасланьне – і кабета, якая піша яе, пішуцца і гучаць аднолькава, ці дакумэнт, напісаны службовай асобай. Гэтыя шматсэнсоўныя словы цудоўна разумеюцца ў кантэсьце. Пры гэтым мы ня блытаем слова *дыплямат*, якое азначае адначасова і маленькі сакваяж і мужчыну-дыплямата. Альбо слова *сакратар*, якое азначае стол-бюро і чалавека, які працуе за сакратара. Альбо *макацёр* – збан, у якім труць мак, і чалавек, які трэ мак. З кантэксту заўжды відно, пра што размова. Таму нас не павінны палохаць гэтыя не заўсёды адназначныя моўныя сытуацыі. Тое ж самае можна сказаць пра слова *коньніца*. Традыцыйна мы разумеем пад гэтым паняткам ‘*кавалерыю*’, але слова мае яшчэ адно значэньне – ‘*вершніца*, *язьдзіца*’. Яно актыўна ўжывалася ў 20–30-ыя гады XX ст. ў спартовай лексыцы[3], а таксама сустракалася ў прэсе пасьля вайны, як сынонім вершніцы („Чырвоная Змена”, 1969 год).

З гістарычнага аналізу мовы прывядзем яшчэ такія прыклады фэмінізацыі мовы XIX ст., якія могуць быць ня толькі карыснымі ў XXI ст., але і прадэманстраваць неабгрунтаванасьць страхаў і асьцярожнасьці сучасных носьбітаў мовы перад фэмінітывамі: слова *кавярка* раней азначала ‘кабету, якая гатавала каву ці працавала ў кавярні’. Сяньня *кавярка* – гэта перадусім ‘прыстасаваньне, начыньне, у якім гатуюць каву’. *Канфадаратка* – гэта і ‘шапка, якую насілі канфэдэраты’, і ‘кабета, якая належыла да канфэдэратаў’. *Камяніца* – гэта і ‘каменны дом’, і ‘цяжкая зямля’, і ‘няплодная кабета’. *Гарбатка* – гэта і ‘гарбатая кабета’, і ‘жамярына’, і ‘напой-гарбата’. *Дойніца* – гэта і ‘кароўніца, даярка’, і ‘дойная карова’. *Авантурка* – ‘кабета-авантурніца’, а таксама ‘невялічкая авантура’. *Аўчарка* – перадусім ‘пастушка авечак’, а таксама ‘сабака’. *Мытніца* – гэта і ‘кабета, якая бярэць мыта’, і ‘жонка мытніка’, і ‘месца, дзе бяруць мыта’[4]. Наагул, у Слоўніку Язэпа Ціхінскага налічваецца

[1] Аднагучча (таксама аманімія) – панятак, які азначае зьяву аднолькавасьці слова па напісаньні, але адрознасьці па значэньні (напр. *дыплямат* ‘званьне дыплямата’ і ‘назва торбы-тэчкі’, альбо *коньніца* (‘язьдзіца, вершніца’ і ‘кавалерыя’).

[2] Я. Ц і х і н с к і, *Biełaruska–polska–rasijski sloŭnik*, Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka F–21.

[3] В. П и с к у н, *Женские личные номинации в современном белорусском литературном языке (на материале спортивной лексики),* автореферат диссертации, Минск 1972.

[4] Я. Ц і х і н с к і, *Biełaruska–polska–rasijski sloŭnik…* .

каля ста фэмінітываў-“аднагучнікаў”. І гэта палісэмічнае багацьце не ўскладняла разуменьне нашых папярэднікаў ці сучасных носьбітаў мовы – яно вырашалася і вырашаецца разуменьнем кантэксту.

Пры гэтым варта пагадзіцца з мовазнаўцамі – суфікс –*ка* досыць перанагружаны як ў беларускай, так і ў польскай мовах, бо задзейнічаны ў шматлікіх словатворных працэсах (як пазначалася вышэй, акрамя фармаваньня фэмінітываў ён задзейнічаны ў фармаваньні словаў тыпу *кавярка*, *вадалазка, друкарка* ў беларускай мове, *szafka*, *lampka* ў польскай мове і г. д.)[1]. Гэтая перанагрузка і выклікае засьцярожанасьць некаторых лінгвістаў што да актыўнага ўжываньня суфіксу –*ка* інклюзыўнай мовай.

Зрэшты, у зьвязку з гэтай тэмай яшчэ адзін важны момант вылучаецца лінгвістамі, – гэта факт адрознага значэньня новаўтвораных фэмінітываў на аснове мужчынскіх адпаведнікаў (*алейнік–алейніца*, *спраўнік–спраўніца*, *палкоўнік–палкоўніца*, *кашнік–кашніца*)[2]. Дадзеная цікавая заўвага актуальная і важная ў XXI ст., бо падчас стварэньня новых словаў, фэмінітываў у прыватнасьці, варта ўлічваць адрознасьць значэньняў у гістарычнай пэрспэктыве, што не абавязкова прымушае адмаўляцца ад ідэі зьмены ці папаўненьня значэньняў: напрыклад, слова *рабаса* з старабеларускай мовы, якое азначала жонку рабіна. Сяньня можна зьмяніць і дапоўніць сэнс слова – рабаса можа быць сынонінам рабінкі. Тое ж датычыць і шматлікіх іншых словаў: *палкоўніца* – раней жонка палкоўніка, цяпер кабета ў чыне палкоўніка, *генэралка* – раней жонка генэрала, цяпер жанчына ў чыне генэрала. Дарэчы, падобная тэндэнцыя назіраецца ў іншых мовах, напрыклад, у французскай мове (générale – раней азначала генэраліху, цяпер азначае генэралку і г. д.)[3]. Падобная тэндэнцыя апошнім часам назіраецца і ў польскай мове, дзе лінгвісткі прапануюць пашырыць фэмінізацыю, у тым ліку коштам надацьця старым фэмінітывам новых значэньняў (напрыклад, *wójcina*, *sędzina*, *wojewodzina* і г.д.)[4].

Іншае праблемнае поле інклюзыўнай мовы з пункту гледжаньня нутрымоўнага – праблематычасьць і неўнармаванасьць фэмінізацыі

---

[1] P. K r y s i a k, *Projekt słownika i zarys klasyfikacji semantycznej feminatywów*, https://prezi.com/x10u8uvkxmp0/projekt-sownika-i-zarys-klasyfikacji-semantycznej-feminatywow/ [доступ: 26.01.2019].

[2] М. П а ў л е н к а, *Жаночыя асабовыя намінацыі на* -ица..., с. 63–64. *Алейнік* – ‘той, хто выціскае алей’, *алейніца* – ‘прадавачка алею’, *спраўнік* – ‘начальнік земскага суду’, *спраўніца* – ‘жонка спраўніка’, *кашнік* – ‘саўдзельнік’, *кашніца* – ‘сужыцелька, жонка’.

[3] *Femme, j'écris ton nom... : guide d'aide à la féminisation des noms de métiers, titres, grades et fonctions*, La documentation française, 1999, p. 89.

[4] *Słownik nazw żeńskich polszczyzny*, red. A. Małocha-Krupa, Wrocław 2015; K. K ł o s i ń s k a, *Język władzy. Kobieta wójt może też o sobie mówić wójtka, wójcina lub wójcini*, [online], http://samorzad.pap.pl/depesze/redakcyjne.rozmaitosci/121868/JEZYK-WLADZY–Kobieta-wojt-moze-tez-o-sobie-mowic-wojtka--wojcina-lub-wojcini [доступ: 26.03.2019].

некаторых пасадаў, званьняў: *акадэміня*, *хірургіня*, *хіміца*, *генэралка*, *япіскапка* і пад. Улічваючы багаты мясцовы гістарычны досьвед фэмінізацыі мовы, а таксама такі рэсурс як нэалёгія і далейшую эмансіпацыю кабетаў і роўнасьць палоў шырэй гледзячы, лексычны запас мовы працягвае ўзбагачацца. Так, доступ кабетаў у XXI ст. да раней выключна мужчынскіх пасадаў бязупынку папаўняе і мадыфікуе лексычныя запасы мовы (*канцлерка, прэзыдэнтка, япіскапка, біскупка, маршалка /маршаліца* і пад.), што адбіваецца ў узусе і паступова фіксуецца слоўнікамі.

Такім парадкам, бальшыня выключна нутрымоўных бар'ераў і засьцярогаў на шляху фэмінізацыі, а шырэй гледзячы, інклюзыўнай мовы, маюць таксама экстрамоўнае паходжаньне: сацыяльную і гендарную стэрэатыпізацыю і ігнараваньне кантэксту.

**Пазагендарнае вымярэньне інклюзыўнай мовы**

Акрамя гендарнага і нутрымоўнага вымярэньня, як адзначалася ва ўступе, у беларускім кантэксьце інклюзыўная мова мае пэўную спэцыфіку і можа дапамагчы ўключыць, ахапіць і пакінуць у публічным полі лексычную варыятыўнасьць, выкліканую наяўнасьцю некалькіх узусаў беларускай мовы – афіцыйнай беларускай мовы і тарашкевіцы. Такім парадкам, інклюзыўная мова, апрача гендарнай роўнасьці, прапануе асучасьніць беларускую мову і зрабіць яе так бы мовіць "палінарматыўнай", адкрытай, што датычыць нормаў, адкрытай да моўнай разнастайнасьці: напрыклад, дазваляць пісаць рэлігійныя паняткі з малой літары ў сьвецка-атэісцкай традыцыі і зь вялікай літары ў рэлігійнай традыцыі. Бо з 2008 году ў выніку правапісных зьменаў напісаньне зь вялікае літары імёнаў бостваў і вытворных ад іх, а таксама падобных па сэнсе словаў (Бог, Яхве, Усявышні, Уладыка Нябесны, Сьвятая Тройца[1]) сталася адзіным дакладным, а сьвецкая традыцыя напісаньня рэлігійных паняткаў, сьвятаў і бостваў з малой літары сталася памылковай. Многія мовы, моўныя інстанцыі выбіраюць мадэль адной нормы: беларуская, расейская, польская, француская. Але, напрыклад, гішпанская мова выбрала палінарматыўную мадэль і ўключае ў Слоўнік гішпанскай каралеўскай акадэміі мадрыдскую норму, мэксыканскую, кубінскую і іншыя, ахопліваючы ўсю разнастайнасьць гішпанскай мовы[2]. Якраз інклюзыўная мова спрыяе ўключэньню розных традыцыяў і нормаў у адно афіцыйнае поле, у адзіны дакумэнт, слоўнік. У беларускім выпадку інклюзыўная мова інтэгруе розныя этапы і традыцыі ў перадачы рэлігійнай і іншай лексыкі, шукаючы пэўнага кампрамісу паміж узусамі.

---

[1] В. А к с а к, *Сямнаццаць істотных зьмен у новай рэдакцыі правілаў*, "Радыё Свабода", 5 жніўня 2008 [online], https://www.svaboda.org/a/1188561.html [доступ: 20.04.2019].

[2] B. C e r q u i g l i n i, *La grammaire est une affaire d'État*, Magazine Littéraire, 7 novembre 2018 [online], https://www.nouveau-magazine-litteraire.com/grand-entretien-langue-fran%C3%A7aise-critique-non-fiction/bernard-cerquiglini%C2%A0-%C2%AB%C2%A 0la-grammaire-est-une [доступ: 20.04.2019].

Зрэшты, інклюзыўная мова ў пазагендарным вымярэньні асучасьнівае мову, дадаючы да традыцыйных сэнсаў новыя гучаньні і канатацыі: напрыклад, панятак *дзявочнік* дасюль у слоўніках падаецца, як “частка вясельнага абраду: вечарынка з таварышкамі ў хаце нявесты напярэдадні вянчаньня”[1]. Але для сучасных беларусаў гэта перадусім вечарынка, выхад у клюбы-бары выключна дзявочай кампаніяй. Тое ж самае тычыцца панятку *хлапчоўнік*: гэта ня толькі ці ў меньшай ступені вечарынка жаніха, як проста любая хлапчуковая вечырынка. Мянюцца сацыяльныя практыкі і норавы, адпаведна мяняецца мова: так, побач з словам *дваямужніца* паўстала слова *дваямужнік*, бо зьмяніліся заходнія пераважна сацыяльна-праўныя практыкі. Слова *шлюб*, *сужэнства* па інэрцыі апісваюцца выключна як “сямейны хаўрус мужчыны і жанчыны”. Але цяпер усё мяняецца: шлюб – гэта таксама сямейны хаўрус паміж мужчынамі ці толькі жанчынамі. Такім парадкам, інклюзыўная мова працуе і ў кірунку адновы значэньняў словаў, у кірунку асучасьненьня самой мовы і апісаньня зьяваў, якія адбываюцца ня толькі ў Беларусі, але па-за ейнымі межамі (калі ў Беларусі няма біскупак, сьвятарак, прэзыдэнтак, то яны ёсьць у іншых краінах, мова, такім парадкам, апісвае ня толькі ўласнабеларускія зьявы, але сучасныя міжнародныя тэндэнцыі).

**Заканчэньне**

Падсумоўваючы неабходна яшчэ раз адзначыць навізну тэмы і першыя спробы беларускіх дасьледніцаў выявіць і апісаць праблемнае поле інклюзыўнай мовы[2]. У зьвязку з сацыяльна-палітычнымі зьменамі і палітыкай эгалітарызацыі палоў тэма інклюзыўнай мовы становіцца ня проста актуальнай, але запатрабаванай, бо палітыка роўнасьці вымагае ўключанай і адкрытай да інтарэсаў усіх групаў грамадзтва мовы. Што да выклікаў інклюзыўнай мовы, то нутраны патэнцыял беларускай мовы досыць багаты і распрацаваны, не зважаючы на пэўныя гендарныя стэрэатыпы і страхі мовазнаўцаў: наяўнасьць і функцыянаваньне фэмінітываў-агентываў, наяўнасьць эпіцэнаў і назоўнікаў з зборным значэньнем. То бок мова гатовая ўключаць і апісваць у тэкстах на роўных мажлівасьцях як мужчынаў, так і жанчынаў. Аднак гэтаму перашкаджаюць экстралінгвістычныя чыньнікі: звужэньне ўзусу беларускай мовы, аўтарытарныя практыкі дэбеларусізацыі, гендарная стэрэатыпізацыя, кансэрватызм грамадзтва, а таксама саміх моўных інстытуцыяў. На прыкладзе тэмы інклюзыўнай мовы і ейнай маргіналізаванасьці ў Беларусі выразна бачна, як афіцыйная мова зьяўляецца ня проста інструмэнтам улады, але зьмесьцівам (аўтарытарнай) улады. Сама зьява інклюзыўнай мовы – неабходны дадатак і індыкатар

[1] *Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы*, Мінск, 1996, с. 179.

[2] T. K a l i t a, V. T u l u s, V. H a p e y e v a, N. S i v i c k a j a, *Gender in Languages*, *Speech and Dialects*. Belarusian Experience, Usti nad Labem 2017, p. 153.

адкрытасьці, распрацаванасьці, дэмакратычнасьці і патрэбнасьці мовы для грамадзтва і палітыкі.

*Uladzislaŭ Ivanoŭ*

**On the inclusive Belarusian language**

A b s t r a c t

This article examines the inclusive Belarusian language (both in the dimension of gender and in the measurement of different uses of the Belarusian language). The concept of "inclusive language" is quite new in sociolinguistics, in gender sociolinguistics in particular, and covers such topics as the feminization of the names of professions, a more active use of both feminitives and generic nouns. In the case of the Belarusian language, inclusive language also serves as a resource that contributes to the resolution of issues that have arisen between the two main linguistic traditions (the official Belarusian language and the norm known as Taraškievica).

Tom 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Mirosław Jankowiak**
Instytut Słowiański Akademii Nauk Republiki Czeskiej
mirek.jankowiak@gmail.com

# Leksyka polskiego pochodzenia w gwarach białoruskich na Litwie

## Wprowadzenie

Zagadnienie kontaktów językowych na pograniczach należy do ciekawszych obszarów badawczych współczesnego językoznawstwa. Odnosi się to również do słownictwa, które jest otwartym na zapożyczenia elementem struktury dialektów. Pogranicze bałtycko-słowiańskie od dziesiątków lat przyciąga lingwistów swoim bogactwem leksykalnym i wzajemnym przenikaniem się języków i gwar. Obszar południowo-wschodniej i wschodniej Litwy nie jest wyjątkiem. Funkcjonują tutaj: język i gwary litewskie, język polski w różnych odmianach, język rosyjski, gwary rosyjskie (głównie staroobrzędowców) oraz gwary białoruskie, a w przeszłości także jidysz. O ile wpływ języka litewskiego i gwar litewskich na polszczyznę mówioną na Litwie oraz języka polskiego na litewski opisany jest dosyć szczegółowo, to badania nad gwarami białoruskimi w tym aspekcie wymagają jeszcze szerszej analizy.

Uwarunkowania historyczno-społeczne przyczyniły się do tego, że tutejsze gwary białoruskie najmocniej interferują z polszczyzną litewską, w pierwszej kolejności odnosi się to rejonu wileńskiego i solecznickiego, w nieco mniejszym do orańskiego, święciańskiego i ignalińskiego. Dotyczy to różnych poziomów struktury oraz leksyki. Wzajemnej interferencji, poza wspomnianymi już czynnikami historyczno-społecznymi, jak wielowiekowe współistnienie obok siebie ludności polsko- i białoruskojęzycznej, działalność Kościoła katolickiego czy polityka administracyjna II RP, sprzyja także bliskość genetyczna wileńskiej polszczyzny i południowo-zachodniego dialektu języka białoruskiego.

Celem niniejszego artykułu jest ukazanie licznych zapożyczeń polskiego pochodzenia we współczesnych gwarach białoruskich, funkcjonujących na Litwie. Polonizmy obejmują różne sfery życia, jak np. przedmioty codziennego użytku w gospodarstwie i budynki gospodarcze, rolnictwo, relacje rodzinne, edukację, administrację, leksykę związaną z obecnością polskich posiadaczy ziemskich i polską kulturą, nowinki techniczne (w odniesieniu do XIX wieku i pierwszej połowy wieku XX), słownictwo z zakresu sfery *sacrum*

(tj. związane z Kościołem katolickim) i in. Zakres wpływu języka polskiego na gwary białoruskie jest zróżnicowany tak geograficznie, jak też zależy od wyznania respondenta.

**Stan badań**

Zapożyczenia polskie w gwarach białoruskich na obszarze Litwy nie były jak dotąd tematem kompleksowych badań i wciąż wymagają szczegółowej analizy. Wpływ narzeczy białoruskich na leksykę polszczyzny północnokresowej na interesującym nas obszarze był omawiany m. in. w publikacjach Haliny Turskiej, Haliny Kurcowej, Zofii Sawaniewskiej-Mochowej, Janusza Riegera, Irydy Grek-Pabisowej i Małgorzaty Ostrówki, Haliny Karaś czy Krystyny Rutkowskiej[1].

Zakres wpływów polszczyzny (tak gwarowej, jak też ogólnej) na mowę białoruskojęzycznych mieszkańców wsi ukazany został bardzo dobrze w *Słowniku białoruskich gwar północno-zachodniej Białorusi i jej pogranicza*[2], gdzie tylko w tomie pierwszym znajdujemy ponad 100 odsyłaczy do polonizmów zaznaczonych przez autorów[3].

Leksykę języka białoruskiego na obszarze południowo-wschodniej Litwy analizowała Lilieja Płyhaŭka w dwóch książkach, głównie dotyczących języka białoruskiego potocznego, częściowo także w odniesieniu do gwar. W pierwszej monografii pt. *Беларуская мова ў Літве: сацыякультурны і лінгвістычны аспекты*, autorka polonizmom i polskim wpływom poświęciła łącznie kilka stron[4]. W drugiej monografii pt. *Беларуская мова ў полікультурным рэгіёне (паўднёва-ўсходняя тэрыторыя Літоўскай Рэспублікі)* badaczka skupiła się przede wszystkim na wpływach białoruszczyzny na język litewski oraz inne mowy regionu, w tym na polski[5]. L. Płyhaŭka

[1] Zob. m. in.: H. T u r s k a, *O powstaniu polskich obszarów językowych na Wileńszczyźnie* [w:] *Studia nad Polszczyzną Kresową*, tom 1, pod red. J. Riegera i W. Werenicza, Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk–Łódź 1982, s. 19–121; Z. S a w a n i e w s k a-M o c h o w a, *Poradnik Jana Karłowicza jako źródło poznania potocznej polszczyzny północnokresowej: Słownictwo*, Warszawa 1990; Z. K u r c o w a, *Język polski Wileńszczyzny i kresów północno-wschodnich XVI–XX w.*, Warszawa–Kraków 1993 (autorka pisze o zapożyczeniach wschodniosłowiańskich); H. K a r a ś, *Gwary polskie na Kowieńszczyźnie*, Warszawa–Puńsk 2002; J. R i e g e r, *Białorutenizmy i rusycyzmy w gwarach polskich na Litwie* [w:] J. R i e g e r, I. M a s o j ć, K. R u t k o w s k a, *Słownictwo polszczyzny gwarowej na Litwie*, Warszawa 2006, s. 109–115; K. R u t k o w s k a, *Interferencje litewskie i wschodniosłowiańskie w gwarach polskich na obszarze ignalińskim na Litwie*, „Prace Filologiczne” 2013, t. LXIV, s. 303–318; I. G r e k-P a b i s o w a, M. O s t r ó w k a, *Zakres wpływów wschodniosłowiańskich w polszczyźnie północnokresowej – wpływy białoruskie*, „Rozprawy Komisji Językowej ŁTN” 2018, t. LXVI, s. 141–161.

[2] *Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча*, пад рэд. Ю.Ф. Мацкевіч, т. 1–5, Мінск 1979–1986: dalej СПЗБ 1979–1986.

[3] Dokładna analiza *Słownika* pokazuje, że polonizmów jest o wiele więcej.

[4] Л. П л ы г а ў к а, *Беларуская мова ў Літве: сацыякультурны і лінгвістычны аспекты*, Вільня 2009.

[5] Л. П л ы г а ў к а, *Беларуская мова ў полікультурным рэгіёне (паўднёва-ўсходняя тэрыторыя Літоўскай Рэспублікі)*, Вільня 2015.

Użycie w gwarach pskowskich wyrazu *зато* we wskazanej funkcji notuje POS, jego występowanie w badanym dialekcie poświadcza SGS. Warto dodać, że wyraz *зато* w znaczeniu ‘dlatego; z tej przyczyny’ występuje również w wielu gwarach polskich, między innymi w gwarach Suwalszczyzny[1]. W powyższej funkcji w badanej gwarze występują również przysłówki *патаму* oraz *длетаво*, a częstotliwość ich użycia jest nieco niższa.

### 8. Zaimek *чаво*[2]

Zaimek ten występuje w zdaniach, w których mówiący pyta o przyczynę lub cel jakiejś czynności, np.:

(34) *А чаво́ яна́ пла́чэт?*

(35) *А сича́с и в по́льскей грамма́тике йишчо́ е́та ишчэ́зла. Нет, нет ani stryjek то́ка адин wujek. О! То чаво́ так е́сьтя?*

(36) *Чаво́ яна́ хо́дит с прикры́тай главо́й? <…> Ну, зако́н испалня́ет.*

(37) *Чаво́ яна́ в дли́ннай ю́бки?*

(38) *А ты чаво́ сяво́дня в тако́й суке́нки?*

Wyraz *чаво* jest również używany w zdaniach podrzędnie złożonych jako wyraz spójnikowy przyłączający zdanie składnikowe oznaczające stan rzeczy, o którego przyczynie jest mowa, np.:

(39) *А я зна́ю, чаво́ яна́ пла́кала*.

(40) *Ну, а вы с рели́гии зна́ете при..., причы́ну, чаво́ э́та Ио́сиф*.

(41) *Ня зна́ю, чаво́ в шко́лы не учы́ли (рели́гии)*.

Użycie wyrazu *чаво* w badanej gwarze notuje SGS[3]. W materiale z lat 1999–2018 odnotowałem 71 użyć tego wyrazu u 31 informatorów. Ponieważ w POS hasło *чего* nie zostało jeszcze opracowane, trudno ustalić, czy jednostka ta była używana w ojczystych gwarach staroobrzędowców mieszkających w Polsce. Warto podkreślić, że wyrazu *czego* w powyższych funkcjach używa się również w potocznej polszczyźnie. Możliwe zatem, że język polski podtrzymuje użycie w gwarze powyższych jednostek. W badanym dialekcie identyczne funkcje pełni wyraz *пачаму* i ma on podobną częstoliwość użycia.

### Wnioski

Badanie potwierdziło, iż w wyspowej rosyjskiej gwarze staroobrzędowców mieszkających w Polsce zachowały się liczne dawne cechy gwarowe, które występowały na ich ojczystej ziemi. Została potwierdzona również teza o bliskich kontaktach gwary z językiem białoruskim i jego gwarami. W wypowiedziach informatorów zostały wykryte liczne użycia konstrukcji przyczynowych występujących również w języku białoruskim i jego gwarach. Znaczna część z nich występuje również w języku polskim, zdecydowana większość jest również znana w gwarach używanych na ojczystych

---

[1] Patrz: *„Za to” w znaczeniu ‘dlatego’*, http://sjp.pwn.pl/slowniki/za%20to%20%C5%BCe.html (dostęp 31.07.2017).

[2] Patrz: hasło *чаго* w TSBM oraz SBG. Por. również teksty zamieszczone w: M. Jankowiak, *Współczesne gwary...*

[3] Patrz: *SGS*: **č’ьv'o, || čyv'o, || čyh'o**.

ziemiach „polskich" staroobrzędowców. Możliwe, że większość z nich występowała w gwarze starowierców już przed przybyciem do Polski, a język polski ich użycie podtrzymuje. Z drugiej strony niektóre mogły pojawić się w gwarze pod wpływem języka polskiego już po osiedleniu się staroobrzędowców na ziemiach dzisiejszej Polski. Na chwilę obecną ciężko ustalić, jak dana konstrukcja pojawiła się w gwarze lub w idiolektach poszczególnych informatorów i jaką rolę z punktu widzenia ich funkcjonowania w gwarze odegrał język białoruski oraz jego gwary. Diachroniczne badania gwary umożliwiłyby uzyskanie odpowiedzi na te pytania. Z uwagi jednak na brak dostępnego materiału językowego sprzed lat 60. XX w. może okazać się to trudne.

*Adam Jaskólski*

**Parallel causative constructions in the Russian dialect of Old Believers in Poland and Belarusian language and its dialects**

A b s t r a c t

As a result of the territorial proximity of the Old Believers' homeland with the compact Belarusian language territory, as well as the exposure to Belarusian language and its dialects, the "Polish" Old Believers dialect bears many features characteristic for them. The main aim of this paper is to present parallel causative constructions which are being used in both the local dialect of Old Believers in Poland, and the Belarusian language or its dialects. The "Polish" Old Believers' narratives we investigated contain many examples of use of the causative constructions typical for their indigenous dialects, as well as those typical for the Belarusian language and its dialects. Some of them are also typically encountered in the Polish language, and they can be considered a result of Polish influence on the Russian dialect of Old Believers' in Poland.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Наталля Брэйво**
Uniwersytet Warszawski
nbreyvo@yahoo.com

# Паходжанне і асаблівасці ўжывання словазлучэння "цяжкая артылерыя"

Мэта дадзенага даследавання – акрэсліць агульныя і нацыянальна-культурныя рысы фразеалагічнай адзінкі (ФА) *цяжкая артылерыя* ў беларускай мове і яе адпаведнікаў у польскай, рускай, англійскай і французскай мовах, а таксама вызначыць верагоднасць і ступень іх эквівалентнасці.

Падчас рэалізацыі пастаўленай мэты ўжываліся даведнікі і энцыклапедыі, агульныя, тлумачальныя, этымалагічныя і фразеалагічныя слоўнікі. Для ўдакладнення значэнняў і некаторых адметнасцяў функцыянавання спалучэнняў выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі і карпусы беларускай, польскай, рускай, англійскай, французскай моў[1].

Для таго, каб лепш акрэсліць час і асаблівасці ўзнікнення ФА *цяжкая артылерыя*, варта звярнуцца да гісторыі з'яўлення адпаведнага віду зброі, а таксама ваенных тэрмінаў для яе абазначэння ў выбраных мовах.

На тэрыторыі Еўропы першыя згадкі пра агнястрэльную зброю датуюцца пачаткам XIV ст.[2]. Як сведчаць летапісы, падчас абароны Казані 16 сакавіка 1376 г. выкарыстоўваліся розныя віды зброі і сярод іх магла быць агнястрэльная: „Казанцы же изыдоша из града противу их, стреляюще из луков и из самострелов, а инии *гром пущающе* з града, страшаще русское воиньство"[3]. Існуюць звесткі, што гарматы былі ўжыты, напрыклад, у 1391 г. падчас аблогі Вільні: „Того же лета Витофт Кесту-

---

[1] *Национальный корпус русского языка* (НКРЯ): http://www.ruscorpora.ru/index.html [доступ: 6.03.2019]; *Беларускі N-корпус* (БК): https://bnkorpus.info/index.htm [доступ: 20.03.2019]; *Narodowy Korpus Języka Polskiego* (NKJP): http://nkjp.pl [dostęp: 4.01.2018]; *The British National Corpus* (BNC): http://bncweb.lancs.ac.uk.html [date accessed: 18.01.2018].

[2] Мікалай Карамзін пра вынаходства пораху і з'яўленні агнястрэльнай зброі: „Французы въ 1338 году уже знали оное, и Король Англійскій, Эдуардъ III, въ славной битвѣ при Креси (въ 1346), разилъ непріятелей пушками". Гл.: Н.М. Карамзин, *История государства Российского*, т. 5–6, с. 123 [online], https://www.prlib.ru/ item/450994 [доступ: 7.03.2019].

[3] *Лицевой летописный свод XVI века. Русская летописная история*, кн. 9, с. 108 [online], https://runivers.ru/lib/book19785/594267 [доступ: 6.03.2019].

тьевичь с немцы понаимав многую силу немецкую, и поиде ратью к Вилне, и не возможе взяти и възвратися в свою землю Немецкую, а литвы и немец много побиено бысть от пушек”[1].

Неабходна зазначыць, што баявая эфектыўнасць першых гармат была даволі нізкая. Спачатку яны былі замалыя, каб нанесці адчувальныя страты, а пазней некаторыя экзэмпляры адрозніваліся надзвычайнай велічынёй і вагой, у выніку чаго не апраўдваліся выдаткі на іх стварэнне. Было практычна немагчыма развярнуць гарматы падчас бою, а на працягу дня з іх можна было стрэліць толькі некалькі разоў, бо неабходны быў час на астыванне. Для іх транспартавання да месца меркаванае бітвы таксама патрабаваліся вялікія намаганні і выдаткі. У XIV ст. яшчэ не было пастаяннага войска, таму для абслугоўвання гармат наймалі людзей, абавязаных знаходзіцца пры іх неадлучна. Такім чынам, тагачасная артылерыя ашаламляла шумам, дымам і аказвала ў большай ступені псіхалагічнае ўздзеянне, чым наносіла фізічныя страты: „doprowadzono bombardy do wielkości w proporcyach i ciężkości monstrualnej tak dalece, że przez swą nieruchomość stawały się prawie niepodobnemi do użycia. Trzeba bowiem było, oprócz prochu i pewnego zasobu kul kilkocentnarowych, przewozić cały system belek <…>. Wszystko to znowu wymagało wielkiej liczby koni do transportowania i ludzi do obsługi”[2]; „gdy tedy działo wielkie wypalisz/ to jest wystrzelisz/ masz je chłodzić czym chłodnym/ albo ziemią okładać albo wodą oblewać/ drudzy winem chłodzą na prędkiej strzelbie”[3]; „A koszt strzelby takiej, niźli jej na miejsce bitwy z miejsca swego doprowadzą, jest nieoszacowany, a z małym pożytkiem <…> według której armaty miejsca sobie każdy szukać musi, a gdzie się z nią zasadzi, już jako związany na miejscu czekać musi, czekając ludzkiego nieszczęścia”[4].

Пытанне пра паходжанне тэрміна *артылерыя* і пранікненні яго ў іншыя мовы вырашаецца аўтарамі даведнікаў і слоўнікаў неадназначна[5].

---

[1] *Лицевой летописный свод XVI века. Русская летописная история*, кн. 10, с. 477 [online], https://runivers.ru/lib/book19785/594250 [доступ: 6.03.2019].

[2] K. G ó r s k i, *Historya artylerii Polskiej*, 1902, s. 24–25 [online], http://www.wbc.poznan.pl/dlibra/docmetadata?id=38020&from=publication [dostęp: 6.03.2019].

[3] M. B i e l s k i, *Sprawa rycerska, 1569*, s. 75 [online], http://hint.org.pl/hid=A3077 [dostęp: 27.03.2019].

[4] M. C h a b i e l s k i, *Sposób do ukazania obrony Korony Polskiej (1615)* [w:] T. N o w a k, *Wypisy źródłowe do historii polskiej sztuki wojennej*, z. 8 B: *Polskie wojskowe piśmiennictwo techniczne do roku 1764*, Warszawa 1961, c. 41 [online], https://docplayer.pl/33964498-Wypisy-zrodlowe-do-historii-polskiej-sztuki-wojennej-zeszyt-osmy-b.html [dostęp: 5.03.2019].

[5] П.Я. Ч е р н ы х, *Историко-этимологический словарь современного русского языка*, т. 1, Москва 1999, с. 54; М. Ф а с м е р, *Этимологический словарь русского языка*, т. 1, Москва 1986, с. 89; *Słownik języka polskiego*, uł. pod red. J. Karłowicza, A. Kryńskiego, W. Niedźwiedzkiego, z. 1, Warszawa 1898, s. 61; S.B. L i n d e, *Słownik języka polskiego*, t. 1, cz. 1, Warszawa 1807, s. 29; В.У. М а р т ы н а ў [і інш.] *Этымалагічны слоўнік беларускай мовы*, т. 1, Мінск 1978, с. 151; Walter S k e a t, *An etymological dictionary of the English language*, 1888, s. 35 [online],

На падставе прааналізаваных матэрыялаў можна зрабіць выснову, што тэрмін мог з'явіцца ў XIII ст. у французскай (напр., *artil* 'ваенная машына', *artill(i)er* 'умацоўваць пры дапамозе ваеннай тэхнікі') ці італьянскай мовах (напр., *arte* 'майстэрства', *tirare* 'страляць') і што ў XIII–XIV стст. яго часта ўжывалі для абазначэння розных відаў неагнястрэльнай зброі, а з XIV–XV стст. пачалі выкарыстоўваць для сукупнага абазначэння гармат, марцір і г. д. Таксама дапускаецца, што крыніцай тэрміна для абедзвюх згаданых моў магла паслужыць лацінская мова (напр., *arcus* 'лук', *tellum* 'страла' альбо *ars* 'майстэрства спалучаць' альбо *artillum* 'снарад, машына' і інш.[1]). Далей тэрмін пачаў фіксавацца англійскімі крыніцамі (каля XIV ст.)[2], пазней польскімі (каля XVII стст.), затым рускімі (пад канец XVII ст.) і каля XIX–XX стст. – беларускімі[3].

Дыферэнцыяцыя на большыя і меншыя гарматы, цяжкую і лёгкую артылерыю пачынае фіксавацца пісьмовымі крыніцамі прыкладна з XVI ст. У кожнай са згаданых вышэй моў у розныя часы замацаваўся адпаведнік ваеннага тэрміна *цяжкая артылерыя*. Ніжэй прыводзяцца найранейшыя са знойдзеных прыклады ўжывання тэрміна (не выключаецца верагоднасць таго, што былі і больш раннія згадванні):

https://ia800301.us.archive.org/15/items/etymologicaldict00skeauoft/etymologicaldict00skeauoft.pdf [date accessed: 7.03.2019]; *Dictionnaire Littré* [online], https://www.littre.org/definition/artillerie [consulté le: 8.03.2019]; *Ortolang* [online], http://www.cnrtl.fr/ etymologie/artillerie [consulté le: 7.03.2019] і інш.

[1] Прыхільнікі паходжання слова *артылерыя* ад лацінскіх слоў ці асноў выказваюць шматлікія і разнастайныя версіі, напрыклад, Юзэф Якубоўскі, аўтар падручніка па артылерыі, выдадзенага на польскай мове ў 1781 г., безапеляцыйна сцвярджае, што тэрмін *артылерыя* паходзіць ад лацінскіх слоў *arte tollere*, маючы на ўвазе, па ўсёй верагоднасці, значэнне 'майстэрства знішчаць'. Гл. J. Jakubowski, *Nauka artyleryi, zebrana z naypóźnieyszych autorów, napisana dla pożytku korpusu Artyleryi narodowey z rozkazu y nakładem Jego Królewskiey Mci Pana Naszego Miłosciwego do druku podana*, t. 1, 1781 [online], http://pbc.biaman.pl/dlibra/docmetadata?id=492&dirds=1&tab=1 [dostęp: 16.03.19].

[2] Першыя для англійскай мовы выпадкі ўжывання тэрміна *артылерыя* зафіксаваныя ў напісаных каля 1387–1400 гг. *Кентэрберыйскіх апавяданнях* англійскага паэта Джэфры Чосара: „I shal warnestoore myn hous with toures, swiche as han castelles and othere manere edifices, and armure, and *artelries* <...>" Гл. *The Geoffrey Chaucer page* [online], https://sites.fas.harvard.edu/~chaucer/ teachslf /mel-par.htm [date accessed: 14.03.2019]. Цытата паходзіць з *Апавядання пра Малібея*. Мяркуецца, што асновай для яго паслужыла французская версія (*Livre de Melibée et de Dame Prudence*, каля 1336, Renaud de Louens) напісанага першапачаткова на лацінскай мове твора (*Liber consolationis et consilii*, каля 1246, Albertani Brixiensis), але цікава тое, што ні французскі, ні лацінскі тэксты не ўтрымліваюць слова *артылерыя*. Параўн., напр. *The Tale of Melibee. An Interlinear Translation* [online], https://sites.fas.harvard.edu/~chaucer/teachslf/mel-par.htm [date accessed: 14.03.19] і [A. Brixiensis, *Liber consolationis et consilii*, s. 72 [online], https://ia802707.us.archive.org/0/items/albertanibrixien00albe/albertanibrixien00albe.pdf htm [date accessed: 15.03.19].

[3] Улічваючы супольнасць палітычных, эканамічных і культурных падзей на працягу доўгіх перыядаў, можна дапусціць, што тэрмін мог трапіць у беларускую і праз польскую мову.

бел. ***цяжкая артылерыя*** – „Чуецца з усіх бакоў нараканне, што ў нас няма *цяжкай артылерыі*... і наогул парадку"; „Ах, каб нам гэткая *цяжкая артылерыя*, якую маюць немцы" (1914–1919) (НКРЯ);

пол. ***ciężka artyleria*** – „Skąd powstał dzisiéyszy podział *Artyleryi* na *ciężką* i na polową. *Ciężka* służy do fortècy, i przeciwko fortécy <...>" (1781)[1];

рус. ***тяжёлая артиллерия*** – „Генерал Румянцев с оставшимися полками, *тяжелою артиллерией* и провиантскими магазейнами к армии прибыл" (1752) (НКРЯ); „И такъ для исполненія сего отряжены были Егерскіе и Гранодерскіе баталіоны, *тяжелой артиллеріи* 8 пушекъ, и козаки сего корпуса, которые здѣсь авангардію составляли" (1792) (НКРЯ);

анг. ***great artillery*** (больш ранні варыянт), ***heavy artillery*** (з'явіўся пазней), ***heavy ordnance***, ***big gun(s)*** – „The *artillery* is deuided and differenced into *greatnesse* or *Sizes* royall, and into lesser sizes" (1598)[2];

фр. ***artillerie lourde, grosse artillerie*** – "<...> de toutes les maisons qu'on avoit construites, il ne reste plus que le grand magasin devenu arsenal, dans lequel on a déposé *la grosse artillerie* des fortifications, et celle qui fut prise à la capitulation de Saratoga" (1801); „L'interdiction totale ne pouvait être espérée que de *l'artillerie lourde* mobile et de l'artillerie de campagne, seules capables d'assurer et de maintenir des résultats permanents" (1929)[3].

У выніку супастаўлення кантэкстаў ужывання і слоўнікавых матэрыялаў, прысвечаных вайсковым тэрмінам *артылерыя* і *цяжкая артылерыя* ў згаданых мовах, можна зрабіць выснову, што аб'ём іх значэнняў у аналізуемых мовах больш-менш супадае:

***– артылерыя***

1. збіральная назва розных відаў зброі – механічных, кідальных, яшчэ не агнястрэльных, – якія служаць для выканання стрэлу (цяпер *артылерыя* не выкарыстоўваецца ў гэтым значэнні);

2. агнястрэльныя гарматы розных канструкцый і калібраў;

3. род войскаў з такім узбраеннем, а раней – прыслуга і начальства пры такіх гарматах;

4. навука аб агнястрэльных гарматах і іх прымяненні.

***– цяжкая артылерыя*** – буйная агнястрэльная зброя (памеры і калібр у розныя часы і ў розных краінах адрозніваліся).

Што датычыць значэнняў ФА *цяжкая артылерыя*, то яны ў той ці іншай ступені разыходзяцца ў розных мовах. Разгледзім дадзенае пытанне падрабязней.

У беларускай мове ФА *цяжкая артылерыя* характарызуецца адным значэннем: „тое, што прытрымліваецца на крайні выпадак як самы дзейсны сродак для дасягнення чаго-небудзь"[4] („Адкліканьне паслоў –

---

[1] J. J a k u b o w s k i, *Nauka artyleryi...*, s. 218.

[2] *Oxford English Dictionary* [online], http://www.oed.com/view/Entry/11226?redirectedFrom=artillery&#eid127575261 [date accessed: 14.03.19].

[3] *Ortolang...* .

[4] І.Я. Л е п е ш а ў, *Слоўнік фразеалагізмаў беларускай мовы*, т. 1, Мінск 2008, с. 91.

гэта дыпламатычны сігнал. Гэта яшчэ не *цяжкая артылерыя*. Але, вядома, гэта неспрыяльны сігнал, які сведчыць аб ускладненні адносін ЕС і Беларусі", – сказаў Дамброўскіс [БК]). Усё часцей у апошнія часы пад „аргументам" у спалучэнні *задзейнічаць / кінуць цяжкую артылерыю* можа мецца на ўвазе дапамога ці проста факт прысутнасці вядомай асобы ("Пабывала ў гэтым нумары і *цяжкая артылерыя* расійскага шоў-бізнесу: Ала Пугачова, Філіп Кіркораў, Лайма Вайкуле, Ірына Алеграва" [БК]).

У польскіх слоўніках ФА *ciężka artyleria* з'яўляецца толькі напрыканцы XIX ст. Напрыклад, у *Слоўніку польскай мовы* С.Б. Ліндэ (1802) дадзенай ФА яшчэ няма. У слоўнікавым артыкуле CIĘZA <...> CIĘZKI, CIĘSZKI, CIĘZEK фіксуецца вайсковы тэрмін *ciężka artyleria* і падаецца прыклад: „Artylleryą dzielą na ciężką i na polową; ciężka służy do fortecy i przeciwko fortecy"[1], але не зазначаецца, што дадзенае спалучэнне можа мець пераноснае значэнне. Праўда, у межах таго ж слоўнікавага артыкула да значэння 'ciężki, nieruchawy, ociężały, nieskory' прыводзіцца спалучэнне *człowiek ciężki, ociężały*[2] з адпаведнікам у рускай мове *мешковатый* і падаецца да яго прыклад, у якім цяжкі на пад'ём чалавек параўноўваецца са свінцом: „Wstań, nie żartuy i nie bądź tak ciężki iak ołów"[3]. Улічваючы: 1) значэнне існаваўшага ў польскай мове спалучэння *człowiek ciężki, ociężały*, 2) апісаныя вышэй характарыстыкі самой артылерыі і асаблівасці яе абслугоўвання (акрамя вялікіх габарытаў і калібраў, яшчэ і цяжкасці з транспартаваннем гармат да месца баявых дзеянняў і перамяшчэннем падчас бою, немагчымасць вялікай колькасці выстралаў з-за павольнага астывання, вымушанасць знаходжання пры іх вялікай колькасці людзей без асаблівай разнастайнасці дзеянняў) і 3) тое, што тэрмін *артылерыя* выкарыстоўваўся не толькі для называння розных відаў гармат, але і прадугледжваў збіральную назву людзей, якія яе абслугоўвалі, – можна выказаць меркаванне, што ФА *ciężka artyleria* 'człowiek nieruchawy, nieskory itd.' паўстала ў выніку таго, што значэнне спалучэння *człowiek ciężki, ociężały* было перанесенае на вайсковы тэрмін *ciężka artyleria*.

У г. зв. *Варшаўскім слоўніку польскай мовы* (1898) з пазнакай *żart.* ужо пададзе спалучэнне *ciężka artyleria* ў пераасэнсаваным значэнні: „ciężka artyleria = starzy, ociężali, nieruchawi, leniwi, kawalerowie"[4].

---

[1] S.B. L i n d e, *Słownik języka polskiego*, t. 1, Warszawa 1807, s. 306.

[2] У медыцынскім даведніку XVI ст. падобная характарыстыка чалавека суадносілася з яго фізіялагічнымі характарыстыкамі і падразумявала, хутчэй за ўсё, маларухавасць і няздграбнасць: „*Komu lepak panuje pypeć/ albo flegma mokra a zimna/ Tacy ludzie bywają tłuśći/ leniwi/ niedowcipni [...] spiący/ ćiężcy [...] niemężni*" [M. S i e n n i k, *Lekarstwa doświadczone*, 1564, s. 29b [online], https://www.dbc.wroc.pl/dlibra/doccontent?id=3698 [dostęp: 27.03.2019]. У XIX ст. ужо наўрад ці адчувалася карэляцыя са станам здароўя асобы.

[3] S.B. L i n d e, *Słownik języka polskiego*..., s. 29.

[4] *Słownik języka polskiego*, uł. pod red. J. Karłowicza..., s. 61.

З больш позніх слоўнікавых дэфініцый паступова знікаюць указанні на сямейнае палажэнне і ўзрост, але ў той жа час з'яўляецца дадатковая характарыстыка някемлівасці, напрыклад: 'o kimś ociężałym, leniwym, powoli myślącym'[1]. Неабходна таксама адзначыць даволі нізкую частотнасць ужывання ФА *ciężka artyleria* у дадзеным значэнні – усяго толькі 6 прыкладаў на 1006 прааналізаваных кантэкстаў з Нацыянальнага корпуса польскай мовы, што складае прыкладна адзін працэнт ("Myślenie masz raczej ciężkawe, więc wszystko by się zgadzało: *ciężka artyleria*" [NKJP]). Затое каля 40 прыкладаў ужывання (прыблізна 4%) прыходзіцца на ФА *ciężka artyleria*[2] ("Ja bym, oczywiście, się sprzeciwił i zaatakował babcię *ciężką artylerią* niezaprzeczalnych, bezowocnych argumentów. // Mamy więc dziś czekoladę i pełno nieporozumień dookoła. Więc najpierw *ciężka artyleria*: jaka czekolada najlepsza?" [NKJP]) і фразеалагізм *wytoczyć ciężką artylerię przeciwko komuś / czemuś*, які мае значэнне 'użyć w dyskusji bardzo poważnych, niepodważalnych argumentów, często takich, które bezpośrednio dotykają rozmówcę'[3] ("Najpierw *wytoczono ciężką* zarzutów przeciwko kierownictwu Polskiego Związku Piłki Nożnej. // Kiedy i to nie dało rezultatu *wytoczyli ciężką artylerię*. Zaczęli rozmowę, jaka to młodzież dzisiaj jest niewychowana" [NKJP]).

У рускіх фразеалагічных слоўніках, звычайна, вылучаюцца два значэнні фразеалагічнай адзінкі *тяжелая артиллерия*: „1. *шутл.* о малоподвижных, тяжелых на подъем людях; 2. о наиболее авторитетных и неоспоримых аргументах, доводах, положениях, к которым прибегают, когда в споре исчерпаны собственные доказательства"[4]. Другое значэнне ў кантэкстах значна пераважае першае па частотнасці.

Найбольш раннія, зарэгістраваныя ў Нацыянальным корпусе рускай мовы прыклады выкарыстання ФА *тяжелая артиллерия* ў значэнні 'найбольш аўтарытэтныя і неаспрэчныя аргументы', адносяцца да канца XIX ст. і пададзеныя прыкладамі з твораў Афанасія Фета і Усевалада Кастоўскага ("<…> на мои вопросы касательно прочности ее выздоровления <…> говорил, что рецидива может быть устранена только замужством. Собравшись с духом, я однажды, <…> *пустил в ход эту тяжелую артиллерию*, прибавляя, что если это неизбежно-необходимо, то нельзя же по заказу ловить женихов на улице, в то время когда заведомо хороший человек умирает от любви" (А.А. Фет, *Мои воспоминания*, 1862–1889; НКРЯ) // "<…> который громил и его, и Юма,

[1] *Uniwersalny słownik języka polskiego PWN*, pod red. S. Dubisza, t. 1, Warszawa 2006, s. 128.

[2] Польскія лексікаграфічныя выданні звычайна прыводзяць гэтую ФА ў межах спалучэння *wytoczyć ciężką artylerię przeciwko komuś / czemuś*, але, мяркуючы па кантэкстах, яна можа ўжывацца і асобна, са значэннямі 'непадважальныя аргументы' ці 'самыя дзейсныя сродкі'.

[3] *Uniwersalny słownik języka polskiego PWN*, pod red. S. Dubisza, t. 4, Warszawa 2006, s. 700.

[4] А.Н. Т и х о н о в, *Фразеологический словарь русского языка*, Москва 2007, с. 12.

и Кардека всеми громами своего красноречия, подкрепленного *тяжелою артиллериею* различных текстов, и провидел в этом спиритизме всесветнореволюционное, зажигательное значение" (В.В. Крестовский, *Петербургские трущобы*, 1867; НКРЯ).

Цікава, што багатае на падзеі жыццё рускага паэта і празаіка У. Крастоўскага – вайскоўца, бацька якога таксама быў вайскоўцам, – звязана было ў пэўныя перыяды з Гарадзеншчынай і з Варшавай. Тое, што падчас напісання *Пецярбургскіх трушчобаў*, пачынаючы з 1863 г., ён знаходзіўся ў Варшаве, магло б гіпатэтычна тлумачыць з'яўленне прыкладна ў гэты перыяд у рускай мове ФА *тяжелая артиллерия* ў значэнні 'нерухавы, цяжкі на пад'ём чалавек' альбо ў польскай *ciężka artyleria* з падобным значэннем. У іншым творы У. Крастоўскага спалучэнне *тяжелая артиллерия* ўжыта ў кантэксце разважанняў аб мэтазгоднасці жаніцьбы, што пераклікаецца са згаданым вышэй азначэннем *ciężka artyleria* з *Варшаўскага слоўніка* (1898):

> – А что? не рискнуть ли и в самом деле? – повернул он прояснившееся лицо к приятелю.
> – Он еще спрашивает! – возведя глаза к потолку и пожав плечами, воскликнул Слопчицький. – Он еще спрашивает!.. О, *тяжелая артиллерия*! Да что это, ей-Богу!.. рискуй, душа моя! Прямо рискуй! – Риск благородное дело (В.В. Крестовский, *Панургово стадо*, 1869; НКРЯ).

Дадатковым аргументам на карысць меркавання, што твор У. Крастоўскага мог паслужыць крыніцай з'яўлення такога значэння ў ФА *цяжкая артылерыя*, прынамсі ў польскай мове, выступае той факт, што з дэфініцый больш позніх слоўнікаў знікаюць указанні на ўзрост і нежанатасць асобы. Дапускаем, што прычынай гэтага якраз магла быць страта асацыяцый з творам У. Крастоўскага.

Неабходна яшчэ дадаць, што ў рускіх выданнях сустракаецца і ФА *задействовать / пустить в ход тяжелую артиллерию*, якая акрамя значэння 'пусціць у ход неаспрэчныя довады' можа падразумяваць удзел уплывовай асобы ў вырашэнні пытання, яе моцную падтрымку ці заступніцтва. З канца XX ст. назіраецца павелічэнне колькасці такіх прыкладаў ("Лауда даже задействовал против простодушного американца *«тяжелую артиллерию»* в лице самого Берни Экклстоуна, пожаловавшись тому на «неправильное поведение» Рейхола" (Б. Мурадов, *Интервью: Бобби Рейхол*, 2001; НКРЯ) // "Тут банальным набором средств давления не обходятся, в ход идет *«тяжелая артиллерия»*: прокуратура, суды, территориальные органы Минпечати, местные избиркомы" (М. Мельников, *Экстремальная журналистика*, 2003; НКРЯ).

У англійскіх тэкстах спалучэнні *heavy artillery, great artillery* і *heavy ordnance* практычна не сустракаюцца ў пераасэнсаваным значэнні. Гэтую ролю на сябе ўзяла ФА *big gun(s)*, якая, па некаторых меркаваннях, з'явілася ў ЗША і ўжываецца з пачатку XIX ст.[1] ("Undoubtedly, the point to

---

[1] *Green's Dictionary of Slang* [online], https://greensdictofslang.com/entry/nawecha [date accessed: 25.03.2019]; *World Wide Words* [online], http://www.worldwidewords.org/qa/qa-big4.htm [date accessed: 1.03.2019].

which all eyes are turned, during a certain portion of the year, is the city of Washington. *The big guns* of the nation are there – and there we have batteries of eloquence, and oratorical thunder, and, in these high times, flashes of lightning" (1834)[1]. Нароўні з сінанімічнымі гэтай ФА іншымі адзінкамі, якія ўтрымліваюць слова *big*, як напрыклад: *big shot*, *big enchilada*, *big banana*, *big bug*, *big potato*, *big fish* і г. д., дадзеная ФА мае значэнне 'важная персона, „шышка"'[2]. Размоўныя спалучэнні *to bring out / to bring in / to bring up / to wheel in the big guns* маюць значэнне 'выкарыстаць нейкі прыхаваны план, моцныя аргументы з мэтай пераўзыйсці супраціўніка ў спрэчцы, гульні ці спаборніцтвах' ("It is also important to decide whether the particular issue warrants *bringing out all the big guns*" [BNC]). Трэба мець на ўвазе, што вельмі часта ў якасці аргумента" выступае менавіта высокапастаўленая, уплывовая асоба ("VARIOUS political *'big guns'* have appeared in the Winchester constituency to boost their party's candidates in the election campaign" [BNC]).

У французскай мове словазлучэнні *artillerie lourde* і *grosse artillerie* выкарыстоўваюцца з пераасэнсаванымі значэннямі 'дзейсны сродак' і 'аргументы', вельмі часта ў межах спалучэнняў *sortir l'artillerie lourde*[3] і *sortir la grosse artillerie*, якія маюць значэнне: 'ужыць сродкі, аргументы (часта рашучыя ці нават жорсткія меры) для вырашэння нейкай праблемы' ("Pour contourner la question, on a donc décidé de *sortir la grosse artillerie*. Dispersion immédiate des rassemblements non-autorisés, arrestations préventives, interdiction de manifester dans certains quartiers"[4]. "Plutôt que de tirer la sonnette d'alarme, afin d'alerter la régulation, l'UFC-Que choisir a préféré *sortir l'artillerie lourde*. «Nous avons déposé une plainte pénale pour pratiques commerciales trompeuses devant le parquet de Paris» <…>"[5]).

У якасці падсумавання неабходна зазначыць, што аб'ёмы значэнняў разгледжаных (вельмі падобных) ФА розных моў – *цяжкая*

---

[1] *A Peep at Washington: A leaf from the journal of an American tourist*, „The Knickerbocker, or New-York monthly magazine" 1834, vol. 3, no 6, s. 439 [online], https://books.google.pl [date accessed: 27.03.2019].

[2] Выпадак выкарыстання ФА *big guns* у значэнні 'важная персона, „шышка"' ў 1834 г. – найранейшы ў параўнанні з адпаведнымі ФА іншых даследуемых моў. У кожнай з моў падобнае значэнне магло развіцца самастойна, але нельга выключаць верагоднасці, што паслужыць штуршком для гэтага магло ўжыванне падобнай ФА ў англійскай мове.

[3] Выказваецца меркаванне, што дадзеная ФА можа паходзіць з крыніц спартыўнай тэматыкі пачатку XX ст. Гл. J.D. L e s a y, *Sortir l'artillerie lourde*, [w:] Allumer la chaudière [online], https://ec56229aec51f1baff1d-185c3068e22352c56024573e929788ff.ssl.cf1.rackcdn.com/attachments/original/4/8/9/002593489.pdf [consulté le: 23.03.2019].

[4] L. J o f f r i n, *Orwellien*, „Liberation" [online], https://www.liberation.fr/france/2019/03/18/orwellien_1716011 [consulté le: 27.03.2019].

[5] F. B o u a z i z, *Western Union et MoneyGram dans le collimateur de l'UFC-Que choisir*, „Liberation" [online], https://www.liberation.fr/france/2018/11/27/western-union-et-moneygram-dans-le-collimateur-de-l-ufc-que-choisir_1694382 [consulté le: 27.03.2019].

*артылерыя* асобна і ў складзе спалучэнняў накшталт *задзейнічаць цяжкую артылерыю* ў беларускай мове, а таксама іх адпаведнікаў у польскай, рускай, англійскай і французскай мовах – могуць часткова ці цалкам не супадаць, бо на іх узнікненне і развіццё, відавочна, аказалі ўплыў гісторыя і культура кожнай з моўных супольнасцяў. Так, у польскай і рускай мовах вылучаецца значэнне ФА *цяжкая артылерыя* (якога няма ў ФА беларускай, англійскай і французскай моў), звязанае з асаблівасцямі захавання чалавека. Адначасова ў польскай ФА прысутнічае дадаткова характарыстыка разумовых здольнасцяў асобы, а ў больш старых тэкстах яшчэ могуць быць указанні на ўзрост і сямейнае становішча. Другое значэнне ФА *цяжкая артылерыя* і *задзейнічаць цяжкую артылерыю* нібы прысутнічае ва ўсіх мовах даследавання, але тут таксама варта звяртаць увагу на тое, што маецца на ўвазе: аргументы, дзеянні, жорсткія меры, прыхаваны план ці ўплыў, прысутнасць важнай асобы. Таму пры перакладзе гэтыя ФА патрабуюць вельмі ўважлівага і асцярожнага падыходу.

*Natalia Breyvo*

**The origin and usage of the word combination „tsiazhkaja artylieryja"**

A b s t r a c t

The article attempts to outline the origin of the free and idiomatic word combination „tsiazhkaja artylieryja" in Belarusian and its corresponding word combinations in Polish, Russian, English and French. The history of these word combinations has influenced the creation of their semantic uniqueness, on which, in turn, the degree of their interlingual equivalence depends.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Кацярына Півавар**
Віцебская дзяржаўная акадэмія ветэрынарнай медыцыны
eka15580575@yandex.ru

# Беларускія і польскія этналінгвістычныя даследаванні ў XXI стагоддзі[1]

Этналінгвістыка з'яўляецца адным з адносна новых напрамкаў гуманітарнай навукі, які дынамічна развіваецца ў шматлікіх краінах. Гэта перспектыўны кірунак у мовазнаўстве, які вывучае мову ў яе адносінах да культуры, народу, інтэгруе ў сабе мовазнаўства і іншыя гуманітарныя навукі – этнаграфію, фальклярыстыку, культуралогію. Адной з асноўных задач этналінгвістаў з'яўляецца семантычная рэканструкцыя традыцыйнай карціны свету, светапогляду і сістэмы каштоўнасцяў пэўнага народу. Этналінгвістыка разглядае адлюстраванне народнай культуры, творчасці, псіхалогіі і народнага менталітэту ў мове. Актуальнасць дадзенага даследавання абумоўлена пашыранасцю этналінгвістычных даследаванняў у Беларусі і Польшчы.

Мэта даследавання: на аснове аналізу прац польскіх і беларускіх даследчыкаў даць характарыстыку праблематыкі сучаснай этналінгвістыкі, выявіць падабенства і адрозненні ў метадалогіі, тэрміналагічным апараце, крыніцах даследавання. Метады даследавання: апісальны, параўнальна-супастаўляльны. У даследаванні прынята шырокае разуменне этналінгвістыкі – вывучэнне мовы ў цеснай сувязі з культурай і свядомасцю чалавека, таму даследаванні, названыя лінгвакультуралагічнымі, лінгвакагнітыўнымі або канцэптуальнымі таксама закранаюцца ў працы.

**Этналінгвістычныя даследаванні ў Польшчы**

Тэарэтычным, метадычным і арганізацыйным цэнтрам польскай этналінгвістыкі з'яўляецца калектыў пад кіраўніцтвам Ежы Бартміньскага ў Люблінскім універсітэце імя Марыі Кюры-Складоўскай. У цэнтры ўвагі польскіх этналінгвістаў з'яўляецца мова фальклору ў яе фанетычным, марфалагічным і лексічным аспектах, а таксама семантыка і тэксталогія, сімвалічнае значэнне і ролю мовы ў фарміраванні

[1] Артыкул напісаны ў межах навукова-даследчай тэмы *Беларуская мова як крыніца лінгвакраіназнаўчай інфармацыі пра дзяржаўнасць, гісторыю і культуру беларускага народа* (з 2016 г.; № дзяржаўнай рэгістрацыі Рэспублікі Беларусь 20160651).

карціны свету. Даследчыкамі быў праведзены шэраг канферэнцый і сімпозіумаў, прысвечаных агульным і прыватным пытанням і аспектам вывучэння народнай культуры: “Моўны вобраз свету”, “Вусны тэкст”, “Паняцце стэрэатыпу ў мове і культуры”, “Канатацыя”, “Дэфініцыя”, “Фальклор – sacrum – рэлігія” і інш. Па матэрыялах гэтых канферэнцый выдадзены тэматычныя зборнікі, якія склалі цэлую Бібліятэку этналінгвістычнай літаратуры[1].

Як адзначае Алена Рудэнка, польская этналінгвістычная школа цесна звязана з Маскоўскай семантычнай школай і з Этналінгвістычнай школай Мікіты Талстога[2]. Польская этналінгвістычная школа сінтэзуе сінхранічны і дыяхранічны падыходы, але, у адрозненне ад этналінгвістычнай школы М. Талстога, польская этналінгвістыка даследуе не толькі традыцыйную, але і сучасную культуру і карціну свету. Люблінскай этналінгвістычнай школе ў цэлым ўласціва выкарыстанне псіхалінгвістычных метадаў: яны з’яўляюцца неад’емнай часткай даследаванняў. Згодна з Е. Бартміньскім, “задачай этналінгвістыкі з’яўляецца “суб’ектная” рэканструкцыя культуры і вывучэнне менталітэту яе носьбітаў (суб’ектаў), іх спосаб канцэптуалізацыі свету, увасоблены ў мове. Этналінгвістыка не абмяжоўваецца толькі дыялектамі і народнай традыцыяй, яна ахоплівае ўсе разнавіднасці агульнанароднай мовы, у тым ліку наддыялект – літаратурную мову ва ўсім яго гістарычным і сучасным багацці”[3].

Цэнтральнымі для Польскай этналінгвістычнай школы з’яўляюцца тэрміны *моўная карціна свету* і *стэрэатып*. Апошні тэрмін многія даследчыкі (А. Рудэнка, Валянціна Маслава) лічаць сінанімічным да больш ужывальнага ў беларускім і рускім мовазнаўстве тэрміна *канцэпт*. Е. Бартміньскі дае наступнае тлумачэнне тэрміну: “стэрэатып – гэта ўяўленне пра прадмет, якое сфарміравалася ў межах пэўнага калектыўнага вопыту і азначае тое, што гэты прадмет уяўляе сабой, як ён выглядае, як дзейнічае, як успрымаецца чалавекам і г. д.; гэтае ўяўленне, увасобленае ў мове, даступнае праз мову, і належыць калектыўным ведам пра свет”[4].

Праграмнай рэалізацыяй пералічаных даследчых праблем, асабліва рэканструкцыі народнай моўнай карціны свету і чалавека, стаў *Слоўнік народных стэрэатыпаў і сімвалаў* польскай культуры, першы том якога выйшаў з друку ў Любліне ў выдавецтве М. Кюры-Складоўскай у 1996 г. У 2012 г. у Любліне завершана выданне першага тома фундаментальнага этналінгвістычнага слоўніка польскай народнай культуры, прысвечанага тэме “Космас”. Том складаецца з чатырох частак

[1] “Etnolingwistyka” 1988–2000, tt. 1–12.

[2] Е. Руденко, *Этнолингвистика без границ: Введение в лингвистическую антропологию: пособие*, Минск: 2014, С. 67.

[3] Е. Бартминьский, *Языковой образ мира: очерки по этнолингвистике*, Москва 2005, С. 33–34.

[4] *Ibidem* с. 68.

(асобных кніг): першая частка (*Неба. Нябесныя свяцілы. Агонь. Камні*) выйшла ў свет ў 1996 г., другая (*Зямля. Вада. Падземны свет*) – у 1999 г., а трэцяя і чацвёртая, як ужо адзначалася, у 2012 г.[1] Шмат часу спатрэбілася для стварэння ўнікальнага па паўнаце, абагульненню вялікага аб'ёму моўнага, фальклорнага, этнаграфічнага матэрыялу. Задума і канцэпцыя слоўніка належаць прафесару Е. Бартміньскаму. Слоўнік ствараецца сіламі невялікага калектыва вучняў Е. Барміньскага пад яго кіраўніцтвам. У цяперашні час ідзе праца над наступнымі тамамі слоўніка II. *Расліны*, III. *Жывёлы*, IV. *Чалавек*, V. *Грамадства*, VI. *Рэлігія, дэманалогія*, VII. *Час, прастора, меры, колер*.

Кірункі прац люблінскай школы, звязаныя з каштоўнасцямі ў сучаснай культуры (этналінгвістычная аксіялогія), афармлены ў грунтоўным выданні, апублікаваным у 2006 годзе[2]. У кнізе шырока пададзены вынікі двух шырокіх анкетаванняў, праведзеных у 1990 і 2000 гг. У анкетах рэспандэнтам прапаноўвалася выказаць сваё бачанне зместу ста ключавых паняццяў, звязаных з каштоўнасцямі (ад абстрактных *воля*, *дэмакратыя*, да канкрэтных *дом*, *сям'я*, *маці*, *настаўнік*. Асаблівае месца ў спісе атрымалі "прасторавыя" і нацыянальныя тэрміны, стэрэатыпы прадстаўнікоў некаторых актуальных для польскай карціны свету народаў (*паляк*, *чэх*, *украінец*, *рускі*, *немец*, *габрэй*). У кнізе паказана, што на працягу 10 год некаторыя стэрэатыпныя вобразы, у тым ліку базавыя, істотна эвалюцыянавалі.

Гаворачы пра польскую лінгвістыку, безумоўна, нельга абысці ўвагай асобу сусветна вядомага лінгвіста – Ганну Вяжбіцкую, прафесара Нацыянальнага ўніверсітэта Аўстраліі (Канберра), замежнага члена Расейскай акадэміі навук, лаўрэата прэміі Аляксандра Гумбальта, ганаровага доктара Варшаўскага ўніверсітэта і Універсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай, аўтара больш за дваццаць манаграфій у галіне лінгвістыкі, выдадзеных на польскай, рускай, англійскай мовах. Сфера яе дзейнасці знаходзіцца на перасячэнні лінгвістыкі і шэрагу іншых навук (культуралогіі, псіхалогіі, кагніталогіі, антрапалогіі). Г. Вяжбіцкая распрацоўвае тэорыі метамовы і этнаграматыкі. Аўтар стварае арыгінальныя апісанні разнастайных моў, дзе праз пасярэдніцтва строгага лінгвістычнага аналізу можна спасцігнуць культуру і спосаб мыслення тых ці іншых народаў.

Складальнік выдання *Семантычныя ўніверсаліі і базісныя канцэпты* Аляксей Кошалеў адзначае, што ў сучаснай рускай лінгвістыцы "навуковыя ідэі Ганны Вяжбіцкай выклікаюць вялікую цікавасць і карыстаюцца самым шырокім прызнаннем. Па колькасці перакладзеных на рускую мову прац Ганна Вяжбіцкая апярэджвае ўсіх астатніх замежных лінгвістаў"[3].

[1] *Słownik stereotypów i symboli ludowych*, Lublin 1996–2012.

[2] *Język. Wartości. Polityka. Zmiany rozumienia nazw wartości w okresie transformacji ustrojowej w Polsce. Raport z badań empirycznych*, red. J. Bartmiński, Lublin 2006.

[3] А. В е ж б и ц к а я, *Семантические универсалии и базисные концепты*, Москва 2011, с. 9.

Адзначым этналінгвістычныя даследаванні параўнальна-супастаўляльнага характару. Польская даследчыца Ёанна Кажанеўска-Бярчынска даследуе расійскі і польскі публіцыстычныя дыскурсы, дае характарыстыку новай публіцыстычнай мовы (рус. – *новояз*). У працах паказана, што аздараўленне мовы публіцыстыкі ў канцы XX – пачатку XXI ст. аказалася часовым, у публіцыстычны дыскурс вярнулася мова, якая выражае нянавісць і агрэсіўнасць, накіраваная на ўсіх, хто не падтрымлівае думкі ўлады. У Расіі "аплёўваецца савецкасць і міфалагізуюцца капіталістычна-рыначныя адносіны, а ў Польшчы – гэтак званая камуністычнасць"[1]. З дапамогай этналінгвістычнага інструментарыю даследуюцца гендарныя адносіны, каштоўнасці новага свету ў абодвух народаў. Аб'ектам вывучэння з'яўляюцца пошукі "культурных мастоў" ва ўзаемадачыненнях палякаў і рускіх. У працах даказваецца, што сучаснаму палітычнаму дыскурсу ўласціва празмерная агрэсіўнасць, што прыводзіць да камунікатыўных шумоў і ўскладняе канструктыўны дыялог[2].

**Этналінгвістычныя даследаванні ў Беларусі**

Этналінгвістыка як навучальная дысцыпліна выкладаецца на ўсіх філалагічных факультэтах вядучых устаноў вышэйшай адукацыі Рэспублікі Беларусь, што патрабуе стварэнне навучальных дапаможнікаў па дадзенай дысцыпліне. У дапаможніку доктара філалагічных навук прафесара А. Рудэнкі вывучаны і апісаны навукова-тэарэтычныя асновы этналінгвістыкі як комлекснай міждысцыплінарнай навукі, асэнсаваны асноўныя кірункі этналінгвістыкі, супастаўлены асновавызначальныя пазіцыі найбуйнейшых этналінгвістычных школ. Навучальны дапаможнік з'яўляецца плёнам шматгадовай працы А. Рудэнкі як выкладчыка і як даследчыка. Як адзначае сама аўтар у прадмове да выдання, "багатым і плённым быў вопыт удзелу ў праграме вывучэння культурна-моўнай карціны свету славян і іх суседзяў у праграме EUROJOS пад кіраўніцтвам Е. Бартміньскага (2009–2015)"[3]. Для разумення сутнасці і гісторыі этналінгвістыкі важным стаў даследчыцкі грант фонду Фулбрайта ў ЗША (2013), у межах якога аўтар атрымала магчымасць вывучыць англа-амерыканскую этналінгвістычную традыцыю. У кнізе пададзена класічнае ядро этналінгістыкі і сумежныя з іншымі лінгвістычнымі дысцыплінамі галіны, а таксама аўтарскія дасягненні ў межах дадзенае навукі.

Курс лекцый па этналінгвістыцы кандыдата філалагічных навук дацэнта кафедры беларускага мовазнаўства Віцебскага дзяржаўнага

[1] И. Коженевска-Берчинска, *Польский и российский политический дискурс: Этнолингвистическая интерпретация, "Ученые записки ВГУ им. П.М. Машерова"* 2013, т. 16, с. 96.

[2] И. Коженевска-Берчинска, *Мосты культуры: Диалог поляков и русских*, Минск 2006, 144 с.

[3] Е. Руденко, *Этнолингвистика без границ: Введение в лингвистическую антропологию*: *пособие*, Минск 2014, с. 9.

ўніверсітэта імя П.М. Машэрава Алены Дзядовай[1] змяшчае звесткі па пытаннях і праблемах, найбольш важных для разумення этнакультурнай спецыфікі моў, а таксама ў плане фарміравання пачуцця роднай мовы і нацыянальнай свядомасці студэнтаў-філолагаў. У змесце лекцый закранаюцца пытанні, прысвечаныя разгляду гісторыі ўзнікнення і станаўлення этналінгвістыкі, асвятленню этнічных аспектаў моўнай палітыкі, вывучэнню нацыянальна-культурнай семантыкі безэквівалентнай лексікі, экзатызмаў, фразеалагічных і парэміялагічных адзінак, у якіх "зашыфравана" інфармацыя пра светапогляд таго ці іншага народа, яго абрады, звычаі, уяўленні пра навакольны свет.

Этналінгвістычная тэматыка актыўна распрацоўваецца ў працах беларускіх фалькларыстаў – Іны Швед, Таццяны Валодзінай, Уладзіміра Лобача і інш. Сферай навуковых інтарэсаў І. Швед з'яўляецца этнасеміятычная праблематыка. Яна прымяніла навуковую канцэпцыю генезісу і функцыянавання кодаў да беларускай традыцыйнай культуры, сфармулявала агульнамадэльнае ўяўленне пра феномены дэндралагічнага, гідралагічнага, колеравага кодаў беларускага фальклору. Сумесна з польскімі даследчыкамі І. Швед актыўна ўдзельнічала ў падрыхтоўцы манаграфій *Чалавек у дачыненні да жывёл, раслін і тэхнікі ў культуры* (2014), *Словы і рэчы ў мове і літаратуры* (2014), з супрацоўнікамі НАН Беларусі – *Нарысаў гісторыі культуры Беларусі* ў 4-х тамах, т. 3: *Культура сяла XIV – пачатку XX ст.,* кн. 2: *Духоўная культура* (2016).

Т. Валодзіна – доктар філалагічных навук, фалькларыст, этналінгвіст. Займаецца пытаннямі народнай анатоміі і медыцыны беларусаў, даследуе міфалогію, замовы, народны каляндар, знакавую арганізацыю традыцыйнай карціны свету беларусаў. Аўтар сямі кніг, сярод якіх *Семантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў* (1999), *Беларускі эратычны фальклор* (2004), *Цела чалавека: слова, міф, рытуал* (2009). Асаблівай увагі заслугоўваюць працы Т. Валодзінай, прысвечаныя рэканструкцыі і інтэрпрэтацыі абрадаў *талака*, *жаніцьба Цярэшкі*, а таксама манаграфія *Семантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў*[2]. Даследуючы фальклор, аўтар арганічна выкарыстоўвае этналінгвістычныя метады. У апошні час Т. Валодзіна актыўна працуе ў галіне этнафразеалогіі, даследуючы "фразеалагічную анатомію" беларусаў.

Працы У. Лобача прысвечаны апісанню семантыкі і рытуальнай функцыянальнасці базавых элементаў традыцыйнага культурнага ландшафту беларусаў як прыроднага, так і антрапагеннага паходжання. На падставе шырокага кола этнаграфічных, фальклорных, лінгвістычных крыніц ахарактарызаваны касмалагічныя параметры жыццёвай прасторы беларусаў, якія знайшлі сваё ўвасабленне ў міфапаэтычнай карціне свету і адлюстраваныя ў праявах традыцыйнай духоўнай культуры этнасу[3].

[1] А. Д з я д о в а, *Этналінгвістыка: курс лекцый*, Віцебск 2010, 93 с.

[2] Т. В а л о д з і н а, *Семантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў*, Мінск 1999, 139 с.

[3] У. Л о б а ч, *Міф. Прастора. Чалавек: Традыцыйны культурны ландшафт беларусаў у семіятычнай перспектыве: манаграфія*, Мінск 2013, 511 с.; У. Л о б а ч, *Святыя*

Блізкім па тэматыцы да згаданае вышэй першае кнігі *Слоўніка стэрэатыпаў і сімвалаў (Нябесныя целы)* з'яўляецца грунтоўнае выданне Цімафея Авіліна *Паміж небам і зямлёй: этнаастраномія.* [1] У гэтай кнізе аўтар паспрабаваў адказаць на пытанні, якім чынам старажытны чалавек ўспрымаў нябесныя аб'екты, ці былі ў беларусаў свае легенды пра нябесных жыхароў. Разглядаюцца народныя ўяўленні, звязаныя з зоркамі, сузор'ямі, метэорамі і Месяцам. Крыніцамі матэрыялу паслужылі экспедыцыйныя запісы аўтара і іншых даследчыкаў, творы беларускага фальклору, а таксама "кніжная" народная астраномія з даўняй усходнеславянскай літаратуры.

Сёння ў межах беларускай этналінгвістыкі даволі паспяхова развіваецца такі кірунак, як этнафразеалогія, які вывучае ўстойлівыя спалучэнні слоў у этнакультурным аспекце (Мікалай Даніловіч[2], А. Дзядова[3], Уладзімір Коваль[4], Вольга Ляшчынская[5], Анжаліка Садоўская[6] і інш.).

У 2010-я гады даследчыцкая цікаўнасць скіроўваецца да новага кірунку даследавання – аксіялагічнага. У калектыўнай манаграфіі *Славянскія каштоўнасці ў камунікатыўнай прасторы рэгіёнаў*[7]. разглядаюцца наступныя каштоўнасці: *любоў (каханне)*, *сям'я*, *Радзіма*, *Віцебск*, *дзеці*, *поспех*. У межах прынятага мовазнаўствам антрапацэнтрычнага погляду на мову разглядаюцца пытанні рэгіянальнай лінгвістыкі, адлюстравання ў мове рэгіёнаў агульнаславянскіх каштоўнасцяў. Манаграфія – вынік працы лінгвістаў над тэмай *Агульнаславянскія каштоўнасці ў люстэрку рэгіёна (Уладзіміршчына і Віцебшчына): мова як галоўная духоўная каштоўнасць.*

Брэсцкія даследчыкі прадставілі серыю навучальных дапаможнікаў, аб'яднаных назвай *Лінгвакультуралогія*[8]. Структура і змест гэтых па сутнасці лінгвакультуралагічных даведнікаў разлічаны на тое, каб не толькі даць інфармацыю пра гістарычна-часавую дынаміку станаўлення семантыкі канкрэтнай моўнай адзінкі, але і раскрыць этнамоўны кантэкст яе ўжывання. Слоўнікавы артыкул у згаданых выдан-

---

*крыніцы Беларусі,* Мінск 2016, 186 с.; У. Л о б а ч, *Полацкі этнаграфічны зборнік у 2-х частках*, Наваполацк 2011.

[1] Ц. А в і л і н, *Паміж небам і зямлёй: Этнаастраномія*, Мінск 2015, 278 с.

[2] М. Д а н і л о в і ч, *Слова і фразеалагізм у беларускай мове*, Гродна 2015, 300 с.

[3] А. Д з я д о в а, *Чалавек у люстэрку беларускай фразеалогіі і парэміялогіі: Манаграфія*, Віцебск 2013, 161 с.

[4] У. К о в а л ь,*Чым адгукаецца слова: Фразеалогія ў павер'ях, абрадах і звычаях*, Мінск 1994, 48 с.

[5] В. Л я ш ч ы н с к а я, *Фразеалагічная эмацыянальная канцэптасфера беларусаў: Манаграфія*, Мінск 2012, 246 с.

[6] А. С а д о ў с к а я, *Нацыянальна-культурны кампанент беларускай фразеалагізмаў*, "Працы кафедры сучаснай беларускай мовы" 2005, вып. 4, с. 90–103.

[7] В. М а с л о в а, *Славянские ценности в коммуникативном пространстве регионов: Коллективная монография,* Минск 2017, 268 с.

[8] М. А л я х н о в і ч*, Лінгвакультуралогія: Даведнік*, Брэст 2007, 71 с.; Л. Л е в а н ц э в і ч, *Лінгвакультуралогія: Метадычныя рэкамендацыі*, Брэст 2010, 107 с.; *Лінгвакультуралогія*: Дапаможнік для студэнтаў, рэд. Л. Леванцэвіч, Брэст 2015, 100 с.

нях складаецца з наступных частак: тлумачэнне значэння слова ці ўстойлівай адзінкі ў даведніках літаратурнай мовы; дыялектныя (мясцовыя) варыянты; іншыя назвы з гэтым кампанентам (літаратурныя і дыялектныя); словаўтваральнае гняздо; дыялектныя (мясцовыя) формы і словы, утвораныя на аснове адзінкі; этымалагічная даведка; гістарычная даведка; устойлівыя адзінкі з адпаведнымі словамі-кампанентамі (фразеалагізмы, прыказкі і прымаўкі); моўная адзінка ў кантэксце загадкі; анамастычныя назвы з адпаведнымі кампанентамі ў аснове ці структуры; сімволіка слова-назвы ў кантэксце прымхаў, парад і прыкмет, свят і абрадаў, замоў, варажбы, народнай медыцыны, гульні, забавы, песні. Структура слоўнікавага артыкула ў дадзеных выданнях падобная на будову даследаванняў Польскай этналінгвістычнай школы і закранае ўсе важныя моўныя і этнакультурныя крыніцы.

Аўтарамі разгледжана 48 лексем, сярод якіх назвы жывёл і птушак (*бусел*, *варона*, *гусь*, *заяц*, *курыца*, *сарока*), раслін (*гарох*, *груша*, *капуста*), з'яў прыроды (*туман*, *раса*, *дождж*, *лёд*, *іней*, *град*, *снег*, *вецер*, *гром*, *маланка*, *навальніца*, *вясёлка*, *мароз*), прадметаў побыту (*іголка*, *парог*, *нітка*, *пояс*, *ручнік*, *верацяно*, *нажніцы*, *лыжка*, *дзёгаць*, *лава*). Даследчыкі правялі вялікую працу па зборы і сістэматызацыі моўнага і культуралагічнага матэрыялу. Увага засяроджана ў першую чаргу на адлюстраванні сімвалічнага значэння прыведзеных слоў у традыцыйнай культуры.

Вывучэнне мовы ў шчыльнай сувязі з нацыянальным характарам народа і яго культурай укараняецца таксама ў методыку выкладання беларускае мовы ў школе. Такі падыход мае назву лінгвакультуралагічны[1] і актыўна выкарыстоўваецца ў сучаснай школе.

Развіццю этналінгвістыкі ў XXI ст. спрыяе некалькі фактараў: дасягненні сумежных навук – псіхалінгвісыкі, кагнітыўнай і арэальнай лінгвістыкі, лінгвакультуралогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі, гісторыі, станаўленне сучаснай – антрапалагічнай – парадыгмы даследавання мовы ў яе непарыўнай сувязі з чалавекам і культурай народа, а таксама патрабаванні сучасных адукацыйных стандартаў, якія прадугледжваюць вывучэнне мовы праз прызму культуры і спасціжэнне культуры праз мову.

Даследаванні ў рэчышчы этналінгвістыкі актыўна ажыццяўляюцца ў абедзвюх краінах. Асноўнымі кірункамі этналінгвістычных даследаванняў у абедзвюх краінах з'яўляюцца вывучэнне стэрэатыпаў (у польскай) і канцэптаў (у беларускай лінгвістыцы), этнафразеалогія, этналінгвістыка маўленчай дзейнасці, этналінгвістычнае вывучэнне фальклору. Для польскай і беларускай этналінгвістыкі 10-х гг. XXI ст. характэрна перамяшчэнне навуковых інтарэсаў у сферу вывучэння ўніверсальных і нацыянальных каштоўнасцяў і іх моўнай рэпрэзентацыі.

[1] В. З е л я н к о, *Навучанне беларускай мове: Лінгвакультуралагічны падыход: 10–11-я класы: Дапаможнік для настаўнікаў*, Мінск 2011, 136 с.

На дадзены момант пад кіраўніцтвам Е. Бартміньскага выконваюцца два вялікія праекты: *Слоўнік народных стэрэатыпаў і сімвалаў* і *Метады аналізу моўнай карціны свету ў параўнальных даследаваннях*, вынікам якога з'яўляецца *Этналінгвістычны слоўнік славян і іх суседзяў*, у якім даследуюцца каштоўнасці па дадзеных сучасных літаратурных моў: "дом", "Еўропа", "свабода", "праца", "гонар".

Калі ў Польшчы склалася моцная этналінгвістычная школа пад кіраўніцтвам Е. Бартміньскага, то ў Беларусі этналінгвістычныя даследаванні не падпарадкаваны адной метадалагічнай школе, характэрна апора на розныя школы этналінгвістыкі.

У беларускім мовазнаўстве апошніх дзесяцігоддзяў вызначылася тэндэнцыя ўзмацнення даследчыцкай цікавасці да праблем этналінгвістыкі. Гэтая цікавасць актыўна стымулюецца творчымі дасягненнямі этналінгвістаў суседніх краін (Польшчы, Расіі, Украіны і інш.). Адсутнасць адзінага цэнтра этналінгвістычных даследаванняў на Беларусі не перашкаджае стварэнню вялікай колькасці навучальных дапаможнікаў, манаграфій, слоўнікаў.

*Katsiarzna Pivavar*

**Belarusian and Polish ethnolinguistic studies in the XXI century**

A b s t r a c t

The article describes the characteristics of modern studies of language in relation to culture and mentality on the basis of the analysis of the works of Belarusian and Polish ethnolinguists. The author identifies common features and differences in the methodology, terminological apparatus, and research sources of this subject. For both Polish and Belarusian ethnolinguistics of the 2010's, it is typical to shift the scientific interests of researchers into the sphere of studying universal and national values and their linguistic representation. The author reaches the conclusion that ethnolinguistics is one of the priority linguistic areas in Poland and Belarus.

**Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091**

**Анастасія Сакаловіч**
ЦНБ ім. Якуба Коласа НАН Беларусі
pani.sokolovi4@yandex.by

# Некаторыя асаблівасці сучасных беларускіх перакладаў *Новага Запавету* (на прыкладзе *Нагорнай пропаведзі*)

Гісторыя кнігадрукавання і перакладу пачынаецца менавіта з *Біблії*. Пераклады *Святога Пісання* пачалі з'яўляцца ўжо ў III ст. да н. э., спачатку ў выглядзе гэтак званых *Каментароў* (ці *Таргумаў*)[1]. Прыкладна ў гэты ж час з'яўляецца знакаміты пераклад *Старога Запавету* на старажытнагрэчаскую мову – *Септуагінта*: пераклад, які быў выканаы сямюдзесяццю "вучонымі мужамі". Затым манах Гіеранім па даручэнні папы рымскага Дамаска выканаў пераклад *Святога Пісання* на лацінскую мову, які лічыцца агульнапрызнаным і атрымаў назву *Вульгата* (Vulgata ад лац. *vulgo, -avi, -atum, -are* 'рабіць агульнадаступным, распаўсюджваць'[2]).

На беларускіх землях першыя друкаваныя тэксты *Біблії* на мове, блізкай да беларускай, пачалі з'яўляцца ў XVI ст. дзякуючы намаганням Францыска Скарыны. Далей выданнем біблейскіх кніг займаліся Васіль Цяпінскі, Сымон Будны[3], Іван Фёдараў, Пётр Мсціславец і інш.; пры падтрымцы князя Канстанціна Астрожскага ў 1581 г. выходзіць поўны пераклад Біблії.

У XX ст. з адраджэннем беларускай дзяржаўнасці пачалася актыўная праца па перакладу на беларускую мову *Святога Пісання* і асобных яго кніг прадстаўнікамі розных канфесій. Першым быў пратэстант Лукаш Дзекуць-Малей (разам з Антонам Луцкевічам)[4], праз 42 гады ў 1973 г. быў выдадзены пераклад Янкі Станкевіча. Сярод каталіцкіх

---

[1] А. Б о к у н, *Гісторыя перакладу Біблії на беларускую мову* [у:] *Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Біблії: Зборнік матэрыялаў, артыкулаў і дакументаў*, Брэст 2011, с. 17.

[2] И. Д в о р е ц к и й, *Латинско-русский словарь: ок. 200000 слов и словосочетаний*, изд. 6, стер., Москва 2000, с. 834.

[3] Л. Ш а к у н, *Гісторыя беларуская літаратурнай мовы: Вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ,* 2-е выд., перапрац., Мінск 1984, с. 128.

[4] А. У н у ч а к, *Сьвятар, патрыёт, перакладчык* [у]: *Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Біблії...,* с. 8.

перакладчыкаў вылучаюць імёны Уладыслава Чарняўскага і Вінцэнта Гадлеўскага. Важную працу для праваслаўных чытачоў зрабіў Васіль Сёмуха, пераклаўшы поўны тэкст *Бібліі*. Надканфесійным перакладам з'яўляецца пераклад Анатоля Клышкі.

Увогуле пытанне стану беларускай мовы ў багаслоўі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў выклікае цікавасць сярод даследчыкаў, як навукоўцаў, так і рэлігійных дзеячоў: з кожным годам выходзяць з друку выданні, у якіх аналізуюцца пераклады на беларускую мову альбо больш вузкія пытанні. Сярод такіх даследчыкаў можна прыгадаць, напрыклад, Льва Шакуна, які шмат займаўся старабеларускімі перакладамі[1] *Бібліі*; Ігара Клімава, які вывучаў мову перакладаў *Евангелля* Васіля Цяпінскага[2]. Пераклады XX–XXI стст. таксама аналізуюцца самым актыўным чынамі. Варта згадаць наступных: Івана Чароту, які ў сваёй манаграфіі *Беларуская мова і царква*[3] разглядае агульны перакладніцкі вопыт на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі, а таксама з'яўляецца адным з членаў Беларускай Біблійнай камісіі пры Беларускай праваслаўнай царкве. Названай праблемай займаюцца Ірына Будзько[4], Вольга Фурс[5], Мікалай Прыгодзіч[6], Антоні Бокун[7]. Марына Пашук не так даўно напісала манаграфію *Białoruskie przekłady Pisma Świętego w latach 1926—2013*[8].

Адным з першых на сучасную беларускую мову пераклаў кнігі *Новага Запавету* Л. Дзекуць-Малей, баптысцкі пастар з Брэста. Пераклады былі скончаны на пачатку 20-х гадоў XX ст. і праз некалькі гадоў пачалі выходзіць з друку. Да справы далучыўся вядомы культурны дзеяч А. Луцкевіч, які ўзяўся рэдагаваць тэксты і, магчыма, выканаў большую частку перакладу. Аўтар перакладу меў на мэце выпрацаваць тэкст для дамашняга чытання, які быў бы зразумелы беларускім хрысціянам-баптыстам.

Даволі доўга над перакладам працаваў вядомы і аўтарытэтны ксёндз Ул. Чарняўскі. З 1999 г. беларускія вернікі атрымалі магчымасць

---

[1] Л. Ш а к у н, *Гісторыя беларускай літаратурнай мовы*, Мінск 1984, 316 с.

[2] І. К л і м а ў. *Мова перакладу Евангелля В. Цяпінскім (графіка, арфаграфія, фанетыка): аўтарэф. дыс… канд. філал. навук: 10.02.01*, Мінск 1997, 23 с.

[3] І. Ч а р о т а, *Беларуская мова і царква*, Мінск 2000, с. 115.

[4] І. Б у д з ь к о, *Пераклады кніг Старога Запавету і фарміраванне корпуса рэлігійнай тэрміналогіі на беларускай мове* [у]: *Беларуская мова ў сакральнай сферы*, Мінск 2019, с. 57–75.

[5] В. Ф у р с, *Сучасныя беларускія пераклады Евангелля паводле Мацвея: характар і фактары варыянтнасці выкладаў аднаго зместу ў тэкстах розных тыпаў: аўтарэф. дыс… канд. філал. навук:* 10.02.01, Мінск 2009, 22 с.

[6] М. П р ы г о д з і ч, *Звяртацца да Бога на адзінай літаратурнай мове: што (хто) перашкаджае* [у]: *Беларуская мова ў сакральнай сферы*, Мінск 2019, с. 247–254.

[7] А. Б о к у н, *Гісторыя перакладу Бібліі на беларускую мову* [у]: *Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі...*, с. 17–35.

[8] М. П а ш у к, *Białoruskie przekłady Pisma Świętego w latach 1926–2013: Studium historyczno-porównawcze*, Mińsk 2017, 412 s.

азнаёміцца з часткай яго працы: выйшаў з друку *Новы Запавет*. Яшчэ праз некалькі гадоў выходзіць з друку адрэдагаваны тэкст поўнай *Бібліі*. Пераклад рабіўся з *Вульгаты,* але з выкарыстаннем іншых тэкстаў: польскіх (*Біблія Тысячагоддзя*), англійскіх і інш. Гэты факт варта разглядаць са станоўчага боку, бо пры параўнанні некалькіх тэкстаў, пры выяўленні іх адрозненняў можна больш крытычна аднесціся да тэксту, улавіць першапачатковую думку.

У 1995 г. быў надрукаваны *Новы Запавет* у перакладзе В. Сёмухі, а ў 2002 г. – *Біблія* цалкам (перакладзеная таксама В. Сёмухам). Пачаў працу В. Сёмуха ў супрацоўніцтве з Беларускай біблійнай камісіяй, але затым вырашыў здзяйсняць пераклад самастойна. Падчас працы ён у значнай ступені абапіраўся на рускі сінадальны пераклад, а не на арыгінальныя мовы, з-за чаго ў выніку атрымаўся "пераклад з перакладу" і тэкст, насычаны русізмамі.

У 1989 г. пачала сваю працу Беларуская біблійная камісія, ці Біблійная камісія беларускага экзархата рускай праваслаўнай царквы. У яе склад уваходзяць праваслаўныя свяшчэннаслужыцелі, філолагі, прафесійныя перакладчыкі і літаратары. Камісія пачынала сваю працу пры Беларускай Праваслаўнай Царкве, але ў 1996 г., дзеля дасягнення агульнай мэты – пераклад *Святога Пісання* на беларускую мову – была падпісаная дамова паміж Камісіяй і Біблейскім Таварыствам Рэспублікі Беларусь (у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх канфесій)[1]. Праца над перакладам *Новага Запавету* цягнулася больш за 25 гадоў, плён іх працы быў надрукаваны ў канцы 2017 г. і лічыцца міжканфесійным. Да гэтага часу выходзілі з друку асобныя кнігі *Бібліі*. Члены Камісіі галоўнай сваёй мэтай бачаць падрыхтоўку такога беларускамоўнага перакладу *Новага Запавету*, які б быў прыдатны для выкарыстання падчас службы. Як адзначыў у прадмове да выдання 1991 г. *Евангелие Господа нашего Иисуса Христа* старшыня Беларускай Біблійнай Камісіі, Высокапраасвяшчэнны Філарэт, Мітрапаліт Мінскі і Гродненскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі: "неабходна ажыццявіць царкоўны пераклад, які павінен быць благаслаўлён Царквою для ўжывання падчас службы. Галоўная мэта распачатага нашай Біблійнай Камісіяй перакладу – гэта саборная выпрацоўка літургічнага стылю беларускай мовы"[2]. У якасці арыгіналу перакладчыкі ўзялі грэчаскі тэкст *Textus Receptus*, выкарыстоўвалі розныя крытычныя выданні; таксама звярталіся да падрадкоўных рускіх перакладаў. За ўзор узялі царкоўнаславянскі пераклад. Зразумела, быў узяты пад увагу вопыт папярэдніх перакладаў на беларускую мову, а таксама на іншыя славянскія мовы, як заўважае сакратар ББК І. Чарота ў сваёй манаграфіі *Беларуская мова і царква*[3]. Перакладчыкі добра ўсведамляюць усю адказнасць працы, якая

---

[1] *Пераклад Біблейскай камісіі* [online], https://bible.by/bbc/ (доступ: 25.03.2019).
[2] *Ibidem*, с. 3
[3] І. Ч а р о т а, *Беларуская мова і царква,* Мінск 2000, с. 115

ляжыць на іх плячах. Падчас працы яны заўсёды звяртаюцца да сваіх папярэдніх перакладаў, выпраўляюць свае памылкі.

У нашым артыкуле разглядаюцца пераклады *Нагорнай пропаведзі*, выкананыя Л. Дзекуць-Малеем (Дз-М)[1], Ул. Чарняўскім (Ч)[2], В. Сёмухам (С)[3] і Беларускай Біблійнай камісіяй (ББК)[4]. Былі выкарыстаны наступныя метады аналізу: апісальны, параўнальна-супастаўляльны, гісторыка-філалагічны. Мэтай артыкула з'яўляецца выяўленне агульных і спецыфічных асаблівасцяў гэтых перакладаў. Для аналізу быў узяты тэкст *Нагорнай пропаведзі*, як адной з самых багатых на розныя рэаліі ў кнігах *Новага Запавету*. Выбар тэкстаў, узятых для параўнання, тлумачыцца храналагічнымі крытэрыямі: усе гэтыя тэксты былі выдадзены ў XX ст., калі пачалося адраджэнне беларускай мовы. Складанасць справы выяўляецца ўжо на лексічным узроўні: на жаль, нават па сённяшні дзень не распрацаваная адзіная тэрміналогія для біблейскіх імёнаў і геаграфічных назваў.

Пераклад *Бібліі* – адзін з самых складаных раздзелаў гуманітарнай навукі, які ўключае ў сябе такія дысцыпліны, як лінгвістыка, у прыватнасці, тэорыя перакладу, культуралогія і багаслоўе. Асаблівасці перакладу *Бібліі* не ўкладаюцца ў рамкі агульнавядомай тэорыі перакладу[5]. Перакладчык павінен не толькі добра валодаць мовамі, з якімі ён працуе, але таксама добра арыентавацца ў гісторыі, валодаць ведамі аб культурным асяроддзі, у якім быў напісаны тэкст. Заўсёды варта мець на ўвазе, што без багаслоўскага асэнсавання немагчыма карэктная перадача тэксту, бо гаворка тут ідзе не проста аб старажытным творы, а аб Кнізе, якая выконвае велізарную ролю для ўсяго хрысціянскага насельніцтва. Напрыклад, грэчаскае слова *ὁ κύριος* мае асноўнае значэнне 'гаспадар, уладар', але ў традыцыі *Новага Запавета* перакладаецца 'Госпад, Гасподзь' і ў іншай інтэрпрэтацыі было б зразумела некарэктна.

Перад перакладчыкамі паўстае шэраг складаных пытанняў. Папершае, тэкст арыгінала, з якога будзе рабіцца пераклад (гэта можа залежаць ад веравызнання перакладчыка ці аўдыторыі, для якой рыхтуецца тэкст). Можна ўзяць грэчаскі ці лацінскі тэкст, але варта мець на ўвазе розначытанні, якія паўстаюць ў розных варыянтах падчас перакладу альбо апрацовак.

Таксама не трэба забываць пра час, які ляжыць паміж аўтарамі *Евангелляў* і перакладчыкамі. Адрозненні ў гістарычным, культурным,

---

[1] *Новы Запавет госпада нашага Ісуса Хрыста,* Лондан 1948, 93 с.

[2] *Новы Запавет,* літ. апрац. тэкста А.Бокуна, пер. на бел. Ул. Чарняўскага, Мінск 2003, 301 с.

[3] *Новы запавет. Псалтыр*, пер. В. Сёмуха, Мінск 1995, 488 с.

[4] *Евангелие господа нашего Иисуса Христа на четырех языках эллинском, славянском, российском и белорусском с параллельными местами,* Минск 1991, 245 с.

[5] *Перевод Библии как фактор развития и сохранения языков народов России и стран СНГ: проблемы и решения: сборник статей*, Москва 2010, с. 7.

бытавым фонах складаюць асобныя цяжкасці: шматлікія паняцці, традыцыі састарэлі і з'яўляюцца незразумелымі для сучасных чытачоў-хрысціян. Перакладчык павінен вырашыць, як яму паступіць: выкарыстоўваць незразумелыя архаічныя ці добравядомыя сучасныя паняцці. Некаторыя з іх выбіраюць наступнае: архаічнае паняцце з каментарыем. Што з'яўляецца даволі зручным, бо дазваляе захаваць архаічнасць і сакральнасць тэксту – з аднаго боку, і растлумачыць незразумелыя месцы – з другога. З "асучасненнем" перакладу варта дзейнічаць асцярожна, каб тэкст па-ранейшаму ўспрымаўся як тэкст *Бібліі*.

Звернемся непасрэдна да аналізу:

1) У Мц 5:2 сустракаем дзеепрыметнік *ἀνοίξας* '*дасл.* адкрыўшы'. Перакладчыкі выкарыстоўваюць наступныя варыянты: *адкрыўшы* (ББК, Ч, С) – *расчыніўшы* (Дз-М). Выкарыстаны Л. Дзекуць-Малеем варыянт падаецца не зусім удалым, бо дзеяслоў *расчыніць* часцей ужываецца ў кантэксце "расчыніць дзверы".

2) У Мц 5:3-11 сустракаем гэтак званыя макарызмы: *μακάριοι* '*дасл.* шчаслівыя': *шчаслівыя* (ББК) – *шчасныя* (Ч) – *шчасьлівыя* (Дз-М), В. Сёмуха пры перакладзе ўжывае *дабрашчасныя*. У дадзеных вершах розначытанні прысутнічаюць на арфаграфічным узроўні. Вылучаецца з гэтага раду В. Сёмуха, які ўтварае прыметнік шляхам складання дзвюх асноў. Дарэчы, хоць даволі моцны ўплыў царкоўнаславянскага перакладу адчуваецца амаль ва ўсіх сучасных беларускіх перакладах, незалежна ад веравызнаўчай накіраванасці, для прыметніка *μακάριος* ніхто не ўжывае царкоўнаславянскі эквівалент *блаженный*. Справа ў тым, што ў сучаснасці у беларускай мове для слова *блага* замацавалася значэнне нечага дрэннага, кепскага.

3) *οἱ πτωχοὶ τῷ πνεύματι* '*дасл.* бедныя духам' Мц 5:3. У дадзеным вершы тэксту арыгінала выкарыстоўваецца Dativus relationis (давальны склон адносін), ці, таксама верагодна, Dativus causae (давальны склон прычыны). Гэта значыць, што магчымыя даслоўныя пераклады: бедныя ў адносінах духа, бедныя дзеля / з прычыны духа. Як адзначыў Сяргей Аверынцаў, слова "*πτωχός* у ветхазапаветных кантэкстах азначае таго, для каго няма іншай дапамогі, акрамя дапамогі Боскай, і менавіта з гэтай прычыны ён знаходзіцца пад яго абаронай болей, чым хто-небудзь іншы <...>. Ва ўмовах «стагоддзя гэтага» ўсялякі праведнік, які адмовіўся ад усялякіх даброт, якія маюць вынікам штосьці няправеднае, можа быць названы гэтым словам..."[1]. У дадзеным выпадку перакладчыкі салідарны адзін з адным: *убогія духам* (ББК, Ч, С, Дз-М). Дарэчы, той жа прыметнік ужываецца ў польскім перакладзе *Бібліі Тысячагоддзя*: ubodzy w duchu. Але такі пераклад у беларускай мове гучыць не зусім адэкватна. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы дае наступнае значэнне слова *ўбогі* '1. бедны, няшчасны; 2. нязначны па

[1] С. А в е р и н ц е в, *Перевод Евангелия от Матфея с комментариями* [online], http://mstud.org/library/a/averintsev/ev/mt/5.html [доступ: 20.12.2017].

аб'ёму, мізэрны; 3. варты жалю; 4. чалавек з калецтвам, фізічнымі недахопамі, жабрак (у значэнні назоўніка)[1]'. І выкарыстанне ў перакладзе менавіта гэтага эквіваленту не зусім удалае, бо цяпер гэтае слова выкарыстоўваецца хутчэй з некім пагардлівым, іранічным сэнсам.

4) Мц 5:3 *ἡ βασιλεία τῶν οὐρανῶν* 'царства нябеснае': *валадарства Нябеснае* (ББК, Ч, Дз-М) – *царства Нябеснае* (С). Τῶν οὐρανῶν – недапасаванае азначэнне, гэта значыць, што перакладаецца назоўнік прыметнікам. *Валадарства* як паняцце больш шырокае за *царства*, падразумявае не толькі тэрыторыю, а і ў нейкім плане эмацыянальнае, духоўнае ўладанне.

5) Мц 5:4 *οἱ πενθοῦντες* 'тыя, хто плача'. У беларускай літаратурнай мове не існуе форм дзеепрыметніка незалежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі *-уч, -юч, -ач, -яч*, таму часткова перакладчыкі ўжываюць аналітычную форму альбо ўжываюць формы дзеепрыметніка: *тыя, хто плачуць* (ББК) – *тыя, што плачуць* (Ч, С) – (Дз-М).

6) Мц 5:5 *κληρονομήσουσιν* '[яны] атрымаюць у спадчыну': *успадкуюць* (ББК, С) – *завалодаюць Зямлёю* (Ч) – *унасьледуюць* (Дз-М). Дзеяслоў *успадкуюць*, ужыты ББК і В. Сёмухам, – уплыў польскай мовы, утвораны ад назоўнка *spadek*, які мае значэнне 'спадчына'.

7) Мц 5:6 *οἱ πεινῶντες καὶ διψῶντες τὴν δικαιοσύνην* 'згаладалыя і сасмаглыя праўды'. Зноў жа з-за цяжкасцяў з утварэннем некаторых форм дзеепрыметніка сустракаем апісальны пераклад: *тыя, хто жадае і прагне праўды* (ББК, С) – *тыя, што прагнуць і смагнуць справядлівасці* (Ч); альбо дакладную перадачу форм грэчаскага арыгінала: *галодныя і прагнучыя праўды* (Дз-М).

8) Мц 5:9 *αὐτοὶ υἱοὶ θεοῦ κληθήσονται* 'яны будуць названы сынамі Бога'. *Υἱοὶ θεοῦ* у гэтым выпадку – недапасаваны дзейнік. Няма дакладнай фармулёўкі, хто дакладна іх так назаве: людзі альбо Бог. Практычна ўсе пераклады паўтараюць царкоўнаславянскі пераклад: *яны будуць названыя сынамі Божымі* (ББК) – *Іх назавуць сынамі Божымі* (Ч) – *яны сынамі Божымі назавуцца* (С) – *Яны сынамі Божымі будуць названы* (Дз-М).

9) Мц 5:10 *οἱ δεδιωγμένοι ἕνεκεν δικαιοσύνης* 'тыя, каго выгналі з-за праўды': *што пераслед церпяць дзеля справядлівасці* (Ч) – *каго гоняць за праўду* (Дз-М) – *гнаныя за праўду* (ББК, С). Пераклад Ул. Чарняўскага ілюструе ўплыў польскага тэксту, які гучыць як *cierpią prześladowanie*. Цяжкасці пры перакладзе ўзнікаюць з-за вялікай колькасці значэнняў грэчаскага *ἡ δῐκαιοσύνη*: яно азначае 'справядлівасць, праведнасць, дабрадзейства'. Другая цяжкасць – недапушчальнасць утварэння некаторых форм дзеепрыметнікаў (гл. вышэй). Большасць перакладчыкаў выкарысталі *праўда*, але сучаснае значэнне і значэнне, з якім слова ўжывалася ў часы царкоўнаславянскага перакладу, адрозніваюцца. Напрыклад, поўны царкоўнаславянскі слоўнік вызначае наступным чынам: *праўда* (ἡ δῐκαιοσύνη) 'закон, законны ўчынак, дабрадзейнасць,

[1] *Тлумачальны слоўнік беларускай мовы,* выд. 5.,перапрац.і дап., Мінск 1996, с. 362.

альбо сукупнасць дабрадзейнасцяў, апраўданне грэшніка заслугамі Ісуса Хрыста’[1].

10) Мц 5:11 *εἴπωσιν πᾶν πονηρὸν ῥῆμα καθ᾽ ὑμῶν [ψευδόμενοι] ἕνεκεν ἐμοῦ* ‘калі будуць казаць усё дрэннае супраць вас, якія ілгуць з-за мяне’. Варта звярнуць увагу, як перакладчыкі абыходзяцца з дзеясловам (дакладней, з дзеепрыметнікам) *ψευδόμενοι*: *усяляк несправядліва абгаворываць вас за мяне* (Дз-М); Ул. Чарняўскі выкарыстоўвае не зусім звыклую для беларускай мовы форму *ўзводзячы паклёп*; у іншых – *усякім словам ліхім несправядліва зневажаць за мяне* (ББК, С).

11) Мц 5:15 *ὑπὸ τὸν μόδιον* ‘пад пасудзіну’. У дамах Бліжняга Усходу для таго, каб патушыць лямпу, накрывалі яе спецыяльнай пасудзінай. У царкоўнаславянскім перакладзе было ўжытае *под спудом*, што цяпер ужываецца ў складзе фразеалагізму са значэннем ‘таемна’. У перакладах назіраем наступныя варыянты: *пад пасудзінаю* (ББК, С) – *пад пасудзіну* (Ч) – *пад судзінай* (Дз-М). Вінавальны склон, ужыты Ул. Чарняўскім, супадае са склонам у сінадальнай *Бібліі.* Адрозненні ў склонавых формах можна растлумачыць мнагазначнасцю грэчаскага акузатыва, які ўключае ў сябе і вінавальны, і творны, і месны склоны.

12) Мц 5:20 *ἐὰν μὴ περισσεύσῃ ὑμῶν ἡ δικαιοσύνη πλεῖον τῶν γραμματέων καὶ Φαρισαίων* ‘калі не стане ваша праведнасць большай за [праведнасць] кніжнікаў і фарысеяў’: *не перавысіць* (ББК, Дз-М, С) – *не будзе большай* (Ч).

13) Мц 5:21 *ἔνοχος ἔσται τῇ κρίσει* ‘ён будзе асуджаны’. У арыгінале, як у грэчаскім, так і ў лацінскім, дзеяслоў *быць* (ἔσται) стаіць у форме будучага часу, але частка перакладчыкаў ужывае цяперашні час: *падлягае суду* (ББК, Дз-М, С); а Ул. Чарняўскі захоўвае граматычную форму дзеяслова – *будзе асуджаны*.

14) Мц 5:22 *Ῥακά* ‘*арам.* – пусты чалавек’, слова з арамейскай мовы, лічыцца вельмі абразлівым. Большасць перакладчыкаў папросту транслітарыруюць паняцце, некаторыя даюць каментарый з тлумачэннем: *пусты чалавек* (С) – *рака* (ББК, Ч, Дз-М). Перакладчыкі з ББК даюць тлумачэнне ў выглядзе каментарыя ў нізе старонкі, Ул. Чарняўскі – у слоўніку, змешчаным напрыканцы кнігі.

15) Мц 5:22 *τῷ συνεδρίῳ* ‘Сінедрыёну’. Сінедрыён – у Старажытнай Іудэі вышэйшая рэлігійная ўстанова, а таксама вышэйшы судовы орган, але на цяперашні момант паняцце гэтае састарэла. Ул. Чарняўскі вырашыў выкарыстаць спрадвечна беларускае паняцце *Рада*, якое вядома яшчэ з часоў ВКЛ, астатнія – транслітарыруюць *сінедрыён* (ББК, Дз-М, С), і ББК, таксама як у папярэднім выпадку, змяшчае каментарый.

16) Мц 5:22 *Μωρέ* ‘неразумны, шалёны’: *неразумны* (ББК, С) – *дурны* (Ч) – *шалёны* (Дз-М). Лаянкавае слова *шалёны* ў старажытных

---

[1] Г. Д ь я ч е н к о, *Полный церковно-славянский словарь (с внесением в него важнейших древнерусских слов и выражений): пособие, репринтное воспроизведение издания 1900 г.,* Москва 2013, с. 472.

іудэяў лічылася вельмі зняважлівым, мелася на ўвазе таксама ганебнасць і распушчанасць чалавека.

17) Мц 5:22 *τὴν γέενναν τοῦ πυρός* ‘геене агнявой’. Геена – першапачаткова гэта назва даліны (яўр. Хінном ці БенХіном) на поўдзень ад Ерусаліма. Дрэнную славу гэтай даліне прынесла тое, што яна доўгі час была месцам паганскіх абрадаў, у час якіх прыносілі ў ахвяру дзяцей (Іер.7:31). Пасля таго, як спынілі правядзенне гэтых абрадаў, мясцовасць была праклятая і пераўтвораная ў звалку для смецця і непахаваных трупаў; там увесь час гарэлі і тлелі агні, якія знішчалі гніенне. Яшчэ ў *Старым Запавеце* гэтая бясконцая праца чарвякоў і агню стала сімвалам канчатковай гібелі грэшнікаў <...>. Адсюль метафарычнае ўжыванне гэтага тапоніма ў *Евангеллях*.[1] У перакладах – наступныя варыянты: *геене вогненнай* (ББК, С) з прыстаўным “в” перад галосным у адрозненне ад *геенне агнявой* (Дз-М). Ул. Чарняўскі ў перакладзе адыходзіць ад добра вядомага беларусам устойлівага выраза, які прыйшоў у мову з царкоўнаславянскага перакладу і выкарыстоўвае *агнём пякельным*, што прыбліжае чытача да асацыяцый менавіта з пеклам.

18) Мц 5:25 *ἴσθι εὐνοῶν* ‘будзь добразычлівым’ (загадны лад незакончанае трыванне): *мірыся* (ББК, С) – *пагадзіся* (Ч) – *гадзіся* (Дз-М). ББК і В. Сёмуха перакладаюць сінадальную *Біблію*. З пункту гледжання граматычнай формы пераклад Л. Дзекуць-Малея найбольш адпавядае грэчаскаму арыгіналу.

19) Мц 5:25 *τῷ ἀντιδίκῳ* ‘праціўнік’: *праціўнік* (ББК, С) – *супраціўнік* (Ч, Дз-М).

20) Мц 5:27 *Οὐ μοιχεύσεις* ‘не будзеш пралюбадзейнічаць’. У грэчаскім, як і ў лацінскім арыгінале, выкарыстоўваецца будучы час, але ўсе перакладчыкі перадаюць дзеяслоў у гэтым вершы ў загадным ладзе: *не чыні пералюбу* (ББК, С) – *не чужалож* (Ч) – *ня блудзі* (Дз-М). Ул. Чарняўскі выкарстаў дзеяслоў польскага паходжання *cudzołożyć* ‘пралюбадзейнічаць’.

21) Мц 5:28 *ὁ βλέπων γυναῖκα πρὸς τὸ ἐπιθυμῆσαι* ‘той, хто глядзіць на жанчыну з пажадаю’. Τὸ ἐπιθυμῆσαι – субстантываваны інфінітыў, які перакладаецца назоўнікам, дзеепрыметнікам ці назоўнікам з прыметнікам: *хто глядзіць з пажадаю* (ББК, С) – *хто глядзіць, прагнучы яе* (Ч) – *хто глядзіць з блуднымі думкамі* (Дз-М). У дадзеным выпадку Л. Дзекуць-Малей вырашае перакласці інфінітыў *τὸ ἐπιθυμῆσαι* словазлучэннем назоўніка з прыметнікам, а не ўтвараць дзеепрыметнік.

22) Мц 5:31 *ἀποστάσιον* ‘разводнае пасведчанне’: *разводны ліст* (ББК, Ч, С) – *развод* (Дз-М). У старажытнасці ў яўрэяў існаваў звычай, калі жанчынам пасля разводу давалі спецыяльныя граматы, якія ахоўвалі іх правы такім чынам, каб яна мела магчымасць атрымаць частку маёмасці і зноў выйсці замуж.

---

[1] С. А в е р и н ц е в, *Геенна* [в:] *Мифы народов мира: энциклопедия: в 2 т.*, т. 1: *А – К*, Москва 1980, с. 269

23) Мц 5:37 *ναὶ ναί, οὒ οὔ* ‘так, так, не, не’: *так – так, не – не* (ББК, С, Ч) – *але, але, не, не* (Дз-М). У габраяў у старажытнасці такая моўная формула сцвярджэння альбо адмовы, якія паўтараюцца, выкарыстоўвалася для запэўнення замест клятвы.

24) Мц 5:40 *τὸν χιτῶνά* ‘хітон’. Хітон – від нацельнага адзення, сарочка, якую насілі пад гіматый. Пры перакладзе гэтай бытавой рэаліі перакладчыкі ідуць шляхам падбору паняццяў, якія з’яўляюцца эквівалентнымі біблейскім і зразумелымі беларускім чытачам: *кашуля* (ББК, С, Ч) – *сарочка* (Дз-М).

25) Мц 5:41 *ἀγγαρεύσει μίλιον ἕν* ‘прымусіць ісці адну мілю’: *попрышча* (ББК, С) – *міля* (Ч, Дз-М). У гэтым вершы зноў назіраем непасрэдны ўплыў царкоўнаславянскага і сінадальнага перакладу на прыкладзе тэксту ББК і В. Сёмухі.

26) Мц 5:44 *καταρωμένος* ‘тыя, хто праклінае’: *кляцьбіты* (ББК, С) – *праклінаючыя* (Дз-М). Верш 44 раздзела 5 сустракаецца не ва ўсіх тэкстах, мяркуюць, што гэта больш позняя ўстаўка. Даволі цікава выйшлі са становішча з дзеепрыметнікам перакладчыкі ББК і В. Сёмуха, ужыўшы замест яго назоўнік.

27) Мц 6:2 *οἱ ὑποκριταὶ* ‘акцёр, прытворшчык, крывадушнік’: *крывадушнікі* (ББК, С, Ч, Дз-М). Маецца на ўвазе чалавек няшчыры. У класічнай грэчаскай мове *ὁ ὑποκριτής* мае асноўнае значэнне ‘акцёр’, але ў новазапаветнай традыцыі набывае значэнне ‘крывадушнік’ і ўжываецца менавіта з гэтым сэнсам.

28) Мц 6:7 *μὴ βατταλογήσητε* ‘не казалі б вы пустога’: *не гаварыце лішняга* (ББК) – *не гаварэце лішняга* (С) – *не гавары многа* (Ч) – *не гавары лішняга* (Дз-М). У тэксце арыгіналу выкарыстаны ўмоўны лад, які азначае розныя адценні дзеяння (умова, мэта і інш.). Але перакладчыкі выкарыстоўваюць загадны лад. Л. Дзекуць-Малей вырашае таксама змяніць лік з множнага на адзіночны.

29) Мц 6:12 *τὰ ὀφειλήματα* ‘доўг; правіна, грэх’: *даўгі* (ББК, Дз-М) – *правіны* (С) – *грахі* (Ч). Літаральнае значэнне грэчаскага *τό ὀφείλημα* ‘доўг’, але ў Новым Запавеце дадаецца значэнне ‘грэх, віна, правіна’, якое вельмі лагічна ўпісваецца ў кантэкст размовы з Богам.

30) Мц 6:24 *μαμωνᾷ* ‘багацце, мамона’: *мамона* (ББК, С, Ч, Дз-М). *Мамона* – слова, запазычанае з арамейскай мовы, мае значэнне ‘маёмасць, багацце’. Першапачаткова гэтак звалі сірыйскага бога багацця, цяпер гэта стала сінонімам *нажывання*.

Як ужо адзначалася вышэй, пераклад *Бібліі* – вельмі цяжкая і адказная праца, яна патрабуе ад перакладчыка даволі шырокага кола ведаў, абавязковай пэўнай рэлігійнай падрыхтоўкі, ведання біблійных рэалій. Без добрай філалагічнай падрыхтоўкі немагчыма паўнавартасная праца над тэкстам. Немагчыма без ведання старагабрайскай і старагрэчаскай моў дакладна зразумець моўныя звароты, выкарыстаныя ў арыгінальных тэкстах; а таксама лексічныя і граматычныя нюансы мовы. Таксама веданне гэтых моў дазваляе звесці да мінімуму колькасць

памылак. Калі перакладчык выкарыстоўвае пераклад на іншую мову (як, напрыклад, зрабіў В. Сёмуха, узяўшы за аснову сінадальны пераклад), у выніку ён пераносіць памылкі, ужо зробленыя ў гэтым перакладзе, у новы тэкст.

Выкарыстанне розных тэкстаў-асноў таксама з'яўляецца прычынай разыходжанняў у перакладах. Як вядома, *Новы Запавет* першапачаткова быў напісаны на грэчаскай мове, а затым быў перакладзены на лацінскую мову. Таму, фактычна, пераклады, зробленыя з латыні, нельга назваць перакладамі ў поўным сэнсе. Вельмі карысна, менавіта для таго, каб стварыць якасны пераклад, які б як мага бліжэй перадаваў арыгінальную думку, карыстацца некалькімі крыніцамі. Гэта могуць быць не толькі грэчаскі і лацінскі тэксты, але і пераклады на іншыя мовы. У гэтым выпадку перакладчык мае магчымасць пазнаёміцца з іншымі аўтарытэтнымі тэкстамі, прааналізаваць варыянты і спыніцца на лепшым.

Яшчэ адна праблема, з якой сутыкаемся – цяжкасці менавіта з мовай. Усе перакладчыкі маюць адну мэту: зрабіць такі пераклад, які быў бы ясна зразумелы беларускім хрысціянам. Але з прычыны шматлікіх гістарычных з'яў беларуская мова знаходзіцца пад уплывам як рускай мовы, так і польскай. Гэта не дрэнна і не добра, гэта папросту існуе. І цяперашнія даследчыкі павінны ўлічваць папярэднія памылкі і недапрацоўкі, каб у Беларусі быў поўны тэкст *Бібліі* на беларускай мове, прыдатны для набажэнстваў.

У прааналізаваных тэкстах можна ўбачыць шмат разыходжанняў пры перакладзе аднолькавых месцаў *Евангелля*. Па-першае, нельга забывацца аб такім простым фактары, як асабісты погляд. Перакладчык перш за ўсё чалавек, і ў любым тэксце заўсёды выяўляецца нешта асабістае.

Другая праблема тычыцца шматканфесійнасці беларускага насельніцтва. Прадстаўнікі розных канфесій выкарыстоўваюць у якасці арыгіналу розныя тэксты: каталікі – лацінскі тэкст, праваслаўныя – грэчаскі. Гэта "першыя" арыгіналы. Таксама можна заўважыць залежнасць праваслаўных[1] перакладчыкаў ад рускага сінадальнага перакладу (які, дарэчы, быў прыняты ажно ў XIX ст.): *царства Нябеснае* (С), *плачучыя* (Дз-М), *падлягае суду* (ББК, Дз-М, С), *мірыся* (ББК, С), *попрышча* (ББК, С), *праклінаючыя* (Дз-М), *не гаварыце лішняга* (ББК). З другога боку, адчувальны таксама ўплыў і польскай мовы: *убогія духам* (ББК, Ч, С, Дз-М), *успадкуюць* (ББК, С), *пераслед церпяць* (Ч), *Рада* (Ч), *не чужалож* (Ч).

Напрошваецца вельмі цікавая выснова: так, у працэнтных суадносінах уплыў сінадальнага тэксту большы ў праваслаўных перакладчыкаў і ў Л. Дзекуць-Малея, а ўплыў польскай мовы больш адчувальны

[1] Гэтая залежнасць прасочваецца ў вялікай колькасці ў перакладчыкаў, якія належаць да праваслаўнай канфесіі, але таксама шмат русізмаў сустракаецца і ў астатніх.

ў каталіцкіх перакладчыкаў. Але пры больш глыбокім аналізе можам заўважыць, што ўсе перакладчыкі так ці інакш апынуліся пад уплывам і рускай, і польскай моваў. Калі ідзе гаворка аб перакладзе, зробленым па пратэстанцкім каноне, тут увогуле няма дакладнага алгарытму: прадстаўнікі гэтай канфесіі заўсёды адносіліся да тэксту больш вольна, часта адыходзілі ад даслоўнай перадачы, замяняючы словы такім чынам, каб думка гучала прыгожа і зразумела.

Дарэчы, справа ў галіне перакладу ідзе і сёння, можа, не так хутка, як хацелася б. Напрыклад, напрыканцы 2017 г. прайшлі прэзентацыі праваслаўнага і рымска-каталіцкага перакладаў *Новага Запавету*, плён працы некалькіх дзесяцігоддзяў. Увогуле не дзіва, што праца гэта доўжыцца не адзін год: пераклад *Святога Пісання* патрабуе ўдумлівага падыходу. Такі тэкст нельга перакладаць як просты літаратурны твор, калі для большай прыгажосці і яснасці можна адысці ад літаральнага значэння; але і поўнасцю літаральная перадача тэксту арыгінала недапушчальна.

*Anastasiya Sakalovich*

**Some Peculiarities of the Modern Belarusian Translation of the New Testament based on the Example of the Sermon on the Mount**

A b s t r a c t

The author of the article considers the lexical and grammatical peculiarities of the translations of the New Testament into the Belarusian language based on the example of the Sermon on the Mount in the Gospel of Matthew. Different translations into the modern Belarusian translations were taken into account for the research. The translations that were made by Luka Dekut'-Maley, Uladzislau Charniauski, Vasili Siomukha and the Belarusian Biblical Commission were analysed. The differences that arise because of different approaches to the translation, different source texts and different confessions are shown in specific examples.

**Tom 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091**

**Anna Berenika Siwirska**
Uniwersytet Warszawski
a.siwirska@uw.edu.pl

# Funkcjonowanie *narkamauki* i *taraszkiewicy* na forum internetowym (na przykładzie portalu TUT.BY)

Większość współczesnych i rozwiniętych języków charakteryzuje się dużą wewnętrzną dyferencjacją stylową, terytorialną i społeczną. Zjawisko to obecne jest także w dzisiejszej białoruszczyźnie, funkcjonującej zarówno w formie powszechnie zrozumiałej (w zależności od przyjętej nomenklatury nazywanej językiem literackim, ogólnym lub znormalizowanym[1]), jak i w tych, których występowanie jest ograniczone terytorialnie i społecznie (dialekty, gwary, slangi)[2]. Specyfiką współczesnego języka białoruskiego jest jednak to, że występuje on w dwóch wariantach – ***narkamauce*** i ***taraszkiewicy*** – odwołujących się do odmiennych tradycji literackich.

*Taraszkiewica* swoją nazwę zawdzięcza Bronisławowi Taraszkiewiczowi, twórcy *Gramatyki języka białoruskiego dla szkół (Беларуская граматыка для школ),* wydanej po raz pierwszy w Wilnie w 1918 r. Opierając się na zasadzie fonetyczności[3], skodyfikowano w niej wiele aspektów języka w zakresie ortografii, interpunkcji, słowotwórstwa i składni. Publikacja ta zapoczątkowała proces normalizacji współczesnej białoruszczyzny, jednak nie była w stanie wprowadzić wszystkich niezbędnych reguł i rozwiązać ówczesnych problemów językowych. W latach 20. XX wieku wydawano więc kolejne gramatyki języka białoruskiego, m. in. podręczniki Jazepa Losika tj. *Практычная граматыка* (1921), *Беларуская мова. Пачатковая граматыка* (1924), *Беларуская мова. Правапіс* (1924).

W 1933 r. w związku z zaostrzeniem się tendencji rusyfikacyjnych Rada Komisarzy Ludowych BSRR podjęła decyzję „O zmianach i uproszczeniu pisowni białoruskiej", której głównym celem było jak największe zbliżenie

---

[1] Por. N. M i e c z k o w s k a, *Stulecie białoruskiego odrodzenia narodowego: główne wydarzenia i trendy w historii samoświadomości językowej i sytuacji językowej na Białorusi* [w:] *Tożsamości narodowe Białorusinów*, red. R. Radzik, Lublin 2012, s. 106.

[2] Zob. też A. S i w i r s k a, *Polskie spojrzenie na odmiany i style języka białoruskiego* [w:] *Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: Да 220-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча*, рэд. І.Э. Багдановіч, М.І. Свістунова, Мінск 2018, с. 283–291.

[3] Zasada zakłada jak najbliższe odwzorowanie na piśmie fonetyki danego języka, zapis bliski rzeczywistej artykulacji jednostek języka.

języka białoruskiego do języka rosyjskiego. Zbiór nowych zasad został nazwany *narkamauką* – od nazwy Rady, która go rekomendowała (biał. Савет Народных Камісараў БССР). Zrusyfikowane zasady pisowni białoruskiej wprowadzone w BSRR w 1933 r., a na Białorusi Zachodniej w 1939 r., nie zostały uznane przez środowiska opozycyjne i emigracyjne, które konsekwentnie posługiwały się *taraszkiewicą*. Podział ten zapoczątkował funkcjonowanie dwóch oddzielnych wersji językowych współczesnej białoruszczyzny.

Po uzyskaniu niepodległości zwolennicy *taraszkiewicy* bezskutecznie postulowali o formalne uznanie tej odmiany języka. Od tej pory stała się ona symbolem odrodzenia narodowego i odcięcia się od rusyfikacji, chętnie wykorzystywanym przez środowiska niezależne, młodzież, opozycję, ugrupowania narodowo-patriotyczne [1].

Różnice między obiema formami są dostrzegalne na każdym poziomie języka i dotyczą zarówno morfologii, składni, ortografii, ortoepii, jak i leksyki[2]. W związku z tym wielu językoznawców klasyfikuje *taraszkiewicę* i *narkamaukę* jako dwa osobne standardy, ale wciąż jednego języka białoruskiego[3]. O ile jednak zasady języka można znormalizować i zakwalifikować jednoznacznie do danego systemu, o tyle słownictwo nie poddaje się tak łatwo odgórnym manipulacjom. Dlatego też błędem wydaje się przypisanie konkretnych jednostek leksykalnych do jednego ze standardów języka białoruskiego.

Użytkownicy *taraszkiewicy* odwołują się do tradycji literackiej lat dwudziestych XX w., aktywnie wykorzystując zasoby odnotowane w słownikach języka białoruskiego pochodzących z tamtego okresu oraz słownikach gwar białoruskich[4]. Dla *taraszkiewicy* charakterystyczna jest także ogólna tendencja do puryzmu językowego, zachowania poprawności i czystości językowej przy jednoczesnym ograniczaniu wpływu języka rosyjskiego na białoruski.

System leksykalny *narkamauki* uaktualnia się natomiast głównie przez zapożyczenia z języka rosyjskiego lub angielskiego (które często są również przejmowane pośrednio przez język rosyjski). Mimo że obie formy językowe charakteryzują się inną orientacją słowotwórczą i starają się czerpać jednostki leksykalne z odmiennych zasobów, znaczna część leksyki dla obydwu standardów jest wspólna.

Powyższe uwagi opierają się jednak na teoriach głoszonych przez białoruskich językoznawców. W celu sprawdzenia funkcjonowania *narkamauki*

---

[1] Zob. Н.Б. Мячкоўская, *Мовы і культура Беларусі,* Мінск 2008, s. 160–162.

[2] Zob. I.П. Клімаў, *Двухстандартнасць беларускай літаратурнай мовы* [у:] *Мова. Літаратура. Культура: Да 55-годдзя адкрыцця кафедры беларускай мовы і літаратуры БДУ*, ч. 1, Мінск 1999. с. 134-137, I.П. Клімаў, *Гісторыя складвання двух стандартаў у беларускай літаратурнай мове*, „Роднае слова” 2004, № 6, с. 41–47, I.П. Клімаў, *Лінгвістычная апазіцыя двух стандартаў беларускай літаратурнай мовы*, „Роднае слова” 2004, № 7, с. 14–18.

[3] Zob. А.А. Лукашанец, *Беларуская мова ў XXI стагоддзі: развіццё сістэмы і праблемы функцыянавання*, Мінск 2014, с. 62.

[4] Zob. Н.Б. Мечковская*, Белорусский язык*: *социолингвистические очерки*, München 2003, с. 131.

i *taraszkiewicy* w praktyce przeprowadzono badanie wśród białoruskojęzycznych użytkowników Internetu. Białorusini chętnie posługują się swoim językiem w przestrzeni wirtualnej, a ponieważ daje im ona poczucie anonimowości i prywatności, sposób wyrażania myśli podczas kontaktów wirtualnych jest naturalny, swobodny i prawdziwy. Ponadto, jak zauważa Siarhiej Ważnik: „Беларускі Інтэрнэт – гэта па сутнасці лакмусавая паперка (люстэрка) той моўнай сітуацыі, што мае месца ў сучаснай Беларусі”[1].

Dlatego też dyskurs internetowy wydaje się być odpowiednim i łatwo dostępnym materiałem, na podstawie którego możliwe jest zaobserwowanie zjawisk językowych powszechnych we współczesnej białoruszczyźnie. W pierwszym kwartale 2019 r. została przeprowadzona analiza lingwistyczna białoruskojęzycznych komentarzy zamieszczonych na jednym z największych portali informacyjno-rozrywkowych na Białorusi – TUT.BY. Zgodnie z danymi analitycznymi serwisu Yandex w lutym 2019 r. witrynę tę odwiedziło 3 298 158 unikalnych użytkowników, co stanowi 61% białoruskich internautów. Większość z nich to mieszkańcy okręgu mińskiego (59% korzystających z TUT.BY) między 25. a 34. (30%) oraz między 35. a 44. (24%) rokiem życia[2]. Za słusznością wyboru serwisu TUT.BY jako źródła danych do badań lingwistycznych przemawia także fakt używania go przez osoby prezentujące różne poglądy polityczne (zarówno pro-, jak i antyrządowe), pochodzące z różnych grup społecznych, wiekowych, płciowych i posługujące się odmiennymi wariantami językowymi. Daje on bowiem na swoim forum większą swobodę wypowiedzi niż państwowe portale informacyjne.

## Liczbowe zestawienie komentarzy pisanych *narkamauką* i *taraszkiewicą*

W celu sprawdzenia, którym z wariantów swojego języka chętniej posługują się Białorusini w Internecie, zbadano komentarze dwudziestu użytkowników forum na portalu TUT.BY.

Na podstawie zebranego materiału okazało się, że:

- trzynaście osób korzystało z zasad *narkomauki*,
- sześć wybrało *taraszkiewicę*,
- jedna osoba pisała w sposób niedający się jednoznacznie sklasyfikować, według któregoś ze standardów języka białoruskiego.

W oparciu o powyższe dane widać wyraźnie, że więcej zwolenników ma *narkamauka*. Jednak sam podział internautów na propagatorów i przeciwników odmiennych form białoruszczyzny nie wyczerpuje oczywiście tematu badań.

## Lingwistyczna analiza zebranego materiału językowego

Szczegółowej analizie językowej zostało poddanych tysiąc przykładowych wypowiedzi, należących do stale udzielających się użytkowników TUT.BY (minimum pięćdziesiąt komentarzy każdego z nich). Mimo obecnej

[1] С.А. В а ж н і к, *Беларуская мова ў Інтэрнэце*, “Acta Neophilologica” 2006, t. VIII, s. 80.
[2] Статистика [online], https://tutby.com/advert/statistics/ [доступ:] 29.04.2019.

w nich różnorodności zwrotów, wyrażeń i popełnionych błędów zebrany materiał pozwolił określić kilka charakterystycznych cech białoruskojęzycznego dyskursu internetowego. W trakcie prowadzonych badań okazało się, że internauci przestrzegają zasad *narkamauki* lub *taraszkiewicy* w sposób wybiórczy i niekonsekwentny, popełniając przy tym wiele błędów, co zostanie przedstawione poniżej.

## I. Analiza komentarzy pisanych zgodnie z zasadami *taraszkiewicy*

*Taraszkiewica*, chociaż nawiązuje do tradycji literackiej lat dwudziestych XX w., jest wciąż aktualizowanym i rozwijanym wariantem współczesnej białoruszczyzny. W 2005 roku ukazało się nowe wydanie klasycznych zasad języka białoruskiego[1], zgodnie z którymi redagowane są książki, czasopisma oraz teksty zamieszczane na portalach internetowych. Współczesna *taraszkiewica* charakteryzuje się świadomym zastąpieniem wpływu języka rosyjskiego na język białoruski innowacjami językowymi, czerpiącymi z własnego materiału gwarowego, archaizmów, zapożyczeń z języka polskiego bądź ukraińskiego (w warstwie leksykalnej)[2] i przestrzeganiem klasycznych zasad, dopuszczających większą wariantywność niż te wprowadzone po reformie (w warstwie morfologicznej i ortograficznej).

W stworzonym na potrzeby badania korpusie tekstowym znajdziemy jednak wiele przykładów braku konsekwencji w unikaniu wpływów języka rosyjskiego. Pośród komentarzy można było zauważyć:

- rusycyzmy leksykalne: *брэд* (ros. бред, biał. трызненне, бязглуздзіца), *саатветствуе* (ros. соответствовать, biał. адпавядаць), *маладзец* (ros. молодец, biał. малайчына), *нішчы* (ros. нищий, biał. жабрак), *рознь* (biał. варожасць)[3];
- rusycyzmy gramatyczne: *на рынке* (zamiast на рынку), *радуецца гэтым капейкам* (zamiast радуецца з гэтых капеек), *у ўкраінскім Крыму* (zamiast ва ўкраінскім Крыме), *с пеной у рота* (zamiast biał. з пенай на вуснах lub ros. с пеной у рта);
- miękkie „ц" zamiast twardego „т" w wyrazach typu: *басціон* (biał. бастыён, ros. бастион), *кацер* (biał. катэр, ros. катер);
- formy typu *забяспечываць* (zamiast забяспечваць), *выконывай* (zamiast выконвай).

Należy podkreślić, że powyższe błędy nie pojawiały się jednorazowo, lecz powtarzały się regularnie – zarówno w wielu komentarzach jednego użytkownika, jak i w wypowiedziach różnych internatów.

Wpływ języka rosyjskiego na słownictwo i morfologię *taraszkiewicy* wart jest osobnego omówienia. Rusycyzmy leksykalne często są prawdopodobnie świadomym wyborem użytkownika języka, wynikającym albo z bra-

---

[1] Zob. *Беларускі клясычны правапіс: Збор правілаў: Сучасная нармалізацыя*, рэд. Зьміцер Саўка, Вільня-Менск 2005.

[2] Zob. Н.Б. М я ч к о ў с к а я, *Мовы і культура...*, с. 161.

[3] Wszystkie przykłady pochodzą z komentarzy umieszczonych na portalu TUT.BY w dniach 01.10.2018 – 28.03.2019 r. i są zapisywane zgodnie z oryginalną pisownią.

ku lepszego białoruskiego odpowiednika (przede wszystkim w zakresie leksyki potocznej i kolokwialnej, czego przykładem jest wyraz *атмарозкі*), albo z konwencji wypowiedzi, jej kontekstu i celu. Dotyczy to przede wszystkim tych leksemów, które nie zostały zaadaptowane do systemu języka białoruskiego. Można bowiem założyć, że użytkownik ma świadomość korzystania z jednostek językowych nienależących do systemu leksykalnego języka białoruskiego, takich jak leksem „рознь". Zwłaszcza gdy sam podkreśla obcość danego wyrazu, zapisując go w cudzysłowie i nie poddając żadnym procesom asymilacyjnym, np. "Галоўнае слова ва ўсім тэксце – «пока»".

Oddziaływanie języka rosyjskiego na poziomie morfologicznym wynika natomiast z braku wystarczającej wiedzy i praktyki językowej. *Taraszkiewicą* często posługują się osoby mówiące od dziecka językiem rosyjskim, które, podejmując świadomą decyzję o przejściu na język białoruski, manifestują swoją postawę narodowo-patriotyczną. Dla takich osób język białoruski jest symbolicznym wyznacznikiem tożsamości narodowej, którym chcą się poprawnie posługiwać, ale nie zawsze mają w tym zakresie odpowiednie kompetencje językowe. Przykładem może być tworzenie formy czasownika przy użyciu białoruskiej podstawy słowotwórczej i rosyjskiego sufiksu (*забяспечываць, выконывай*), co prawdopodobnie wynika z przyzwyczajenia.

Innymi przejawami braku konsekwencji w przestrzeganiu zasad *taraszkiewicy* w badanych tekstach były:

- miękkie spółgłoski w zapożyczeniach, np.: *рэферэндум, сертыфікаты, ситуацыя; каментар, энергетыка, дэпазіт, асіміляцыя* (poprawna wersja to: рэфэрэндум, сэртыфікат, сытуацыя, камэнтар, энэргетыка, дэпазыт, асыміляцыя);
- wpływy leksykalne, np. *англійская і руская мовы* (powinno być: ангельская, расейская);
- brak ilustracji na piśmie jakania w przyimkach: *не зможа, не будзеш* (zamiast ня зможа, ня будзеш).

Wszystkie wymienione powyżej przykłady można uznać jako dowód znacznego wpływu *narkamauki* na *taraszkiewicę*.

Dosyć konsekwentnie przestrzegano natomiast zasady odzwierciedlania w piśmie tradycyjnej białoruskiej miękkości spółgłosek (np. "**зьдзеквацца** з сябе я ўсё ж не **асьмелюся**, а што ён, дарэчы, яшчэ **сьпявае**"). Brak znaku miękkiego zdarzał się internautom incydentalnie (np. сусветная, zamiast сусьветная) i prawdopodobnie nie wynikał z niewiedzy, a z pośpiechu lub niedbalstwa językowego.

**II. Analiza komentarzy pisanych zgodnie z zasadami *narkamauki***

Tak jak *taraszkiewica* w pewnych elementach wypowiedzi ulega wpływom *narkamauki,* tak i w komentarzach pisanych *narkamauką* dostrzec można oddziaływanie *taraszkiewicy*. Najbardziej widoczne jest to w warstwie leksykalnej i przejawia się w:

скардзіліся на празмерную лічбу вучняў (Тамаш Мацкевіч у 1755 г.; Стэфан Гізберт у 1766 г.)[1].

Затое ў актах Сінода зафіксаваны спробы арганізаваць на тэрыторыі Беларусі новыя асветныя асяродкі. Ім, напрыклад, павінны быў стаць Копысь у Аршанскім павеце: у 1723 г. "інфарматарам тамтэйшых дзетак" быў пасланы Жарнавец, а ў 1765 г. – "ад'юнктам і дацэнтам" прызначаны М. Шылінг, які вяртаўся з вучобы ў Марбургу[2]. У сваю чаргу ў 1742 г. лектарам і дацэнтам у Копылі Навагародскага павету стаў С. Бітнэр[3]. Адзінкавасць падобных згадак можа тлумачыцца працай гэтых асоб прыватнымі настаўнікамі ў сем'ях мясцовых кальвіністаў. Падобныя прызначэнні, звычайна, у актах Сінода запісваліся асобна. Так, у 1742 г. да Пакашаў адпраўляліся А. Прадоўскі і Б. Чыж, а Г. Малеркон вучыў дзяцей Пежарскага[4].

Што ж датычыцца Слуцкай гімназіі, то яна, безумоўна, увесь гэты перыяд заставалася вядучай кальвінскай навучальнай установай на тэрыторыі Беларусі. Тэрмін знаходжання ў гімназіі выхаванцаў, звычайна, вагаўся ад 6 да 10 гадоў, за якія яны праходзілі асновы Кальвінскага веравызнання, польскую, лацінскую, грэчаскую і нямецкую мовы, этыку, рыторыку, гісторыю, правазнаўства і матэматыку. Таксама для тых, хто збіраўся ў далейшым абраць духоўную кар'еру, з 2-га класа асобна вяліся заняткі па грэчаскай і габрэйскай мовах. Спачатку выкладанне ішло на польскай мове, але ў старэйшых класах перавага ўжо аддавалася латыні[5].

Агульная лічба выхаванцаў у Слуцку пры гэтым вагалася ад некалькіх дзясяткаў да амаль сотні. Так, у 1702 г. іх было 43, у 1710 г. – 29, у 1725 г. – 92, у 1736 – 52, у 1741 г. – 17, у 1742 – 30, у 1745 г. – 30, у 1748 г. – 42, у 1749 г. – 31, у 1750 г. – 28, у 1752 г. – 19, у 1754 г. – 29, у 1755 г. – 27, у 1761 г. – 26, у 1762 г. – 38 (адзін з іх 1 кастрычніка "збег у Масковію"), у 1763 г. – 36, у 1765 г. – 36, у 1766 г. – 42, у 1768 г. – 38, 1769 г. – 42, у 1770 г. – 48[6].

Адметна і тое, што ў Слуцкай гімназіі на рэгулярнай аснове вучыліся цэлыя пакаленні асобных кальвінскіх сем'яў – Бохвіцы (1706, 1736, 1752), Воўкі (1706, 1708, 1725, 1736, 1745, 1748, 1756, 1770), Рачыньскія (1728, 1736, 1741, 1755, 1765, 1769, 1771), Цадроўскія (1736, 1748, 1751, 1764) і інш. Некаторыя з іх у далейшым выкладалі ва ўласнай "альма матэр": у 1707 г. рэктарам тут быў Ян Бохвіц; у 1731 г. канрэктарам – Гаўрыіл Рачыньскі; у 1733 г. канрэктарам – Уладыслаў Бохвіц; у 1734 г.

---

[1] LMAB, F. 40–456, k. 60, 96.

[2] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 354; F. 40–103, k. 165.

[3] *Ibidem,* F. 40–103, k. 321v.

[4] *Ibidem,* F. 40–103, k. 321v.

[5] И.А. Г л е б о в , *Историческая записка о Слуцкой гимназии с 1617–1630–1901*, Вильна 1903, с. 11–12, 16.

[6] LMAB, F. 40–148, k. 39–40, 45–47, 52v–54, 61–63, 78–81v, 110–112, 112v–113v, 114v–116, 123–129v, 141–144v.

“трэцім дацэнтам”, у 1735 г. канрэктарам, а ў 1736–1741 гг. рэктарам – Якаў Рачыньскі; у 1741 г. канрэктарам – Станіслаў Рачыньскі; у 1763 г. канрэктарам – Стэфан Рачыньскі; у 1772–1773 гг. – Іосіф Рачыньскі[1].

Аднак апрача Слуцка, дзе працавала ажно 3 настаўнікі, іншыя тагачасныя кальвінскія школы толькі ў лепшым выпадку мелі аднаго ўласнага настаўніка (“дацэнта”) з ліку асоб, што прайшлі стажыроўку за мяжой. Звычайнай справай стала сумяшчэнне пасад прапаведніка і настаўніка. У 1741 г. Сінод выказаў падзяку лектару Жупранскага збору Станіславу Рачыньскаму, які добраахвотна пагадзіўся наглядаць за школай і рабіў гэта “старанна”[2]. Але дадзены выпадак хутчэй быў выключэннем – пастары браліся за выкладанне пераважна пасля адпаведнага загаду ўладаў і за дадатковыя грошы. У 1758–1759 гг., напрыклад, Андрэй Бажымоўскі атрымліваў за пасаду лектара ў Заблудаве 400 зл., а за працу ў школе яму плацілі яшчэ 100 зл.[3]. Магло, праўда, быць і наадварот – у 1768 г. дацэнт Фларыян Героўскі ў Койданаве атрымліваў 400 зл., а пры ўмове свайго ўдзелу “у працах касцельных” Сінод даваў яму яшчэ 50 зл.[4]. Але часам абодва гэтыя месцы заставаліся вакантнымі – у такім выпадку казанне пропаведзяў і правядзенне заняткаў ускладвалася на каго-небудзь з кіраўніцтва дыстрыкту. Яны ж, зразумела, выконвалі гэтыя абавязкі нерэгулярна. Школа працавала эпізадычна – толькі ў час знаходжання дадзенай асобы ў мястэчку. У Койданаве падобнае адбылося ажно двойчы: па-першае, у 1727 г. “інфарматарам” у школе працаваў беларускі консеньёр; па-другое, у 1763 г. заняткі тут вёў спачатку консеньёр беларускі Станіслаў Рачыньскі, а пасля яго раптоўнай смерці – мінскі прапаведнік Андрэй Жарнавец[5]. Пры надзвычайных абставінах запаўняў Сінод часова настаўніцкія вакансіі і старшакласнікамі з гімназій. Ва ўсё тым жа Койданаве алюмн са Слуцка працаваў у 1750 г.[6]. Напрыканцы ж лета 1765 г. стала вядома, што з універсітэта ў Марбургу сюды спазняецца Багуслаў Цэханскі (павінны быў завяршыць ужо аплачаны курс лекцый) – сеньёру навагрудскаму загадвалася прызначыць настаўнікам якога-небудзь “студэнта са Слуцкай школы ў Койданаўскую школку”. Аб якасці працы апошняга нічога не вядома, але летняга пераводнага экзамену тут так і не адбылося, а сапраўдная замена ў выглядзе дацэнта Стэфана Гізберта прыбыла ў мястэчка толькі ў кастрычніку 1766 г.[7].

Негатыўнай з’явай, што моцна ўплывала на стан айчынных кальвінскіх школ, была “цякучка” кадраў. Настаўнікі ў школах працавалі,

---

[1] *Ibidem,* F. 40–148, k. 50v–51v, 52v–54, 59–63, 78–81v, 95–96v, 106–107v, 110–113v, 123–126, 142–143, 145–146v.
[2] *Ibidem,* F. 40–103, k. 313v.
[3] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 203, 223.
[4] *Ibidem,* F. 40–90/2, k. 50.
[5] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 340; F. 40–103, k. 203.
[6] *Ibidem,* F. 40–456, k. 43, 59.
[7] *Ibidem,* F. 40–167, k. 3; F. 40–456, k. 91v.

звычайна, не больш за некалькіх год, пасля чаго іх пераводзілі ў іншае месца, "затыкаючы" такім чынам, узніклыя па розных абставінах "дзіркі". Часцяком сустракаліся і выпадкі працы на адным месцы ўсяго адзін год. У Жупранах С. Паўловіч займаў пасады лектара і дацэнта толькі ў 1730 г., а ў 1736 г. дацэнтам тут папрацаваў Самуіл Заленчкоўскі[1]. У Койданаве ў 1754 г. лектарам і дацэнтам быў Уладыслаў Казарын, у 1755 г. мясцовым дацэнтам стаў Тамаш Мацкевіч, у 1756 г. яго пасаду заняў Станіслаў Рачыньскі, а ў 1757 г. – Андрэй Жарнавец, адкліканы дзеля гэтага з Марбургу. Апошні ў Койданаве, праўда, затрымаўся да 1763 г., пасля чаго заняў пасаду мінскага прапаведніка[2]. Апошні факт, дарэчы, тлумачыць чаму Сінод пры рэгулярным папаўненні выкладчыцкіх кадраў за кошт сваіх замежных стыпендыятаў (штогод вярталася некалькі чалавек) увесь даследуемы час адчуваў іх вострый недахоп – пасля не вельмі працяглай працы ў школе (у выпадку Андрэя Жарнаўца – 6 год) большасць з іх шукала магчымасці перайсці на больш прыбытковыя пасады святароў (лектараў, ад'юнктаў, д'яканаў), хатніх настаўнікаў у сем'ях заможных пратэстантаў ці хаця б перавесціся ў гімназію, дзе мелася перспектыва стаць рэктарам з далейшым уваходам у склад кіраўніцтва нейкага дыстрыкту. Падобнае прашэнне даслаў у Сінод у 1771 г. дацэнт Койданаўскай школы Фларыян Героўскі, які адзначаў, што ўжо "доўгі час працуе настаўнікам ["ажно" 3 гады, бо ў 1768 г. ён прыбыў сюды з Лейдэна. – *А. С.*]", а таму прасіў даць яму прыход ("амбон") ці накіраваць ў гімназію. Сінод, аднак, адхіліў гэтае хадайніцтва, але каб нейкім чынам аддзячыць яму, узняў статус ягонай пасады ў Койданаве да "рэктара" з адпаведнай прыбаўкай заробку (з 400 да 600 зл.). У Слуцк жа ён быў пераведзены ў 1774 г. – стаў рэктарам тамтэйшай гімназіі[3].

З 1760-х гг. звычайнай практыкай стала даручэнне выкладання ў пачатковым трэцім класе Слуцкай гімназіі старшакласнікам. Так, у 1761 г. у Слуцку "3-м калегам" быў Каспар Станіслаў Кёніг "з прымы [1-га класа. – *А. С.*]". Яго наступнікам стаў таксама першакласнік Давід Сандыс, які працаваў з малодшымі вучнямі ў якасці "дацэнта" ў 1762 г. і палову наступнага году да свайго ад'езду ў Берлін, калі яго абавязкі даручылі яшчэ аднаму першакласніку Стэфану Ваноўскаму (вёў заняткі і ў наступным годзе). У 1766 г. падобная місія была ўскладзеная на вучня першага класа Уладыслава Курнатоўскага, а праз год – на Міхала Галу. У 1768–1770 гг. "вучань прымы" Стэфан Колыша зноў-такі адказваў за малодшы клас. Яго ж наяўнасць у спісах старэйшага класа ажно 3 гады сведчыла аб тым, што з нагоды выканання абавязкаў настаўніка падлетка проста не выключалі з адпаведных дакументаў. Толькі ў 1771 г. на змену яму прызначылі Багуслава Мараўскага, праз год –

[1] *Ibidem*, F. 40–103, k. 232v.; F. 40–715, k. 109v.
[2] *Ibidem*, F. 40–90/1, k. 83, 105, 135, 203–204.
[3] *Ibidem*, F. 40–90/2, k. 48, 50, 164; F. 40–456, k. 103–103v.

Іосіфа Рачыньскага, а ў 1773 г. – Феафіла Кюна (усе яны таксама былі запісаны выхаванцамі першага класа)[1].

Пры гэтым на Сінодах 1694 г. у Беліцы, 1695 г. у Заблудаве, 1696 г. у Кейданах і 1697 г. у Беліцы адзначалася пэўнае пагаршэнне якасці выкладання – рэктарам загадвалася ўзмацніць дысцыпліну і нагляд за падрыхтоўкай да заняткаў настаўнікаў, якія "не заўсёды адпавядаюць сваім пасадам"[2]. На Сінодах жа 1749 г. у Беліцы і 1773 г. у Жупранах было вырашана аднавіць практыку "візітацыі школ з мэтай падтрымання там добрага парадку"[3]. Часам члены Сіноду прымалі афіцыйныя пастановы-звароты да канкрэтных настаўнікаў з патрабаваннем больш сумленнага стаўлення да сваёй працы – у 1762 г., напрыклад, падобны ліст быў адпраўлены дацэнту Яну Піенткоўскаму ў Заблудаў, бо на яго дзейнасць паступалі шматлікія скаргі ад бацькоў выхаванцаў[4].

Разам з тым далёка не заўсёды азначаныя намаганні Сінода прыносілі плён, што прымушала яго ў асобных выпадках прымаць і крайнія меры. Характэрны тут лёс Міхала Гангіда, які паходзіў са збяднелай сям'і, але з дзяцінства выяўляў схільнасці да вучобы. Напрыканцы XVII ст. ён быў залічаны ў алюмнат пры Слуцкай кальвінскай школе, а потым адпраўлены на стажыроўку ў Кёнігсберг (1703–1708) ды Галандыю (1708–1712). Пасля вяртання яго адразу ж прызначылі рэктарам у Кейданы. Там, аднак, М. Гангід вызначыўся толькі ва злоўжываннямі гарэлкі, піва ды тытуню, а таму ўжо праз паўгода быў пераведзены на пасаду канрэктара ў Слуцк – пад нагляд мясцовых сеньёра ды рэктара. Гэты ўчынак Сінода надзвычай моцна яго пакрыўдзіў – малады чалавек катэгарычна адмовіўся выкладаць у школе і сышоўся з тутэйшымі езуітамі. У далейшым ён неаднаразова зрываў набажэнства ў зборах, спрабаваў умешвацца ў пасяджэнні Сінодаў і нават публічна абвінавачваў айчынных кальвіністаў у дзяржаўнай здрадзе – даказваў, што адпраўлены ў Заходнюю Еўропу "за міластынёй" Багуслаў Капіевіч (1718) насамрэч вёў перамовы наконт "здачы каралеўства замежнай арміі". Відавочна, што падобныя паводзіны М. Гангіда актыўна выкарыстоўваліся праціўнікамі пратэстантаў у Рэчы Паспалітай, тым больш, што атрыманая гэтым чалавекам выдатная адукацыя, дазваляла яму "аргументавана" крытыкаваць не толькі дзейнасць Сінода ды асобных сеньёраў, але і кальвінскую сістэму адукацыі[5].

На жаль, азначаны прыклад быў не адзіным. На Сінодзе 1753 г. у Беліцы было вырашана забараніць казаць пропаведзі і вучыць у Койданаўскай школе Яну Прагульбіцкаму, бо ён, "нягледзячы на папярэджанні дэградаваў да апошняга". На наступным Сінодзе ў Жупранах 1754 г. справа гэтага дацэнта з Койданава разглядалася зноў. Было вы-

[1] *Ibidem,* F. 40–148, k. 138v–140v, 141–144v, 145–146v.
[2] *Ibidem,* F. 40–125, k. 216v., 227, 233, 240v.
[3] *Ibidem,* F. 40–90/2, k. 170; F. 40–103, k. 369.
[4] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 311.
[5] J. Łukaszewicz, *Dzieje kościołów...*, t. 2, Poznań 1843, s. 173–177.

рашана прымусіць яго сплаціць свае даўгі (70 тынфаў даў кансеньёр беларускі) і “дазволіць далей ісці ўласным шляхам… а яго лёс павінен стаць для іншых перасцярогай”[1]. У сваю чаргу на Сінодзе 1768 г. у Вільні разглядалася справа канрэктара Слуцкай гімназіі Аляксандра Нолкіена, які зрабіў шмат даўгоў – было вырашана стварыць спецыяльную камісію ў складзе падчашыя чарнігаўскага Зарэмбы, стольніка навагрудскага Ежы Воўка, маёра Самуэля Воўка і капітана Крыштафа Глінскага, якая на месцы разабралася б у справе і пры неабходнасці прадала частку маёмасці настаўніка і ўтрымала яго зарплату за неабходны для пагашэння пазыкі перыяд[2].

Былі, відавочна і супрацьлеглыя выпадкі. У 1773 г. Сінод у Жупранах абвесціў падзяку рэктару Слуцкай гімназіі Тамашу Граткоўскаму за стараннасць і клопаты “аб яе далейшым развіцці”[3]. Адметнае рашэнне было прынятае ў 1760 г. Сінодам у Біржах, які вырашыў, што неабходна аддзячыць тым асобам, якія на працягу шматлікіх гадоў працавалі настаўнікамі ў школах – ім была абяцана пенсія ці “прыбытковая плебанія”. Разам з тым дадзеная пастанова не атрымала абавязковага для выканання статусу, а мела характар рэкамендацыі да кіраўніцтва дыстрыктаў, а таму, як бачна з вышэй прыведзеных прыкладаў “несумленных” паводзін некаторых настаўнікаў не спыніла справу злоўжывання імі сваім службовым становішчам[4].

Асобна трэба спыніцца і на працы пры кальвінскіх школах алюмнатаў для беднай моладзі. Яны працягвалі сваю дзейнасць адпаведна сінадальным рашэнням 1625 г. і ўнутранаму распарадку Андрэя Дабжанскага 1628 г. Наглядалі за імі спецыяльна прызначаныя інспектар ды аканом, але ўсе рашэнні наконт тутэйшых выхаванцаў прымаў мясцовы рэктар[5]. Дыскусійным пытаннем у іх працы было вызначэнне мінімальнага ўзросту для юнакоў, якія паступалі сюды. Яшчэ ў 1667 г. Сінодам ён быў вызначаны ў 14 ці 15 год. Таксама ў гэтай пастанове асобна агаворвалася неабходнасць добрага ведання імі лацінскай граматыкі[6]. Аднак на практыцы першую з азначаных умоў рэгулярна абыходзілі і ў 1692 г. Сінод быў вымушаны зменшыць узроставы цэнз да 12 год[7]. Пры гэтым пры залічэнні ў алюмнаты іх выхаванцы абяцалі не толькі старанна ставіцца да вучобы, але і ў далейшым адправіцца на вучобу за мяжу. Тыповым тут з’яўляецца абавязацельства Уладыслава Бохвіца (1722), дзе было запісана наступнае: “Я, у Слуцкім алюмнаце коштам зборавым 7 год буду вучыцца і прадэманструю поспехі ў навуках вызваленых… ва ўзросце 20 год з гэтага алюмнату адпраўлюся ў чу-

[1] LMAB, F. 40–90/1, k. 52, 67, 76.
[2] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 59.
[3] *Ibidem,* F. 40–90/2, k. 190.
[4] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 261.
[5] *Ibidem,* F. 40–148, k. 163–164.
[6] *Ibidem,* F. 40–0, k. 89.
[7] LNMMB, F. 93–20, k. 288.

жыя краі... па вяртанню нямала буду служыць пры зборы ці ў школе ажно да смерці маёй верна...". У 1723 г. аналагічныя распіскі далі К. Долнар і Ян Газлер – у іх, праўда, знаходжанне ў Слуцкім алюмнаце было вызначана ім у 2 ды 4 гады, а ў замежную стажыроўку падлеткі абяцалі з'ехаць у 20- і 19-цігадовым узросце адпаведна[1].

За мяжу адпраўляліся далёка не ўсе з алюмнаў. На Сінодзе 1691 г. у Кейданах навагрудскі сеньёр Крыштаф Тжэбіцкі ўзняў пытанне аб непаспяховасці шэрагу слуцкіх алюмнаў, якія "дарэмна час і сродкі касцёла Божага трацяць". Было вырашана сур'ёзна аднесціся да іх у час экзаменаў і калі хтосьці не справіцца з заданнем – адлічыць ды набраць больш таленавітых са спіса кандыдатаў на стыпендыю (нават быў названы першы прэтэндэнт – вучань 2-га класа Самуіл Віламовіч)[2]. Таксама разглядалася пытанне аб узмацненні патрабаванняў да выхаванцаў на Сінодзе 1724 г. у Заблудаве[3]. Адначасова з гэтым лепшых з выпускнікоў алюмнатаў "узнагароджвалі" адразу ж пасля завяршэння вучобы рознымі духоўнымі званнямі. У 1753 г., напрыклад, навагрудскі сеньёр прызначыў чатырох слуцкіх алюмнаў лектарамі (Іосіфа Газлера, Тамаша Граткоўскага, Міхала Паўловіча і Андрэя Жарнаўца), двух – д'яканамі (А. Бажымоўскага і Карла Ваноўскага), а аднаго – міністрам (Веніяміна Бажымоўскага), пасля чаго яны ўжо адправіліся ў замежную стажыроўку (пабыўшы на сваіх новых пасадах ад некалькі месяцаў да года)[4].

Афіцыйна ў алюмнаце Слуцкай гімназіі дазвалялася ўтрымліваць 20 выхаванцаў. Разам з тым адсутнасць адпаведнай колькасці стыпендый, а таксама заможных юнакоў, згодных аплачваць сваё тутэйшае знаходжанне, рабіла іх агульную колькасць меншай. Так, у 1739 г. тут было 14 алюмнаў, з якіх 3 вучылася за кошт кн. Радзівілаў, 3 – за прыбыткі з фундушаў самога алюмната, 1 – на стыпендыі Сінода, 2 – стыпендыі пані Шымкавічовай, 1 – пані Дамаслаўскай, 1 – С. Гюнтэра, 1 – С. Мяліцкага, 1 – пані старасціны векшнянскай Галынскай, а Станіслаў Беняшэўскі сам аплачваў сваё знаходжанне тут (120 фларынаў штогод)[5]. У далейшым сітуацыя ў Слуцкім алюмнаце змянілася мала: у 1747 г. у ім было 14 вучняў, 1755 г. – 17, 1758 г. – 14 і г. д.[6].

З канца 1730-х гг. у актах Сінодаў пачынаюць фіксавацца алюмны і пры Заблудаўскай школе, дзе на прыватныя ахвяраванні вучылася моладзь з Падляшскага дыстрыкту. Колькасць стыпендый тут спачатку абмяжоўвалася 3, але з 1750-х гг. узрасла да 4[7]. Пры гэтым часам на адну з іх не прымалі выхаванца, а сродкі са згоды Сінода ішлі на іншыя справы (у 1749 г. на рамонт школьнага будынка)[8].

---

[1] LMAB, F. 40–546, k. 172, 174, 176.
[2] *Ibidem,* F. 40–125, k. 199.
[3] *Ibidem,* F. 40–715, k. 65.
[4] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 49.
[5] *Ibidem,* F. 40–715, k. 122–122v.
[6] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 97, 205; F. 40–103, k. 359.
[7] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 17, 40, 61, 85, 97, 157, 205, 225, 266, 357; F. 40–103, k. 350v–351; F. 40–715, k. 122, 134v.
[8] *Ibidem,* F. 40–103, k. 371.

У 1745 г. алюмны з'явіліся таксама ў Койданаве. Першым тут стаў К. Гізберт, які вучыўся на сродкі старосты дудскага Тамаша Марцыяна Грабоўскага[1]. У пачатку 1750-х гг. са Слуцка сюды быў пераведзены фундуш пані Шымкавічовай, які дазваляў утрымліваць штогод 2 алюмнаў са стыпендыяй па 120 зл.[2]. У далейшым іх колькасць часам узрастала да 4 з прычыны паступлення дадатковых сродкаў з Копысі (1756), Жупран (1760), Слуцку (1760), а таксама прыватных ахвяраванняў (1756, оберлейтэнант Глінскі)[3]. Некаторым з алюмнаў ставіліся асобныя ўмовы. Так, з Б. Латвейзенам у 1770 г. была дасягнута дамоўленасць, што ён застанецца ў алюмнаце (ужо вучыўся тут 2 гады) пры згодзе дадаткова вучыцца граць на аргане-пазітыве (пераносны інструмент для ўжытку ў тым ліку і ў хатніх умовах) і далейшым выкананні абавязкаў арганіста (з 1778 г. працаваў у Койданаўскай школе дацэнтам і арганістам)[4]. Лепшыя ж з мясцовых алюмнаў на завяршальнай стадыі навучання пераводзіліся ў Слуцк. Іеранім Курнатоўскі, напрыклад, вучыўся тут з 1747 г., а ў 1750–1751 гг. згадваецца ўжо ў старэйшым класе Слуцкай гімназіі[5]. Падобнае адбылося таксама з Рыгорам Аколавым у 1752 г. і Багуславам Дыякевічам у 1754 г., якія са сваімі стыпендыямі (у 120 і 100 фларынаў адпаведна) пераехалі ў Слуцкі алюмнат[6].

Апрача Слуцка алюмнаты пры іншых айчынных кальвінскіх школах існавалі хутчэй умоўна – магчымасці выдзялення для іх выхаванцаў агульнага памяшкання для пражывання з правядзеннем дадатковых заняткаў у большасці месцаў не існавала, а таму ім проста выдавалася стыпендыя, на якую тыя здымалі пакой у мясцовых жыхароў ды набывалі сабе неабходныя вучэбныя прылады. Сінод, аднак, мог аплачваць дадаткова іх харчаванне, але такія выпадкі ў яго актах зафіксаваны толькі ў дачыненні да Койданава. У 1761 г. "стол для алюмнаў" за 50 зл. штогод тут трымала Сафія Вальтэр, якая разам з мужам Адамам (сам быў алюмнам гэтай школы ў 1755–1756 гг.) жыла паблізу збору[7]. У 1769–1773 гг. гэты абавязак выконвала Крыстына Рачыньская з роду Лабоўскіх, якая атрымлівала ад Сіноду 80 зл. штогод[8]. Прычына апошняга хавалася ў адносна невялікім памеры фінансавання тутэйшых алюмнаў (шэраг стыпендый складала ўсяго 80 зл.), аб якіх уладам даводзілася ўвесь час клапаціцца. Так, у 1758 г. мясцовым выхаванцам С. Цэханскаму і К. Хадароўскаму нават было абяцана "пры адкрыцці вакансій даць лепшае ўтрыманне"[9].

[1] *Ibidem,* F. 40–103, k. 343.
[2] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 17, 39, 97.
[3] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 156; F. 40–456, k. 73, 78.
[4] *Ibidem,* F. 40–90/2, k. 102, 357, 393, 486.
[5] *Ibidem,* F. 40–456, k. 33.
[6] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 39, 86.
[7] *Ibidem,* F. 40–456, k. 79v.
[8] *Ibidem,* F. 40–90/2, k. 90, 180.
[9] *Ibidem,* F. 40–90/1, k. 205.

Выключным можна лічыць рашэнне сесіі Беларускага дыстрыкту 1757 г. наконт таго, што вучні Койданаўскай школы павінны на заняткі хадзіць "з воскам і на табліцы пісаць"[1]. Неабходна адзначыць, што дадзены варыянт пісьма ў вучэбнай практыцы быў больш характэрны для Сярэднявечча. На тэрыторыі Польшчы яго актыўна ўжывалі да XVI ст. школы ды гарадскія ўлады Торуня, Пазнані, Гданьску і Эльблонгу (на тэрыторыі Беларусі кавалак воскавай таблічкі знойдзены ў Брэсце ў культурным слоі пачатку XIII ст.). Відавочна, што для адукацыйнай справы XVIII ст. гэта быў яўны анахранізм (выкліканы вострым недахопам сродкаў), які ў Заходняй Еўропы ацалеў на той час толькі ў шэрагу спецыфічных сфер дзейнасці (саляныя промыслы ў Германіі, рыбныя рынкі ў Францыі і г. д.)[2]. Пэўны недахоп сродкаў адчувала нават Слуцкая гімназіі. На пастаянным утрыманні ад Сінода тут знаходзіліся толькі рэктар ды настаўнікі. Дапамагаць ім згодна статуту 1629 г. павінны былі наглядчыкі ці выхавальнікі ("кустодыі"), але іх функцыі пераважна выконвалі "на грамадскіх пачатках" старшакласнікі[3].

Стварэнне Торуньскай і Барскай канфедэрацый у 1767 г., здавалася, дала айчынным кальвіністам надзею на хуткае вяртанне ім ранейшых правоў ды ўплыву. Згодна *Вечнаму трактату* 13 (24) лютага 1768 г. гарантавалася "вольное исповедание веры Греческой восточной несоединённой и Диссидентских обоего Евангелического исповедания". У ім адзначалася, што належныя пратэстантам зборы і школы пры іх "за сущие навсегда признаются с совершенною вольностию починять оные столь часто, сколько нужда потребует; в случае же обветшания, или пожара… вновь строить, не ища от верховности духовной Римской на то позволения". Даваўся тут дазвол і на ўзвядзенне новых рэлігійна-асветных цэнтраў: "В вотчинах земских и духовных с позволением письменным помещика строить церкви и оратории со школами"[4]. Але наступныя падзеі прадэманстравалі марнасць падобных спадзяванняў. Так, вынікам пачатку баявых дзеянняў, звязаных з Барскай канфедэрацыяй, стала новае спусташэнне шэрагу належных ім збораў ды школ. Сінод 1771 г. у Асташыне канстатаваў поўны заняпад "па прычыне сучаснага ў краі замяшання" Заблудава, дзе "няма ні святара, ні студэнтаў". У выніку было вырашана тых з мясцовых выхаванцаў, якія мелі нейкія "бенефіцыі" (стыпендыі) ад сваіх бацькоў ці сваякоў, перавесці ў іншыя школы "ажно да заспакаення ў Айчыне" (заробак заблудаўскага рэктара некранутым заставаўся ў мясцовай касе). А менавіта ў Койданава адпраўляліся Я. Гала, С. Арамовіч і Т. Капыц-

---

[1] *Ibidem,* F. 40–456, k. 66.

[2] А.І. Г р у ш а, *Беларуская кірылічная палеаграфія*, Мінск 2006, с. 40–42; K. G ó r s k i, W. S z c z u c z k o, *Tabliczki woskowe miasta Torunia ok. 1350 – I poł. XVI w.*, Poznań, Warszawa 1980, s. IX–XII.

[3] И.А. Г л е б о в, *Историческая записка*…, с. 9.

[4] *Полное Собрание Законов Российской Империи: Собрание первое: С 1649 по 12 декабря 1825 года*, т. 18: 1767–1769, СПб. 1830, с. 450, 454.

кі, а ў Слуцк – Карл Стрыенскі (быў залічаны ў першы клас), Грашніковіч ды Латышэўскі[1].

Такім чынам, напярэдадні ўтварэння Адукацыйнай камісіі патрэбы кальвінскіх абшчын у Беларусі забяспечвалі толькі гімназія ў Слуцку і школа ў Койданаве. Гэта не ідзе ў аніякае параўнанне з сітуацыяй, якая склалася на тэрыторыі Літвы. Тамтэйшым цэнтрам кальвінскай асветы яшчэ з 1630-х гг. з'яўлялася гімназія ў Кейданах (Жамойць). Таксама ў разглядаемы перыяд дзейнічалі школы ў Кельмах (Крожскі павет), Попеле (Вількамірскі павет), Сярэях (Троцкі павет), Біржах, Новым месце і Швабішках (усе ва Ўпіцкім павеце). Прычына гэтага хавалася ў значнай колькасці мясцовых кальвіністаў (як сялян, так і заможнай шляхты), што і служыла для Сінода асноўным аргументам пры размеркаванні фінансавання[2]. Неабходна ўлічваць тое, што беларускія і літоўскія кальвінскія навучальныя ўстановы складалі агульную адукацыйную сістэму, у межах якой рэгулярна перамяшчалася вучылішчнае кіраўніцтва, настаўнікі, а часам і выхаванцы. Для ўсіх іх абавязковым быў *Парадак школьны 1629 г.*, а таму вучэбныя праграмы і падручнікі тут таксама былі аднолькавымі[3].

Аб ўзроўні ж адукацыі ў азначаны перыяд жанчын кальвінскага веравызнання сведчыць пастанова сесіі Беларускага дыстрыкту 1740 г., наконт Койданаўскага збору і хворых ды састарэлых асоб, што жылі пры тутэйшым шпіталі: "Па прычыне таго, што не ўсе Бабкі ўмеюць чытаць, павінны астатнія дакладна вымаўляць *Песні і Псалмы*"[4]. Згодна з меркаваннем польскага даследчыка Войцеха Крыгсайзэна, сярод тых, хто атрымліваў падобную дабрачынную дапамогу, пераважалі шляхцянкі-ўдовы сталага ўзросту[5].

Таксама неабходна адзначыць і спробу стварэння школы-прытулку для 12 збяднелых дзяўчат з пратэстанцкіх сям'яў ВКЛ, прынятую жонкай кашталяна навагрудскага Антонія Аскеркі – Ганны з роду Грабоўскіх у 1729 г. Выдзелены ёй для гэтай мэты фундуш быў у наступным годзе пацверджаны чашнікам ашмянскім Тамашам Воланам. На жаль, далейшы яго лёс не вядомы – у лепшым выпадку азначаныя сродкі маглі выдзяляцца на ўтрыманне асобных жанчын у шпіталях пры зборах, але гаворка аб арганізацыі для іх нейкіх вучэбных заняткаў больш не ішла[6].

Падводзячы ж агульную выснову, трэба адзначыць што нягледзячы на наяўнасць у Беларусі ў даследуемы час усяго некалькіх Кальвін-

[1] LMAB, F. 40–90/2, k. 138.

[2] LNMMB, F. 93–2020, k. 1–2, 15–17, 20–22.

[3] S. T w o r e k, *Programy nauczania i prawa gimnazjum kalwińskiego w Kiejdanach z lat 1629 i 1685*, "Odrodzenie i Reformacja w Polsce" 1970, t. 15, s. 229.

[4] *Ibidem,* F. 40–456, k. 15.

[5] W. K r i e g s e i s e n, *Charity or Social Welfare? Social Assistance in The Reformed Church's Community of the Grand Duchy of Lithuania in the 18th Century*, "Acta Poloniae Historica" 2003, t. 87, p. 73.

[6] LMAB, F. 40–103, k. 236.

скіх навучальных устаноў, яны выконвалі важную ролю ў забеспячэнні пастарскімі ды настаўніцкімі кадрамі мясцовых духоўна-асветных асяродкаў гэтай канфесіі, дазвалялі айчыннай пратэстанцкай моладзі захоўваць уласную рэлігійную самаідэнтыфікацыю. Гэта было надзвычай актуальна пры агульным негатыўным стаўленні каталіцка-уніяцкай большасці насельніцтва да "дысідэнтаў". Неабходна асобна вылучыць і ролю Сінода Ядноты Літоўскай, які прыклаў шмат намаганняў для захавання кальвіністаў на адукацыйным "полі" ВКЛ. Менавіта цэнтралізаванае кіраванне школамі з рацыянальным размеркаваннем чалавечых і матэрыяльных рэсурсаў зрабіла ацалелыя кальвінскія гімназіі ды школы не толькі жыццяздольнымі, але і карыснымі для адзінаверцаў. Якраз дадзеныя навучальныя ўстановы яшчэ да пачатку школьных рэформ піяраў ва ўласных праграмах ужывалі перадавыя па тых часах педагагічныя методыкі і падыходы – узамен латыні ды рыторыкі аддавалі перавагу матэматыцы, айчыннай гісторыі, правазнаўству, польскай і сучасным замежным мовам, якія выкладаліся тут праз прызму магчымасці выкарыстання атрыманых ведаў у паўсядзённым жыцці і мелі падкрэслены грамадзянска-патрыятычны змест.

*Andrej Samusik*

**Calvinist school in Belarus at the end of XVII – in the third quarter XVIII century**

A b s t r a c t

The article is devoted to the problem of the activity of Calvinistic educational institutions in Belarus from the end of the XVII until the third quarter of the XVIII century, a period which has not been thoroughly studied in historical science as of yet. The following aspects were analyzed: the history of individual schools and the reasons for the closure of some of them; Synod's educational activities; filling of staff positions; the functioning of aluminates; women's level of education. It is noted that the events of the late 1760s only worsened the position of individual Calvinist educational centers. The most important achievements of Protestants in the field of education were: full independence in the field of education from schools of other faiths; the creation of a centralized school management system; pedagogical innovations in the spirit of the Enlightenment; practice-oriented organization of the educational process; underlined civil patriotic undertones of training.

Том 19 • 2019 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Вольга Палунчанка**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў
polunchenkoolga@yandex.by

# Бібліятэкі адукацыйных установаў Нясвіжа ў апошняй чвэрці XVIII ст.

У апошнюю чвэрць XVIII ст. назіраецца аслабленне ўплыву каталіцкага касцёла на сацыяльнае, інтэлектуальнае і культурнае жыццё Нясвіжа. Скасаванне ордэна езуітаў булай *Dominusas Redemptornoster* папы Клімента XIV 21 ліпеня 1773 г. і стварэнне Адукацыйнае камісіі Рэчы Паспалітае 14 кастрычніка 1773 г. прывяло да рэфармавання сістэмы адукацыі[1] і рэарганізацыі дзейнасці бібліятэк навучальных установаў. Згодна з першым падзелам на дэпартаменты ад 22 чэрвеня 1774 г., Нясвіжскія павятовыя школы належалі да падакруговых школ Наваградскай акругі Літоўскае правінцыі[2].

У дадзеным артыкуле мы паспрабуем раскрыць ролю Адукацыйнае камісіі ў арганізацыі і рэгуляванні дзейнасці бібліятэк адукацыйных установаў Нясвіжа XVIII ст.; рэарганізацыі, камплектаванні і ўпарадкаванні бібліятэчнага фонду; акрэсліць кола пытанняў, якія патрабуюць глыбокага даследавання і ўдакладнення. Актуальнасць і навізна дадзенага даследавання тлумачыцца нераспрацаванасцю гэтага пытання і значнасцю акрэсленага перыяду ў вывучэнні гісторыі Бібліятэчнай справы Беларусі, а таксама ролі бібліятэк у асветніцкім і выхаваўчых працэсах XVIII ст.

Беларуская гістарыяграфія па пытаннях арганізацыі і развіцця адукацыі дадзенага перыяду – гэта дысертацыйныя даследаванні і навуковыя артыкулы агульнага характару[3], польская – датычыць разнастайных звестак пра дзейнасць Адукацыйнае камісіі ў 1773–1794 гг.,

---

[1] *Ustawodawstwo szkolne za czasów Komisji Edukacji Narodowej: rozporządzenia, ustawy pedagogoczne i organizacyjne (1773–1793)*, oprac. J. Lewicki, Kraków 1925, s. LV.

[2] *Ibidem*, s. LIV.

[3] В. А н і п я р к о ў, *Школа ў кантэксце рэфармавання дзяржавы*: *На прыкладзе дзейнасці Камісіі Нацыянальнай Адукацыі Рэчы Паспалітай: 1773–1794 гг.*, "Адукацыя і выхаванне" 2001, № 1, с. 69–71; В. Б о л б а с, *Першае ў Еўропе,* „Народная асвета" 1998, № 10, с. 148–157; А. Л а в р о в и ч, *Развитие теории и практики школьного дела Беларуси в эпоху Просвещения (1772–1832 гг.),* Минск 1998; А. С а м у с і к, *Развіццё сістэмы асветы на беларускіх землях у сямідзесятых гадах XVIII – трыццатых гадах XIX стагоддзяў,* Мінск 1998.

функцыянальнасць выхаваўчае мадэлі на тэрыторыі Польскае Кароны і ВКЛ, пра ролю логікі і натуральных навук у развіцці асобы[1]. У гісторыі бібліятэчнае справы Нясвіжа найбольшую ўвагу навукоўцаў з Расеі, Польшчы і Беларусі прыцягвае кнігазбор Радзівілаў[2]. Крыніцазнаўчай падставай для даследаванняў з'яўляюцца падрыхтаваныя супрацоўнікамі бібліятэк каталогі кніжных калекцый Радзівілаў: у Расіі (Вольга Гусева, Алена Камісарава) і Беларусі (Аляксандр Сцефановіч, Марына Ліс)[3], а таксама – гістарычныя кнігазборы, дзе найгрунтоўнейшай крыніцаю з'яўляецца праца польскай даследчыцы Уршулі Пашкевіч[4]. Слаба распрацаваным ці наогул не раскрытым кірункам з'яўляецца гісторыя бібліятэк навучальных установаў Нясвіжа XVIII ст. Адзінкавыя спецыяльныя артыкулы, прысвечаныя багатым кніжным зборам, сабраным дамініканамі, апублікаваў Юры Лаўрык[5]. Аднак асноўныя крыніцы па арганізацыі і рэгуляванні бібліятэчнае справы апошняе чвэрці XVIII ст., якімі з'яўляюцца нарматыўна-праўныя і справаздачныя матэрыялы Адукацыйнае камісіі, засталіся па-за ўвагай даследчыкаў, нягледзячы на тое, што на ролю Адукацыйнае камісіі ў распрацоўцы пытанняў бібліятэчна-бібліяграфічнай дзейнасці звяртала ўвагу прафесар Валянціна Саітава[6].

---

[1] *Komisja Edukacji Narodowej*,red. E. Podgórska, Łódź 1972, s. 1–31, 87–98, 111–125; J. K o ł o d z i e j c z y k, *Nauki przyrodnicze w działalności Komisji Edukacji Narodowej (1775–1794),* Warszawa 1936; S. K o t, *Historja wychowania*, wyd. 2-e, zmienione i pomnożone, t. 2, Lwów 1934; S. K o t, *Komisja Edukacji Narodowej: 1773–1794,* Kraków 1923; Ł. K u r d y b a c h a, M. M i t e r a - D o b r o w o l s k a, *Komisja Edukacji Narodowej,* Warszawa 1973; K. M r o z o w s k a, *Komisja Edukacji Narodowej 1773–1794,* Warszawa 1973; T. W i e r z b o w s k i, *Szkoły parafialne w Polsce i na Litwie za czasów Komisji Edukacji Narodowej 1773–1794,* Kraków 1921.

[2] Н. Б е р е з к и н а, *Библиотеки и распространение научных знаний в Беларуси: XVI–XX вв.,* Минск 2011; *Гісторыя беларускай кнігі ў 2 тамах*, т. 1: *Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага*, рэд. М. Нікалаеў, Мінск 2009, с. 245–252; *Badania księgozbiorów Radziwiłłów: Materiały Międzynarodowej sesji*, Warszawa 1995.

[3] О. Г у с е в а, *Собрание польских старопечатных книг в Славянском фонде БАН*, вып. 1: *Несвижская ординатская библиотека Радзивиллов*, вып. 2: *Несвижская ординатская библиотека Радзивиллов: реконструкция по архивным источникам*, 2-е изд., испр. и доп., Санкт-Петербург 2005; Е. К о м и с с а р о в а, *Белорусский сборник*, вып. 4, Санкт-Петербург, 2008, с. 176–181; А. С т е ф а н о в и ч, М. Лис, *Библиотека Радзивиллов Несвижской ординации = Library of the Radziwills' of Nesvizh ordynation: каталог изданий из фонда Центральной научной библиотеки им. Я. Коласа НАН Беларуси: XVIII век*: в 4 кн., кн. 1: *1701–1750*, кн. 2: *1751–1770*, Кн. 3: *1771–1785*; кн. 4: *1786–1800*, Минск, 2013–2015.

[4] U. P a s z k i e w i c z, *Cathalogus cathalogorum: inwentarze i katalogi bibliotek z ziem wschodnich Rzeczypospolitej od XVI wieku do 1939 roku: spis scalony, poprawiony i uzupełniony,* t. 1–2, Warszawa 2015.

[5] Ю. Л а ў р ы к, *Бібліятэка дамініканскага канвента ў Нясвіжы,* "Наша вера" 2018, № 1, с. 34–37; Ю. Л а ў р ы к, *Бібліятэка нясвіжскіх дамініканаў напрыканцы XVIII ст.* [у:] *Материалы Международного конгресса "Библиотека как феномен культуры"*, Минск 2013, с. 153–161.

[6] В. С а і т а в а, В. Л я в о н ч ы к а ў, Т. К у з ь м і н і ч, *Бібліяграфазнаўства. Гісторыя*, Мінск 2017, с. 55–57.

Рэгуляванне адукацыйнага працэсу і пытанняў, звязаных з арганізацыяй бібліятэчных фондаў і падрыхтоўкай навучальнае літаратуры, ажыццяўлялася шэрагам распараджэнняў і нарматыўна-праўных дакументаў Сойма і Адукацыйнае камісіі, у ліку якіх – законы, універсалы, інструкцыі, лісты, наказы і рэзалюцыі. Справаздачныя дакументы пра выкананне навучальнымі ўстановамі пастаўленых задач – гэта рапарты інспектараў і пратаколы пасяджэнняў. Сярод пытанняў, адлюстраваных у штогадовых рапартах, асаблівая ўвага надавалася наяўнасці і колькасці бібліятэк[1] як найважнейшаму кампаненту навучальнае базы адукацыйных устаноў. Дыдактычная роля бібліятэкі для адукацыі і выхавання была падкрэслена 2 верасня 1774 г. прапановай падканцлера ВКЛ Ёахіма Храптовіча пра распрацоўку мадэлі кніжнага фонду для бібліятэк ваяводскіх і павятовых школ, а 10 лютага 1775 г. была прынята пастанова пра адкрыццё Таварыства кніг для пачатковага навучання (Towarzystwo Ksiąg Elementarnych)[2] дзеля забеспячэння навучальнага працэсу патрэбнай літаратурай.

У адпаведнасці з рашэннем Сойма Рэчы Паспалітае ад 21 кастрычніка 1776 г., у Наваградку пачала дзейнасць правінцыйная адукацыйная каса, у якую сродкі прыходзілі з Генеральнае Варшаўскае касы. З Наваградка ішло далейшае размеркаванне сродкаў паміж павятовымі і парафіяльнымі школамі, але звестак наконт таго, колькі канкрэтна грошай было выдаткавана Нясвіжу і якая з іх частка пайшла на набыццё літаратуры, нам пакуль знайсці не ўдалося. Вядома, што 4 красавіка 1778 г. камісія вызначыла заробак для бібліятэкара памерам 2000 zł і дадаткова 1000 zł для бібліятэкараў, якія займаліся ўпарадкаваннем паезуіцкіх бібліятэк[3].

Паляпшэнню арганізацыі бібліятэчнай справы спрыяў шэраг распрацаваных наказаў для рэктараў, дырэктараў і прэфектаў школ. Наказы абавязвалі рэктараў даручаць кіраванне бібліятэкай аднаму з настаўнікаў, а прэфектаў – садзейнічаць арганізацыі чытання і рэкамендацыі добрых кніг. Яны неслі адказнасць за захаванне і ўпарадкаванне бібліятэчных фондаў, фіксацыю выдадзенай літаратуры і яе зварот па сканчэнні тэрміну карыстання, паданне Адукацыйнай камісіі звестак аб складзе бібліятэчных фондаў і літаратуры, патрэбнай для дакамплектавання[4].

Кантроль над адукацыйнымі ўстановамі ажыццяўлялі інспектары з дапамогай спецыяльна распрацаваных інструкцый і па выніках праверак складалі рапарты. У межах нашага даследавання асабліва карыс-

---

[1] *Decyzja J. Kr. Mci.* [Stanisława Augusta Poniatowskiego] *w straży do Komisji edukacyjnej względem przesyłania raportów, 24 listopada 1791 r.* [w:] *Ustawodawstwo szkolne za czasów Komisji*, Kraków 1925, s. 333–334.

[2] *Protokoły posiedzeń Komisji Edukacji Narodowej 1773–1785*, oprac. M. Mitera-Dobrowolska, Wrocław, 1973, s. 34.

[3] *Ibidem*, s. 102.

[4] *Przepis dla* dyrektorów, 1774 r., *Przepis dla prefekta szkół, Przepis dla rektorów szkół, 1774 r.* [w:] *Ustawodawstwo szkolne za czasów Komisji,* Kraków 1925, s. 47–63.

ымі з'яўляюцца інструкцыі: *Instrukcja do wizyty generalnej*, *Do Szkoły Gł. W. Ks. Litewskiego (1785–1788), Od Rady Szkoły Gł. W. Ks. Lit. Generalnym szkół litewskich wizytatorom (1785, 1787–1790),* а таксама асобныя інструкцыі для візітатараў Нясвіжа.

Пачатак дзейнасці Адукацыйнае камісіі ў Нясвіжы для бібліятэк навучальных устаноў характарызуецца, у першую чаргу, рэарганізацыяй кніжных фондаў бібліятэк езуіцкага калегіума і дома трэцяй прабацыі і навіцыяту, якія разам з маёмасцю езуітаў перайшлі да Адукацыйнае камісіі. Дакладныя звесткі пра бібліятэкі і склад кніжных фондаў змяшчаюць Люстрацыі гэтых устаноў, складзеныя ў 1774, 1784 і 1786 гг.[1], якія захоўваюцца ў архівах Польшчы, Літвы, Расеі і патрабуюць глыбокага вывучэння, аб'ектыўнага колькаснага і якаснага аналізу праз параўнанне звестак аб кожным асобна ўзятым дакуменце.

Асновай бібліятэкі з'яўляецца кніжны фонд, а ўпарадкаванне і якасць яго складу – галоўныя фактары забеспячэння навучальнага працэсу. З самага пачатку Адукацыйная камісія ажыццяўляла пастаянны кантроль за станам бібліятэк і працэсам складання каталогаў, падання спісаў патрэбнай для дакамплектавання літаратуры, пра што сведчаць інструкцыі ад 20 чэрвеня 1774 г. (пункт 13) і 30 мая 1777 г. (пункт 7)[2]. Згодна з пунктамі 10, 11, 14 *Інструкцыі генеральнага візіту* 1783 г., рапарт павінен быў змяшчаць заўвагі і звесткі пра забеспячэнне літаратурай павятовых і парафіяльных школ. Дзейнасць інспектараў была скіравана на забеспячэнне парафіяльных школ кнігамі, матывацыю да складання інвентароў кніжных фондаў, без дадатковых выдаткаў ад камісіі, дзеля якаснага і мэтанакіраванага камплектавання[3].

Інспектарамі адукацыйных устаноў Нясвіжа ў 1782–1784 гг. былі Францішак Бянькоўскі[4], Давід Піхоўскі[5] і Уладзіслаў Таўткевіч[6]. Ф. Бянькоўскаму, у адпаведнасці з 7-м пунктам інструкцыі, было даручана "zwiedzić także stancje nauczycielów, da oko na ich bibliotekę, będzie usiłował wziąć im gust i wybór w księgach"[7]. Аналіз зместу інструкцыі,

---

[1] Гл.: *Нясвіжскія зборы Радзівілаў: Іх фарміраванне, гістарычны лёс, цяперашняе месцазнаходжанне і шляхі выкарыстання: Зборнік,* Мінск 2002, с. 157.

[2] Гл.: *Instrukcja dla wizytatorów: Warszawa, 20 czerwca 1774 r., Instrukcja wyznaczonym do wizytowania szkół, 30 maja 1777 r.* [w:] *Ustawodawstwo szkolne za czasów Komisji,* Kraków 1925, s. 14, 138–144.

[3] *Protokoły posiedzeń*, oprac. M. Mitera-Dobrowolska, Wrocław 1973, s. 242.

[4] *Instrukcja dla wizytatorów [5.04.1782]* [w:] *Instrukcje dla wizytatorów generalnych szkół Komisji Edukacji Narodowej, 1774–1794*, oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak, Wrocław 1976, s. 23.

[5] *Protokoły posiedzeń,* oprac. M. Mitera-Dobrowolska, Wrocław 1973, s. 235, 241; *Instrukcja do wizyty generalnej dana j. ks. Pichowskiemu, św. teologii i kanonów doktorowi, prezesowi drukarni J. K. Mci [29.IV.1783]* [w:] *Instrukcje dla wizytatorów*, oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak, Wrocław 1976, s. 30–35.

[6] *Instrukcja do wizyty generalnej dana j. ks. Władysławowi Tautkiewiczowi św. teologii i obojga prawa doktorowi w Kolegium Moralnym Akademii Wileńskiej towarzyszowi [1784], Instrukcje dla wizytatorów,* oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak, Wrocław 1976, s. 46.

[7] *Instrukcja dla wizytatorów, 5 kwietnia 1782 r.* [w:] *Ustawodawstwo szkolne za czasów Komisji,* Kraków 1925, s. 168–170.

распрацаванай для Д. Піхоўскага (пункт 21), дае нам падставы сцвярджаць, што на першым месцы для інспектара было вырашэнне праблем звязаных з матэрыяльным забеспячэннем Нясвіжскае павятовае школы, рамонтам і абсталяваннем паезуіцкіх будынкаў, а не з упарадкаваннем кніжнага фонду[1]. Інструкцыя У. Таўткевічу з 1784 г. абавязвала інспектара праверыць выкананне папярэдніх наказаў і рэкамендацый у дачыненні да ўпарадкавання кніжнага фонду, а таксама даслаць адзін са складзеных каталогаў у Галоўную школу. Установы, якія не выканалі папярэдні наказ, павінны былі яго выканаць як мага хутчэй[2].

Адзін з пунктаў Рэзалюцыі 1785 г. акцэнтаваў увагу на праблеме камплектавання бібліятэчных фондаў, выкліканай адсутнасцю каталогаў. Па гэтай прычыне, камісіі было цяжка ўстанавіць, якіх выданняў для кожнай асобна ўзятае бібліятэкі дастаткова, а якіх не хапае. Дадзеная рэзалюцыя, улічваючы шматразовыя папярэднія рэкамендацыі і наказы, абавязвала да хуткага ўпарадкавання фонду і складання каталогаў, з пазбаўленнем заробку да таго часу, пакуль распараджэнне не будзе выканана[3].

Дакладных звестак пра час складання каталога кніжнага фонду Нясвіжскае павятовае школы, які б даваў звесткі пра навучальную літаратуру, пакуль не выяўлена. Падчас ліквідацыі ордэна ў 1773 г., маёмасць нясвіжскіх езуітаў перайшла да Адукацыйнае камісіі, якая на эканамічнай сесіі ў Варшаве 11.02.1786 г. прыняла рашэнне перадаць Каралю Станіславу Радзівілу Свята-Міхальскі касцёл, а бібліятэку і іншыя рэчы езуітаў – калегіуму ў Нясвіжы, рэарганізаванаму ў павятовую школу[4]. Згодна з дакументам, які захоўваецца ў Расейскім дзяржаўным архіве старажытных актаў[5], прарэктар Нясвіжскіх школ ксёндз Адам Шаняўскі даслаў у Адукацыйную камісію рэестр кніг Дому трэцяй прабацыі толькі 30 сакавіка 1786 г. Упершыню ў беларускай гістарыяграфіі гэты факт быў прыведзены ў працы даследчыцы Тамары Блі-

---

[1] *Instrukcja do wizyty generalnej dana j. ks. Pichowskiemu, św. teologii i kanonów doktorowi, prezesowi drukarni J. K. Mci [29.IV.1783]* [w:] *Instrukcje dla wizytatorów,* oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak, Wrocław 1976, s. 34; *Instrukcja służąca j. ks. Pilchowskiemu* [w:] *Protokoły posiedzeń,* oprac. M. Mitera-Dobrowolska, Wrocław 1973, s. 244.

[2] *Instrukcja do wizyty generalnej dana j. ks. Władysławowi Tautkiewiczowi św. teologii i obojga prawa doktorowi w Kolegium Moralnym Akademii Wileńskiej towarzyszowi [1784]* [w:] *Instrukcje dla wizytatorów,* oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak, Wrocław 1976, s. 46.

[3] *Rezolucyje ogólne wizytatorom do wizyty szkół narodowych służyć mające* [w:] *Protokoły posiedzeń,* oprac. M. Mitera-Dobrowolska, Wrocław 1973, s. 360–365.

[4] AGAD, sygn. 408: *Archiwum Radziwiłłów. Dział VIII: Akta t. s. Kasaty Kolegium św. Michalskiego Jezuitom w Nieświeżu, 1774–1786: Kopia Informacyi o Kollegium przeszło jezuickim i Kościoła S[o] Michała za Miastem Nieświeżem, na rozkaz Prześwietney Kommisyi Edukacyi Narodowey do tejże przesłaney z Nieświeża przez s. p. jm. K[a] Szymona Bukowieckiego Prefekta Szkół Nieświeskich. Dnia 9 Augusta. Roku 1777,* k. 11.

[5] РГАДА, ф. 1603, оп. 12, ед. хр. 34: *Reiestr Ksiąg w Kollegium Po-Jezuickim Swięto-Michalskim znalezionych i na rozkaz Prześwietney Kommisyi Edukacyi Narodowey do Kolegium przez Po-jezuickiego Mieyskiego Nieświeskiego przeniosonych, spisany przez J.K. Adama Szaniawskiego Pro-Rektora Szkół Nieświskich, r. 1786, Dnia 30, Miesiąca Marca.*

новай[1]. На нашу думку, пазначэнне ў рапарце ад 16–19 ліпеня 1786 г. „Biblioteka na nowo od j. ks. Prorektora ułożona co do porządku ksiąg, których regestr dokładnie napisany, a kopia onego na ręce wizytatora do Szkoły Głównej oddana"[2] датычыцца згаданага вышэй рэестра. А вытрымка з рапарта ад 14–16 ліпеня 1787 г. „ponieważ księgi nie wszystkie jeszcze w rozdz. VIII art. 27 przepisane są sporządzone, j. ks. prorektor one sporządzić każe"[3] сведчыць пра адсутнасць каталога кніжнага фонду бібліятэкі павятовае школы.

У 1788 г. інспектарамі літоўскіх школ на два гады былі прызначаны Давід Піхоўскі і Ян Эрдман. Асобны (12) пункт інструкцыі акцэнтаваў увагу інспектараў на дагэтуль нявызначанай патрэбе бібліятэк у неабходных для навучання кнігах класічных аўтараў, бо перыяд антычнасці быў прадметам абавязковага вывучэння ў школах. Інспектары павінны былі падаваць у рапартах інфармацыю аб наяўнасці ў школах элементарных кніг і твораў (*выпісаў з твораў*) класічных аўтараў, колькасць вучэбных кніг адпавядае лічбе вучняў ці не, колькі навучальнае літаратуры ў кожным класе было раздадзена бедным вучням[4]. Сярод нясвіжскіх настаўнікаў камісія асабліва адзначала Феліксa Воббэ (3 кл.) і Юзэфа Ламановіча (2 кл.)[5].

Рапарт ад 5–6 ліпеня 1788 г. падкрэслівае размяшчэнне кніжнага фонду згодна з прынятай класіфікацыяй „Wizytowana biblioteka, w której porządny układ ksiąg i ich klasyfikacyjna znaleziona"[6]. Адам Шаняўскі атрымаў ад інспектара падзяку за збор розных выданняў Святога Пісьма і дасланыя звесткі пра збор у Галоўную школу і наказ „ażeby nowy rejestr ksiąg najdujących się w bibliotece wedle wzoru danego lub ułożony i do tejże Szkoły Głównej przesłany"[7]. У сваю чаргу звесткі, пададзеныя ў рапарце ад 17 ліпеня 1789 г. „Biblioteka w porządku swoim zostaje pod dozorem j. ks. prorektora"[8] не інфармуюць па складанне каталога неапісанага дагэтуль фонду.

Адукацыйная камісія апекавалася мэтанакіраваным і адрасным кнігазабеспячэннем школьных бібліятэк патрэбнай літаратурай. Адзін з наказаў інспектара патрабаваў стварэння другога экзэмпляра каталога бібліятэчнага фонду для Галоўнай школы, якая аналізавала каталогі

[1] Т. Б л и н о в а, *Иезуиты в Беларуси: Роль иезуитов в организации образования и просвещения*, Гродно 2002, с. 226.

[2] *Raporty generalnych wizytatorów szkół Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwie Litewskim (1782–1792),* oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak, Wrocław 1979, s. 201.

[3] *Ibidem*, s. 237.

[4] *Do Szkoły Gł. W. Ks. Litewskiego [12.01.1788], Instrukcja od Rady Szkoły Gł. W. Ks. Lit. generalnym szkół litewskich wizytatorom dana roku 1788* [w:] *Instrukcje dla wizytatorów*, oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak, Wrocław 1976, s. 134, 142.

[5] *Do Szkoły Gł. W. Ks. Litewskiego* [12.01.1788] [w:] *Ibidem*, s. 135.

[6] *Raporty generalnych wizytatorów szkół Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwie Litewskim (1782–1792),* oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak. Wrocław 1979, s. 355.

[7] *Ibidem*, s. 356.

[8] *Ibidem*, s 395.

і падавала інфармацыю аб патрэбнай літаратуры ў Адукацыйную камісію. У сваю чаргу камісія ажыццяўляла камплектаванне бібліятэчных фондаў, дзякуючы закупам, пераразмеркаванню літаратуры з фонду аднае бібліятэкі ў іншыя, альбо з дублетных выданняў бібліятэкі Залускіх.

Галоўны нагляд і кантроль за кнігавыданнем і якасцю літаратуры ажыццяўляла Таварыства кніг для пачатковага навучання. 10 мая 1775 г. Таварыствам быў абвешчаны конкурс на падрыхтоўку падручнікаў для ваяводскіх і павятовых школ, зроблены зварот да еўрапейскіх акадэмій навук з просьбаю пра дапамогу ў напісанні падручнікаў. Замежныя рукапісы да друку прымаліся на французскай і англійскай мовах, пра што навуковае асяроддзе было рэгулярна інфармавана са старонак французскага часопіса "Journal Encyclopedique". Памер аўтарскага ганарару складаў 50–150 чырвоных злотых (натуральная гісторыя, логіка, красамоўства, паэзія – 50, матэматыка – 100, фізіка, механіка – 150)[1]. Усяго таварыствам было выдадзена 29 кніг: 17 падручнікаў, 6 дапаможнікаў і 6 кніг па методыцы выкладання і абавязках настаўнікаў[2]. Па шэрагу прадметаў падручнікі адсутнічалі і настаўнікам раілі набываць іх за мяжой. Таварыствам было арганізавана цэнтралізаванае кнігавыданне і кантроль гэтага працэсу.

Адукацыйнай камісіяй была створана першая на тэрыторыі Рэчы Паспалітае сетка бібліятэк, якая мела тры ступені: 1. Публічная Бібліятэка Залускіх (Варшава); 2. Бібліятэкі дзвюх Галоўных школ Польскае Кароны (Кракаў) і ВКЛ (Вільня); 3. Бібліятэкі іншых школ. Бібліятэка Галоўнае школы ВКЛ атрымлівала абавязковы экзэмпляр твора, выдадзенага ў Літоўскай правінцыі, але цэнтралізаванага камплектавання бібліятэк павятовых школ арганізаваць не ўдалося. Нагадаем, што першы вядомы загад пра абавязковы экзэмпляр у ВКЛ (загад М.К. Радзівіла Рыбанькі ад 1.12.1751 г.) звязаны з акадэмічнай Нясвіжскай друкарняй, які абавязваў выдаўцоў 2 асобнікі кожнага выдання перадаваць у бібліятэку Нясвіжскай ардынацыі[3]. Адсутнасць неабходных падручнікаў у адных школах, прымушала кіраўніцтва клапаціцца пра іх перадачу на часовае карыстанне з іншых устаноў, бо настаўнікі з экс-езуітаў адмаўляліся выкладаць дысцыпліны, незабяспечаныя падручнікамі. З гэтай прычыны ў Нясвіжы ў 1786–1787 навучальных гадах не выкладалася такая дысцыпліна як мараль[4].

Не апошняе месца ў дзейнасці камісіі займалі выпуск перыядычных выданняў і падпіска на замежныя выданні. 16 верасня 1775 г. было

---

[1] А. С а м у с і к, *Асветніцкая дзейнасць Таварыства вучэбных кніг на беларускіх землях у апошняй чвэрці XVIII ст.*, "Весці БДПУ, сер. 2: Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Культуралогія" 2011, № 2, с. 46.

[2] K. M r o z o w s k a, *Komisja Edukacji Narodowej*..., s. 18.

[3] *Гісторыя беларускай кнігі* ў 2 тамах, рэд. М.В. Нікалаеў, т. 1, Мінск 2009, с. 364, 368; А. Б л і н е ц, *Нясвіжскі замак: хроніка падзей*, "Беларускі гістарычны часопіс" 2018, № 7, с. 14.

[4] А. С а м у с і к, *Асветніцкая дзейнасць*..., с. 47.

прынята рашэнне пад кіраўніцтвам Ё. Храптовіча распрацаваць праект выдання газеты для ваяводскіх школ. 18 лістапада 1775 г. у Францыі была афармлена падпіска на перыядычныя выданні (газета і часопіс) з мэтай падрыхтоўкі штотыднёвых навін для ваяводскіх школ, выпуск якіх быў распачаты 1 студзеня 1776 г.[1]. Таксама з 1776 г. была афармлена падпіска на замежныя часопісы: "Journal d'Education" (1768–1778), змест якога быў прысвечаны выхаванню моладзі і фармаванню патрыятызму; "Journal des Sciences et des Beaux Arts" (1768–1778) па навуцы і мастацтву; "Journal Encyclopédique". На старонках двухтыднёвіка ў перакладзе на французскую мову ў 1776–1779 гг. былі апублікаваны прамовы Рыгора Пірамовіча (Grzegorz Piramowicz), прысвечаныя гадавінам Таварыства кніг для пачатковага кніг[2]. Для ўсіх навучальных устаноў была афармлена падпіска на выданне "Дзённік гандлёвы" Тадэвуша Падлескага з 1786 г.[3].

Адукацыйная камісія вялікую ўвага надавала дыдактычнай ролі бібліятэк. Шэраг распрацаваных камісіяй нарматыўна-праўных і справаздачных дакументаў не заўсёды прыводзіў да станоўчых вынікаў. Законы, універсалы і інструкцыі насілі нарматыўна-рэгулюючы характар, былі скіраваны на цэнтралізаванае кіраванне адукацыйнымі ўстановамі ВКЛ і Польскай Кароны, мелі на мэце адносна аднолькавы вынік. У сваю чаргу наказы інспектараў не заўсёды выконваліся з першага, а то і з другога разу, пра што сведчаць рапарты і рэзалюцыі. Рэарганізацыя фондаў бібліятэк езуіцкіх устаноў Нясвіжа патрабавала тэрміновага ўпарадкавання і складання каталогаў. Падчас даследавання мы не сустрэлі звестак пра тое, што літаратура з фондаў езуіцкіх бібліятэк кудысьці вывозілася. На практыцы працэс складання каталогаў расцягнуўся на гады, бо бібліятэчныя праблемы не займалі вядучага месца падчас правядзення адукацыйных рэформ. На 10-ты год дзейнасці ў Нясвіжы Адукацыйнае камісіі яшчэ не была вырашана праблема матэрыяльна-тэхнічнага абсталявання павятовае школы, на што была скіравана асноўная ўвага інспектара[4]. З інструкцыі У. Таўткевіча відаць, што адносна ўпарадкавання кніжнага фонду школьная бібліятэка атрымала ўжо не адзін наказ, да якіх ў 1784 г. дадавалася патрабаванне скласці другі экзэмпляр каталога для Галоўнай школы[5].

---

[1] *Protokoły posiedzeń*, oprac. M. Mitera-Dobrowolska, Wrocław 1973, s. 58–59.

[2] *Ibidem*, s. 77, 78.

[3] J. Ambroise, *Komisja Edukacji Narodowej w Polsce (1773–1794)*, Wrocław 1979, s. 178–179.

[4] *Instrukcja do wizyty generalnej dana j. ks. Pichowskiemu, św. teologii i kanonów doktorowi, prezesowi drukarni J. K. Mci* [29.04.1783] [w:] *Instrukcje dla wizytatorów*, oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak, Wrocław 1976, s. 34; *Instrukcja służąca j. ks. Pilchowskiemu* [w:] *Protokoły posiedzeń,* oprac. M. Mitera-Dobrowolska, Wrocław 1973, s. 244.

[5] *Instrukcja do wizyty generalnej dana j. ks. Władysławowi Tautkiewiczowi św. teologii i obojga prawa doktorowi w Kolegium Moralnym Akademii Wileńskiej towarzyszowi [1784]* [w:] *Instrukcje dla wizytatorów*, oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak, Wrocław 1976, s. 46.

Праблема камплектавання кніжнага фонду Нясвіжскай павятовай школы была выклікана адсутнасцю каталога. У асобных публікацыях мы сустракаем звесткі пра палучэнне Адукацыйнай камісіяй уласнага рэфармавання і дазволу на гэтую дзейнасць для прыватных асоб. У якасці прыкладу прыводзіцца заснаванне К.С. Радзівілам у 1768 г. у Нясвіжы Кадэцкае акадэміі, дзе выкладаліся курсы па фартыфікацыі і артылерыі[1]. І тут неабходна ўдакладніць. Па першае, Нясвіжскі кадэцкі корпус быў заснаваны Міхаілам Казімірам Радзівілам “Рыбанькам”, а К.С. Радзівіл пасля смерці бацькі працягваў яго справу. Падрабязны аналіз гістарыяграфіі па даследаванні дзейнасці гэтае ўстановы намі апублікаваны[2]. Па другое, у існаванні Нясвіжскага кадэцкага корпуса даследчыкі вылучаюць некалькі перыядаў, адзін з якіх супадае з дзейнасцю Адукацыйнае камісіі, але ні ў адзін з гэтых перыядаў, ні ў езуіцкім калегіуме, ні ў павятовай школе, бібліятэчны фонд не камплектаваўся выданнямі па пытаннях вайсковае справы, фартыфікацыі, узбраення. Згодна з пунктам 6 Пастановы для дырэктара Нясвіжскага кадэцкага корпуса “xięgi potrzebne do nauki kadetow, będą dawane z biblioteki moiey nieswiezkiey; ktore dyrektor będzie brał pod regestrem y one oddawał, pilnie tego postrzegaiąc, aby się nieszarzały, zostaiąc w ręku kadeckich; a daleko bardziey, gdyby z nich iaka nie zgineła”[3].

Апошняе пасяджэнне Таварыства кніг для пачатковага навучання адбылося 19 красавіка 1792 г. Яно было ліквідавана пасля рэарганізацыі і падзелу Адукацыйнае камісіі 27 красавіка 1793 г. на літоўскую і польскую часткі[4]. За даволі кароткі час існавання (1773–1794) Адукацыйнай камісіяй, паралельна з рэфармаваннем сістэмы адукацыі, былі праведзены наступныя пераўтварэнні ў дзейнасці бібліятэк: рэарганізацыя фондаў езуіцкіх бібліятэк з наступным выкарыстаннем у адукацыйным працэсе выданняў прыдатных для навучання; распрацаваны комплекс нарматыўна-праўных дакументаў і мерапрыемстваў, скіраваных на захаванне і каталагізацыю дакументаў, упарадкаванне бібліятэчных фондаў, дакамплектаванне патрэбнай літаратурай, пераразмеркаванне дублетных экзэмпляраў і прадастаўленне на часовае

---

[1] А. С а м у с і к, *Станаўленне свецкай сістэмы асветы ў заходняй і цэнтральнай Беларусі ў час рэформаў Камісіі па народнай адукацыі* [у:] *Беларускае асветніцтва: вопыт тысячагоддзя: Матэрыялы II Міжнароднага кангрэса*, у 3-х кнігах, кн. 1, Мінск 2001, с. 179; Л. Х р ы ш ч а н о в і ч, *Адукацыя ў Нясвіжы ў XVI–XVIII стст.* [у:] *Нясвіж: Гісторыя. Культура. Мастацтва: Матэрыялы навуковых канферэнцый* (Нясвіж 1994, 1997), Варшава–Мінск 1998, с. 114.

[2] V. P a l u n c h a n k a, *The Nesvizh Military School in Historiography, 1845–2016: for the 270th Anniversary of its Foundation,* “European Journal of Humanities and Social Sciences” 2017, nr 6, s. 13–23.

[3] *Пастанова для дырэктара Нясвіжскага кадэцкага корпуса: [25 траўня 1747 г. – 4 верасня 1748 г., Нясвіж]*, апрац. З. Крывашэеў, “Беларускі гістарычны агляд” 2009, т. 16, сш. 2, с. 398.

[4] J. L e w i c k i, *Komisja Edukacji Narodowej w świetle ustawodawstwa szkolnego*, Warszawa 1923, s. 16; А. С а м у с і к, *Асветніцкая дзейнасць Таварыства...*, 2011, № 2, с. 48.

выкарыстанне адзінкавых асобнікаў; арганізавана выданне навучальнае літаратуры і падпіска на замежныя часопісы; створана першая на тэрыторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай сетка публічных бібліятэк. У Нясвіжы гэтыя пераўтварэнні адбываліся з удзелам нясвіжскага ардыната К.С. Радзівіла "Пане Каханку", за што інспектары не раз выказвалі магнату падзяку ў сваіх рапартах.

Асобнага даследавання патрабуюць пытанні, звязаныя з арганізацыяй выдання "Навін" для школ на падставе зместу замежных перыядычных выданняў, а таксама дакументы, звязаныя з камплектаваннем бібліятэк адукацыйных устаноў Нясвіжа, і каталогі кніжнаг фонду, комплекс арганізацыйна-метадычных, уліковых і справаздачных дакументаў Нясвіжскіх павятовых школ. Цяжкасці даследавання абумоўлены пажарам падчас Варшаўскага паўстання, у якім згарэла частка архіва камісіі. Далейшага даследавання патрабуе актавая дакументацыя канцылярыі Станіслава Аўгуста Панятоўскага (AGAD), спіс інвентароў і дакументаў за гэты перыяд, перададзены Расеяй у Прусію ў 1799 г., а таксама архіўныя фонды Масквы і Пецярбургу.

І, тым не менш, на падставе даследаваных матэрыялаў, можна адзначыць, што за даволі кароткі час Адукацыйная камісія здолела карэнным чынам рэфармаваць сістэму адукацыі і арганізацыі дзейнасці бібліятэк адукацыйных устаноў, закласці падмурак для далейшага развіцця. Дзейнасць першага Міністэрства асветы ў Еўропе стала тым самым штуршком, з якога ў 1795 г. пачаўся новы перыяд у гісторыі адукацыі і бібліятэчнай справы на землях былое Рэчы Паспалітае.

*Volha Palunchanka*

**Libraries of Nesvizh's educational institutions in the last quarter of the XVIII century**

Abstract

The article analyses the organization and regulation of the activity of libraries in educational institutions of Niasvizh (1773–1794) based on the regulatory and reporting documents of the Polish-Lithuanian Commonwealth Educational Commission. Among the analyzed sources are laws, universals, instructions, letters and regulations, resolutions, reports, minutes of meetings. The issues of reorganization, acquisition and streamlining of the libraries funds are considered. This study is important for examining the history of library affairs in Belarus and the role of libraries in education in the 18th century.

## *Mirosław Jankowiak, Współczesne gwary białoruskie na Łotwie. Charakterystyka. Wybór tekstów, Praha 2018, 468 s.*

W serii Prace Instytutu Słowiańskiego Akademii Nauk Republiki Czeskiej ukazała się niezwykle cenna pozycja naukowa autorstwa Mirosława Jankowiaka pt. *Współczesne gwary białoruskie na Łotwie. Charakterystyka. Wybór tekstów.* Jest to już druga książka tego autora traktująca o gwarach białoruskich na Łotwie (pierwsza pt. *Gwary białoruskie na Łotwie w rejonie krasławskim. Studium socjolingwistyczne*, opublikowana w 2009 r. w Warszawie, dwukrotnie została wydana w przekładzie na język białoruski: Białystok – Wilno 2012 i Smoleńsk 2015).

Jak podkreśla badacz, niniejsza publikacja powstała w ramach tematu statutowego pt. *Język białoruski w państwach bałtyckich i obwodzie Kaliningradzkim*, wykonywanego w Instytucie Slawistyki PAN w latach 2012–2015. Zdecydowaną większość materiału zebrał autor w ramach wspólnych projektów realizowanych przez Instytut Slawistyki PAN oraz Instytut Języka Łotewskiego Akademii Nauk Łotwy. Część nagrań pochodzi z prywatnego archiwum oraz materiałów zgromadzonych w ramach niemieckiego projektu TriMCo (Triangulation Approach for Modelling Convergence with a High Zoom-In Factor).

Każde pogranicze – terytorium, na którym mieszka kilka grup narodowych czy etnicznych – wywołuje zainteresowanie badaczy różnych dziedzin naukowych ze względu na przenikanie się wielu kultur i języków, co z jednej strony stanowi o bogactwie kulturowym, lecz z drugiej – często utrudnia identyfikację narodową. Wśród osób posługujących się na co dzień gwarą białoruską na Łotwie zauważono występowanie „podwójnego, czy nawet potrójnego poczucia tożsamości narodowej. Część rozmówców jasno deklarowała narodowość polską (osoby urodzone przed wojną w Polsce, niektórzy autochtoni), inni białoruską (najczęściej przybyli po wojnie z Białorusi Wschodniej, rzadziej z Białorusi Zachodniej i z Łotwy). W północno-wschodniej Łatgalii (powiaty zilupski i dagdzki) częściej deklarowano pochodzenie łotewskie (lub łatgalskie) bądź «ruskie». Należy jednak podkreślić, że określanie przynależności narodowej nierzadko odbywało się na podstawie wyznania lub wpisu w paszporcie” (s. 382).

Szczególnie interesujące są pogranicza wielokulturowe, które przyciągają interdyscyplinarne zespoły badaczy. Do takich terytoriów niewątpliwie należy zaliczyć opisane wielonarodowościowe pogranicze między Białorusią a Łotwą, na którym przenikają się wpływy białoruskie, rosyjskie, polskie, łatgalskie i łotewskie. Żeby zrozumieć i opisać fenomen pogranicza, należy

badania przeprowadzać kompleksowo, nie ograniczając się tylko do opisu synchronicznego zaobserwowanych zjawisk, lecz także uwzględniając uwarunkowania historyczne, co znajduje wyraźne odzwierciedlenie w omawianej książce.

Bardzo interesujący jest zamysł autora udania się „śladami" Joachima Karskiego, żeby porównać granice występowania oraz stan gwar białoruskich na Łotwie, co niewątpliwie jest dużym plusem pracy. „Tak zaprezentowany materiał pozwala na dość dokładne prześledzenie zmian językowych w aspekcie chronologicznym i arealnym, tym bardziej, że zaprezentowane teksty fonetyczne zostały uporządkowane geograficznie – od północnego wschodu po południowy zachód Łotwy" (s. 18).

Okazuje się, że pełny obraz rzeczywistości językowej na tym obszarze jest bardzo urozmaicony, ponieważ gwary białoruskie, które od dziesiątków lat funkcjonują na pograniczu białorusko-łotewskim w sytuacji wielojęzyczności podlegały licznym wpływom języków sąsiednich: rosyjskim, polskim, litewskim, łotewskim, a nawet bałto-fińskim. Z tego powodu bardzo istotne jest uwzględnienie w pracy rysu historycznego, w którym M. Jankowiak omówił stosunki historyczno-społeczne (procesy migracyjne panujące na danym obszarze w przeszłości i obecnie oraz skład narodowościowy badanego terenu) implikujące charakter oraz strukturę gwar białoruskich na Łotwie. Niezwykle cenne są mapy ukazujące tereny zamieszkane przez mniejszość białoruską, poczynając od końca XIX w., przez 1935 r. do 2000.

Przyjęte w opracowaniu założenia badawcze wpłynęły na jego kształt. Praca składa się z dwóch głównych części. Pierwsza część – merytoryczna (s. 17–94) opisuje gwary białoruskie na Łotwie (ich pochodzenie, klasyfikację, stan badań, metodę eksploracji i kanon tekstów, zasady zapisu) oraz ukazuje szczegółową charakterystykę tych gwar na kilku płaszczyznach językowych (fonetycznej, morfologicznej, składniowej, leksykalnej i frazeologicznej). Z kolei część druga zawiera stanowiące ok. 5/6 całości teksty gwarowe (s. 95–372) – czyli wybrane wypowiedzi informatorów zapisane fonetycznie w gwarze białoruskiej, które są świadectwem losów ludności zamieszkującej pogranicze. Dzięki tekstom gwarowym ułożonym w uporządkowane chronologicznie kręgi tematyczne pojawia się obraz dawnego i obecnego życia respondentów, ich działalności, przebytych ciężkich doświadczeń, trudnych warunków życia (wyczerpującej pracy na roli, II wojny światowej i okupacji, głodu czy okresu władzy radzieckiej – tworzenia kołchozów i sowchozów, pracy bez wynagrodzenia), ale także sposobów spędzania wolnego czasu etc. Lektura tekstów gwarowych świadczy o tym, że udało się tu odtworzyć wewnętrzny świat człowieka, a zebrany materiał ukazujący losy poszczególnych respondentów i ich rodzin świadczy o dużym zaufaniu, którym rozmówcy obdarzyli autora. Te wypowiedzi są szczere, autentyczne, płynące z głębi serca i odzwierciedlające sposób życia i myślenia społeczności na tym dotychczas wciąż jeszcze nieopisanym szczegółowo skrawku pogranicza, nie tylko w dobie dzisiejszej, lecz także ongiś, na przestrzeni pokoleń. Bardzo cenny jest układ tekstów gwarowych z rozbiciem na

powiaty oraz zawartą dodatkową informacją (historia powiatu, mapy z zaznaczonym terenem objętym badaniami, skład narodowościowy, charakterrystyka informatorów). Niezwykłe bogactwo tekstów dotyczących historii, tradycji i kultury badanego regionu jest wielką wartością, dlatego należy dążyć do wydania drugiego tomu.

M. Jankowiak podkreśla, że jego badania potwierdziły przynależność gwar białoruskich na Łotwie do północno-wschodniego dialektu języka białoruskiego (a dokładniej do grupy północnej). Przy tym zaznacza, że eksplorowany obszar nie jest monolitem językowym. Ludność autochtoniczna jest bardziej zrusyfikowana, natomiast ludność, która przybyła na ziemie łotewskie po II wojnie światowej, lepiej zachowuje strukturę gwary białoruskiej. Porównanie gwary ludności autochtonicznej i napływowej znacznie podnosi wartość naukową i poznawczą pracy. Autor wyodrębnia trzy warianty gwary białoruskiej: ludności autochtonicznej, przybyłej po wojnie z Białorusi Zachodniej oraz z Białorusi Wschodniej. Podkreśla fakt dobrego zachowania struktury gwary, szczególnie na poziomie fonetyki, morfologii i składni, chociaż w Łatgalii wschodniej uwidacznia się silny wpływ języka rosyjskiego. Ten niezwykle bogaty materiał porządkuje tabela zatytułowana *Spis cech dialektalnych wg powiatów* (s. 91–93).

Szczególnie dużo miejsca poświęcono leksyce, która jest bardzo zróżnicowana. Na określenie jednego desygnatu, nawet w obrębie idiolektu, występuje kilka leksemów (np. *kartoška*, *bul'b*a, *kartopl'a*). Zauważalna jest jednak systematyczna unifikacja słownictwa spowodowana powszechną rusyfikacją, szczególnie wśród mieszańców Łatgalii wschodniej. Zdecydowanie więcej słów białoruskich funkcjonuje w mowie osób zamieszkujących powiaty iłuksztański, dyneburski i krasławski, podczas gdy na północy w powiatach zilupskim i dagdzkim jest ich o wiele mniej.

M. Jankowiak szczegółowo omawia wybraną leksykę pochodzenia białoruskiego, rosyjskiego, polskiego oraz bałtyckiego. Największa liczba białorutenizmów występuje w wypowiedziach mieszkańców z pow. iłuksztańskiego. Leksemy białoruskie są zdecydowanie częstsze niż na północy. Słownictwo rosyjskie stanowi znaczący odsetek zasobu leksykalnego miejscowej ludności posługującej się gwarami białoruskimi, chociaż podkreślono jego dwojaki charakter, obejmujący zarówno zapożyczenia, jak i leksykę wspólną dla dwóch dialektów: białoruskiego i rosyjskiego. Z kolei ta pochodzenia bałtyckiego to „słownictwo zapożyczone z języków bałtyckich do gwar białoruskich kilkaset lat temu, przede wszystkim z zakresu tradycyjnej uprawy roli, przyrody, nazw zabudowy gospodarczej i przedmiotów codziennego użytku, czy wyglądu i charakteru człowieka. Oprócz lituanizmów coraz częściej pojawiają się też lettyzmy. Jest to stosunkowo młoda grupa zapożyczeń związanych z oficjalnym nazewnictwem administracyjnym, religijnym i dotyczącym życia codziennego" (s. 85). Duże są też wpływy polskie wynikające przede wszystkim z administracyjnej przynależności tych ziem do Rzeczypospolitej, a także oddziaływania Kościoła katolickiego oraz spolonizowanej miejscowej szlachty pochodzenia niemieckiego i szwedzkiego.

Polonizmy funkcjonują w różnych sferach życia: religijnej, kulturowej oraz w życiu codziennym.

Monografia kończy się pesymistyczną konstatacją, że „w niedługiej perspektywie czasu (kilku, maksymalnie kilkunastu lat) gwary białoruskie zanikną wraz ze śmiercią najstarszego, przedwojennego pokolenia mieszkańców" (s. 373–374).

Omawianą książke uzupełnia *Aneks* (*Spis nazw geograficznych i historycznych*, *Spis jednostek administracyjnych w przekroju historycznym*, *Spis skrótów*, *Alfabet fonetyczny zastosowany w tekstach*, *Kwestionariusz pytań zastosowany w badaniach*, *Metryczka*) (s. 391–403), bardzo bogata literatura naukowa (s. 405–416), która obejmuje prace o gwarach białoruskich i języku białoruskim na Łotwie, pozostałe prace lingwistyczne oraz prace historyczne i etnologiczne o Białorusinach na Łotwie, *Streszczenie* (w języku angielskim, białoruskim łotewskim) oraz zdjęcia dokumentujące życie respondentów w określonym czasie i na objętej badaniami przestrzeni (s. 429–467).

Zaprezentowana monografia stanowi pozycję niezwykle cenna tak pod względem naukowym – uzupełnia wiedzę o pograniczach Białorusi, jak i edukacyjnym – może służyć pomocą studentom w zdobywaniu wiedzy z zakresu dialektologii białoruskiej i zagadnień pograniczy językowych. Istotnym walorem jest także szeroko zakrojony i obszernie zaprezentowany materiał egzemplifikacyjny oraz problemowy układ pracy i sposób ujęcia. Praca znakomicie wpisuje się w coraz bogatszą literaturę dotyczącą badań pograniczy językowych, uzupełniając je o problematykę pogranicza białorusko-rosyjsko-polsko-łotewskiego.

Po lekturze omawianej publikacji z niecierpliwością należy oczekiwać ukazania się kolejnej pracy autorstwa Mirosława Jankowiaka pt. *Gwary białoruskie na Łotwie jako przykład leksykalnego dziedzictwa pogranicza bałtycko-słowiańskiego* z aneksem w postaci *Słownika gwar białoruskich na Łotwie*. W opracowaniu znajduje się również niewielki *Atlas gwar białoruskich na Łotwie*.

**Nina Barszczewska**

## *Зміцер Дрозд, Таямніцы Дуніна-Марцінкевіча, Беларускі дакументацыйны цэнтр, Вільнюс 2018, 572 с.*

Пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, аднаго "изъ самыхъ плодовитыхъ и популярныхъ писателей того времени" (Е.Ф. Карский, *Бѣлоруссы: введенiе къ изученiю языка и народной словесности*, Вильна 1904, с. 437), ягонае жыццё і творчасць, публіцысты, гісторыкі і літаратуразнаўцы пачалі пісаць яшчэ ў XIX стагоддзі. Можна згадаць тут Вінцэся Каратынскага (каментар да: L. Kondratowicz [W. Syrokomla], *Poezye*, t. IV, Warszawa 1872, s. 319), Адама Кіркора (*O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich*, Kraków 1874, s. 53–54), Аляксандра Ельскага (*Pieśniarz białoruski*, „Kraj" 1885, nr 10, 10/22 marca), Аляксандра Слупскага (*Старый Минскъ*, "Минскiй листокъ" 1895, № 35), Мітрафана Доўнара-Запольскага (*В. Дунинъ-Марцинкевичъ и его поэма Тарасъ на Парнасѣ*, Витебскъ 1896). Але па-сапраўднаму навуковае даследаванне асобы і дарobку Беларускага Дудара ў нашым літаратуразнаўстве адбылося толькі ў другой палове XX стагоддзя, калі з'явіліся публікацыі Сцяпана Александровіча, Генадзя Кісялёва, Адама Мальдзіса, Язэпа Янушкевіча і інш.

Да 200-годдзя з дня нараджэння класіка беларускае літаратуры, апрача двухтомнага збору ягоных твораў, быў падрыхтаваны шэраг крыніцазнаўчых выданняў, напрыклад: *Марцінкевіч герба Лебедзь: дакументы і матэрыялы пра класіка беларускай літаратуры XIX ст. Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча*, уклад. Г. Кісялеў, Мінск 2010; *Невядомы Дунін-Марцінкевіч: дакументы да біяграфіі з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі*, склад. У.М. Дзянісаў, В.С. Пазднякоў, Я.Я. Янушкевіч, Мінск 2011.

І, як гэта часта бывае, добра падрыхтаваны і апрацаваны палетак у другім дзесяцігоддзі XXI стагоддзя даў шчодры плён. Здарылася гэта таму, што прыйшоў даследнік, неабцяжараны ні сацыялагічнай метадалогіяй беларускага літаратуразнаўства, ні кампанейскаю "далікатнасцю" савецка-традыцыйнае беларускае навукі пра прыгожае пісьменства.

Прыйшоў даследнік, якому пашанцавала значна больш, чым ягоным папярэднікам.

Зрэшты, аснова ўсялякага шанцавання – праца. Амаль 15 гадоў (з 2006) Зміцер Дрозд "жыве" архівам. Напачатку ён цікавіўся адно сваім ўласным радаводам – Драздоўскіх, якіх расейскі акупант у XIX стагоддзі перайменаваў у Драздоў, русіфікаваў, але ўсё ж не змог з ліцвінаўбеларусаў зрабіць шчырых рускіх.

Першаю друкаванаю кнігаю З. Дразда сталі *Землевладельцы Минской губернии 1861–1900* (Минск 2010), якую ён паспеў выдаць да сумнавядомых “прэзідэнцкіх” рэпрэсій 2010 г., арышту і турмы. А вось да праблемаў гісторыі беларускае літаратуры XIX стагоддзя, біяграфіі В. Дуніна-Марцінкевіча даследнік звярнуўся ў 2014 г. пад уплывам выяўленага ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі дакумента пра падробку ў 1835 г. будучым беларускім класікам пячатак, а таксама кніг Г. Кісялёва (*Пачынальнікі*, Мінск 1977; *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча*, Мінск 1988) і Я. Янушкевіча (*За архіўным парогам*, Мінск 2002; *Зямля кенатафаў*, Мінск 2009). Менавіта апублікаванае пра В. Дуніна-Марцінкевіча ды добрае веданне архіўных фондаў прывяло да поспеху – з восені 2014 г. у друку (“Наша Ніва”, “Роднае слова”, “Культура”) пачалі з’яўляцца артыкулы гісторыка-архівіста.

Ад пачатку сваёй публікацыйнае дзейнасці З. Дрозд зрабіў стаўку на сенсацыйнасць і займальнасць. Вядома, схілялі яго да гэтага знойдзеныя дакументы, іх нязвыкласць, адрознасць ад кананічных – манаграфічных, падручнікавых і энцыклапедычных – звестак пра В. Дуніна-Марцінкевіча. Дакументы ўразілі даследніка, бо ён, хіба, і не думаў, што В. Дунін-Марцінкевіч быў проста жывым чалавекам свае эпохі; ён, хіба, успрымаў Беларускага Дудара ва ўсёй ягонай забранзавелай прыгажосці, вылепленай нашымі дойлідамі папярэдняе эпохі.

Апублікаваўшы цягам трох гадоў шэраг матэрыялаў (здаецца, дванаццаць артыкулаў) пра невядомыя эпізоды жыцця Беларускага Дудара, яго сям’ю, а таксама пра час, у які той жыў, З. Дрозд вырашыў выдаць іх уласным коштам асобнаю кніжкаю накладам 50 асобнікаў. Але, ужо маючы сігнальны асобнік, абвясціў збор сродкаў на краўдфандынгавай платформе “Талака”. Сабранае дазволіла павялічыць аб’ём кнігі амаль у два разы, а наклад – у дзесяць разоў.

Кніга *Таямніцы Дуніна-Марцінкевіча* складаецца з двух дзясяткаў раздзелаў, змест якіх у той ці іншай ступені быў апублікаваны ў перыёдыцы. Фактычна, кожны раздзел – гэта раней невядомы эпізод з жыцця В. Дуніна-Марцінкевіча ці ягонай сям’і.

З-за захоплена-сумбурнага выкладу матэрыялу аўтарам кнігі, лічым сваім абавязкам вылучыць па пунктах найважнейшыя звесткі пра В. Дуніна-Марцінкевіча, выяўленыя З. Драздом, дзеля таго, каб звярнуць увагу гісторыкаў літаратуры і тым самым паспрыяць хутчэйшаму выпраўленню недакладнасцяў, якія скрозь сустракаюцца ў біяграфічных нататках пра пісьменніка.

1. З “дакументальна пацверджаных” продкаў В. Дуніна-Марцінкевіча (услед за даследнікам прызнаем, што свой радавод пісьменнік у значнай ступені сфальшаваў) не выклікае сумнення, што ягоны дзед сапраўды называўся Мікалай Марцінкевіч і жыў у сярэдзіне XVIII стагоддзя на Слонімшчыне ў маёнтку Высоха (гл. с. 65). Ягоная жонка, бабуля пісьменніка, Анастасія з Дзюрдзевічаў была сястрою сталовіцкага пробашча (гл. с. 58). У сям’і Мікалая і Анастасіі нарадзілася шмат

дзяцей: Ян (бацька пісьменніка), Ігнат, Антон, а таксама дочкі, адна з якіх, Кацярына Карыбут-Дашкевічава, жыла з 1781 г. у маёнтку Завідчыцы блізу Пінска (гл. с. 140–141).

2. Бацька Ян Марцінкевіч нарадзіўся каля 1750 г. У 1771 г. ён ажаніўся з Людвікаю Рыкачэўскаю, пляменніцаю Станіслава Богуша-Сестранцэвіча (гл. с. 66–67). У 1772 г. у Вільні прыйшоў на свет старэйшы сын Яна – Ігнат (гл. с. 66). Жылі яны ў той час у доме, які С. Богуш-Сестранцэвіч падараваў сваёй сястры Ганне, маці Людвікі. Тут, у Вільні нарадзілася яшчэ адно дзіця Яна – дачка Францішка (гл. с. 116), якая выйдзе замуж за Вінцэнта Парчэўскага і народзіць сына Станіслава (1803–1830), сябра Адама Міцкевіча і Антона Эдварда Адынца (гл. с. 124–131). У 1780 г. Марцінкевічы прадаюць дом у Вільні і пераязджаюць з Рэчы Паспалітае ў Расейскую імперыю (пасяляюцца ў маёнтках С. Богуша-Сестранцэвіча Маляцічы ля Крычава і Лапаціна (ля Мсціслава), дзе пражылі каля пятнаццаці гадоў (гл. с. 68). Тут памерла першая жонка Яна Марцінкевіча (гл. с. 70–71). Аўдавеўшы, ён у сярэдзіне 1790-х гг. перабіраецца на Случчыну да свайго брата Ігната, які арандуе тут маёнткі Старчыцы і Заўшыцы, бярэ шлюб з Марцыянай Нядзвецкай. На Случчыне нарадзіліся старэйшыя браты і сёстры В. Дуніна-Марцінкевіча – Мар'яна (1796), Юля (1800), Феліцыян (1801), Юзаф (1803), Гэлена (1806) (гл. с. 72–73). Вінцэнт (1808) прыйшоў на свет у Панюшкавічах, куды па даручэнні С. Богуша-Сестранцэвіча прыехаў Ян Марцінкевіч уладкоўваць справы тамтэйшага маёнтку. У хуткім часе (май 1808 г.) бацька будучага пісьменніка памірае. (гл. с. 74). Маці ж яшчэ 20 гадоў будзе жыць тут, пакуль не пераедзе напрыканцы 1820-х гг. у маёнтак Юзафова ля Глуска да дачкі Галены і ейнага мужа Юзафа Умінскага (гл. с. 77–81). Пасля смерці Галены ейная дачка Зоф'я гадавалася ў сям'і В. Дуніна-Марцінкевіча (гл. с. 139–140).

3. Вядомая па артыкулу Аляксандра Слупскага гісторыя-легенда пра выкраданне В. Дунiным-Марцінкевічам Юзэфы Бараноўскае і шлюб з ёю, дзякуючы выяўленым З. Драздом матэрыялам, займела сваё дакументальнае пацвярджэнне. Выкраданне адбылося 26 лістапада 1831 г., а на другі дзень – шлюб, які даў маладым уніяцкі святар з падмінскае Сеніцы. Спатрэбілася яшчэ некалькі тыдняў, каб урэшце 18 снежня ўжо ў каталіцкім касцёле шлюб быў пацверджаны (гл. с. 175–187).

4. Змушаны (фактычна змушаны!) урадавымі пастановамі (19 кастрычніка 1831 года ў Расейскай імперыі быў прыняты закон *О разборѣ Шляхты въ Западныхъ Губерніяхъ, и объ устройствѣ сего рода людей*) даводзіць сваё шляхецтва, В. Дунін-Марцінкевіч не толькі "выканаў" план, але і "перавыканаў". У 1832 г. ён падаў у Мінскую шляхецкую зборню "дакументы", якія "пацвярджалі" старажытнасць ягонага роду, "узводзілі" яго да датчаніна Пятра Дуніна. Дапамагло ўменне будучага пісьменніка вырабляць фальсіфікаты: ператвараць новую паперу ў даўнюю, вырэзваць каралеўскія пячаткі і інш. Праўда, не ўсё адразу атрымалася: толькі ў 1838 г. Герольдыя пра Урадавым Сенаце дала дазвол

будучаму беларускаму пісьменніку, а таксама ўсім, прылічаным да ягонага роду, афіцыйна называцца Дунінымі-Марцінкевічамі (гл. с. 142–174).

5. Дзякуючы знаходкам Д. Дразда, цяпер не выклікае сумнення, што В. Дунін-Марцінкевіч, апрача свае афіцыйнае працы, меў нелегальную "падпрацоўку": актыўна займаўся падробкаю шляхецкіх дакументаў, за што ў 1835 г. быў чатыры месяцы пад арыштам, у тым ліку – у Мінскім турэмным замку. Зрэшты, абараняўся ён даволі ўдала: следчыя не змаглі давесці ягоную віну. Адно пакінулі "пад моцным падазрэннем" у датычнасці да падробак (гл. с. 206–214).

Вядома, пэўную цікавасць для гісторыка літаратуры маюць і іншыя гісторыі, якія расказаў на старонках свае кнігі З. Дрозд: пра ўзаемадачыненні Беларускага Дудара з блізкімі і далёкімі сваякамі (тут надзвычай перспектыўным, на нашую думку, можа быць выяўленне стасункаў В. Дуніна-Марцінкевіча з ягонаю цёткаю і ейнымі нашчадкамі, якія жылі на Піншчыне), пра дзяцей, унукаў, пляменнікаў і інш. Гэта тым больш важна, што з "лёгкае" рукі асобных "знаўцаў" ужо чвэрць стагоддзя пашыраецца цалкам непраўдападобная фантазія пра неабгрунтаванасць традыцыйнае атрыбуцыі фарс-вадэвілю *Пінская шляхта* (гл. напрыклад: А. Ільін, *"Хрэн табе ў вочы!": Дык хто ж напісаў Пінскую шляхту?*, "Наша гісторыя" 2019, № 5, с. 41–45).

Не можам, аднак, не звярнуць увагу і на шэраг момантаў, якія крыху псуюць у цэлым добрае ўражанне ад знаёмства з кнігаю З. Дразда *Таямніцы Дуніна-Марцінкевіча*. Перадусім, гэта, назавём так, ейная шматслоўнасць, непрадуманасць канцэпцыі кнігі, бясконцыя паўтарэнні аднаго і таго самага ды інш. Вядома, аўтар можа спаслацца на тое, што гэта "не чыста навуковае даследаванне", што гэта "навукова-папулярная чытанка, але грунтаваная толькі на праверaных фактах і звестках, дакументах, архіўных матэрыялах".

Дарэчы, пра дакументы: З. Дрозд змясціў у "навукова-папулярную чытанку" 155 дакументаў на мовах арыгіналаў (праўда, крыху адаптаваных і часам не зусім удала расчытаных ды не пракаментаваных), што складае больш за 45% тэксту кнігі. Нішто сабе чытанка!!! Зрэшты, нам бы як можна больш такіх чытанак. Тады б, відаць, і навуковы ўзровень штатных беларускіх літаратуразнаўцаў прыкметна павысіўся.

**Мікола Хаўстовіч**

# Міжнародная навуковая канферэнцыя
*Польска-беларускія літаратурныя і моўныя сувязі*

29–30 сакавіка 2019 года на Факультэце прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя *Польска-беларускія літаратурныя і моўныя сувязі*, арганізатарам якой была Кафедра беларусістыкі.

Падчас урачыстага адкрыцця з прывітальнымі словамі да ўдзельнікаў канферэнцыі звярнулася Вольга Трацяк, якая выконвае абавязкі кіраўніка Кафедры беларусістыкі. У канферэнцыі прынялі ўдзел 45 навукоўцаў з 17 навуковых установ 5 краін Еўропы: Беларусі, Літвы, Польшчы, Славакіі і Чэхіі, якія прапанавалі свае навуковыя даследаванні ў галіне польска-беларускіх дачыненняў.

Пленарнае пасяджэнне сёлетняй канферэнцыі пачалося з прэзентацыі двухтомнага выдання *Korespondencja Kazimierza Nitscha i Antoniny Obrębskiej-Jabłońskiej w latach 1925–1958*. Прэзентацыю правяла прафесар Эльжбета Смулкова, адзін з укладальнікаў і аўтараў выдання.

На пленарным пасяджэнні з рэфератамі выступілі: Марта Рушчыньска (*Białoruska szkoła poetów w perspektywie romantycznego regionalizmu*), Збігнеў Казьмерчык (*Białoruskie wątki w poezji Jana Czeczota*), Магдалена Дамброўска (*Pińsk i Polesie Pińskie oczyma Józefa Ignacego Kraszewskiego. Ze studiów nad podróżopisarstwem i zawartością podróżniczą wydawnictw periodycznych XIX wieku*) і Мікола Хаўстовіч (*Новае пра Ялегі Пранціша Вуля*).

Далей праца канферэнцыі праходзіла ў дзвюх секцыях: літаратуразнаўчай і мовазнаўчай.

Літаратуразнаўчая секцыя традыцыйна вызначалася шырокім дыяпазонам тэм. Даследаванню літаратуры XVIII і XIX стагоддзяў свае рэфераты прысвяцілі Надзея Чукічова (*Паэтыка стылізацыі фальклорнага сюжэту ў вершаваных аповесцях і апавяданнях Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча*), Пётр Глушкоўскі (*Maksymilian Marks. Od Witebska do Jenisejska*), Інэса Кур'ян (*Новыя кантэксты Дзядоў Адама Міцкевіча*), Вераніка Бандаровіч (*Сучасны погляд на творчасць Тадэвуша Даленгі-Мастовіча: беларусы і раман Prokurator Alicja Horn)* і Клаўдыя Лахач (*Aniela z Miączyńskich Radziwiłłowa – trzecia żona Hieronima Floriana Radziwiłła*). Паэтычныя жанры, віды і формы верша ў сучаснай паэзіі; змястоўныя і фармальныя ўзроўні паэтычнага твора былі прааналізаваныя ў рэфератах Аляксандра Макарэвіча (*Лірыка У. Дубоўкі 1920-х гадоў: асаблівасці вобразнай сістэмы*), Таццяны Аляшкевіч (*Паэтыка сучаснай філасофскай лірыкі*) і Людмілы Сірык (*Poezja białoruska w tłumaczeniach Józefa Łobodowskiego*). Пытанні нацыянальнае тоеснасці, культур-

нае памяці і эміграцыі былі асветлены ў выступленнях Алены Ярмоленкі (*Культурная памяць у творчасці беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя*), Вольгі Буднік (*Канцэптасфера ўвасаблення народнага светабачання ў прозе І. Пташнікава і Т. Новака*) і Валянціны Собаль (*Pierwsza emigracja ukraińska w badaniach białoruskich i polskich*). Тэма горада, прасторы ў творчасці беларускіх пісьменнікаў, а таксама ўплыў польскіх грамадскіх установаў на развіццё беларускае асветы закраналіся ў рэфератах Віктара Корбута (*Вільня – сталічнае места Літвы і Белай Русі: Вобраз горада ў адлюстраванні віленскага беларускамоўнага пісьменства 1906–1918 гг.*), Катажыны Дрозд (*Problematyka przestrzeni w prozie Ihara Babkoua*) і Вольгі Палунчанкі (*Rola Komisji Edukacji Narodowej w organizacji działalności bibliotek i instytucji edukacyjnych Nieświeża w XVIII w.*). Прозе і драматургіі XX ст. прысвяцілі свае выступленні Ірына Агеева (*"Савецкая сістэма" як скразны герой прозы Андрэя Мрыя*), Іван Ясюк (*Літаратурны цэнтр і перыферыя як мадэль беларускага літаратурнага свету першай трэці XX стагоддзя*) і Ядвіга Грацля (*Dramaturgia rosyjska pierwszego trzydziestolecia XX wieku na współczesnej polskiej scenie*). Сучасная беларуская драматургія разглядалася ў выступленні Алены Лепішавай (*Беларуская эксперыментальная драматургія пачатку XXI стагоддзя: пакаленне "нетутэйшых"*).

У мовазнаўчай секцыі асвятляліся пытанні лексікаграфіі, анамастыкі, статусу беларускае мовы, перакладу, семантыкі, марфалогіі, тэрміналогіі і фразеалогіі, польска-беларускае этналінгвістыкі. З паведамленнямі на тэму лексікаграфіі і бібліяграфіі беларускае мовы выступілі: Катажына Воян (*Leksykografia polska z językiem białoruskim w opisie statystycznyт*) і Вячаслаў Швед (*Варшаўскі перыяд жыцця Я. Карскага і лёс яго бібліятэкі*). Запазычанні з польскае мовы сталі аб'ектам аналізу ў рэфератах Юрыя Маліцкага (*Паланізмы як сродкі вылучэння прагматычнай тэкставай дамінанты ў беларускім гутарковым маўленні*) і Мірaслава Янковяка (*Polonizmy leksykalne w gwarach białoruskich na Liwie*). Пытанні статусу беларускае мовы былі асветлены ў выступленнях Ніны Баршчэўскай (*Беларуская дыяспара ў пошуку аргументаў на карысць беларускасці дзяржаўнае мовы ВКЛ*), Алены Лянкевіч (*Сацыяльны статус і прэстыж беларускай мовы ў міжваеннай Польшчы: да праблемы вывучэння*), Таццяны Ігнацюк (*Феномен аўтэнтычнасці і сацыяльныя аспектацыі ў беларускай мове*), Уладзіслава Іванова (*Аб інклюзыўнай беларускай мове*) і Анны Сівірскай (*Funkcjonowanie narkamauki i taraszkiewicy w białoruskojęzycznym segmencie Internetu*). Пытанні семантыкі, марфалогіі, тэрміналогіі і фразеалогіі аналізаваліся ў рэфератах Алены Рудэнкі (*Ступень абстракцыі катэгарыяльнай семантыкі беларускіх і польскіх дзеясловаў на фоне іншых славянскіх моў*), Таццяны Слесаравай (*Прэдыкатыўныя канструкцыі як сродкі рэпрэзентацыі вобраза Кастуся Каліноўскага ў рамане Уладзіміра Караткевіча Каласы пад сярпом тваім і аповесці Сакрата Яновіча Сярэбраны яздок*), Адама Яскульскага (*Paralelne konstrukcje przyczynowo-skutkowe w gwarze staro-obrzę-*

*dowców w Polsce oraz w języku białoruskim i jego gwarach*), Наталлі Брэйво (*Паходжанне і асаблівасці ўжывання словазлучэння "цяжкая артылерыя"*), Ірыны Галуза (*Тэрміналагічныя словазборы Язэпа Драздовіча*) і Алены Садоўскай (*Рэпрэзентацыя канцэптаў "вада і водныя аб'екты" ў фразеалагізмах сучаснай беларускай мовы*). Праблемы анамастыкі былі закрануты ў рэфератах Таццяны Сінкевіч (*Рэпрэзентацыя апазіцыі "свой-чужы" ў назвах азёр Віцебшчыны*) і Вольгі Трацяк (*Айканімія Свіслацкага раёна*). Лінгвістычнаму аналізу тэкстаў былі прысвечаны рэфераты Вікторыі Ляшук (*Мова празаічнага фальклору: беларускі і польскі кантэкст*), Агнешкі Гораль (*Język polskiej powieści współczesnej: na przykładzie utworu* UTOPIA. RZECZY UPRZYJEMNIAJĄCE *Tamary Bołdak-Janowskiej*) і Марылі Хаўстовіч (*Моўныя асаблівасці рэлігійна-палемічнае літаратуры: на прыкладзе беларускамоўных тэкстаў XVII ст.*). Польска-беларускім этналінгвістычным даследаванням прысвяціла свой рэферат Кацярына Півавар (*Беларускія і польскія этналінгвістычныя даследаванні ў XXI ст.*).

Афіцыйнае заканчэнне канферэнцыі адбылося 30 сакавіка. Вялікая колькасць удзельнікаў з 5 еўрапейскіх краін дае падставу лічыць, што пытанні польска-беларускага ўзаемадзеяння няспынна выклікаюць вялікую цікавасць навукоўцаў, сведчаць пра мэтазгоднасць і неабходнасць правядзення чарговых канферэнцый з цыклу *Польска-беларускія літаратурныя і моўныя сувязі.*

Даклады ў форме артыкулаў публікуюцца ў рэцэнзаваным навуковым часопісе Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта "Acta Albaruthenica".

**Вольга Трацяк**

# Міжнародная студэнцкая навуковая канферэнцыя *Навука – 2019*

9 красавіка 2019 года ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы прайшла Міжнародная студэнцкая навуковая канферэнцыя *Навука – 2019,* арганізатарам якой быў філалагічны факультэт. Сёлетняя канферэнцыя – чарговая з гэтага цыклу.

Падчас урачыстага адкрыцця з прывітальнымі словамі да ўдзельнікаў канферэнцыі звярнулася дэкан філалагічнага факультэта ГрДУ дацэнт Іна Лісоўская. Пасля адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне пераможцаў XXV Рэспубліканскага конкурса навуковых прац студэнтаў. У канферэнцыі прынялі ўдзел блізу 200 студэнтаў. Апрача ўдзельнікаў з ГрДУ свае рэфераты прэзентавалі студэнты з Туркменістана і Польшчы.

На пленарным пасяджэнні выступілі студэнты ГрДУ, якія перамаглі ў Рэспубліканскім конкурсе навуковых прац: Кірыла Бялятка з рэфератам *Паняцце "малая проза": жанравая спецыфіка ў рускай і беларускай літаратурах*, Валерыя Гарэлава з рэфератам *Основные способы достижения переводческой эквивалентности при передаче фрагментов текста о природе и природных явлениях с исходного языка на язык перевода (на материале перевода произведений Э. Бронте Грозовой перевал и Л.Н. Толстого Воскресенье,* Марыя Шашко з рэфератам *Специфика функционирования прилагательных-характеристик человека в английском и русском языках,* Алеся Букач з рэфератам *Ономастическое пространство в трилогии Анны Берсеневой Подруги с Малой Бронной*.

Далей праца канферэнцыі праходзіла ў трынаццаці тэматычных секцыях: традыцыі і наватарства ў літаратуры; мова ў свеце, які змяняецца; беларускае мовазнаўства; беларускае літаратуразнаўства; аспекты міжкультурнае камунікацыі; аспекты валодання навуковым стылем; сучасныя семантычныя і функцыянальныя даследаванні нямецкае, англійскае, расейскае і беларускае моў; актуальныя праблемы сучаснага мовазнаўства і методыкі навучання замежных моў; актуальныя праблемы літаратуразнаўства і навучання англійскай літаратуры; актуальныя пытанні сучаснага перакладу і дыдактыкі перакладу; кроскультурная камунікацыя ў мовазнаўчым аспекце; параўнальна-супастаўляльныя даследаванні ў германскіх і славянскіх мовах; нацыянальна-культурная спецыфіка даследаванняў германскіх і славянскіх моў.

Удзельнікамі з Польшчы былі студэнты 2 курса 1 ступені Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта Альберт Ежы Вяжбіцкі і Матэвуш Ян Квяткоўскі, якія прачыталі свае рэфераты ў секцыі беларускага мовазнаўства. У гэтай секцыі ішла гаворка пра фразеалогію (рэфераты

*Сінанімічнасць фразеалагізмаў са значэннем асобы: на матэрыяле дыялектнай і літаратурнай фразеалогіі* Юлі Жыткевіч ды *Прынцыпы размяшчэння фразеалагізмаў у слоўніках* Вольгі Халопік), пра вывучэнне беларускае мовы ў школе падчас пазакласных заняткаў (рэфераты *Дыялог культур у арганізацыі пазакласнай працы па беларускай мове* Святланы Іоды, *Выкарыстанне фразеалагізмаў на ўроках беларускай мовы* Бажэны Богдан і *Ад матывацыі да крэатыўнасці, або Як зацікавіць сучаснага вучня на ўроку беларускай мовы* Марыны Літвіновіч), пра беларусізмы ў літоўскай мове (рэферат *Беларусізмы ў літоўскай мове* Матэвуша Яна Квяткоўскага), пра выкарыстанне англіцызмаў у сучаснай беларускай журналістыцы (рэферат *Англіцызмы на старонках газеты "Звязда"* Вольгі Калянкевіч), пра асаблівасці моўных з'яў у літаратуры і як яны вывучаюцца ў школе (рэферат *Дзеясловы маўлення ў паэме Якуба Коласа Новая зямля* Дыяны Цыдзік і *Семантыка і структура назваў асобы жаночага полу: на прыкладзе твораў мастацкай літаратуры і фальклору* Таццяны Хоха), пра назвы гаспадарчых пабудоў у беларускай мове (рэферат *Назвы жылых гаспадарчых пабудоў у беларускай мове* Ганны Юралевіч), а таксама пра Беларусь у польскай YouTube прасторы (рэферат *Беларусь як пункт прызначэння падарожніка: Агляд ролікаў польскіх Ютуб-блогераў* Альберта Ежы Вяжбіцкага).

Заканчэнне канферэнцыі адбылося ў кожнай секцыі асобна. Мадэратары пасля заканчэння дакладаў абвясцілі пра вынікі конкурсу на найлепшую працу ў секцыях. У секцыі беларускага мовазнаўства перамаглі трое студэнтаў – Матэвуш Ян Квяткоўскі, Альберт Ежы Вяжбіцкі і Марына Літвіновіч.

Даклады ў форме артыкулаў будуць апублікаваныя ў пасляканферэнцыйным выданні, якое будзе ажыццёўлена філалагічным факультэтам Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта восенню 2019 года.

**Альберт Ежы Вяжбіцкі**

# VI Interdyscyplinarna Konferencja Naukowa

*BIAŁORUŚ – TEKSTY I KONTEKSTY*

27 maja 2019 roku odbyła się coroczna konferencja naukowa "Białoruś – teksty i konteksty" organizowana przez Studenckie Koło Naukowe "Albaruthenica". Wydarzenie to stało się okazją do prezentacji wyników badań, wymiany doświadczeń oraz dyskusji dla studentów i doktorantów zajmujących się tematyką Białorusi. Obrady otworzył Prezes Koła, Jan Wieczorek. W swoim wystąpieniu podkreślił znaczny udział studentów w tegorocznej Konferencji oraz szeroki zakres tematyczny przygotowanych referatów, reprezentujących tak różne dziedziny jak językoznawstwo, literaturoznawstwo, historię oraz nauki społeczne i polityczne. Wyraził również nadzieję, że spotkanie młodych badaczy przyczyni się do wymiany spostrzeżeń, doświadczeń oraz sformułowania postulatów badawczych, które zaowocują kolejnymi wystąpieniami podczas kolejnej konferencji.

Program Konferencji prezentował się następująco:

Panel I: - mgr Iryna Aheyewa, *Аўтарская маска як творчы метад Андрэя Мрыя*;

- Albert Wierzbicki, *Беларусь як пункт прызначэння падарожніка: агляд ролікаў польскіх YouTube-блогераў*;

- mgr Anna Siwirska, *Sytuacja językowa w białoruskim segmencie Internetu*;

- mgr Viktar Korbut, *Białoruskie Kupale w Wilnie na początku XX wieku jako próba kształtowania święta narodowego na podstawie tradycji ludowej (w świetle wileńskiego druku białoruskojęzycznego owego okresu)*.

Panel II:

- Alisa Miładowska, *З'яўленне і пачаткі пісьменства і друкарства на тэрыторыі Беларусі. Першыя кнігі і друкі*;

- mgr Filip Urbański, *Pozycja międzynarodowa Białorusi w zmieniającej się Europie*;

- Mateusz Kwiatkowski, *Беларусізімы ў летувіскай мове*;

- Jan Wieczorek, *Człowiek wobec beznadziei. Wybrane aspekty wspomnień bohaterów reportażu Swietłany Aleksjiewicz CZASY SECONDHAND w świetle innych świadectw*.

Po każdym z paneli przewidziano czas na dyskusję. Na zakończenie Konferencji głos zabrali Profesor Nina Barszczewska oraz opiekun Koła – Profesor Mikałaj Chaustowicz. W podsumowaniu podkreślili oni znaczenie problematyki konferencji oraz potrzebę stałej wymiany doświadczeń i zacieśnienia współpracy między młodymi białorutenistami. Złożyli również uczestnikom Konferencji gratulacje w związku z wysokim poziomem wystąpień oraz wyrazili radość z możliwości spotkania się z gronem młodych badaczy tak głęboko zainteresowanych tematyką Białorusi.

**Jan Wieczorek**

# Informacja o autorach

**Aliashkevich Tatsiana** (Аляшкевіч Таццяна), doktor nauk filologicznych, Grodzieński Uniwersytet Państwowy im. Janki Kupały, Wydział Filologiczny, Katedra Filologii Białoruskiej (docent).

**Barkovich Aliaksandr** (Барковіч Аляксандр), doktor habilitowany nauk filologicznych, Miński Państwowy Uniwersytet Lingwistyczny, Katedra Informatyki i Lingwistyki Stosowanej (kierownik).

**Barszczewska Nina**, doktor habilitowana nauk humanistycznych w zakresie językoznawstwa, Uniwersytet Warszawski, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Katedra Białorutenistyki.

**Breyvo Natalia** (Брэйво Наталля), magister, Uniwersytet Warszawski, Wydział Polonistyki, Instytut Języka Polskiego (doktorant).

**Chaustowicz Mikałaj** (Хаўстовіч Мікола), profesor nauk humanistycznych, Uniwersytet Warszawski, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Katedra Białorutenistyki (profesor).

**Dąbrowska Magdalena**, doktor habilitowana nauk humanistycznych w zakresie literaturoznawstwa, Uniwersytet Warszawski, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Katedra Rusycystyki (kierownik).

**Galouzo Iryna** (Галуза Ірына), magister, Narodowa Akademii Nauk Białorusi, Instytut Językoznawstwa im. Jakuba Kołasa, Centrum badań białoruskiej kultury, języka i literatury (młodszy pracownik naukowy).

**Ivanoŭ Uladzislaŭ** (Іваноў Уладзіслаў), doktor nauk humanistycznych w zakresie językoznawstwa, Europejski Uniwersytet Humanistyczny, Wydział Nauk Społecznych (wykładowca).

**Jankowiak Mirosław**, doktor nauk humanistycznych w zakresie językoznawstwa, Instytut Słowistyki Akademii Nauk Republiki Czeskiej (fellowship).

**Jaskólski Adam**, doktor nauk humanistycznych w zakresie językoznawstwa, Uniwersytet Warszawski, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Katedra Rusycystyki (adiunkt).

**Lepishava Alena** (Лепішава Алена), doktor nauk filologicznych, Białoruski Uniwersytet Państwowy, Wydział Edukacji Przeduniwersyteckiej (starszy wykładowca).

**Łachacz Klaudia**, magister, Uniwersytet Warszawski, Wydział Polonistyki (doktorant).

**Makarevich Aleś** (Макарэвіч Алесь), profesor nauk humanistycznych, Mohylewski Uniwersytet Państwowy im. Arkadzia Kulaszowa, Wydział Historyczno-Filologiczny, Katedra Literatury i Komunikacji Międzykulturowej (profesor).

**Palunchanka Volha** (Палунчанка Вольга), magister, Białoruski Uniwersytet Państwowy Kultury i Sztuki, Wydział Komunikacji Informacyjno-

Dokumentnych, Katedra Działalności Biblioteczno-Informacyjnej, (doktorant).

**Pivavar Katsiaryna** (Півавар Кацярына), doktor nauk filologicznych, Witebska Państwowa Akademia Weterynarii, Katedra Języków Obcych (starszy wykładowca).

**Rudenka Alena** (Рудэнка Алена), profesor nauk humanistycznych, Białoruski Uniwersytet Państwowy, Wydział Filologiczny, Katedra Językoznawstwa Teoretycznego i Słowiańskiego (profesor).

**Ruszczyńska Marta**, doktor habilitowana nauk humanistycznych w zakresie literaturoznawstwa, Uniwersytet Zielonogórski, Instytut Filologii Polskiej, Zakład Literatury XIX wieku (kierownik).

**Savich Aliaksandr** (Савіч Аляксандр), doktor nauk historycznych, Brzeski Uniwersytet Państwowy im. A. Puszkina, Katedra Historii Narodów Słowiańskich (docent).

**Sakalovich Anastasiya** (Сакаловіч Анастасія), Centralna Biblioteka Naukowa im. Jakuba Kolasa Narodowej Akademii Nauk Białorusi (bibliotekarz).

**Sakowicz Anna**, doktor nauk humanistycznych w zakresie literaturoznawstwa, Uniwersytet w Białymstoku, Wydział Filologiczny, Katedra Filologii Białoruskiej (adiunkt).

**Samusik Andrej** (Самусік Андрэй), doktor nauk historycznych, Narodowa Akademia Nauk Białorusi, Instytut Historii (doktorant).

**Siwirska Anna Berenika**, magister filologii białoruskiej, Uniwersytet Warszawski, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Katedra Białorutenistyki (doktorantka).

**Sobol Valentyna** (Соболь Валентина), profesor nauk humanistycznych, Uniwersytet Warszawski, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Katedra Ukrainistyki (profesor).

**Tratsiak Volha** (Трацяк Вольга), doktor nauk humanistycznych w zakresie językoznawstwa, Uniwersytet Warszawski, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Katedra Białorutenistyki (p. o. kierownika).

**Tvaranovich Halina** (Твардновіч Галіна), doktor habilitowana nauk humanistycznych w zakresie literaturoznawstwa, Uniwersytet w Białymstoku, Wydział Filologiczny, Katedra Filologii Białoruskiej (kierownik).

**Tratsiak Zoya** (Трацдяк Зоя), Połocki Uniwersytet Państwowy, Katedra Literatury Światowej i Języków Obcych (docent).

**Wieczorek Jan**, Uniwersytet Warszawski, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Katedra Białorutenistyki (student).

**Wierzbicki Albert Jerzy**, Uniwersytet Warszawski, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Katedra Białorutenistyki (student).

**Wojan Katarzyna**, doktor habilitowana nauk humanistycznych w zakresie językoznawstwa, Uniwersytet Gdański, Wydział Filologiczny, Instytut Skandynawistyki, Pracownia Języka, Kultury i Gospodarki Finlandii (kierownik).